# ЯНКА МАЎР



## ЗБОР ТВОРАЎ У ЧАТЫРОХ ТАМАХ



## ТОМ ТРЭЦІ

# КНІГА ПЕРШАЯ

## 1. У РОДНЫМ ГОРАДЗЕ

> Счастливая, счастливая, невозвратимая пора детства! Как не любить, не лелеять воспоминаний о ней?
>
> *Л. Толстой. «Детство»*

Муры... Велізарныя, чырвоныя, без канца і краю, а вышыня — аж да самага неба... А над імі коміны, яшчэ вышэйшыя. З іх ідзе чорны дым, і разам з ім ідуць і коміны, толькі ў другі бок. У сцяне вялізная чорная брама. Я, мамка і яшчэ другія мамы і дзеці хочам праціснуцца бліжэй да гэтай брамы, а нейкі нядобры дзядзька ўсё нас адганяе.

А потым брама адчынілася — і адтуль як паваліць народ! Многа-многа народу... Мамка тады падхоплівае мяне на рукі, і мы ўсе рушым наперад, насустрач гэтым людзям. Пачынаецца вайна: крык, плач, тузаніна...

І ўсё — больш нічога не памятаю.

Пазней я даведаўся, што гэта быў наш своеасаблівы «суботнік»: кожную суботу рабочыя на фабрыцы атрымлівалі палучку, і кожную суботу многа жанчын з дзецьмі збіраліся ля брамы пільнаваць, каб іхнія мужанькі не ўцяклі з палучкай у шынок. Сталымі ўдзельнікамі гэтых «суботнікаў» былі і мы з мамкай.

І заўсёды тут было цёмна, чорна, страшна, і сонца тут не было ні разу.

А бацьку свайго я ўсё ж такі не памятаю, хоць ён памёр, калі мне было гадоў восем. Ды і не памёр ён, а згарэў: ішоў, ішоў па вуліцы, паваліўся, задыміўся, сіні агонь пайшоў — і ад чалавека адзін чорны вугольчык застаўся. Прынамсі так мне растлумачылі ў свой час добрыя людзі.

...І яшчэ раз успамінаюцца мне гэтыя самыя муры, толькі з другога боку, там, дзе было сонца. Тут, ля самай сцяны, пра-

цякала рака, шырокая-шырокая. І ад вады падымалася пара. Я сяджу ў мамкі на руках, мне і боязна, і весела, і цікава. Вакол нас многа жанчын і дзяцей, і ўсім таксама весела. А вада аж гарачая. Толькі глыбіня бяздонная ды шырыня неабсяжная.

Раптам зусім побач з вады вылезла галава, чорная, кудлатая, і барада чорная, і грудзі чорныя, а вочы зусім белыя ды зубы бялюткія. Галава так шчыра смяялася, што я зусім не спалохаўся.

Але затое ўсе жанчыны так закрычалі ды так сталі плюхаць на яе вадой, што яна спалохалася і ўцякла. Гэта і ёсць самае галоўнае, што засталося ў маёй памяці.

А пазней я даведаўся, што мы тады былі на «курорце». І што рака была не надта ўжо глыбокая і шырокая: гэта была ўсяго толькі канава, куды выпускалася з фабрыкі адпрацаваная гарачая вада. У тыя часы гэта быў найлепшы курорт для рабочых.

...Мяне загортваюць у тоўстую коўдру так, што я і свету божага не бачу. Потым адчуваю, што мяне нясуць. А потым пачалося нешта зусім незразумелае: штуршкі, шум... А потым — нічога.

Такім чынам я ехаў у бальніцу. Я захварэў на воспу, маці панесла мяне ў бальніцу. А да бальніцы была не адна вярста, сілы не хапіла. Маці паклала мяне на замерзлую зямлю і павалакла. Так я і пад'ехаў да бальніцы.

Там было многа жанчын з такімі самымі дзецьмі. Засталася і пры мне маці. Пазней яна перад усімі хвалілася, што, нягледзячы на лячэнне дактароў, яна ўсё ж такі выратавала мяне. Асноўнае лячэнне было — кампрэсы. І вось аднаго разу маці бачыла, як у суседняга дзіцяці знялі з твару кампрэс, а разам з ім выкаціліся і вочы. Тады мая маці стала здымаць з мяне кампрэс, як толькі доктар адыходзіў, і клала зноў перад яго прыходам.

Так і выратавала мяне.

Але ўсё гэта было глупствам перад тым, як скачуць пальцы

па падушцы. Маці забаўляла мяне такім чынам: паставіць два пальцы на падушку, нібы ногі, і пачне выбрацьляць такія цікавыя выкрунтасы, якія маглі б ашчаслівіць каго хочаш. Шмат гадоў прайшло з таго часу, а я і цяпер млею, калі ўспамінаю гэтае шчасце.

...Недзе за горадам мы знайшлі зачараваную краіну. Дарослыя людзі сказалі б, што гэта было невялікае зарослае возера, а для нас гэта быў вялікі і таемны свет. Мы ведалі, што недзе побач было мора, але бачыць яго бадай-што і не бачылі. Яно было з другога боку горада, дзе жывуць чужыя людзі ў прыгожых дамах, і нам туды ісці не выпадала. Ды і навошта нам гэтае мора, калі тут у сто разоў лепей! Тут вада цёплая, густая, зялёная. Ці станеш, ці ляжаш — заўсёды табе і цёпла і мякка. А побач уздымаюцца чаротнік, аер, і растуць яны не абы-як, а вуліцамі. Паўзеш пасярод такой вуліцы, а па баках — высокія-высокія сцены, толькі неба відаць. На зялёнай вадзе за табой застаецца след, таксама добрая рэч: гэта значыць, што ты першы пралажыў тут дарогу.

Вось убок адыходзіць завулак. Куды ён вядзе? Ціхенька, з прыемным страхам заварочваеш туды — і раптам перад табой вялікая плошча. Зялёная некранутая вада зіхаціць на сонцы, вялікая белая кветка высоўваецца з вады, як мая галава, а па баках усё тыя ж магутныя сцены. Цішыня такая, што страшна паварухнуцца; толькі квакае недзе побач жаба. Лятаюць рознакаляровыя матылі; над галавой, на чараціне, ківае сваім хвастом, нібы дыхае, сіняя трапяткая страказа. Гэтак жа дыхаю і я ад хвалявання і захаплення. Толькі я ды яна ведаем, як тут добра, які вялікі і цікавы свет...

...Я жыву высока-высока, пад самай столлю, на палацях. На шнуры — фіранка. Калі захачу — магу схавацца за ёй, калі захачу — магу бачыць усё, што робіцца ўнізе. Там вялізная пліта, і каля яе завіхаецца мая маці. Яна то ўсміхнецца мне, то крыкне, каб я не зваліўся, а мне так добра-добра. Куды

лепей, як вунь таму панскаму хлапчуку, што часам забягае на кухню.

І ўсё ж такі я аднаго разу зваліўся. Шнур разарваўся, і я бразнуўся галавой аб куфар. Які крык і шум узняла маці! Нават паны прыбеглі ў кухню. Але няма ліха без дабра. У выніку я на гэтай справе нават выйграў: пані прынесла мне чагосьці такога салодкага, такога смачнага, што я гатоў быў яшчэ раз зваліцца, каб толькі зноў пакаштаваць такога дабра.

Наогул гэты дом трэба лічыць шчаслівым, бо тут мне нават прыйшлося бачыць ёлку. Яна была ў панскім пакоі. Яна гарэла, блішчала, вакол яе бегалі вясёлыя, прыгожа ўбраныя дзеці, на ёй былі такія цацкі, такія... што... ну, адным словам, незвычайныя. І музыка была, і спевы, нават старыя бегалі і скакалі навакол. А я... я таксама бачыў і агні, і цацкі, і гульні, і скокі, чуў і музыку і спевы і быў шчаслівы не менш ад іх. А мо нават і болей. Хоць пазіраў я на ўсё гэта праз шчыліну ў дзвярах.

...І яшчэ адзін куток у цэнтры горада: высокі белы дом, брукаваны двор і самае галоўнае — яма для смецця. Уласна кажучы, асноўнай пабудовай і была гэтая яма, а ўсё іншае — так сабе, дадатак да яе. У гэтай яме для смецця я і асталяваўся, бо нідзе не было столькі дабра, як тут. Усё, што толькі магла пажадаць душа чалавека, было ў гэтай яміне. Аднаго разу я нават знайшоў там пуд добрай мукі. Праўда, не адразу муку, а спачатку сярэбраную лыжачку, а потым ужо, праз многа год, за яе атрымаў муку, але ж гэта ўсё роўна.

Тут я знайшоў недакурак папяросы, запалкі і, вядома, закурыў, але так закірхаўся, што маці пачула аж на трэцім паверсе. Зараз жа высунулася з акна і пачала крычаць:

— Ты што там робіш? Я табе дам!

І дала яна нешта такое, што было лепш і за цукеркі, і за пернікі, і за ўсё, што я да гэтага часу каштаваў. Ці то захварэла панскае дзіця, ці заўпарцілася, але ад яго засталося больш за паўшклянкі какавы. І гэтую какаву выпіў я сам усю. Наступны раз я какавы пакаштаваў праз гадоў дваццаць, але

яна была ўжо не такая смачная, як тады. Пасля таго мне даводзілася каштаваць яе часта — і ўсё роўна на такую смачную ні разу не натрапіў.

Наш горад быў прыморскі, але мора чамусьці ўспамінаў аб сабе не пакінула. Гэтак жа, як і гавань, і караблі. Толькі адзін факт застаўся ў памяці пра гавань і караблі, і то, мусіць, толькі таму, што мне ўдалося тады нечага смачнага пакаштаваць.

Каменная набярэжная, ля яе стаіць вялікі чорны карабель, а каля яго многа-многа мяшкоў, напоўненых нейкімі чарапкамі. І чарапкі гэтыя можна есці. Ну, а смак іх, можа, нават лепшы за какаву. Нейкі своеасаблівы, ні да чаго не падобны і такі прыемны, што ён заставаўся ў мяне ў роце не менш як паўстагоддзя. Толькі не вельмі даўно мне давялося другі раз і апошні пакаштаваць такую самую скарынку ад какосавага арэха, але я вымушаны быў зараз жа яе выплюнуць — надта ўжо было нясмачна.

Другі раз успамінаецца мора пры такіх акалічнасцях: вечар, агні, гарадскі сад, пясчаныя дарожкі, недзе збоку шуміць мора, якога я не бачу. Мы з мамкай сядзім на лаве, нібы паны якія, і нікога не баімся. Раптам мамка паказвае мне рукою на нешта белае на дарожцы і загадвае падняць. Я бягу — і прыношу насавую хустачку. Яна была з дарагога галандскага палатна. Гэтая хустачка служыла нам гадоў дваццаць і заўсёды была самай каштоўнай рэччу з нашай маёмасці.

Можна было б яшчэ ўспомніць, як мільгалі ногі ля нашага акна. Многа ног, усялякіх, якія толькі ёсць на свеце. Людзей не відаць, а толькі адны ногі. Я мог іх наглядаць і вывучаць цэлымі гадзінамі. Можна было б яшчэ расказаць, як кавалерыйскі конь адкусіў мне вялікі палец на правай руцэ. Адкусіў за тое, што я яго ад шчырага сэрца карміў травою. Можна было б і яшчэ тое-сёе прыпомніць, але, я думаю, і без таго ясна відаць, які быў мой родны горад і якое ў ім было жыццё.

Магчыма, які-небудзь прыдзірлівы чытач скажа, што ў гэтым апісанні наогул няма ні горада, ні мора, ні людзей, а толькі ўспаміны аб тым, што я дзе пакаштаваў.

Можа, яно і так, але што ты зробіш, калі толькі гэта і засталося ў памяці. Мусіць, ухіл ужо такі ад нараджэння. А можа, само жыццё было такое, што не пакінула слядоў ні ад хаты, ні ад сямейнага жыцця, ні ад людзей, ні ад горада, ні нават ад мора, хоць пражыў я там цэлых пяць гадоў.

## 2. ПРЫЕЗД У ВЕСКУ

> Бабушка была очень начитанная женщина. Она без конца мне все объясняла... Она угощала меня пирожными — меренгами, таявшими во рту с маслянистой и холодноватой сладкостью.
>
> *К. Паустовский. «Далекие годы»*

Мы апынуліся ў лесе ноччу. Месяц асвятляе дрэвы сінявататым святлом, і туман шматкамі поўзае між дрэў. Мы едзем па дарозе на фурманцы, а месяц не адстае ні на крок, бяжыць побач, чапляецца за дрэвы і ўсё глядзіць на нас. А ў тых кутках, куды ён не можа заглянуць, чорна, страшна.

З намі едзе некалькі фурманак. Яны рыпяць сваімі коламі на розныя галасы, і гэтае рыпенне разносіцца па ўсім лесе. А калі людзі загамоняць, тады і ўвесь лес загудзе. А дзядзькі зусім не баяцца. Некаторыя нават свішчуць, а то і песню пачнуць. Тады ўжо ў лесе немаведама што робіцца.

Гэта першы сапраўдны лес, які я ўбачыў на сваім вяку. Які ён вялікі, бясконцы. І таемны, страшны...

Раптам як закрычыць нешта там, у сярэдзіне лесу. Ды такім голасам, нібы душаць якогасьці хлопчыка... Я зусім схаваўся пад маміну хустку, а дзядзька, што з намі ехаў, толькі вылаяўся:

— Ах, каб табе горла разадрала!

Маці коратка сказала мне:

— Гэта сава.

Але што такое сава, дзе сава, чаму сава — засталося для мяне невядомым. Ды не толькі сава, але і ўвесь лес, і людзі, што з намі едуць,— таксама былі для мяне невядомыя. Я ніколі не бачыў такога дзядзькі, які едзе з намі на возе: босы, у белых штанах і белай кашулі, з вялікай чырвонай барадой. Ён пасядзіць на возе бокам, паматляе нагамі, а потым саскочыць на зямлю і ідзе побач; потым зноў спрытна ўскочыць на воз і зноў саскочыць. А кашуля ў яго падпеperазана не на жываце, а зусім пад жыватом, і ўвесь дзядзька нейкі смешны.

У гэтую хвіліну мяне больш за ўсё цікавяць два пытанні: чаму месяц увесь час ідзе побач з намі і чаму рыжы дзядзька падперазаны пад жыватом?

На першае пытанне маці адказала зусім проста:

— Ён заўсёды так ідзе.

А на другое — чамусьці раззлавалася:

— А табе што да таго? Як хоча, так і падпяразваецца. Спі!

Але дзе тут спаць, калі навакол усё новае, усё незнаёмае, таемнае і страшнае. А едзем так доўга, што я за гэты час, пэўна, трохі падрос.

Жудасны момант прыйшлося перажыць усім нам, калі мы праязджалі каля могілак. Тут ужо і самыя храбрыя дзядзькі сцішыліся. Могілкі былі зусім у лесе, толькі крыху радзейшым. Месяц над імі наўмысля прыпыніўся, каб асвятліць іх сваім бледным святлом. А белыя крыжы нібы пачалі падымаць да яго свае рукі...

Мне прыйшлося зноў лезці пад маміну хустку, дзе я і заснуў.

Прачнуўся я, калі воз стаяў на месцы. Перад намі была чорная хата, вакол нас гаманілі і мітусіліся людзі, у акенцы замільгаў агеньчык. Я трапіў у абдымкі да нейкай жанчыны і апынуўся ў хаце на лаве.

Тут для мяне дзіва было не менш, як у лесе. Што ні кажы, а я быў гарадскі жыхар, які прыехаў з культурнага цэнтра ў цёмную вёску. Перш за ўсё, у гэтай цёмнай вёсцы святло давала лучына, доўгая-даўжэзная, белая і тонкая. Але, шчыра кажучы, яна мне больш спадабалася, як нашы гарадскія

лямпы. Там была адна нуда, а тут — трэск, сіпенне, рух. Тут чалавеку было чым заняцца.

Што тычыцца падлогі земляной, з ямінамі, то яна мне не спадабалася. Там поўзаў нейкі мой дваюрадны брацік, Васька; другі брат, Янка, стаяў побач у адной кашулі і пазіраў на мяне, як на цуд які.

Здзівілі мяне і два акенцы, праз якія, здавалася, і галавы прасунуць нельга. А больш за ўсё зацікавілі і нават напалохалі бярвенні сцяны: яны ўсе былі пакрыты нейкімі бліскучымі чырвонымі жучкамі. Янка скарыстаў момант, каб завалодаць маёй увагай, і растлумачыў, што гэта — прусы, што яны няшкодныя і іх баяцца не трэба. І, каб паказаць, што іх не трэба баяцца, ён згроб іх цэлую жменю і паднёс да самага майго носа. Але я так закрычаў, што нехта з дарослых штурхануў Янку кулаком, ён паляцеў на земляную падлогу і таксама закрычаў...

Так я апынуўся ў новым, незнаёмым для мяне свеце. Цікава, што ў мяне не захавалася ніякіх успамінаў аб выездзе з горада, аб чыгунцы, па якой мы ехалі досыць часу, ды яшчэ ■ перасадкай. Відаць, гэтая частка дарогі не затрымалася ў памяці таму, што ў часе яе мне не давялося нічога выдатнага з'есці.

Маці мая прыехала ў сваю родную вёску Гнілушкі, у сваю родную хату, да сваёй роднай маткі, маёй бабулі. З бабуляй жылі малодшая маміна сястра Наста і старэйшы брат Кірыла, падобны да цыгана. Тыя два хлапчукі, Янка і Васька, былі яго дзеці. Вядома, жыла тут і іхняя маці. І цяпер вось яшчэ нас двое прыехала ў тую самую хату.

Выйшла так, што ні цётка Наста, ні дзядзька Кірыла да нашага жыцця дачынення не мелі. Пазней Наста выйшла замуж, а дзядзька выехаў у Амерыку. Што ён там рабіў — мы не ведалі. Ведалі толькі, што грошы заграбае. Вядома — Амерыка. Толькі дабрацца да яе цяжка і страшна: па моры-акіяну аж два тыдні трэба ехаць. Але затое як вылез на бераг, тут табе ўсё што хочаш. Крыўдна толькі, што добры дзядзька ні разу не прыслаў нікому з нас грошай, хоць гэта яму было

лягчэй лёгкага. Але я ўсё роўна задаваўся перад усімі, што мой родны дзядзька жыве ў Амерыцы.

А потым я дазнаўся, што ён там у лясах і балотах, зусім такіх самых, як у нас, пілуе дрэвы, працуе ад цямна да цямна без адпачынку, што многа людзей там памірае ад такога жыцця, што ён падпісаў нейкую паперу і не мае права вярнуцца дадому. Я доўга ламаў галаву: няўжо Амерыка такая? Чаму ж тады людзі гавораць, што там самае багатае і шчаслівае жыццё, а дамы там такія, што нашых трэба паставіць адзін на адзін аж дванаццаць. Незразумела, зусім незразумела, што робіцца на свеце.

Пасля таго я ўжо не ганарыўся сваім дзядзькам. А калі часам хацелася трошкі пазадавацца, то я не казаў, як ён там жыве.

Бабуля мая была маленькая, беленькая і добрая. Відаць, мы жылі ў яе нядоўга, бо я больш памятаю, як прыходзіў да яе ў госці і бачыў яе заўсёды на адным месцы — каля стала. Яна мне давала то бульбіну, то моркаўку, а адзін раз нават крупніку. А больш яна нічога не мела — ні каровы, ні свінні. І нават хлеба часта не мела.

Затое яна тлумачыла мне ўсё, што робіцца на свеце. Галоўным чынам — на другім свеце, якога мы не бачым. Так, на небе жыве бог, у паветры — анёлы, за печкай — дамавік, у лесе — лесавік, у вадзе — вадзянік, а пад зямлёй — чэрці, якія часта вылазяць адтуль і робяць людзям усялякую шкоду. Людзі пасля смерці таксама перасяляюцца на той свет: добрыя ідуць на неба, у рай, а нядобрыя — да чарцей, у пекла. Кіруе ўсім бог, таму мы павінны маліцца яму, каб ён нам дапамагаў і ўзяў да сябе ў рай. Але чарцям бог ніякай рады даць не можа, яны яго не слухаюцца і ўсё лезуць да нас. Таму трэба ладзіць і з імі.

І бабуля ўмела ладзіць з усімі. Да бога яна звярталася з дзіўнымі і незразумелымі малітвамі, напрыклад: «Багародзіца дзева радуйся прыпантыцкім пілаце хлеб наш на небесі...» А да чарцей — з яшчэ больш незразумелымі загаворамі, дзе былі словы, падобныя да «кулды, булды». Казалі, што гэтыя словы турэцкія, бо чэрці, як вядома, гавораць па-турэцку.

На жаль, я не паспеў пераняць ад бабулі ўсю навуку, бо яна хутка памерла.

Пазней, у школе, я пераканаўся, што мая мілая бабуля трохі памылялася: выявілася, што чэрці гавораць зусім не патурэцку, а па-славянску, што малітвы бабуля пераблытала, што бог можа справіцца з чарцямі, ды зусім не хоча, і што чарцям не толькі дагаджаць нельга, але наогул з імі не трэба звязвацца.

Але, нягледзячы на гэта, мая павага да бабулі ані трохі не зменшылася, бо, апрача гэтых дробных памылак, уся навука яе была такой самай, як і ў школе.

Асобна ад бабулі жыла маміна сястра Аўдулька. Яна была замужам за Міколам Латашонкам, і ў іх была хата з комінам. А ля хаты быў сад — грушы і дзве яблыні. Гэта былі адзіныя пладовыя дрэвы на ўвесь наш род.

Затым, на самым канцы вёскі жыла яшчэ адна цётка — Вулька. Яна была замужам за Гаўрылам, і іхняя хата была без коміна.

І, нарэшце, на свеце была яшчэ адна цётка — Грыпіна. Пра яе казалі такія рэчы, што нават цяжка было даць веры. Жыла яна ў Адэсе, была замужам за паштальёнам, прыбіралася, як пані, нават капялюш насіла, мела некалькі сукенак і кожны дзень піла гарбату з цукрам і абаранкамі. А самае галоўнае — яна ўмела і чытаць і пісаць.

Ёю ганарылася не толькі ўся наша радня, але і суседзі. Здараецца ж такое шчасце чалавеку! А вось Наталі, маёй маме, не пашанцавала. І ў горадзе жыла, і замуж выйшла за добрага сталяра, а прыйшлося ўсё кінуць і прыехаць назад, на чужы карак...

Аднаго разу прыйшоў да нас ліст. Маці пайшла на вёску шукаць чалавека, які прачытаў бы яго. А потым вярнулася заплаканая і стала нешта казаць бабулі. Я разабраў толькі словы:

— Увесь век па чужых людзях, адна, гаротная...

Бабуля суцяшала яе:

— Ну што ж, як усім, так і ёй...

Я падскочыў да мамы і стаў пытацца:

— Мама, чаго ты плачаш? Пра каго ты гаворыш?

Але маці толькі прытуліла мяне і сказала:

— Ідзі гуляй.

Некаторы час я ламаў галаву, хто такая гэтая адна і гаротная, якая напісала ліст, а мама заплакала. Але доўга думаць не было часу — надта многа было ў мяне сваіх спраў.

### 3. НА ДАЧЫ

> Степанида внесла на чугунной сковородке большие лепешки «скороспелки», и они шипели маслом, стоя на столе,— объядение!
>
> *А. Толстой. «Детство Никиты»*

Не ведаю, ці было яшчэ каму так добра спаць, як мне. Лепш сказаць, не спаць, а прачынацца. Звычайна будзілі мяне нашы ластаўкі. Спачатку я праз сон іх чуў, потым слухаў з заплюшчанымі вачыма, и потым ужо проста пазіраў на іх. Як маланка, мільгалі яны над галавой, чапляліся за свае гнёзды — і тады ў гняздзе пачыналася такое ціліўканне, нібы там нешта смажылася.

Я вельмі любіў сачыць за імі, але бывалі выпадкі, калі яны надта недалікатна капалі на мяне... Раззлаваўшыся, я аднаго разу хацеў быў зусім растрыбушыць іхнія гнёзды, але маці стрымала мяне.

— Нельга крыўдзіць птушку божую,— сказала яна.— Калі што якое, мы можам адсунуць убок наш ложак, а разбураць гнёзды — грэх.

І мы пачалі адсоўваць нашы ламаныя скрынкі, калодкі, дошкі, салому, з якіх быў змайстраваны ложак. Пасля ўжо я супраць нашых птушак нічога не меў. Але гэта зусім не перашкаджала мне люта праследаваць усіх іншых птушак божых, якія не былі нашымі кватарантамі.

Я ляжу на спіне і, апрача ластавак, бачу яшчэ шмат цікавейшых з'яў. Перш за ўсё — кросны з сонечных праменняў. Сонца трапляе да нас не толькі праз акенца, кудой лётаюць ластаўкі, але і праз сотні маленькіх шчылін і дзірачак. Гэтыя

праменні пранізалі ўсё наша памяшканне залатымі ніткамі. Паміж гэтых залатых нітак шныраюць усялякія мухі, восы, чмялі. А пад страхой, у саломе, вялікія і малыя павукі расставілі свае сеці і часам нават не паспяваюць заграбаць здабычу. Пакуль павук дасць рады адной мусе, глядзіш — побач заблыталася другая і гудзе так, што, пэўна, знадворку чуваць. Тады павук пакідае тую муху і бяжыць да гэтай. А тым часам пачынае разблытвацца тая. Так і бегае павук з вылупленымі вачыма. А якая бывае пацеха, калі трапіць вялізны чмель ды разнясе ўшчэнт усю павучыную працу! Колькі тады ў павуковых вачах страху і злосці! Не ведаю, ці мог бы я цяпер разгледзець выраз павуковых вачэй, але тады я добра бачыў і нават ведаў, што́ ён думае. Вядома, вочы тады ў мяне былі лепшыя.

Хоць і з вялікай цікаўнасцю сачу я за гэтым жыццём, але яшчэ больш прыцягвае маю ўвагу дзірка ў... не ведаю, як сказаць,— у падлозе ці столі. Для мяне гэта, вядома, падлога, але там, у хаце, яна лічыцца столлю. Недзе там, унізе, мама; яна ўвесь час памятае, што я тут ляжу, і, пэўна, рыхтуе для мяне нешта смачнае...

І вось паказваецца яе галава, потым плечы, потым рукі, а ў руках — міска. Што такое ў гэтай місцы? Ох, каб хутчэй убачыць!

Мама ўсміхаецца, і ад яе твару ідуць такія самыя залатыя праменні, як ад сонца. А прынесла яна мне бульбу, ды не абы-якую, а падсмажаную. А ў бульбе была яшчэ скварка, сапраўдная свіная скварка. І адкуль толькі мама ўзяла яе?

Я ем, а маці глядзіць на мяне шчаслівымі вачыма, і ёй так смачна, так хараша...

— Чаму ты, мамка, не ясі? — пытаюся я.

— Ды я ўжо наелася,— адказвае яна.

Аднак, калі ад майго сняданку застаецца некалькі гарэлікаў, яна хуценька праглынае іх, забыўшыся, што ўжо наелася.

Адно толькі псавала маё дачнае жыццё — вячэрні час. Тады ў нашым падстрэшшы рабілася зусім непрыемна. Цёмныя куты, шчыліны, шолахі і ад ветру, і ад чагосьці жывога,— усё

вэта наганяла на мяне страх. А то яшчэ дождж пойдзе або вецер халодны разгуляецца.

Я тады хаваўся пад коўдру, туліўся да мамы — і зноў быў пшчаслівы. Ніколі ў нас не было двух ложкаў, коўдраў ці падушак, таму спаць разам давялося яшчэ многа гадоў. Але ніхто з нас супраць гэтага нічога не меў.

Так мы жылі на адной з нашых кватэр, на гары ў хаце цёткі Аўдулькі. Гэта, вядома, была летняя кватэра, або наша дача. Наогул павінен сказаць, што кватэры на маім жыцці мяняліся аж занадта часта. У горадзе за пяць гадоў я не мог прыпомніць ніводнай сталай кватэры. Па ўрыўках успамінаў я мог бы налічыць іх пяць-шэсць, а колькі яшчэ не запомнілася? Пэўна, столькі ж, калі не болей.

У вёсцы зноў пайшло тое самае: кожны сезон — новая кватэра. Добра яшчэ, што перасяляцца нам было зусім лёгка: коўдра, падушка, клунак і невялікая скрынка складалі ўсю нашу маёмасць. Мусіць, не ад дабра мы так часта перасяляліся, але на маіх вачах ніякіх сварак і калатні не было. А мне асабіста нават падабаліся такія частыя перасяленні.

Дом цёткі Аўдулькі быў новы, прасторны, з падлогай. Адзін сад ды печка з комінам чаго варты! Апрача таго, у іх была карова і нават конь. Адным словам, яны былі вельмі багатыя.

Мусіць, таму цётка Аўдулька і дзядзька Мікола былі такія вясёлыя і рухавыя. З дзяцей у іх быў толькі адзін Петрык, гадоў чатырох ці пяці. Бацька вельмі цешыўся з яго і, калі збіраліся госці, высоўваў хлопчыка наперад і камандаваў:

— Ану, Петрык, загні!

Петрык з сур'ёзным і спалоханым выглядам «загінаў» тое самае, што так часта чуў і ад бацькі і ад усіх іншых дзядзькоў.

«Выступленне» Петрыка заўсёды карысталася надзвычайным поспехам. Усе клаліся ад смеху ды паддавалі духу:

— Малайчына, Петрык! Так, так яго! Валяй яшчэ, яшчэ!

Нават маці яго, крыху саромячыся, усміхалася і цешылася, што сынок яе такі здольны.

Чаму мы жылі не ў хаце, а на гары — я не ведаю. Адносі-

ны да нас як самой цёткі, так і яе мужа, здаецца, былі добрыя. Прынамсі на мой погляд... Але гэтая справа мяне і не цікавіла: мне ўсюды было добра.

Адзначу яшчэ, што ў гэтым раёне жылі Кітка і Грышка, мае два найлепшыя сябры. Праўда, яны трошкі задзіралі нос, бо ў іх былі і свае хаты (у Кіткі з комінам, а ў Грышкі — без коміна), і агародчыкі, і ў кожнага з іх быў бацька. Але затое я быў культурны, па святах хадзіў у чорных штанах, а ў іх чорных штаноў зусім не было. Так што выходзіла адно на другое.

## 4. ЗІМОВАЯ КВАТЭРА

Любочка... ходила в коротеньком холстинковом платьице, в беленьких, обшитых кружевом панталончиках и октавы могла браць толькі «arpedgio».

*Л. Толстой. «Детство»*

Кватэра зімовая была ў другой цёткі, Вулькі, той, што была замужам за Гаўрылам. Іхняя хата была самай апошняй; за ёй зараз жа пачынаўся выган з глыбокімі чорнымі дзіркамі ад каровіных і конскіх капытоў. Былі і большыя яміны, таксама чорныя,— іх зрабілі свінні. Але ўсе гэтыя яміны і дзіркі рабіла чужая жывёла: у цёткі Вулькі ніякай жывёлы не было.

Хата іхняя была без коміна і з земляной падлогай. На двары былі нейкія буданчыкі, сплеценыя з галля. У іх знаходзілася ўся сельскагаспадарчая маёмасць, а саха і перадок ад драбін не змяшчаліся і валяліся проста на зямлі. Яны ўжываліся тады, калі дзядзьку Гаўрылу ўдавалася пазычыць каня ды яшчэ два колы.

Двор агароджы не меў, але агарод аддзяляўся ад выгану некалькімі жардзінамі. Аднак ён усё роўна мала чым адрозніваўся ад выгану.

Не ведаю, якім чынам гэта здарылася, але цётка Вулька і дзядзька Гаўрыла былі вельмі падобныя адно да аднаго: абое высокія, худыя, абое чорныя, абое пахмурыя ды маўклівыя.

У іх быў сын Міхалутка, старэйшы ад мяне на некалькі гадоў, і Цімка, мой равеснік. Міхалутка мне не падабаўся; ён быў такі ж доўгі, худы і лахматы, як бацька, бегаў заўсёды, задраўшы галаву ўгару і разявіўшы рот. Нават калі яму раз нейкая птушка трапіла акурат у рот, ён усё роўна разяўляў яго. Затое ён быў самым лютым ворагам усіх птушак наогул. А Цімка быў нішто сабе хлапец, звычайны.

Была яшчэ ў іх сястрыца Рыпішка, малодшая за мяне гады на два. Колькі я памятаю, яна заўсёды хадзіла ў адной і той жа зашмальцаванай кашулі ці сукенцы, была нейкая нязграбная, пузатая, а твар быў заўсёды ў балячках. Хоць яна хадзіла ў доўгай кашулі, але ні ў чым не адставала ад хлапцоў.

Змяшчаліся мы ўсе ў адной хаце — на печы, на лаве, на палацях.

Звычайна думаюць, што жыць у курнай хаце — няшчасце, што толькі адпетая бедната жыла ў курных хатах. А я, ды і Міхалутка, Цімка, Рыпішка зусім так не думалі. Наадварот, часамі мы адчувалі сябе нават лепей, як у хаце з комінам.

Не надта добра бывае толькі спачатку, калі печку запаляць. Хоць дзірка ў столі і адчынена, але дым чамусьці напаўняе ўсю хату, ад столі да зямлі. А як печы паляць вельмі рана, то мы абавязкова прачынаемся, пачынаем кашляць, закрываем галаву, хоць і пад коўдрай такі самы дым. Тады адчыняюць яшчэ дзверы, і мы сяк-так трымаемся, пакуль дым супакоіцца і збярэцца пад столлю.

Пасля таго ўжо ніякай бяды няма. Ляжыш сабе на спіне і глядзіш нібы ў неба. Белыя воблакі ходзяць, перамешваюцца, кожную хвіліну мяняюць свой выгляд, але прытрымліваюцца пэўнай граніцы і ніжэй яе не апускаюцца. У хаце паветра чыстае, толькі прыемны пах смолі адчуваецца — і нічога дрэннага няма...

Дзве мамы завіхаюцца каля печы, бразгаюць сваімі чыгунамі, але як толькі хто з іх пасунецца па хаце шпарчэй — зараз жа следам за ёю пачынаецца віхор, дым перамешваецца, апускаецца ўніз. Мамы гэта ведаюць і стараюцца рухацца як мага цішэй.

Але вось Міхалутка схапіў світку ды як махне па вобла-

ках. Божа, што тады робіцца ў хаце! А тут яшчэ і ўсе мы пачынаем махаць! Надыходзіць канец свету, неба мяшаецца з зямлёй, нельга бачыць і свайго носа, а нам весела-весела!..

Толькі мамам нашым зусім не весела. Яны злуюць, хапаюць якую анучу ці памяло — ды на нас! Але паспрабуй ты знайсці нас у гэтым хаосе!

Хоць класціся спаць мы стараліся як мага раней, але ўзімку прыходзілася і пасядзець. Я вельмі любіў тады даглядаць лучыну, адламваць ад яе вуголле. І любіў я, калі на сцяне шамацяць прусы. Нават дым не мог іх выкурыць. З прусамі я даўно ўжо здружыўся, я палюбіў іх за тое, што яны мяне не любілі. Мы ведалі, што прусы некаторых людзей «любяць» і ядуць іх бязлітасна, а другіх «не любяць» і не чапаюць. У нас яны больш за ўсё любілі Рыпішку, таму яна і хадзіла ўся ў балячках. А нас з мамай яны не чапалі.

Да выдатных падзей у гэтай хаце трэба яшчэ аднесці наша мыццё ў «лазні». Часцей за ўсё гэта было ў той дзень, калі пяклі хлеб. Пасля таго як хлеб вымалі, у печцы насцілалі салому. А затым маці, як баба-яга, садзіла ў печку мяне.

Як кожнае печыва, мяне зачынялі засланкай. У сярэдзіне ўжо стаяў чыгунок з вадой, ляжалі мыла і мачалка. І да гэтага часу не магу забыць таго цудоўнага паху, які быў у печцы,— і свежы хлеб, і духмяная салома. Спачатку я павінен быў папрэцць, а потым ужо мыцца. Прэць было яшчэ сяк-так, а вось мыцца — дзякуй за ласку! Абавязкова дакранешся да гарачай печкі то локцем, то каленам, то плячом. Таму мыццё маё, мусіць, ніякага знаку не мела, і мяне прыходзілася адмываць ужо на прыпечку.

Усё гэта хоць і дзіўна, на наш погляд, але што можна сказаць, калі пасля мяне сама маці лезла ў печку, гэтак жа зачынялася і мылася там!

Адно можна сказаць: або печка была вельмі вялікая, або мамка мая была надта малая.

Вельмі мала захавалася ў маёй памяці зімовых карцін. Самы яркі знак пакінуў след ад маленечкіх саначак, якія я адзін вазіў па некранутым снезе. Гэты след напаўняў усю маю істоту такім шчасцем, якога я ніколі ў жыцці забыць не мог. Не

самі саначкі ўрэзаліся ў маё сэрца, а іменна след, які мякка клаўся за імі. Вось і цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, я зноў нібы пачынаю адчуваць гэтае шчасце...

Хай падумаюць аб гэтым бацькі ці старэйшыя браты і сёстры, калі малы папросіць іх зрабіць ім такія саначкі.

А зімовых карцін не засталося ў маёй памяці таму, што я ўзімку не выходзіў з хаты. А не выходзіў я з хаты таму, што не было чаго адзець...

## 5. МАЦІ

> Иногда заглянет к нам в детскую мама... Чаще всего вспоминается она в бальном платье, декольте, с голыми руками, со множеством браслетов и колец.
>
> *С. Ковалевская. «Воспоминания детства»*

Мама мая, вядома, была самая лепшая, самая прыгожая і самая разумная з усіх жанчын. Я вельмі пакрыўдзіўся б і ніколі б не паверыў, каб хто сказаў, што гэта няпраўда.

Яна была невысокага росту, досыць шчуплая, з прадаўгаватым тварам і карымі вачыма. Самай галоўнай адзнакай яе былі кучаравыя валасы. Такія валасы былі яшчэ толькі ў дзядзькі Кірылы ды ў мяне.

За ўсё сваё жыццё з ёю я ні разу не чуў і не бачыў, каб яна гучна засмяялася. У самыя вясёлыя хвіліны яна толькі ўсміхалася, і мне заўсёды здавалася, што ўсмешка яе хітрая-хітрая. І гаварыла яна таксама ціха. Бывала, калі гавораць бабы, здалёк пазнаеш, якая цётка там ёсць, толькі не пазнаеш, ці ёсць там мама. І яшчэ ніколі не бачыў я яе ў якім-небудзь светлым убранні, хоць бы ў кофтачцы. На якіх кватэрах я ні жыў, я ні разу не чуў, каб мама з кім-небудзь сварылася, крычала, як гэта звычайна бывае. Не ведаю, ці адбывалася гэта толькі тады, калі мяне дома не было, ці яна зусім ніколі не сварылася.

Мяне яна навучала такім рэчам, якія ў нас нікому і ў га-

лаву не прыходзілі. Перш за ўсё — не лаяцца непрыстойнымі словамі, асабліва не прыплятаць да лаянкі слова «маці».

— Такога граху бог ніколі не даруе,— казала яна.— Папершае, ты лаеш маці-багародзіцу, па-другое, маці-зямлю і, патрэцяе, сваю родную маці.

Ужо аднаго апошняга доваду было б досыць, каб ніколі не лаяцца, а тут яшчэ і зямля, і багародзіца, і гнеў божы. Таму я ўвесь свой век пражыў без гэтай лаянкі, не лаяўся нават і тады, калі перастаў баяцца і граху, і бога, і багародзіцы, і зямлі. Толькі аднаго я баяўся ўсё сваё жыццё — абразіць памяць маёй роднай маткі.

Апрача таго, яна давала мне такія парады, якіх, здаецца, ніхто ў нашай вёсцы і не чуў. Напрыклад: не калупаць у носе, не паказваць пальцам на каго-небудзь, не разяўляць рота, шкадаваць жывёлу. Дзякуючы такім парадам, у мяне выпрацавалася інстынктыўнае адчуванне няёмкасці ў такіх выпадках, хоць ніхто вакол мяне нічога падобнага не адчуваў. Я, напрыклад, не мог працiснуцца наперад да якога-небудзь старэйшага чалавека, стаць перад самым яго носам і разглядаць, як гэта рабілі ўсе мае таварышы. Ніколі я не пасмяяўся з калекі, што ён кульгае, або мае горб, або не мае вока. А дзеці вакол мяне ніякай няёмкасці не адчувалі.

Гэта зрабіла мая непісьменная маці.

Самы важны закон у нашай сям'і быў: трэба слухацца маткі. Але акурат з гэтым найважнейшым законам справа ўсё неяк не ладзілася. І не таму, што я не хацеў прызнаваць яго. Не, я шчыра згаджаўся, што так трэба, але то сёе, то тое перашкаджала. Не згаджацца нельга было хоць бы таму, што на кожным кроку факты даказвалі, што гэты закон зусім правільны. Ці стрэмку ў нагу заганю, ці нос сабе разаб'ю, ці Кітка стукне мяне кулаком, ці пад дождж траплю — кожны раз я чуў грозныя ўрачыстыя словы:

— Заўсёды так бывае, калі хто маткі не слухае.

Для мяне было ясна, што калі бацькі не паслухаеш, то напляваць — нічога табе не будзе. А вось калі маткі, то бяды ўжо не мінеш. Вось добра Петрусю Жывадзёру, у якога замест маткі ёсць толькі бацька!

Аднак я ўсё роўна не памяняю сваёй маткі на яго бацьку. Лепш ужо буду яе слухацца. Але вось яна пайшла за дзесяць вёрст у мястэчка і нізавошта не хацела ўзяць з сабой мяне. Я і прасіўся, і плакаў — нічога не памагае. Ну як тут будзеш слухацца? Не, на гэты раз — толькі на гэты раз! — прыйдзецца паваяваць.

Я крыху счакаў, пакуль яна адышлася, і пайшоў следам. Заўважыла яна мяне ўжо ў полі. Спынілася і крыкнула:

— Не смей ісці! Зараз жа вяртайся дахаты!

Я спыніўся і нават нібы завярнуўся назад. А калі яна пайшла далей — і я пайшоў далей за ёю. Зноў убачыла мяне, накрычала і нават прайшла некалькі крокаў да мяне. Тады і я зрабіў столькі сама крокаў назад. А калі яна пайшла далей — і я пайшоў далей. Наступны раз яна пабегла ўжо за мной, і я ледзь уцёк. А потым зноў пайшоў за ёю... І вось, нарэшце, прыйшоў час расплаты: мама пагналася за мной не спыняючыся. Я не бег, а ляцеў, толькі вецер у вушах, а яна не адстае, нават набліжаецца. Адчуваю, што ў мяне духі займае, вочы на лоб павылазілі, а яна ўсё не адстае. Вось ужо чую, як шамаціць за мною спадніца. О, якое жудаснае шамаценне! Мяне ахінуў такі жах, нібы гэта не родная мамка гоніцца, а ведзьма якая ці яшчэ горш. Чую, як з майго горла сам ідзе дзікі крык. Дарэмна! Ні бег, ні крык не памаглі — страшэнная сіла ўхапіла мяне за карак. Я змагаўся, як леў, але хутка мая львіная галава апынулася між маміных каленяў, а процілеглая частка цела пачала атрымліваць тое, што ёй належала... І я зноў — ужо каторы раз! — пераканаўся, што заўсёды так бывае, калі хто мамкі не слухае.

І не толькі на зямлі ўсялякія няшчасці здараюцца з тымі, хто не слухае маткі, але і на тым свеце іх чакае кара.

— Яны на тым свеце будуць пакутаваць разам з тымі, хто краў, забіваў, лаяўся, маніў...

Я з жахам слухаю гэтыя словы, а перад вачыма стаіць карцінка, якая вісіць у куце ля абразоў бадай у кожнай хаце: велізарнейшы змей займае яе ўсю ад верху да нізу, а па баках чэрці з віламі завіхаюцца ля грэшнікаў, паляць, смаляць, вешаюць іх.

— А самыя страшныя пакуты будуць для тых, хто адракаецца ад госпада Ісуса Хрыста, хто маліцца не хоча.

Ой, гора маё! Мне ж самому так не хочацца маліцца, так нудна бывае, калі маці прымушае паўтараць за ёю словы малітвы. Тым больш, што малітвы гэтыя такія ж незразумелыя, як і бабуліны,— маці ведала не больш за бабулю. Пры ўсім сваім жаданні яна не магла навучыць мяне нават такой абавязковай малітве, як «Ойча наш»,— выходзіла адна мешаніна.

А тут на кожным кроку прыходзіцца адчуваць суседства жыхароў з таго свету. Вось, напрыклад, за маёй спіной заўсёды стаяць: з левага боку — нячысцік (слова «чорт» мама старалася не ўжываць), а з правага — анёл. Калі я шчыра памалюся ці зраблю што-небудзь добрае, нячысцік скрывіцца і адсунецца ад мяне далей, а анёл прысунецца бліжэй. А калі я зраблю грэх, скажам, не паслухаюся маткі, тады анёл заплача і адвернецца, а нячысцік вышчарыць зубы і прытуліцца да мяне бліжэй. Так яны ўвесь час і дзяжураць ля мяне. Бачыць я іх не магу, бо я грэшны, а святыя бачаць іх добра, нават размаўляць з імі могуць. Але часам мне здавалася, што і я нешта такое бачу. Гэта, мусіць, тады, калі я быў добры, шчыра маліўся і слухаўся маткі.

Наогул трэба сказаць, што тады свет быў зусім не такі, як цяпер. Не было ў нашай вёсцы такога чалавека, які не запэўняў бы, што сам бачыў якога-небудзь чорта — дамавіка, лесуна, вадзяніка, перавертня, русалку ці іншую нечысць. Яны кішэлі вакол нас і ўсюды совалі свой нос. Страшнаваты, таемны быў тады свет.

Быў яшчэ недзе нейкі рай, але аб ім чамусьці было вельмі мала звестак. Відаць, таму, што да нашага брата бліжэй былі чэрці ды пекла, а рай быў вельмі далёка. Аднак былі аб ім і некаторыя пэўныя звесткі — гэта з песні аб Лазару. Гэта была, здаецца, адзіная песня, якую спявала мама. Заўсёды дрыжыкі прабягалі па маім целе, калі яна ціхім-ціхім голасам пачынала:

«Жыў-быў Лазар, бедны чалавек...»

І хоць мне было добра вядома, як бедны Лазар пухнуў ад голаду пад сталом свайго брата, як псы лізалі яму балячкі, як

потым ён апынуўся на небе, а брат прасіў у яго кроплю вады, хоць усё гэта я чуў шмат разоў, але заўсёды ахвотна слухаў яшчэ і яшчэ.

Я нездарма лічыў, што мамка мая разумнейшая ад усіх: я ў гэтым пераконваўся кожны дзень. Не было такога пытання, на якое яна не магла б адказаць. Ніколі не чуў я, каб яна сказала мне — «не ведаю». Нават тады, калі я ўжо ўмеў чытаць, я звяртаўся да яе з незнаёмымі словамі і заўсёды атрымліваў адказ.

— Мама, што такое «літаратура»? — пытаюся я.

— Кніга такая,— упэўнена адказвае яна.

— А што такое «рэальны»?

— Гэта — ралля, пахаць, дзе сеюць,— не маргнуўшы вокам, кажа мама.

Але быў адзін выпадак, калі адказ яе зусім мяне не задаволіў.

Адзінай нашай мэбляй быў куфэрак, зроблены яшчэ бацькам. У ім была сакрэтная шуфляда, якую, нам здавалася, ніхто на свеце не мог бы знайсці. А ў гэтай шуфлядзе ляжала адна важная папера, метрыка, якая паказвала, колькі мне год. Паглядзіць хто-небудзь і зараз жа скажа, што мне шэсць год. Потым метрыку кладуць на месца, зачыняюць, не чапаюць яе. А калі праз некаторы час паглядзяць у яе зноў, то кажуць, што мне ўжо сем год. Якім чынам яны пазнаюць?

— Мама, ты насіла куды-небудзь маю метрыку, каб запісалі мае гады? — пытаюся я.

— Навошта? Там ужо запісана.

— Тамака ж было запісана шэсць гадоў,— дзіўлюся я.— А хто запісаў, што мне ўжо сем?

— Ніхто. Яна сама паказвае. Ляжыць сабе і паказвае.

— Сама?!

Такога цуда я ўжо ніяк не мог зразумець. І маміна тлумачэнне мне нічога не дало. Калі і як я разгадаў сакрэт — не ведаю. Ведаю толькі, што доўга яшчэ мучыла мяне гэтая таямнічая метрыка.

Уся наша вёска, апрача чатырох гаспадарак, была бядняцкая. І маці мая жывілася каля гэтых беднякоў. Там паможа

малаціць, там — малоць (на ручных жорнах), увесну — агароды садзіць, улетку — палоць, сена збіраць, увосень — бульбу капаць. Кожны раз у новых гаспадароў. За гэтую працу яна сёе-тое прыносіла ў хату — і ўсё патрошачкі. Калі мукі — дык жменьку, калі малака — дык палову кубачка, калі гароху — дык штук паўтараста, бульбін — пяць, хлеба — скібачку і гэтак далей. І заўсёды з гэтага малога выходзілі стравы смачныя і спорныя. Мне іх хапала заўсёды.

Вельмі было дарэчы, што мама не любіла акурат таго, што я вельмі любіў. Калі часам траплялася малако, то мама мне ў жытнюю зацірку ліла многа, хоць лыжак пяць, а сабе — нічога, хіба ў крайнім выпадку адну лыжку. А калі я пачну дапытвацца, чаму яна сабе не лье, то яна заўсёды адказвала, што не любіць малака. Часам я пытаўся:

— А ці праўда, што ёсць такія людзі, што п'юць адно малако?

— Памешчыкі могуць піць адно малако — у іх кароў многа.

— А можна зацірку варыць з адным малаком, без вады?

— Можна. Але навошта табе пра гэта думаць?

Разы са два на год аднекуль трапляў да нас зашмальцаваны кавалак цукру. Тут выявілася, што мама таксама і цукар не любіць. Гэта было ўжо занадта.

— Мама,— дзівіўся я.— Ну хіба можна не любіць цукар?

— Цукар любяць толькі дзеці,— адказвала яна.— А дарослыя яго не любяць.

Такому тлумачэнню я вымушаны быў паверыць, бо сапраўды не бачыў, каб цётка Вулька ці дзядзька Гаўрыла або хто іншы з дарослых ужывалі цукар.

Ну, добра, хай яно так, але чаму мамка не любіць яшчэ і смятану, і сала, і яйкі? Ішлі месяцы, гады, паступова я да гэтага прывык, стаў лічыць, што так і павінна быць, і ніякіх пытанняў наконт гэтага больш не задаваў.

За ўвесь час нашага жыцця ў вёсцы быў толькі адзін выпадак, калі ў нас з'явілася парася. Якое яно было прыгожанькае, рахманае, як мы з яго цешыліся! Але гадаваць яго так і не давялося — не было чым карміць, бо мы нават сваёй град-

кі не мелі. Скончылася тым, што парася хутка закалолі і з'еў яго я адзін: маці і парасяціны не любіла...

Каб адразу і назаўсёды пакончыць з беднасцю, маці надумалася гандляваць гарэлкай. Гэты перыяд прыпамінаецца мне досыць цьмяна. Было гэта не ў цётак, а на нейкай асобнай кватэры, чыстай, з падлогай. Самая галоўная рэч тут была — смешны збан, акурат як гарбуз, толькі з ручкай і горлам. У ім была гарэлка.

Прыходзілі дзядзькі ■ рыжымі барадамі. Усе яны былі добрыя, вясёлыя, лагодныя і частавалі гарэлкай мяне. Гарэлка была смачная, і жыць на свеце было зусім добра. Але раптам усё гэтае шчасце знікла — хуценька, ціхенька, невядома чаму і як. Знікла з усёй кватэрай і з падлогай. Застаўся толькі адзін гарбуз, які яшчэ доўгія гады служыў нам верай і праўдай, але ўжо без гарэлкі.

Пазней я даведаўся, што добрыя і лагодныя дзядзькі выпілі ўсю гарэлку ў доўг, а болей нам не было за што купіць.

Бліжэйшая крама была ад нас за дзесяць вёрст. Таму раз у месяц прыходзіў да нас стары Лейзар. Ідзе па вуліцы ■ вялізным цюкам на спіне і крычыць:

— Цытворы, камфоры, абшывікі, пувікі!..

А калі адчыніць свой кораб, то аж галава кружыцца, не толькі ў мяне, але і ў кожнага добрага чалавека. Чаго толькі там не было! Не толькі абшывікі і пувікі, але і ўсё, што толькі ёсць на свеце. І кожны з першага да апошняга жыхара вёскі знаходзіў акурат тое, што яму патрэбна ў жыцці. Быў тут прадмет, неабходны і для майго жыцця: губны гармонік. Але ён каштаваў цэлых пятнаццаць капеек. Ну хто мог яго купіць? Нават дзядзька Мікола не мог купіць свайму разумнаму Петрыку.

Я неяк заікнуўся быў перад мамкай, але яна абняла мяне ды адвяла ўбок.

— Нельга, сынок, няма за што купляць такія рэчы,— сказала яна, цалуючы мяне.

Я і сам ведаў, што няма за што, і прывык да гэтага настолькі, што ні на каго не крыўдзіўся і не вельмі гараваў. Так-

сама, як не крыўдзіўся і не гараваў, што не магу лятаць, як птушка.

Але так было толькі да таго часу, пакуль я не даведаўся, што мы зусім не бедныя, а наадварот — нават вельмі багатыя. Здарылася гэта выпадкова. Мамка звычайна хавала ад мяне свае грошы, але аднаго разу ці то забылася, ці палічыла магчымым даверыцца мне, узяла з сакрэтнай шуфляды сваю хустку ды і разгарнула пры мне.

І вось тут я ўбачыў такое багацце, якое мне ніколі і не снілася: у адным канцы хусткі было завязана шмат сярэбраных залатовак, грыўняў, саракоўак — усяго, мусіць, штук дзесяць, калі не болей; а ў другім канцы — вялізная жменя медзякоў.

— Гэта нашыя грошы? — закрычаў я з такой радасцю і з такой прагнасцю, што мама хуценька схавала іх ад мяне.

Яна пачала была тлумачыць мне нешта наконт таго, што грошай тут зусім мала, але я быў не такі ўжо дурны, каб даць веры. Хіба не бачыў я сваімі вачыма гэтыя грошы? У цёткі Вулькі, напрыклад, рэдка калі была хоць адна залатоўка, а тут гэтулькі іх.

Я стаў чакаць выпадку скарыстаць наша багацце. І гэты выпадак трапіўся, калі мы адправіліся за трыццаць пяць вёрст на кірмаш у манастыр. На гэты кірмаш раз у год ездзіла і ішла, здаецца, уся наша вёска. Мы былі ў ліку тых, хто ехаў. Як гэта здарылася, не разумею, бо такіх шчаслiўцаў наогул у вёсцы было мала.

Ужо адна дарога была для мяне падарожжам на край свету. А там, на месцы, было ўжо нешта зусім грандыёзнае: шум, гоман, звон, крыкі, спевы — і царкоўныя і п'яныя,— музыка, скокі, працэсіі. Каля манастыра вырас цэлы лес з паднятых угару аглабель. Пад гэтымі аглоблямі мы жылі два дні. Тут былі і Грышка, і Цімка, і Кітка, але мне з імі не давялося пабыць ні хвілінкі: мамка не адпускала мяне ад сябе ні на крок. І хоць мне з ёю было зусім нядрэнна, але дрэнна было тое, што яна надта многа часу аддавала царкве і богамаленню. Вельмі нудна было стаяць доўга ў царкве, не лепш было ісці побач з мамкай, калі яна разам з другімі жанчынамі паўзла на каленях вакол царквы, і зусім нецікава было праціскацца,

каб пацалаваць то сёе, то тое, у тым ліку руку якога-небудзь бацюшкі. Мама казала, што калі каго перахрысціць бацюшка, то той будзе шчаслівы. А гэты бацюшка хрысціў так, нібы мух адганяў, нават не глядзеў на таго, каго хрысціў, і, таксама не гледзячы, соваў сваю руку, каб яе пацалавалі, а ты лаві сабе гэтую руку, як хочаш.

Але я надта не скардзіўся на ўсе тыя турботы, бо мамка некалькі разоў купляла мне то абаранак за капейку, то некалькі цукерак за такую ж капейку. Але ў той жа самы час яна некалькі разоў купляла і свечкі для багоў за дзве, за тры і нават за пяць капеек. Адну такую свечку, з залатым паскам, я сам павінен быў ставіць багародзіцы, нібы свой уласны падарунак ад шчырага сэрца. А якое тут, даруй божа, шчырае сэрца, калі яно ў мяне крывёю аблівалася ад жалю: не свечкі мы палілі, а мой губны гармонік.

Не ведаю, ці то я падняў гэтае пытанне, ці сама маці здагадалася растлумачыць, у чым тут справа, але выходзіла так, што траціць грошы на свечкі было нават выгадна: ты паставіш свечак на пяць ці дзесяць капеек, а божанька раздобрыцца і верне табе рубель, а можа, і два, не лічачы здароўя. Дзеля таго людзі і ставяць свечкі, каб заслужыць ласку божую. Супраць гэтага не было чаго сказаць, але чаму ж тады мама не хоча купіць мне гармонік? І так грошай многа, ды яшчэ божанька дасць за свечкі, а мамка шкадуе... А тут, на кірмашы, гэтыя гармонікі пішчаць з усіх бакоў... Я меў усе падставы заплакаць ад шчырага сэрца.

І, дзіўная рэч, мама таксама заплакала. Мусіць, за кампанію. Яна абнімала мяне, цалавала і казала:

— Сыночак мой, пацярпі!.. Нельга... Трэба спачатку адзенне справіць, боты... Табе трэба будзе вучыцца...

Зноў гэтае вучэнне! Колькі разоў мама казала мне аб ім, а якое яно — ніхто з нас не ведае. Школы ў нас няма, і вучня ніводнага ў вёсцы няма. Ніхто нават не думае пра вучэнне. А праз яго мама мне гармонік так і не купіла. Ні цяпер, ні потым — ніколі.

Ці ведала сама маці, дзе і якім чынам я буду вучыцца? Аб гэтым я пазней многа думаў, і мне здаецца, што не ведала.

Бо ніводнага разу я не чуў ад яе ніякага меркавання, дзе яно будзе, калі і як. Я чуў толькі: будзеш вучыцца.

Нейк яна выказала сваю думку і перад людзьмі, але людзі падняла яе на смех. Куды яна пнецца, гэтая няшчасная ўдава? Нават з гаспадароў ніхто не думае пра такое, а яна вунь што сабе выдумала. Тады яна схавала сваю мару глыбока ў сэрцы і выказвала яе толькі мне аднаму, ды і то рэдка. Яна не ведала, а верыла, што так будзе, што так павінна быць, а дзе і як — пакажа час. Тым болей, што часу было яшчэ досыць. Гадоў чатыры-пяць заставалася да гэтай невядомай, таемнай вучобы, а ўжо мая залатоўка замест гармоніка была адкладзена на боты.

Праз два-тры гады боты былі пабудаваны. Якія цудоўныя былі гэтыя боты! Перш за ўсё яны былі спланаваны так, каб маглі служыць і ў першы год навучання і ў апошні. Для гэтага трэба толькі было ў першы год напхаць туды ануч, сена, а потым з кожным годам патрохі вымаць. Халявы былі таксама незвычайныя — рознакаляровыя, з чорных, рудых, жоўтых кавалкаў. Адным словам, база для навучання была падрыхтавана, але і тады ні я, ні хто іншы не чулі ад мамы, дзе і якім спосабам будзе адбывацца гэтае навучанне. Мусіць, і тады яшчэ яна таксама не ведала, а толькі верыла.

А я наконт гэтага наогул нічога не думаў. Бо словы «школа» і «вучэнне» не выклікалі ў маёй галаве ніякіх вобразаў. Ды і ў нашай дзіцячай кампаніі такія словы не ўжываліся. Нашы справы былі важнейшыя і цікавейшыя.

## 6. ГУБЕРНАТАРСКІ СЫН

> Я знал, что есть господа, которые приказывают, есть слуги, которые должны повиноваться приказаниям, и что я сам, когда выросту, буду принадлежать к числу господ...
>
> *С. Аксаков. «Детские годы Багрова-внука»*

Я стаю на купінцы і цаляю пераскочыць на другую. Але купінка, на якой я стаю, ні хвілінкі не пабудзе спакойнай — круціцца, хістаецца, нібы хоча скінуць мяне ў балота. Сяк-так

пераскочыў на другую, а там яшчэ горш: яна не толькі круціцца, але і сама апускаецца ў балота, робіцца слізкай, і стаяць на ёй не лепей, як на спіне жабы. Трэба хутчэй пераскочыць на наступную купінку, хоць да яе і далекавата. Каб яшчэ можна было добра адштурхнуцца, то не бяда, а як тут адштурхнешся, калі мая купінка апусцілася настолькі, што балота даходзіць мне да каленяў. Нічога не зробіш, трэба скакаць. Скокнуў — і трапіў на купінку не нагамі, а рукамі. А ногі з усім целам засталіся ў балоце. Нават галава на момант пагрузла ў балота, але толькі на момант.

Сяк-так узабраўся я на купінку жыватом, потым стаў на карачкі — і зноў пачынаецца тое самае: круціцца і грузне праклятая купінка. Давялося скакаць па-жабінаму — усімі чатырма і плюхнуцца па-жабінаму — жыватом. Зноў рукамі назачапіўся за купінку. Гэтая купінка была ўжо трывалая, нават маленечкая сасонка на ёй расла. Суседняя купінка таксама была добрая, а наступная — зноў нядобрая. Але для мяне было ўсё роўна, якая яна,— хіба ўпершыню мне качацца ў балоце?

Цяпер мне здаецца, што я рызыкаваў жыццём, а тады мне было б вельмі смешна, каб хто гэтак сказаў. Гэта ўсё роўна, каб вам хто сказаў, што вы праваліцеся скрозь зямлю.

Нарэшце выбраўся з балота. Вядома, ад галавы да ног я быў пакрыты чорнай гразёю, але адчуваў сябе ў ёй зусім нядрэнна. Галоўным чынам таму, што на сонцы ў ёй было вельмі цёпла.

Недалёка праходзіў бальшак. Па баках яго былі канавы з чыстай вадой. Там можна было памыцца самому і вымыць сваю зрэбную кашулю са штанамі.

Толькі я распрануўся, бачу — па дарозе едзе каламажка, панская, на рысорах. Конь сівы і вельмі круглы. Фурман з пугай сядзіць наперадзе, а ззаду, на мяккім сядзенні,— хлопчык гадоў дванаццаці.

Сядзіць адзін, самастойна; і каламажка, і рысоры, і фурман, і конь — усё гэта для яго аднаго. З якіх жа важных паноў павінен ён быць, калі так едзе!

А які ж ён прыгожы! Як раскошна ўбраны! Шапка з бе-

лым верхам, з сінімі кантамі, з бліскучым брылем і нейкім знакам на аколышы. Куртка чорная, таксама з сінімі кантамі і бліскучымі белымі гузікамі. Штаны навыпуск і чарнюткія чаравікі.

Я не мог адвесці сваіх брудных вачэй ад гэткага хараства. А ён, зірнуўшы на мяне, нібы ўсміхнуўся, і ад гэтай увагі я адчуў здавальненне, нават гонар. Пыл ад каламажкі агарнуў мяне з галавы да ног і заляпіў вочы, нос, рот, вушы. Але я стаяў і доўга пазіраў услед, уяўляючы сабе, як павінен адчуваць сябе такі шчаслівы хлопчык...

Потым я памыўся, вымыў сваю вопратку і хацеў быў разлажыць яе, каб высахла, але тут здалёк пачуўся голас:

— Янка-а!.. Сюды-ы!.. Хутчэ-эй!..

Гэта крычаў Кітка. Ён не захацеў ісці праз балота разам са мной і абходзіў недзе далёка. Калі ён кліча, значыцца, трэба. А адзенне высахне і на целе. І я памчаўся ў той бок.

А ў тым баку стаяла высокая і тонкая сасна, а на ёй — варонsocяе гняздо. Кірпаты, белагаловы Кітка ўжо хадзіў вакол дрэва, задраўшы галаву.

— Во! — сказаў ён, паказваючы пальцам на гняздо.

Больш нам не было патрэбы разважаць — мы і так разумелі адзін аднаго. Калі гняздо, значыцца, трэба дабрацца да яго і разбурыць, хаця б дзеля гэтага давялося зламаць руку, нагу ці шыю. Навошта нам гэта было — мы і самі не ведалі, але абавязак перш за ўсё.

Я сказаў:

— Я палезу: я мокры і буду ліпнуць.

Супраць такога доваду Кітка пярэчыць не мог. Дабраўся я да гнязда, гляджу — яно нейкае круглае, ніякай яміны няма. Паварушыў яго — як загудзе...

— Восы!..

Праз момант я быў на зямлі і, кульгаючы, даганяў Кітку, які ўжо ляцеў наперадзе. Калі мы спыніліся, дык выявілася, што ў мяне пакусаны твар, шыя і рукі, пабіты бок і баліць нага ды яшчэ ў дадатак кашуля падрана. Як я пакажуся маме?..

— Добра, што я не палез,— радуецца Кітка, не разумеючы, што так казаць прыяцель не павінен.

Прыйшлося вяртацца дахаты. Па дарозе забілі адну змяю, другую. Гэтага дабра ў нас было колькі хочаш, і мы лушчылі іх нямала. На ўскрайку лесу адной змяі пашанцавала ўцячы ад нас у куст. Мы палезлі за ёю і ў куст, але раптам пачулі злоснае сіпенне.

Ого! Вось якая яна храбрая! Такой мы яшчэ не сустракалі. Ад куста прыйшлося адступіць, але затое мы запусцілі туды корч. Зноў пачулася сіпенне, ды такое моцнае, грознае, што мы трошкі спалохаліся. Але разам з тым і зацікавіліся. Адступілі яшчэ крыху і давай бамбардзіраваць куст і палкамі, і каменнем. І з кожным разам узмацнялася сіпенне...

А што, калі яна выскачыць ды кінецца на нас? Такія выпадкі бываюць. Людзі кажуць, што адна такая раз'юшаная змяя гналася нават за конным чалавекам. Скруціцца, як спружына, а потым адразу выпрастаецца ды як скокне! Ледзьледзь конь уцёк. Вельмі небяспечная справа, але... бамбардзіроўкі ўсё ж такі мы не спынялі. Чаму — не ведаю і да гэтага часу.

Раптам Кітка як закрычыць немым голасам:

— Глядзі — на нас паўзе!..

Але я не паспеў убачыць, бо ногі мае ўжо неслі мяне ўслед за Кіткам, зусім забыўшыся на кульгавасць. Азірнуцца мы баяліся, бо там ззаду гоніцца за намі змяя: скруціцца — раскруціцца, скруціцца — раскруціцца. Супакоіліся, адпачылі і зараз жа забыліся на ўвесь гэты страх.

Потым я расказаў Кітку пра хлопчыка ў каламажцы і паставіў пытанне:

— Хто ён такі мог быць? Можа, сын прystава?

Але Кітка адмоўна пакруціў галавой.

— На рысорах, кажаш? — перапытаў ён.

— Але.

— І з фурманам?

— З фурманам.

— І адзін?

— Адзін.

— Ну, дык гэта губернатарскі сын,— аўтарытэтна вырашыў Кітка.

А я нічога не мог сказаць ні «за», ні «супраць». У нашай кампаніі асартымент паноў быў зусім не багаты. У вёсцы не было ніводнага пана — ні папа, ні пісара, ні настаўніка, нават урадніка. І памешчыка паблізу не было. Найвышэйшым панам для нас быў прыстаў, якога нават мала хто з нас бачыў. А далей найбольш знаёмымі нам словамі былі — губернатар і цар. Чаму ж тады таму хлопчыку не быць сынам губернатара?

Дома маці мяне сустрэла самымі лютымі словамі:

— У-у, шыбенік (у такіх выпадках яна заўсёды называла мяне гэтым гучным імем). Ты дзе гэта бадзяўся? Куды лез? Я табе пакажу!..

Аднак канфлікт скончыўся тым, што яна мне «паказала камы» з пытляванай мукі, ды такія смачныя, такія смачныя...

Увечары я доўга не мог заснуць у нашым падстрэшшы — у вачах усё стаяў губернатарскі сын. Дзе ён цяпер спіць і як? Што ён еў? Мусіць, камы пшанічныя і на адным малацэ.

— Мам! А губернатар хлеб есць? — штурхаю я пад бок матку, якая пачынае ўжо драмаць.

— Госпадзі, што гэта табе прыйшло ў галаву? — неахвотна адказвае маці.— Ну вядома, есць! Спі!

— А булкі есць?

— А як жа ж? Чаму яму не есці булак? Ну, спі!

— А навошта яму есці хлеб, калі ён можа есці адны булкі?

— Абрыдаюць булкі, тады есць хлеб,— мармыча мама.— Усё есць. А цяпер спі.

Вось дык дзіва: абрыдаюць булкі! Хіба так можа быць? Хто стане есці хлеб, калі можна есці булкі? Тут нешта не тое...

— Мам! — зноў штурхаю я мамку.— А губернатар здарава скача?

— А? Што?..

— Губернатар далёка можа скокнуць?

— А божухна, ды што з табой? — нават устрывожылася маці.— Адкуль такія глупствы лезуць табе ў галаву? Ды наво-

шта яму скакаць, ён можа хадзіць і ездзіць. Ці заснеш ты сёння нарэшце?

А мне зусім не глупствы ў галаву лезуць, а справы сур'ёзныя. Важнейшай нашай хлапечай гульнёй было скаканне праз раўчукі, яміны, лужыны — хто далей скокне. Усім нам было ясна, што праз той роў, якога ніхто з нас не можа ўзяць, мог бы пераскочыць толькі дзядзька Гаўрыла. Праз сажалку — толькі прыстаў. А праз усю лагчыну (рэчкі ў нас не было), аж да самага лесу, мог бы пераскочыць толькі цар. І нічога дзіўнага няма, што мне захацелася ведаць, якое месца ў гэтым шэрагу займае губернатар.

Адзначу яшчэ, што я не памятаю, каб хто з нашай кампаніі, хоць бы і старэйшы ад мяне, калі-небудзь казаў, што гэта няпраўда.

## 7. «ВЫВУЧЭННЕ» ПТУШАК

> Заметив гнездо какой-нибудь птички, мы всякий день ходили смотреть, как мать сидит на яйцах.
>
> *С. Аксаков.*
> *«Детские годы Багрова-внука»*

Нізкі, балоцісты луг, а на ім усё купінкі ды купінкі — акурат як тыя барадаўкі на целе. На некаторых купінках расце бярэзінка ці алешына. Добрая мясціна для кнігавак. Тут і трэба шукаць іхнія гнёзды. Толькі чамусьці ніводнай кнігаўкі не відаць. Пахаваліся яны ці што? Здаецца, там далёка лётаюць і кігікаюць. Відаць, давядзецца ісці туды.

Але раптам над галавой пачуўся трывожны крык. Ага, ёсць! Цяпер толькі трэба глядзець пад ногі: тут павінна быць гняздо. Чым далей я іду, тым трывожней робіцца крык. Гэта значыць, што я іду правільна: гняздо трэба шукаць каля той чарнаватай купінкі. Бедная птушка аж заходзіцца ад жалобнага крыку, а я радуюся: вось зараз будзе гняздо.

Падышоў, агледзеў і чарнаватую купінку, і ўсе купінкі навакол — ніякага гнязда няма. А кнігаўка ўсё крычыць ды

лятае, толькі крыху лявей, над тым альховым кустом. Ну добра, знайду цябе і там!

Як толькі я пасунуўся туды, кнігаўка так замітусілася, так заскуголіла, што адразу выдала сваю тайну: гняздо недзе каля таго альховага куста. Іду да гэтага куста, а птушка аж кідаецца на мяне, крычыць над самым вухам, плача, захлёбваецца, нібы просіць пашкадаваць яе гняздо. Але нашага брата гэтым не возьмеш, для нас справа важней за ўсё.

Агледзеў я і куст і ўсю гэтую мясціну, і — зноў нічога. Што за ліха такое? Няўжо яна мяне за нос водзіць? Але ж не: яна лётае вунь над той лагчынкай і так баіцца, каб я туды не пайшоў, што на гэты раз памылкі ўжо не будзе.

І сапраўды: на гэты раз справа стала вельмі сур'ёзнай. Кнігаўка нібы звар'яцела, носіцца перад самым маім носам, нібы загароджвае мне дарогу, а крык яе такі, што нават маё загартаванае сэрца пачынае сціскацца ад жалю. Але я зараз жа сябе стрымліваю і саромлю: які ж я буду мужчына, калі паддамся жалю? Не, наперад, і толькі наперад!..

Кнігаўка, відаць, зразумела, што я зараз падыду да яе гнязда, і ў роспачы кінулася мне проста пад ногі, праляцела пад локцем, а потым вярнулася і ледзь не зачапіла крылом за галаву. А крык! Што за крык! Нібы жанчына галосіць па сваім дзіцяці. А тут яшчэ другая кнігаўка прыляцела, мусіць, бацька. І яны пачалі бараніць сваё гняздо абое разам.

Але дарэмна: зараз я дабяруся да вашага гнязда. Вось і лагчынка. Тут многа купінак. Перагледзеў я іх усе — і зноў нічога не знайшоў. А кнігаўкі аж заходзяцца ад жалобнага крыку... толькі не тут, а яшчэ далей улева.

А, вось вы як! Ашукаць хочаце мяне? Не выйдзе! Хоць вы і хітрыя, але і я не дурны: калі вы цягнеце мяне налева, значыцца, ваша гняздо знаходзіцца справа. Паглядзім, што вы цяпер запяеце.

Як толькі я накіраваўся направа, кнігаўкі зараз жа кінуліся за мной з такім лямантам, з такім енкам, што адразу стала ясна: нарэшце я натрапіў на правільны шлях. Там, наперадзе, была вельмі ўтульная мясцінка: некалькі кволых кусцікаў стаялі вакол зялёнай пляцоўкі, а на ёй, сярод асакі,

хаваліся купінкі і ямінкі, вельмі зручныя для гнязда. Кнігаўкі цяпер і кружыліся там, часам ледзь не дакранаючыся крыламі да зямлі, а потым кідаліся грудзьмі проста на мяне, нібы гатовы былі хоць загінуць, але не пусціць мяне далей. Часам я нават рукамі махаў, каб адбіцца ад іх. Затое я быў упэўнены, што справа скончана — гняздо знойдзена. А калі падышоў да кусцікаў зусім блізка, то і кнігаўкі, відаць, таксама зразумелі, што справа скончана і што болей ужо змагацца няма сэнсу. Яны ўжо не кідаліся на мяне, не крычалі, а толькі ціхенька ўсхліпвалі, як дзеці пасля плачу.

Я ўпэўнена стаў шнарыць сярод асакі, абмацаў кожную купінку, кожную ямінку, агледзеў кожны куст і яшчэ многа кустоў і ямінак навакол — і зноў нічога не знайшоў.

У мяне аж слёзы на вачах выступілі. Я сціснуў кулакі і падняў іх к небу.

— Ну пачакайце, паганыя! Будзеце вы мяне ведаць!

Але пагражаць ужо не было каму: мае кнігаўкі ціхенька зніклі, пасмяяўшыся з мяне, як з самага апошняга дурня. Найгорш было тое, што гэтак яны ашуквалі мяне не адзін раз. І не толькі мяне, а нават і Міхалутку. Вось хітрыя, сабакі!

І толькі калі я адышоў досыць далёка і перастаў ужо думаць пра ўсё гэтае здарэнне, я нечакана, без ніякага шуму і гаму, убачыў на зямлі чатыры знаёмыя яйкі, вельмі падобныя на грушы і пакрытыя рудым рабаціннем.

Сэрца забілася ад хвалявання, ■ прагнасцю накінуўся я на яечкі, схапіў іх, пакруціў у руках, а потым... потым не ведаў, што з імі рабіць. Ну, разбіў адно, каб паглядзець, ці наседжаныя яны,— ажно наседжаныя. Засталося тры. Па дарозе ўбачыў на полі вялізны валун і запусціў у яго другім яйкам. Паглядзець, як чмякнула яно аб камень, было нішто сабе, але надта ўжо кароткі быў гэты момант. Пайшло ў ход і трэцяе яйка. Засталося адно. Яго я нёс дахаты. На двары сустрэў мяне Міхалутка, узяў яйка ў рукі і шпурнуў яго ў сцяну хаты. Так і разышлася ўся мая здабыча.

Гэтаксама было і ў другіх хлапцоў. Усё наша «вывучэнне» з таго і складалася, што мы люта разбуралі гнёзды і зні-

шчалі яйкі і... птушанятак. Навошта, дзеля чаго — ніхто з нас не ведаў. Так сабе.

З птушанятамі пад кіраўніцтвам Міхалуткі мы вытваралі такое, ад чаго аж цяпер жах бярэ. Добра памятаю, як падкідалі ўверх варанятка і стралялі ў яго каменем... А другі раз не паленаваліся спецыяльна зрабіць клетку, каб пасадзіць туды маленечкіх, паўголых птушачак і страляць у іх стрэламі з лукаў, таксама зробленых спецыяльна для гэтай справы... Гэта было даўно-даўно, а ў мяне і цяпер стаіць у вачах і жаласна ціўкае кволае птушаня, працятае стралой...

Праходзіў ля нас дзядзька Гаўрыла, зірнуў на нашу «забаву» і сказаў:

— Навошта мучыце птушак? Няма вам чаго рабіць ці што?

Сказаў абыякавым тонам і пайшоў сабе далей. А калі падышоў дваццаціпяцігадовы Ягор, дык спыніўся, каб палюбавацца гэтай «гульнёй», і смяяўся разам з намі.

Я не вытрымаў, пабег да мамкі і расказаў, што робяць хлопцы. Мамка прытуліла мяне і сказала:

— Нядобра, вельмі нядобра. Птушкі нічога дрэннага нам не робяць. Яны, як і ўсё жывое, таксама жыць хочуць, і мучыць іх грэх. І не толькі птушка, але і расліна жыць хоча, і яе таксама не трэба псаваць.

Па яе словах выходзіла, што ўся прырода нібы жывая і нават разумная і што яе трэба любіць і шкадаваць, як чалавека. Аб тым, што птушкі прыносяць нам карысць, мамка, здаецца, нічога мне не казала. І калі мы часам рабілі шпакоўні, дык зусім не думалі, што шпакі чым-небудзь карысныя, а рабілі для таго толькі, каб мець сваіх «хатніх» птушак.

Я не думаю, што нашы сяляне наогул не ведалі, якую карысць робяць нам птушкі, але бяда ў тым, што яны не падумалі ці не здолелі растлумачыць гэта сваім дзецям.

Колькі яек прайшло праз нашы рукі — і падлічыць нельга. А якія спецы былі мы ў гэтай справе! Кожны адразу пазнае, якой птушкі якое яйка. Кожны добра ведаў, дзе якая птушка любіць гнёзды рабіць, які выгляд маюць гэтыя гнёзды, колькі яек кладзе кожная птушка, якіх выводзіць птушаня-

так, якія звычкі і які характар маюць тыя ці іншыя птушкі. Адным словам, добра мы вывучылі птушыную справу, і ўсе гэтыя веды накіравалі на знішчэнне птушак. Хоць бы каму прыйшло ў галаву зрабіць чучала птушкі. Ды каб і прыйшло, усё роўна мы не ведалі б, як яго зрабіць.

Колькі разоў мы ні знаходзілі яйкі, мы заўсёды кідаліся на іх з прагнасцю, з хваляваннем, нібы ўпершыню бачылі іх. Але скарыстоўвалі большай часткай гэтак сама, як я тады яйкі кнігаўкі. Хіба толькі замест каменя ці сцяны шпурлялі яйкамі адзін у аднаго. Можна было яшчэ біцца яйкамі, як у вялікдзень, але для гэтай справы птушыныя яйкі не падыходзяць: яны надта малыя і не трэскаюцца, а праламваюцца.

Не ведалі мы толькі, што з птушыных яек можна зрабіць цікавую калекцыю. Не было такога чалавека, які мог бы нам пра гэта сказаць.

## 8. ВЁСКА ГНІЛУШКІ

Кормежки и ночевки в дымных избах, вместе с поросятами, ягнятами и телятами, нечистота, вонь... не дай бог никому и во сне все это увидеть.

*С. Аксаков. «Воспоминания»*

Наша вёска была не такая ўжо малая — двароў больш за сотню было ў ёй. Ды яшчэ двары гэтыя шпарка размнажаліся, як грыбы пасля дажджу. Дзе быў адзін дом, адна гаспадарка, глядзіш — на тым двары ўжо дзве, тры хаты: адна, старая, стаіць звычайна тварам на вуліцу, другая глядзіць зусім у другі бок, а трэцяя стаіць неяк рогам, наўскасяк і ўсім перашкаджае.

Пасля пажару ўсе двары зрабіліся такімі гнёздамі. Гаспадарчых будынкаў, калі не лічыць паветак, што замянялі сенцы, звычайна не было. Ды яны былі і непатрэбныя, бо ніякай гаспадаркі не мелася. Адна карова прыпадала на дзве-тры хаты, а конь дык і на ўсе пяць. А ўраджай мог змясціцца і пад страхой і на гарышчы.

Гаспадаркі пладзіліся таму, што сем'і дзяліліся. Калі ў

сям'і, скажам, тры сыны, то, як толькі яны вырастуць, на двары зараз жа вырастаюць дзве-тры самастойныя хаты. Разам з дваром, вядома, дзяліліся і палеткі. Нездарма ўчасткі на полі называліся «шнурамі». Калі мы, хлапчукі, не маглі пераскочыць цераз такі шнур, то лічылі, што ён належыць багатаму гаспадару. Межы паміж гэтымі шнурамі займалі, мусіць, трэцюю частку поля. Завярнуцца з канём на такім участку зусім нельга было. Часам дзялілі такі ўчастак упоперак, але гэта бывала вельмі рэдка, бо глеба на канцах звычайна была розная. Калі не было жывёлы і саломы, то не было і ўгнаення.

Дайшло да таго, што для некаторых гаспадароў зямля стала цяжарам. Ён бы ахвотна прадаў яе, ды суседзі яго грошай не маюць або самі хочуць прадаць сваю зямлю. А хто другі, можа, і купіў бы, ды што яму рабіць з гэтай кішкой, калі яна ляжыць воддалі ад яго шнура? І былі выпадкі, калі людзі проста кідалі сваю зямлю і ўцякалі куды вочы глядзяць.

Памятаю я адзін урачысты дзень, калі выпраўлялі дзесяць фурманак прама ў Сібір. Зайздросна было глядзець, як паехалі яны са званочкамі, з музыкай, нібы вяселле якое. Праз год некалькі сем'яў вярнулася назад, але ціхенька, без званочкаў і без музыкі.

Аднак жыць трэба было. І тады людзі ўзяліся высякаць з каменя крыжы і помнікі на могілкі. Раней быў на вёсцы адзін дзед Карп, які здаўна займаўся гэтай справай і перадаў яе сваім сынам, а цяпер на кожным двары ляжаў вялізны камень, і гаспадар цюкаў яго цэлыя месяцы. За добры крыж можна было атрымаць вялікія грошы — пятнаццаць — дваццаць рублёў.

Але як прывезці вялізны, шматпудовы валун, калі каня няма ды і многа людзей трэба на гэтую справу? А калі бліжэйшыя каменні падабралі, то трэба было шукаць усё далей і далей. А зрабіўшы крыж, трэба было на чужым кані везці яго за многа дзесяткаў вёрст і чакаць пакупца, якому акурат патрэбен крыж. Не дачакаўшыся, трэба было часова пакідаць каму-небудзь. Каб варочаць гэткі цяжар, прыходзілася кожны раз збіраць многа людзей. І былі яшчэ выпадкі, калі крыж разбіваўся...

Наогул усю такую аперацыю можна было прарабіць не болей аднаго разу ў год. І калі яна шчасліва канчалася, то чалавек на радасці прапіваў палову грошай, а то і ўсе... Тады адбываліся бойкі, і я ніяк не мог зразумець, якім чынам чалавек заставаўся жывы пасля таго, як яму са звонам грукалі калом па галаве...

Толькі чатыры гаспадаркі ў вёсцы не дзяліліся і былі заўсёды багатыя. Толькі каля чатырох хат былі вялікія сады, агароды і нават так сабе раслі вялізныя дрэвы — ліпы, дубы, клёны. Пазней гэтыя дрэвы выратавалі сваіх гаспадароў ад пажару, які знішчыў усе астатнія двары. У гэтых чатырох сем'ях быў такі парадак, што лішнія дзеці недзе вучыліся, набывалі якую-небудзь спецыяльнасць і жылі далёка, а гаспадаром заставаўся хто-небудзь адзін. Гаспадары гэтыя не мелі нічога агульнага з нашым народам, між іншым, і таму, што яны былі каталікі. Затое нашы хлопцы мелі шмат агульнага з іхнімі садамі і агародамі. Але, на жаль ці на шчасце, мне давялося толькі адзін раз прымаць удзел у такім паходзе, ды і то няўдала. Не, лепей не ўспамінаць аб такім прыкрым здарэнні... Адзначу толькі, што для нас гэтыя чатыры гаспадаркі заўсёды былі чужаземнай тэрыторыяй і жыхары былі для нас чужаземцамі — ніколі ніводзін хлопчык ад іх не быў у нашай кампаніі.

Я ўжо казаў, што ў нашай вёсцы не было ні школы (яна была за дзесяць вёрст), ні царквы (яна была за трыццаць пяць вёрст), ніякага начальства (яно было ў воласці, за дзесяць вёрст). Мы жылі і выхоўваліся самапасам. Калі з'яўлялася на свет божы дзіця, то сусед замест папа саматужным спосабам хрысціў яго, а потым ужо, праз многа месяцаў, пры зручным выпадку звярталіся і да папа. Таксама і паміралі без папа. Толькі жаніцца ездзілі, хоць і за трыццаць пяць вёрст.

А ў вялікае свята наладжвалі і саматужнае набажэнства ў якой-небудзь хаце. Непісьменны дзед выступаў наперад і пачынаў па-царкоўнаму вымаўляць словы, якія за сваё доўгае жыццё ён чуў у царкве. Гэта, вядома, быў бессэнсоўны набор славянскіх слоў, але яны былі «святыя» і рабілі належнае ўражанне. У адказ яму «хор» спяваў, што каму прыходзіла ў

галаву з царкоўных напеваў, і выходзіла богамаленне, якое нам здавалася нават больш урачыстым, чым сапраўднае набажэнства.

Пісьменных у вёсцы было некалькі чалавек. Пры мне чытаць і пісаць маглі толькі двое, а рэшта магла толькі чытаць. Некаторыя з іх раней умелі і пісаць, але забыліся. А яшчэ больш было такіх, што забыліся не толькі пісаць, але і чытаць.

Уся гэтая культура і зусім знікла б, каб яе не падтрымлівалі салдаты, якія вярталіся са службы ў арміі. Праўда, не ўсе яны вярталіся пісьменнымі, яшчэ менш было такіх, што ўмелі пісаць, але сякая-такая пісьменнасць да нас даходзіла толькі праз іх. Праз некаторы час яны самі рабіліся непісьменнымі, а на змену ім прыходзілі новыя салдаты.

Так вёска Гнілушкі і жыла сваім асобным жыццём, адрэзаная ад усяго свету, калі не лічыць тых спраў, якія кожны меў у воласці, ды рэдкіх выездаў у мястэчка на кірмаш. У нас была свая рэлігія, свая культура, свая медыцына. Гэтая медыцына часам была вельмі суровая, і я аднойчы праз яе перажыў многа страху.

Быў у мяне таварыш, Пятрусь, бледны, гнілы хлопчык з залатухай на галаве і на твары. Жыў ён з бацькам наводшыбе ў былой лазні. Жанчыны ў іхняй хаце не было. Бацьку, Сымона, чамусьці называлі Жывадзёрам, хоць яго спецыяльнасцю было здымаць скуры не з жывых, а з мёртвых жывёлін. Людзі на яго глядзелі пагардліва, тым больш, што выгляд яго быў не надта прывабны: тоўсты, нібы надзьмуты, сіні, і з рота заўсёды ішла сліна.

Хадзілі ўпартыя чуткі, што Сымон быў сынам нейкага заняпалага памешчыка, і шмат хто гэтаму верыў, хоць пашана да яго ад таго ні трохі не павялічвалася.

Аднаго разу я зайшоў да іх акурат у тую хвіліну, калі Сымон лячыў свайго сына ад залатухі. Яны трымалі лыжку малака і клалі туды тое, што знаходзілі ў сваіх кашулях...

— Цяпер ужо ты вылечышся! — задаволена казаў бацька, пырскаючы слінай.— Як рукой здыме.— Потым звярнуўся да мяне: — Табе таксама трэба лячыцца (у мяне сапраўды была залатуха). Гэта, брат, самае лепшае лякарства.

Я глядзеў на гэтую падрыхтоўку, яшчэ добра не разумеючы, у чым справа. Калі «лякарства» было гатова, Пятрусь з пакорным і абыякавым выглядам праглынуў яго... У мяне мурашкі забегалі па спіне.

— А цяпер давай ужо за адным разам і цябе вылечым,— пасунуўся Сымон да мяне.— Падзякуеш і ты, і твая матка.

— Не-не, не хачу! — адхіснуўся я з жахам.

— Дурны! — спакойна сказаў Сымон.— Але ўсё роўна я параю тваёй матцы, і яна цябе прымусіць.

І сапраўды параіў. Маці зусім не здзівілася і не пярэчыла, нібы ведала і прызнавала гэты спосаб. Толькі сказала, што трэба пачакаць, якія будуць вынікі ў Петруся.

Вось тут і пачаліся мае пакуты. Кожны дзень я з жахам думаў, ці не вылечыўся ўжо Пятрусь? Я сачыў за яго болькамі з большай увагай, як ён сам. Малейшае паляпшэнне было для мяне вялікім горам. Ішлі дні за днямі, і, на маё вялікае шчасце, Пятрусь не вылечыўся!..

## 9. МАЕ ЗАНЯТКІ

> Когда нас оделили мороженым и фруктами... мы... встали и отправились играть.
>
> *Л. Толстой. «Детство»*

Нудна і нецікава жыць на свеце дарослым, сталым людзям. Ідуць яны, скажам, міма сажалкі, міма дуба ці каля плота якога і нават не зірнуць на іх. А калі і зірнуць, то ўбачаць толькі ваду, дрэва і больш нічога. А таго, што сажалка — гэта цэлы свет з цікавейшым жыццём, яны не бачаць. Што жалуды на дубе даюць вялікае шчасце чалавеку, калі ён глядзіць на іх,— таго яны не ведаюць. Што звычайны плот, асабліва пляцень, адным сваім выглядам можа даваць асалоду для душы,— гэтага дарослыя і зусім уцяміць не могуць. А колькі на свеце такіх рэчаў! І кожная жыве, дыхае, зіхаціць і ўплывае на цябе, кожная захапляе цябе цалкам, так што пра другое ў такія мінуты ты і думаць не можаш. А дарослыя

дзядзькі і цёткі жывуць сабе на свеце, а свету не бачаць і не адчуваюць. Тым горш для іх. Затое я ўсё бачу і адчуваю.

Вось, скажам, паўзе жаба. Звычайная агідная жаба, якіх усюды ўбачыш. Людзі на іх і глядзець не хочуць. Я, вядома, не мог прайсці міма, спыніўся, паглядзеў, а потым узяў ды і затрымаў яе дубцом. Яна завярнулася ў другі бок — я і туды яе не пусціў. Тады яна кінулася ў трэці бок — і там ходу няма! Так я працаваў доўга-доўга; калі яна спынялася — я адпачываў, а потым зноў пачыналася спачатку. Хто з нас дваіх быў разумнейшы, не бяруся сказаць, але цярплівейшы быў, безумоўна, я. Нарэшце надышоў час, калі жаба прыйшла ў роспач: як крыкне сваім хрыпатым голасам ды як скокне, не зважаючы на дубец, проста на мяне!..

Тут ужо я шчыра пашкадаваў, што давёў жабу да такога стану; але позна было шкадаваць, трэба было ратаваць сваё жыццё.

Ногі неслі мяне, як крылы, а ззаду гналася раз'юшаная жаба. Я ўспомніў расказы хлапцоў, як калісьці гэтаксама гналася жаба за нейкім чалавекам; той ледзь паспеў ускочыць у сенцы і зачыніць дзверы, а жаба ў гэты момант як пляснецца ў дзверы, ды так глыбока ўвайшла ў дрэва, што ледзь яе адтуль выкалупалі... Я таксама паспеў ускочыць у сенцы, але жаба не пляснулася. Мусіць, я ляцеў хутчэй за таго чалавека. А можа, яна зусім і не гналася?..

Цяпер я ўжо не шкадую аб гэтым здарэнні: ці многа знойдзецца на свеце людзей, якім пашанцавала бачыць раз'юшаную жабу?

Або вось я далёка ад вёскі, у мясцовасці, якая чамусьці носіць афрыканскую назву — Клімбаліці. На жаль, я тады не ведаў, што гэты куток афрыканскі, бо і самае слова «Афрыка» мне было зусім незнаёма. Ды што там казаць пра Афрыку, калі нават пра Еўропу наўрад ці хто з нас чуў. Расею дык кожны ведаў, а пры чым тут Еўропа? Апрача Расіі я добра ведаў Амерыку ды яшчэ Сібір.

Каб дабрацца да Клімбаліці, трэба было прайсці вялікую балоцістую нізіну, пакрытую зялёнай травой і мноствам купінак. Ісці па ёй прыемна і цікава. Ідзеш, як па падушцы, а пад

нагамі — чвяк, чвяк! А то праз пальцы ног як свісне вада, аж у рот трапіць можа. Вельмі цікава!

Клімбаліці — гэта востраў на балоце. Увесь ён зарос хмызняком, асакой, мохам і худасочнымі дрэўцамі. А колькі тут усялякага дабра! Змеі капошацца, як чарвякі пасля дажджу. Птушыных гнёздаў колькі хочаш. І жаб розных гатункаў процьма. Трапляюцца брусніцы, касцяніцы, крушына і нават чорная маліна. Журавіны сцелюцца пад нагамі, як рыбалоўная снасць. Нездарма гэты куток завецца Клімбаліці.

Але самае галоўнае багацце тут — гэта ганаболі, або буякі, або п'яніцы. Апошняя назва самая справядлівая, бо кожны раз выходзіш адсюль п'яным. Некаторыя людзі казалі, што п'яняць не ягады, а багун, што заўсёды расце разам з імі, але мне было ўсё роўна, хто тут вінаваты.

У цёплы летні дзень на востравеваўсю бурліць жыццё. Тутэйшае насельніцтва мітусіцца, спяшаецца, таўчэцца і шуміць, шуміць...

Мацней за ўсіх скрыпяць конікі. Мне казалі, што гэта яны так граюць, а вось пабачыць, як яны гэта робяць, аніяк нельга. Падпаўзеш да яго, стаіўшы дыханне, а як толькі захочаш паглядзець — ён і сціхне. Папаўзеш да другога — тое самае. Тады паспрабуеш ляжаць ціха і доўга, каб ён падумаў, што нікога няма, а ён возьме за гэты час ды пяройдзе на другое месца. Гадамі я гэтак лавіў коніка і нават цяпер не магу сказаць, ці бачыў яго калі-небудзь за музыкай, ці толькі пазней чытаў аб гэтым у кніжцы.

Затым ёсць такі народ, які ўвесь час толькі гудзе. Ці тонкім голасам, ці тоўстым, а ўсё гудзе, гудзе, гудзе. Мух я і дома чуў, а тут набіраецца столькі гудуноў, што і не разбярэшся. Ведаю толькі, што яны ўсе лятучыя; паўзучыя ніколі не гудуць. Яны любяць хадзіць па зямлі моўчкі, і толькі калі які-небудзь жук захоча ляцець, ён таксама пачынае гусці.

Найбольш дзіўнымі летунамі з'яўляюцца тыя, што ляцяць, стоячы на месцы: стаіць сабе і ляціць — смехата!

А калі паглядзіш, што робіцца ў траве, у моху, то і вачэй не адарвеш. І адкуль толькі бяруцца такія стварэнні. Часам зусім маленечкая кузурка, глядзець няма на што, а некуды

пнецца, чагосьці хоча. Шкада, што няма часу з усімі імі пазнаёміцца бліжэй: там яшчэ жабы клічуць мяне. Яны сабраліся ў сажалцы, дзе мочаць лён, і гаспадараць там, пакуль лёну няма. Звычайных жабак я добра ведаю, і яны мяне не цікавяць, а кукушак наглядаць цікава. Яны самі цёмныя, а бруха чырвонае. Як яны могуць так звонка кукаваць, нібы сядзяць не ў вадзе, а ў пустой бочцы?..

Вада ў сажалцы халодная, цёмная, добра і пакупацца. Усе жабы зашыюцца хто куды, калі я ўлезу ў ваду. Каб не глеістае дно, купацца было б зусім добра, але іншага купання ў нас і няма.

Вельмі баюся я чорных яшчарак, што плаваюць у вадзе, хоць людзі і кажуць, што яны не шкодныя. А з апалонікамі гатоў гуляць хоць увесь дзень.

Пасля купання застаецца абследаваць птушынае царства, затым панаглядаць за сухаземнымі яшчаркамі, адарваць якой-небудзь з іх хвост, забіць хоць пару гадзюк. Пасля трэба пакаштаваць усяго таго, што можна ўзяць у рот. У першую чаргу, вядома, п'яніц, хоць і непрыемна, калі баліць галава...

Адным словам, добра было ў нас на Клімбаліці!

Я цяпер заўважаю, што ў маёй памяці засталося найбольш такіх здарэнняў і ўражанняў, якія перажываў я адзін, без таварышаў. Тлумачыцца гэта тым, што толькі я адзін быў беспрацоўным. Ім і ў гаспадарцы трэба было памагчы, і ў хаце, і на полі, і з дзіцем пабыць, а ў мяне, дзякуй богу, нічога такога не было. Сама маці хадзіла працаваць па людзях, але мяне не прымушала нават і тады, калі мне было і восем, і дзевяць год.

Вясковая грамадскасць глядзела на гэта скоса:

— І што сабе думае гэтая Наталля? Ні кала, ні двара, ні мужа не мае, а сына гадуе абібокам. У людзей дзеці з шасці гадоў працу маюць, а ейны сабак ганяе.

Не ведаю, ці то пад уплывам грамадскасці, ці надта ўжо гора прыціснула, але аднаго разу маці парашыла аддаць мяне ў пастухі. Пайшлі мы за восем вёрст у нейкі фальварак. Уласна кажучы, гэта быў звычайны кулацкі хутар, але гаспадар

быў паляк-шляхціц, значыцца, хутар павінен быў называцца фальваркам, а гаспадары яго — панамі.

На ганак выйшла пані, звычайная баба, толькі таўсцейшая ды крыху бялейшая. Маці пацалавала ёй руку, а потым загадала мне пацалаваць. Стала прасіцца, каб узялі мяне гусі пасвіць. Паглядзела на мяне пані і кажа:

— Надта малы і слабы.

Маці пачала даводзіць, што птушак пасвіць я здолею.

— Такая праца не аплоціць яго харчавання,— сказала пані.

Урэшце яна ўсё ж такі згадзілася мяне прыняць ды яшчэ вызначыла плату: цэлы рубель за лета.

Развіталіся мы з мамкай, абое паплакалі — гэта ж была наша першая разлука. Пасялілі мяне ў каморцы, разам з работніцай. Пакармілі надзвычай добра: і хлеба, і малака колькі хочаш. Праўда, малако было перагнанае, яго давалі таксама і парасятам, але што мне з таго?

Досвіткам паднялі мяне разам з работніцай — і пачалася мая служба: і кароў ганяць, і свінні пасвіць, і гаспадару памагаць, і гаспадыні, і работніцы, а гусі пасвіліся самі.

І ўбачыў я тады, што свет зусім не такі цікавы і прывабны, як мне здавалася раней. Калі тут трапляўся дуб і жалуды, то яны ніякага шчасця мне не давалі. І ў сажалцы ніякага жыцця не было. А пляцень — дык той зусім быў брыдкі...

Маці прыйшла да мяне дні праз тры. Убачыла, залілася слязьмі, а калі даведалася, што да гусей я маю вельмі малое дачыненне, то забрала мяне зусім.

Зноў вярнулася наша шчасце, зноў ажыла прырода, зноў зрабіўся любым свет...

А свет быў пабудаваны такім чынам: у цэнтры стаяла вёска Гнілушкі, навакол яе — палеткі, за палеткамі — лясы, а за лясамі — Адэса, Пецярбург, Амерыка і яшчэ сёе-тое.

Хоць і добра ведаў я навакольныя лясы і пералескі, але толькі з краю. У глыбіню хадзіў я адно з мамкай, і гэтыя падарожжы пакінулі ў мяне вельмі глыбокі след.

...Высокія стройныя сосны стаяць, як свечкі. Недзе ўверсе і неба, і вецер, і дзяцел, а ўнізе — цішыня і спакой. Крыкнуць

баішся не таму, што страшна, а таму, што не адважваешся парушыць урачыстасць. Толькі адзін нейкі дзівак-птах не звяртае ўвагі на ўрачыстасць, а свішча і дражніцца, як чалавек. Я яму адгукаюся, ён мне адказвае. А які ён — не ведаю і цяпер, хоць дражнюся з ім і да гэтага часу.

У розных месцах наўскасяк утыркаюцца ў зямлю залатыя праменні. Вось забялелася сярод іх хустка — там мая мамка. Праз хвіліну яна ўжо ў другім баку, а я ўсё поркаюся на адным месцы. Мой удзел у працы зусім добраахвотны і бескарысны. Калі-нікалі я прыношу маме жменьку чарніц, а больш адпраўляю ў свой чорны рот.

Час ад часу чую ціхае «ау!», і адразу ўсе галасы ў лесе сціхаюць, каб даць дарогу голасу мамы, бо ён самы мілагучны ад усіх. Я адгукаюся такім голасам, што, мусіць, і ён маме здаецца самым мілагучным. І абое мы шчаслівыя. Нікога няма, мы самі тут гаспадары — і больш нічога нам не трэба.

Раптам у лесе пачуліся жахлівыя жаночыя крыкі. Я ўзлез на пень, гляджу — далёка між дрэў мільгаюць яшчэ белыя хусткі. Сярод іх — мужчына з барадой і са стрэльбай. Ён ганяецца за жанчынамі, садраў з адной хустку, тая заплакала...

Справа ясная: лясны разбойнік напаў на людзей.

Падбегла, задыхаўшыся, мама, хапае мяне за руку і кажа:

— Ціха!.. Бяжым!..

І, схіліўшыся, хаваючыся па-за дрэвамі і кустамі, мы бяжым датуль, пакуль не становіцца зусім ціха.

— А ён нас не знойдзе? — пытаюся я.

— Цяпер ужо не,— упэўнена адказвае мама.

Чаму яна так упэўнена?

— А можа, тут дзе другі разбойнік сядзіць? — кажу я.

— Гэта не разбойнік, а ляснік,— тлумачыць мама.— Ён ловіць безбілетных. Каб збіраць ягады і грыбы, трэба купляць білет.

Вось табе і гаспадары лесу!

...Які вялікі лес і які разнастайны! Кожны новы куток — новы свет. І ўсюды свая пекната. Калі выйдзеш на прасеку, то трапляеш у сонечнае царства. Там сонца зусім не такое, як дома, там ніколі не бывае ценю і заўсёды многа маліны; там

вельмі хочацца смяяцца. А ў ельніку, наадварот, заўсёды цёмна і трохі жудасна. Там пад яловымі лапамі хаваюцца ваўкі, мядзведзі і ўсялякая нечысць. Там ужо смяяцца зусім не хочацца. На ўзгорках заўсёды пясочак і сосны з зялёнай карой. Там можна ўбачыць яшчарак, і тады на сэрцы робіцца радасна.

Адно толькі прыкра: мама не хацела са мной ні смяяцца, ні радавацца. Яна толькі крышачку ўсміхалася, гледзячы на мяне. А то зноў (у каторы раз!) пачынала гутарку пра маю будучыню.

— Калі ты будзеш настаўнікам ці пісарам, то мы будзем не толькі збіраць, але і купляць чарніцы ды есці з малаком.

— Ну? — кажу я недаверліва.— Адкуль набрацца столькі малака?

— Ты будзеш мець шмат грошай.

— А калі я буду вучыцца?

— Не ведаю,— уздыхнула мама.

— А дзе я буду вучыцца?

— Пакуль яшчэ не ведаю,— яшчэ больш сумна сказала яна.

— Чаму ніхто з нашай вёскі не вучыцца? — пытаўся я.

— Няма як,— прашаптала маці.

Павінен прызнацца, што такія планы не надта кружылі мне галаву, бо не выклікалі ніякага канкрэтнага вобраза. Я нават жывога настаўніка і пісара яшчэ не бачыў, не ведаў, як яны жывуць, не бачыў школы, вучняў, кнігі.

Мусіць, маці заўважыла, што словы яе нічога мне не гавораць, што ў мяне не відаць надта вялікай зацікаўленасці да вучонай кар'еры,— і яна парашыла прадэманстраваць мне на практыцы ўсю веліч гэтай кар'еры.

Адбылося гэта зусім выпадкова для мяне. Хадзілі мы гэтак па лесе, хадзілі — і выйшлі на нейкае балацістае поле. На ўскрайку лесу, сярод яшчэ не выкарчаваных пнёў, стаяла сяліба. Па будынках было відаць, што гаспадары пасяліліся тут нядаўна.

Мы ўвайшлі ў двор. Зараз жа апанавалі нас сабакі. Выратавала дзяўчынка, правяла ў хату. Гаспадары сустрэлі маю

маму, як знаёмыя, але без асаблівай радасці. Была яшчэ там жанчына гарадскога выгляду з малым дзіцем.

А самае галоўнае — нас пасадзілі за стол і далі тварагу з малаком. І тварагу многа, і малака многа. Таму я нічога не ведаю, што там далей было і што гаварылася.

Нарэшце надышоў момант, калі я сваімі ўласнымі вачыма павінен быў убачыць тое, што дае вучэнне. У хату ўвайшоў важны пан, у пенснэ, з бародкай, у белым кіцелі з залатымі гузікамі. На нагах — бліскучыя чорныя чаравікі і такія ж чорныя штаны; на галаве — шапка з белым верхам, сінім аксамітавым аколышам і залатым значком. Пан прывітаўся з мамай за руку і нават мне, палажыўшы руку на галаву, ласкава сказаў:

— Во які малайчына!

А «малайчына» гэты быў абшарпаным, залатушным заморкам з крывымі рахітычнымі нагамі, у лапцях. Больш увагі на мяне пан не звяртаў. Не памятаю, каб ён доўга гутарыў і з мамаю. Але ўсё ж такі гонар для нас быў вялікі.

Калі мы ішлі тым жа лесам назад, маці казала мне:

— Вось што дае вучэнне! Гэты пан быў такім самым сялянскім хлопчыкам, як і ты. Ён нават наш сваяк, хоць і далёкі.

Што ён быў далёкі, відаць яшчэ з таго, што ніякага дачынення ён да нас не меў, у нашай вёсцы пры мне ні разу не быў, і наогул больш яго я ніколі не бачыў.

## 10. ГЛІНЯНЫЯ ЯЙКІ

> Всего более смущала меня возможность сойти с ума, и я несколько дней следил за своими мыслями и надоедал матери расспросами и сомнениями, нет ли во мне чего-нибудь, похожего на сумасшествие?
>
> *С. Аксаков.*
> *«Детские годы Багрова-внука»*

Гарачы чэрвеньскі поўдзень. Духата. Ціша. Здаецца, што ў вёсцы нікога няма. Я адзін плёхаюся ў лужыне, што засталася з вясны ў глыбокай яміне сярод двара. З яміны гэтай

калісьці бралі гліну. І не проста бралі, а я бачыў, як у яму заганялі коней і яны там мясілі гліну разам з саломай. З гэтага месіва пабудавалі хату для цёткі Насты, а яміна так і засталася пасярод двара на нашу пацеху. Вада ў яміне была, па-першае, жоўтая, па-другое, вельмі цёплая, па-трэцяе, у ёй жылі жабы і тыя самыя чорныя яшчаркі, і, нарэшце, па берагах яе было колькі хочаш найлепшай гліны. А гэта акурат і трэба для чалавека. Бо з гліны можна рабіць разнастайныя яйкі — курыныя, ластаўчыныя, кнігаўчыныя і нават гусіныя.

Памыліцца той, хто падумае, што зляпіць з гліны яйкі — справа няхітрая. Ого, і якая яшчэ хітрая! Асабліва цяжка высушыць, каб яно не патрэскалася. Аднак нашы здольнасці і асабліва цярплівасць перамагалі ўсе цяжкасці, і, нарэшце, мы пачалі выпускаць прадукцыю самую дасканалую. Затое якая асалода была глядзець на іх, краталь іх! Мы вельмі шкадавалі дарослых, што яны не маглі мець такой асалоды. Ім, вядома, таксама хацелася рабіць яйкі, інакш і быць не можа, але яны былі дарослыя, а дарослым чамусьці было сорамна займацца такой справай. Чаму? У кожным разе я сабе цвёрда пастанавіў: калі вырасту, то ні на каго не буду глядзець і ўсё роўна буду рабіць яйкі.

Вынес я яйкі сушыць пад страху. Тут падбягае да мяне сабачка, знаёмы, свой. Спыніўся і глядзіць, высунуўшы язык.

— Ну, падыходзь, падыходзь,— кажу я яму.

А ён стаіць і глядзіць неяк дзіка.

— Чаго ты, дурны, глядзіш? — кажу я і падыходжу, каб узяць яго.

А ён раптам — хоп за руку!

— А, вось ты як! — раззлаваўся я і кінуўся на яго.

Ён пабег, а я за ім, але дзе ты ўгонішся за сабакам.

Вельмі крыўдна было, што свой сабака ды гэтак зрабіў. Паглядзеў я на сваю руку, а на ёй — чатыры крывавыя знакі ад зубоў. Баліць, пячэ — хоць ты плач.

Прыйшоў дахаты. Маці бурчыць:

— У, шыбенік! Чаго да сабак лезеш?

Завязала руку. Боль патрохі сціх. Я заняўся сваёй работай.

Праз гадзіну па вёсцы пайшла гаворка, што шалёны саба-

ка пакусаў Домніну дзяўчынку, Вольку. Мужчыны пагналіся за сабакам з каламі і каля лесу забілі яго.

А сабака быў той самы, што пакусаў мяне!..

Завойкала, залілася слязьмі маці, пачала мяне абнімаць, цалаваць. Сабраліся суседзі, выказваюць розныя меркаванні, даюць парады. Уласна кажучы, парада магла быць адна — ісці да знахара. Толькі трэба было ведаць, да якога, куды, як, бо ў нашай вёсцы нават знахара добрага не было.

Праўда, даходзілі і да нас чуткі, што недзе дактары робяць нейкія прышчэпкі, але ўвесь народ падняў бы на смех таго чалавека, які надумаўся б шукаць гэтых дактароў. Не кажучы ўжо аб тым, што выпраўляцца прыйшлося б за дзвесце вёрст і ніякіх грошай на гэта не хапіла б. А тут табе за вёрст дваццаць ёсць такі знахар, што мігам выратуе. Ён дае загавораны хлеб, які можна прынесці і дадому.

І вось дзве маткі, дзве ўдавы, сабраліся ісці да гэтага знахара. Не ведаю чаму, але Домна сваёй дачкі не ўзяла, а маці для пэўнасці мяне ўзяла з сабой.

Цэлы дзень ішлі мы. Вялікая і цяжкая была для мяне дарога. Некалькі разоў жанчыны па чарзе неслі мяне на спіне.

Я добра ўяўляў сабе, як мы зойдзем у дрымучы лес, знойдзем там хатку, можа, нават на курыных ножках, як выйдзе нам насустрач дзед з доўгай барадой...

Але атрымалася зусім не так. Мы прыйшлі ў звычайную вёску. Нам паказалі лепшы дом, крыты гонтамі, з белымі аканіцамі. У хаце была падлога, фіранкі на вокнах, камод, гадзіннік, якога ў нашай вёсцы зусім не было, крэслы. Нас сустрэла маладая прыгожая гаспадыня; былі тут дзве вельмі чыста і прыгожа ўбраныя дзяўчынкі.

Праз некаторы час у хату ўвайшоў сам знахар, досыць малады голены мужчына ў гарадскім адзенні. Маці пасунулася была да яго, але ён, нічога не сказаўшы, зараз жа выйшаў вон.

— З ім нельга цяпер гаварыць,— растлумачыла яго жонка.— Ён павінен рыхтавацца. Вы атрымаеце хлеб заўтра. Ён павінен перад узыходам сонца загаварыць яго над студняй, голы. І ніхто не павінен у гэты час бачыць яго, бо тады загавор страціць сілу. Вы пераначуеце ў пуні.

Мы пайшлі ў пуню. Тут адразу паўстала пытанне, ці можна ў гэтым месцы, кладучыся спаць, маліцца? Можа, гэта перашкодзіць загавору? Вырашылі на гэты раз, можа, першы ў жыцці, устрымацца. Потым можна будзе нагнаць.

Назаўтра мы прыйшлі ў хату. Гаспадыня дала нам мокры хлеб і растлумачыла, што з'есці яго трэба нашча і не пад страхой. Заплацілі мы за гэты хлеб па рублю, гэта значыць, па два пуды хлеба. Гэта былі апошнія грошы ў абедзвюх жанчын. Самога знахара мы больш не бачылі.

Загарнулі мы хлеб, як святыню, і пайшлі назад. Адышоўшы ад вёскі вярсты са дзве, спыніліся пад дрэвам, каб даць мне з'есці хлеб. Толькі былі нарыхтаваліся, як Домна заўважыла:

— Мы сядзім пад дрэвам, можа, гэта палічыцца за страху?

Заўвага была слушная. На кожны выпадак адышлі пад адкрытае неба.

Але тут зноў паўстала тое самае пытанне: ці можна мне перад ядой памаліцца? Адракацца ад бога ў такі момант было надта рызыкоўна. Ён жа можа адразу знішчыць усю моц хлеба! Але, з другога боку, і чорта гнявіць небяспечна: ён таксама можа адняць у хлеба моц. Што рабіць?

Доўга раіліся жанчыны і нарэшце надумаліся перахітрыць і бога і чорта: я буду есці хлеб з самым бязбожным выглядам, а ў гэты час мая маці, адышоўшы ўбок, будзе маліцца з такой шчырасцю, з якою ніколі не малілася.

Маці адышла і схавалася ў рове. Домна разгарнула нашу хустачку і дала мне хлеб, трымаючы хустачку так, каб ніводная дробка не звалілася на зямлю.

Трэба сказаць, што браў я хлеб з жахам: чорт яго ведае, што ў ім такое і які яго смак? Пакаштаваў — нішто, нібы змочаны звычайнай вадой. Домна сачыла за мной з такім жа хваляваннем, як родная маці.

Зноў пацягнулася доўгая дарога. Домна не магла марудзіцца з намі і пабегла дадому адна.

Прайшоў дзень ці два. Раптам чуем — Волька ашалела! А яшчэ праз колькі часу — памерла... Значыцца, хлеб не дапамог! Значыцца, зараз і я павінен ашалець і памерці!

Што рабілася з маёю маткаю, апісаць немагчыма. Плакала і малілася яна дзень і ноч і ўсё глядзела на мяне: ці не пачынаецца ўжо? Пабегла да Домны дапытвацца, можа, Волька з'ела свой хлеб не па закону, можа, хрысцілася? А можа, хлеб вычхаўся па дарозе?..

Мінуў дзень, другі, трэці — я, здаецца, здаровы. Разумныя людзі тлумачылі, што калі цяпер нічога не здарылася, то трэба чакаць на дванаццаты дзень. Так бывае.

Пачалося жудаснае чаканне дванаццатага дня. Жудаснае для маёй маткі, бо сам я — магу гэта сказаць пэўна — надта вялікага жаху не адчуваў. Мусіць, для такіх дзяцей слова «смерць» нічога не гаворыць, мусіць, яны не могуць яе поўнасцю сабе ўявіць.

Сяджу я раз на мастку ля варот. Ідзе міма Кітка. Відаць, яму захацелася пажартаваць, і ён крыкнуў:

— Шалёны! Шалёны!

Я, вядома, запусціў у яго камяком зямлі. Ён, вядома, запусціў у мяне таксама. Потым мы сутыкнуліся бліжэй, потым сашчапіліся і пакаціліся па зямлі. Кітка падрапаў сабе нос...

І не чулі мы, што навакол сабраліся людзі, мітусяцца, крычаць:

— Ой, людцы, Наталін Янка ашалеў, напаў на Кітку, пакусаў яму нос!..

Праз хвіліну двое здаравенных дзядзькоў, са страхам пазіраючы, каб я не ўкусіў іх за руку, урачыста павялі мяне да маткі.

— Што ты робіш, Наталя? — узбуджана казалі яны.— Хіба не ведаеш, які твой сын? Чаго не глядзіш за ім? Ён жа ўсіх дзяцей можа пакусаць...

Загаласіла маці, павяла мяне дахаты, пад страху, і глядзіць на мяне такімі вачыма, такімі вачыма...

Я таксама адчуваю сябе няёмка. Калі такія паважаныя дзядзькі гавораць, што я ашалеў, то, мусіць, гэта праўда. Але як мне самому пазнаць, ці шалёны я, ці не? Прыслухоўваюся да сябе — здаецца, нічога. А можа, так яно і бывае? Я ж не ведаю, як гэта робіцца...

А маці... Моліцца, енчыць, прыціскае мяне да сябе і ўсё

глядзіць у вочы. І вочы гэтыя часамі здаюцца страшнымі, чужымі...

Так прасядзелі мы на гары два-тры дні. Дванаццаты дзень ужо прайшоў.

Кіткаў бацька тым часам таксама з'ездзіў да знахара па хлеб.

Мінула два тыдні. Я не ашалеў і не памёр. Але мудрыя людзі сказалі, што гэта яшчэ нічога не значыць. Калі не здарылася праз дванаццаць дзён, то трэба чакаць праз трыццаць. Так бывае.

Усё ж такі трыццатага дня мы чакалі не з такім жахам, як дванаццатага. А калі шчасліва прайшоў і трыццаты дзень, то мудрыя людзі сказалі, што трэба чакаць праз тры месяцы. Тры месяцы мы чакалі з меншым страхам, як трыццаць дзён. А калі прайшлі тры месяцы, то мудрыя людзі сказалі, што трэба чакаць праз год. А самы апошні тэрмін быў — дванаццаць год. Але мы яго ўжо не чакалі.

За гэты час мне ўспомнілася адна дробязь, якая акурат і была рашаючай ва ўсёй гэтай трагедыі. Адагнаўшы сабаку, я не ведаў, што рабіць ад болю. Тут я ўбачыў на прызбе цэбар з «лугам» — вадой з попелам для бялізны. Я ўзяў ды папаласкаў руку. Тады мне так запякло, што я закрычаў куды больш, як ад укусу. А потым стала лягчэй.

Такім чынам я выратаваўся ад небяспекі і мог надалей займацца вырабам гліняных яек.

## 11. ПАЖАР

> На этот раз она даже не натянула на руки свои элегантные лайковые перчатки.
>
> *К. Паустовский. «Далекие годы»*

Сёння нядзеля, і наша кампанія ў лесе. Зусім не так мне, як тады, калі бываю ў лесе толькі з мамкай удваіх. Ніякай цішыні, таямнічасці, і сам лес зусім не такі. Нас чалавекі чатыры, а напоўнілі мы ўвесь лес не толькі сваім шумам

і крыкам, але і народам. Мы — усюды, і лес здаецца ўжо зусім невялікім.

Шмат работы ў лесе. Перш за ўсё трэба абследаваць і разбурыць усе гнёзды, якія ёсць у лесе. А яны бываюць і высока на соснах, і ў дуплах ліставых дрэў, і на зямлі, і ў кустах. Затым, у лесе многа розных жывых стварэнняў, і за імі ўсімі трэба паганяцца. Мурашнік кожны трэба разграбці. Трэба, калі трапіцца арэшына, абчысціць яе, незалежна ад таго, ці падраслі ўжо арэхі, ці не. У лесе можна выразаць добрую палку, пугаўё. Выражаш адно, а там, глядзіш — яшчэ лепшае. Як жа ж яго пакінуць? Кідаеш першае, рэжаш другое. Адным словам, работы не абярэшся. А натрапіш на ягады, дык проста няма часу і пакаштаваць іх, калі не хочаш адстаць ад кампаніі.

Мне здаецца, што, апрача птушак, больш за ўсіх у лесе павінны былі трывожыцца змеі. Ім ужо спуску не было, адусюль выкалупаем.

— Хлопцы, сюды! — грамавым голасам крычыць Міхалутка.

Падбягаем, а ён расшчэпленай палкай прыціскае змяю. Круціцца гадзюка, стукае сваім носам аб палку. Я сваёй свежазрэзанай палкай тыцнуў яе ў галаву, але на мяне закрычалі:

— Асцярожней! Асцярожней!

Ажно калі змяя сваім джалам джгане ў свежы канец палкі, то атрута можа перайсці на другі канец і пашкодзіць руку. Пятрусь зараз жа прадэманстраваў гэта на вопыце. Падсунуў канец сваёй палкі да галавы змяі, тая джганула, і мы ўсе ўтаропіліся ў другі канец.

— Глядзіце! Глядзіце!.. Чарнее!.. Во, праклятая!..

Праўду кажучы, ніякага пачарнення я не заўважаў. Але ўсе так былі ў гэтым упэўнены, што я вымушаны быў убачыць. Мусіць, і кожны гэтак сама бачыў, як і я. Хай бы хто паспрабаваў цяпер сказаць нам, што ніякага пачарнення не было, што атрута не можа такім чынам перайсці на другі канец палкі. Мы б таго шышкамі закідалі.

— У мурашнік яе!.. У мурашнік!

Змяю замацавалі ямчэй і ўрачыста панеслі ў мурашнік. Міхалутка высока трымаў яе ў паветры. Палку ўтыркнулі ў кучу вольным канцом, нібы крыж на магіле. Мурашкі рынуліся па ёй уверх і абляпілі змяю.

Божа, што тут пачалося! Як сіпела, як выкручвалася змяя! А мы толькі цешыліся. На тое яна і змяя.

Раптам мы ўбачылі над лесам дым. Хто б такі без нас мог раскласці гэтае вогнішча? Пабеглі ў той бок — дым усё наперадзе. Выбеглі на ўскраек лесу і ўбачылі, што гарыць... наша вёска! Ды як яшчэ гарыць!

Як мы беглі, мусіць, ніхто з нас не памятае. Памятаю толькі, як я прыбег на агарод і паваліўся на клункі і падушкі. Вакол вёскі раскінуўся нібы табар. Трэск пажару і крыкі людзей зліліся ў адзін жудасны гул. Вецер быў моцны і дзьмуў акурат уздоўж вуліцы. Саламяныя стрэхі ўспыхвалі адна за адной, нібы самі сабою.

Хоць і жудасна мне было, але жалю і гора я не адчуваў: надта цікава было глядзець на пажар, якога яшчэ я ні разу не бачыў. Разам з іншымі дзецьмі енчыў і я, але вочы нашы ў гэты час з вялікай цікавасцю сачылі за тым, што дзеецца навакол.

Да нашай хаты яшчэ не дайшло, загаралася толькі суседняя хата. Маці, цётка Наста і ўсе суседкі, абліваючыся потам, валаклі на агароды што маглі. А калі агонь ахапіў і нашы будынкі, маці раптам закрычала немым голасам:

— Боты!.. Боты!..— і з расхрыстанымі валасамі кінулася прама ў агонь.

Людзі яе затрымалі і пасадзілі на клункі. Яна павалілася і рвала сабе валасы...

У клеці, забытыя, гарэлі мае боты... Тыя боты з рознакаляровымі халявамі, з памерам, разлічаным на ўсе гады навучання, боты, якія будаваліся некалькі гадоў і былі асновай усёй маёй слаўнай будучыні. Іх можна было б выратаваць, але яны былі схаваны далёка, я іх ніколі не насіў, і маці на іх забылася...

Праз некалькі гадзін ад дзвюх трацей вёскі Гнілушкі засталіся адны печкі ды коміны ў тых хатах, дзе яны былі. Як

астравы, засталіся стаяць усе чатыры багатыя двары. Сады і дрэвы вакол іх абсмаліліся, але выратавалі сваіх гаспадароў. І яшчэ засталіся ў канцы вёскі некалькі хат, адкуль пачаўся пажар. На гэтым канцы якраз была хата цёткі Вулькі. Туды мы і перасяліліся.

Праз некалькі дзён усе пагарэльцы распаўзліся па аколіцах жабраваць. Хутка выявілася, што «заработкі» жабракоў былі лепшыя, чым у непацярпеўшых гаспадароў. Тады і яны далучыліся да пагарэльцаў. А пра нас з мамкай і гаварыць не было чаго.

І вось адправіліся мы жабраваць. Работа гэтая мне вельмі спадабалася. Ідзеш сабе па палях і лясах, кожны дзень, кожную гадзіну ўсё новыя месцы, незнаёмыя, цікавыя. Спяшацца нікуды не трэба, можна адпачываць дзе хочаш і колькі хочаш. А ўбачыш дзе страху і ідзеш, як у свой дом, заўсёды што-небудзь дадуць. Ніколі раней не даводзілася мне столькі папіць малака, як у гэтыя часы. Мы ж, апрача ўсяго, былі «ўдава з дзіцем», і гэта давала некаторыя перавагі.

Сяляне суседніх вёсак сустракалі нас досыць прыхільна, нягледзячы на тое, што ўсе мы бадзяліся там безупынна. Торбы нашы не пуставалі, я не памятаю, каб хто нас прагнаў. Луста хлеба, мерка збожжа, часам кавалачак сала, пучок ільну, шматок палатна хутка напаўнялі нашы торбы, і мы павінны былі вяртацца дадому.

Нарэшце мы неахвотна сталі браць хлеб і збожжа і стараліся здабыць чаго-небудзь лягчэйшага і даражэйшага. Грошай ад сялян бадай-што не перападала. Іх давалі нам паны: поп, ксёндз, служачыя. Звяртацца да іх я надта не любіў, бо ў першую чаргу трэба было цалаваць ім руку. Звычайна маці штурхне мяне пад бок, каб я цалаваў руку, а сама чакае: калі пан дасць якую залатоўку, то і яна пацалуе, а калі не — я адзін адказваў. Але хутка я прызвычаіўся да гэтай работы, і пацалаваць руку было мне ўсё роўна што плюнуць. Затое я добра памятаю, што ніколі сам не прасіў і не енчыў. Я жабраваў і цалаваў рукі з гонарам. Я лічыў, што калі я зрабіў сваю работу, то пан павінен мне заплаціць.

Хутка мы ўсе так абрыдалі бліжэйшым сялянам, што яны

пачалі ўхіляцца ад нас. Трэба было ісці ўсё далей і далей, у некранутыя месцы, а цягаць далёка поўныя торбы было цяжка. Тады мы пачалі прадаваць хлеб і збожжа.

Аднаго разу, забраўшыся вельмі далёка, мы сустрэлі нашага чалавека, Мікіту, які не пагарэў, меў карову, каня і добрую гаспадарку. Ён ехаў ад хаты да хаты на кані, пасадзіўшы на воз двух дзяцей. А на возе былі поўныя мяхі жыта, ячменю і ўсялякага дабра. Мы за ўсё лета не сабралі столькі, колькі ён за адзін раз. Крыўдна і зайздросна нам было.

— Багатым і жабраваць лепш,— уздыхнула маці.

Але на зіму і мы сталі багатымі. Ніколі не было ў нас столькі хлеба, сала, кудзелі, рыззя. І хоць маці хавала ад мяне грошы, але я заўважыў, што ў яе набралася не менш за пяць рублёў, а можа, і болей.

Сустрэча з Мікітам не прайшла для нас дарэмна. Маці падгаварыла Домну, каб разам набыць ні больш ні менш як уласнага каня! Усю зіму яны сустракаліся, шапталіся, а на вясну ў нас сапраўды з'явіўся ўласны конь. Заплацілі за яго — я гэта добра ведаю — чатыры рублі. Аж цяпер дух займае, калі я падумаю пра ўласную палову каня. Тым болей, што я мог лічыць сябе і поўным гаспадаром яго, бо на нашы дзве сям'і я быў адзін мужчына (у Домны была яшчэ пяцігадовая дачка Марфа). Я і пасвіў каня і ездзіў на ім верхам. Верхам на сваім уласным кані! У той час як у большасці сапраўдных гаспадароў не было свайго каня. Праўда, ездзіць на ім верхам было крыху няёмка. У яго была не спіна, а дошка рубам, і сядзець на ёй было вельмі нязручна: хутка ў мяне ўся задняя частка накарэла ад балячак. Але гэта глупства. Потым — рэбры ў яго надта выступалі, і на адно вока ён, здаецца, не бачыў. Хлопцы казалі, што наш конь мае сто гадоў, але я не верыў: я ведаў, што яны гавораць так ад зайздрасці. Апрача пашы, мы кармілі яшчэ яго жабрацкімі сухарамі, збожжам, нават перападала яму і аўса. А як я любіў яго, мілаваў, цалаваў!

Прайшла вясна, надышло лета, конь наш трохі паправіўся, а воза ў нас не было. Жанчыны біліся, як рыбы аб лёд, патрацілі ўсю сваю маёмасць, і нарэшце з'явіўся ў нас воз, хамут

і ўсе прылады. Адкуль яны з'явіліся, я не ведаю; ведаю толькі, што ўсе чатыры колы былі рознай велічыні.

Нарэшце прыйшоў дзень, калі мы, чатыры чалавекі, пагрузіліся на гэты воз. Я, як мужчына, сядзеў наперадзе, учапіўшыся за лейцы, хоць кіравалі канём то маці, то Домна. На роўнай дарозе, без праезджых, лейцы заставаліся толькі ў маіх руках, і тады я не памяняўся б сваім становішчам нават з губернатарскім сынам.

Усім вядома, што конь вельмі тонка адчувае і разумее, у якіх руках ён знаходзіцца. А як наш конь быў не горшы ад іншых, то і ён гэта зразумеў і зусім перастаў нас усіх слухацца. Ішоў куды хацеў, спыняўся калі і дзе хацеў. Але ўсё ж дзве жанчыны то ўгаворамі, то крыкамі, а часам і слязьмі прымушалі яго рухацца.

Перад гэтым мы пачулі, што некаторыя нашы сяляне сталі браць у воласці даведкі, што яны пагарэльцы. Гэтая даведка служыла нібы «правам на жабрацтва». Атрымалі такія паперкі і мы. Наша паперка служыла нам яшчэ не адзін год.

Зажылі мы, як цыганы. Не ведаю, як нашы маткі, а мы з Марфай лепшага жыцця і не жадалі. Не памятаю толькі, каб мы доўга так ездзілі. Падазраю, што жанчыны пасварыліся і кампанія лопнула. Пад канец лета мы зноў засталіся з адным канём. Але на гэты раз абедзве паловы яго былі нашы ўласныя. Магчыма, што і ўвесь час конь лічыўся наш, а колы Домніны. Можа, з-за таго і прадпрыемства развалілася. Хто яго ведае. Маці мне пра гэта нічога не казала. Ведаю толькі, што пад восень мы апынуліся зусім у новым свеце.

...Уздоўж ускрайку дрымучага лесу працякае рака з досыць высокімі берагамі. Затым яна ўваходзіць у лес, як у чорную дзіру, бо дрэвы зусім злучыліся над ёю. У гэтым самым месцы стаіць млын. Але не стукаюць яго колы, не чуваць голасу чалавека, зарасла травой дарожка да яго. Гаспадары тут — кажаны, змеі і сава.

Ад млына на другі бераг ідзе грэбля. Скрозь яе ўсюды прабіваюцца струменьчыкі вады. Яны гурчаць, пішчаць, верашчаць — вельмі цікавая грэбля. А ў сухіх мясцінках на ёй жывуць вужакі. Заўсёды яны ляжаць тут, як чорныя кілбасы,

ад мяне не ўцякаюць, і я іх не чапаю. А самы галоўны вужака, іхні цар, жыве пад колам млына. Ён умее гаварыць па-чалавечаму і, калі захоча, можа даць табе, што папросіш. Але сустрэцца з ім мне ніяк не выпадае. Я сачу за ім, прыслухоўваюся, часам нават чую яго тонкі, пісклявы голас, але слоў разабраць не магу. Вельмі шкада... А ў мяне ўжо знайшлося б што папрасіць.

Рака з аднаго боку грэблі чорная, зарослая, бяздонная, непрыступная. Там жыве вадзянік. Як трымаць сябе перад ім — не ведаю. Які яго выгляд? Добры ён або злы? Ці шкодзіць ён чалавеку, ці не? Што ён любіць і чаго не любіць? На ўсе гэтыя пытанні нават маці не магла мне адказаць дакладна. У кожным разе, ён належаў да пароды нячысцікаў, і таму ўсё ж такі варта было трымацца ад яго далей.

Разам з ім жылі яшчэ такія дзяўчаты з хвастамі, як у рыб. Яны, здаецца, былі зусім няшкодныя. Але як я ні стараўся, пазнаёміцца з імі не ўдалося. Наогул жа гэты бок грэблі мяне не вабіў.

Куды лепшы быў другі бок. Берагі камяністыя, на дне толькі адны камені, вада чысцюткая, празрыстая, светлая і зусім неглыбокая. Я мог хадзіць там і ўздоўж і ўпоперак. Жылі там ракі, але чапаць іх я баяўся: звяжашся так, што потым і не адчэпішся. Тут я раз убачыў двух чалавек, першых і адзіных людзей за колькі тыдняў майго жыцця ў гэтым кутку. Вылезлі яны з чорнай дзіры. Брылі проста па рацэ; на баку ў іх віселі мокрыя торбы, а ў руках былі доўгія палкі з вострымі вілкамі на канцах. Яны ішлі ціхенька, моўчкі, раптам спыняліся і цалялі вострымі канцамі ў рыб. Не скажу, каб сустрэча з імі была для мяне прыемнай. Яны былі тут зусім лішнімі.

Адзін бераг ракі каля млына быў бязлесны. Там, за кустамі і сенажацямі, ішлі палеткі і відаць былі стрэхі дамоў, але там мне ні разу не даводзілася бываць, і адтуль ніхто сюды не заходзіў, апрача гэтых двух чалавек.

Супраць млына, на другім беразе, стаяла хатка, дзе мы з мамкай жылі. Яна стаяла, прытуліўшыся да стромкага берага так, што плоская страха зусім зраслася з зямлёй. Тут пачы-

наўся дрымучы бор, і адна сасна зусім наступіла нагой на нашу хатку. Ды яшчэ высачэзны мурашнік захапіў частку нашай страхі. Тут, у лесе, можа, над самай нашай галавой жыў лесавік. Яго таксама не давялося мне бачыць, хоць многа разоў я чуў, як ён адгукаецца, дражніцца.

Я добра не памятаю, які выгляд мела наша хатка ў сярэдзіне. Агульнае ўражанне — усё чорнае, апрача маленечкага акенца з кавалачкам шкла ў адным кутку шыбы. Але, прызвычаіўшыся, можна было сёе-тое бачыць: наш ложак, складзены з ламачча, рэшткі печкі, нават нешта такое, на чым мы маглі сядзець і есці. Скакалі жабы па чорнай падлозе, а мурашкі працерабілі дарогу са страхі па сцяне, па зямлі, зноў па сцяне — і ў акно. Найбольш жа было вужакаў. Яны спачатку палохаліся нас, але потым убачылі, што мы людзі мірныя, і сталі жыць, як раней. Мы з імі абыходзіліся далікатна, бо ведалі, што тут іхняе царства, а там, пад колам млына, жыве іхні цар. Толькі жаб мы выганялі, але дзе ты іх усіх выганіш! Адна бяда была — надта ўжо ўвесь гэты народ быў галодны і кваліўся на наш хлеб. Асабліва мурашкі. А больш ніякіх непаразуменняў з імі не было.

Апрача таго, у нашай хатцы, у разбуранай печы, жыў дамавік. Гэтага нячысціка я чамусьці больш баяўся, як іншых, хоць усе казалі, што ён няшкодны. Неяк няёмка было, калі падумаеш, што ён сядзіць вось тут, побач з табой, і сочыць за кожным тваім рухам. А наогул ніхто з іх ніякай шкоды нам яшчэ не зрабіў. Маці казала, што калі чалавек сам нікому шкоды не робіць, то і яго ніхто чапаць не будзе. А калі хто палезе, то на гэта ёсць малітва «да васкрэсне бог».

Але ў хаце нам сядзець не прыходзілася. Маці, нарыхтаваўшы мне ежы на цэлы дзень, кудысьці ішла і вярталася толькі нанач. А я меў пэўную работу. З намі ж быў ён, наш любы конь. З ім я і праводзіў увесь час. Больш мне нікога і не трэба было.

Недалёка ад хаты была балацістая паляна, зарослая асакой. Там я і пасвіў свайго каня. Часам здавалася, што толькі мы з ім адны і існуем на свеце. Я збіраў навакол кожную смачную травінку і даваў яму з рук.

Восень усё паглыблялася. Зачырванеліся, а потым пажоўклі бярозы. Пабялела асака. Яна мне падабалася больш, як лес, як рака. Яна была прамая, стройная і даходзіла мне да плеч. Сонца прасвечвала скрозь яе да самай зямлі. Калі я падыходзіў да яе, у мяне салодка млела сэрца. Я мог сядзець і глядзець на яе хоць увесь дзень. Можа, таму гэтая асака здавалася мне такой чароўнай, што па ёй хадзіў мой чароўны конь?..

А восень ішла ўсё далей і далей. Пачаліся хмарныя дні, туманы, шэрыя дажджы. Але мая асака ўсё роўна была прывабнай. І хата была ўтульная, калі не лічыць, што яна працякала ў час добрага дажджу. І вужакі, і мурашкі, і ўсё насельніцтва вакол млына былі мне блізкія, родныя. Я шчыра б засмяяўся, каб хто мне сказаў, што наш куток пусты, нудны, няўтульны.

Дрэнна толькі было, што дні сталі значна карацейшымі. Часамі было цёмна ўжо, а маці не прыходзіла. Тады я сядзеў каля свайго каня, які туліўся бліжэй да хаткі. Святла ў нас ні разу не было. Хіба толькі тады, калі маці на прыпечку варыла бульбу.

Мы клаліся спаць на наш ложак. Наступала поўная цемра. Маці, седзячы на ложку, пачынала сваю магутную малітву:

— Да васкрэсне бог і растачацца вразі яго... яко тает воск ад ліца агню...

Яна казала гучна, нейкім незнаёмым, звінячым голасам. Гэта быў адзіны чалавечы голас на ўсю аколіцу. Дрыжыкі беглі па ўсім маім целе. Маці шырокім, моцным рухам хрысціць сцены направа, налева, спераду і ззаду, хрысціць столь і падлогу.

— Тако да пагібнуць бесы!..— грозна крычыць маці.

Цяпер пастаўлена ўжо вакол нас неадольная заслона, мы сядзім, як у клетцы. Цяпер ужо ніякі нячысцік не падступіцца да нас. Мы можам спаць спакойна.

Над страхой шамацяць сосны, гурчыць вада на грэблі. Нехта недзе папісквае, нешта трашчыць. Дамавік вылазіць з-за печы і шнырыць па хаце. Вадзянік за акном вылазіць на бе-

раг. Лесавік рагоча дзікім голасам. Але нам не страшна — ніхто не адважыцца сунуцца да нас.

Уначы мы пачулі, што нехта варушыцца паміж нас. Дакрануліся — халоднае, слізкае.

Вужака запоўз грэцца да нас! Прыйшлося выкінуць яго самым грубым чынам.

— Мама! — пытаюся я.— Чаму ж вужакі не баяцца малітвы?

— Гэта толькі для нячысцікаў.

— А хіба зусім няма малітвы для змеяў, мурашак, блох?

— Не ведаю,— сонным голасам адказвае маці.

Надта шкада, што мы не ведаем такой малітвы. Тады ўжо зусім добра было б жыць на свеце.

...Чаго мы тут сядзім? Што робіць маці? Ці думае яна і зіму тут жыць?

Не памятаю, каб я гэтым цікавіўся і каб маці мне пра гэта казала. Відаць, у мяне і без таго было чым цікавіцца.

Думаю, што яна спрабавала тут набыць самастойныя калы, але гэта не ўдалося.

І мы вярнуліся ў нашы Гнілушкі.

## 12. ВЯЛІКАЕ ВАНДРАВАННЕ

> — Артемий Николаевич, Тёмочка, милый мой барин,— говорит Таня и целует руки Тёмы,— идите к мамаше!
>
> *Н. Гарин. «Детство Тёмы»*

Бацька мой паходзіў з рабочай гарадской сям'і і лічыўся мешчанінам горада М. Такім чынам і я з мамкай зрабіўся «мешчанінам» горада, якога ніхто з нас не ведаў і не бачыў. Калі бацька памёр, нам трэба было аформіцца, хто ж мы такія: ці мяшчане незнаёмага горада, ці сяляне вёскі Гнілушкі? Хоць мешчанін лічыўся вышэйшым за «мужыка», але мы (маці нават раілася са мной) захацелі застацца сялянамі, няхай сабе і без зямлі. Для гэтага трэба было ехаць у горад М.,

каб выпісацца адтуль. А пра гэта і думаць не было чаго. Ніякіх грошай не хапіла б на такую дарогу.

І вось цяпер, калі мы навучыліся жабраваць, маці і парашыла, жабруючы, пайсці разам са мной у М. Прайсці трэба было кіламетраў трыста. Але гэта нас не палохала — за лета паспеем схадзіць туды і назад.

Так пачалося маё вялікае вандраванне. Тады я сваімі вачыма ўбачыў, які вялікі свет ёсць па-за Гнілушкамі. Тады я ўбачыў і розных паноў, і маёнткі, і гарады, і цудоўныя куткі прыроды, нават лепшыя за лясы і балоты вакол Гнілушак.

Падарожжа для мяне было няцяжкім. Маці сачыла, каб я не змарыўся, і мы спыняліся дзе хацелі і колькі хацелі. Часам у якім-небудзь фальварку маці наймалася на работу на некалькі дзён, і я некалькі дзён жыў зусім у новым, незнаёмым асяроддзі. Але дзіўная рэч — у мяне зусім не засталося ўражанняў ад паасобных людзей. Затое разнастайныя і прыгожыя малюнкі прыроды і цяпер стаяць у маіх вачах. Відаць, для прыроды я быў свой брат, а людзі былі мне далёкія, чужыя.

Праўда, сяляне былі да нас добрымі, яны шчыра прымалі нас, давалі, што маглі, але гэта была з'ява масавая, звычайная, і ніякага ўражання на мяне не рабіла.

А вось калі нейкая дробная памешчыца прытуліла нас, накарміла і спаць паклала ў каморцы на сапраўднай мяккай пасцелі, то гэта ў памяці засталося на многа гадоў, і мы доўга ламалі галаву — чаму яна гэтак зрабіла?

А ў другім фальварку мы патрапілі на такі цуд: у бараку, чорным і брудным, ля дзвярэй стаяў вялікі цэбар з малаком, і кожны, хто хацеў, мог піць гэтае малако колькі ўлезе. Піў і я, нават больш, як магло ўлезці. Але гэты цуд мы зразумелі: малако было перагнанае, яго давалі жывёле і ў тым ліку рабочым.

Памятаю яшчэ, як у адным мястэчку мы падышлі да багатага крамніка. Ён стаяў каля сваёй крамы, важны такі, з вялікай сівой барадой, у чорным сурдуце.

Маці штурханула мяне пад бок, каб я пацалаваў яму руку, і пачала прасіць:

— Паночку... памажыце...

Я ўжо даўно заўважыў, што маці часта ашуквае мяне: калі бацюшка, ксёндз ці якая пані, то яна цалуе руку разам са мной, а калі што якое, то яна штурхае мяне, а сама не цалуе. Я бачыў, што і тут яна не хоча цалаваць, і хацеў быў заўпарціцца, але дзядзька сам падсунуў мне руку — прыйшлося пацалаваць.

На шчасце, пан трапіўся добры, ласкавы.

— Гэта твой сын? — спытаў ён маці.

— Але, паночку. Адзіны.

— А муж ёсць?

— Няма, памёр.

— Адкуль вы?

— З Гнілушак. Пагарэлі мы, вось папера.

Ён узяў паперу, паглядзеў і кажа:

— Што ў вас пагарэла?

— Усё, паночку. Усё, што толькі мелі.

— І хата, і хлявы?

— Хаты ў нас зусім і не было.

— А зямлі многа?

— І зямлі няма, нічога няма.

— Дык што ж у вас згарэла?

— Усё, што мелі: адзенне, рэчы. Засталіся як стаім. Не ведаю ўжо, як і жыць, паночку.

— А сваякоў няма?

— Калі хто ёсць, то такая ж галота, як і мы.

Я слухаў усё гэта і радаваўся. Такі ласкавы пан, такі ўважлівы, ва ўсё ўваходзіць — пэўна, мяркуе адпусціць якую саракоўку.

— Чаму ж ты не працуеш? — пытаўся ён далей.

— Ох, і як яшчэ працую, паночку! Ды толькі цяпер у нас вялікая дарога — у горад ідзём.

— Чаго?

— Ды перапісацца трэба. Калі муж памёр...

І яшчэ, і яшчэ чула пытаўся ён, а заплаціў за гэта... дзве капейкі! Мусіць, вылічыў, што жабраку трэба даваць капейку, а двaім — дзве.

Як жа ж я шкадаваў, што пацалаваў яму руку!

Аднаго разу мы праходзілі каля маёнтка нямецкага барона. Маёнтак быў абнесены цудоўнай жалезнай агароджай, на браме былі чорныя львы. За агароджай — векавыя дрэвы, сад і кветкі, кветкі... А сярод зеляніны — дом, нібы царква, толькі большы і багацейшы. Доўга мы стаялі каля агароджы і глядзелі праз краты. Тамака жыве пан вялікшы і за пісара, і за настаўніка, і за прыстава... Які ён? Што ён есць? Як спіць?.. Сюды сунуцца па міласціну мы ўжо не адважваліся.

Раптам па дарожцы саду зацокалі конскія капыты і паказаліся два кані — адзін чарнюткі, другі бялюткі. На чорным сядзеў пан з нейкай дзіўнай чорнай бліскучай каструляй на галаве, а на белым — пані з такой самай, але маленькай каструлькай. Твар яе быў закрыты чорнай сеткай. Сядзела яна на кані бокам, а чорная спадніца спускалася аж каню пад бруха. Пан нахіляўся да яе, нешта казаў, і яны абое смяяліся. Коні павольна прайшлі міма нас.

— Мам! — пытаюся я.— А цела ў іх такое самае, як у нас?

— Такое, толькі бялейшае і далікатнейшае.

— А яны гэтак жа ядуць і ўсё робяць, як мы?

— Вядома. Яны ж таксама людзі.

Што яны людзі, я ведаў. А ці гэтак жа, як у нас, пабудавана іх цела, я ў гэтым доўга сумняваўся...

Пазней я выхваляўся перад сваімі таварышамі, што бачыў жывога барона, і яны мне вельмі зайздросцілі.

Але больш баронаў мне сустракаць не даводзілася, і аб іх я не думаў. Больш думаў я пра звычайных паноў, якіх цяпер ужо бачыў часцей. З гэтага часу развілося і замацавалася ва мне тое пачуццё, з якім я жыў многа-многа гадоў... Гэта была вялікая і пякучая крыўда, чаму я другой пароды, чаму я не магу быць такім, як яны.

Нарэшце мы прыйшлі ў горад. Прабылі там некалькі дзён. Але памятаю я толькі градкі, якія палола маці, і яшчэ адзін момант, які стаяў у маіх вачах і дваццаць, і трыццаць, і пяцьдзесят гадоў.

Я стаю ля плота і гляджу праз краты. За імі — вялікі двор і двухпавярховы белы дом. На двары гуляюць дзеці, многа хлопчыкаў, і усе як адзін у аднолькавым убранні: бліщчастыя

чаравікі, штаны навыпуск, чорная кашуля са светлымі гузікамі і шырокі рэмень з светлай спражкай; з-пад каўняра кашулі высоўваецца белы ўскраек; на галовах — цудоўныя шапкі з белымі кантамі і прыгожым значком з двух сярэбраных лісцінак, а хто без шапкі, у тых галовы роўныя, падстрыжаныя. Усе да аднаго прыгожыя, чысцюткія, вясёлыя. Гуляюць у мяч сапраўдны — вялікі, гумавы. Да чаго ж яны шчаслівыя, да чаго ж непадобныя да нашых вясковых хлапчукоў!

Я ведаю, што гэта — вучні. Нават ведаю аднекуль, што называюцца яны гімназістамі. Маці цягне мяне за руку, а я не хачу ісці, чапляюся за краты. Потым пытаюся:

— А я буду такім самым вучнем?

— Не, сынок,— уздыхае маці,— гэта для панскіх дзяцей.

— А я дзе буду вучыцца?

— Не ведаю яшчэ. Дзе-небудзь ды будзеш.

І вось, нарэшце, мы напаткалі тое месца, дзе я буду вучыцца. Ці гэта было ў тое самае лета, ці ў другое — не ведаю... Ведаю толькі, што гэта было таксама ў часе нашых вандраванняў.

Бальшак з векавымі бярозамі прывёў нас да будынка, агароджанага высачэзным дашчаным плотам, з-за якога ледзьледзь відаць быў грэбень даха. Гэта была местачковая турма. Побач быў сад, а ў гэтым садзе — прыгожы, афарбаваны дом. Побач з ім — царква. Значыцца, у доме гэтым жыве бацюшка. А калі зайсці да бацюшкі ды пацалаваць яму руку, то будзем мець залатоўку. Такая ўжо была стаўка ўсіх бацюшкаў.

Зайшлі на кухню. Выходзіць старая, важная матушка. Маці пачала сваю песню: удава и дзіцем... пагарэльцы... вось паперка... (гэтая паперка дужа нам памагала).

Тут выйшаў і бацюшка — велізарны, шырачэзны. Спытаў, хто мы, адкуль, і адразу зрабіўся лагаднейшым. Сказаў, каб нам далі есці, з цікавасцю пачаў распытваць пра нашы Гнілушкі.

— А сына хочаш вучыць? — спытаў ён.

— Ой, бацюшка! — усклікнула маці.— Дзень і ноч думаю. Толькі не ведаю дзе.

— А няхай вучыцца ў нашай школе.

— А дзе ж яму жыць?

— У мяне ёсць памяшканне.

— А... а як пражыць, пракарміцца? Чым заплаціць?

— Нічога плаціць не трэба — і памяшканне і харчаванне будзе дармовае. Увосень прывозь сына.

Як усхопіцца маці, як кінецца цалаваць бацюшку не толькі рукі, але і падол расы. Смяецца, плача, штурхае мяне, каб і я цалаваў. Сэрца ў мяне закалацілася, я таксама гатоў быў заплакаць.

Але тут я ўбачыў нешта такое, праз што я забыўся і на вучобу, і на ўсё ў свеце. У кухню ўвайшла дзяўчынка гадоў пяцішасці. А можа, гэта была не дзяўчынка, а анёлак? Маці мяне штурхае да бацюшкі, а я, разявіўшы рот, гляджу толькі на дзяўчынку. Нават сам бацюшка засмяяўся.

І было на што глядзець. Гэта ж... гэта ж немаведама што такое! Гэткае хараство, гэткае багацце! Белае плацейка на ёй было нібы надзьмутае і зусім-зусім кароценькае, а пад ім відаць штонікі ■ карункаў. Дзяўчынка ды ў штоніках! Аднак нічога, нават вельмі прыгожа. Здавалася, яна вось-вось узляціць, як матылёк. А тварык белы, чысты, і на галаве вялізны бант. І я бачыў яе зусім зблізку, нават мог бы да яе дакрануцца, каб меў на гэта права. Ёсць жа такія шчасліўцы, якія могуць з ёю гуляць!

І адзін такі шчаслівец з'явіўся. Гэта быў хлопчык, убраны бадай так сама, як тыя гімназісты. Глянуў я на яго — і яшчэ больш разявіў рот. Гэта ж ён, губернатарскі сын!.. Значыцца, ён бацюшкаў сын, а не губернатарскі! А мы, дурныя, тады падумалі, што губернатарскі. Цяпер, калі я такіх вучняў ужо бачыў, нават многа, я так бы не падумаў. Але ўсё ж зблізку бачыць такога хлопчыка я ніколі не спадзяваўся.

Хлопчык падышоў да дзяўчынкі, і яны абое ■ цікавасцю пачалі мяне разглядаць. Я не ведаў, куды мне дзецца. Толькі добра ведаў, што ў гэтую мінуту ніякая сіла не прымусіла б мяне цалаваць бацюшку руку.

Але брат і сястра доўга мною не займаліся, яны зніклі, як сон. Ды і ўвесь гэты дзень быў для мяне незвычайны, як казка.

## 13. ПЕРШЫ ДЗЕНЬ У ШКОЛЕ

> Кроме слов, заглушаемых всхлипываниями: «Маменька, не отдавай меня в гимназию»,— я ничего не мог сказать.
>
> *С. Аксаков. «Воспоминания»*

Нарэшце прыйшоў дзень, калі мы з мамкай адправіліся ў самае важнае падарожжа — у школу. Трэба было прайсці трыццаць пяць вёрст, а яны нам здаліся большымі, як ранейшыя сотні вёрст: надта ўжо хацелася хутчэй дайсці.

Якая будзе гэтая школа? Як там вучацца? Мне ні разу не даводзілася бачыць вучня зблізку, размаўляць з ім. Не ведаў я і дарослых, якія вучыліся б у школе. Ніхто не мог расказаць мне, як адбываецца вучэнне.

Ішлі мы два дні. Вось ужо знаёмыя прысады, царква, турма, бацюшкаў дом. Бацюшка сустрэў нас ветліва і паслаў праз свой сад у другі двор, дзе была турма і невялікі новапабудаваны дом. У ім былі два пакоі, кухня і сенцы. Там было ўжо некалькі вучняў з другіх вёсак. Былі яшчэ вольныя ложкі, і маці зрабіла мне дасканалую пасцель. З якой радасцю яна гэта рабіла! Якім багатым і раскошным здавалася нам гэтае памяшканне!

— Вучыся толькі, вучыся! — увесь час казала мне маці такім тонам, нібы малілася.

Я шчыра абяцаў вучыцца, хоць ніяк не мог сабе ўявіць, як гэта робіцца.

Пакуль што я быў адзін з нашай вёскі. Толькі пазней — не ведаю праз колькі часу — з'явіліся і Кітка, і Цімка, і Грышка, і Пятрусь.

Праз некалькі дзён наша група, чалавек дванаццаць-пятнаццаць, адправілася ў школу. Школа была на другім беразе ракі, у мястэчку.

Мы выстраіліся па двое і пайшлі. А маці ішла крыху воддалі і глядзела на мяне так, што нельга было разабраць, ці смяецца яна, ці плача. А ў мяне аж дух займала ад хвалявання і цікавасці: што там такое будзе?

Нам трэба было прайсці праз мост у мястэчка. Там, на рагу

вялікай плошчы і вуліцы, стаяў аднапавярховы драўляны дом, ля якога бегалі дзеці. Я здагадаўся, што гэта і ёсць школа. Я зараз жа ўспомніў тую белую камяніцу і тых хлопчыкаў, якіх я наглядаў праз плот у горадзе. Як не падобны былі тыя хлопчыкі і іхняя школа на гэты дом і гэтых вучняў! Але нічога не зробіш — там жа былі панскія дзеці...

Затое настаўнік тут быў таксама пан: у чыстым прыгожым гарнітуры, у манішцы з гальштукам і нават з-пад рукавоў бяleліся манжэты. Ён быў нізкага росту, з русай стрыжанай барадой, і здаваўся добрым. Ён прывёў нас у клас, паказаў нам нашы месцы і выйшаў. Мне чамусьці здавалася, што ён мяне зусім і не бачыў.

Клас быў вялікі, з даўжэзнымі лавамі. Калі сабраліся ўсе вучні, адразу стала цяжка дыхаць. І не дзіва: вучняў усяго было... шэсцьдзесят чалавек! А настаўнік на іх усіх быў адзін!

Ён бегаў з канца ў канец і нешта гаварыў, крычаў, кагосьці пытаўся. Нас ён у гэты дзень не заўважыў. Але я не нудзіўся: вельмі ўжо цікава было наглядаць, як адбываецца вучэнне. Выходзіць, што з паасобным вучнем настаўнік не займаецца, ■ трэба самому лавіць навуку. Праўда, пакуль што я нічога не злавіў, але трэба думаць, потым навучуся, як гэта робіцца.

Аднак дзень гэты для мяне не прайшоў дарэмна: я ўбачыў такое, чаго нават пазней не бачыў.

Адкуль і як пачалося — не ведаю. Памятаю толькі: пасярэдзіне класа стаіць на каленях дзяцюк з вусамі, а каля яго завіхаецца настаўнік. Дзяцюк на каленях бадай-што такой самай вышыні, як настаўнік на нагах. Настаўнік размахвае рукамі то з аднаго, то з другога боку, б'е дзецюка па твары. Мне чамусьці асабліва ўрэзалася ў памяць, як у настаўніка развяваецца крыссе яго пінжака, а дзяцюк маўчыць і толькі крышачку хістаецца пад ударамі то ў адзін, то ў другі бок...

Само біццё мяне не здзівіла. Я не раз чуў, што настаўнік павінен біць вучняў. Якая ж вучоба без біцця? Але вельмі пацешна было глядзець, што вучань большы за настаўніка і маўчыць, нібы б'юць не яго. Такіх вучняў у класе было каля

дваццаці. Яны ўсе сядзелі ззаду, каля сцяны. Казалі, што аднаму з іх было нават дваццаць шэсць гадоў.

Не ведаю, ці ўвесь час маці чакала мяне каля школы, ці куды адыходзіла, але яна зараз жа сустрэла мяне, калі я выйшаў.

Яна была нейкая не такая, усміхалася нібы сама сабе.

— Ну? Што? Як? — пачала яна пытацца, нібы чакаючы, што я ўжо крышачку падвучыўся і паразумнеў.

Але я нічога не мог сказаць, апрача таго, як білі дзецюка.

— Глядзі, добра вучыся, слухайся настаўніка, а то і табе гэтак будзе! — зараз жа падхапіла яна.

Я нешта чуў, нібы гэты дзяцюк камусьці разбіў галаву. Калі так, то добра: я магу пастарацца нікому не разбіваць галавы. А што, калі яго білі за тое, што ён чагосьці не зразумеў? Тады ўжо не ведаю, што са мной будзе, бо я сёння нічагусенькі не зразумеў.

Купіўшы мне вучнёўскія прылады і нагаварыўшы шмат усялякіх парад, маці адправілася дадому.

Я першы раз у сваім жыцці застаўся жыць без маці.

## 14. НАВАГОДНІ БАЛЬ

> Я сначала думал, что лакеи и девки, пожиравшие остатки блюд, просто хотели кушать, что они были голодны; но меня уверили в противном, и я почувствовал к ним большое отвращение.
>
> *С. Аксаков.*
> *«Детские годы Багрова-внука»*

Сяліба свяшчэнніка, уся яго вялікая гаспадарка з палямі і агародамі ляжала ў куце, дзе рака злучаецца з возерам. На гэтым беразе ракі, апрача гаспадаркі нашага бацюшкі ды турмы, нічога не было.

Процілеглы кут, між ракой і возерам, займалі руіны старажытнага замка Радзівілаў. Велізарны роў аддзяляў замак ад мястэчка, а за гэтым ровам уздымаўся высачэзны вал. Наверсе

ішла па ім нешырокая тэраса, а потым другі вал. За ім ужо хаваўся замак, сад і рэшткі іншых будынкаў.

Далёка-далёка, на другім беразе возера, сярод дрэў бялеўся новы палац Радзівіла. Нават нас, цёмных хлапчукоў, вельмі абураў сцяг, які заўсёды развяваўся над палацам. Мы інстынктыўна адчувалі, што там сядзіць уладар, чужы, варожы для ўсяго народа, і адчувае сябе ні ад каго незалежным. Казалі, што абодва замкі злучаліся падземным ходам пад возерам.

Хоць бацюшкавы абшары былі надта вялікія, для нашага дома не знайшлося месца, апрача нейкай шчыліны паміж папоўскім садам і турэмнай дашчанай агароджай. У ёй, супраць самага нашага ганка былі маленькія варотцы, і калі часам разгонішся з ганка, то акурат трапіш у турму. Але больш ніякіх непаразуменняў з жыхарамі турмы ў нас не было.

Не ведаю, як жылі яны, але думаю, што цеснаты такой, як у нас, не было. Спальня ў нас была ўсутыч застаўлена ложкамі, а ў сталовай быў вялікі стол, і вакол яго таксама ложкі. Маё раскошнае жыццё цягнулася нядоўга: прыехала больш хлапцоў, і я вымушаны быў прыняць на сваю пасцель кватаранта.

Пасцельныя прылады мы павінны былі мець свае, але мала хто меў іх, асабліва нашы гнілушкаўцы. У якім выглядзе былі нашы пасцелі, ніхто не цікавіўся. Нават абстрыгчы нас бацюшка не здагадваўся. Усе мы былі кудлатыя, а ў мяне і Петруся галава яшчэ была закарэлая ад залатухі.

На снеданне нам звычайна давалі посны чорны крупнік, у якім вельмі цяжка было злавіць крупінку. Ставілі адну міску на пяць-шэсць чалавек. Мы пачыналі ў ёй плёхацца, стукацца лыжкамі, і вакол міскі хутка стваралася лужына. Асабліва жорсткай была «барацьба за існаванне», калі давалі зацірку з пытляванай мукі. Там было толькі некалькі мучных галачак, і ўсе заўзята ганяліся за імі. Стукаліся лыжкі адна аб адну, а часам і аб чыю-небудзь залатушную галаву.

На абед часцей за ўсё была капуста і рэдка калі які дадатак — бульбіна, кавалак нібы мяса ці селядца. На возеры заўсёды было шмат рыбакоў. Узімку мы хадзілі глядзець, як ло-

віцца рыба з-пад лёду, бачылі горы рыбы, але нам пакаштаваць свежай рыбы, здаецца, так і не давялося.

Вячэра была такая самая, як снеданне. Цукру мы не бачылі. Нават хлеба было малавата. Мы заўсёды былі галодныя.

І якраз у самыя цяжкія дні разы два на год з'яўлялася да мяне мама. Што гэта было за шчасце!.. Дзеля аднаго гэтага варта было жыць на свеце... Яна наймала ў мястэчку куток і жыла тут з тыдзень. І ўвесь тыдзень я жыў у яе. Зноў ласаваўся падсмажанай бульбай, скваркамі, заціркай. Са школы ішоў да яе, і спалі мы, як раней, у адной пасцелі. А як яна ганарылася мною! Я ж цяпер вучань, сапраўдны вучань! І, пэўна, на каго-небудзь вывучуся.

Яна мяне мыла, стрыгла, нечым мазала, латала бялізну. Праз некаторы час я меў адзенне, лепшае ад усіх: боты, панчохі, рукавіцы і, нарэшце,— кажух! А адыходзячы, яна пакідала мне грошы — капеек дваццаць-трыццаць.

Месяц, другі, трэці яна недзе хадзіла, працавала, жабравала — і зноў усё аддавала мне. Часам мы марылі, як буду я «вучоным», буду жыць, як пан, а яна будзе ў мяне гаспадыняй, і ёй не трэба будзе бадзяцца па свеце...

Але якім «панам» я магу зрабіцца, скончыўшы пачатковую школу? Гэтага мы не ведалі.

Аднаго разу, калі мама доўга не прыходзіла, мне трэба было купіць аловак, а грошай не было. Я стаў пытацца, каб у каго з таварышаў пазычыць тры капейкі. Ды дзе там? Каго ні спытаеш — усё няма ды няма.

Але я добра ведаў, што ў Грышкі ёсць. Грышка быў гаспадарчы хлопец. Нават выгляд у яго быў нейкі стары, зморшчаны. Ён трымаў сябе, як сталы, рэдка смяяўся, не дурэў і ўсё поркаўся са сваёй маёмасцю. У яго была скрынка з замком, і там былі крукі, цвікі, скуркі, анучкі і грошы.

Я прычапіўся да яго:

— Ды пазыч ты тры капейкі. Хутка прыйдзе маці, і я табе зараз жа аддам.

— Няма ў мяне грошай,— панура кажа ён.

— Маніш — ёсць. Шкада табе ці што?

— Ну і шкада!

— Я дам табе за гэта кавалак алоўка,— ледзь не плачучы, кажу я.

— Адчапіся!

Некалькі дзён хадзіў вакол яго — нічога не выходзіць. Крыўдна так, што аж пячэ ўсярэдзіне. Свой чалавек — і не хоча дапамагчы. Я ж хутка аддам!

І вось аднаго разу я не пайшоў у школу і застаўся дома, адкаб... самавольна ўзяць у яго тры капейкі. Я ж яму аддам, аддам!

Падышоў я да яго скрынкі і стаў выкручваць замок. Страх сціскае сэрца, але я ўпарта адчыняю скрынку і ўсё шапчу: «Я ж аддам, аддам...»

У скрынцы я знайшоў цэлых дваццаць восем капеек — і ўсё медзякамі. Я ўзяў з іх тры капейкі.

Вярнуўся са школы Грышка і падняў шум. Няцяжка было здагадацца, што гэта зрабіў я. Паведамілі бацюшку.

Я схаваўся ў куток, плачу, малюся...

Чую — ідзе бацюшка... Цяпер я пэўна магу сказаць, што за ўсё сваё далейшае жыццё я не адчуваў такога жаху і такой пакуты, як тады.

Як разбіралася справа, я не памятаю, бо быў бадай-што ў непрытомнасці.

Прысуд быў досыць мяккі: аддаць тры капейкі і адбіць у царкве сотню паклонаў.

Паклоны я адбіў добрасумленна, не шкадуючы лба, і такім чынам ачысціўся ад граху. Але ад сораму не мог пазбавіцца яшчэ многа-многа гадоў...

Толькі ў такіх выпадках бацюшка і заходзіў да нас, а так і носа не паказваў. А мы былі і рады. Хоць бацюшка, як ён заўсёды казаў, і рабіў нам ласку, дарма прытуліў, дарма карміў, вучыў, але мы да яго, апрача страху, нічога не адчувалі. Ён быў для нас чужы, а мы для яго — тым болей. Мы інстынктыўна адчувалі, што ён нас не любіць. Ніколі ён не пагаварыў з намі, як кажуць, па душах. І, нягледзячы на яго «ласку», мы яго шчыра не любілі.

Перад калядамі бацюшка сказаў нам, што на канікулы мы ўсе павінны ехаць дахаты. Тыя, хто жыў бліжэй ці меў дома

каня, раз'ехаліся. А нам, гнілушкаўцам, ды яшчэ некалькім чалавекам не было куды дзецца. А бацюшка ўсё насядаў, пагражаў, што не будзе карміць, нават выганіць з хаты. Яшчэ сёй-той нейкім чынам выбраўся. А нам заставалася ці пусціцца пешшу ў люты мароз за трыццаць пяць вёрст, ці рызыкаваць сваім жыццём тут. І мы рызыкнулі. Як толькі прыйдзе бацюшка гнаць нас, мы пачынаем плакаць, прасіцца. Нарэшце ён махнуў на нас рукой і пакінуў. І есці даваў. І нават... на баль запрасіў да сябе пад Новы год. Праўда, не ўсіх, а толькі мяне з Цімкам. Чаму ён выбраў нас — не ведаю. Але гэты першы баль, у якім я ўдзельнічаў, зрабіў на мяне надзвычайнае ўражанне.

Ніхто нічога не думаў — і раптам клічуць нас да бацюшкі ў дом. Мы з Цімкам пабялелі, глядзім адзін на аднаго.

— Ты што зрабіў? — пытаецца ён мяне.

— Не ведаю... Здаецца, нічога,— кажу я.— А ты?

— І я нічога.

А таварышы глядзяць на нас, спачуваюць.

Прыйшлі мы на кухню, дрыжым, тулімся. Нейкая незнаёмая жанчына ў фартуху і з белай хусцінкай на галаве распараджаецца тут, як у сваёй хаце, камандуе дзвюма дзяўчынамі. Сама матушка раіцца з ёю.

Кухня вялікая, большая за нашу сталовую. У ёй некалькі сталоў, і ўсе яны завалены дабром: мясам, маслам, малаком, тварагом, смятанай. На падлозе ляжаць некалькі зарэзаных курэй, качак, індыкоў, тых самых індыкоў, якія так нас дзівілі ў жывым выглядзе. На адным з сталоў мясілі цеста і рабілі пірагі, якія мы цяпер маглі б з'есці сырымі. Чуліся нейкія смешныя словы: «торт», «мус», «жэле», «філе». А які цудоўны пах быў у кухні, якое густое і смачнае паветра!

Убачыла нас матушка і сказала:

— Ну, прымайцеся за работу!

Нам адлягло ад сэрца. Значыцца, не на расправу нас паклікалі, а не баль. І адразу нас ахапіў святочны настрой. З вялікай ахвотай і цікавасцю ўзяліся мы за работу: бегалі па ваду, прыносілі дровы, скублі качак, індыка, круцілі нейкую машыну з лёдам, таўклі ў ступцы розныя цынамоны, выносілі па-

мыі. На пліце і ў печы смажылася, скварылася, булькала, сіпела, сквірчэла; цудоўны пах кружыў нам галаву, і мы завіхаліся так, што цётка ў белай хустцы нават нас пахваліла.

Некалькі разоў выбягала ў кухню незямная дзяўчынка, і тады я нічога не мог рабіць, а глядзеў на яе і млеў. І вельмі было мне непрыемна, калі на яе глядзеў Цімка. Выбягаў і хлопчык — «губернатарскі сын», вясёлы, чысты. З яго я не цешыўся, а адчуваў толькі зайздрасць і непрыязнь. Але ён нас не заўважаў.

Тым часам у пакоях пачуліся галасы, тупат, смех — пачалі збірацца госці. На кухні яшчэ больш замітусіліся. Захвалявaліся і мы з Цімкам. Потым пачуліся гукі раяля. У часе маіх вандраванняў мне некалькі разоў даводзілася чуць раяль праз вокны, і кожны раз гэтая музыка працінала мяне наскрозь. А цяпер, калі я сам быў на балі, уражанне было яшчэ мацнейшае. Трэба зазначыць, што, невядома адкуль і як, ва мне хаваліся музычныя здольнасці і добры слых. Прычым, на мяне бадай ніякага ўражання не рабіў сялянскі гармонік, а толькі панскі раяль, якога мне і бачыць не даводзілася.

Нарэшце настаў момант, калі ўсё падрыхтаванае намі адправілі ў сталовую. Паехалі марынаваныя грыбы, галандскія селядцы, гуркі, халоднае парася, фаршыраваная рыба і шмат яшчэ рознага дабра.

Праз некалькі хвілін мы пачулі вынікі нашай работы. Галасы і смех яшчэ больш узмацніліся, забразгалі шклянкі, талеркі, госці пачалі гаварыць усе разам. Далятаді незразумелыя словы:

— Сяргей Іванавіч, рыба плавае!

— Парася піць хоча!

— Аляксей Антонавіч, дом мае чатыры куты!

Хутка пачалі вяртацца да нас талеркі. На многіх заставаліся большыя ці меншыя кавалкі стравы. Мы з Цімкам зірнулі адзін на аднаго: можа, цяпер і нам перападзе? Есці так хочацца... Дзяўчаты ўзялі па кавалку каўбасы, гаспадыня і нас паклікала, але раптам увайшла матушка і пачала збіраць усе некранутыя кавалкі ў адну міску. А потым ужо сказала нам: «Даядайце». Але спажывы было мала.

Калі матушка выйшла, гаспадыня ўсміхнулася і сказала нам:

— Нічога, будзе яшчэ.

Пасля таго сталі адпраўляць у сталовую гарачыя стравы: індыка, качак і ўсякую іншую смажаніну. Зноў пачулася бразганне шклянак, талерак; гоман яшчэ больш узмацніўся. Нехта нават п'яным голасам заспяваў: «Звезды мои, звездочки...»

Мне вельмі хацелася паглядзець, што там робіцца. Скарыстаўшы момант, я прабраўся з кухні ў маленькі цёмны куточак і схаваўся пад адзежай. Адсюль праз дзверы відаць была сталовая. Столькі паноў і так блізка я ніколі не бачыў. Асабліва здзівіў мяне наш бацюшка. Ён смяяўся, балбатаў, жартаваў, як звычайны чалавек. Чаму ж ён з намі не быў чалавекам?

Былі там яшчэ адзін бацюшка, пры́стаў з пагонамі, яшчэ адзін начальнік без пагон, а толькі з гузікамі. Былі сталыя, важныя жанчыны, маладыя паненкі і некалькі дзяцей. Але яны былі ў другім пакоі, дзе стаяла ёлка, і я бачыў толькі кавалачак ёлкі. Ну і добра ж было ім усім!.. Убачыў я і нашага настаўніка, але ён тут здаваўся зусім не такім важным, сядзеў далёка, і на яго мала звярталі ўвагі. Я нават адчуў нейкую блізкасць да яго.

Але мяне больш цікавіла ёлка і дзеці, асабліва дзяўчынка...

Раптам нехта схапіў мяне за карак, і я пачуў голас матушкі:

— Ты чаго тут?

Але больш нічога не было, і я толькі вымушаны быў вярнуцца на кухню.

Баль ішоў сваім парадкам. Хутка пачалі вяртацца да нас талеркі з мясам. І хоць матушка зноў адабрала лепшыя кавалкі, але і нам хапіла досыць.

Потым мы адправілі ў сталовую розныя салодкія рэчы. Ад іх вярнуліся да нас толькі салодкія талеркі ды невялічкія драбкі. Мы вычысцілі талеркі, і на лёс свой не скардзіліся.

А баль ужо грымеў на поўны ход. Вясёлыя крыкі, музыка, танцы, спевы, дзіцячыя галасы...

Цімка слухаў, слухаў, а потым і кажа са злосцю:

— Чаму ўсё ім?.. А хіба мы не людзі?..

Я паглядзеў на яго са здзіўленнем. Вось чаго захацеў! Але крыўда, балючая крыўда сціснула і маё сэрца. Я адчуў, што вочы мае робяцца вільготнымі...

А калі мы вярталіся дахаты, то забыліся і на крыўду. Мы ганарыліся тым, што пабывалі на балі. Нашы таварышы такога шчасця не мелі. Яны галодныя сустракалі ў пасцелі Новы год.

Заснуў я не адразу — усё перажываў уражанні ад балю. Потым прыснілася мне чароўная дзяўчынка, чысценькая, прыгожанькая, як лялька. Яна не цуралася мяне, ветліва ўсміхалася і нават хацела нешта сказаць. Але раптам бачу — гэта не дзяўчынка, а Рыпішка... Яна ўхапіла мяне за плячо і ўшчыпнула.

Я прачнуўся. Плячо сапраўды нехта шчыпаў...

## 15. НАСТАЎНІК

> Я и теперь не могу понять, какие причины заставили мою мать послать меня один раз в народное училище...
>
> *С. Аксаков.*
> *«Детские годы Багрова-внука»*

Наша першае аддзяленне (клас) сядзела ў кутку і гублялася ў моры вучняў. Дзе была мяжа паміж нашым аддзяленнем і другім, нават мы не заўсёды разбіраліся. Настаўнік падбяжыць да нас на некалькі хвілін — і мчыцца далей. Як мы навучыліся чытаць, я не ведаю. Мусіць, самадзейным спосабам. Усе нашы веды мы павінны былі «лавіць». Хто зловіць — добра, а хто не паспеў ці не здолеў злавіць у настаўніка, мог дамагацца ў тых таварышаў, хто злавіў. А хто не хацеў ці не ўмеў дамагацца, заставаўся так. Пятрусь, напрыклад, налавіў вельмі мала і хутка пакінуў школу. А мы сяк-так трымаліся.

У першы год я памятаю толькі два выпадкі, калі настаўнік стаяў каля нас. Першы выпадак я памятаю таму, што тады ішоў надзвычай цяжкі ўрок арыфметыкі. Настаўнік задаваў пытанні: «падзяліце шэсць на тры», «восем на чатыры», «дзе-

вяць на тры» і гэтак далей. І былі такія хлопцы, што адразу правільна адказвалі. Як яны да гэтага дайшлі, я ніяк зразумець не мог.

Другі выпадак быў яшчэ горшы. Калі мы сядзелі ў сваім закутку і займаліся хто чым хацеў, нам аднекуль трапіў у рукі грабеньчык. Такой прылады мы не ўжывалі, асабліва нашы гнілушкаўцы, а тут рашылі паспрабаваць. Але гэтая спроба скончылася такім шумам, што падышоў настаўнік. Мы задрыжалі ад страху: што цяпер будзе? А настаўнік паглядзеў на нас з нейкім сумам і нічога дрэннага не зрабіў. Сказаў толькі, каб мы выйшлі часацца на двор.

Пазней мы даведаліся, што настаўнік глядзіць на нас зусім не так, як бацюшка. Ён ведаў наша жыццё, шкадаваў нас, мусіць, спрачаўся з бацюшкам, пэўна, скардзіўся на яго. Бацюшка яго не любіў і пазней «з'еў» яго...

Калі мы пачыналі вучобу ў другім аддзяленні, то я так надобра напісаў першую дыктоўку, што настаўнік зараз жа пасадзіў мяне ў трэцяе (апошняе) аддзяленне. Але я адразу адчуў, што тут нічога не разумею. Аднак пісаў я добра і атрымліваў толькі адны пяцёркі. За гэта настаўнік назад мяне не пераводзіў. Замест таго я праседзеў у трэцім аддзяленні два гады. Мне думаецца, у дадзеным выпадку настаўнік меркаваў, што паколькі нам усё роўна прыходзіцца лавіць веды, то тут я налаўлю болей, як у малодшым аддзяленні.

Аднаго разу ў часе перапынку вучні сталі шукаць мяне і крычаць, што настаўнік кліча мяне да сябе ў пакой. У пакой! У мяне сэрца сціснулася ад страху. І таварышы, праводзячы, шкадавалі мяне. У чым справа? Ці не за тыя тры капейкі зноў прыйдзецца адказваць?

Ледзь жывы ўвайшоў я ў кухню, адчыніў дзверы ў пакой і аслупянеў, нават на страх забыўся. Куды я трапіў? Ці не ў царскі палац? Пакой вялікі, фарбаваная падлога блішчыць, як люстра, і я зараз жа паслізнуўся на ёй, як на лёдзе. А якая мэбля, якія багатыя рэчы!

Ля дзвярэй стаіць невялікі столік, на ім шклянка чаю і белы хлеб з маслам. Увайшоў настаўнік і спакойным, абыякавым голасам кажа:

— Сядай, еш.

Я вылупіў на яго вочы. А ён сур'ёзна, нібы нават нездаволена, паўтарыў:

— Сядай! — А сам выйшаў.

У вялікім пакоі я застаўся адзін. З хваляваннем ступіў да століка, зноў паслізнуўся. А колькі пакуты было сесці на крэсла і прыладзіцца да стала!

Гэты салодкі чай і белы хлеб з маслам пакінулі ва мне такі самы след, як калісьці какава ад панскага дзіцяці. Праглынуў я гэта і ціхенька, каб не бачыў настаўнік, уцёк з пакоя.

Калі я расказаў аб гэтым таварышам, тыя здзівіліся не менш за мяне. Завошта? Чаму?

— Мусіць, таму, што ты добра пішаш,— разважліва сказаў Грышка.

Не маючы другога тлумачэння, прыйшлося згадзіцца з гэтым. А потым гэтаксама настаўнік зрабіў яшчэ і яшчэ раз... І рабіў ён гэта неяк сурова, не размаўляў са мною, не распытваў.

Вядома, я адчуваў да яго вялікую ўдзячнасць, і мне вельмі хацелася якім-небудзь чынам дагадзіць яму. Але як? Ну, пішу я добра, часам добра адказваю, але якая яму з гэтага карысць? Гэта ж я для сябе вучуся, а не для настаўніка. Я наогул не разумею, чаму настаўнік злуе, калі вучань чаго не разумее ці не хоча вучыцца. Не хочаш, дык і не трэба — самому горш будзе. І наадварот: чаго настаўніку радавацца, калі вучань добра вучыцца? Радавацца павінен сам вучань ды яго бацькі, а не настаўнік. Я, напрыклад, добра сабе ўяўляў, і не толькі тады, але і пазней, як нецікава, нудна настаўніку праглядаць сшытак вучня, калі там няма памылак. Дарэмная праца, і больш нічога. Так што з гэтага боку ён ад мяне нічога цікавага не бачыў. Можа, таму вельмі мала звяртаў на мяне ўвагі, мала пытаўся, быў заўсёды сур'ёзны, нібы ніколі і не частаваў мяне чаем і хлебам і маслам. А мне так хацелася паказаць яму сваю шчырасць, павесяліць яго, звярнуць на сябе яго ўвагу.

Аднаго разу, седзячы на «камчатцы», мы разлілі чарніла, і тут у мяне з'явілася геніяльная думка. Я ж магу зрабіць на-

стаўніку такую прыемнасць, такую пацеху, што ён доўга будзе смяяцца і ўспамінаць мяне. Я пачаў макаць палец у чарніла і... упрыгожваць сабе твар кружочкамі. Я сам троссяя ад смеху, мае суседзі — таксама, а калі я шчаслівымі вачыма зірнуў на настаўніка, то...

Проста крыўдна ўспамінаць, што тут адбылося. Як раззлуецца настаўнік, як закрычыць, затупае нагамі ды як схопіць мяне за карак! Не паспеў я апамятацца, як вылецеў за дзверы.

Вось і рабі чалавеку дабро!

Аднак праз некаторы час ён зноў звярнуў на мяне ўвагу. Але ад гэтай увагі мала было для мяне карысці. А можа, нават ён хацеў мяне пакараць?

Ён даў мне таўшчэзную кнігу пад назвай «Хижина дяди Тома» і загадаў прачытаць яе.

— Усю? — спытаў я з жахам.

— Усю,— адказаў ён і, здаецца, першы раз усміхнуўся.— Яна вельмі цікавая.

Пайшоў я з гэтай кнігай і гарую. Калі даецца заданне прачытаць старонку-другую ў падручніку, то справа зразумелая: гэта ж вучоба, вучні павінны расказаць пра гэта настаўніку ў класе. А гэтую «Хижину» ў класе не вучаць, навошта ж тады дарма чытаць, ды яшчэ ўсю?

Аднак малюнкі ў ёй цікавыя. Асабліва ўрэзалася ў памяць, як жанчына з дзіцем на руках бяжыць па крыгах, а за ёй гоняцца людзі з сабакамі. І яшчэ многа малюнкаў, якія я прагледзеў ахвотна. Але чытаць — дзякую за ласку.

Прагледзелі кнігу і мае таварышы, і ўсе былі той думкі, што «так сабе» чытаць такую кніжышчу няварта. Знайшліся толькі два-тры дзівакі, старэйшыя і не гнілушкаўцы, якія добраахвотна ўзялі на сябе такую працу.

Праз некаторы час я аднёс кнігу настаўніку. Той узяў яе і нічога не сказаў, нават не спытаўся, ці прачытаў я. Я вельмі быў рады, што так шчасліва выкруціўся з гэтай бяды. Не памятаю, ці даваў ён мне яшчэ кнігі, а калі даваў, то не болей аднаго разу, які скончыўся для мяне таксама шчасліва.

Магчыма, настаўнік звярнуў на мяне ўвагу яшчэ і таму, што я добра спяваў, добра ўспрымаў усе мелодыі. А настаўнік

кіраваў хорам у царкве. Але гэтая здольнасць была маім няшчасцем на працягу многіх гадоў.

Спачатку было цікава ўдзельнічаць у царкоўным хоры. А потым так абрыдала, што не раз слёзы выступалі з вачэй. Для ўсіх людзей свята — гэта радасць, а ты ўсе святы і ўсе суботы прымацаваны да кліраса. Ды яшчэ кожны раз перад гэтым спеўкі (рэпетыцыі). Як я зайздросціў людзям вольным, якія могуць ці пайсці, ці не пайсці ў царкву, могуць выйсці, калі захочуць, і гэтых праклятых спевак не ведаюць. Бога я баяўся, верыў у яго, але царкву ненавідзеў, як катаргу. Як мне хацелася, каб ніколі святаў не было! Асабліва цяжка было, калі здаралася якое-небудзь дадатковае свята. З такіх святаў памятаю смерць цара Аляксандра III. Ну і даўся ён у знакі! І навошта было за яго столькі маліцца, калі ён адразу ў рай паляцеў? Нам далі фатаграфіі, дзе ўсё гэта было паказана дакладна. У небе, паміж зорак, на посцілцы сядзеў цар, здаравенны, тоўсты, у ботах, у медалях увесь, а посцілку неслі чатыры маленькія анёльчыкі. Як яны пнуліся, бедакі, аж шкада іх было!

«Праўда гэта ці няпраўда?» — задавалі мы сабе пытанне і адказаць не маглі. Просты чалавечы розум падказваў нам, што так не можа быць, але бацюшка кажа, што праўда, ды і пішуць, друкуюць. А падумаць, што няпраўда, боязна — грэх. Мы адчувалі сябе, як птушаняты ў сетцы.

Аднаго разу мы, удзельнікі хору, былі на спеўцы ў школе, калі іншых вучняў не было. У такіх выпадках настаўнік трымаў сябе крыху прасцей, але ўсё роўна быў на недасяжнай вышыні, усё роўна мы адчувалі, што ён вышэйшай пароды. Нават і тады, калі ён, як цяпер, быў крыху выпіўшы.

Настаўнік некалькі разоў пакідаў нас і выходзіў у свой пакой. У адзін такі момант раптам з грукатам адчыняюцца дзверы і ў клас убягае яго жонка, тонкая, як мурашка, але далікатная пані. А за ёю, таксама бягом,— настаўнік. Жонка трымае ў руках кіёк, пастуквае ім аб падлогу і ўсё паўтарае... Ой, што яна казала! Хоць трохі па-панску, але тое самае, што кажуць нашы гнілушкаўскія бабы, калі пасварацца ці паб'юцца. Акурат тое самае!

А настаўнік гнаўся за ёю раз'юшаны і лаяўся гэтак жа, як нашы п'яныя мужчыны...

Увесь клас наш быў застаўлены партамі, і жонцы не было куды дзецца. Тады яна ўскочыла на парты і пачала бегаць па іх, а настаўнік — за ёй. Яны бегалі над нашымі галовамі, вакол нас, а жонка ўсё роўна стукала кіем па партах і выкрыквала свае словы. А потым яны абое вылецелі з класа.

Мы нават не смяяліся, а толькі сядзелі, разявіўшы раты і стаіўшы дыханне. Што гэта такое? Паны, вышэйшыя істоты — і робяць тое самае, што і нашы. Значыцца, яны такія самыя людзі, як і мы. Значыцца...

Ад гэтага часу мы пачалі нашага настаўніка, можа, менш паважаць, але затое больш любіць. Што ні кажы, [illegible] чалавек просты, грэшны, як і ўсе добрыя людзі. Зусім не тое, што наш святы і ненавісны бацюшка.

А настаўнік, апрача таго, яшчэ паказаў сябе і добрым таварышам. Звычайна, калі мы выходзілі паасобнымі групамі са школы, нас сустракалі местачковыя хлопцы са снежкамі, а часта і з больш небяспечнай зброяй. Часам мы самі прабівалі сабе дарогу з большымі ці меншымі стратамі, часам чакалі падмацавання, а часам сам настаўнік выходзіў — і тады вораг разбягаўся. Гэта былі дробныя партызанскія сутычкі, і мы да іх прывыклі. А некалькі разоў у год адбываліся генеральныя бітвы ў вялікім маштабе. Звычайна гэта было па суботах. Асабліва ўрэзалася ў памяць адна такая бойка.

На плошчы перад школай сабралася армія чалавек у дзвесце. Тут былі не толькі хлапчукі, але і дарослыя. Першыя групы нашых вучняў не маглі прарвацца і вымушаны былі адступіць. Школа была блакіравана. Трэба было прарываць блакаду ўсімі нашымі сіламі. І на чале іх стаў сам настаўнік.

Дух захапіла, калі я ўбачыў на белай снежнай плошчы вялікую чорную армію. Ля ног кожнага ляжала куча падрыхтаваных снежак. Многа з іх было змочана вадой. Шпарка пачалі рыхтавацца і нашы. Малышы з таго і другога боку выскачылі наперад і завязалі перастрэлку. Дарослыя не звярталі на нас увагі — шкадавалі сваіх змочаных снежак. Паступова за ма-

лымі ўцягнуліся ў бойку старэйшыя, і нарэшце рушылі нашы дарослыя вучні.

З якім захапленнем глядзелі мы на нашага настаўніка, які заўзята біўся з самымі вялікімі дзядзькамі! Грознай сілай былі і нашы вусатыя таварышы. Не шкадавалі сябе і мы. Так хацелася дапамагчы ім, тым, на каго была ўся наша надзея. Здавалася, жыцця не пашкадаваў бы, каб падтрымаць іх у крытычны момант. Вось трапіла мне ў твар ледзяная снежка. Нібы нечым гарачым апякло, іскры пасыпаліся з вачэй. Але што гэта значыць перад пачуццём адказнасці за агульную справу? Я лезу і лезу наперад... Гляджу — насядае на настаўніка нейкі вялікі, люты дзядзька. Я кідаюся яму пад ногі. Ён нязграбна ляціць на зямлю... Хоць і мне дасталося ад другіх, але я шчаслівы: і я дапамог, хоць і малы! Я бачу, я адчуваю, што побач гэтак жа храбра б'юцца нашы. Яны — за мяне, я — за іх. Хіба можна тут думаць аб сабе? Ды каб мне адарвалі галаву, я ўсё роўна палез бы наперад!..

Доўга ішла бойка з пераменным поспехам. Нарэшце вораг пачаў патрошкі адступаць. Ура!.. Мы гонім яго да за́мка. Блакада прарвана, дарога дадому адкрыта. Але ніхто не думае ісці дадому. Трэба ўзяць замак. І мы, як мурашкі, папаўзлі на вал. Часцей і часцей ідуць у ход замест снежак камені, кулакі... Але ўсё гэта глупства.

Мусіць, гадоў чатырыста назад на гэтым самым валу адбывалася нешта падобнае...

Ворага мы разбілі ўшчэнт. Можа, другі раз і нас разбілі ўшчэнт, але я гэтага не памятаю. І не хачу памятаць.

## 16. ПОП

> Вместо спокойного, радостного деревенского раздолья — семь тесноватых, необжитых комнат.
>
> *А. Толстой. «Детство Никиты»*

У нашага бацюшкі была велізарная гаспадарка. Зямлі — як у памешчыка. Гаспадарчых пабудоў — цэлы пасёлак. Побач з нашым домам былі хлявы, дзе жыло шмат свіней, многа ка-

роў, некалькі коней. Больш за ўсё было птушак — куры, качкі, гусі і спецыяльны атрад індыкоў. Гэтыя індыкі вельмі цешылі нас; мы ніколі не міналі іх, не прывітаўшы: «Здарова, рабяты!» — і яны кожны раз дружна балбаталі нам у адказ.

Хоць у папа і было некалькі парабкаў і работніц, але хапала работы і на нашу долю. Бадай кожны дзень мы працавалі ў гаспадарцы.

— Няма чаго дарма хлеб есці,— казаў нам поп,— трэба працаваць.

Але праз некаторы час папаўзлі чуткі, што бацюшка корміць нас не за свае грошы, а за казённыя. Адкуль пайшлі гэтыя чуткі — не ведаю. Можа, для другіх, больш свядомых нашых таварышаў справа гэтая была ясная і пэўная, але для мяне і маіх землякоў яна была зусім цёмная. Калі бацюшка корміць нас за свае грошы, гэта яшчэ сяк-так зразумець можна: усё ж такі ён бацюшка, святы чалавек, мае сувязь з богам і нас вучыць, каб мы нічога не шкадавалі, усё аддавалі. А хто другі можа даць грошы? Дзеля чаго? Завошта? Мы ведаем, што значыць слова «казённы». Вось у нас лес казённы, дык там грыба дарма не дадуць. Усё, што «казённае»,— гэта чужое, царскае ці панскае. Нам і ў галаву не магло прыйсці, што казна магла даць нешта простым людзям. Мы ведалі, што людзі плоцяць у казну розныя грошы, падаткі, але гэта для кагосьці, для «іх». А тут кажуць, што хтосьці на нас дае грошы, так сабе, дарма. Незразумелая гэта рэч, зусім незразумелая. І была незразумелай яшчэ многа гадоў, нават і тады, калі я ўпэўніўся, што грошы сапраўды былі казённыя. Як нам было б смешна, каб хто сказаў, што дзяржаўная справа — гэта наша справа, а наша справа — дзяржаўная!

Ці з прычыны гэтых чутак, ці з інстынктыўнага пратэсту супраць чагосьці або кагосьці, але аднаго разу мы «забунтавалі». Неяк далі нам такое мяса, якога нават мы не маглі есці. Тады мы пачалі шпурляць яго ў сцены ды адзін у аднаго, зусім не думаючы, што мы «бунтуем». Кухарка спалохалася і паведаміла бацюшку.

І вось бачым — бяжыць ён да нас, раз'юшаны, страшны, барада і раса развяваюцца. Мы прыціхлі і са страхам чакаем,

што цяпер будзе. Увайшоў ён, з хвіліну моўчкі паглядаў на нас ды як пачне грамавым голасам:

— Што гэта вы, бунтавацъ надумаліся?! Вас з ласкі кормяць, пояць, а вы замест падзякі вось што вырабляеце. Калі нажэрліся, можаце пакінуць — знойдзецца каму з'есці. А вы адважыліся на такі страшны грэх — кідаеце дар божы. Калі разгнявіце бога, усё сваё жыццё будзеце галадаць. Хто гэта распачаў? Хто?!

Мы ведалі, што распачаў гэта Алесь, высокі худы хлопец не з нашай вёскі, але, вядома, маўчалі. Поп грозна паглядзеў на кожнага з нас і зноў загрымеў:

— Зараз жа кажыце, хто пачаў гэты бунт, а то зараз жа ўсіх праганю прэч. Не спадабалася мяса ці што? А дома вы і таго не бачыце. Няўдзячныя грахаводнікі!

Мы стаялі паміж ложкамі і сталом, панурыўшыся, і маўчалі. Я не мог зразумець, чаго ён так злуе. Ну, не захацелі мы есці гэтага мяса, а яму што з таго? Нам жа горай, а не яму. Мы ж засталіся галодныя, а ён крычыць так, нібы яму якую шкоду зрабілі. Хіба толькі грэх, але мы аб гэтым не падумалі.

А бацюшка ўсё насядаў, нават праціснуўся да нашых ложкаў:

— Зараз жа кажыце, а то ўсіх выганю!..

Невядома, што было б далей, мажа, і сапраўды выгнаў бы, але ў гэты момант ён заўважыў на сваёй чорнай расе нешта маленькае, белае і жывое... З агідай змахнуў яго рукою, крыкнуў:

— Свінні!

І хуценька выйшаў вон.

— Ура! — закрычалі хлопцы яму ўслед.

У гэтым «ура» была не толькі радасць перамогі, але і падзяка таму, хто нас выратаваў. А паміж Петрусём і Цімкам завязалася нават спрэчка.

— Гэта мая! — з гонарам сказаў Пятрусь.

— Не, мая! — запярэчыў Цімка.— Ён больш датыкаўся да майго ложка.

Але высветліць гэтае пытанне дакладна не ўдалося.

Наогул наш выхаваўца наведваў нас разы тры-чатыры ў год, але мы былі б рады, каб ён ніколі нас не наведваў. Ды і

ён сам быў бы рады, каб яму зусім не трэба было заходзіць да нас.

Калі часам прыязджаў яго сын, наш аднагодак, то ён туляўся адзін вакол свайго дома і, мусіць, з зайздрасцю пазіраў, як мы гуляем. Але далучыцца яму да нас нельга было: не мог сын папа быць у кампаніі з намі. Часам ён не вытрымліваў і кідаў у нас снежкай; тады мы, ашчасліўленыя, асцярожненька кідалі ў яго. Але аднаго разу Алесь запусціў у яго снежкай па-сапраўднаму — і тады ўзнялася такая бура, што і ўспамінаць страшна. Не толькі бацюшка, але сама матушка прыбегла да нас.

А пра меншую дзяўчынку і казаць няма чаго. Яе сцераглі ад нас, як ад лютых ваўкоў. Але я быў зусім шчаслівы, калі мне і здалёк траплялася бачыць яе.

Быў у іх яшчэ адзін цікавы сын. Ён не ўмеў ні хадзіць, ні гаварыць, быў белы і тонкі, вывозілі яго з хаты толькі ў калясцы, а гадоў ён меў чатырнаццаць. Хоць мы і шкадавалі яго, як кожнага калеку, але ў глыбіні душы адчувалі зларадпае задавальненне: во як пакараў бог нашага бацюшку, нягледзячы на тое, што ён святы!

Але больш за ўсё мы мелі пацехі ад старэйшага сына, Ваські. Яму было гадоў дваццаць пяць; ён быў вялікі, дужы, чырвоны, шапялявіў, як малое дзіця, і меў адну хібу — быў прыдуркаваты. Апранаўся ён, як усе парабкі, і памагаў ім у рабоце. Яму ўжо не забаранялася вадзіць кампанію з намі. І мы да яго ставіліся па-прыяцельску. Але за тое, што ён быў сын нашага ненавіснага папа, яму часта даводзілася цярпець ад нас крыўду. Напрыклад, даглядаем мы кароў, выкідаем гной, носім з пуні сена; на двары вясна, балота, а мы пакладзём сена ў сані ды і запражом Ваську. Той добрасумленна цягне па зямлі сані, пнецца, сапе, а мы пакрыкваем:

— Но, Васько, но! Давай, давай!

І тады нам здавалася, што мы робімся вышэйшымі, разумнейшымі і што сам поп для нас не такая ўжо шышка. Праўда, калі даведваліся пра гэта бацюшка ці матушка, яны баранілі ад нас Ваську, але зусім не так, як баранілі таго сына, якому Алесь трапіў снежкай.

Тыдні за два да вялікадня поп часцей пачаў наведваць нас і ўсё гаварыў, што на свята мы павінны ехаць дадому. Зноў стаў пагражаць, што карміць не будзе, што дом зачыніць. Але ўсе памяталі, што перад калядамі былі такія самыя пагрозы, аднак тыя, хто застаўся, анітрохі не пацярпелі. Нават адзін раз ім булкі далі, а мы з Цімкам дык і на баль бацюшкаў трапілі.

Але на гэты раз поп мог рабіць смялей, бо на двары была не лютая зіма, а пачатак вясны і можна было меркаваць, што мы не загінем у дарозе.

Пачалася барацьба. Кожны дзень прыходзіў поп і лютаваў усё болей і болей. Часам загрудкі хапаў каго-небудзь і крычаў:

— Зараз я цябе выкіну, як шчаня!

Шэрагі нашы пачалі радзець. Бліжэйшыя раз'ехаліся і разышліся добраахвотна. Нарэшце засталіся адны гнілушкаўцы. Дзень-другі мы яшчэ трымаліся, але барацьба была няроўная — і мы здаліся.

Сонца было ўжо досыць высока, калі мы выправіліся ў дарогу. Сталы чалавек ніколі не выйшаў бы так позна, маючы перад сабой трыццаць пяць вёрст, а мы аб гэтым не падумалі. Веснавое сонца свяціла ярка, першыя жаваранкі ўжо заліваліся недзе ў вышыні, палі стракаціліся белымі і чорнымі плямамі, усюды гурчалі ручаінкі, асабліва па каляінах ледзяной дарогі. Нам было так весела, так добра! Мы крычалі, спявалі, ганяліся адзін за адным, пераскаквалі цераз ручайкі, спыняліся, каб перагарадзіць ваду і накіраваць яе ў другі бок. Колькі часу і сіл патрацілі мы на ўсё гэта дарэмна.

Прайшла гадзіна, другая — і мы ўжо ішлі моўчкі, ручайкі нас ужо не цікавілі, а ясны веснавы дзень быў ужо не такім радасным.

Яшчэ гадзіна, яшчэ... Ногі ў нас даўно былі мокрыя. У мяне аднаго на нагах былі боты, рваныя, вядома, да таго ж надта мулялі. Таварышы мае былі ў лапцях. Як я ім зайздросціў! Хацелася адпачыць, ды не было дзе сесці — усюды вада. Вёскі, што былі па дарозе, чамусьці размясціліся ў пачатку, а далей ужо іх не было.

Панура цягнемся гужам, адзін за адным. Я са сваімі праклятымі ботамі — ззаду. Калі спынішся, мокрыя ногі пачынаюць мерзнуць.

Вось ужо і сонца пачало спускацца, а мы, можа, і паловы дарогі не прайшлі. Прабуем збірацца разам, але хутка зноў расцягваемся далёка адзін ад аднаго. Я — зноў ззаду. Нарэшце кінулі глядзець адзін на аднаго, і кожны паваloкся асобна, як мог.

Надышоў змрок. Замест вясны адразу стала восень. Неба зрабілася чорным. Вароны з злавесным карканнем чорнымі хмарамі закружыліся над прыдарожнымі дрэвамі. Недзе далёка ўтульна мільгалі агеньчыкі. Мае таварышы даўно наперадзе.

Зусім не магу ісці. Пятка гарыць агнём. Боты важаць па пуду, не меней. Лепш ужо зусім зняць іх. Зняў і пабег падскокам. Лёгка і зусім не горш, як у ботах. Але дарога пачала замярзаць, і ад гэтага новая бяда — надта коле ногі. Прыйшлося зноў надзець боты. Потым зноў зняць...

Ноч. Лес. Таварышаў маіх даўно ўжо не відаць. Па дарозе ніхто не едзе і не ідзе. Я адзін ва ўсім свеце. Ці зайду дадому?..

Колькі часу я так іду? Няўжо адзін дзень? Не можа гэтага быць!.. А прысесці нельга: не толькі ногі, але і сам увесь зараз жа дранцвееш. Апрача таго, пасля і зрушыць з месца не хапае сілы. Вось каб цяпер ды адразу апынуцца дома!.. Але спачатку трэба прайсці вялікі лес, потым павярнуць з бальшака направа ды полем вёрст пяць. Ці дайду?.. Але дзецца няма куды. Усё роўна трэба ісці.

Ноч чорная. Лес чорны. Я адзін. Але страху няма ніякага. Бо ў душы няма месца для страху — там толькі пакуты. Паспрабавалі былі самі слёзы ісці, але хутка спыніліся — няма сілы і плакаць.

Ці рухаюся я наперад, ці не? Усю ноч іду, а з лесу ніяк выйсці не магу. Толькі б ногі захаваць! Не буду здымаць боты, хай сабе муляе — рана будзе толькі ў адным месцы, затое ногі будуць цэлымі. І нельга спыняцца ні на хвіліну, бо зараз жа замерзнеш...

А я вось вазьму ды дайду! Трэба толькі думаць пра другое, пра вясёлае і прыемнае: як я прыйду да мамы, як яна мяне сустрэне, як яна мяне пакорміць, як мне будзе цёпла і не трэба будзе ісці. Ногі ж хай сабе самі рухаюцца, як хочуць, а я ду нібы дома...

І нарэшце ўсё ж такі я апынуўся дома! І было там усё акурат так, як я думаў...

А наш святы бацюшка ў гэты час, мусіць, падлічваў, колькі мы яму зарабілі сваімі нагамі.

## 17. «ПРИКАЗ»

> Нужную для города мебель, большие сундуки, бочонки с засолом и живность матушка отправляла с обозом. Сама же налегке, на двух тройках, с Никитой, Аркадием Ивановичем и Василисой-кухаркой — выехала вперед.
>
> *А. Толстой. «Детство Никиты»*

Нарэшце прыйшоў час, калі я скончыў школу.

Але ўрачыстасці ніякай не адчуў і не заўважыў. Нават не памятаю гэтага важнага для мяне дня. Ведаю толькі, што мне далі прэмію: кнігу нейкага галіцыйскага свяшчэнніка пад даўжэзнай назвай: «Четыре путеводителя доброй жизни: страх божий, вера, смирение, труд». Як памяць, я гэтую кнігу захоўваў многа гадоў, але прачытаць так і не сабраўся. Нават тады, калі чытаў усё, што траплялася мне ў рукі. Бо ад гэтай кнігі ішоў папоўскі дух, а дух гэты так даўся мне ў знакі, што я не мог пераносіць яго нават і тады, калі яшчэ шчыра верыў у бога.

І вось я вярнуўся ў Гнілушкі «вучоным». З маіх таварышаў скончыў школу, здаецца, адзін толькі Грышка, але ён зноў увайшоў у сваё ранейшае становішча і пазней, як і іншыя нашы «вучоныя», зноў зрабіўся непісьменным. Можна было б падтрымліваць пісьменнасць пісаннем лістоў для сялян, але Грышка не мог канкурыраваць з салдатам Ягорам, які забраў

усю гэтую справу ў свае рукі, меў пісьмовыя прылады і нават адну кніжку — «Грамабой».

Нават я не мог авалодаць гэтай справай, хоць дыктоўку заўсёды пісаў лепш за ўсіх. Уся бяда ў тым, што нам трэба было дыктаваць па слову тое, што чалавек хацеў напісаць, а Ягор мог напісаць сам, абы толькі сказаць яму, пра што трэба пісаць. Уступная частка і паклоны ў мяне выходзілі нішто сабе: «У першых радках майго пісьма пасылаю Вам нізкі паклон і жадаю ад госпада бога здароўя і шчасця ў справах Вашых; паведамляю, што я жывы і здаровы, чаго і Вам жадаю ад госпада бога. Яшчэ кланяюся брату Мікіту і жадаю яму ад госпада бога ўсякага благапалучча. І супрузе яго, Аўдоцці Антонаўне, пасылаю нізкі паклон і жадаю ўсялякага здароўя. Яшчэ кланяюся дзеткам іх, Міхасю Антонавічу і Марыі Антонаўне, і жадаю ад госпада бога... яшчэ кланяюся бабулі Дар'і Сямёнаўне і жадаю...» Старонкі дзве-тры выходзілі добра, гладка, а вось калі потым трэба было сказаць пра якую справу, то тут ужо нічога не выходзіла. А Ягор мог сам. Маці вельмі шкадавала, што я не мог зарабіць які кавалак хлеба, але дзе мне было цягацца з дарослым і спрактыкаваным.

Адна толькі карысць была ад мяне: я сяк-так мог абслужыць патрэбы сваёй сям'і. Пачалося гэта яшчэ з другога года навучання. Я даведаўся тады больш дакладна, што недзе ёсць у мяне сястра Люба. Толькі прозвішча ў яе чамусьці было бабуліна. Маці мне нешта такое тлумачыла, што яна хоць і родная мне сястра, але нейкая несапраўдная і не трэба перад чужымі людзьмі аб ёй гаварыць. Яна пісала нам лісты сама і кланялася мне, а я ёй пісаў тыя словы, якія мне дыктавала маці. Бадай заўсёды маці плакала, калі чыталі лісты сястры або пісалі ёй.

Такім чынам, скончыўшы школу, я застаўся акурат у тым самым становішчы, у якім быў і раней. І ніякага панскага жыцця наперадзе не было відаць. Было мне тады дванаццаць год.

— Навошта было вучыцца? — папікалі людзі.— За гэты час ён хоць пуд хлеба зарабіў бы ў пастухах.

Але маці ўсё думала і думала, дзе ж знайсці мне дарогу, па

якой я мог бы пасунуцца далей. Так сама, як і раней, яна ўсё паўтарала, што трэба вучыцца. А я толькі дзівіўся: дзе ж і як мне вучыцца, калі я ўжо вывучыўся? Маці тлумачыла мне, што ёсць яшчэ вышэйшая навука, толькі ходу да яе няма. І яна шукала, шукала гэтага ходу...

І нарэшце знайшла:

— Пойдзем у манастыр. Там прымаюць такіх хлопчыкаў у паслушнікі. Кормяць, адзяюць і вучаць. Калі вырасцеш, можаш стаць дзякам, дыяканам, а бывае, што і бацюшкам. Вось бы тады...

Яна ўздыхнула, склала рукі, і вочы яе засвяціліся такім шчасцем, якога я яшчэ не бачыў. У вачах яе стаяў сын-бацюшка, самае вышэйшае, што можа быць для чалавека. І пры гэтым самае сыцейшае...

А ў мяне аж дрыжыкі пайшлі па спіне. Зноў гэтая абрыдлая царква, ды яшчэ кожны дзень, нават два разы ў дзень. І так усё жыццё...

Але зараз жа я ўявіў сабе, што магу быць такім бацюшкам, як наш, жыць так, як ён. А мама была б матушкай, гаспадарыла б, смажыла, пякла... Дзеля гэтага варта памірыцца і з царквой.

І вось мы зноў у дарозе. Ідзём у той самы манастыр, куды калісьці ехалі на кірмаш.

Цяпер, у звычайны дзень, манастыр мне здаўся зусім не такім, як тады. Ціха, нудна, пуста. Сноўдаюць, як цені, манахі ў доўгіх чорных расах. А вунь пабег і хлопчык у такой самай расе. Які ён смешны! І я буду насіць такую расу...

Звоняць званы, але зноў жа другім голасам, без ніякай урачыстасці. Мама завяла мяне ў царкву, а сама пайшла распытваць.

У царкве рабілі сваю справу поп, дыякан і некалькі манахаў, якія ў перапынку між спевамі, а то і ў часе спеву смяяліся, нешта гаварылі паміж сабой, штурхаліся. Пазнаў я і тую самую «цудатворную матку боскую», да якой мы калісьці паўзлі, да якой дакрануцца было для нас вялікім шчасцем. А манах стаяў, прытуліўшыся да яе задам, і вырабляў нешта смешнае.

«Народу» было — тры бабулькі ды я. Бабулькі нічога не чулі і не бачылі, а толькі хрысціліся, кланяліся ды шапталі. Манахі нібы нас і не заўважалі. Вось адзін з іх пагнаўся за другім па царкве, рагочучы ды спяваючы «госпадзі памілуй». Раптам чую — нехта з іх як «загне» сакавітую лаянку!.. Дрыжыкі пайшлі па маім целе. Не, зусім не так урачыста цяпер, як у часе кірмашу.

Прыйшла маці і павяла мяне да ігумена, які павінен быў вырашыць мой лёс. З вялікім хваляваннем пераступіў я парог яго багатага пакоя. У глыбокім крэсле сядзеў шчуплы, зусім сівы бацюшка, які даў нам знак падысці бліжэй. Ледзь дыхаючы, падышлі мы да яго крэсла. Ён благаславіў нас, а мы за гэта пацалавалі яму засохлую руку.

— Святы айцец,— пачала прасіць маці.— Прыміце майго сына ў паслушнікі...

Стары ласкавымі вачыма агледзеў мяне, прагледзеў маю метрыку і пасведчанне аб сканчэнні школы, сёе-тое спытаў у нас і нарэшце сказаў:

— Добра, прымаю. Занясіце дакументы ў канцылярыю, там яго запішуць. А пакуль зайдзіце ў трапезную [1], там вас пакормяць.

Радасныя выйшлі мы ад яго і пайшлі ў трапезную. Там нікога не было. Пакуль мы пад'елі, маці завязала дружбу з кухаркай і доўга з ёю гутарыла...

А калі мы выйшлі, маці сказала мне:

— А цяпер пойдзем назад, дадому.

— Чаму? — здзівіўся я.

— Паслушнікам тут вельмі дрэнна жывецца. Яны не вучацца, а працуюць на ўсіх. Іх нават б'юць. І нічога добрага з іх не выходзіць.

Не скажу, каб я надта ўжо шкадаваў, што не буду бацюшкам. А што перажывала маці — не ведаю. Ведаю толькі, што манастыр заўсёды быў і застаўся для яе самым святым месцам, што рэштку свайго жыцця яна правяла, вандруючы па манастырах, і памерла ў адным з іх недзе на Украіне. А сына свай-

---

[1] Сталовую.



4 Зак. 1340

го яна ў манастыры не захацела пакінуць, хоць у той час нічога лепшага ні для яго, ні для сябе яна не бачыла. Чаму яна так зрабіла?..

Такім чынам, я зноў вярнуўся ў родныя Гнілушкі. Дзверы ў свет зноў зачыніліся. Зноў мы апынуліся ў цёмным скляпенні.

Але маці ў гэтай цемры, нічога не бачачы і не ведаючы, кідалася ва ўсе бакі, шукаючы выйсця. Людзі смяяліся з яе:

— А Наталя ўсё думае з свайго сына зрабіць пана.

Аднаго разу маці знікла на некалькі дзён. Вярнуўшыся, яна некаторы час маўчала, а потым я даведаўся, што яна хадзіла кудысьці за трыццаць вёрст да нейкага чалавека, які за рубель напісаў у губеранскі горад «прашэнне», каб мяне прынялі вучыцца. На каго вучыцца — яна дакладна не ведала. Можна меркаваць, што не ведаў гэтага і сам «пісар», бо тая школа, куды я пазней трапіў, была толькі часткай агульнай установы. Затое было вядома самае галоўнае: там таксама дарма кормяць і нават адзяюць.

А тыдні праз два да нас прыйшла папера, дзе было сказана, каб я ехаў у горад, у нейкі «Приказ Общественного Призрения».

Нават страшна нам зрабілася: што гэта за штука такая? Слова «приказ» зусім зразумелае: гэта загад начальства. Сяк-так можна яшчэ зразумець слова «общественного». А вось «призрения» дык ужо зусім ні да чаго.

— Можа, ты няправільна прачытаў? — казала маці.

— Хіба я чытаць не ўмею? — пакрыўдзіўся я.— Літары ж друкаваныя.

— Калі друкаваныя, тады іншая справа,— згадзілася маці.

І ніхто не мог зразумець гэтыя словы, нават сам Ягор. У дадатак яшчэ і подпіс начальніка быў нейкі нялюдскі — «Билимо-Пастернак». Хіба можа быць у чалавека такое прозвішча? Проста хоць адмаўляйся ехаць. Але цяпер, калі прыйшоў загад, то і адмаўляцца нельга. І чаму так строга сказана? Робяць ласку, ды чамусьці пад прымусам. Зусім незразумелая справа.

Ну што ж, калі такі «приказ», то, можа, і па чыгунцы пра-

вязуць бясплатна. А то да горада больш за дзвесце вёрст. Чыгуначная станцыя там, дзе манастыр. Значыцца, зноў трэба адпраўляцца ў тую самую дарогу.

За два дні прыйшлі мы на станцыю. Яшчэ задоўга да прыходу цягніка маці пачала падрыхтоўваць глебу для бясплатнага праезду. І некаторым пасажырам расказвала яна, што мяне «приказом» патрабуюць у горад, і станцыйнаму вартаўніку, і прыбіральшчыцы і, нарэшце, перад прыходам цягніка, падышла да начальніка ў чырвонай шапцы. Падышла і, нічога не гаворачы, падала яму магутную паперу.

Той паглядзеў і здзіўлена спытаў:

— Ну, дык чаго ж вы хочаце?

— Каб праехаць, паночку.

— А вось зараз прыйдзе цягнік, купляйце білет і едзьце.

— Грошай няма на білет, паночку. Нам каб бясплатна.

— Во яшчэ што выдумала! — раззлаваўся начальнік.

— Ды гэта ж «приказ», паночку,— даводзіла маці.— А па «приказу», мусіць, можна бясплатна.

Але, на вялікі жаль, начальнік «приказа» не паслухаўся. І мы вымушаны былі рушыць у дарогу нашым старым спосабам.

Усё было добра — і жнівеньскае надвор'е цудоўнае, і дарога цікавая, і будучыня светлая, толькі не было той бесклапотнасці, як раней. Бо цяпер мы ішлі не жабраваць, а спяшаліся па важнай справе. Я цяпер ішоў вучыцца яшчэ вышэй. Шкада толькі, што невядома на каго.

*Канец першай кнігі*

*1920 г.*

## КНІГА ДРУГАЯ

### 1. КУДЫ ПРЫВЕЎ МЯНЕ «ПРИКАЗ»

> Ровно в 12 часов попарно вошли ученики, все одинаково одетые, по форме, и, проходя, каждый кланялся.
>
> *Е. Масальская. «Повесть о брате»*

З гары мы ўбачылі горад. Шырокая рака выгіналася сярод высокіх берагоў. Вуліцы былі відны ўсе разам. Пасярэдзіне, як грыб, сядзела царква, а касцёл, наадварот, быў тонкі і востры. Налева, каля чыгуначнага моста, дыміліся коміны заводаў. Дамы здаваліся маленькімі.

Калі мы спусціліся ўніз, горад знік, а пачаліся маленькія хаты і завулкі. Потым пайшлі брукаваныя вуліцы і камяніцы. Людзі былі добра ўбраныя, відаць, усе багатыя.

Маці трымала ў руках таемную паперу і совала яе сустрэчным, пытаючыся дарогі. Некаторыя адмахваліся, а некаторыя чыталі. Я ганарыўся, што людзі чытаюць пра мяне і будуць ведаць, што я прыйшоў у горад вучыцца на вышэйшага чалавека.

Нарэшце ў ціхай вуліцы мы спыніліся перад невялікім белым домам. Ля дзвярэй была чорная дошчачка, а на ёй залатымі літарамі напісана: «Приказ Общественного Призрения». Тыя самыя словы, што на нашай паперы! Але што яны значаць — усё роўна невядома. І гэта заставалася невядомым яшчэ гады са два, хоць я жыў і вучыўся ў школе, якая належала да гэтага «приказа».

Са страхам увайшлі мы ў казённы дом. У пласторным пакоі за бязногім сталом сядзеў сівы чалавек у белым кіцелі з залатымі гузікамі і серабрыстымі пагончыкамі. Маці памкнулася была пацалаваць яму руку, я таксама нарыхтаваўся выканаць свой абавязак, але пан не дазволіў. Ён узяў паперку, паглядзеў — і зусім не здзівіўся, нібы ведаў і чакаў нас.

— Ён прымаецца ў рамеснае вучылішча,— сказаў начальнік маме.— Яго будуць там бясплатна вучыць, карміць і адзяваць...

Пры гэтых словах маці раптам войкнула, стала дзякаваць і зноў хацела цалаваць руку, але ён чамусьці зноў не дазволіў.

— Там вывучаюць,— казаў ён далей,— тры рамяствы: слясарнае, шавецкае і кравецкае. Выбірайце, якое хочаце. Можаце падумаць.

Мы выйшлі за дзверы і пачалі раіцца. Адразу ж заўважылі, што сярод майстэрстваў няма самага галоўнага — цяслярскага. Мой жа бацька цясляр. І ў нас таемны куфэрак ёсць, зроблены бацькам. А тут трэба выбіраць нешта чужое.

— Краўцом добра быць,— нерашуча сказала маці.

Але я запярэчыў:

— Не хачу краўцом! Гэта жаночая работа.

— Дурны,— папікнула маці.— Мужчынскае адзенне заўсёды мужчыны шыюць. А калі хочаш, можаш і шаўцом быць. Тут ужо ўсе мужчыны. Ніводнай шаўчыхі я яшчэ не бачыла.

— Я хачу быць слесарам,— сказаў я катэгарычна.

— Гэта той, што жалезкі і кружкі робіць? — спытала яна.

— І замкі і ўсялякія жалезныя рэчы,— дадаў я.

— Дык для гэтага патрэбна цэлая майстэрня з машынамі і рознымі прыладамі! — усклікнула мама.— Скажам, шавец, дык той дзе сеў, там і яго майстэрня.

— А слесар можа працаваць у горадзе на заводзе,— сказаў я.

— Ды дзе ты знойдзеш такое месца? — не згаджалася мама.— Прыйдзецца бадзяцца па ўсіх гарадах. А краўцом ці шаўцом можаш і дома працаваць. Каб яшчэ кавалём, то можна таксама ў кожнай вёсцы працу знайсці. А каму патрэбны нейкі там слесар?

Але на гэты раз я адчуваў сябе гаспадаром становішча і прымусіў маму згадзіцца са мной. А праз чатыры гады я яшчэ лішні раз пераканаўся, якая мудрая была мая непісьменная мама...

Калі мы прыйшлі ў кабінет начальніка, ён даў нам другую паперку з адрасам, і мы пайшлі шукаць наша вучылішча.

Я дрыжаў ад хвалявання і цікавасці. Маці ўся свяцілася. Але адной загадкі мы ніяк не маглі разгадаць: завошта будуць мяне дарма вучыць, карміць і адзяваць? Хто, апрача нас, будзе мець ад гэтага карысць? А калі ім няма ніякай карысці, то дзеля чаго ж робяць такую ласку?

Гэтае пытанне мучыла мяне, ды і не аднаго мяне, яшчэ многа гадоў...

Паперка прывяла нас да вялікага драўлянага дома на беразе ракі. Вуліца была небрукаваная, бераг пясчаны.

Мы ўвайшлі ў вялікі двор, якога з вуліцы зусім не было відаць. Па двары бегалі хлопчыкі ў сініх штанах і кашулях, падперазаных шырокімі скуранымі паясамі са спражкамі, на якіх былі літары «РУ». І чорныя фуражкі ў іх былі з такімі самымі літарамі ды яшчэ сінімі кантамі. Галовы ва ўсіх былі астрыжаныя.

Мне зараз жа ўспомніліся тыя гімназісты, якіх калісьці я бачыў праз плот. Толькі ў тых былі штаны навыпуск і на нагах чаравікі, а ў гэтых нязграбныя боты. Ды і адзенне ў тых было пашыта з сукна, а ў гэтых з сатыну. А ўсё іншае было зусім такое самае. Няўжо і я буду такім?

Яны паглядзелі на нас з цікавасцю, а адзін жвавы хлопчык, засопшыся ад беганіны, спытаў:

— Вам каго?

Маці з нейкай павагай да яго спытала:

— Скажыце, калі ласка, дзе тут начальнік вучылішча?

— Хадзем, я пакажу,— адказаў хлопчык і павёў нас у другі канец двара, дзе між дрэў стаяў прыгожы дом з ганкам.

Зноў са страхам і хваляваннем уваходзілі мы да новага начальніка. Адчынілі дзверы ў сенцы, потым у пакой — і ўбачылі спіну высокага чалавека, які ў кутку поркаўся ў скрынцы. Мы сталі дыханне і чакалі: няўжо клікаць яго? А мама так і трымала ў выцягнутай руцэ паперку. Доўга ён там бразгаў нейкімі рэчамі, а мы ўсё стаялі, баючыся зварухнуцца.

Нарэшце ён павярнуўся да нас, але на яго твары з барадой не адбілася ні здзіўлення, ні цікавасці. Ён толькі сказаў мне: «Дай!» — і сеў за стол. Мама падышла бліжэй і падала папе-

ру. Ён узяў сшытак і запісаў мяне туды. Потым устаў, падышоў да расчыненага акна і камусьці крыкнуў:

— Паклічце сюды Залескага. Хутчэй! — а сам зноў стаў поркацца ў сваёй скрынцы.

Увайшоў высокі хлапец, гады на тры старэйшы ад мяне, з белым тварам і мяккімі вачыма.

— Знайдзі гаспадыню,— звярнуўся да яго загадчык,— вазьмі ў яе адзенне, бялізну і змясці гэтага хлапчука ў вашай спальні. І наогул вазьмі яго на першыя дні пад апеку, будзь яму тлумачом. А пакуль што вядзі іх на кухню, няхай дадуць ім што-небудзь з'есці.

І за ўвесь час гэтага «прыёму» ён, здаецца, так і не бачыў ні мяне, ні маці. Яму было ўсё роўна, які я.

У кухні нас прыняла вясёлая поўная кухарка, якую чамусьці звалі Генрыетай, хоць ніводнай нямецкай рысы ў ёй заўважыць было нельга.

— Нічога не магу даць, апрача гарохавага супу,— загаварыла яна, нібы просячы прабачэння.— Сёння на абед былі зразы, ды яны лічаныя і, вядома, ніводнага не засталося.

І яна наліла нам такога смачнага гарохавага супу, якога на сваім вяку мне ні разу не даводзілася есці. Таму я зусім не шкадаваў, што на нашу долю не засталося нейкай там невядомай «заразы». Але мама, відаць, такую «заразу» ведала, бо адразу ажывілася і зацікавілася:

— Як? Вы і зразы даяце сваім вучням?

— У мясныя дні даём і зразы, і катлеты, і ўсё, што належыць. Толькі ў посныя дні мяса не даём.

Маці слухала гэтыя словы з вялікім здавальненнем і распытвала далей і далей. А гаваркая кухарка расказвала такое, што нам проста не верылася. Напрыклад, што два разы ў тыдзень на снеданне даюць каву, а ўсяго даюць есці чатыры разы на дзень; што адзенне і бялізна поўнасцю казённыя, спальні чыстыя, кожнаму асобны ложак.

Многа розных такіх цудаў нагаварыла цётка Генрыета. Як было ўсяму гэтаму верыць, калі я да гэтага часу нічога падобнага не бачыў і не чуў? І зноў неўразуменнае пытанне: хто і завошта дарма робіць нам такую ласку? Кухарка магла толькі

сказаць, што грошы дае казна, а завошта яна іх нам дарма дае,— растлумачыць таксама не магла.

Прыйшоў Залескі і павёў нас у маленькі домік, дзе былі два пакойчыкі з ложкамі. Нам паказалі ложак з шэрай коўдрай, з падушкай і жаўтаватай прасцінай. Ложак сапраўды асобны, на мяне аднаго! Прынеслі адзенне — і праз некалькі хвілін я зрабіўся такім самым, як і ўсе, толькі валасы былі кудлатыя. Але Залескі зараз жа зняў мае валасы нейкай дзіўнай машынкай.

Выгляд у мяне стаў такі раскошны, што па шчаслівым маміным твары пакаціліся слёзы. Усё маё адзенне аддалі маме і сказалі, што яно больш не спатрэбіцца.

Было пяць гадзін. Званок абвясціў канец работы ў майстэрнях. Вучні пайшлі ў сталовую піць чай. Надышоў час разлучацца з мамай. І да гэтага часу шмат разоў прыходзілася нам такім чынам разлучацца, але тады мы ведалі, што будзем жыць недалёка адно ад аднаго, а цяпер я застаюся адзін у невядомым горадзе. Мама пойдзе назад, далёка-далёка, і калі мы пабачымся зноў — невядома.

Маці плакала, хрысціла мяне, наказвала, каб я добра вучыўся і слухаўся начальства, каб шчыра маліўся богу, каб пісаў ёй пісьмы. Плачучы, яна перабірала маю пасцелю, аглядзела ўсё маё адзенне, гузікі, петлі, пакінула дзве самаробныя насавыя хустачкі, пару шкарпэтак і цэлых дваццаць капеек грашыма.

Слёзы гора ў яе перамешваліся са слязьмі шчасця, што я трапіў у такое добрае становішча. А маё гора рассейвалася яшчэ больш, калі я думаў, што зараз пачнецца для мяне новае, надзвычай добрае і цікавае жыццё.

Разам з Залескім правёў я маму да брамы, а потым мы пайшлі ў сталовую.

За двума доўгімі сталамі размясцілася чалавек сорак вучняў. Вядома, усе ўтаропілі на мяне вочы, калі я ўвайшоў з Залескім. І, вядома, я пачырванеў, калі на мяне накіравалася восемдзесят вачэй. Мой шэф сказаў:

— Гэта навічок, Янка Фёдараў.

Хлопцы нібы гэтага толькі чакалі і адразу ж перасталі мяне разглядаць.

Вучні былі досыць разнастайнага ўзросту і росту, хоць усе лічыліся аднакласнікамі. Аднак можна было заўважыць, што вялікшыя сядзелі за адным сталом, а меншыя — за другім.

Залескі пасадзіў мяне з меншымі, а сам пайшоў за вялікі стол.

Два дзяжурныя вучні налівалі ў нашы жалезныя кубкі чай з прынесенага імі бака. Кожны з нас падыходзіў да іх па чарзе, пачынаючы са старэйшых. Гэтыя ж самыя дзяжурныя яшчэ раней паклалі нам на стол па кавалку цукру і кавалку хлеба.

— Кожны дзень даюць цукар? — спытаў я суседа.

— Нават два разы,— адказаў той са смехам, затым прыжмурыўся, падмаргнуў сваім таварышам і спытаў:

— Ты еў калі-небудзь жывакост?

— Не,— кажу.

— А хочаш пакаштаваць?

— Не ведаю, які ён на смак,— адказаў я няўпэўнена.

— Вось таму я і прапаную. Мы ўсе яго каштавалі, смачны. Праўда, хлопцы?

— Праўда! — дружна загулі вакол мяне.— Васілеўскі, у цябе ёсць жывакост?

Непаседлівы хлопчык, што сядзеў супраць мяне, весела адказаў:

— Ёсць яшчэ! Магу пачаставаць.

Пасля чаю ён паклікаў мяне да сябе, у шавецкую майстэрню, якая знаходзілася побач. Мы ўвайшлі ў вялікае светлае памяшканне, дзе стаяла каля дзесятка маленькіх столікаў з зэдлікамі ля іх.

Падышоўшы да свайго месца, Васілеўскі ўзяў белы сырамятны рэмень, якім шаўцы прымацоўваюць да калена работу, і выцяў мяне па спіне.

Не паспеў я апамятацца, як ззаду пачуўся гучны рогат дзесятка галасоў: гэта смяяліся вучні, якія ціха сабраліся ля дзвярэй, каб паглядзець, як будуць частаваць навічка па яго просьбе жывакостам.

Не скажу, каб удар быў вельмі балючы, але нечаканасць, крыўда, сорам выціснулі з маіх вачэй слёзы.

Калі я выбег у калідор, хлопцы пачалі суцяшаць мяне:

— Чаго ты крыўдзішся, дурань? Гэта ж толькі жарты. А мы атрымліваем жывакост сапраўдны, з рук загадчыка, не лічачы майстра. Вось калі пакаштуеш іхняга жывакосту, то з падзякай успомніш гэты пачастунак.

Мой «дзядзька», Залескі, накрычаў на хлопцаў за тое, што яны мяне пакрыўдзілі, але па яго выгляду і па тых словах суцяшэння, з якімі ён да мяне звярнуўся, было відаць, што і ён у гэтым «хрышчэнні» нічога дрэннага не бачыць.

Рэшту дня я сарамліва туляўся сярод маіх новых таварышаў, баючыся распачынаць з імі гаворку. Яны ж былі не простыя вясковыя хлопцы, як я, а разумныя, вучоныя, смелыя гарадскія вучні. Я не ведаў, як трымаць сябе з імі.

Яны заўважылі, што я «дзікун», і сталі пасмейвацца з мяне. А калі я што-небудзь казаў, яны аж клаліся ад рогату. Справа ў тым, што мая мова была для іх «нялюдскай» — не то руская, не то беларуская, словам, невядома якая.

Але крыўдзіць мяне больш ніхто не прабаваў. Наогул таварышы былі свойскія, хоць і панскія дзеці.

У восем гадзін была вячэра, далі бульбу, падпраўленую салам. Пасля вячэры заставалася крыху вольнага часу. Вучні займаліся чым хто хацеў. Было яшчэ светла, і Залескі азнаёміў мяне з памяшканнямі і гаспадаркай нашага вучылішча.

Мой «дзядзька» паказаў сябе вельмі добрым і сур'ёзным таварышам, не бегаў і не дурэў, як усе іншыя хлопцы. Ён здаваўся нейкім сталым, паважным, чула распытваў мяне аб маім жыцці і маіх справах з такім выглядам, нібы ўсё гэта непасрэдна датычылася яго самога.

Перад тым як ісці спаць, усе сабраліся на агульную малітву. Адзін з вучняў прачытаў па кніжцы многа малітваў і псалмаў, гэтак мінут на пятнаццаць-дваццаць.

Новыя ўражанні так перапоўнілі мяне, што здавалася, быццам я жыву тут некалькі дзён. Апошнім моцным уражаннем гэтага дня быў момант, калі я лёг спаць. Гэта ж быў першы выпадак у маім жыцці, калі я клаўся спаць на свой асобны ло-

жак, ды яшчэ жалезны, з усімі пасцельнымі прыладамі. Нават тумбачка стаяла паміж маім ложкам і ложкам Залескага.

Перад сном Залескі дастаў маленькую кніжачку ў чорным пераплёце з залатым крыжам на ім і горача стаў па ёй маліцца. Я здзівіўся, што ён моліцца зараз жа пасля таго, як мы ўсе памаліліся, але хутка разабраў, што ён моліцца не па-нашаму, а па-каталіцку. Відаць, нашых агульных малітваў яму было мала, тым больш, яны для яго былі чужыя, казённыя.

Я задумаўся. Вось чалавек і чужыя малітвы слухае, і свае чытае, а я ні сваімі, ні чужымі не цікаўлюся, хоць маці тысячу разоў казала, каб я маліўся і маліўся, бо іначай бог мяне пакарае. А добры божанька замест таго прывёў мяне вось у якое вучылішча.

Ох, грэшны я чалавек, вельмі грэшны!.. Трэба пакаяцца, пакуль не позна.

Тады я залез з галавой пад коўдру і стаў маліцца яшчэ гарачэй, чым мой таварыш, нават са слязьмі.

## 2. ПЕРШЫЯ З ШАСЦІ ТЫСЯЧ МАЛІТВАЎ

> Где же горячие молитвы? где лучший дар — те чистые слезы умиления?
>
> *Л. Толстой. «Детство»*

Разбудзілі мяне праменні сонца і птушыны гоман. Акно, ля якога стаяў ложак Залескага, было расчынена; праз яго відаць зеляніна вялікага суседняга саду, адкуль далятаў птушыны гоман і плыло пахучае паветра. І праменні сонца ішлі з таго боку, асвятляючы па дарозе чырвоныя яблыкі.

Усе таварышы яшчэ спалі, толькі Залескі стаяў супраць расчыненага акна са сваім малітоўнікам у руках. Калі часам ён паварочваў галаву, то я бачыў яго твар, белы, дзіцячы, нягледзячы на яго пятнаццаць год, з тымі добрымі, мяккімі вачыма, што ўразілі мяне яшчэ з першага позірку.

Зноў мяне пачало мучыць сумленне, што мне зусім не хочацца маліцца ў такую цудоўную раніцу. Я сабраўся з ду-

хам, сеў, перахрысціўся і пачаў шаптаць свае славянскія малітвы.

Залескі пачуў, азірнуўся і сказаў сваім задушэўным голасам:

— Ты б лепш устаў, Янка!

Я ўсхапіўся, стаў ля свайго ложка і заўзята пачаў маліцца свайму таварышу ў спіну.

У гэтую мінуту ззаду пачуўся голас другога майго суседа, Сымона Хахлова:

— Няўжо не хапае тых малітваў, якія нам прыходзіцца малоць кожны дзень?

Залескі не зварухнуўся, нібы зусім не пачуў гэтых слоў, а я збянтэжыўся, збіўся з панталыку, засаромеўся і зноў лёг у пасцель.

Тады мяне ахапілі душэўныя пакуты: зноў Залескі не звярнуў увагі, а я засаромеўся. Гэта ж найцяжэйшы грэх! Святыя за веру на смерць ішлі, а я саромлюся. Што сказала б мама, каб ведала гэта?..

Каб загладзіць сваю віну, я прадоўжыў маленне пад коўдрай. А Залескага Хахлоў больш не чапаў: відаць, усе ўжо прывыклі да яго набожнасці.

Перад тым як ісці ў сталовую, мне прыйшлося добра папрацаваць, пакуль я пад кіраўніцтвам Залескага навучыўся прыбіраць пасцель па ўсіх правілах.

Прыйшоўшы ў сталовую, мы спачатку сталі натоўпам у куце перад іконай; як і ўчора, вучань пачаў чытаць малітвы і псалмы. Багамольцы перасмейваліся, штурхалі адзін аднаго і пазіралі на сталы. Я ў гэты час думаў пра бога, мусіць, менш за ўсіх, бо выканаў ужо свой абавязак перад ім пад коўдрай.

Залескі стаяў з набожным тварам, але нельга было пазнаць, якому богу ён моліцца: свайму ці нашаму. Апрача яго, сярод нас было яшчэ чалавек пяць католікаў, адзін «немец» (пратэстант), адзін яўрэй,— і ўсе яны вымушаны былі слухаць, а часам і чытаць чужыя для іх малітвы.

Крыху воддаль ад нас стаяў плячысты барадаты дзядзька, які, здаецца, не цікавіўся ні малітвамі, ні намі. Як потым я да-

ведаўся, гэта быў шавецкі майстар, якому сёння была чарга дзяжурыць.

Не паспелі прагучаць апошнія словы малітвы, як мы ўсе кінуліся за свае сталы. Але толькі селі — прыйшлося зноў уставаць і маліцца.

На гэты раз чыталася спецыяльная малітва перад ядой:

«Очи всех на тя, господи, уповают,
и ты даеши им пищу во благовремении...»

Сёння быў чацвер. У гэты дзень, як і ў нядзелю, замест чаю давалі каву, а да яе замест чорнага хлеба — белы. Перад кожным з нас ляжаў так званы «жулік» — кісла-салодкая жытняя булачка з разынкамі. Адно толькі было нядобра: надта смачная і маленькая была гэтая булачка. Нават не заўважыш, як праглынеш! Можа, таму некаторыя з вучняў зусім не елі яе, а вымалі з кішэні запасены раней кавалак чорнага хлеба.

Тады я ўбачыў, што ад вялікага стала ідзе да нас Людовіч, высокі смешны вучань з чатырохкутняй галавой. Насустрач яму падняліся трое нашых хлапцоў і аддалі яму свае «жулікі». Аддавалі проста, без ніякіх слоў; ён таксама ўзяў хлеб проста, нічога не кажучы, і пайшоў на сваё месца. Ніхто не звярнуў на гэта ніякай увагі. Мне нічога не заставалася думаць, апрача аднаго: гэтыя хлопчыкі проста не любяць белага хлеба і аддаюць тым, хто іх раней папрасіў.

Пасля снедання чыталі другую малітву:

«Благодарим тя, Христе боже наш,
яко насытил еси нас земных твоих благ...»

Падлік паказвае, што за ўвесь час нашай вучобы ў рамесным вучылішчы гэтыя малітвы мы праслухалі па шэсць тысяч разоў. А калі далучыць сюды іншыя гады маёй вучобы, то лічба павялічыцца прынамсі да пятнаццаці тысяч.

Можна таксама падлічыць, колькі часу занялі ў мяне ўсе наогул богамаленні ў вучылішчы. Гэта складае месяцы чатыры штодзённай працы па восем гадзін у суткі. А калі сабраць разам усе малітвы, якія я прачытаў і павінен быў выслухаць на сваім вяку, ды яшчэ дадаць бясконцае вывучэнне «закону божага», то выйдзе, мусіць, гады са два беспрасветнага рэлігій-

нага выхавання. Не дзіва, што пасля такой дакучлівай рэлігійнай прапаганды выхаванцы пачыналі ненавідзець і малітвы, і закон божы, і самога бога.

Але мы адхіліліся ад ходу нашага апавядання і забеглі далёка наперад. Пакуль што мы ўсе шчыра верылі ў бога і баяліся яго. А што нам абрыдлі казённыя маленні, мы былі не вінаватыя.

## 3. Я БЯРУ Ў РУКІ НАПІЛЬНІК

> Работал я охотно,— мне нравилось уничтожать грязь в доме, мыть полы, чистить медную посуду, отдушники, ручки дверей...
>
> *М. Горький. «В людях»*

Пасля снедання вучні разышліся па сваіх майстэрнях.

Слясарная знаходзілася на другім канцы двара, у асобным будынку. Пераступіўшы парог, я ўбачыў два велізарныя сталы, або варштаты, якія можна было б яшчэ назваць масіўнымі платформамі. Па баках такога стала-платформы былі прымацаваны слясарныя ціскі для чатырох чалавек. Кожны вучань меў вялікую шуфляду для інструменту і ўсялякай іншай маёмасці.

Нашым кіраўніком быў майстар, невысокі хударлявы чалавек з сіваватымі падстрыжанымі вусамі. Як кожны майстар, ён быў вельмі сур'ёзны, маўклівы, строгі, і прайшло шмат часу, пакуль я навучыўся заўважаць, што вочы яго вельмі часта ласкава свяціліся.

Называўся ён «пан майстар», а ці меў якое імя і прозвішча, не ведаю. І за ўсе чатыры гады ў мяне не засталося на яго ніякай крыўды, хоць і быў час, калі ён, як мне здавалася, мяне прыціскаў.

Майстар вызначыў мне месца, даў інструмент і прачытаў цэлую лекцыю аб ім. Як цікава было мне слухаць пра разнастайныя напільнікі, зубілы, керны, кусачы, пласкагубцы, адвёрткі і развёрткі, шрубкі і шайбы, метчыкі, кронцыркулі, ключы, зусім не такія, якія мы ведаем, і свярдзёлкі для жалеза. Я вельмі ганарыўся, што далучаюся да такой вялікай справы.

Для пачатку ён даў мне квадратны кавалак жалеза і загадаў, каб я на ім павучыўся правільна трымаць напільнік і пілiць. Паказаўшы, як гэта робіцца, майстар пайшоў прэч, а далейшы нагляд даручыў майму суседу Хахлову.

Каму не здаралася падпіліць што-небудзь напільнікам! Але далёка не ўсе ведаюць, як гэта робіцца па ўсіх правілах майстэрства.

Перш за ўсё напільнік, як калісьці наш чатырохрублёвы конь, зусім не хоча слухацца, а ўсё імкнецца і імкнецца адхіліцца ўбок.

Хахлоў стаяў побач і кіраваў:

— Куды? Назад!..

Трымай, трымай!.. Вось так!..

Куды ты заехаў? Лявей!..

Прыцiскай мацней! Не рабі вялікіх крокаў!..

Смешны быў гэты Хахлоў. З сваім худым тварам і павольнымі, нязграбнымі рухамі ён нагадваў малога дзядка. І гаварыў ён павольна, з намаганнем рухаючы сваім языком. Часам таварышы крычалі яму:

— Гэй, Хахлоў! Давай я табе памагу варушыць язык.

Калі я сяк-так навучыўся не пускаць напільнік у бакі, ён пачаў спераду і ззаду апускацца ўніз, а пасярэдзіне, такім чынам, пачаў ствараецца горб. Барацьба з гэтым гарбом была самай цяжкай справай не толькі ў першыя дні, а нават і пасля многіх месяцаў.

Хахлоў старанна дапамагаў, хоць сам быў не вельмі далёка наперадзе ад мяне. Ён увесь час пiлiў нейкі квадрат; папіліць, прыкладзе навугольнік — і зноў піліць. Так ён пiлiў некалькі дзён, пакуль я рабіў уступныя аперацыі. А потым майстар прынёс мне выкаваны чорны квадрат і, вымаючы з кішэні другі, апрацаваны квадрат, сказаў:

— Табе прыйдзецца зрабіць яго такім, як вось гэты.

Зірнуў я на апрацаваны квадрат і ледзь не самлеў: ды гэта ж зусім іншая рэч, яна не мае нічога агульнага з маёй жалязякай! Усе яго бакі і рэбры раўнюткія, бліскучыя, узорыстыя. Як ні прылажы да яго навугольнік, усюды ён дакранаецца да паверхні.

— Няўжо гэты квадрат зрабіў вучань? — спытаў я з хваляваннем.

— Такі самы, як ты і як ён,— адказаў майстар, паказваючы на Хахлова.— Трэба толькі хацець і старацца.

І пачалі мы старацца ўжо разам з Хахловым. Я таксама стаў піліць, прыкладваць навугольнік, а потым зноў пілідь. У гэтым працэсе я, відаць, дагнаў яго, але перагнаць не мог, бо мы абодва доўга-доўга тапталіся на месцы...

Нямала прайшло часу, пакуль я асвойтаўся з вучылішчам і яго жыццём. Усё гэта было для мяне такім новым, неспадзяваным, бадай, казачным, што я першыя дні баяўся, ці не адбылася тут якая-небудзь памылка.

Я прыгадаў бацюшкавага сына, якога я прыняў быў за губернатарскага. Ці магло мне прыйсці ў галаву, што і я калі-небудзь буду такім самым? Нават форма ў нас была вельмі падобная: такое самае паліто і шапка з сінімі кантамі і такі, як у яго, пояс з спражкай; толькі ў яго былі літары «ДУ» («Духовное училище»), а ў мяне — «РУ» («Ремесленное училище»). Апрача таго, я вучыўся слясарнаму майстэрству, а ён гэтага і не нюхаў. Нават тыя гімназісты, якіх я калісьці бачыў і якім я так зайздросціў, таксама не ведалі, што такое слясарнае майстэрства. Як было мне не радавацца і не ганарыцца!

І ад гэтай радасці, гонару і здзіўлення ў мяне быў такі дурнаваты выгляд, што з мяне доўга смяяліся таварышы, называючы дзікуном. І ў кампанію сваю яны мяне доўга не прымалі. Але я не вельмі крыўдзіўся і задаволены быў ужо адным тым, што вучыўся з панскімі дзецьмі.

А пакуль што я больш зблізіўся з Хахловым і Залескім. З Хахловым, як суседам па варштаце, у нас зараз жа знайшлося шмат агульных працоўных інтарэсаў. А Залескі захапіў мяне сваім характарам і аўтарытэтам. Чым больш я знаёміўся з ім, тым больш да яго прывязваўся. А чаму ён быў прыхільным да мяне,— не разумею і да гэтага часу, хаця наша дзіўная дружба цягнулася яшчэ многа гадоў.

Вучылішча наша займала вялікі драўляны дом у канцы Гарнізоннай вуліцы, якая ўпіралася ў раку. Тое, што дом наш будаваўся не для вучылішча, а для кватэры нейкага пана, ні-

колькі не псавала справы. У галоўным будынку самы вялікі пакой займаў клас, адзін на ўсё наша вучылішча.

У гэтым жа будынку былі шавецкая і кравецкая майстэрні, а таксама і сталовая. З сталовай быў выхад на ранейшы «чорны» ганак, які выходзіў у двор. Але дзверы гэтыя былі забітыя, і ганак зрабіўся асобным памяшканнем, якое мы выбралі сабе пад «клуб». У далейшым атрымалася так, што гэты клуб меў для нашага выхавання, можа, большае значэнне, чым усе астатнія памяшканні вучылішча.

Вакол нашага чатырохкутняга ўнутранага двара размяшчаліся іншыя будынкі: спальні, слясарная майстэрня, кузня, кухня, дом загадчыка, службовыя будынкі. З гэтага чатырохкутніка быў толькі адзін выхад на вуліцу — праз браму з дзверцамі.

Тут па начах стаяў вартаўнік дзед Андрэй, а ўдзень дзяжурылі самі вучні. Але трэба загадзя сказаць, што і дзедавы, і вучнёўскія дзяжурствы не надта перашкаджалі нам выскакваць на свет божы.

Два бакі школьнага двара выходзілі на вуліцу, з трэцяга боку быў сад, што падыходзіў да нашай спальні, а з чацвёртага — завод Тыльманса і К⁰.

Гэты завод быў нашай марай на працягу ўсіх чатырох гадоў навучання. Мы ведалі, што там вырабляюцца цвікі, шрубкі, кручкі. Мы, слесары, таксама маглі рабіць падобныя рэчы, а вось як вырабляюць іх машыны? Ці праўда, што робяць яны самі, без удзелу чалавека?..

Вялікі новы свет адкрыўся мне ў нашым чатырохкутніку. За некалькі месяцаў ён пашырыў мой кругагляд больш, чым усё маё дванаццацігадовае існаванне на свеце.

Колькі часу мы з Хахловым пілілі свае квадрацікі? Я думаю, не адзін месяц, бо кожную хвіліну то той, то другі меў перашкоду.

Перш за ўсё тачыла. Гэта быў нібы жоран, пастаўлены рубам над карытам з вадою. Жоран гэты заўсёды быў у рабоце, бо тачыць на ім было чаго. А калі адзін точыць, то абавязко-

ва трэба, каб круціў другі. І гэтым другім заўсёды быў або я, або Хахлоў. Я, мусіць, лічыўся лепшым спецыялістам у гэтай справе, бо нават быў увекавечаны на здымку для нейкай выстаўкі.

Потым трэба было круціць рукамі і свідравальны станок. І ён заўсёды быў у рабоце, бо свідраваць было чаго. Тут ужо даставалася не толькі нам з Хахловым, але і іншым.

Потым трэба было раздзьмухваць кавальскі мех. Кавалямі былі старэйшыя вучні, а мы толькі дзьмухалі. І тут работы хапала колькі хочаш.

Асабліва туга было, калі паступаў які-небудзь заказ, скажам, на паўсотню жалезных лыжкаў. Колькі тут было свідравання і дзьмухання! Асабліва свідравання. Круціш, круціш да непрытомнасці, і здаецца табе, што круціш усё сваё жыццё і яшчэ будзеш круціць да самай смерці. Нават пасля заканчэння вучылішча мне не раз здавалася, што я там усе чатыры гады толькі і рабіў, што круціў свідравальны станок.

Ды і для ног працы хапала. Быў у нашай майстэрні асобны пакойчык, дзе стаяў такарны станок. На ім працавалі толькі некаторыя вучні, найбольш падрыхтаваныя, старэйшыя, і першым сярод іх быў мой друг Залескі.

Такарны станок, як і ўсе нашы машыны, прыводзілі ў рух мы самі, толькі ўжо не рукамі, а нагамі. На яго сілы аднаго токара, ды яшчэ падлетка, не хапала, таму патрэбны быў другі памочнік. Памочнікам у Залескага быў заўсёды я. І вось тут наша дружба так замацавалася і я так палюбіў свайго таварыша, што дзень і ноч думаў толькі аб ім, прагнуў убачыць яго, пачуць яго голас, адным словам, жыць без яго не мог.

Аднаго разу я па дурасці стаў смяяцца з яго, паказваючы пальцам на яго рот, дзе не хапала аднаго зуба. Ён пакрыўдзіўся, але нічога не сказаў, толькі паглядзеў на мяне з такім дакорам, што я ледзь не самлеў. Пасля таго я не спаў усю ноч, плакаў, маліўся, шэпчучы яго імя, і быў упэўнены, што далей жыць на свеце мне ўжо няма сэнсу. Затое, калі мы памірыліся, я адчуў такое шчасце, якога раней не ведаў і дзеля якога варта было б нават яшчэ раз пакрыўдзіць друга.

Што я палюбіў яго, гэта зусім зразумела: ён жа быў такі

добры, сардэчны, разумны, справядлівы, спакойны, прыгожы... А вось чаму ён мяне палюбіў, я ніяк не мог уцяміць. Я быў поўнай яго процілегласцю: неразумны, грубы, нястрыманы і, самае галоўнае, рабы. Праклятая воспа, ад якой цудам выхадзіла мяне маці, усё ж пакінула след на маёй фізіяноміі. Хіба можна любіць такое страшыдла? Ох, баюся, што хутка ён мяне пакіне!

Аднак час ішоў, а ён усё быў такім самым. А я, сам таго не ведаючы, рабіўся лепшым пад яго дабратворным уплывам. Усе мае справы і перажыванні ён прымаў блізка да сэрца і ўмеў даць каштоўную параду. Адкуль ён набраўся такой мудрасці, будучы сынам беднага селяніна-літоўца?

— Любі бога, маліся яму, і ён цябе не пакіне,— паўтараў ён часта.

— А твой бог і мой бог аднолькавыя? — дапытваўся я.

— Дзівак, ды ён жа адзін для ўсіх! — казаў ён павучальна.

— Чаму ж мы тады па-рознаму молімся?

Але ў Залескага на ўсё гатовы адказ:

— Мы можам і рознымі дарогамі дайсці да аднаго месца,— усміхаецца ён.

— А якая дарога лепшая, карацейшая?

Ён глядзіць на мяне ласкавымі вачыма і кажа:

— Пакуль чалавек ведае адну сваю дарогу, ён можа лічыць яе самай лепшай. А калі азнаёміцца з іншымі дарогамі, то можа палічыць лепшай якую захоча.

І мне так хочацца пазнаёміцца з другой дарогай, па якой ідзе мой друг. Можа, яна сапраўды лепшая?

Адзін раз ён мяне вадзіў у свой касцёл. Там сапраўды цікава, таямніча; граюць арганы і пяюць усе, а не толькі хор. Аднак Залескі не стараўся павярнуць мяне на свой шлях, як гэта робяць усе каталікі на свеце.

Ды і ў касцёле мы з ім былі толькі адзін раз. Болей не толькі я, але і сам Залескі не мог наведаць свой касцёл, бо павінен быў разам з намі хадзіць у праваслаўную царкву.

Як бы там ні было, рознасць рэлігій у тыя гады нас не падзяляла. Мы мірна маліліся кожны свайму богу і былі найлепшымі сябрамі.

Залескі быў маім кіраўніком не толькі ў багаслоўскіх пытаннях, ён многа дапамагаў мне і ў авалоданні слясарна-такарнай справай. А заданні майстра рабіліся ўсё больш і больш складанымі.

Сам сабе не веру, калі ўспамінаю зроблены мною французскі замок або дасканалую дзвярную клямку з сінім «сабачкам». А яшчэ важней было тое, што ў нас змяніліся адносіны да ўсіх рэчаў, што акружаюць нас.

Раней я зусім не звяртаў увагі на гэтыя рэчы, не задумваўся, як яны зроблены, і не бачыў, у якім стане яны знаходзяцца. А цяпер у мяне нібы з'явіліся новыя вочы, якія адразу заўважалі ўласцівасці і якасці кожнага прадмета, чаго ў ім не хапае і што можна з ім зрабіць. Мы сталі адчуваць сябе гаспадарамі над рэчамі: што захочам, тое і зробім з імі. Нам нічога не значыла зрабіць сабе спражку, падбіць жалезкамі боты, паправіць ложак.

Паступова, непрыкметна наша ўлада пашыралася і на рэчы, якія не адносяцца да слясарнай катэгорыі. Хутка мы з такім жа самым поспехам рабілі справы, якія «па закону» лічацца шавецкімі, кравецкімі, сталярнымі і г. д.

Так рамяство зрабіла нас гаспадарамі рэчаў незалежна ад «спецыяльнасці».

Але побач з намі, за плотам, была яшчэ больш магутная сіла — машыны, якія не трэба круціць рукамі і нагамі і якія без чалавека могуць рабіць сваю справу. Мы пра гэта чулі і чыталі сотні разоў, а сваімі вачыма наўрад ці бачыў хто. А цікавіліся гэтым усе вучні, асабліва слесары. Толькі як зазірнуць туды, калі ад вуліцы вокны завода былі досыць далёка, а ад нашага двара яны аддзяляліся высокім плотам?

Але ці можа перашкодзіць нашаму брату нейкі там плот. Побач з ім выходзіла на заводскі двор глухая сцяна нашай кухні. Паміж кухняй і плотам мы і знайшлі магчымасць перабірацца на той бок. Цяпер усё залежала ад таго, ці будзе з гэтага боку заводскі вартаўнік. Мы з Хахловым спачатку вывучылі распарадак дня і паводзіны старога вартаўніка. Адзначылі, што ён пільна вартуе толькі ноччу, а ўдзень паказваецца зрэдку.

— А іншых людзей нам баяцца няма чаго,— тлумачыў Хахлоў.— Што ім да нас? І ўвагі ніхто не зверне.

Фактычна так яно і было. Мы прыціснуліся да заводскага акна і замерлі. Перад намі было вялізнае памяшканне, усё запоўненае невялікімі машынамі, а людзей толькі некалькі чалавек. Яны хадзілі сабе паміж машын, а тыя працавалі самі.

Ну і пацешныя ж былі гэтыя машыны! У кожнай — шыя і дзюба; яна нешта дзяўбе, перасоўвае, а збоку сыплюцца шрубкі. Вось і ўсё. Глядзець на такую работу хацелася бясконца, яна зачароўвала нас.

Мы і глядзелі колькі хацелі, ніхто нам не перашкаджаў, нават не звяртаў на нас увагі. Нагледзеўшыся ўдосыць, мы асмеліліся і пайшлі шукаць вокнаў у другія цэхі. І вось тут натрапілі на вартаўніка. Калі казаць праўду, то і ён спачатку не звярнуў на нас увагі, але мы ведалі, што ён вартаўнік, і самі пусціліся наўцёкі. Тады ўжо і ён пачаў на нас крычаць.

Я першы перабраўся цераз плот, прабег некалькі крокаў і бадай сутыкнуўся з нашым начальнікам Аляксандрам Сцяпанавічам. Тады я схіліўся над кучай дроў, што ляжала побач, узяў некалькі паленаў і пабег у кухню, спадзеючыся, што ён ацэніць маю стараннасць. А Хахлоў тым часам высунуў галаву з-за плота і сустрэўся вачыма з самім загадчыкам. Паспрабаваў быў небарака схавацца назад, але пачуў грозны голас:

— Хахлоў, вылазь, а то будзе горш!

Калі ён вылез, першым пытаннем загадчыка было:

— З кім ты быў?

— Ні з кім, адзін,— не задумваючыся, адказаў Хахлоў, як зрабіў бы і кожны з нас.

Само сабой зразумела, што справа для яго скончылася жывакостам... Так абаранялі нас ад знаёмства з машынамі. За ўсе чатыры гады нікому з нашых выхаваўцаў не прыйшло ў галаву азнаёміць нас з тым прадпрыемствам, для якога мы набывалі кваліфікацыю. Выйшаўшы з рамеснага вучылішча з пасведчаннем слесара ў кішэні, мы аб заводзе наогул ведалі (ды і то не ўсе!) толькі тое, што ўдалося нелегальна падгледзець праз акно, рызыкуючы сваёю скурай.

## 4. НАШ ВЫХАВАЎЦА

Мы все учились понемногу...
*А. Пушкин.*
*«Евгений Онегин»*

Праз тыдзень пасля майго паступлення пачаліся класныя заняткі. У час канікул мы займаліся толькі ў майстэрнях, да абеду, а далей былі вольныя. Цяпер мы раніцаю займаліся тры гадзіны ў класе, а затым — чатыры гадзіны ў майстэрнях.

Мы ўсе, сорак чалавек, былі аднакласнікі. Ішоў год, другі, трэці і чацвёрты, а мы ўсё сядзелі ў тым жа класе, і вучыў нас усё адзін і той жа чалавек, загадчык вучылішча Аляксандр Сцяпанавіч Давыдаў, калі не лічыць папа, які прыходзіў навучаць нас закону божаму. Трэба думаць, што мы павінны былі падзяляцца на якія-небудзь падгрупы, але я чамусьці гэтага не памятаю.

Кожны з нас у свой час скончыў пачатковую школу, і цяпер мы вучыліся далей. Я, напрыклад, доўгі час быў упэўнены, што мы тут вывучаем такія навукі, пасля якіх ужо няма чаго вучыць. Адна арыфметыка з трайнымі правіламі ды прапорцыямі чаго варта была, а там яшчэ геаметрыя ды асобная кніга геаграфія пра ўсё тое, што ёсць на свеце. Потым граматыка ды гісторыя пра рускіх цароў.

У народнай школе такіх асобных падручнікаў не было, а ўсе веды змяшчаліся ў хрэстаматыі. Толькі закон божы меў там невялікую кніжачку, затое тут іх было аж чатыры: стары запавет, новы запавет, богаслужэнне і катэхізіс.

На ўроках мы маглі нагледзецца на свайго начальніка і настаўніка колькі ўлезе, бо ўсе навукі, апрача закону божага, як ужо гаварылася, выкладаў ён адзін. Відаць, за гэты час і настаўнік паспяваў налюбавацца намі столькі сама, бо рэштку дня ён ужо не меў ніякага жадання нас бачыць.

Хоць мы жылі з ім на адным двары, але вельмі цяжка ўспомніць выпадак, калі ён быў сярод нас у майстэрні ці спальні, у сталовай ці на нашых гульнях. І зусім не было выпадкаў, каб ён гутарыў з намі па-простаму або засмяяўся калі-небудзь пры нас. Ён быў «казённы» з галавы да ног.

Але сказаць, што ён быў чалавек злы, не любіў нас, праследаваў, прыдзіраўся, таксама нельга. Калі ён клікаў каго-небудзь з вучняў да сябе ў дом і даваў жывакосту, то мы на гэта не надта крыўдзіліся: ён жа біў толькі вінаватага, а невінаватых не біў. Праўда, любіць мы яго не маглі, але і нянавісці таксама не адчувалі. Можна сказаць, што паміж намі былі добрасуседскія адносіны: ён дамагаўся толькі, каб мы не псавалі яму нерваў, і за гэта не ўмешваўся ў нашы ўнутраныя справы.

Калі ён уваходзіў у клас з суровым выглядам, высокі, дужы, рыжабароды, мы ўскаквалі на ногі са страхам. Аляксандр Сцяпанавіч клаў на стол класны журнал і станавіўся тварам да іконы. Пачыналася малітва перад урокамі. Калі палічыць ранішнюю агульную малітву, потым малітву перад снеданнем, затым пасля снедання, то гэта было чацвёртае маленне.

Заадно адзначым, што да канца дня заставаліся яшчэ наступныя малітвы: 1. Пасля ўрокаў, 2. Перад абедам, 3. Пасля абеду, 4. Перад чаем, 5. Пасля чаю, 6. Перад вячэрай, 7. Пасля вячэры і 8. Перад сном.

А я яшчэ, дзякуючы Залескаму, некаторы час маліўся саматужным спосабам (праз некалькі тыдняў гэтае богамаленне абрыдала і адпала).

Аляксандр Сцяпанавіч сядае за стол і разгортвае падручнік на тым месцы, якое сёння задана на ўрок. Потым бярэ журнал і доўга мяркуе, каго выклікаць. У класе наступае мёртвая цішыня — ні руху, ні дыхання.

— Малахоўскі! — кажа настаўнік.

З трыццаці дзевяці грудзей разам вырываецца дыханне за ўсе папярэднія хвіліны. Да стала выходзіць «тата», самы стары, самы вялікі, хоць і не самы разумны вучань. Ён пачынае расказваць пра Аляксандра Неўскага, а настаўнік, пазяхаючы, сочыць па кніжцы, ці правільна адказвае вучань. Потым перапыняе Малахоўскага:

— Пачакай, пачакай! Ты спачатку сказаў, што рускія пабілі немцаў, а потым ужо дадаў, што нямецкае войска было пастроена свіннёй.

Малахоўскі стаў тлумачыць:

— Я сказаў, значыць, што рускія, значыць, перамаглі таму, што рыцарскае войска, значыць, было пастроена свінней.

— Ты мне галаву не дуры! — раззлаваўся Аляксандр Сцяпанавіч.— У кнізе сказана ясна: «Лівонскія рыцары пастроілі сваё войска свінней, і Аляксандр Неўскі ўдарыў па іх...» Ды і па сэнсу так выходзіць: спачатку яны пастроілі войска, а потым мы ўдарылі, а ты, доўбня яловая, спачатку ўдарыў, а потым пастроіў.

— Ды я казаў тое самае...— зноў пачаў апраўдвацца Малахоўскі.

— Тое, ды не тое,— адрэзаў настаўнік.— Няма чаго мудрагеліць, рана яшчэ. Усё роўна лепш, як у кнізе, не адкажаш.

На гэты раз непаразуменне скончылася для Малахоўскага шчасліва, ён сяк-так адбубнеў урок і атрымаў тройку. Горш неяк раз здарылася са мною. Аляксандр Сцяпанавіч сапсаваў мне тады ўсё жыццё. Каб не ён, я пражыў бы спакойна ўвесь свой век без двойкі, а ён тады так несправядліва... Але раскажам усё па парадку.

Быў урок геаграфіі, зададзена было вывучыць пра Манголію. Як цяпер бачу перад сабой на левай старонцы кнігі дробныя літары: «Манголія вызначаецца сваімі кантрастамі. Удзень там вельмі горача, а ноччу бываюць нават замаразкі» — і яшчэ некалькі радкоў пра кантрасты паміж летам і зімой. Я так і сказаў, як было напісана. Але настаўнік раптам ускрыкнуў:

— Што? Што?! Манголы вызначаюцца кантрастамі?

— Я кажу, не манголы, а Манголія...

Але Аляксандр Сцяпанавіч, не слухаючы мяне, абураўся далей:

— Ці падумаў ты, якую бязглуздзіцу вярзеш? Якія кліматычныя кантрасты могуць быць у людзей? Сядай і ў наступны раз больш думай аб тым, што гаворыш.

І паставіў двойку. Крыўда ўзмацнялася яшчэ ад таго, што радкі аб кантрастах былі надрукаваны дробненькімі літарамі, а па нашых законах мы такія радкі і зусім маглі не вучыць. Яны ў падручніках надрукаваны так сабе, і звычайна сам Аляксандр Сцяпанавіч казаў, што дробныя літары вучыць не

трэба. А тут на маю галаву, нешта з ім здарылася. Цётка Генрыета ў такіх выпадках казала, што ён пасварыўся з жонкай.

Звычайна нашы ўрокі праходзілі мірна. У Аляксандра Сцяпанавіча быў такі абыякавы выгляд, што і нам рабілася ўсё роўна, дзе якія людзі жывуць, хто каго перамог у вайне і што там на небе круціцца: сонца вакол зямлі ці зямля вакол сонца. Тыдзень за тыднем праходзілі ціха, мірна, пакуль тая жонка не пастроіць Аляксандра Сцяпанавіча свіннёй.

Аднойчы ён выклікаў першым Васілеўскага, прычым назваў яго адразу, нават не паглядзеўшы ў журнал. Усе мы сцямілі, што гэта нездарма, што тут нешта будзе. І Васілеўскі, відаць, падумаў тое самае. Стараючыся надаць сабе вясёлы выгляд, ён выйшаў да стала.

Урок ён ведаў слабавата. А калі прыняць пад увагу, што і самому настаўніку вельмі хацелася даказаць, што Васілеўскі ўрока не ведае, то праз некалькі хвілін атрымалася двойка. Тады пачаўся допыт:

— А што ты рабіў учора вечарам? А куды ты хадзіў і па якой справе? Ці позна вярнуўся дадому?

І скончыўся допыт загадам:

— Пасля ўрокаў прыйдзеш да мяне.

Гэта азначала, што Васілеўскі атрымае жывакост. Я ўспомніў, як ён мяне «ахрысціў» у першы дзень, і падумаў: так табе і трэба! А ён, ідучы на сваё месца, весела падмаргнуў нам, нібы гаворачы: «Ага! Вось як у мяне, не тое, што ў вас!»

Калі ён пайшоў да загадчыка, я захацеў прасачыць за ім. Васілеўскі ўзышоў на ганак, паправіў кашулю, пояс, кашлянуў і знік за дзвярыма. Тады і я падняўся на ганак і стаў прыслухоўвацца. Я чакаў шуму, крыку, а пачуў толькі плясканне, і больш нічога, нібы нехта выбіваў пыл з коўдры. Калі Васілеўскі выйшаў і ўбачыў мяне, ён крыва ўсміхнуўся і сказаў:

— Глупства! Я нават не адчуў.

А праз некалькі хвілін я ўбачыў, як выйшаў і сам Аляксандр Сцяпанавіч. Ён быў спакойны, абыякавы, нібы ніякай экзекуцыі і не рабіў. Каб яго цяпер спытаў аб гэтай справе які-небудзь знаёмы, то загадчык, напэўна, адказаў бы:

— Які вучань? Нешта не памятаю.

## 5. «ЖУЛІКІ» І ПІРОЖНЫЯ

Два официанта в черных фраках и белых перчатках разносили сладости.

*С. Ковалевская.*
*«Воспоминания детства»*

Гаспадарка ў нас была немалая, але абслугоўваючага персаналу бадай-што не заўважалася. Дзяжурныя па спальні прыбіралі яе і мылі падлогу; тое самае рабілі дзяжурныя па класу і па майстэрні. Асабліва нагружаны былі дзяжурныя па сталовай: яны і стол накрывалі, і ежу прыносілі з кухні, і мылі пасуду, і сталовую прыбіралі, і дзяжурылі па кухні, дапамагаючы кухарцы. Усе гэтыя дзяжурствы, падзеленыя на невялікую колькасць вучняў, прыпадалі на кожнага з нас досыць часта. Але з усіх відаў працы найбольш абрыдала мыццё пасуды. У далейшым я больш за ўсё шкадаваў тых, каму даводзілася мыць пасуду.

Хоць наш загадчык быў абыякавы да нас, але паскардзіцца, што ён нас дрэнна харчуе, мы не маглі. Хіба толькі было малавата, калі давалі што-небудзь смачнае.

Першае месца сярод такіх рэчаў займалі тыя «жулікі», аб якіх мы ўжо казалі. І кожны раз то адзін, то другі вучань, а то і некалькі разам абыходзілі сталы і збіралі «даніну». Адны мелі па некалькі даннікаў, другія хоць аднаго.

Балюча было глядзець, калі хлапчук са слязьмі на вачах аддаваў сваю смачную булачку, а замест яе выцягваў з кішэні зашмальцаваны кавалак хлеба. Адны з іх былі закабалены на тыдзень-два, другія менш, а былі такія небаракі, якія не каштавалі свайго ласунку многа месяцаў.

Асабліва ўзненавідзеў я «чатырохкутняга» Людовіча.

— Ану, гані «жуліка»! — казаў ён, хіхікаючы і аблізваючыся, нібы збіраўся праглынуць і самога хлопчыка.

Большасць хлапцоў бралі даніну выпадкова і ў наступны раз самі маглі зрабіцца даннікамі, а Людовіч меў даннікаў заўсёды. Таму яго празвалі «баскакам» [1]. Пазней я даведаўся, што

---

[1] Баскакі — зборшчыкі даніны ў часы татарскай няволі на Русі.

ў яго былі досыць заможныя бацькі, якія часта прысылалі грошы.

Можна сказаць, што «жулікі» зрабіліся ў нас своеасаблівай валютай. Захоча бядняк што-небудзь купіць і прадае сваю порцыю за некалькі тыдняў наперад. А то бывала, што прайграюць адзін аднаму замест грошай.

Быў у нас рыжы, рабацяністы, вельмі жвавы і вельмі бедны хлопчык Андрук. Ён належаў да тых даннікаў, якія, мусіць, год аддавалі даніну. Аднойчы зайшла гутарка пра піражнае.

— Эх, каб пакаштаваць піражнага! — кажа адзін даннік.

— Што там пакаштаваць! — кажа другі.— Хоць бы раз у жыцці наесціся. Я адразу з'еў бы шэсць штук.

— А я дзесяць!

— А я дванаццаць! — крыкнуў Андрук.

Падышоў Людовіч і кажа:

— Давай аб заклад! Я стаўлю дванаццаць піражных. Калі з'ясі — на здароўе. Калі не з'ясі — аддаеш дваццаць «жулікаў».

Андрук падумаў трохі, а потым недаверліва спытаў:

— А ты сур'ёзна гаворыш?

— Зусім сур'ёзна.

— Не адступішся назад?

— Магу зараз даць грошы, каму скажаш.

— А магу я сам выбраць час, калі мне есці?

Цяпер ужо Людовіч задумаўся. Мы, сведкі, таксама прынялі ўдзел у абмеркаванні. Справа, сапраўды, была не такая простая, як здавалася з першага погляду. А што, калі Андрук нагул не будзе есці адзін, два дні, а то і болей? Тады ён здолее з'есці не толькі дванаццаць, а можа, і ўсе дваццаць піражных. З другога боку, калі ён будзе есці пасля абеду, то, магчыма, не з'есць і пяці. Андрук жа толькі пасмейваўся: ён адчуваў, што дванаццаць піражных можна з'есці адным махам і перад абедам, і пасля абеду, і калі хочаш, абы толькі Людовіч не адмовіўся.

А Людовіч, як відаць, меў некаторы вопыт, бо інакш не рызыкаваў бы грашыма. Калектыўна вызначылі час сярэдні паміж абедам і вячэрай і без ніякай падрыхтоўкі. Нехта паста-

віў пытанне, ці можна будзе запіваць піражныя вадой, але Людовіч не згадзіўся.

— Ты можаш піць колькі ўлезе пасля таго, як з'ясі, а не ў час яды,— катэгарычна заявіў ён.

Праз паўгадзіны ў сталовай на стале стаяла кардонка з дванаццаццю піражнымі. Мы згрудзіліся навокал і пазіралі на іх, як каты на сала. Большасць з нас зайздросцілі Андруку: пашанцавала ж яму. І зусім дарма, і піражныя выбраны самыя лепшыя, крэмавыя.

Калі Андрук еў першыя тры піражныя, мы глядзелі на яго, глытаючы слінкі. Калі еў пятае, мы падбадзёрвалі крыкамі:

— Ну, ну! Смялей!

— Давай, давай! Пхай, брат!

— Чаго крывішся: гэта ж так смачна!

Калі ён дайшоў да сёмага, мы ўжо не смяяліся, не крычалі, не зайздросцілі,— мы спалохаліся. Андрук круціўся, як на агні, у шырока расплюшчаных вачах яго была такая пакута, што не смяяцца нам хацелася, а плакаць. Раптам ён паваліўся тварам на рукі, а потым выбег вон. У кардонцы засталося пяць некранутых піражных, а на стале валяўся недаедак.

Мы стаялі ашаломленыя.

Што ж гэта такое? З'еў толькі шэсць! Ды я адразу з'еў бы ўсе дванаццаць!..

А Людовіч тым часам падлічваў вынікі аперацыі. Атрымалася такая карціна: за піражныя ён заплаціў трыццаць шэсць капеек, выйграныя «жулікі» каштавалі сорак ды яшчэ засталося пяць з паловай піражных, якія Людовіч мог есці без ніякага прымусу. Нічога, жыць можна!

У далейшым яшчэ не раз бывалі такія «спаборніцтвы». Вопыт паказаў, што нельга брацца за крэмавыя піражныя. Мяняліся і ўмовы закладу. І калі стаўка піражных была зніжана да дзесяці ды зменшана колькасць крэмавых, то Васілеўскі выйграў і на некалькі дзён лёг у пасцелю.

Але хадзілі чуткі, што ў гісторыі вучылішча ўсё-такі быў выпадак, калі нехта з'еў усе дванаццаць.

Аднак Андрук меў і пэўную карысць ад свайго няўдалага подзвігу: ён так узненавідзеў піражныя, што пасля таго нават

глядзець не мог на іх. Заставалася толькі шкадаваць, што ён не адчуваў такой жа нянавісці да тых «жулікаў», якія павінен быў аддаваць на працягу двух-трох месяцаў.

Гандаль гэтымі булачкамі паказаў мне, што мае таварышы зусім не панскія дзеці, як мне здалося спачатку, а такая самая бедната, што і я. Багаты Людовіч быў выключэннем, і не таму, што яго бацькі былі вельмі багатыя, а таму, што сынок меў здольнасць захоўваць свае грошы і пускаць іх у абарот. Большасць вучняў за ўсе гады навучання ніадкуль не атрымлівалі ні капейкі дапамогі.

Вось чаму заўсёды было больш ахвотнікаў прадаць свае «жулікі», чым купляць іх.

Давялося і мне некалькі разоў прадаваць. Два выпадкі я памятаю добра.

У першым выпадку справа ішла аб тым, каб змайстраваць сабе дасканалы сшытак для запісаў у часе падарожжа вакол свету. У такім падарожжы будзе шмат шансаў трапіць і пад дождж, і проста ў ваду, і нават пад ваду. А каб захаваць каштоўныя запісы, трэба было зрабіць сшытак надзейны, непрамакальны. Такі сшытак я зрабіў сабе сам, але за гэта мне прыйшлося адмовіцца на пэўны час ад «жулікаў».

Другая аперацыя абышлася мне лёгка: я выплачваў «даніну» толькі два тыдні, але след у душы застаўся ад яе нават большы, чым ад сшытка. Факт быў такі прыкры, што і расказваць не хочацца. Калі збяруся з духам, можа, раскажу пазней.

## 6. ЦАРКОЎНЫЯ ПРЫГОДЫ

> Я и во храме разделял, когда какому богу молятся: всё, что читают священник и дьячок,— это дедову богу, а певчие поют всегда бабушкину.
>
> *М. Горький. «Детство»*

Колькі часу мы правялі ў турме?

Так, іменна ў турме! Калі ўспамінаеш, то здаецца вельмі многа, а калі падлічыш, то выходзіць — не больш за два-тры тыдні.

Як і ўсе вучні, мы павінны былі хадзіць у пэўную царкву. І вось на нашу няшчасную долю выпала царква турэмная.

Выстраіўшыся ў калону, мы ідзём прама ў турму. Жалезная брама з грукатам зачыняецца за намі; мы ідзём па змрочных пераходах, лесвіцах і трапляем у царкву, цёмную, страшную, нібы склеп які. Мігцяць слабенькія агеньчыкі свечак, вырываючы з цемры золата «царскіх врат» і ікон. Высока пад столлю святлеюць маленькія вокны з кратамі. На задняй сцяне, як у тэатры, выступае балкон.

Мы былі тут сотні разоў і ўдзень — на «абедні», і ў зімовы вечар — на «ўсяночнай», але ў памяці засталася толькі ноч. Здаецца, дня ў турме ніколі не было.

Чалавек дзесяць нашых харыстаў станавіліся на клірасе, рэшта вучняў без разбору, ці праваслаўны ён, ці католік, ці які іншы, выстройвалася ля правай сценкі. Каля нас станавіліся вольныя людзі з ліку службовага персаналу турмы.

Уся левая палавіна царквы шчыльна запаўнялася арыштантамі. Але трэба адзначыць, што гэтыя арыштанты былі нястрашныя, так званыя «дробныя».

Нарэшце, калі ўсе займалі свае месцы, недзе высока і далёка чуўся грозны тупат, грукат і бразгатанне жалеза. Шум набліжаўся, узмацняўся і, нарэшце, напаўняў усю царкву: гэта азначала, што на балкон прывялі катаржнікаў з ланцугамі. Свяшчэннік павінен быў чакаць некалькі хвілін, пакуль шум сціхаў.

Я заўсёды спяваў на клірасе, бо ў мяне быў ужо значны харавы вопыт. Мы мелі некаторую перавагу перад радавымі малельшчыкамі. Тыя павінны былі ўвесь час стаяць у радах нерухома, а мы маглі і варушыцца, і смяяцца, а то і садзіцца на падлогу, калі наш кіраўнік, рэгент, быў свой чалавек. Праўда, за гэтую вольнасць мы павінны былі плаціць шматгадзіннымі спеўкамі, рэпетыцыямі.

Першыя словы малітвы нібы абуджалі на балконе мілагучны звон соцень «званочкаў»: хрысціліся катаржнікі. І ў далейшым гэтыя званочкі суправаджалі богамаленне.

Але вось мы даходзім да вышэйшага пункту абедні, да «Иже

херувимы». У час спявання гэтай малітвы ўсе павінны станавіцца на калені. Рэгент матае нам галавой і кажа:

— Ну, хлопцы, не збіцеся з такту. Сачыце за рукой і крычыце на ўсё горла.

Як толькі мы пачыналі, страшэнны грукат аглушаў і нас, і свяшчэнніка, і ўсіх прысутных. Дзесяткі ног і ланцугоў грукалі аб дашчаную падлогу балкона, як у пустую бочку. Здавалася, вось-вось столь абрынецца на галовы малельшчыкаў. А праз некалькі хвілін зноў пачынаўся такі самы грукат: гэта катаржнікі падымаліся на ногі. Некаторы час чуліся толькі ціхія званочкі, а потым зноў пачынаўся грукат.

І так некалькі разоў. Спачатку такая музыка здавалася дзівоснай і перашкаджала нам, а потым мы прывыклі і адчувалі сябе няёмка ўжо тады, калі рабілася ціха.

Аднак наш загадчык, відаць, разумеў, што трымаць нас увесь час у асяроддзі арыштантаў не вельмі добра. Таму нас у некаторыя святы вадзілі ў гарадскі кафедральны сабор.

Там мы маглі бачыць ужо не арыштантаў, а самых разнастайных паноў; там мы маглі бачыць жывога архірэя, сачыць, як яго апранаюць, як ён прымае ўдзел у набажэнстве. Там мы ў часе службы разглядалі царкоўнае багацце і слухалі архірэйскі хор. Там мы пакідалі і свае грахі, гэта значыць, спавядаліся.

Перад вялікаднем нас вадзілі туды цэлы тыдзень. Дзеля гэтага нам выдалі новае адзенне: штаны і кашулі, аб якіх нават варта сёе-тое сказаць.

Калі наша форменнае паліто з чорнага сукна, з сінімі кантамі, рэменем і спражкай «РУ», такая ж форменная шапка і боты мелі франтаваты выгляд, то ў новым вясеннім убранні франтамі назваць нас ні ў якім разе было нельга.

Справа ў тым, што гарнітуры нашы былі пашыты з бумазеі і прытым такога колеру, які наўрад ці мог каму-небудзь спадабацца — рудога з белымі кружочкамі. Калі нам, малым, яшчэ было нічога, то паспрабуйце ўявіць, які выгляд меў «тата» Малахоўскі ці доўгі Людовіч. Добра яшчэ, што бумазея была цёплая, мяккая і з такім машастовым пухам, што хацелася гладзіць яго бясконца. Каб гэты пух захаваць надоўга, то можна было б прымірыцца і з колерам.

На вялікі жаль, машастовы пух быў вельмі нетрывалы, і ў гэтым мы пераканаліся праз некалькі гадзін.

Быў позні вечар. У саборы ішло ўрачыстае набажэнства. Паколькі электрычнасці не было, усё асвятленне давалі свечкі. І хоць дзеля «вялікага чацвярга» бадай усе малельшчыкі, у тым ліку і мы, трымалі ў руках маленькія свечачкі, агеньчыкі ад іх асвятлялі толькі невялікую прастору вакол сябе, а далей панаваў таямнічы змрок.

Мы стаялі ў чатыры рады ў самым цёмным кутку паміж калонамі. Нашы агеньчыкі здаваліся светлымі кропкамі на цёмным фоне.

Наступіў самы ўрачысты момант: цэлая працэсія свяшчэннікаў у залатых рызах і дыяканаў выйшла на сярэдзіну царквы. Усе вочы накіраваліся ў той бок. І раптам пачуліся жаночыя крыкі:

— Ай, ай! Гарацъ! Глядзіце, ратуйце!

Гэта гарэла наша першая шарэнга. Агонь мякка шугаў па нашым святочным убранні ад верху да нізу і з адных плеч на другія, але шарэнга мужна стаяла нерухома, не звяртаючы ўвагі на агонь. Потым і я, стоячы ў другім радзе, адчуў вакол сябе прыемную цеплыню.

Але наш агонь дайшоў толькі да сярэдзіны шарэнгі, бо там стаяў Андрук, ужо абсмалены дома. Тады Вялічка з трэцяй шарэнгі нібы незнарок падпаліў наступнага, і агонь дайшоў да канца.

Адначасова гарэла і трэцяя шарэнга. Толькі чацвёртую не было каму падпальваць ззаду; тады левафлангова Васілеўскі геаічна падпаліў самога сябе.

Народ і служыцелі царквы не ведалі, што рабіць: як ім ратаваць вучняў, калі яны стаяць сабе спакойна і пасмейваюцца. Але нічога прыдумаць не паспелі, бо пажар хутка скончыўся і ўсе супакоіліся. Толькі праз хвіліну пачуўся пах смаленага, і адзін з вучняў ціха войкнуў: у яго недзе пад пахай зачапіўся агонь.

Не памятаю, каб ад гэтага страху была непрыемнасць каму-небудзь з нас. Што тут дзіўнага, калі якая-небудзь з сарака свечак матнулася і незнарок падпаліла адзенне. А для нас такое

абпальванне было справай звычайнай: смалілі мы адзін аднаго і да гэтага часу і пасля таго. А калі нейкім чынам хто-небудзь заставаўся некранутым, то ўсе мы палявалі на яго, як на дзічыну.

## 7. КУЛЬТМАСАВАЯ РАБОТА

> ...Как мила была Сонечка Валахина, когда она против меня танцевала французскую кадриль с неуклюжим молодым князем.
>
> *Л. Толстой. «Детство»*

Я даўно прыглядаўся да аднаго нашага вучня з кравецкага цэха, па прозвішчы Вялічка. Увесь яго выгляд сведчыў, што ён не такі просты мужык, як мы. Твар яго быў пульхны, белы, авальны рот і нос маленькія, а чорныя вочы вялікія. Хоць усім нам стрыглі галовы пад машынку, ён ухітраўся захоўваць чорны чубок над ілбом. І ў дадатак да ўсяго гэтага ў яго была чорная панская барадаўка на левай шчацэ каля носа.

І паводзіны яго адрозніваліся ад нашых. Ён не лаяўся, не біўся з таварышамі, ён калоў нас сваімі словамі. Хадзіў, горда падняўшы галаву і выставіўшы наперад грудзі. Таму я доўгі час баяўся падступіцца да яго і лічыў за шчасце, калі ён сам звяртаўся да мяне.

Да таго ж хадзілі чуткі, што ён мае нейкае дачыненне да губернатара. Ён прыносіў нібы ад губернатара такія цацкі, якія нікому з нас і не сніліся.

Вось ужо шосты дзесятак гадоў стаіць перад маімі вачыма каробачка, а на ёй танцуюць вальс лялькі, танцуюць самі, як жывыя. Вялікае ўражанне рабілі і карэты з коньмі, якія таксама ездзілі, калі іх накруціш. Мы так захапляліся гэтымі цудамі тэхнікі, што пачыналі марыць.

— Вось каб сапраўды вазы маглі ездзіць самі! — летуценна кажа Рамашка.

— Мінулі тыя часы, калі самі колы каціліся і дываны-самалёты лятал! — адказвае разважлівы Хахлоў.

— А можа, калі-небудзь так і будзе? — нясмела кажа Васілеўскі.— Ходзяць жа паязды самі.

— Дык яны ходзяць па рэйках, і іх вядзе паравоз. А ты хочаш, каб самі карэты па вуліцах ездзілі. Ха-ха-ха! — засмяяўся, падышоўшы, Людовіч.

І ўсе мы смяяліся з гэтай недарэчнай фантазіі.

Яшчэ больш цікавымі былі розныя гульні, пра якія мы нават не чулі, напрыклад, «блошкі» або падарожжы з перашкодамі. Дзіўным было яшчэ тое, што гульняў і цацак Вялічка прыносіў многа і ўсе яны былі незвычайныя і вельмі дарагія. Калі я пытаўся, адкуль ён бярэ такія багацці, хто яму такія цацкі купляе, ён са смехам адказваў:

— Губернатар!

А праз некаторы час я пераканаўся, што гэта было праўдай, што ўсе гэтыя цацкі сапраўды купляў сам губернатар. Сястра Вялічкі служыла ў яго за няньку, сам Вялічка часта хадзіў у дом губернатара і прыносіў адтуль падарункі.

Толькі значна пазней я сцяміў, як ён атрымліваў «падарункі», а ў той час я шчыра верыў, што мой таварыш быў сваім чалавекам у губернатарскім доме.

Як я зайздросціў яму, як ганарыўся тым, што вучуся з ім у адным вучылішчы! Калі ж я распытваў, які выгляд мае губернатар, як жыве, што есць і гэтак далей, то Вялічка з сур'ёзным выглядам адказваў, што губернатар жыве ў залатым пакоі, жывіцца толькі аднымі піражнымі, што калі ён распранецца, то ззаду відаць хвост («Я сам бачыў!»), а на нагах капыты...

Гады тры назад я, мажліва, паверыў бы такім байкам, а цяпер ужо не верыў. Але мне крыўдна было, што свой таварыш і не хоча казаць мне праўду.

Затое ён сур'ёзна навучаў нас, як трэба жыць па-панску.

...Мы сядзелі ў сваім «клубе» на ганку, які мог змясціць ад сілы чалавек восем. Ганак меў тую перавагу, што сюды ніколі не заглядвала начальства, а недахоп быў той, што над столлю жыло безліч пацукоў. Часам яны так пішчалі, што спынялі размову.

— Вось што, браточкі,— казаў нам Вялічка,— годзе жыць

па-мужыцку, давайце жыць па-панску. Я вам дапамагу, бо ведаю, як трэба жыць. Перш за ўсё нельга сядзець і хадзіць згорбіўшыся. Будзем трымаць сябе заўсёды прама, выставіўшы грудзі наперад, і няхай кожны з нас сочыць за іншымі.

Гэтая ідэя вельмі захапіла Капыльскага з шавецкага цэха; ён заўсёды захапляўся чым-небудзь.

— Прапаную,— крыкнуў ён,— штрафаваць на аднаго «жуліка» таго, хто згорбіцца!

— А хто будзе есці гэты штрафны «жулік»? — спытаў Хахлоў.

Мы здзіўлена паглядзелі адзін на аднаго, а потым на Капыльскага. Той пачасаў патыліцу і сказаў няўпэўнена:

— Ну, той, хто заўважыць.

Мы падумалі, падумалі і вырашылі: непрыгожая будзе справа і ніхто з нас не захоча есці здабыты такім чынам хлеб. Будзем трымаць сябе прама без ніякага штрафу.

Я ж адчуў вялікую палёгку ад слоў Вялічкі: значыцца, ён ходзіць, задраўшы галаву, не таму, што ганарыцца, а таму, што вучыцца хадзіць па-панску.

З таго часу члены нашага гуртка ўсюды стараліся трымаць сябе прама, і, мусіць, кожны не раз парадаваўся, што была адхілена прапанова штрафаваць. І больш за ўсіх быў задаволены сам Капыльскі.

Другі раз Вялічка расказаў, што паны штодня чысцяць сабе зубы шчотачкай з мелам і нават малога сына губернатара прымушаюць чысціць.

Пры абмеркаванні пытання ўзніклі некаторыя цяжкасці.

Па-першае, навошта наогул чысціць зубы? Яно і непрыемна, і непатрэбна; ніхто нідзе іх не чысціць, а яны застаюцца такімі самымі.

Па-другое, для гэтага патрэбна зубная шчотачка, а дзе яе дастаць, колькі «жулікаў» яна можа каштаваць? Ды і нязручная ўся гэта аперацыя. Не, абавязацельства мы на сябе не возьмем, няхай добраахвотна чысціць той, хто хоча.

Затым было высунута пытанне аб тым, каб трымаць у парадку ногці, чысціць і абразаць іх. Прынцыповых пярэчанняў супраць гэтага ніхто не меў, толькі наконт ножычка справа

была няпэўная. Мала хто меў яго, а кожны раз шукаць і прасіць было вельмі непрыемна. А калі купіць, то, можа, за цэлы год прыйдзецца аддаць «жулікі». Пастанова была такая: абразаць кіпцюры ці абдзіраць іх, хай кожны робіць як хоча, а чарнату пад ногцямі кожны будзе вычышчаць у абавязковым парадку.

Многа важных пытанняў вырашалася ў нашым клубе ў парадку самавыхавання. Мы, напрыклад, захацелі вынесці пастанову, каб заўсёды казаць праўду. Пра гэта нам даўно гаварылі настаўнікі, і свяшчэннікі, і запаведзі ў кнізе, але ўсё гэта былі разважанні казённыя.

Мы пастанавілі самі вырашыць гэтыя пытанні. Усе мы былі добрымі і шчырымі хлопцамі і нічога не мелі супраць таго, каб заўсёды казаць праўду, але адразу натрапілі на перашкоды.

— Нельга заўсёды казаць праўду,— катэгарычна сказаў Хахлоў.— Вось нядаўна мяне злавіў Аляксандр Сцяпанавіч, калі мы з Янкам лазілі на заводскі двор. Ён адразу спытаў, хто яшчэ са мною быў. Я, вядома, сказаў, што нікога са мною не было. Ці правільна я зрабіў?

— Правільна! — быў дружны адказ.

— Значыцца, трэба было казаць няпраўду?

— Трэба!

— У такім разе пастановім гэтак: мы абавязуемся заўсёды казаць праўду, апрача тых выпадкаў, калі прыходзіцца выдаваць таварыша.

Гэта сказаў Рамашка з кравецкага цэха, ціхі, задумлівы хлопец з круглым тварам і вельмі блакітнымі вачыма.

Тады паўсталі новыя пытанні: а калі гэты таварыш зрабіў якую шкоду?

Пытанні нарасталі, ускладняліся, блыталіся, і ніякай пастановы мы так і не маглі прыняць.

У другі раз абмяркоўвалася пытанне, як быць сумленнымі, і зноў мы пачыналі дыскусію. Ахвотнікаў удзельнічаць у такіх дыскусіях было мала, бо нічога канкрэтнага яны не давалі. Не ўдзельнічаў нават мой любімы друг Залескі: ён знаходзіў

адказы ў сваёй набожнасці, не казённай, а ўласнай. З гэтага пункту ён і мне даў адказ на пытанне аб праўдзе:

— Няпраўда паганіць вусны чалавека. Калі па якой-небудзь прычыне не можаш сказаць праўды, то лепш маўчы.

Вядома, не заўсёды мы вырашалі такія высокія пытанні. Куды больш мы займаліся гульнямі, якія Вялічка прыносіў ад губернатарскага сына. Гэтыя цікавейшыя выхаваўчыя гульні ў той час далі нам карысці, можа, больш, чым усе дыскусіі.

Аднаго разу Васілеўскі прынёс у клуб рэвальвер, сапраўдны, з круглым барабанам, толькі без патронаў. Узяў у свайго брата ці што. Ён нацэльваў яго то на аднаго, то на другога з нас і шчоўкаў курком. Апошні раз нацэліў на мяне, але ў гэты момант над нашымі галовамі пацукі ўзнялі шум і піск, нават хвост аднаго з іх прасунуўся з шчыліны. Васілеўскі зараз жа перавёў свой рэвальвер на іх і спусціў курок. Грымнуў стрэл, і пачуўся новы пранізлівы піск: гэта нейкі невядомы пацук аддаў сваё жыццё за мяне...

Свабоднае і змястоўнае жыццё было ў нашым клубе плошчаю ў чатыры квадратныя метры.

Было ў нас адно шырокае поле дзейнасці, на якім мы з гонарам выступалі перад усім насельніцтвам нашага горада. На нас ляжаў пачэсны абавязак асвятляць гарадскі сад і тэатр у час урачыстых святаў.

Гарадскі сад і тэатр здаваліся мне найвялікшымі, найбагацейшымі стварэннямі рук чалавека. Пазней мне давялося бываць у многіх губеранскіх гарадах, і мяне вельмі здзіўляла тое, што ўсе гарадскія сады і тэатры былі акурат такія самыя, як наш.

Убраныя ў сваю сінюю форму, мы ўваходзілі ў гарадскі сад, як у сваю ўласную гаспадарку. Загадзя было прывезена і складзена недзе за тэатральнай сцэнай шмат скрынак з глінянымі плошкамі. Плошкі былі напоўнены, як казалі, сабачым тлушчам з кнотам пасярэдзіне. Мы павінны былі тысячы такіх плошак размеркаваць па дарожках саду, па розных ра-

мах, фігурах і па фасаду тэатра. Вечарам мы ўсе гэтыя плошкі запальвалі.

З якім гонарам хадзілі мы з факеламі сярод публікі і стваралі гірлянды агнёў на зямлі, фігуры звяроў, абрысы караблёў і ўсялякія іншыя цуды. І фасад тэатра асвятляўся ад зямлі да даха вогненнымі гірляндамі і ліхтарамі. Усё гэта рабілі мы, сваімі рукамі, і ўвесь народ глядзеў на нас.

За ўсё гэта нам у той ці іншы дзень паказвалі ў тэатры такія цуды, якія запомніліся на ўсё жыццё. Напрыклад, жывыя карціны. Групы людзей, апрануўшыся ў адпаведныя касцюмы, станавіліся на сцэне, як перад фотаапаратам або як намалявана на якой-небудзь вядомай карціне. Падымалася заслона, пражэктар накіроўваў на групу свае праменні, а яна павінна была стаяць нерухома, пакуль публіка наглядзіцца.

Цяжка было небаракам так стаяць! Я гэта добра ведаю, бо і мне не раз даводзілася стаяць у такіх жывых карцінах.

Вялікае ўражанне пакінулі яшчэ так званыя «туманныя» карціны. Чаму яны называліся туманнымі, ніхто не ведаў, і ніякага туману мы не заўважалі. Чалавек чытаў на сцэне кнігу «Тарас Бульба», а на экране праз «чароўны ліхтар» паказваліся карціны, такія самыя, як намаляваныя ў кнізе.

Немагчыма апісаць тое ўражанне, якое яны на нас рабілі,— куды большае, як цяпер кіно.

А то пакажуць толькі паасобныя карціны, без кнігі. І тут нам давялося бачыць такія цуды, аб якіх і марыць ніхто не мог. На экране паказалі клубок шпагату з дзіркай пасярэдзіне. І раптам гэты клубок пачаў выкручвацца з сярэдзіны на бакі. Гледачы аж закрычалі ад захаплення.

А ўслед за тым пачалося яшчэ большае захапленне. На экране з'явілася рэчка з кустамі па берагах. Побач стаялі хаткі з людзьмі каля іх. Ля берага была лодка, а ў ёй стаяў чалавек з вяслом у руцэ. Выгляд ён меў такі, нібы быў выразаны з паперы.

Раптам лодка кранулася з месца і штуршкамі накіравалася да другога берага. Ні чалавек, ні вясло ў яго руках не рухаліся, але лодка маленькімі скачкамі дабралася да другога берага.

Колькі гаворкі было аб такім вялікім дасягненні навукі і тэхнікі! Асабліва ў нашым клубе. Вялічка горача казаў:

— Я ўпэўнены, што прыйдзе такі час, калі на карціне ўсё будзе рухацца, як у сапраўднасці.

Скептычны Хахлоў толькі дадаў насмешліва:

— Не толькі ўсё будзе рухацца, але і гаварыць, спяваць, граць, а мы будзем сядзець сабе, глядзець і слухаць.

Усе засмяяліся і пачалі фантазіраваць, як каму ўзбрыло ў галаву...

Але сёння можна сказаць, што ўся наша фантазія, узятая разам, не магла намаляваць і сотай долі таго, што мы ўбачылі ў канцы нашага жыцця...

Некалькі разоў мы бачылі і спектакль у тэатры. Але тут нам не давяралі запальваць агні, як знадворку. Замест плошак тут былі свечкі. Іх запальвалі самі тэатральныя служыцелі. Для гэтага ў іх руках былі даўжэзныя вудзільны, якія дасягалі ад нізу да галёркі і да кандэлябраў пад столлю. На канцах вудзільнаў былі прымацаваны запаленыя свечкі.

Убачыўшы гэтую работу, мы зразумелі, чаму нам не давяралі яе: каб запаліць сваёй свечкай свечку на такой вышыні, што і разгледзець яе немагчыма, патрэбны былі здольнасці большыя, чым у акцёраў на сцэне, і шматгадовая практыка. Гасілі свечкі такімі ж вудзільнамі, толькі з калпачкамі, загнутымі ўніз.

Цяпер прыйдзецца сказаць некалькі больш аб нашым «Приказе Общественного Призрения». Гэтае ведамства, якое атрымала сваю назву з кацярынінскіх часоў, займалася выхаваннем дзяцей-сірот або проста бедных у «прыютах» (дзіцячых дамах). Шэфам усіх такіх устаноў лічылася «яе імператарская вялікасць удовая гасударыня імператрыца Марыя Фёдараўна», маці цара Мікалая II.

У нашым горадзе і быў такі асноўны «прыют», дзе вучыліся хлопчыкі і дзяўчынкі. А мы былі, так сказаць, філіялам гэтага «прыюту». Мы і нашы таварышы з «прыюту» складалі нібы адну сям'ю і мелі агульныя інтарэсы. Паміж іншым, мы ім і адзенне шылі, і абутак, і ложкі рабілі.

Апрача таго, так званыя «царскія дні» і наогул вялікія

святы мы святкавалі разам. На гэты час злучаліся нашы хоры — мы прыходзілі да іх на спеўкі, а потым выступалі то ў іх на вечары, то ў тэатры на ранішніках; разам з імі мы ўдзельнічалі ў жывых карцінах. Толькі ў нашым вучылішчы чамусьці ніякіх вечароў не было.

Як цяпер памятаю нашы спеўкі. Стаялі мы шырокай дугой. Я быў на левым канцы яе, і вакол мяне заўсёды былі хлопчыкі, а насупраць стаялі дзяўчынкі, чысценькія, прыгожанькія, у белых фартушках, склаўшы наперадзе ручкі. І сярод іх была адна, якую я не забуду да самай смерці. Зграбненькая, чорненькая, з вялікімі вачыма і густымі бровамі, яна была прыгажэй за ўсіх у свеце, а гадоў ёй было дзесяць-адзінаццаць.

Я адчуў, што мне хочацца на яе глядзець, глядзець, глядзець... Я і пачаў глядзець. Гляджу месяц, другі, гляджу трэці, гляджу год, а яна мяне і не заўважае. Але я не сумую: хапае мне і таго, што я магу на яе глядзець. Праз месяц ці праз год яна ўсё ж такі на мяне зірнула сваімі цудоўнымі вачыма, але адразу ж адвяла іх убок. Вядома, я зусім непрыгожы, а яна такая цудоўная, такая, што і сказаць нельга.

Першае сардэчнае гора сціснула мне сэрца. Хоць потым яна часцей пазірала на мяне, але кожны раз, нібы спалохаўшыся, адводзіла вочы. Ды і як магло быць іначай, калі я такі брыдкі, а яна...

У часе перапынкаў ці на вечарах або на жывых карцінах я спрабаваў наблізіцца да яе, але бліжэй пяці крокаў падысці мне не ўдавалася — не хапала духу. Праз год ці два неяк выпадкова мне трапілася апынуцца перад ёю крокі за два, але яна не толькі не захацела глядзець на мяне, а проста ўзяла ды пабегла. Ну як пасля таго было жыць на свеце? З нянавісцю ўспамінаў я таго пацука, які выратаваў мне жыццё. Навошта яно мне, калі я такі брыдкі...

У той жа дзень я падышоў да ненавіснага Людовіча і сказаў:

— Можа, купіш у мяне «жулікаў» за два тыдні?

— А навошта табе грошы?

— Гэта ўжо мая справа,— адказаў я замагільным голасам.

На другі дзень я пайшоў у «манапольку», купіў «мярзаўчык» гарэлкі за пяць з паловаю капеек, зайшоў за дом і выпіў адным махам...

Затым дабраўся да сквера, дзе адбывалася наша грамадская дзейнасць і дзе я не раз бачыў «яе» на адлегласці менш дзесяці крокаў, сеў на лаўку і стаў пакутаваць. Што сэрца маё было разбіта навек — гэта факт, але паміраць мне зараз не вельмі хацелася. Можа, таму, што дрэвы зелянеліся вясеннім лісцем і што праз тыдзень я спадзяваўся яшчэ раз убачыць яе.

Паступова мае пакуты перакінуліся ў другі бок. Я ўспомніў маму, а потым татку, якога я не памятаў, хоць ён, здаецца, і цяпер недзе жыве. А чаму так выйшла? Таму, што ён любіў піць гарэлку. А я ж яго сын і таксама вось напіўся. А што будзе са мной, калі я вырасту? Мусіць, памру дзе-небудзь пад плотам. Эх, жыццё наша рабочае, няшчаснае!..

Ішлі месяцы, гады, а я ўсё глядзеў на Марусю, усё набіраўся духу падысці да яе, сказаць якое-небудзь слова, а самае галоўнае — пачуць хоць раз яе голас. Ішлі гады, дзесяцігоддзі, а мне так і не давялося пачуць яе.

Зайздрошчу я маім сынам і ўнукам! Яны маглі і могуць не толькі размаўляць з дзяўчаткамі, але і сядзець з імі разам на адной парце, нават цягаць іх за косы. А нам тады нічога такога рабіць нельга было.

## 8. «ОТ ПОЦЕЛУЯ К ПОЦЕЛУЮ...»

> Гувернантка никогда не позволяет мне прочесть какую-нибудь книгу, даже предназначенную для детей, не прочтя ее предварительно сама...
>
> *С. Ковалевская. «Воспоминания детства»*

У нашым вучылішчы бібліятэкі не было. Не чуў я, каб яна была і ў нашым «прыюце». Мы не ведалі ніякіх кніг, апрача падручнікаў, і ніхто нам не раіў чытаць кнігі наогул.

Але Вялічка прыносіў нам кніжачкі ад губернатарскага сына. Шкада, што гэты сын быў маленькі, таму і кніжкі былі для маленькіх — усё казачкі ды вершыкі. Але яны нам падабаліся, тым больш, што малюнкі ў іх былі вельмі прыгожыя і цікавыя.

Больш за ўсё нас уразіў Мурзілка, гэткі чалавечак з пальчык велічынёй. У яго было многа такіх жа самых таварышаў, напрыклад, Заечая Губа, доктар Мазь-Перамазь і ўсялякія такія дзівакі. Іхнія прыгоды друкаваліся ў часопісе «Задушевное слово» для дзяцей малодшага ўзросту. А мы захапляліся ўсе, уключаючы і «тату» Малахоўскага. Але далей за Мурзілку мы доўгі час не маглі пасунуцца.

І вось аднаго разу Вялічка абвясціў:

— Вось што я вам скажу: будзем браць кнігі з гарадской бібліятэкі.

— Дык за гэта плаціць трэба,— адказаў Хахлоў.

— А мы папросім Аляксандра Сцяпанавіча, няхай заплаціць казённымі грашыма.

— Казённымі?! — здзівіліся мы ўсе.— Навошта ён будзе плаціць за нас?

— А хто пойдзе да яго? — спыталіся мы.

— Ды я сам пайду! — адказаў ён.

— А калі замест грошай ён дасць табе жывакосту? — спалохана спытаў Рамашка.

— Гэта мы яшчэ паглядзім! — задзірыста адказаў Вялічка.

Ну і храбры быў ён! Нічога не баяўся. Адразу відаць, што з губернатарам меў справу.

Усім гуртам правялі мы нашага дэлегата да ганка загадчыка. Вялічка кашлянуў, паправіў свой рэмень, падцягнуў кашулю і ўвайшоў у дом. Мы стаілі дыханне. Чакалі, што вось-вось пачуецца свіст жывакосту і крыкі.

Але ўсё было ціха.

Нарэшце Вялічка выйшаў, задаволены, вясёлы. У руках ён трымаў грошы і паперу.

— Няўжо даў? — радаваліся мы.— Што ён казаў?

— Ды нічога. Спачатку нібы не чуў, потым паглядзеў у

акно і памаўчаў. Потым сказаў: «Ну, добра». Потым напісаў паперку і даў грошы на дзве кнігі.

I зноў мы ламалі галаву: добры наш загадчык ці нядобры?

— Яму, відаць, усё роўна,— задуменна сказаў Хахлоў.

— Вось каб толькі ён не біўся,— ціха прамовіў Рамашка.

— Ды і тады яму ўсё роўна,— паўтарыў Хахлоў нашу агульную думку.

Калі Вялічка прынёс дзве кнігі, выбраныя па сваім гусце, то ўсе спачатку накінуліся на іх, а потым адзін за адным адышлі прэч, бо кнігі былі досыць тоўстыя, без малюнкаў, густа надрукаваныя, зусім не падобныя на Мурзілку.

I доўгі час мы не цікавіліся кнігамі, як не цікавіўся і наш выхаваўца. Ён выканаў свой абавязак, даў нам магчымасць чытаць, а якія кнігі мы будзем чытаць і ці будзем чытаць наогул,— яму было ўсё роўна. Ён не падумаў і аб тым, як сорак чалавек будуць чытаць дзве кнігі. А тыя пяць-шэсць чалавек, што пазней палюбілі чытанне, павінны дзякаваць за гэта ўсім астатнім таварышам, якія кніг зусім не чыталі.

Год за годам плаціў наш выхаваўца за абанемент і ні разу не пацікавіўся, што мы чытаем, ні разу не пагаварыў з намі аб прачытаным, не параіў ніводнай кнігі. Магчыма, што ён і не памятаў пра наш абанемент.

Адну з дзвюх першых кніг я нават памятаю. Называлася яна «От поцелуя к поцелую», і там было напісана так:

«Куртизанка лежала на софе в своем роскошном будуаре. Уникальные гобелены в стиле Людовика XIV делали будуар похожим на изящную бонбоньерку. На женщине был кашемировый пеньюар, сквозь который соблазнительно вырисовывались классические контуры ее тела, а на белоснежной груди ослепительно сияло бриллиантовое колье.

Вдруг бесшумно раздвинулась портьера, и на пороге показался прекрасный молодой человек в военной форме, голубом кителе и белых аксельбантах, с небрежно накинутым ментиком на плечах.

— О, боже! — воскликнула красавица, простирая к нему обнаженные руки.— Неужели это вы, граф?

— О, божественная Дезирия! — воскликнул молодой офицер, подняв руки к небу.— Вы не ошиблись: это я, ваш раб, граф Ксавье де Менервиль.

И через мгновение влюбленные замерли в неописуемом экстазе...»

Я прачытаў гэтае месца раз, другі, трэці, а потым спытаў у Вялічкі:

— На якой мове тут напісана?

— Хіба не бачыш? На рускай.

— А чаму ж я нічога не разумею?

— Таму што дурны! — адрэзаў Вялічка і ўзяў кнігу назад.

Гэтую кнігу спрабавалі чытаць і некаторыя іншыя хлопцы, у тым ліку «тата» і Людовіч, але ніхто не адолеў больш дзвюх старонак. Толькі Вялічка мужна прачытаў яе да канца, а потым задаваўся перад намі.

— Эх, дурні вы, дурні касалапыя! Не цікавіцеся, як жывуць вышэйшыя людзі, не хочаце браць з іх прыкладу.

— Ды там усё незразумелае,— адказаў за ўсіх нас Рамашка.

— Адзін раз не зразумееў, другі раз не зразумееў, а на пяты раз сам здагадаешся,— павучальна казаў Вялічка.— А як маркіз Шампіньён украў Дэзірыю і схаваў яе ў сваім радавым замку Меланж, як граф Менервіль знайшоў яе, а яна не захацела вяртацца да яго, а потым яны біліся на шпагах,— усё гэта зразумець кожны з вас можа. Толькі вы, мужыкі, не хочаце цікавіцца такімі важнымі справамі.

Што і казаць, мужыкі мы былі сапраўдныя, але чым мы вінаваты, калі нас зусім не цікавяць маркізы?

Аднак выхаваўчая работа Вялічкі паступова дала некаторыя вынікі. Першым, хто авалодаў маркізамі, быў Рамашка. А калі ён і Вялічка пачалі размаўляць аб маркізах, герцагах, графінях, як аб сваіх вясковых знаёмых, то нас узяла зайздрасць і мы з Капыльскім таксама прыналяглі на іх. Толькі Хахлоў упарта адмаўляўся:

— Не хачу я вашых маркізаў, дайце мне людзей.

А прыхільнікі маркізаў даводзілі:

— Ды што цікавае ты спазнаеш аб тых людзях, якіх мы ўсе ведаем і бачым вакол сябе? А пра маркізаў і герцагаў мы нічога не ведаем, таму яно і цікавей.

Паколькі кнігі з бібліятэкі было даручана атрымліваць толькі Вялічку, ён і забяспечваў нас панамі ўсіх гатункаў. У яго, як ён казаў, выпрацаваўся спецыяльны нюх. Ён азнаёміўся з адпаведнымі раздзеламі ў каталогах бібліятэкі, заўважыў, што больш такіх кніг даюць аўтары з чужаземнымі прозвішчамі, а ў некаторых выпадках знаходзіў патрэбнае яму, зірнуўшы ў сярэдзіну кнігі. Калі трапляўся які-небудзь маркіз або герцагіня,— значыць, кніга добрая.

Праз некаторы час Капыльскі аб'еўся маркізамі і перастаў чытаць кнігі наогул. Трымаліся толькі трое: Вялічка, Рамашка і я. Мы шчыра перажывалі гора і радасці нашых маркізаў і графінь. Чуллівы Рамашка, ледзь не плачучы, казаў:

— А ты ведаеш, што здарылася з герцагам дэ Барбузонам? Ён прайграў у карты два свае маёнткі, і ў яго цяпер застаўся толькі адзін радавы замак у Нармандыі. Падумай, толькі адзін. Як ён цяпер будзе жыць, небарака?

І ў мяне таксама сціскалася сэрца ад спачування да беднага Барбузона. А то бывалі і горшыя няшчасці, напрыклад, аднаго разу малады маркіз Арбільён узяў ды і ўсадзіў у белаunion снежныя грудзі графіні Кавур кінжал па самую ручку... Графіня, як лебедзь белая, прыгожа паваліліся на сафу і чароўным голасам сказала:

— Паміраю, любячы.

Адным словам, шмат чаго перажылі мы разам з графамі, віконтамі ды герцагінямі.

І вось аднойчы Вялічка, пагнаўшыся за чужаземным прозвішчам аўтара, прынёс кнігу пад назвай «Жилище в пустыне». Пачаў я чытаць яе і адчуў, нібы свежым паветрам дыхнула на мяне. Ніводнага маркіза, ніводнай графіні там не было, а толькі простыя, храбрыя людзі.

А якія захапляючыя дух падзеі з імі адбываліся, якія цікавыя краіны апісваліся — і ўсё простымі, знаёмымі словамі. А калі сустракаліся новыя словы, напрыклад, гасіенда, прэрыі, пампасы, то сэнс іх адразу можна было зразумець.

Я параіў новую кнігу Капыльскаму, і той захапіўся ёю не менш за мяне.

— Давай паглядзім, хто яе напісаў,— прапанаваў ён,— і скажам Вялічку, каб паглядзеў, ці не напісаў гэты пісьменнік другой такой кнігі.

Да гэтага часу, як правіла, ніхто з нас не цікавіўся, хто напісаў тую ці іншую кнігу, а тут прыйшлося спецыяльна звярнуць на гэта ўвагу. Аўтарам быў нейкі Майн Рыд, і мы далі заданне Вялічку пашукаць яшчэ Майна Рыда. Ён прынёс нам «Всадника без головы» і «Охотников за скальпами».

Цяпер ужо мы жылі разам з паляўнічымі, сквайрамі, шукальнікамі золата і ўсялякіх прыгодаў. Мы радаваліся кожнаму стрэлу, якім наш герой забіваў беднага індзейца, і плакалі, калі індзеец помсціў свайму ворагу, здзіраючы з яго галавы скальп.

Затым мы натрапілі на новыя імёны аўтараў. Фенімор Купер, Жуль Верн, Густаў Эмар, Луі Жаколіо, Бусенар, Хагард і яшчэ некалькі такіх «самых лепшых» пісьменнікаў паказалі нам усе куткі зямлі. Нават Вялічка часта мяняў сваіх герцагінь на нашых паляўнічых.

Вось тады ў мяне і з'явілася цікавейшая ідэя, самая геніяльная з усіх, якія калі-небудзь траплялі ў маю галаву: я ж і сам, калі захачу, магу аб'ехаць усю нашу зямлю, наведаць усе яе куткі! Дзеля гэтага трэба толькі набыць якую-небудзь лодку, а на ёй ужо я магу зрабіць падарожжа не толькі вакол свету, але і вакол усіх кантынентаў. Ды яшчэ па дарозе буду заязджаць у рэкі і па кожнай з іх паеду да самай вытокі, а назад мая лодка сама паплыве да мора.

У першую чаргу, вядома, прыйдзецца абследаваць Амазонку, потым Конга, затым Місісіпі, Лімпапо, а далей Ніл, Ганг, Брахмапутру, Янцзыцзян і яшчэ сёе-тое.

Добра было б праехаць і нашы рэкі, такія, як Волга, Енісей, Амур, а таксама Дунай або Гвадалквівір. Але паўночныя рэкі халодныя, а мая вопратка не падыходзіць для халоднага падарожжа. Апрача таго, на нашых і наогул еўрапейскіх рэках жывуць не дзікуны, а звычайныя людзі. А звычайных людзей і без таго можна бачыць колькі хочаш. Ды і прахарча-

вацца сярод іх цяжка: трэба купляць прадукты, зарабляць нейкім чынам грошы. А ў гарачых краінах усюды табе стол і дом. Адной толькі дзічыны які багаты выбар! І да таго яшчэ бананы, ананасы, какосавыя арэхі і нават хлебнае дрэва.

На морах і акіянах я буду ехаць каля самага берага мацерыкоў, карыстаючыся ветрам. А калі будзе пагражаць шторм, я схаваюся ў бухту. Для чоўна заўсёды знойдзецца бухтачка. А калі непагадзь захопіць мяне ля пясчанага берага, то мне зусім няцяжка будзе выцягнуць свой човен на дзюны.

Як бачыце, само падарожжа і маршруты я прадумаў дасканала і надзвычай цікава. Заставалася толькі падрыхтаваць матэрыяльную базу для падарожжа. Гэтая справа явіла сябе цяжэйшай.

Перш за ўсё трэба мець стрэльбу — штуцар які ці вінчэстэр. Але дзе ты цяпер іх возьмеш? Эх, каб можна было ў якім-небудзь магазіне набыць стрэльбу за «жулікі»! Я ахвотна б загнаў іх хоць на сто гадоў наперад. А так прыйдзецца чакаць, пакуль знайду ля возера Ньяса алмаз ці ў Аўстраліі вялікі самародак золата.

Тым часам трэба дастаць хоць ножык-складанчык, сякеру, без якой і праз джунглі не прабярэшся; потым патрэбны малаток і цвікі, за якія ў дзікуноў можна выменяць колькі хочаш золата; патрэбны яшчэ і піла, і рыдлёўка, і кацялок, і лыжка. Нават пералічыць цяжка, што яшчэ патрэбна.

Рабінзон Круза, дык той спакойна, без ніякага клопату, набраў сабе колькі хацеў усялякага дабра з карабля, які сеў на мель каля самага яго вострава. А мне прыйдзецца па ўсім свеце шукаць такі карабель, і невядома яшчэ, ці знойдзеш.

Нарэшце, трэба набыць самую галоўную, самую вялікую рэч — лодку. На ёй трэба зрабіць буданчык і ўсё такое. Колькі гадоў мне прыйдзецца працаваць, пакуль зараблю грошы на яе? Праўда, я сам буду майстрам і здолею скараціць гэты час сваімі рукамі, але справа выходзіць марудная.

Аднак усё залежыць ад жадання і волі самога чалавека. І я буду дамагацца хоць сорак гадоў, а свой план выканаю!

А пакуль што з дапамогаю «жулікаў» я ўсё ж такі змай-

страваў сабе непрамакальны сшытак для падарожжа. У ім была запісана такая цвёрдая ўпэўненасць у поспеху справы, такая жалезная воля, што трэба толькі дзіву давацца, як сшытак вытрымаў такую цвёрдасць.

Сшытак з «жалезнай воляй» захоўваўся ў мяне сорак пяць гадоў і загінуў ад фашысцкай бомбы.

## 9. НАШЫ КАМЕРЦЫЙНЫЯ СУВЯЗІ

> Училище имело характер полукоммерческого. Ученики, даже девятидесятилетние, должны были вести бухгалтерские книги: мемориал, кассовую и книгу личных счетов...
>
> *А. Н. Крылов.*
> *«Мои воспоминания»*

Адным летнім днём у нас адбылася падзея, якую можна лічыць гістарычнай у жыцці рамеснага вучылішча імя яго імператарскай вялікасці гасудара імператара Аляксандра III.

У гэты дзень Станіслаў Капыльскі атрымаў па пошце бандэроль з кнігай. У першы момант ён і сам здзівіўся, а калі разадраў бандэроль і выняў кнігу, то нешта прыпомніў. На кнізе вялікімі літарамі было надрукавана: «Юлий Генрих Циммерман».

Мы аж млелі ад цікаўнасці і зайздрасці. Якім чынам Капыльскі мог атрымаць па пошце на сваё імя такую кнігу?

— Хто табе прыслаў? — пытаюся я, стаіўшы дыханне.

— Сам Цымерман,— з гордасцю адказвае шчаслівец.

— Сам?

— Сам,— важнічае Капыльскі.

— А... адкуль ён цябе ведае?

— Мяне ўсе ведаюць! — засмяяўся ён.

Мы зразумелі, што ён жартуе, але тайна засталася тайнай: якім чынам сам аўтар мог прысланць Капыльскаму сваю кнігу.

Хуценька разгарнулі кнігу і ўбачылі малюнак скрыпкі, адзін, другі, трэці, потым пайшлі віяланчэлі, кантрабасы, мандаліны, гітары, духавыя інструменты, піяніна, раялі і шмат

зусім незнаёмых музычных інструментаў і назваў, напрыклад: «окарина», «геликонбас», «корнет-а-пистон» і гэтак далей. Пад малюнкамі былі кароткія апісанні і цэны.

Толькі пасля гэтага мы агледзеліся, што на вокладцы кнігі былі яшчэ словы: «Музыкальный магазин» и «Прейс-курант». Апошняе слова было невядомае, але праз некаторы час агульнымі сіламі мы разгадалі яго сэнс.

Такім чынам было ўстаноўлена, што музыкальны фабрыкант Юлій Генрых Цымерман прыслаў Капыльскаму каталог, або прэйскурант, сваіх тавараў. А затым Капыльскі растлумачыў, якім чынам ён завязаў сувязь з фірмай Цымермана.

На нейкім кавалку газетнай паперы ён прачытаў аб'яву, што музыкальны магазін Ю. Г. Цымермана высылае бясплатна свае прэйскуранты па першым запатрабаванні. Капыльскі ўзяў ды і паслаў паштоўку ў Пецярбург па ўказаным адрасе. Ён не ведаў, што такое прэйскурант, але добра разумеў, што азначае слова «бясплатна»; а калі так, то чаму ж не рызыкнуць двума «жулікамі», тым больш, што ад іх яшчэ застанецца цэлая капейка на іншыя патрэбы.

І праз які тыдзень вось табе і вынік!

Пасля таго мы пачалі з усіх сіл абзаводзіцца камерцыйнымі сувязямі.

Паколькі мы ў сваім вучылішчы ніколі не бачылі ні газеты, ні часопіса, нам прыйшлося прыглядацца да кожнага кавалка газеты, дзе б мы яго ні ўбачылі. Такім спосабам я знайшоў гадзіннікавы гандлёвы дом «Павел Бурэ», Рамашка знайшоў у Варшаве фірму жалезных ложкаў «Ланге і С$^{\text{н}}$», Хахлоў знайшоў садова-агародніцкае прадпрыемства братоў Васільевых у Маскве. Усе гэтыя прадпрыемствы ў сваіх аб'явах абяцалі выслаць прэйскурант бясплатна.

Паслалі мы паштоўкі і сталі чакаць.

Ох і пакутныя дні мы перажывалі ў гэтым чаканні! А што, калі не вышлюць? Прападуць тады нашы тры капейкі, здабытыя такою цаной.

Нарэшце надышлі шчаслівыя дні: адна за адной сталі прыходзіць кніжкі.

Першым прыслаў мой Павел Бурэ. Кніжачка была малень-

кая і зусім не такая цікавая, як Цымерманава. Але, апрача звычайных кішэнных гадзіннікаў, там знайшліся разнастайныя і вельмі цікавыя будзільнікі, насценныя гадзіннікі і нават нейкія стаячыя. У кожным разе я не сумняваўся, што мой прэйскурант павінен быць больш цікавым, чым Рамашкаў. Што можа быць цікавага ў ложках?

Аднак, калі прыйшоў «Ланге і С$^{н}$», я засмуціўся: кніга ложкаў была вялікая, тоўстая, на добрай паперы і з вялікім мноствам цудоўных ложкаў усялякіх памераў і фасонаў. І не толькі ложкаў, але і розных іншых жалезных вырабаў, напрыклад, агароджаў для магіл. Яны былі такія цудоўныя, што Хахлоў сказаў:

— Як прыемна багатым ляжаць у магілах!

Вось і разбярыся тут, што цікавей: гадзіннік, ложак ці магільная агароджа?

А калі прыйшоў садова-агародніцкі прэйскурант, то выявілася, што ён лепшы за нашы абодва. Чаго-чаго там не было! Аж слінкі цяклі, калі мы глядзелі на цудоўную моркву, рэпу, усялякія садовыя ягады і плады. А колькі невядомых раслін з дзіўнымі назвамі! Напрыклад, нейкая гародніна: пятрушка, шпінат, сельдэрэй. Нават самае паганае зелле, пырэй, прадавалася,— відаць, той самы пырнік, якому гаспадары ніякай рады даць не могуць. Там былі і нейкія штамбавыя ружы, як дрэвы, і яблыні, як кусты.

Да таго ж малюнкі былі не простыя, а рознакаляровыя. Гэтую кнігу можна было пераглядаць і чытаць шмат разоў з большай цікавасцю, як падручнікі. Адным словам, Хахлову пашанцавала.

Трэба сказаць, што ў далейшай нашай дзейнасці мы вельмі часта расчароўваліся. Чакаеш чаго-небудзь выдатнага, а прыходзіць танюсенькі лісток, нават без малюнкаў. Другі ж раз выходзіць наадварот: нейкі там Ф. Швальбе прыслаў такую кнігу, што на яе з прагнасцю глядзеў кожны чалавек. У ёй былі электрычныя і розныя іншыя навуковыя прылады і машыны для навучальных устаноў.

Пазней, у гады грамадзянскай вайны, я бачыў гэтага Швальбе ў адной з нашых сярэдніх школ. Падраны, замызга-

ны прэйскурант ужываўся тут як каштоўнейшы дапаможнік па фізіцы.

Аднак гісторыя Швальбе варта таго, каб на ёй спыніцца асобна.

Да Швальбе мы змаглі дабрацца толькі пасля таго, як Вялічка пачаў прыносіць ад свайго губернатара нумары часопіса «Нива». Вось дзе было аб'яў адусюль і аб усім! І там знайшлася фірма Швальбе з двума адрасамі — на Лейпцыг, у Германіі, і на Пецярбург. А наконт прэйскуранта сказана, што ён высылаецца за тры рублі. Вядома, аб ім мы і марыць не маглі, але Капыльскі нешта задумаў.

На адным з атрыманых ім прэйскурантаў была дзесяцікапеечная марка, ледзь закранутая паштовым штэмпелем. Капыльскі трохі падчысціў яе, і мы ўсе прызналі, што марку можна скарыстаць у другі раз. Капыльскі ўзяў ды паслаў пісьмо да Швальбе ў Германію, бо для заграмічнага пісьма акурат патрэбна была дзесяцікапеечная марка.

Пісьмо было складзена такім чынам, нібы гэта пішацца ад рамеснага вучылішча імя яго вялікасці гасудара імператара Аляксандра III, а Капыльскі нібы начальнік яго. Пра тры рублі ў пісьме не ўпаміналася, нібы «начальнік» не ведаў аб гэтым. А праз некалькі тыдняў Капыльскі атрымаў прэйскурант, які аднагалосна быў прызнаны лепшым ад усіх. Хоць ён прыйшоў з Лейпцыга, але надрукаваны быў чамусьці на рускай мове.

Такая буйная здабыча заахвоціла і тых, хто да гэтага часу яшчэ стрымліваўся. Нават Малахоўскі і Людовіч сталі пасылаць пісьмы. Калі хто атрымліваў з дому два-тры рублі, то на ўсе гэтыя грошы купляў марак. Хто грошай не атрымліваў, той заганяў свае «жулікі» на многа месяцаў уперад. А каму не было чаго заганяць, той па прыкладу Капыльскага чысціў скарыстаныя маркі.

Хутка гэты спосаб стаў самым пашыраным, самым галоўным у нашых аперацыях. Дайшло да таго, што скарыстаныя маркі зрабіліся дэфіцытнымі, хоць на прысылаемых прэйскурантах іх прыходзіла да нас вельмі многа.

Разам з тым у нас развіліся выдатныя і разнастайныя хі-

мічныя спосабы чысткі марак. Чым толькі мы іх не чысцілі! І мякішам хлеба, і мылам, і соллю, і содай, і воцатам, які здабывалі ў цёткі Генрыеты, і чаем, і многімі іншымі «хімікатамі».

Паколькі вынікі большай часткай былі станоўчыя, мы рабіліся ўсё больш нахабнымі, сталі нават пасылаць даплатныя пісьмы. Тады пачаліся непаразуменні: усё часцей нашыя пісьмы вандравалі па свеце дарэмна, часам прыходзілі адказы з парадай наклейваць маркі, а часам наша пісьмо прысылалася назад таксама з даплатай. Мы, вядома, не плацілі, але страху было нямала.

Горш за ўсё было тое, што пасля скарыстання фірмы адзін раз ды яшчэ з падчышчанай маркай немагчыма было ўслед пасылаць другое пісьмо, а тым больш трэцяе і чацвёртае, з аднаго і таго самага месца, горада, вуліцы, дома, вучылішча.

І тут было знойдзена выйсце: адзін не называў вучылішча, другі — нумара дома, а Васілеўскі паспрабаваў не называць і вуліцы, а толькі горад і сваё прозвішча. І што ж — прэйскурант прыйшоў!

Васілеўскі заганарыўся быў ад такой славы, але не яго тут была заслуга, а ўсяго нашага калектыву. Мы, як відаць, атрымлівалі бадай усе прэйскуранты, што прыходзілі ў горад, і калі сярод іх трапіўся адзін без адраса, то куды ж было яго пасылаць, калі не нам? Пасля таго і кожны з нас не раз карыстаўся такім спосабам, калі фірма неахвотна высылала свае прэйскуранты. У гэтым выпадку, убачыўшы адрас толькі з двух слоў, назвы горада і прозвішча, гандляр быў упэўнены, што мае справу з самым знакамітым чалавекам у горадзе.

Нарэшце дайшло да таго, што ў наша вучылішча пачалі засылаць і тыя прэйскуранты, якія выпісваў які-небудзь іншы жыхар горада. Убачыць паштавік прэйскурант — і кідае яго ў нашу кучу, не разбіраючы дакладна, каму ён адрасаваны. Добрыя былі паштавікі, дай бог ім здароўя!

Дзякуючы наладжанай чыстцы марак, перад намі адкрыліся шырокія перспектывы. Можна ўпэўнена сказаць, што мы

скарысталі абсалютна ўсе фірмы, якія абяцалі высылаць свой прэйскурант бясплатна, і скарысталі іх па некалькі разоў. Гэта датычылася тых прэйскурантаў, якія былі лепшымі. А колькі траплялася наогул нікуды не вартых! Напрыклад, «Наследники бр. Салаевых» прыслалі проста спіс кніг без ніводнага малюнка. А такіх ашуканцаў было нямала сярод гандляроў. Ды і наогул чаго добрага можна чакаць ад іх?

Вычарпаўшы ўсе адрасы, мы сталі пасылаць пісьмы і тым фірмам, якія не абяцалі высылаць прэйскуранты бясплатна. Цікава адзначыць, што ад іх мы вывудзілі самыя лепшыя ўзоры гандлёвай рэкламы, як, скажам, прэйскурант слясарнага абсталявання бр. Ліндэман або аптычных прыладаў Іёхіма. Мусіць, такія фірмы ведалі аб існаванні пакупнікоў накшталт нас і маўчалі, што ў іх ёсць прэйскуранты. Але і мы былі не дурныя.

Усе гэтыя важныя справы горача абмяркоўваліся ў нашым клубе, які ператварыўся ўжо ў біржу. Прэйскуранты тут ацэньваліся і перапрадаваліся, як акцыі. Вельмі часта можна было чуць:

— Мяняю Цымермана на Ліндэмана.

— Прадай Іёхіма, даю Біргера і Чарнышова.

Трэба адзначыць, што Іёхім займаў другое месца пасля Швальбе. Кніга была прыгожая, тоўстая, а на малюнках — фотаапараты, біноклі, падзорныя трубы і розныя іншыя аптычныя прылады. Біргера з яго пасудай і Чарнышова з трыкатажам і раўняць нельга было з Іёхімам ці Швальбе, якія да таго ж яшчэ былі і «пастаўшчыкамі двара Яго Вялікасці».

Трэба сказаць, што пастаўшчыкамі былі і Юлій Генрых Цымерман, і Павел Бурэ, і нават агароднікі браты Васільевы. Аднаго разу трапіўся нейкі Шмуклер з Лодзі, галантарэйны гандляр, які на сваім нікчэмным прэйскуранце адзначыў, што ён «пастаўшчык двара Варшаўскага Генерал-Губернатара».

Што тычыцца мяне, то я больш за ўсіх паважаў Роберта Цыглера з Варшавы (Трэмбацкая, 4). Гэта відаць ужо з аднаго таго, што я і праз паўвека ўспомніў яго дакладны адрас.

Яго прэйскурант, сярэдняй таўшчыні, на простай паперы, з шэрай вокладкай, быў для мяне самай лепшай кнігай, па якой я вывучаў агнястрэльную і халодную зброю. Колькі тут было ўсялякіх стрэльбаў! Аднаствольныя і дубальтоўкі, з магазінамі і без магазінаў, з простым боем і з цэнтральным, для шроту і для куляў, тульскія і бельгійскія, з дамаскай сталі і недамаскай, для зайцоў і для бегемотаў.

Асабліва важнымі для мяне былі вінчэстэры і штуцэры, і я не адзін год ламаў сабе галаву, якую з гэтых стрэльбаў выбраць для свайго падарожжа. У Купера белыя паляўнічыя вельмі добра забівалі індзейцаў з вінчэстэра, а ў Майна Рыда з няменшым поспехам забівалі неграў з штуцэра.

Вывучаючы і параўноўваючы стрэльбы па прэйскуранце, іх затворы, калібры, магазіны, дулы, я знаходзіў пэўныя перавагі і ў штуцэра і ў вінчэстэра. А гэта было вялікай пакутай: ну як тут выбраць той ці другі? Хоць ты абодва бяры!

А тут яшчэ вабяць разнастайныя рэвальверы: кольты, пузатыя бульдогі з барабанамі. Былі і маленькія бульдозікі з барабанчыкамі. Затым ішлі халодныя нажы, кінжалы, корцікі. На вялікі жаль, тамагаўкаў не было, а без іх у дарозе не ступіш і кроку. А калі пасля зброі дойдзеш да паляўнічага абсталявання наогул, тады або кідай прэйскурант, або плач. Лепш ужо цяпер не ўспамінаць...

Кожны з нас такім чынам вывучыў свой любімы прэйскурант, а потым і іншыя. Затое ж якімі адукаванымі мы ўсе зрабіліся! Каб наш начальнік Аляксандр Сцяпанавіч захацеў паслухаць ці падслухаць нашы размовы, то, напэўна, сам здзівіўся б, якіх разумных вучняў ён выхаваў.

Мы ведалі эканоміку не толькі нашай краіны, але і некаторых замежных. Ведалі, дзе што вырабляецца, колькі каштуюць лакамабілі і штуцэры, раялі і жорны, якія фірмы і дзе іх прадаюць, якія маркі тавару лічацца лепшымі.

Між іншым, мы ніколі і не сустракалі тавараў горшых. У кожным самым нікчэмным прэйскуранце тавары былі найлепшымі ў свеце, пачынаючы ад гузікаў і канчаючы вузкакалейным паравозам.

У нашых прэйскурантах мы знаходзілі апісанне іголак і

раяляў, морквы і гумавай лодкі, гальштука і сеялкі, галандскага цюльпана і клізмы.

Усе гэтыя разнастайныя веды мы атрымлівалі зусім самастойна, без ніякага ўдзелу нашых выхаваўцаў, якія нават не падазравалі аб нашых грандыёзных камерцыйных аперацыях.

Хочацца асобна сказаць аб горадзе Беластоку. Бяда нам была з ім! Аб'яў ён даваў не менш, чым Варшава або Пецярбург, а толку з іх ніякага.

Звычайна ў сваіх аб'явах беластоцкія фірмы змяшчалі малюнак якой-небудзь адной рэчы, напрыклад, гадзінніка, і пісалі, што за 4 (лічба вялікая) рублі і 95 (дробненька) капеек высылаецца накладною платай найлепшы гадзіннік і бясплатна ў дадатак яшчэ 1) шаўковая кашуля, 2) цікавая гульня «Салавей-разбойнік», 3) выдатны раман «Смерць у абдымках» і 4) акуляры-кансервы.

— І ўсё гэта за чатыры рублі з капейкамі? — дзівіліся мы.

Вось гэтыя «капейкі» і былі сакрэтам беластоцкіх прадаўцоў. Усе цэны былі «з капейкамі»: не шэсць рублёў, а 5 р. 95 к., не адзінаццаць, а 10 р. 90 к. і г. д.

Людовіч не вытрымаў спакусы і выпісаў гадзіннік з дадаткамі. Атрымаў усё, што было абяцана, толькі:

гадзіннік, нікуды не варты, каштаваў 2 р. 90 к.,
шаўковая кашуля для лялькі — капеек 15,
«Салавей-разбойнік» — капеек 10,
«Смерць у абдымках» мела дакладную цану — 5 капеек,
акуляры-кансервы каштавалі не больш залатоўкі.

Такім чынам, было выслана ўсё, што абяцана, і ніхто на фірму «А. Хейфец» пакрыўдзіцца не мог.

Можна адзначыць, што падобныя аб'явы давалі і іншыя гарады, скажам, Лодзь, але там хоць можна было знайсці фірму з добрым прэйскурантам, а з Беластока мы нічога вартага так і не здабылі.

Аднак мы хутка распазналі гэтых халтуршчыкаў і спынілі з імі ўсе зносіны. Мы падтрымлівалі сувязь толькі з сур'ёзнымі контрагентамі.

Само сабой зразумела, што дасягненні нашы не прыйшлі самі, яны патрабавалі вялікіх намаганняў. На якія хітрыкі прыходзілася пускацца, каб вытрабаваць «цяжкі» прэйскурант! Напрыклад, у адным выпадку пісалі так:

«Жадаючы адкрыць магазін аптычных тавараў, прашу выслаць ваш прэйскурант...»

У другім выпадку так:

«Жадаючы пабудаваць друкарню, прашу выслаць прэйскурант друкарскага абсталявання...»

Ды дзе там прыпомніць усе нашы хітрыкі!

Аднойчы ў вучылішча з'явіўся нейкі малады чалавек, хударлявы, вяртлявы, з чорнымі вусікамі і партфелем у руках. Я трапіўся яму на вочы першым, і ён спытаў у мяне:

— Дзе тут жыве пан Капыльскі?

— Капыльскі ёсць,— адказаў я,— але...

Я хацеў быў сказаць, што Капыльскі вучань, а не пан, але чалавек перапыніў мяне:

— Калі ласка, правядзіце мяне да яго.

Зноў я збіўся з панталыку: як правесці яго да Капыльскага, калі той немаведама дзе лётае? Я стаў азірацца навокал, а тым часам да нас падышлі яшчэ некалькі вучняў. Тут я заўважыў здалёк Капыльскага і крыкнуў:

— Капыльскі, сюды! Цябе пытаюць.

Пры гэтых словах чалавек насцярожыўся, агледзеў хлопца ад галавы да ног, паціснуў плячыма і выцягнуў з свайго партфеля пісьмо.

— Гэта вы... пан Капыльскі?

Небарака вельмі здзівіўся, спалохаўся і маўчаў.

— Ён! Ён! — пачуліся галасы таварышаў.

— А другога, дарослага Капыльскага ў гэтым доме няма? — спытаў чалавек.

— Няма! — хорам адказалі мы ўсе.

Тады чалавек крыва ўсміхнуўся:

— Дык гэта вы, пан Капыльскі, збіраецеся пабудаваць млын?

— Я... не...— замармытаў Капыльскі, а мы ўсе аж пакаціліся ад смеху.

— А гэта ты пісаў? — ужо грозна спытаў чалавек, паказваючы пісьмо.

— Не... я не пісаў... далібог не пісаў,— ледзь не заплакаў бядак.

— У такім разе пойдзем да вашага дырэктара і там разбяромся. Дзе ён жыве? Вядзі!

І ветлівы малады чалавек схапіў Капыльскага за плячо. Той зароў голасна, як малое дзіця, вырваўся і пабег. Тады чалавек звярнуўся да нас усіх:

— Пакажыце, дзе жыве ваш дырэктар.

— Не ведаем,— пачуліся галасы, і мы таксама пабеглі.

Раз'юшаны чалавек сам пайшоў шукаць і, вядома, знайшоў. А калі ён выйшаў ад загадчыка, туды паклікалі Капыльскага...

Тады толькі наш загадчык даведаўся, які сусветны гандаль мы развілі пад яго крылом. Ён напісаў на пошту пісьмо, каб ніякай карэспандэнцыі непасрэдна ў рукі вучняў не давалі, а даставілялі яму.

І доўга яшчэ пасля таго атрымліваў ён нашы прэйскуранты, аплочаныя то апошнімі капейкамі, то падчышчанымі маркамі, а то і натурай — «жулікамі». Так адным махам скончылася наша вялікая гандлёвая дзейнасць.

Апошнім водгукам яе быў няшчасны выпадак з Рамашкам. Ён даўно ўжо напісаў фірме Энгельгардт у Елісаветградзе, што хоча пабудаваць лесапілку, для якой патрэбен лакамабіль, і што з гэтай прычыны просіць прыслаць прэйскурант.

Але пракляты Энгельгардт замарудзіў з адказам і пасля ўжо прыслаў не прэйскурант, а далікатнае пісьмо, у якім пісаў, што вышле свайго прадстаўніка для вырашэння справы на месцы, а потым і паможа ўстанавіць лакамабіль.

Цяпер пісьмо гэтае трапіла да загадчыка, і справа скончылася для Рамашкі жывакостам.

А ў Энгельгардта Аляксандру Сцяпанавічу прыйшлося прасіць прабачэння.

## 10. МЫ І БОГ

...Мне приходит мысль о боге, и я дерзко спрашиваю его: зачем он наказывает меня?

*Л. Толстой. «Отрочество»*

Тым часам наш гурток самавыхаванцаў, нягледзячы ні на якія падзеі, чытання кніг не спыняў. У гэтай справе мы нават вобмацкам ішлі наперад, хоць і не ведалі куды.

Вялічка ўжо не надта трымаўся за сваю манаполію выбіраць і прыносіць нам кнігі. Ён пазнаёміў нас з тэхнікай гэтай справы, паказаў каталог з чужаземнымі кнігамі, і кожны з нас выбіраў тое, што яму падабалася.

З некаторага часу мы ўжо не так ганяліся за маркізамі і герцагінямі. Рамашка неяк прынёс «Собор Парижской богоматери», але прачыталі гэтую тоўстую кнігу толькі ён ды я. Другая кніга, якую ён прынёс, называлася «Жывы нябожчык»; яна нам больш спадабалася.

Ад некаторых кніг, прачытаных тою парой, у памяці засталіся толькі назвы: «Чароўная Грызлі», «Паміж мужам і жонкай» і г. д. Затое добра запомніліся «Три мушкетера» і «Один в поле не воин».

Аднаго разу з бібліятэкі прыйшоў Капыльскі і, бразнуўшы кнігу на стол, горда ўсклікнуў:

— Глядзіце, што я знайшоў,— во!

Мы кінуліся да кнігі і прачыталі: «Марсель Прево. Полудевы».

— А пра што тут? — спытаў Рамашка.

— Хіба не бачыш? Пра палавінкі дзевак!

Але ў сапраўднасці ніякіх палавінак там не было, усе дзеўкі былі нармальныя, і Хахлоў, прачытаўшы палову кнігі, кінуў яе Капыльскаму і сказаў:

— Чытай сам! А я нічога цікавага не знайшоў.

Мы даўно ўжо заўважылі, што ўсе кнігі, якія мы чытаем, заўсёды «добра канчаюцца». Мы прывыклі да такіх канцоў і думалі, што іначай быць не можа.

І вось аднаго разу нам трапілася кніга апавяданняў, дзе

канцы былі «сумныя». Асабліва ўрэзаўся ў памяць прыгонны дворнік Гарасім, які быў вымушаны патапіць свайго любімага сабаку Муму, а потым ад гора сам ледзь не павесіўся. І іншыя апавяданні ў гэтай кнізе канчаліся «дрэнна». Мы звярнулі на гэта сваю ўвагу і пачалі разважаць.

— А што вы думаеце, хлопцы? Можа, гэтая кніга і будзе праўдзівейшай за іншыя. Хіба ў жыцці заўсёды ўсё добра канчаецца? Мусіць, часцей бывае, калі канчаецца нядобра. Паглядзім, як завецца гэты аўтар.

Паглядзелі — і ўбачылі, што гэта быў нейкі Тургенеў, відаць, рускі. Так мы выпадкова пазнаёміліся з Тургеневым. А пра Пушкіна і Лермантава ў класе чулі, бо вучылі іхнія вершы.

Я не адважуся сцвярджаць, што нам у класе нічога не казалі пра рускіх пісьменнікаў. І разам з тым вельмі добра памятаю, якім чынам мы «адкрылі» Тургенева, і чамусьці не памятаю, каб хто-небудзь «адкрываў» нам іншых нашых пісьменнікаў. Відаць, наш паважаны Аляксандр Сцяпанавіч рабіў гэта так абыякава, што ў маёй галаве нічога не зачапілася.

З цягам часу кола пісьменнікаў у нас пашыралася, рускія сталі трапляцца часцей, але ўвогуле ўсе яны перамяшаліся ў кашу. Ды і ці можа хто-небудзь разабрацца ва ўсіх гэтых пісьменніках, хто, які, адкуль і што напісаў? Мы не пісьменнікаў шукалі, а цікавых кніг.

Пасля таго як Вялічка пазнаёміў нас з часопісам «Нива», мы і самі сталі браць з бібліятэкі поўныя камплекты за папярэднія гады. І гэтыя тоўстыя камплекты паслужылі нам мосцікам да рэальнага жыцця.

Тут мы знайшлі артыкулы і малюнкі пра ўсё: і пра гісторыю, і пра наша жыццё, і пра розныя навукі. Асабліва цікавым быў раздзел «Смесь». Чаго толькі не было ў гэтым раздзеле! Тут табе і сабачка з дзвюма галовамі, і нейкі незвычайны грыб, і драўляны веласіпед, і чарговае землетрасенне. А хіба не цікава прачытаць пра духа, які напалохаў кагосьці ў старым доме, або пра вузкае горла кіта, або, скажам, пра Напалеона ці якога іншага цара? Адным словам, добрая была «смесь»!

Потым мы пачалі браць іншыя часопісы, напрыклад, «Вокруг Света», гумарыстычны «Будильник» і больш сур'ёзны «Мир Божий». Кола нашых інтарэсаў пашыралася ўсё больш і больш.

Мы, напрыклад, вельмі зацікавіліся артыкулам пра амерыканскага садавода Бербэнка, які ў Каліфорніі вытвараў усялякія цуды з раслінамі: перарабляў іх па сваім жаданні, ствараў новыя расліны з невядомымі яшчэ пладамі.

Мяне гэтая гісторыя так уразіла, што я пасля таго многа гадоў расказваў усім, асабліва сваім вучням, пра славутага Бербэнка.

І толькі праз гадоў дзесяць я выпадкова натрапіў у той жа «Смеси» на некалькі радкоў, надрукаваных дробным шрыфтам, дзе было сказана, што недзе ў Тамбоўскай губерні нейкі нікому невядомы садавод Мічурын робіць цікавыя доследы над раслінамі. А што Мічурын рабіў свае доследы і раней і шырэй за Бербэнка, што сам Бербэнк сёе-тое запазычыў у Мічурына,— аб гэтым я даведаўся значна пазней.

Так мы самапасам здабывалі веды, пашыралі свой кругагляд. А калі трошкі паразумнелі, то гэтак жа, самапасам, без ніякай антырэлігійнай прапаганды пачалі «сумнявацца» ні больш ні менш як... у законе божым!

— Ці можа быць,— казаў задуменна Рамашка,— каб прарок Іёна праседзеў у жываце кіта тры дні і застаўся жывы? У кіта такое малое горла, што ён і ката не здолее праглынуць, а тут — чалавек.

— Ды што там Іёна! — адказваў Хахлоў.— Прыпомні, як гаворыцца ў біблії пра стварэнне свету, ды параўнай з тым, што гаворыцца ў іншых кнігах, і тады адразу ўбачыш, што закон божы гэта байкі.

Нам зрабілася страшнавата: а што, калі наша гаворка дойдзе да бацюшкі ці да Аляксандра Сцяпанавіча? Але праз колькі часу зноў пачыналіся тыя ж сумненні. І цар, мусіць, такі самы чалавек, як усе. І прычашчаюцца ў царкве булкай і віном, а не целам і крывёю Хрыста...

Пры такіх думках сэрца зусім сціскалася ад жаху. Усе людзі на свеце вераць, толькі мы адны адважыліся падумаць іна-

чай. Гэта, напэўна, д'ябал спакушае. Божа, даруй нам грахі нашы!

І я ішоў шукаць заспакаення ў Залескага.

— Скажы мне, як па-вашаму: ці мог бы бог, захацеўшы, адразу зрабіць так, каб усе людзі былі шчаслівыя, каб не было ніякага гора, ніякіх хвароб, каб усе былі багатыя?

Залескі паглядзеў на мяне падазрона і сам спытаў:

— Адкуль у цябе такія думкі?

— А хіба няможна так падумаць? — кажу я.— Бог усё можа зрабіць, значыцца, і адным махам можа зрабіць усіх шчаслівымі.

— Вось чаго захацеў! А ты спачатку заслужы малітвамі і добрымі справамі, а потым прасі шчасця,— павучальна сказаў Залескі.

— Мая мама заўсёды моліцца і нічога дрэннага не зрабіла, а пакутуе ўвесь свой век.

— Ну, браце! — абурыўся мой друг.— Надта далёка ты зайшоў. Не нам, рабам, абмяркоўваць справы божыя. Ён сам ведае, што нам трэба, што не, а мы павінны толькі верыць і маліцца.

— А калі я не разумею...— пачаў я апраўдвацца, але ён мяне перапыніў:

— Ці не думаеш ты, нікчэмная істота, разумець столькі ж, як бог? Ды за адны такія думкі ён цябе пакарае. Назаўсёды запомні адно: усё, што робіць бог, ідзе на нашу карысць, а чаму і як робіцца,— не наша справа. Значыцца, так трэба.

Ну што ж, калі так трэба, то нічога не зробіш.

Але мой прыяцель разважае па-каталіцку. Трэ было б спытаць, што скажа наш праваслаўны бацюшка. Толькі як гэта зрабіць? Нам могуць за гэта даць такога жывакосту, што да старасці памятаць будзеш.

Аднак д'ябал нас усё падбухторваў ды падбухторваў. Нарэшце мы не вытрымалі і пастанавілі звярнуцца да бацюшкі.

Абдумалі, падрыхтаваліся, і на ўроку закону божага Рамашка дрыготкім ад страху голасам звярнуўся да бацюшкі:

— У нас тут з'явілася адно пытанне...

— Ану, што такое? — спытаў бацюшка такім тонам, ад

якога адразу прапала ахвота задаваць пытанні. Але адступаць было позна, і Рамашка хвалюючыся пачаў:

— Як вядома, бог усё ведае, што будзе з кожным з нас...

— Вядома, ведае,— матнуў галавой бацюшка.

— Бог з дня нашага нараджэння ведае, хто з нас трапіць у рай, а хто ў пекла.

— Нават я ведаю, што ты абавязкова трапіш у пекла, калі будзеш ламаць галаву над такімі пытаннямі,— сказаў бацюшка пад дружны рогат усяго класа. І сам бацюшка задаволена ўсміхнуўся.

Рамашка трохі падбадзёрыўся і стаў выкладаць нашыя думкі далей:

— Вось мы і думаем: калі ўжо вядома, што я траплю ў пекла, то, значыцца, што б я ні рабіў, як бы ні маліўся, я ўсё роўна буду ў пекле.

Зноў пачуўся смех у класе. А бацюшка адхінуўся на спінку крэсла і развёў рукамі:

— Што ты вярзеш, дурань? Хіба ты не ведаеш, што міласцівы бог даруе грахі, калі чалавек пакаецца, будзе маліцца і весці добрае жыццё?

— Я гэта ведаю. Але ў такім разе пры маім нараджэнні было ўжо вядома, што бог даруе мне грахі і я траплю не ў пекла, а ў рай.

Нехта хіхікнуў. Бацюшка насцярожыўся. Рамашка казаў далей:

— А калі загадзя было вядома, што чалавек трапіць у рай, то ён можа грашыць і нічога за гэта яму не будзе, бо ён ужо прызначаны ў рай.

Зноў засмяяліся вучні. Але бацюшка спахмурнеў, падняўся з крэсла, падышоў да Рамашкі і ўтаропіўся яму ў вочы. Хлопчык збялеў і апусціў свае вочы ўніз.

— Пачакай, пачакай! — грозна сказаў бацюшка.— Што гэта за мудрагельствы такія? Хто іх выдумаў? Хто табе сказаў?

— Ніхто, мы самі...

— Хто такія «мы самі»? Га? Кажы!

Убачыўшы, што наш сябар трапіў у бяду, мы пераглянуліся — і ў той жа час устаў Капыльскі і сказаў:

— Гэта мы з ім гаварылі, мы не маглі зразумець...

— А яшчэ хто?

— Больш ніхто,— адказаў ён, сцяміўшы, што чым менш нас будзе, тым менш будзе шуму.

Падумаўшы трохі, бацюшка загадаў ім сесці і стаў хадзіць узад і ўперад па класе. Затым пачаў тлумачэнне:

— Ці ведаеце вы, што робіце? Ці падумалі, які грэх бераце на сваю душу? Вы пачалі мудрагеліць пра госпада бога, як пра звычайнага чалавека: што ды як, ды чаму... Ці не казаў я вам сто разоў, што ў пісанні сказана: «Пути господни неисповедимы». Што сіе значыць? Сіе значыць, што мы не можам ведаць, не можам уразумець, так сказаць, думкі госпада бога, не можам ведаць яго спраў. Мы павінны толькі верыць у яго міласэрнасць да нас, верыць, што ён клапоціцца аб нас, як аб сваіх дзецях, і заўсёды дбае аб нашай душы.— Бацюшка спыніўся, падышоў да акна, набраўся духу, павярнуўся і працягваў: — Як мы павінны трымаць сябе перад нашым айцом нябесным? Перш за ўсё, верыць яму, маліцца і слухацца яго. А мудрагеліць, што ён робіць, дзеля чаго і як,— гэта смяротны грэх. Ён гаспадар усяго свету, наш вялікі айцец, ён лепш за нас ведае, што нам трэба, а вы пачынаеце разважаць, што ды як. Выходзіць, што вы не верыце яму, так?

Ён абапёрся дзвюма рукамі аб стол і строга паглядзеў на нас усіх.

— Ну, кажыце, так выходзіць?

Мы ўбачылі, што ён збіраецца чакаць нашага адказу колькі ўлезе, і прашапталі:

— Так...

— Ну вось,— сказаў ён з палёгкай, нібы пераканаўшыся, што самае галоўнае дайшло да нашых сэрцаў.— А што пагражае вам за такі грэх?

І ён зноў утаропіўся на нас. Мы вымушаны былі прамармытаць са ўздыхам:

— Пекла...

Цяпер заставалася толькі закончыць непрыемную гутарку



6 Зак. 1340

адпаведным павучаннем. Бацюшка лёгка, аўтаматычна пачаў гаварыць:

— Дык вось, дзеці мае, памятайце словы божыя, не дапускайце д'ябла баламуціць вашы галовы. Не мудруйце аб тым, чаго не толькі вы, дзеці, але і мы ўсе зразумець не можам. За ўсіх нас думае сам гасподзь бог, і ўсё на свеце адбываецца па яго святой волі. Мы яго волі і яго дзеянняў зразумець не можам. Нам, дурным, можа, напрыклад, здацца, што несправядліва, калі якая-небудзь удава з дзіцем памірае ад голаду, і мы можам задаць пытанне: чаму бог дапускае гэта? Ведайце, што такія пытанні падказвае нам сам д'ябал. Ганіце яго ад сябе малітвамі і кажыце самім сабе: не мне разважаць аб дзеяннях божых; калі бог дапускае тое ці іншае, значыцца, так трэба.

Зноў гэтае «так трэба»! І па-каталіцкаму, і па-праваслаўнаму аднолькава выходзіць. Як толькі задасі якое-небудзь незразумелае пытанне пра бога, заўсёды табе адзін і той жа адказ:

— Так трэба!

Само сабой зразумела, што такія тлумачэнні нам нічога даць не маглі. І мы зноў пачыналі мудраваць у парадку самадзейнасці. І вывад заўсёды быў адзін: тут нешта не тое, блытаная справа, незразумелая, можа, нават і няправільная. Разам з тым выходзіла так: калі прачытаеш які-небудзь навуковы артыкул, то ні закон божы, ні тлумачэнні бацюшкі ніяк да яго не дапасуеш.

А навуковых артыкулаў мы чыталі ўсё больш і больш. Асабліва з таго часу, калі ў наша распараджэнне трапіў поўны гадавы камплект часопіса «Мир Божий».

Гэтым мы абавязаны былі Хахлову. Ён неяк атрымаў ад брата цэлых пяць рублёў! Ад такіх грошай не толькі ў яго, але і ў нас закружылася галава. А Хахлоў узяў ды і купіў за чатыры рублі дванаццаць тоўстых кніжак часопіса.

Колькі цікавейшых звестак знайшлі мы ў гэтых кнігах! Там нават было сказана, што набліжаецца час, калі чалавек будзе лятаць у паветры на машыне.

Але яшчэ большае ўражанне зрабілі на нас змешчаныя ў

некалькіх нумарах артыкулы пра англійскага вучонага Чарльза Дарвіна, які даказаў, што ўсё на свеце змяняецца і развіваецца само сабой, па законах прыроды, без удзелу бога: і расліны, і жывёлы, і нават сам чалавек, які паходзіць ад малпы.

Гэтыя артыкулы мы чыталі і перачытвалі шмат разоў, і яны ўрэзаліся ў нашу памяць на ўсё жыццё.

Вядома, не ўсё, што чыталі ў гэтым часопісе, мы разумелі, але прагна цягнуліся да яго, як да свежага паветра. Так цягнецца да чыстага паветра кожная жывая істота, хоць і не разумее, з чаго складаецца яно, які там працэнт кіслароду і якую карысць ён дае.

Асабліва захапляўся Капыльскі.

— Колькі цікавага і карыснага ў гэтых кнігах! — казаў ён.— А калі я першы раз убачыў назву «Мир Божий», то і глядзець на кнігі не хацеў: я думаў, што там усё пра закон божы гаворыцца.

Хітры Вялічка сказаў з усмешкай:

— А можа, і наўмысля далі такую назву, каб ашукаць папоў, каб яны не чапляліся?

Так несвядомыя хлапчукі ў чорныя дні царызму вобмацкам дабіраліся да праўды жыцця.

Нарэшце прыйшоў час, калі Капыльскі сказаў тое, што мы адганялі ад сябе, як д'ябальскую спакусу:

— А бога, мусіць, і зусім няма. Яго выдумалі самі людзі.

Страшныя былі гэтыя словы! За іх і бацькі нашы праклялі б нас, і з вучылішча нас выгналі б, і ў пекла мы абавязкова трапілі б, каб выявілася, што бог усё-такі ёсць...

Ішлі дні, а думка гэтая ўсё не пакідала нас. Смялей і смялей мы вярталіся да яе, і ўжо не адзін Капыльскі, але і Вялічка, і Хахлоў, і я, і нават Рамашка казалі: я таксама думаю, што бога няма.

Прыйшоў вялікі пост, калі праваслаўныя павінны спавядацца і прычашчацца. А мы, як вучні, ухіліцца ад гэтага не маглі. Тады паўстала пытанне: ці прызнавацца на споведзі ў нашых грэшных думках, ці не?

— Навошта прызнавацца,— сказаў Хахлоў,— калі мы ведаем, што бога няма і споведзь нам непатрэбна.

Мы з Вялічкам згадзіліся з ім, але баязлівы Рамашка сказаў:

— А што нам пашкодзіць, калі мы прызнаемся? На споведзі бацюшка крычаць і біцца не мае права, а паслухаць, як ён будзе тлумачыць, вельмі цікава.

— Ён скажа не табе, а Аляксандру Сцяпанавічу, і цябе выганяць з вучылішча,— адказаў Вялічка.

— Вось каб можна было даказаць, што бога няма,— уздыхнуў Рамашка.

Тады Капыльскі нейкім звонкім голасам сказаў:

— Я дакажу!

— Якім чынам? — здзівіліся мы.

— Я вазьму ды выплюну прычасце!

Цяпер ужо не толькі Рамашка, але і мы ўсе скамянелі ад жаху.

Выплюнуць прычасце?! Цела і кроў самога Хрыста?! Ды гэта ж самы вялікі грэх, які толькі можа быць на свеце! Калі выявіцца, што бог ёсць, то Капыльскага ў той жа дзень заб'е гром. Нават і ўсе мы, уключаючы бацюшку, можам пацярпець. Ці маем мы права рызыкаваць жыццём невінаватых?

Разважлівы Рамашка і тут знайшоў выхад:

— А можа, бог здолее забіць толькі аднаго вінаватага, не зачапіўшы іншых? Ён жа ўсемагутны...

Не ведаю, што думаў Капыльскі, слухаючы, як абмяркоўваюць спосаб яго смерці. Гледзячы на яго твар, можна было сказаць, што ён прымушаў сябе быць героем. І ён да канца стаяў на сваім намеры.

Мы глядзелі на яго з такім пачуццём, з якім у наш час японцы глядзелі на сваіх лётчыкаў «камікадзе», што бамбілі амерыканскія караблі, кідаючы на іх разам з бомбамі і самалёт, і сябе саміх.

Мы пачалі абмяркоўваць, якім чынам Капыльскаму лепш выканаць свой намер. І тады адразу выявілася сур'ёзная перашкода. Прыняўшы прычасце, вучань павінен быў вярнуцца на сваё месца і стаць у шарэнгу. Дзе ж тут выплюнеш? Вый-

сці з царквы можна было толькі па важнай прычыне і папрасіўшы дазволу. А як прасіць дазволу, калі ў роце трымаеш прычасце?

Пасля доўгіх меркаванняў прынялі такі план: Капыльскі разам з насавой хустачкай кладзе ў кішэнь невялікі шкляны слоічак ад лякарства. Калі ён стане на сваё месца, то возьме хустачку, паднясе да носа і непрыкметна выплюне прычасце ў слоічак. А там ужо мы паглядзім, што рабіць.

...І вось прыйшоў страшны дзень. Глядзім мы на нашага героя і дрыжым. Ён хоча паказаць, што яму нічога не абыходзіць, а сам бледны-бледны...

Пастроіліся парамі і пайшлі ў царкву; там урачыстае набажэнства, агні, спевы, а мы стаім, як у склепе. Ці вытрымае Капыльскі, калі мы самі вытрымаць не можам, калі мы гатовы сказаць яму, што не варта так рызыкаваць?

Надышоў жудасны час прычашчэння...

Пярэдняя шарэнга выстраілася ў чаргу; ногі ў мяне дрыжаць, галава кружыцца.

Шапчу Хахлову:

— Трэба перадаць яму, каб не рабіў.

Бледны Хахлоў адказвае:

— Позна ўжо. Ды ён, мусіць, і сам не будзе.

Чарга пасоўваецца. Капыльскі ўжо каля бацюшкі, раскрывае рот. Бацюшка прасунуў яму лыжачку... Капыльскі ідзе на сваё месца.

Мы са страхам прыглядаемся да яго твару: праглынуў ці не?

Але дзе там пазнаеш, калі самога Капыльскага пазнаць цяжка. Твар скамянелы, незнаёмы. Здаецца, і вочы яго нічога не бачаць. Ідучы назад каля нас, ён нікога не заўважыў, ні на каго не паглядзеў.

Скончылася цырымонія. Зноў стаім мы ў шарэнгах. Капыльскі наперадзе ад нас. Праглынуў ці яшчэ трымае ў роце?..

Глядзім яму ў спіну, сочым за кожным яго рухам. Але ён стаіць згорбіўшыся і не рухаецца. З розных месц у шарэнгах

сачыла наша чацвёрка за Капыльскім, і ўсе мы нічога не чулі і не бачылі, што дзеецца навакол.

Нарэшце Капыльскі зварухнуўся. І ў той жа міг уздрыганулася ўся наша чацвёрка. Бачым, неяк нязграбна совае ён руку ў кішэню, дастае хустачку і падносіць яе да твару... Мы аж вочы заплюшчылі...

Але навакол усё было спакойна. Выкрыкваў малітвы бацюшка, спяваў хор, кашлялі малельшчыкі. Народ і не падазраваў, якая небяспека яму пагражае.

Зноў шапчу Хахлову:

— Як ты думаеш: выплюнуў ці не?

— Мусіць, не,— ледзь варушыць языком Хахлоў.— Каб выплюнуў, то гром і маланка знішчалі б разам з ім і нас усіх.

Але сумненне ў мяне яшчэ застаецца, і я шукаю тлумачэння:

— А можа, лічыцца смяротным грахом, калі выплюнуць на зямлю, а калі ў слоічак, то не?

Таварыш мой паціснуў плячыма і шапнуў у адказ:

— Хто яго ведае? У законе божым не напісана, якая розніца, калі плюнуць на зямлю і калі ў слоічак.

Вярнуўшыся дадому, мы зараз жа сабраліся ў нашым «клубе». Капыльскі дрыготкімі рукамі выняў з кішэні слоічак. На дне яго ляжаў маленечкі кавалак просвіры, запэцканы чырвоным віном і слінай. Дык вось яны, цела і кроў Хрыстовы! І не ўмоўныя, а сапраўдныя, як нас вучылі з самага маленства. Што ж цяпер з імі рабіць?

— Каб давесці справу да канца, трэ было б кінуць на зямлю,— сказаў Вялічка.

Мы згадзіліся, што без гэтага не будзе поўнага доказу. Але ніхто не памкнуўся зрабіць апошні крок. Мы глядзелі на Капыльскага, чакаючы, каб ён гэта зрабіў.

Тады Капыльскі абурыўся:

— Што ж гэта вы ўсё на мяне ды на мяне валіце! Я і так, бачыце, што зрабіў. Цяпер вы канчайце!

Нам зрабілася сорамна. Мы сапраўды ўсё ўсклалі на яго, а ён рабіў гэтую небяспечную справу не для сябе аднаго, а для

нас усіх. Кожны з нас збіраўся з духам, каб зрабіць апошні подзвіг, але рукі не падымаліся.

Раптам нечакана для ўсіх і, бадай, для сябе самога ўсхапіўся Рамашка, нібы яго змяя ўкусіла, і крыкнуў не сваім голасам:

— Дайце мне!

Ён схапіў слоічак, размахнуўся...

Мы самі не заўважылі, як адскочылі ад яго і зашыліся хто куды. А ініцыятар гэтага апошняга выпрабавання, Вялічка, закрыў вочы рукамі і прысеў.

Слоічак бразнуўся аб падлогу, зазвінелі кавалачкі шкла... Потым стала ціха-ціха, толькі сэрцы нашы калаціліся на ўсю моц.

Але нічога страшнага не здарылася. Ні грому не было, ні маланкі; нават зямля не правалілася пад нашымі нагамі і мы не трапілі ў пекла.

Тады нам зрабілася лёгка-лёгка і вельмі захацелася смяяцца, скакаць, спяваць. Скончыліся сумненні і пакуты! Мы цяпер вольныя людзі, не трэба нам баяцца ні бога, ні чорта. Мы можам рабіць усё, што хочам...

Так іменна і сказаў галоўны герой Капыльскі.

Але гэтыя словы прымусілі нас задумацца. Калі кожны чалавек пачне рабіць усё, што захоча, нікога і нічога не баючыся, то што тады будзе? Разбой, крадзеж, гвалт, ашуканства...

Зноў бяда! Замест рэлігійных з'явіліся новыя сумненні, жыццёвыя. Сапраўды нядобра будзе, калі людзі пачнуць рабіць усё, што каму прыйдзе ў галаву.

— А ты не рабі! — сказаў Хахлоў.— Хто цябе прымушае? Да гэтага часу я быў сумленны не таму, што думаў пра закон божы, а проста не хацеў быць падлюгай. А зладзеі на закон божы ўсё роўна не глядзяць. Яны баяцца толькі законаў зямных, турмы.

І тое праўда. Але ёсць шмат учынкаў, якія звычайна да суда не даходзяць, а псуюць усё наша жыццё, напрыклад, лаянка, задзірлівасць, шкадлівасць, ашуканства і шмат усялякай дробнай мярзоты. Няўжо ўсё гэта можна рабіць?

На гэтыя сумненні быў той самы адказ:

— Не рабі, калі ты сумленны чалавек. Хто цябе прымушае?

У разважаннях і спрэчках у нас, нарэшце, выпрацаваўся свой новы, адзіны, універсальны закон. Вось ён:

*«Рабі ўсё, што хочаш, абы толькі ад гэтага нікому шкоды не было».*

Вельмі спадабаўся нам гэты закон!

Па-першае, кароткі. Замест усіх запаведзей, старых і новых запаветаў, евангелляў, катэхізісаў і соцень іншых кніг па законе божым — адзін толькі сказ! Ды гэта ж такое вынаходства, за якое калі-небудзь нам падзякуе ўвесь свет! Не трэба больш баяцца граху, выконвай свой адзін закон — і ўсё будзе добра.

Па-другое, закон гэты падыходзіць да ўсіх выпадкаў жыцця. Мы прыдумвалі многа прыкладаў, правяралі на іх свой закон — і заўсёды атрымлівалася, што ён падыходзіць як лепей нельга. Напрыклад, з'еў я ў пост сала. Раней гэта лічылася за грэх. А цяпер ставім пытанне: каму я шкоду зрабіў? Нікому. Значыцца, з'еў правільна. Або зманіў я настаўніку, што хворы. Якую шкоду для настаўніка зрабіў я? Ніякай. Значыцца, зрабіў добра.

Траплялісся, праўда, пытанні, якія не так лёгка было вырашыць. Напрыклад:

Пытанне: Ці магу я пабіць хлопчыка, які мяне пакрыўдзіў?

Адказ: Можаш. Але так сама і столькі сама, як ён цябе, і ні ў якім разе не больш. Калі ён першы ўдарыў цябе кулаком у левую скіўіцу, то і ты маеш права зрабіць акурат тое самае. Калі ён кінуў тваю шапку ў ваду, кінь таксама і яго шапку.

Пытанне: Пры якіх умовах я магу ўкрасці яблык з чужога саду?

Адказ: Умова адна, каб не было шкоды гаспадару. Гэта значыць, ты не павінен ні папсаваць плот, ні зламаць сук і ўзяць столькі, каб гаспадар ніякай шкоды не адчуў. Гэта значыць: у беднага адно-два яблыкі, у багатага адпаведна больш.

Не ведаю, як мае таварышы, а я на працягу свайго жыцця больш-менш прытрымліваўся нашага закону. І нічога — пад суд не трапіў ні разу.

## 11. ПАМІЖ РАЕМ І ПЕКЛАМ

Быть или не быть?
*В. Шекспир. «Гамлет»*

Не ведаю, з якой прычыны ў мяне пачалі балець калені. Нібы раматус які аднекуль узяўся, і чым далей, тым горш рабілася. Нарэшце мяне змясцілі ў бальніцу.

Ляжаў я там вельмі доўга. Але паколькі ў бальніцы была вялікая бібліятэка, а я меў шмат вольнага часу, то на жыццё скардзіцца не даводзілася.

На прагулках у бальнічным двары я пазнаёміўся з многімі людзьмі. Асабліва мне спадабаліся вар'яты. Такія добрыя, разумныя людзі. Я ўвесь час круціўся пад іх вокнамі і з некаторымі так падружыўся, што не хацелася адыходзіць.

Больш за ўсё мне падабалася тое, што яны былі шчырымі сябрамі, не зазнаваліся, размаўлялі са мною, як з роўным.

Адзін бледны і прыгожы дзядзька з барадой, падобны на нашага настаўніка ў народнай школе, вельмі цікава расказваў мне, як папсаваўся крамлёўскі цар-звон.

— Ты, мусіць, думаеш,— казаў ён,— звон зваліўся са званіцы Івана Вялікага і вышчарбіўся? Нічога падобнага. Што ён зваліўся ў часе пажару, гэта праўда. Але ён не разбіўся — дзірку выпаліла галавешка.

Другі раз ён мне расказаў, што цар Іван Грозны быў зусім не цар Іван, а Сіняя Барада. Я тады нічога не зразумеў, і толькі пазней мне трапілася ў рукі казка пра Сінюю Бараду. Тады я лішні раз пераканаўся, якія разумныя бываюць вар'яты.

Яшчэ адзін з іх навучыў мяне спяваць раманс «Выхожу один я на дорогу». Раманс мне вельмі спадабаўся, і я доўга лічыў яго вар'яцкім, пакуль не пачуў ад нармальных людзей і

не даведаўся, што словы напісаў Лермантаў, а музыку — Варламаў.

Праз некаторы час у нашу палату прывялі новага хворага. Зірнуў я на яго і ахнуў:

— Ты?!

Гэта быў Хахлоў.

Цяпер ён здаўся мне яшчэ больш худым і бледным, чым звычайна, але чамусьці шчокі ў яго былі чырвоныя.

Хахлова палажылі побач са мной. Дзеля гэтага нават перасялілі майго суседа ад сцяны. Паміж нашымі ложкамі стаяла агульная тумбачка.

— А ты з якой хваробай? — спытаў я.

— Мабыць, прастудзіўся,— адказаў ён.— Кашаль душыць, і ў грудзях млосна.

Мы абодва былі вельмі рады, што апынуліся разам. Я цяпер і ў вучылішча не хацеў бы вяртацца. Адной гаворкі нам хапала на цэлыя дні, а тут яшчэ кнігі якія хочаш.

Мы аблюбавалі сабе тоўстыя пераплеценыя камплекты «Нивы» і чыталі іх да адурэння, а пасля дзяліліся ўражаннямі аб прачытаным — таксама да адурэння.

Шкада толькі, што Хахлоў ад такой працы слабеў, пацеў і яшчэ горш кашляў. Некалькі разоў я заўважаў у яго на падушцы сляды крыві.

Так прайшло некалькі тыдняў. У нядзелю нас наведвалі таварышы з вучылішча — Вялічка, Рамашка, Капыльскі. А потым зайшоў Васілеўскі і з першых жа слоў бацнуў:

— Нядаўна быў у нас доктар і сказаў, што ў Хахлова нейкія хуткія сухоты і што яму засталося жыць не больш за два тыдні.

Хахлоў неяк па-дзіцячаму ўсміхнуўся і перапытаў:

— Так і сказаў?

— Я сам чуў,— бестурботна пацвердзіў Васілеўскі.

Я люта паглядзеў на яго, ушчыпнуў і сказаў:

— Чулі мы не раз твае навіны, а потым выходзіла, што нахлусіў, як сабака.

Хахлоў як быццам нічога не чуў і з той жа ўсмешкай глядзеў некуды ў кут...

З таго часу мы жылі нібы ў тумане. Што б ні рабілі, што ні казалі,— усё гэта было далёкае, невыразнае, несапраўднае. Хахлоў не плакаў, не скардзіўся, а нібы вянуў, як ліст пад сонцам.

Чытаць ён ужо не мог, а замест таго ляжаў цэлымі гадзінамі і думаў. Усё часцей і часцей ён распачынаў гутарку аб магчымай смерці, а ў сувязі з гэтым у нас зноў пайшлі разважанні аб рэлігіі.

— Мы з табой свядомыя людзі,— казаў ён,— і да таго ж самыя блізкія, дык не будзем валяць дурня, а пагаворым шчыра. Ты ўпэўнены, што душы няма, што я памру і ніякага духу ад мяне не застанецца?

— Па Дарвіну выходзіць, што душы няма,— адказваў я.

— І я так лічыў, а вось цяпер мільгае думка: а што, калі ёсць?

Я прызнаўся, што і ў мяне мільгае. А пасля адной падзеі мы і наогул ні аб чым больш думаць не маглі.

У нашай палаце было дзесяць хворых. Па другі бок ад мяне ляжаў стары худы чалавек. Увесь апошні час ён ляжаў так ціха і нерухома, што мы на яго забываліся. Ён ляжаў заўсёды на спіне, заплюшчыўшы вочы і задраўшы на падушцы галаву: так яму лягчэй было дыхаць. Калі яму трэба было паварушыцца, то пачынаўся страшэнны доўгі кашаль. Таму ён і стараўся не варушыцца. А ў горле яго ўвесь час булькала, пералівалася, хрыпела. Мне часта даводзілася яму то вады падаць, то плявальніцу, то падушку паправіць.

І вось аднойчы позна вечарам мы з Хахловым заўважылі, што ён дыхае ціха, не хрыпіць. Што гэта, добра ці дрэнна?..

Хахлоў перайшоў на мой ложак, і мы сталі сачыць. У палаце было ціха: частка хворых спала, рэшта не звяртала на нас увагі.

Хоць чалавек ляжаў спакойна і дыхаў без хрыпу, нейкі інстынкт падказваў нам, што ён памірае. Дыханне яго было нейкае тонкае, з прысвістам. І вось яно перарвалася, у грудзях рэзка хрыпнула, цела чалавека ўздрыганулася, і ён заціх...

Увесь бледны, з шырока расплюшчанымі вачыма, Хахлоў глянуў на мяне і прашаптаў:

— Памёр!..

Некалькі хвілін мы сядзелі моўчкі, перажываючы чужую смерць. Дык вось як яна адбываецца, гэтая смерць! Нібы і не страшна...

— А можа, на нашых вачах і душа з яго вылятала? — прашаптаў Хахлоў.

— Не ведаю,— адказаў я, думаючы тое самае, што і ён.

Захваляваліся хворыя ў нашай палаце, замітусіліся людзі ў белых халатах,— і праз некалькі хвілін нябожчык выехаў з палаты разам са сваім ложкам.

А нам здалося, што і ўсе людзі пакінулі палату, што мы з Хахловым засталіся адны. Месца, дзе толькі што стаяў ложак, здавалася цяпер вялікім, халодным. Нам стала куды страшней, як тады, калі чалавек на нашых вачах паміраў. Тады хоць мільгала ў галаве цікаўная думка: а што будзе далей? А цяпер мы ведалі: нічога не будзе!

Хахлоў доўга яшчэ сядзеў на маім ложку, утаропіўшы вочы на пустое месца. Сядзеў, маўчаў, часам нібы ўсміхаўся сваёй дзіцячай усмешкай і быў далёка-далёка ад нас...

Я таксама сядзеў ціха і нерухома. Я адчуваў, што чапаць яго цяпер нельга, і чакаў, пакуль ён сам звернецца да мяне.

Нарэшце ён зварухнуўся, зірнуў навакол затуманенымі вачыма і сказаў сам сабе:

— Дзе ж ён цяпер? Няўжо ніхто ніколі гэтага не будзе ведаць?

Не заўважаючы мяне, ён перабраўся на свой ложак, накрыўся коўдрай і заплюшчыў вочы.

І тады я выразна адчуў, што ў гэтыя мінуты ён ужо не ранейшы мой прыяцель, а другі, далёкі, які ўжо не цікавіцца нашымі справамі, а мае свае асобныя інтарэсы...

Пасля таго Хахлоў усё часцей і часцей ляжаў такім чынам на сваім ложку, або заплюшчыўшы вочы, або гледзячы ў нейкую кропку на стале. Ляжыць, ляжыць, а потым пытаецца:

— А што, калі бог ёсць? Што тады будзе?

Або:

— А што, калі пекла ёсць?

І мы зноў пачыналі вырашаць гэтае праклятае пытанне. Я казаў няўпэўнена і часам не тое, што сам думаў. Я адчуваў, што павінен падладжвацца да яго, не пярэчыць, не трывожыць яго. А ён, вядома, толькі аб гэтым і думаў. Паляжыць ціхенька, адпачне, а потым зноў пачынае:

— Ты разумееш, што выходзіць? Калі мы памыляемся, калі ў сапраўднасці бог ёсць, а таксама і душа, і пекла, то мне (ён крыва ўсміхнуўся) дарога туды прамая і адкрытая, нягледзячы на наш добры адзіны закон. А калі памыліцца веруючы чалавек, калі выявіцца, што бога няма, то ён нічога не страціць, памрэ сабе, як усе,— і больш нічога. Такім чынам выходзіць, што за памылку мы адказваем вечнымі пакутамі, а веруючыя нічым не рызыкуюць. Па-мойму, гэта надта няправільна і несправядліва.

Я добра разумеў, што хоча сказаць мой таварыш. Сапраўды, мы апынуліся ў нявыгадным становішчы. Веруючы можа быць зусім дрэнным чалавекам, нават злачынцам, а калі перад смерцю паспавядаецца, то можа быць спакойным: або нікуды, калі бога няма, або ў рай трапіць пэўна. А мы можам быць самымі лепшымі людзьмі, а пасля смерці трапім або нікуды, як усе, або ў пекла пэўна.

Але што ж нам цяпер рабіць? Зноў верыць у бога ці што? Што тычыцца мяне, то я магу яшчэ пачакаць, а вось Хахлову трэба зараз жа вырашыць пытанне.

І Хахлоў вырашыў.

— Як ні ламай галаву,— сказаў ён,— а рызыкаваць дарэмна няма сэнсу. Каму будзе бяда, калі я паспавядаюся, а бога няма? Што я страчу? А вось калі бог ёсць, то ён прыпомніць мне сёе-тое. Як ты думаеш, ці правільна я разважаю?

— Вядома, правільна! — шчыра сказаў я.— Вядома, нікому ніякай бяды не будзе, калі паспавядаешся дарэмна, а паміраць усё ж такі будзе спакайней. І яшчэ я хачу папрасіць цябе, каб ты і нам дапамог упэўніцца, ці ёсць душа, ці няма. Па законе божым душа сорак дзён круціцца недзе паблізу і часам нават дае знакі сваім блізкім. Дык вось, калі ў цябе будзе

душа, то абавязкова паведамі якім-небудзь спосабам. Я ж, здаецца, блізкі табе, ці не так?

— Так, так,— адказаў ён,— ты мне самы блізкі друг, і калі толькі будзе ў мяне душа, абавязкова з'яўлюся да цябе або падам які-небудзь знак. Толькі невядома, ці адпускаюць адтуль?

— У законе божым сказана,— напомніў я,— што душа ўсе гэтыя сорак дзён вольная і толькі пасля ідзе ў пекла або ў рай.

— Дык чаму ж тады ніхто нікому не з'яўляецца? — слушна заўважыў ён.— Колькі блізкіх людзей штодня паміраюць, а ніхто не з'яўляўся.

— А ў кнігах сказана, што з'яўляюцца,— стараўся я пераканаць сябра.— Памятаеш, у Тургенева ёсць такое апавяданне пра Клару Міліч, і ў законе божым пішацца. Калі іначай ніяк нельга будзе, то хоць у сне з'явіся; гэта лічыцца самым лёгкім спосабам. Самае галоўнае, каб ты сам вельмі хацеў, а тады ўжо можна будзе як-небудзь на хвілінку выскачыць. Браток, любы наш, прашу цябе ўсім сэрцам — зрабі такую ласку!

— Кажу табе, што пастараюся,— сказаў ён са слабай усмешкай,— нават магу пакляспіся нашым найвышэйшым законам. Пастараюся праскочыць што б там ні было, абы толькі сапраўды душа была.

Я так расчуліўся, што пацалаваў яму руку. Ён цяпер здаваўся мне зусім іншым, вышэйшым чалавекам.

Ён і сапраўды з кожным днём станавіўся іншым. Асноўная перамена была ў тым, што ён паступова нібы адыходзіў ад нашага жыцця.

Яго ўжо не цікавіла тое, што адбывалася вакол нас, не цікавілі і вучылішчныя справы, і нават кнігі.

Нашы сябры — Капыльскі, Вялічка, Рамашка — наколькі можна было, наведвалі нас, але трымалі сябе не так, як Васілеўскі. Яны перадавалі «чуткі», што Хахлоў хутка паправіцца. Хворы толькі недаверліва ўсміхаўся ў адказ. Гэтаксама ён усміхаўся, калі доктар у часе абходу весела казаў:

— Ого, браток, ды ты маладзец! Хутка выпісвацца будзем.

Нарэшце прыйшоў час, калі яго сталі выпісваць, толькі не з бальніцы, а з нашай палаты. Казалі, што наверсе ёсць лепшае памяшканне, дзе больш святла і паветра, якія яму вельмі патрэбны.

Калі мы развітваліся, я яшчэ раз шапнуў:

— Глядзі, не забудзь!..

— Не бойся, не забуду,— адказаў ён сур'ёзна і шчыра, але мне чамусьці здалося, што ў гэты час ён думаў пра нешта другое, сваё...

Бачыць яго мне ўжо не давялося. Калі я папрасіўся, мяне да яго не пусцілі. А пасля таго я выпісаўся з бальніцы.

Паведамленне аб яго смерці мы атрымалі дні праз два...

Само сабою зразумела, што я падрабязна расказаў нашым сябрам пра ўсе размовы з Хахловым. Расказаў, як мы вырашылі на кожны выпадак, што Хахлову варта паспавядацца.

І наш гурток прызнаў такое рашэнне правільным, паколькі яно зусім адпавядала нашаму закону.

— Ад гэтага нікому ніякай шкоды не будзе,— сказаў Рамашка,— а калі бог ёсць, то Хахлоў можа выйграць.

— Але мы нічога не выйграем, бо не будзем ведаць вынікаў,— зазначыў Вялічка.

— І гэта мы прадугледзелі,— адказаў я.— Хахлоў пакляўся, што калі ў яго будзе душа, то ён абавязкова паведаміць мне.

— Якім чынам? — спытаў Капыльскі.

— Яму будзе відней, як гэта можна зрабіць. Калі не адпусцяць, ён пастараецца ўцячы і з'явіцца ў сне.

Сорак дзён і сорак начэй мы чацвёра чакалі звестак ад нашага сябра. Кожную раніцу мае таварышы пыталіся ў мяне:

— Ну як? Нічога не чуваць?

— Нічога,— адказваў я, адчуваючы сябе нібы вінаватым.

Калі сорак сутак прайшло, Капыльскі з палёгкай сказаў:

— Ну, дзякуй богу, ні бога, ні душы няма!

Ён, вядома, радаваўся больш за нас усіх таму, што зрабіў самы вялікі грэх. І мы ўздыхнулі лягчэй, высветліўшы справу.

Але баязлівы Рамашка трохі сапсаваў нам настрой:

— Можа, ён ніяк не мог вырвацца або не ведаў, што ты з бальніцы выпісаўся?

Капыльскі злосна адказаў яму:

— А хіба ён не ведаў адраса нашага вучылішча?

Тады ўмяшаўся і я:

— Не забывайце, што сказана ў законе божым: душа гэтыя сорак дзён бадзяецца каля свайго цела. Значыць, Хахлоў не мог адысці далёка.

— А хіба наша вучылішча далёка ад бальніцы? — спытаў Вялічка.— На якую адлегласць ад цела мае права адлучацца душа?

Мы паглядзелі адзін на аднаго і паціснулі плячыма:

— Гэта ў законе не вызначана.

— Ну і задачу нам задалі! — уздыхнуў Вялічка.

Некалькі разоў узнімалі мы пытанне: ці не мог Хахлоў забыцца на нас, здрадзіць нам? Пасля ўсебаковага разгляду мы павінны былі аднагалосна прызнаць, што гэтага не магло быць. І тады Капыльскі зрабіўся радасным, вясёлым.

Але Рамашка зноў высунуў сумненне:

— А можа, чэрці адразу схапілі яго душу, як толькі яна вылезла з цела, і павалаклі ў пекла. Таму ён і не паспеў даць нам знак.

— Ды замаўчы ты, праклятая варона! — раптам уз'еўся Капыльскі і штурхануў Рамашку ў бок кулаком.— Чаго ты каркаеш? Чаго выдумляеш усякую лухту?

— Ды я... я... хачу ўсебакова разгледзець,— збянтэжыўся Рамашка.— А ты сам чаго ўз'еўся?

Так мы блукалі, як сляпыя шчаняты, у тумане, які заслаў вочы чалавецтву за папярэднія тысячагоддзі яго існавання.

Цяпер, праз шэсцьдзесят гадоў, я з задавальненнем гляджу на сваіх дзяцей і ўнукаў, якім ужо не трэба ламаць галаву над такімі пытаннямі.

Але не зайздрошчу ім. Бо ўсякае вызваленне, дасягнутае ўласнай барацьбой, даражэй і бліжэй сэрцу, чым атрыманае ў спадчыну.

## 12. ЗНАЁМСТВА З СЯСТРОЙ

> Помню то странное чувство недоумения, которое я испытывал, когда этот впавший в нищество брат мой... просил нас о помощи и был благодарен за 10—15 рублей, которые давали ему.
>
> *Л. Толстой. «Воспоминания детства»*

Мне рэдка даводзілася пісаць пісьмы маме, галоўным чынам таму, што яна не мела сталага адраса, а ўвесь час шукала сабе месца на зямлі.

То яна ў адным мястэчку, то ў другім, то ў невядомай вёсцы, то ў нашых Гнілушках, то ў манастыры: гэта значыць, прыладзілася да манастыра, мые там бялізну ці шые што, на кухні працуе ці на агародзе — і ўсё моліцца, моліцца...

Я ведаў ужо, што больш за ўсё яна моліцца за свайго адзінага любімага сына, за мяне: каб я добра вучыўся, быў здаровы і шчаслівы, каб заўсёды маліўся богу. І калі часам прыходзілі пісьмы, напісаныя кімсьці пад яе дыктоўку, то ў іх гаварылася ўсё аб тым жа:

«...Вучыся, сынок, вучыся, бо вучонаму лепей жыць на свеце. І слухайся сваіх начальнікаў. Калі не будзеш слухацца іх, то на душы тваёй будзе вялікі грэх і бог адвернецца ад цябе. А больш за ўсё не забывай бога, тады і ён цябе не забудзе, дасць табе здароўя і шчасця...»

Яна нібы адчувала, што ў мяне якраз з богам адносіны не надта добрыя.

У кожным пісьме яна казала «вучыся добра» і ніколі не сказала «працуй добра». І я ведаў ужо, што яна мела на ўвазе галоўным чынам вучобу кніжную, а не слясарную. Яна і цяпер марыла зрабіць з мяне «вучонага»: валаснога пісара ці дзяка, а то і настаўніка.

Раз ці два ў год я атрымліваў пакет з пяццю сургучнымі пячаткамі, а ў ім рубель. (Такім спосабам перасылалі тады грошы па пошце). І тады я не ведаў, што рабіць ад шчасця. Такую страшэнную суму наскрабла ці нажабравала недзе

мама і ўсю выслала мне. Я ведаў, што ўсю. Усе сто капеек. Галава кружыцца, калі падумаеш, колькі ўсялякага дабра можна купіць за гэтыя сто капеек.

Можна, напрыклад, закупіць у таварышаў «жулікі» на цэлы год, кожную нядзелю па «жуліку». А яшчэ можна замест таго наесціся пірожнымі так сама, як наеўся Андрук. Гэта было б вельмі выгадна: можа, тады да самай смерці не захацеў бы не толькі есці, а і глядзець на іх.

Аднаго разу я атрымаў пакет нават з трыма рублямі. А ў пакеце было сяк-так накрэмзанае пісьмо:

«Дарагі брацік Ваня! Вам піша Вашая сястра Люба. Пасылаю Вам нізкі паклон і тры рублі. Я, дзякуй богу, жывая і здаровая і малюся богу, каб ты таксама быў жывы і здаровы і добра вучыўся для мамы. Яна цяпер у манастыры, і я збіраюся да яе паехаць...»

Дык вось яна, тая таямнічая сястра, якой я не памятаю, а толькі чуў пра яе! І чуў не проста, а намёкамі ды абходнымі шляхамі. Цікава было б паглядзець, якая яна.

А пакуль трэба добра падумаць, што рабіць з капіталам, які так нечакана зваліўся мне на галаву. Я быў упэўнены, што мама мая ніколі не мела столькі грошай.

Па справядлівасці я павінен быў бы падзяліцца з ёю. Мяне тут і кормяць, і адзяюць, а яна кожную скарынку хлеба павінна сама здабываць. Вельмі добра было б паслаць ёй хоць рубель. Ды вось бяда: я зусім не ведаю, як гэта робіцца, як трэба запячатваць грошы ў канверт, дзе дастаць пячатку і сургуч, куды несці, да каго звяртацца. Ды што там казаць, я ж і адраса мамы не ведаю! Відаць, прыйдзецца пачакаць, пакуль вырасту. Тады пашлю ўжо больш як рубель.

І мне зрабілася лёгка на сэрцы ад думкі, што я калі-небудзь пашлю больш...

А цяпер трэба падумаць аб самым галоўным: аб падарожжы вакол свету. За тры рублі можна і лодку купіць. Толькі дзе яе паставіць? Не, лепш схаваць грошы да таго часу ды яшчэ кожную капейку адкладваць туды. Для такой вялікай справы можна загнаць і «жулікі» да самага сканчэння вучылішча.

Не буду апісваць падрабязна, як я падрыхтоўваў матэрыяльную базу для вялікага падарожжа. Скажу толькі, што планы мае праваліліся. Капітал не павялічыўся, а проста некуды знік. Ні лодкі, ні парусоў, нават вясла я не набыў аж да гэтага часу. Толькі камплект часопіса «Вокруг Света» яшчэ многа гадоў напамінаў мне аб самым галоўным у маім жыцці.

Аднаго разу мы з Васілеўскім сядзелі ў нашым клубе і разглядалі гэты самы часопіс. Раптам на двары пачуліся галасы:

— Янка! Ідзі сюды, да цябе маці прыехала.

Я ледзь не самлеў. Няўжо мама прыехала?..

Як куля, вылецеў я на двор і каля ганка ўбачыў невялікую шчуплую жанчыну. Але яна чамусьці была ў гарадской кофце і чаравіках, і хустка на ёй была не такая, як у мамы.

А калі я падышоў бліжэй, то ўбачыў, што і з твару яна не такая. У яе былі чорныя валасы і вялікія чорныя вочы, а па твары нельга было пазнаць, старая яна ці маладая.

Нерашуча наблізіўся я да яе, не ведаючы, што сказаць. А яна прыглядалася да мяне так пільна, што нават няёмка мне зрабілася.

«Гэта не мама,— з жалем падумаў я.— А хто ж тады?»

Я сарамліва ўсміхнуўся і сказаў:

— Добры дзень!

Тады, запінаючыся, яна спытала:

— Гэта вы... ты... будзеце Ваня Фёдараў?

— Я.

— А я ваша сястра Люба. Добры дзень, дарагі брат Ваня.

Яна ступіла да мяне і палажыла руку на плячо, каб пацалаваць. Я яшчэ больш нязграбна абняў гэтую незнаёмую жанчыну...

Так я пазнаёміўся са сваёй роднай сястрой.

— Які ты незнаёмы! — сказала яна.— Мне цяжка было пазнаць цябе. Я бачыла цябе апошні раз, калі ты быў вось гэткі, годзікі са тры. А цяпер выйшла так, што мы нібы незнаёмыя. А татка твой... наш... памёр.

Сказала, засаромелася, пачырванела... І мне зрабілася балюча. Я ўжо ведаў, што татка быў не «наш», а толькі мой. Прозвішча ў яе было не маё, а бабуліна, і разам з намі яна ніколі не жыла. Гадоў да васьмі была яна ў бабулі, а потым яе аддалі ў нянькі.

З таго часу яна і жыла самастойна. Сустракаўся я з ёю вельмі рэдка. Калі мама гаварыла пра яе, то неяк неахвотна, нібы саромячыся. А калі з бабуляй размаўляла аб ёй, то плакала.

— А вы... ты... застанецеся жыць у мамы ці вернецеся назад у горад? — спытаў я, запінаючыся.

— Не ведаю яшчэ, як выйдзе,— адказала яна.— Калі мама цяпер жыве адна ды каля манастыра, то абедзвюм будзе добра жыць. Якую-небудзь работу мы будзем мець і адна адну падтрымаем. А калі яна ў багатага гаспадара, то там не будзе месца. Вось калі ты скончыш вучылішча і станеш майстрам, можа, тады першы раз у нашым жыцці мы зажывём разам, адной сям'ёй. Ты не будзеш пярэчыць, каб і я з вамі жыла?

Вочы яе глядзелі з такой пакорлівай просьбай, што нават маё хлапечае сэрца сціснулася ад жалю. Яна ж да гэтага часу яшчэ ніколі не жыла ў роднай сям'і! А цяпер, калі мая кар'ера была ясная, калі пэўна вядома, што я буду слесарам, сястра і выказала сваю запаветную думку.

— Вядома, будзем жыць разам! — шчыра сказаў я.— Праз паўгода я скончу, і тады зажывём.

Твар яе засвяціўся ад шчасця, і яна зрабілася маладзейшай і прывабнай.

Яна трохі адвярнулася, выцягнула аднекуль хусцінку, дастала адтуль рубель і працягнула мне.

На гэты раз я запратэставаў ад самага шчырага сэрца:

— Навошта мне? Нам тут даюць усё, што трэба. Ды ў мяне яшчэ ад тых грошай засталося,— зманіў я ў дадатак.

Але яна так пакрыўдзілася, што нават слёзы заблішчалі на яе вачах.

Як я ні супраціўляўся, яна ўсё-такі прымусіла мяне

ўзяць грошы. Цяпер магу прызнацца, што пасля таго я нават быў рады, што так скончылася.

— Ну, бывай, Ваня! — схамянулася яна.— Мне трэба ехаць.

— Пачакай, я цябе правяду,— сказаў я.— Пайду папрашуся.

— Навошта? Навошта? — спалохана замахала яна рукамі, нібы ёй пагражала небяспека.— Не трэба! Я сама!

Пазней я зразумеў, чаму яна так спалохалася: яе ж да гэтага часу ніхто ніколі не праводзіў, а тут раптам знайшоўся праважаты ды яшчэ родны брат і будучы майстар. Было ад чаго спалохацца!

На вакзале я адчуў хваляванне, нібы ў мяне пачалі расці крылы і я вось-вось некуды палячу.

На сваім вяку я толькі адзін раз ехаў па чыгунцы, калі мне было гадкоў чатыры ці пяць. І ад гэтага падарожжа ў маёй памяці засталіся не чыгунка, не вагоны, а лес, ноч, могілкі і босы дзядзька, які смешна сядзеў бокам на возе. І ў гэты горад чатыры гады назад я не ехаў цягнiком, а ішоў пешшу дзён дзесяць (замест шасці гадзін па чыгунцы).

А цяпер я, можна сказаць, упершыню блізка ўбачыў і шумны вакзал, і вагоны, і паравозы, і хвалюючы рух вакол сябе. У гэты момант я адчуў задавальненне, што не купіў лодкі. Відаць, прыйдзецца яшчэ падумаць, ці не лепей будзе пусціцца ў свет па чыгунцы замест мора...

З таго дня ў маёй душы пачалася зацятая барацьба паміж морам і сушай. І працягвалася яна да таго часу, пакуль абодва бакі не капітулявалі перад рэальнасцю.

Тым часам сястра купіла білет. Спатрэбілася і мая дапамога, каб увапхнуць яе ў вагон IV класа.

Потым я некаторы час глядзеў, як яна ўсміхалася мне, а з вачэй цяклі слёзы.

Празвінеў трэці званок. Поезд крануўся. Твар сястры праплыў перада мной і знік... назаўсёды.

## 13. ВЫХАД У ЛЮДЗІ

И пошел я в люди.
*М. Горький. «Детство»*

Набліжаўся канец маёй вучобы ў рамесным вучылішчы. Скончыліся класныя заняткі, пастаўлены адзнакі па вучэбных прадметах. Прадметаў набралася многа, больш чым было падручнікаў, а ведаў — адны толькі ўрыўкі.

Далей за іншых пайшлі ў сваім развіцці тыя, хто больш выпісваў прэйскурантаў. Але найбольш развітымі былі мы, бязбожнікі, бо мы адны прачыталі ўсе бібліятэчныя кнігі, што атрымліваліся на ўсё вучылішча.

У майстэрні загадзя далі нам экзаменацыйныя работы. Мне трэба было зрабіць засаўку для дзвярэй, дасканалую, з «сабачкам», якую я сам павінен быў загартаваць пад роўны сіні колер.

Некалькі тыдняў было патрачана на яе, але затое рэч атрымалася такая багатая, якой я ў продажы ніколі і не бачыў. Толькі ў нашай шафе, што стаяла ў майстэрні, можна было бачыць такія цудоўныя вырабы.

Адно толькі мучыць мяне дагэтуль: кавальскія загатоўкі, якія кожны вучань павінен быў рабіць сабе сам, мне зрабіў Залескі. Аднак, нягледзячы на гэта, я цяпер даў бы тысячу рублёў за тыя мае загатоўкі.

Атэстаты нам выдалі надзвычайныя: папера «гербавая», з вадзянымі знакамі, як на кацярынінскіх сторублёўках, аздоблена прыгожымі рамкамі, а над нашымі адзнакамі зіхацяць залатыя словы:

«ЯГО ІМПЕРАТАРСКАЙ ВЯЛІКАСЦІ
ГАСУДАРА ІМПЕРАТАРА АЛЯКСАНДРА III».

І падпісаў атэстаты сам губернатар!

У дадатак да атэстатаў выдалі невялікія кніжачкі, дзе гаварылася, што мы цяпер называемся падмайстрамі, а праз пяць гадоў можам трымаць экзамен на майстра. Толькі дзеля гэтага спачатку трэба праслужыць пяць гадоў у якога-небудзь майстра і атрымаць ад яго пасведчанне. Былі і правілы паво-

дзін для нас, калі мы будзем працаваць у майстра; паміж іншым, было сказана, каб мы слухаліся не толькі яго, але і яго жонкі. Мы задумаліся.

«Што з гэтымі паперкамі рабіць? — задаваў сабе пытанне кожны з нас.— Куды ісці? Дзе і як шукаць працы? Дзе дастаць сабе майстра? Дзе жыць і харчавацца?»

Мы з Вялічкам звярнуліся з гэтымі пытаннямі і да нашага выхаваўцы Аляксандра Сцяпанавіча. Той паглядзеў на нас здзіўлена і адказаў:

— А гэта ўжо ваша справа. Мы сваю задачу выканалі, далі вам падрыхтоўку, дакументы і выпусцілі ў людзі. Чаго ж вам болей? Шукайце сабе работу і жывіце, як усе.

— Тады дазвольце нам застацца ў вучылішчы, пакуль мы знойдзем сабе месца.

Аляксандр Сцяпанавіч усміхнуўся:

— А калі вы будзеце шукаць многа месяцаў?

— Тады дазвольце пажыць тыдзень ці два,— прасіліся мы.— Мы паступова будзем разыходзіцца.

— Ну, добра,— уздыхнуў Аляксандр Сцяпанавіч.— Пачакаем некалькі дзён.

Цяпер ужо мы адчувалі сябе ў вучылішчы чужымі. Аляксандр Сцяпанавіч зусім намі не цікавіўся. А калі пры сустрэчы спытаецца, як нашы справы, то абавязкова дадасць:

— Хутчэй, хутчэй выбірайцеся, вы нам перашкаджаеце.

Добра яшчэ, што есці даваў, але ўжо не так, як раней, а сёе-тое, адчэпнае.

І нікому з начальства, а таксама і нам самім, не прыходзіла ў галаву, што выпуск наш — справа ўрачыстая, што варта было б зрабіць урачысты вечар, дапамагчы і ўсё такое.

Адна толькі ўцеха, што атэстаты нашы былі з залатымі літарамі і падпісаў іх сам губернатар.

Такім чынам нас выпусцілі ў людзі, і мы пайшлі куды вочы глядзяць.

Мы добра ведалі, што знайсці працу вельмі цяжка, таму хадзілі па адным, каб не было другога канкурэнта. Але ў першы ж дзень я сустрэў некалькі сваіх таварышаў на заводзе нашага суседа Тыльманса. Мы разам пайшлі ў кантору.

— Гэта тыя, што лазяць да нас праз плот? — са смехам спытаў нейкі начальнік.

— Тыя,— адказалі мы сарамліва.

— На жаль, вы і цяпер нам не патрэбны, мы вам не можам даверыць машыны. Ды і наогул вакансій няма.

Мы павесілі насы і пайшлі, не пабачыўшы завода.

У наступныя дні я хадзіў проста па вуліцах, прыглядаючыся да шыльдаў і выбіраючы тыя, што маюць дачыненне да жалезных спраў.

Вось «Слясарная майстэрня Я. А. Шмуклера». Баязліва ўваходжу. У маленькім памяшканні працуе за ціскамі стары чалавек.

— Можа, вам патрэбен памочнік? — запінаюся я.

Ён спыняецца, аглядае мяне з галавы да ног і пытаецца:

— Гэта... ты хочаш у памочнікі?

— Я. Толькі што скончыў рамеснае вучылішча. Маю дакументы, што я слесар-падмайстар.

— Падмайстар? — ужо зусім рассмяяўся ён.— Пацан яшчэ, а падмайстар! Мала карысці з такога падмайстра. Калі хочаш, ідзі да мяне ў вучні і тады праз год-другі будзеш сапраўдным падмайстрам.

— А на якіх умовах?

— Умовы добрыя. Па-першае, платы за навучанне браць з цябе не буду, а гэта многа значыць. Па-другое, дам табе кут і харч, а гэта ўжо будзе вялікая плата. А ты толькі будзеш вучыцца майстэрству дзеля сваёй карысці. Ну, ды яшчэ, жывучы ў доме, ты часам паможаш па гаспадарцы, як гэта робіць кожны член сям'і.

Я ўжо ведаў, што азначае гэтая «дапамога па гаспадарцы», ведаў, што так пачынаюць хлапчукі, якія яшчэ нідзе не вучыліся, таму з гонарам адказаў:

— Не, гэта мне не падыходзіць. Я ж і так вучыўся чатыры гады.

Гаспадар пакрыўдзіўся:

— Ну, калі ты гэтакі вучоны, то сам адкрывай сабе майстэрню. Нават на галоўнай вуліцы.

Так было ва ўсіх малых майстэрнях, куды я заходзіў.

У большай майстэрні, якую я напаткаў, апрача некалькіх дарослых рабочых, быў і хлопчык-вучань, а такія «падмайстры», як я, былі зусім непатрэбныя.

Залескаму адразу пашанцавала: ён паступіў на завод Шмідта, што быў на самай ускраіне горада. Ад шасці гадзін раніцы да сямі вечара (з перапынкам на абед) падсоўваў ён жалезную паласу пад штамп, які прабіваў у ёй дзірку і адсякаў шайбу.

Вядома, і ў тыя часы можна было зрабіць машыну, якая сама сабе падсоўвала б жалезную паласу, але, відаць, такая машына каштавала б даражэй, чым жывы хлопец, нават такі кваліфікаваны, як Залескі.

Я загарэўся жаданнем таксама падсоўваць жалезную паласу. І Залескі быў бы вельмі рады, каб разам працаваць і жыць. Але другога месца не знайшлося.

Не лепш была справа з нашымі шаўцамі і краўцамі. Па іхняй спецыяльнасці было безліч майстроў, якія абслугоўвалі народ. Такі саматужнік працаваў сам-адзін і ніякага памочніка не шукаў. Але ад бясплатнага памочніка-вучня-слугі мала хто адмаўляўся. І ўсім нашым хлопцам на кожным кроку прапаноўвалі такія «пасады».

Васілеўскі раззлаваўся, парваў свае «падмайстровыя» дакументы і сказаў:

— Хопіць! Паеду да дзядзькі дапамагаць яму ў гаспадарцы. А калі набуду няхітрае шавецкае абсталяванне, сам сабе зраблюся майстрам.

Прызнаюся, што і я парваў гэты свой «дадатковы дакумент», невядома для чаго нам дадзены. Мы мелі асноўны каштоўны дакумент, атэстат аб сканчэнні рамеснага вучылішча. У ім былі адзнакі па ўсіх прадметах, якія мы вывучалі, у тым ліку і па майстэрству.

Праз два-тры дні лік нашых выпускнікоў зменшыўся больш як напалову. Спачатку раз'ехаліся тыя, хто меў дом і бацькоў. Потым тыя, хто меў братоў ды дзядзькоў. А яшчэ потым,— хто меў дваюрадных, траюрадных ці пяціюрадных сваякоў.

Нарэшце пазаставаліся адны бяздомныя, якім не было куды

дзецца. То адзін, то другі з іх вымушаны былі паступаць у «вучні» да саматужнікаў.

Сярод бяздомных быў і я.

Ад сястры пісьмо прыйшло не скора. Яна пісала, што пагасцявала ў мамы доўга, а потым паехала «дадому», назад у свой горад. А мама цяпер жыве ў аднаго старога гаспадара, Глудкіна, у мястэчку Рогава. Ехаць туды трэба праз павятовы горад П., а адтуль трыццаць вёрст коньмі. А свайго адраса сястра пакуль што не дае, бо сама яшчэ не ведае.

Многія пытанні ўзнікалі пасля гэтага пісьма, але я аб гэтым не думаў. Я ведаў толькі, што мама, як заўсёды, служыць у кагосьці работніцай, а я павінен стаць на работу, каб зарабляць на нас абаіх.

Я зараз жа напісаў ёй, што неўзабаве канчаю вучылішча, паступаю на работу і праз хуткі час вазьму яе да сябе.

А цяпер вось высветлілася, што не толькі я не магу ўзяць маму, але і самому мне няма куды дзецца. Адзіны выхад — пайсці ў вучні да саматужніка.

Прайшлі льготныя дні. Нас, беспрацоўных, засталося толькі два-тры чалавекі. Аляксандр Сцяпанавіч ужо напомніў, што час пакідаць сцены вучылішча.

І вось у такі момант атрымліваю я пакет з сургучнымі пячаткамі, а ў ім... аж дзесяць рублёў! Не толькі я, але і мама, мусіць, ніколі не бачыла столькі грошай. А цяпер яна сама высылае мне столькі, мне аднаму.

Пісьмо было кароткае, як тэлеграма:

«Работы не шукай, а прыязджай зараз жа да мяне. Поездам да Панявежа, а потым 30 вёрст на конях у Рогава. Спытай Глудкіна, кожны пакажа, дзе ён жыве. Твая мама».

Любая, дарагая мама! Зноў ты прыйшла на дапамогу ў самую крытычную мінуту, акурат тады, калі я скончыў вучылішча і «выйшаў у людзі». Вось ужо другую школу я канчаю, і другі раз ты мяне ратуеш...

І я паехаў «дадому», не ведаючы, які гэта дом, чый гэта дом, дзе ён знаходзіцца і што мне прыйдзецца рабіць.

*Канец другой кнігі*

*1958 г.*

# КНІГА ТРЭЦЯЯ

## 1. Я СТАЮ ЗА НАРОД

> Мы хором повторяли слова молитвы и поглядывали на часы. До конца урока оставалось десять минут.
>
> *К. Паустовский. «Далекие годы»*

Я ў настаўніцкай семінарыі...

Кожны вечар, з шасці да васьмі гадзін, мы зноў збіраліся ў сваіх класах, каб рыхтаваць урокі на наступны дзень. Не ведаю, як каму, а мне такі парадак падабаўся. Хадзіць па класе, выходзіць з яго, крычаць забаранялася: чуўся толькі ціхі гоман, як у пчаліным вуллі, і пад гэты гоман надта добра было займацца сваімі справамі. За парадкам сачылі і наш дзяжурны, і дзяжурны ад старэйшага класа, і дзяжурныя настаўнікі.

Усё гэта садзейнічала стварэнню працоўнай атмасферы. Гультаю заставаўся толькі выбар: сядзець і нічога не рабіць альбо рыхтаваць урокі. А для таго, каб сядзець і нічога не рабіць, трэба мець такую цярплівасць і настойлівасць, якіх у гультая, напэўна, не хопіць. Часам пусціць хто папяровага голуба, а клопату ад гэтага не абярэшся. Праз трох дзяжурных абавязкова дойдзе да нашага класнага настаўніка Івана Іванавіча, а тады толькі трымайся: з пяцідзесяці мінут свайго ўрока па славянскай мове прынамсі сорак восем ён патраціць на разбор справы аб свавольным пусканні папяровых галубоў у часе вячэрніх заняткаў.

Але на тое чалавеку і розум дадзены, каб паварочваць усе з'явы прыроды на сваю карысць. Павярнулі і мы энергію Івана Іванавіча на карысць усяго нашага класа. Калі зададзены ім урок быў цяжкі ці мы не выканалі яго пісьмовага задання, тады мы спецыяльна арганізоўвалі «злачынства», каб накіраваць энергію нашага класнага настаўніка на разбор справы. Заўтра, напрыклад, мы павінны здаць спражэнне дзеяслова

«быти», а некаторыя задання яшчэ не выканалі. Па закону салідарнасці большасць не магла падаваць свае работы, пакінуўшы меншасць. Таму прадстаўнік меншасці Ітомлінскі выступіў з заявай:

— Хлопцы, заўтра трэба здаць Івану Іванавічу спражэнне, а ці ўсе зрабілі?

— Не, не, не!..— пачулася галасоў дзесяць.

— Значыцца, трэба каго-небудзь выбраць «на злачынства».

Супраць падобнай прапановы да гэтага часу яшчэ ніхто ніколі не пярэчыў. Таксама ніхто не пярэчыў, калі была высунута мая кандыдатура. І сам я ахвотна згадзіўся для грамадскай карысці. Заставалася толькі выбраць спосаб парушэння дысцыпліны. Галубы былі ўжо скарыстаныя, крык — невядома як было аформіць, пабіць каго-небудзь — надта ўжо стары спосаб. Сяджу я, ламаю галаву, а мазоль на пальцы правай нагі пячэ. Зняў я бот, і тады мне прыйшла ў галаву геніяльная думка: запусціць у каго-небудзь ботам. А тут якраз увайшоў варты такога бота дзяжурны старэйшага класа Чапурын; я ў яго і запусціў.

На другі дзень наш клас ішоў на ўрок славянскай мовы спакойным: не трэба было ні вучыць урока, ні думаць аб заданні. Кожны нарыхтаваўся рабіць якую-небудзь сваю справу, рашаць задачу, вучыць прыродазнаўства, а то пісаць тое самае спражэнне. Хто ўсё выканаў, той узяў сабе кнігу для чытання. Толькі я адзін не мог рыхтавацца ні да якой карыснай работы: я павінен буду ўсю гэтую гадзіну прастояць.

Увайшоў Іван Іванавіч, нізенькі, пузаценькі, з цёмнай барадою. Мы яго называлі «качкай», не столькі за яго выгляд, колькі за кракаючы голас. Падышоўшы да стала, ён спачатку пастаяў, гледзячы на нас, а мы стаялі, гледзячы на яго. Затым усе селі. Потым ён стаў шукаць вачыма мяне, паглядзеў, зноў памаўчаў і нарэшце кракнуў:

— Фёдараў, устань!

Я ўстаў. Нельга сказаць, каб ён глядзеў на мяне злосна; наадварот, вочы яго нават пасмейваліся, нібы гаворачы: «Ага,

вось я цябе і злавіў!» Таму мы і не баяліся ісці на свядомае «злачынства».

— Ну-с,— урачыста пачаў Іван Іванавіч,— раскажы нам, што ты рабіў учора вечарам на занятках?

— Вучыў урокі.

— А яшчэ што рабіў? — хітравата спытаў ён.

— Яшчэ пісаў.

— Так, так. Ну, а яшчэ што? Прыпомні.

— Потым рашаў задачы, вучыў верш «Брожу ли я вдоль улиц шумных»...

— Так, так, добра. Вельмі добра, што вучыў верш Пушкіна. Вершы такога вялікага паэта выхоўваюць у нас самыя лепшыя пачуцці. Чалавек, які ўспрыме вершы Пушкіна ўсёй душой і сэрцам, не будзе рабіць дрэнных учынкаў, не будзе парушаць дысцыпліну. А ты што робіш?

— Нічога,— кажу я спакойна, пазіраючы ў акно.

— Нічога? — перапытаў ён, хітра прыплюшчыўшы вочы.— Нічога, кажаш? Хто нічога не робіць, той нічога і не варты. Нічога не рабіць — гэта тое самае, што рабіць дрэннае. Нават самы апошні гультай не можа сказаць, што ён нічога не робіць. Хоць што-небудзь — ды робіць. Хай сабе мух пералічвае, гэта таксама работа, толькі бескарысная. І каб ты рабіў такую работу, ніхто да цябе прэтэнзіі не меў бы. А ты рабіў нават горшае, чым гультай. Прызнавайся, што ты рабіў!

— У мяне балеў мазоль, і я зняў бот,— казаў я, мяркуючы, каб хапіла матэрыялу на ўвесь урок.

— Зняў бот — і толькі? Каб толькі зняў бот, то ніякай гутаркі ў нас з табой не было б. Каму не даводзілася здымаць бот? Кладзецца чалавек спаць, здымае боты — і ніхто яму ніякай заўвагі не робіць. А дзе чуў, каб хто-небудзь здымаў бот у класе, ды яшчэ ў часе заняткаў? Скажы, дзе ты чуў?

— Нідзе,— пакорліва адказаў я.

Таварышы не вытрымалі і засмяяліся. Смех гэты падбадзёрыў Івана Іванавіча, і ён з новай энергіяй працягваў далей:

— Вось бачыш. Ніхто нідзе яшчэ да такога бясчынства не дадумаўся, а ты ўжо дадумаўся. Што ты зрабіў, зняўшы бот?

— Нічога...

— Зноў нічога! — ужо раззлаваўся Іван Іванавіч. — Каб нічога не рабіў, то нічога і не было б. А тут нешта было. Ну, што?

— Я хацеў вытрасці бот і...— казаў я, не ведаючы, куды заеду.

— ...і кінуў яго ў старэйшага дзяжурнага Чапурына? — скончыў ён.— Так?

Я маўчаў.

— Дык ведай,— сказаў Іван Іванавіч з прыціскам,— што ты зрабіў дзве непрыемнасці разам. Па-першае, ты надумаўся вытрасаць свой бот і, трэба думаць, брудную анучу тут жа, у класе, у часе заняткаў, перад сваімі таварышамі... Тут жа сядзіць трыццаць шэсць чалавек!.. Як табе не сорамна? Хіба мала гаварылася вам, што трэба захоўваць чысціню і акуратнасць, а ты дазваляеш сабе такую грубую неахайнасць!

— Я больш не буду,— паддаў я пары.

Іван Іванавіч развёў рукамі і насмешліва паківаў галавой:

— Ай-ай-ай! Які ты добры! Ён, бачыце, больш не будзе ў класе ў часе заняткаў здымаць боты і вытрасаць анучы. Які ж ты малайчына! А запускаць ботам у старэйшага дзяжурнага таксама не будзеш?

— Не,— адказаў я, бо нічога іншага не заставалася рабіць.

Зноў засмяяліся вучні і падбадзёрылі Івана Іванавіча.

— Зусім хлопчык-цаца! — пляснуў сябе па калену Іван Іванавіч.— Сказаў «не» і думае, што і справе канец. А адказваць за правіннасць хто будзе? Пушкін?

Цяпер ужо ў класе ўзняўся рогат. І сам я ледзь стрымліваўся ад смеху, але трэба было выконваць свой абавязак. Я зрабіў посную міну і прамовіў:

— Я незнарок.

Іван Іванавіч аж падскочыў з крэсла і забегаў па класе.

— Чуеце, што ён гаворыць? — звярнуўся ён да вучняў, а затым да мяне: — Дзе быў старэйшы дзяжурны?

— Ля парога,— адказалі некалькі галасоў.

— А ты дзе сядзеў?

— Тут, на сваім месцы.

— Гэта значыць, ззаду, ля сцяны,— пачаў меркаваць Іван

Іванавіч. Паглядзіце цяпер, як можна незнарок трапіць адтуль у чалавека, што знаходзіцца вось тут, дзе я стаю. Паспрабуйце трапіць незнарок.

— Хай ён паспрабуе! — пачуўся голас нашага веселуна Карасіка.

Усе з задавальненнем зарагаталі, толькі Іван Іванавіч, захоплены важнай справай, не заўважыў, што жарт тычыцца яго.

На гэтым следчая частка справы была закончана. Цяпер заставалася выступіць з абагульняючай прамовай. Іван Іванавіч прайшоўся па класе, набраў паветра, нібы збіраючыся нырнуць у ваду, і пачаў:

— Разбяромся цяпер мы ўсе разам у гэтай ганебнай гісторыі. Яна тычыцца не толькі Фёдарава, але і вас усіх. Сёння адзін, заўтра другі, а потым развал усяго класа. Прыгадаем апошні выпадак, калі Гарашчэня надумаўся ў часе вячэрніх заняткаў пускаць папяровых галубоў. Ці даўно гэта было, а цяпер зноў дзікі выбрык. Здаецца, мы з вамі добра абмеркавалі тады выхадку Гарашчэні, зразумелі ганебны сэнс яе, усвядомілі шкоднасць такіх учынкаў, а цяпер выходзіць, што мы дарэмна балбаталі языкамі. Навошта тады нам траціць час на бескарысную балбатню? Лепш ужо заняцца непасрэднай нашай працаю. Дзяржава хоча зрабіць з вас вартых людзей, добрых настаўнікаў. А якім чынам вы будзеце навучаць дабру дзяцей, калі самі не можаце трымаць сябе прыстойна? Бадай усе вы выйшлі з народа, каб дзяржава не падабрала вас, вы засталіся б цёмнымі мужыкамі, як вашы бацькі і дзяды. Здавалася б, вы кожную хвіліну павінны былі адчуваць удзячнасць да нашага цара, маліцца за яго дзень і ноч, а вы вось што выраблява еце.

Празмернае «абагульненне» Івана Іванавіча пачало, нарэшце, злаваць вучняў, перашкаджаць іхняй рабоце. Як тут будзеш займацца сваімі справамі, калі настаўнік перашкаджае, калі ён гаворыць такія несправядлівыя непрыемнасці. Асташоў не вытрымаў і сказаў:

— Ды не ўсе мы кожны дзень кідаем боты!

Іван Іванавіч нібы ўзрадаваўся гэтым словам.

— А вы хочаце, каб кожны дзень былі такія выпадкі? — усклікнуў ён.— Толькі гэтага не хапала! Досыць таго, што мы ўжо некалькі разоў разглядаем такія справы, а толку мала...

І ён паехаў далей на сваім кані. Голас яго нагадваў ужо не качку, а нямазаныя колы. Пад іх скрып ужо можна было і чытаць і пісаць. Іван Іванавіч хадзіў па класе, размахваў рукамі і пасылаў гарачыя словы ў нашы халодныя душы. Але словы па дарозе замярзалі і не даходзілі не толькі да нашых душ, але і да вушэй. Толькі цяпер мы маглі адзначыць, што ўрок пайшоў так, як мы жадалі і дзеля чаго кідалі няшчасны бот. І настаўнік, і вучні былі задаволены, толькі я павінен быў стаяць, як слуп...

Нарэшце пачуўся выратавальны званок, такі мілагучны, чароўны. Ад гэтага гуку Іван Іванавіч нібы прачнуўся, паглядзеў на мяне і з дакорам паківаў галавой:

— Вось што ты нарабіў!

Калі ён выйшаў за дзверы, Карасік крыкнуў:

— Маладзец, Янка! Цвёрда пастаяў за народ цэлую гадзіну!

## 2. ДРУЖБА З БАЦЮШКАМ

> На следующий урок «закона божьего» к нам пришел вместо Трегубова молодой священник с лицом поэта Надсона, любитель философии и литературы. Мы сразу же полюбили его за деликатность и молодость, и дружба эта не прерывалась до окончания гимназии.
>
> *К. Паустовский. «Далекие годы»*

Здаецца, гэта пачалося пасля таго, як я напісаў класнае сачыненне па законе божым на тэму: «Любоў да бліжняга». Тое, што я быў бязбожнікам, ніколькі не перашкодзіла мне напісаць сачыненне лепш за ўсіх веруючых таварышаў. Я адзначыў, што Хрыстос патрабуе, каб мы любілі бліжняга, як самога сябе, і падмацаваў гэта цытатамі з евангелля. Сказаў, што любіць трэба так, каб мог ахвотна сам аддаць ніжнюю сароч-

ку, калі разбойнік здзярэ з цябе верхнюю, а таксама з радасцю падставіць левую шчаку, калі ён лясне табе па правай. І гэта падмацаваў цытатай з евангелля. Калі я, пішучы гэтыя словы, сам сабе пасмейваўся, то шчыра і з хваляваннем прыводзіў тыя словы, дзе гаворыцца, што большай любові няма, як «паложыць душу сваю за другі свая».

Сачыненне гэтае так уразіла бацюшку, што ён паставіў адзнаку «пяць з плюсам», а на мяне стаў глядзець, як на роднага сына. Трэба думаць, што ён і без таго заўважыў і чуў ад іншых настаўнікаў, што я больш падрыхтаваны і развіты, чым мае таварышы. Я, з свайго боку, таксама заўважыў, што ён больш падрыхтаваны і развіты, чым іншыя бацюшкі. І па выглядзе ён адрозніваўся ад святароў, якіх я сустракаў. Быў тонкі, гнуткі, як кот, і хадзіў ціха, гаварыў салодка; рыжая барада яго была франтавата падстрыжана, а вочы,— як у сінявокай дзяўчыны. Самае ж галоўнае, ён быў вельмі разумны; цяпер я магу сказаць, што ён быў небяспечна разумны.

Першы ўдар ён нанёс не толькі мне, але і маім таварышам, калі на ўвесь клас абвясціў, што... пекла няма!

— Не трэба думаць,— казаў ён,— што душа грэшніка на тым свеце пакутуе акурат так, як вы да гэтага часу чулі і бачылі на малюнках. Няма такога пекла пад зямлёй, няма катлоў з гарачай смалой, няма гарачых патэльняў, якія трэба лізаць языком, адным словам, няма ніякага такога абсталявання. Душа ёсць дух, і пакутаваць яна будзе духоўна. Вы, пэўна, не раз чулі, а можа, і перажылі такія душэўныя пакуты, якія горш за смалу, а грэшная душа на тым свеце, у цемры, адрынутая богам, будзе адчуваць сябе зусім не лепей, чым у агні. Вы спытаеце цяпер: навошта тады мы гаворым і пішам пра вогненнае пекла? Адказ вельмі просты: цёмны народ, як малыя дзеці, не зразумее такіх тонкасцей, пра якія я цяпер кажу вам, народ павінен баяцца чагосьці канкрэтнага, рэальнага. А калі ён будзе навучацца, як вы цяпер, то дазнаецца, як рэлігія ў сапраўднасці глядзіць на гэтую справу.

Мне чамусьці здавалася, што, гаворачы гэта, бацюшка больш глядзеў і звяртаўся да мяне. Я стаў адчуваць нейкую блізкасць да яго, нібы да свайго роднага бацькі. Цяпер я магу

ўжо сказаць, што ён бачыў мяне наскрозь, бачыў, якую рэвалюцыю я перажываю, і даўно ведаў, што я быў «папсаваны». Вось чаму ён так узрадаваўся, калі прачытаў маё «разумнае» сачыненне, калі ўбачыў, што я «падаю надзеі» зрабіцца зусім добрым вучнем. З таго часу нібы нейкая нябачная ніць злучыла нас. Калі ён уваходзіў у клас, я, і не гледзячы ў той бок, адчуваў, што ўвайшоў ён. А калі ён з натхненнем расказваў пра якія-небудзь складаныя духоўныя ці душэўныя справы, то я выразна бачыў і адчуваў, што ён у першую чаргу мае на ўвазе мяне. І ён, відаць, ведаў, што самым прагным слухачом быў я.

Ды і як было не слухаць, калі ён расказваў так разумна, так цікава і па-новаму. Ён, напрыклад, казаў, што зусім неабавязкова разумець біблію так, нібы бог сапраўды ствараў свет сем дзён. Навука гаворыць, што сусвет развіваўся мільёны і мільярды гадоў, пакуль прыняў цяперашні выгляд. Гэты час навука дзеліць на пэўныя перыяды: дэвонскі, горскі, каменнавугольны і гэтак далей. Вось тыя перыяды для бога тое самае, што для нас дні.

Я быў у захапленні. Ды гэта ж тое самае, што я чытаў у кнігах! І ў артыкулах пра Дарвіна гаварылася пра такое самае развіццё сусвету. Вось зараз бацюшка скажа, што чалавек паходзіць ад малпы,— тады ўсё будзе добра. Але бацюшка гэтага не сказаў, а паехаў зусім у іншы бок, стаў гаварыць тое ж, што і ўсе папярэднія бацюшкі. Я тады падняў руку. Бацюшка з асаблівай цікавасцю зірнуў на мяне і спытаў:

— Ну, што скажаш?

Падбадзёраны яго ласкавасцю, я смела спытаў:

— Ці праўда, што чалавек паходзіць ад малпы?

У класе пачуўся гул: адны здзівіліся, другія засмяяліся, іншыя спалохаліся, а ўсе разам сталі глядзець на мяне і на бацюшку, чакаючы, што цяпер будзе. Але нічога страшнага не адбылося: бацюшка толькі ўсміхнуўся і спакойна спытаў:

— А ты дзе гэта чуў?

— У кнізе чытаў.

— Мусіць, пра Дарвіна?

— Але.

Таварышы былі ашаломлены такім паваротам размовы. Яны чакалі буры за мой дзёрзкі жарт, а выйшла, што мы з бацюшкам разумеем адзін аднаго, а яны нічога такога не чулі. Бацюшка таксама спакойна пачаў:

— Аб гэтым пытанні можна многа, доўга гаварыць і ні да чаго не дагаварыцца. Аднак паспрабую вам растлумачыць. Так, ёсць вучэнне Дарвіна, які гаворыць, што свет не адразу раптам стварыўся, а прайшоў пэўны шлях развіцця. Так вось я вам толькі што і сказаў. Дарвін гаворыць, што і жывёлы, і расліны, і людзі змяняліся і развіваліся. І гэта таксама магчыма. А што чалавек паходзіць ад малпы, гэтага і сам Дарвін не гаворыць. Ён гаворыць толькі, што і чалавек і малпа маглі мець нейкіх агульных продкаў, ад якіх пайшлі з аднаго боку людзі, а з другога — малпы. Што ж гэта азначае? Гэта азначае толькі тое, што бог каго-небудзь з першабытных продкаў пакараў за грахі і ад іх пайшлі малпы, а людзі, як бачыце, пайшлі далей.

Затым ён павярнуўся да мяне і з націскам сказаў:

— Такім чынам, калі хочаш, ты можаш лічыць сябе братам малпы, а не сынам.

Дружны рогат усяго класа прымусіў мяне зачырванецца. А бацюшка сказаў зусім ужо сур'ёзна:

— Навука дае многа каштоўных ведаў, і рэлігія іх не адмаўляе. Навука правільна гаворыць, што ўсё на свеце змяняецца і развіваецца, а вось адкуль усё ўзялося, ніякая навука не ведае і ніколі не будзе ведаць. Гэта ведаюць толькі тыя, хто верыць у бога.— Тут ён ужо сурова паглядзеў на мяне.— Шмат усялякіх бязбожных вучэнняў могуць прыдумаць вучоныя і не вучоныя з дапамогай злога духа. І гора будзе таму, хто захопіцца такімі вучэннямі і адступіцца ад адзінага правільнага вучэння,— слова божага.

Некалькі дзён і начэй я «пераварваў» уражанні ад гэтага «дыспуту». Што ж такое выходзіць? Бацюшка разважае так сама, як і мы разважалі ў нашым гуртку, толькі лічыць, што самы пачатак быў ад бога. Вось і ўсё. Нават не адразу заўважыш розніцу паміж нашым бацюшкам і Дарвіным.

Аднаго разу мне перадалі, што бацюшка кліча мяне да

сябе на кватэру. Гэта было незвычайнай падзеяй у нашым жыцці. А калі здаралася, што каго-небудзь выклікалі, то не іначай, як на якую бяду. Я трохі ўсхваляваўся, але ніякай бяды ад майго добрага бацюшкі не чакаў. Як і належала мне па рангу, пайшоў я праз кухню і са здзіўленнем пачуў ад бацюшкі:

— Чаго праз кухню ідзеш? Праз парадны і бліжэй і зручней.

Пачатак нядрэнны. Бацюшка павёў мяне ў свой кабінет, пасадзіў на мяккае крэсла, загадаў прынесці мне чаю. А сам такі добры, лагодны, вочы такія ласкавыя, адным словам, свой, родны чалавек.

«Чаму ён такі добры да мяне?» — думаю я і з хваляваннем чакаю, што будзе далей.

А далей ён пачаў падрабязна распытваць пра ўсё маё папярэдняе жыццё. Расказваць мне было лёгка і прыемна, бо слухаў ён уважліва, спагадліва, шчыра, нібы мая гісторыя мела дачыненне да яго самога. Калі я дайшоў да рамеснага вучылішча і стаў расказваць пра наша чытанне і самавыхаванне, ён яшчэ больш зацікавіўся. Я сам не заўважыў, як перайшоў да нашых рэлігійных сумненняў.

— Якія ж сумненні найбольш непакоілі вас? — спытаў ён тонам шчырага спачування.

— А вось такое,— адказаў я,— калі бог адным махам можа зрабіць усіх людзей шчаслівымі, то чаму ён гэтага не робіць?

Сказаў я і спалохаўся: раззлуецца бацюшка. А ён зрабіўся яшчэ больш ласкавым, нават руку паклаў на плячо.

— Эх вы, дзеці неразумныя! — паківаў ён галавой.— Вы хочаце, каб вам адразу падалі ўсё гатовенькае і каб вам больш не было чаго рабіць: ні вучыцца, ні працаваць, ні дапамагаць бліжнім, ні загартоўваць сябе і нават богу не маліцца, бо жадаць больш няма чаго. Не, сын мой, не было б дабра ад такога бесклапотнага шчасця. Трэба спачатку заслужыць яго, перажыць не толькі радасці, але і гора, тады толькі душа ачысціцца і заслужыць райскае шчасце. Зразумеў?

Я толькі кіўнуў галавой. Цяпер я знайшоў бы, што сказаць

супраць, а тады словы бацюшкі ўразілі мяне тым, што яны былі простыя, ясныя, шчырыя, зусім не такія, якія я чуў раней. Мне падабалася, што ён не навучае мяне сухімі і мёртвымі казаннямі, не злуе, а гаворыць шчыра, як са сваім чалавекам. Такім чынам ён авалодаў маёй душой, і я стаў выкладваць усё, што ў ёй было. І на ўсё ён даваў свае ласкавыя бацькоўскія тлумачэнні.

Але было ў мяне адно пытанне, якое я аніяк не адважваўся закрануць. Гэта быў наш вопыт з прычасцем. І, мабыць, па маіх вачах было відаць, што я нешта яшчэ хаваю... Аднак скончылася тым, што я і гэта сказаў:

— Я... мы... бачыў, як адзін вучань выплюнуў прычасце, каб праверыць, ці сапраўды яно...

Далей я не мог казаць, бо ўбачыў, як твар айца чырванее, сінее, вочы загараюцца, як вуголле, і наогул увесь ён ператвараецца ў чужога, лютага чалавека.

— І ты нікому не сказаў? — спытаў ён скрозь зубы.

— Я чакаў, што сам бог заступіцца за сябе і пакарае грэшніка,— прамовіў я, апусціўшы вочы.

— Іначай кажучы, і ты сам хацеў праверыць бога? — сказаў ён ледзяным голасам, ад якога ў мяне мурашкі забегалі па спіне.

Я нічога не адказаў, а бацюшка падняўся з крэсла і забегаў па пакоі. Так прайшло некалькі хвілін. Потым бацюшка зноў падышоў да мяне і сеў на сваё месца. Цяпер ужо ён быў той самы, ранейшы, з тым жа добрым, ласкавым тварам.

— Цяпер я табе раскажу адну прытчу,— пачаў ён.— Недзе жыў адзін добры чалавек. У яго быў сын, якога ён вельмі любіў. Сын часта не слухаўся бацькі, але той цярпліва ўгаворваў яго, выхоўваў, жадаючы сыну дабра. Аднаго разу сын узяў ды знішчыў самую каштоўную рэч у доме: адзіную фотакартку сваёй памершай мамы, знішчыў наўмысля, злосна. Бацька раззлаваўся, як ніколі ў сваім жыцці. Як ты думаеш, што ён зрабіў з сынам?

— Не ведаю...— нерашуча адказаў я, хоць думаў, што за гэта павінна быць вялікая кара.

— Нічога не зрабіў, толькі сказаў: «Сын мой, я цябе

люблю і спадзяюся, што ты больш не будзеш засмучаць мяне». Так сказаў просты чалавек. А што дзіўнага ў тым, што бог, які ёсць сама любоў, не знішчыў вас адразу, і чакае, пакуль вы зразумееце свой грэх.

Прыклад быў для мяне настолькі пераканаўчы, што ўвесь наш страшны вопыт адразу паказаўся мне нікчэмным і зусім непатрэбным. Я адчуў, што нікога мы не перамаглі, нічога не даказалі, а зрабілі глупства, за якое трэба цяпер маліцца, каб бог дараваў нам гэты страшны грэх...

І з таго часу я стаў так шчыра маліцца, як ніколі не маліўся раней. І раніцою і ўвечары я шаптаў малітвы, а ў царкве так старанна біў паклоны, што набіваў гузы на лобе. Бацюшка ўсё гэта бачыў і цешыўся. Ён зрабіўся яшчэ больш ласкавым да мяне і, каб замацаваць свае поспехі, стаў чытаць мне кнігі. Скажа мне прыйсці, пасадзіць на маё звычайнае месца і чытае што-небудзь духоўнае. І зноў жа, не абрыдлыя казённыя словы, а што-небудзь цікавае, тонкае, псіхалагічнае. Адначасова з гэтым ідзе тлумачэнне, таксама не казённае, а чалавечае. Можна сказаць, што нашы рэлігійныя гутаркі былі не рэлігійнымі, а душэўнымі. І гэта больш за ўсё вабіла мяне. Асабліва мне падабалася, што бацюшка не адмаўляў навуку, калі яна супярэчыла рэлігіі, а тлумачыў так, нібы фактычна ніякіх супярэчнасцей няма.

Я ўсё больш і больш любіў дарагога бацюшку, нецярпліва чакаў, калі ён пакліча. Але праз некаторы час адчуў, што чытанне яго пачынае надакучваць. Асабліва «Дзённік хрышчанага яўрэя». Ніякіх там прыгодаў і цікавых падзей не было, а толькі разважанні ды разважанні. «Поезд ішоў праз ноч... Ён сядзеў і глядзеў у акно... Колы рытмічна выстуквалі: тук-тук, тук-тук...»

І пад гэты стук я аднаго разу заснуў...

Пасля таго я ўжо на гэтым крэсле ні разу не сядзеў...

Дырэктарам нашай семінарыі быў барон фон Траўбенберг. Чаму барон, чаму Траўбенберг — невядома. Ні ў твары, ні ў мове яго нічога нямецкага не заўважалася, нават назы-

ваўся ён Валерыян Самойлавіч. Звычайны тоўсты, карроткі дзядзька. Ідзе, сапе і, здаецца, нічога не бачыць і не разумее. Мы праз вокны любілі наглядаць, як ён часам прагульваецца па нашым вялізным двары. Ідзе, ідзе, хуценька-борздзенька — і раптам са здзіўленнем спыняецца: дзе ён? Куды трапіў? Якім чынам тут апынуўся? Агледзеўся, сцяміў — і пабег у другі бок. А на дарозе — каменьчык ці трэсачка якая. Зноў спыняецца, зноў здзіўленне: што гэта такое? Адкуль, чаму і навошта? Пастаіць, падумае — і зноў бяжыць абы-куды. Так і прагульваецца нам на пацеху.

Тады мы вылучаем яму насустрач нашага прадстаўніка. Убачыўшы перад сабой такую буйную жывёліну, дырэктар зусім слупянее: што за дзіва? Адкуль узялося такое стварэнне? Як яно сюды трапіла? Часам спытае «як цябе завуць?», а часцей проста пабяжыць убок. Таму мы вельмі дзівіліся, калі наш дырэктар у класе ці на людзях казаў нешта разумнае, звычайнае, як усе людзі.

Давялося і мне адзін раз гаварыць з ім. Зусім неспадзявана ён выклікаў мяне да сябе на кватэру. Гэта была якраз другая палова дома, у якім жыў і бацюшка. Такім чынам лёс павёў мяне і да другой паловы семінарскай улады. І цяпер дырэктар нібы здзівіўся ад неспадзяванасці, убачыўшы мяне, а потым раптам спытаў:

— Хто разбіў акно ў Пятра Іванавіча?

— Я нічога не ведаю.

— Кажы, хто разбіў, а то дрэнна будзе! — насядаў дырэктар.

— Адкуль мне ведаць гэта? — абараняўся я.— Я нават нічога пра гэта не чуў.

— Ты мне зубы не загаварвай! — крычаў ён.— Кажы, хто разбіў?

— Ды не я! — вырвалася ў мяне ад усяго сэрца.

І раптам чую такія словы:

— Я сам ведаю, што не ты. Ты не такі дурны, каб самому біць. Ты камусьці сказаў. Гавары каму.

Я ледзь не самлеў ад здзіўлення. Адкуль ён узяў усё

гэта? Чаму ён так гаворыць? Вось табе і дзівак, якога мы лічылі нават прыдуркаватым. Ён жа быў зусім недалёка ад праўды!..

Пётр Іванавіч Баўдзей — выкладчык прыродазнаўства. Твар у яго,— як у старой бабулі, толькі на барадзе дзесяткі два валасоў, якія ён старанна захоўваў. Вочкі заўсёды прыплюшчаныя, нібы ад сонца, таму здавалася, што ён усё падсмейваецца, нават тады, калі прабіраў нас самымі знішчальнымі словамі. І рабіў ён гэта з выкрутасамі:

— Ну-с, міласцівы гасудар,— казаў ён яхідна,— чым мелі ласку займацца ўчора? Можа, у карты гулялі? І выйгралі двоечку. Хе-хе-хе!

Даносчык ён быў першы, з хітрасцю выведваў, што трэба яму і чаго не трэба. Калі вучань, зачараваны яго ласкавасцю, адкрые які-небудзь свой маленькі сакрэт, то Баўдзей вынесе яго на смех, а то і горшую непрыемнасць зробіць. Зразумела, што мы ўсе яго ненавідзелі, а слова «баўдзей» зрабілася ў нас лаянкай. Нарэшце некалькі чалавек, у тым ліку і я, пастанавілі паказаць яму нашы адносіны: разбіць вокны. Змоўшчыкамі былі наш прыгажун Асташоў, разважлівы Карповіч і я. Вечарам, калі ўсе былі ў спальні, мы жартуючы кідалі жэрабя. Нікому з таварышаў і ў галаву не магло прыйсці, што мы выбіраем выканаўцу вялікай, адказнай грамадскай справы. Адчувалі мы сябе ў гэты момант рамантычнымі героямі. Зараз адзін з нас пойдзе на рызыку, можа, будзе выгнаны з семінарыі. І робім мы гэта не дзеля забавы, не дзеля якой-небудзь сваёй карысці, а на карысць усіх нашых таварышаў, якія вось тут гуляюць, смяюцца і не падазраюць, якія мы героі. І ніхто ніколі не будзе гэтага ведаць. Я нават засмуціўся, калі выцягнуў з шапкі пусты білецік. Шчасце выпала на долю Карповіча. Прыгавор ён павінен быў выканаць сёння перад сном.

Я не мог у такі момант сядзець спакойна ў памяшканні, узяў сваю коўдру, вынес на двор і стаў кіем выбіваць з яе пыл. Час ад часу выбягалі па сваіх справах вучні. Вось вый-

шаў Карповіч, туляецца ў змроку. Сэрца ў мяне калоціцца, мусіць, не менш, чым у яго, і я яшчэ мацней калачу коўдру. Шчаслівыя мінуты!..

Зазвінела шкло, мільгануў цень у акне Баўдзея. Ціха знік Карповіч, а я горда пайшоў у дом з коўдрай на плячах. І вось на другі дзень мяне выклікаў дырэктар, і справа скончылася нічым. Аднак я задумаўся. Адкуль узяў дырэктар, што я мог камандаваць сваімі таварышамі? Я быў адным з малодшых, нядужы, нясмелы, заўсёды сарамлівы, і завадатарам мяне ніхто не лічыў. Звярталіся да мяне толькі з вучнёўскімі пытаннямі: як напісаць словы ці сказ, як рашыць задачу, як зразумець тое ці іншае ў падручніку. А ўплыў я меў, мне здавалася, толькі на аднаго чалавека, майго суседа па парце Сямашку. Цяпер жа дырэктар ні з сяго ні з таго паставіў мяне бадай-што на чале ўсіх вучняў, хоць сам ён да гэтага часу, можа, і аб маім існаванні не ведаў. Значыцца, нехта яму нагаварыў на мяне. Але хто? Ці не бацюшка мой любімы?

Пасля таго як я меў няшчасце заснуць на чытанні «Дзённіка хрышчанага яўрэя», ён мяне больш не запрашаў да сябе. Але разышліся мы, здаецца, зусім мірна: ён не крычаў, не лаяўся, а толькі ўздыхнуў і з дакорам паківаў галавой — і ўсё. Больш нічога дрэннага пра мяне ён не мог ведаць. Праўда, я ў царкве ўжо не біў свой лоб аб падлогу, але наўрад ці ён сачыў за гэтым і лічыў мае паклоны. Праўда, мой рэлігійны прыступ пачынаў вычыхацца, але патрошку, паступова, і не толькі ён, але і я сам не заўважаў, як гэта адбываецца.

А сачыненні яму я ўсё роўна пісаў на «пяць». Аднак бацюшка выкінуў такую штуку, якую не маглі зразумець ні я, ні мае таварышы.

Наш клас павінен быў да вызначанага дня напісаць і здаць яму сачыненне. Калі тэрмін мінуў і надышоў урок закона божага, у клас увайшоў бацюшка і, нічога не гаворачы, ад дзвярэй пачаў працiскацца паміж парт да мяне. Я ўсё жыццё сядзеў у самым далёкім куце. Дабраўшыся да майго месца, ён моўчкі ўхапіў мяне за грудзі і страсянуў так, як

яшчэ ніколі мяне не трэслі. А перад сабой я ўбачыў твар, чырвоны, люты і зусім незнаёмы.

— Ты чаму не падаў сачыненне? — прасіпеў ён.

— Не паспеў,— адказаў я, больш здзіўлены, чым спалоханы.

— А ты ведаў тэрмін?

— Ведаў, але не я адзін, ніхто яшчэ не падаў.

— Што ты за іншых адказваеш?! — яшчэ больш раз'юшыўся ён.— Я ў цябе пытаюся, ты сам чаму не падаў? Ведаю цябе, ты тут усіх баламуціш...

Зноў намёк на тое самае, што казаў дырэктар. Мусіць, ад бацюшкі і пайшла ўся тая выдумка. Відаць, ён і цяпер лічыць мяне нейкім незвычайным, хоць я і не апраўдаў яго надзей. Як неспадзявана моцна ён мяне палюбіў, так раптам і моцна ўзненавідзеў. Пазней я зразумеў яго і не вінаваціў, а цяпер было вельмі крыўдна.

Памятаю і яшчэ адзін наскок бацюшкі. Я раз па хваробе не пайшоў у клас. І ён, прыйшоўшы на свой урок, не паленаваўся бегчы праз двор у другі корпус, падымацца на трэці паверх, каб праверыць мяне. Убачыўшы, што я ляжу на ложку апранутым, ён пагнаў мяне ў клас...

А іншыя настаўнікі адносіліся да мяне так сама, як і раней. Ніхто да мяне не прыдзіраўся і ніхто не лічыў паводзіны мае дрэннымі.

## 3. ДОН-КІХОТ ЛАМАНЧСКІ

> Она притянула меня за плечи и поцеловала в губы, потом отстранила и сказала:
> — А теперь иди! И не оглядывайся! Я прошу. Иди!..
> И я ушел...
>
> *К. Пустовский. «Далекие годы»*

Пасля вячэрніх заняткаў была вячэра, а пасля таго гадзіны дзве былі ў нас вольныя. Звычайна мы праводзілі іх у сваіх спальнях, якія ператвараліся тады ў клуб, дзе мы

маглі рабіць, што хацелі, пакуль дзяжурны настаўнік не прагоніць нас спаць. У кожнай спальні вакол стала збіраўся свой гурток, дзе пачыналіся бясконцыя размовы, або спевы, або гульні ў «крыжыкі». Сёй-той канчаў урокі або чытаў кнігу, а ў куце на ложку двое спартсменаў дужыліся так заўзята, што ложак нярэдка ператвараўся ў інваліда.

Але вось гэты шум не мучыў нас так, як музы́ка Карповіч. Пры семінарыі быў музычны гурток, дзе мы пад кіраўніцтвам высокакваліфікаванага музыкі вучыліся граць на паўтарарублёвых скрыпках. Можна сабе ўявіць, як гучалі гэтыя скрыпкі ў нашых руках! Але толькі возьме яе ў рукі наш кіраўнік, адбываўся цуд: памяшканне напаўнялася такімі мелядычнымі, такімі цудоўнымі гукамі, што кожны з нас загараўся жаданнем выцягнуць са сваёй скрыпкі хоць адзін такі гук.

Другая палова працы прыпадала на авалоданне нотамі. І, трэба сказаць, што такое павярхоўнае музычнае выхаванне пакінула ў нас след на ўсё далейшае жыццё. Той, хто больш-менш авалодаў музычнымі ведамі, заўсёды вылучаўся нейкай тонкай высакароднай рысай.

Загарэўся жаданнем набыць высакародную рысу і наш Міша Карповіч, якому бог не даў ніякай здольнасці да музыкі. Пачуццё рытму было для яго зусім незнаёмым, а вушы яго ніяк не маглі адрозніць гукі адзін ад аднаго. Ён меў толькі жалезную волю і неймавернае жаданне авалодаць музыкай. Сцяўшы зубы, ён усё піліў ды піліў на сваёй скрыпцы, у той час, як мы выконвалі ўжо квартэт Гайдна. Карповіча не падпускалі ў такія мінуты да нас, ён стаяў збоку і з зайздрасцю слухаў. А потым ішоў у пусты клас і пачынаў там пілiць, пакуль яго не выганялі. Калі ён браўся за сваю скрыпку ў спальні, пачыналіся крыкі:

— Што ты робіш, душагуб? Ты ж нас у магілу загоніш!

А душагуб усяляк выкручваўся ды піліў, піліў, піліў... Плакаць хацелася, гледзячы на яго, здавалася, што вочы яго не бачаць нічога, у тым ліку і нот, па якіх ён грае; твар яго пакутлівы, на лобе пот; сваіх фальшывых гукаў ён не чуе. А якая катаржная праца над рытмам! Па правілах такт ад-

біваецца наском нагі — уніз, налева, направа. Але на практыцы ніхто гэтым спосабам не карыстаецца, хіба толькі ў некаторых складаных выпадках; звычайна рытм музыкі адчуваецца ўсёй істотай. А ў Карповіча рытм залежаў выключна ад нагі, і ўся ўвага музыканта была накіравана на тое, каб не пераблытаць рух яе, напрыклад,— уніз, уніз, направа, налева. Дзе тут думаць пра музыку, слухаць гукі, калі ўся ўвага накіравана на тое, каб не памылілася нага!

Так піліў ён год, піліў другі, мы ўсе прывыклі да яго музыкі, як да рыпання колаў на дарозе, і нічога добрага не чакалі. І вось аднаго разу пасля летніх канікул ён прапанаваў мне сыграць дуэтам.

— Адразу? — здзівіўся я.

— Паспрабуем адразу,— сказаў ён упэўнена.

І што ж? Ён сыграў не горш за мяне, а можа, і лепш. А ў далейшым ён і зусім перагнаў мяне.

Гэты выпадак уразіў мяне на ўсё жыццё. Я ўбачыў, што слова «няздольнасць» зусім не такое ўсемагутнае, як думаюць. Выходзіць, што сіла волі, настойлівасць, цярплівасць, моцнае жаданне могуць перамагчы і няздольнасць...

Па меры таго як я мужнеў, змяняліся і мае інтарэсы. Падарожжа ў лодцы вакол свету, план якога я так дакладна выпрацаваў, прыйшлося адкласці. Да прыгодніцкіх кніг прыйшлося дапусціць рыцарскія і гістарычныя. Не любіў я толькі такія кнігі, дзе апісвалася звычайнае жыццё і нудныя душэўныя перажыванні. А яшчэ больш ненавідзеў я кнігі пра каханне. Ну і далося мне гэтае каханне! Якую кнігу не возьмеш, усё любоў, любоў, любоў. Нават у добрыя прыгодніцкія кнігі яна пралазіла, а пра іншыя і казаць няма чаго.

«Няўжо,— думаў я,— ніяк нельга абысціся без гэтай любові? Колькі цікавага ёсць на свеце, колькі незвычайных падзей адбываецца ўсюды, а тут усё дзяўбуць пра адно».

Аднак прыйшоў час, калі я адчуў, што кнігі і мяне сапсавалі. Яно і зразумела: хіба можна ўстояць, калі ўсе кнігі будуць табе трубіць пра адно і тое? Хацеў бы я паглядзець на таго чалавека, на якога не падзейнічала б такая агітацыя. Але я ўспрыняў усё гэта не так, як мае таварышы, а інакш, па-

рыцарску. Я зусім не збіраўся кахаць дзяўчыну, чапаць яе, як гэта робяць іншыя маладыя людзі, бо па кнігах відаць, што ад гэтага бываюць толькі адны непрыемнасці. Я паважаў дзяўчыну за яе жаночую душу і заўсёды гатоў быў стаць за яе гарой, як кожны рыцар.

І аднаго разу я гэта даказаў на справе.

Адзін з нашых хлопцаў, Асташоў, быў вельмі прыгожы дзяцюк, высокі, стройны, з белым тварам і чорнымі вачыма. Заўсёды я глядзеў на яго з зайздрасцю. Праўда, ён зайздросціў мне ў вучобе, але я аддаў бы яму ўсе свае вучэбныя поспехі за яго поспехі сярод дзяўчат. Ён ужо меў знаёмых у горадзе, і мы не раз бачылі, як ён ішоў па вуліцы побач з дзяўчынай, такой прыгожай, якой я яшчэ ў натуры не бачыў. Памятаю нават прозвішча яе — Кавуліна.

Аднойчы вечарам зайшла гутарка аб рамане Асташова. Ён бачыў, што мы ўсе зайздросцім яму, і пачаў фанабэрыцца:

— А вы думаеце, што я за ёю ганяюся? Бачыў я такіх не адну. Лезе, цалуецца, плача, проста абрыдла. Гатова руку лізаць, як сабачка...

У мяне нават у вачах пацямнела ад такіх агідных слоў. Якую подлую душу трэба мець, каб так казаць перад усімі! Яна да яго ўсёй душой, а ён, падлюга, плюе ёй у душу...

— Мярзотнік ты, падлюга! — ускрыкнуў я і пляснуў рукой па яго прыгожым твары.

Асташоў адхіснуўся і некалькі хвілін глядзеў на мяне, нічога не разумеючы. Здавалася, ён быў больш здзіўлены, чым пакрыўджаны. Таксама былі здзіўлены ўсе іншыя.

А потым ён усхапіўся і кінуўся на мяне з кулакамі. Пачаўся рыцарскі турнір на пацеху гледачам. Хоць мне і сорамна, але павінен прызнацца, што перавага і тут была на яго баку. Як несправядліва размяркоўваюцца дары прыроды: аднаму і спрытнасць, і прыгажосць, і цудоўная дзяўчына, а другому толькі высокія імкненні.

Ніхто не заўважыў, як адчыніліся дзверы і ўвайшоў інспектар семінарыі Аляксандр Андрэевіч Войніч. Ён быў і выкладчыкам матэматыкі. Як і належыць матэматыку, быў заўсёды спакойны, суровы і мудры. Мы яго баяліся, хоць ён

нам нічога дрэннага не рабіў, і любілі, хоць ён з намі не важдаўся і не патураў нам. Мы яго больш за ўсё шанавалі, як чалавека справядлівага, які стаіць вышэй не толькі Баўдзея, але і бацюшкі і дырэктара. Калі ён зробіць заўвагу двума-трыма словамі, то яна рабіла на нас непараўнальна большае ўражанне, чым уся гадзінная прамова Івана Іванавіча.

— Што тут у вас робіцца? — спытаў ён, як звычайна, спакойным і ціхім голасам, і ад гэтага ціхага голасу адразу сцішыўся ўвесь шум, а вучні ўсталі.

— Што ж гэта такое? — зноў спытаў ён.

— Рыцарскі турнір! — сказаў нехта.

— Чаго вы сашчапіліся? — звярнуўся ён да нас.

Мы, вядома, маўчалі. Але Аляксандру Андрэевічу не цяжка было дамагчыся адказу, бо перад ім ніхто не мог крывіць душой. Тым больш, што ніякай правіннасці мы не зрабілі. Карасік адказаў за нас:

— Асташоў нядобра сказаў пра дзяўчыну, а Фёдараў заступіўся.

— Якую дзяўчыну?

— Знаёмую Асташова.

— А ты яе добра ведаеш? — звярнуўся Аляксандр Андрэевіч да мяне.

— Я з ёю не знаёмы,— адказаў я.

Аляксандр Андрэевіч больш не дапытваўся. Ён памаўчаў, паглядзеў на мяне пільна, а потым прамовіў:

— Дык вось ты які Дон-Кіхот Ламанчскі!

З таго часу і ўсе пачалі называць мяне Дон-Кіхотам. Спачатку я крыўдзіўся, а потым раздумаўся і нават стаў ганарыцца. Сапраўды, хіба дрэнны быў чалавек Дон-Кіхот? Ці пакрыўдзіў ён каго-небудзь? Не, Дон-Кіхота любіць кожны, хто яго ведае.

Ніколі не думаў я, што і да мяне прыйдзе шчасце пазнаёміцца з гэтай самай Кавулінай. Відаць, я ў той момант быў непрытомны, бо абсалютна не памятаю, дзе, калі і як адбылося гэтае знаёмства. Памятаю толькі, што ў незнаёмым доме мы весяліліся. Відаць, там было некалькі чалавек моладзі,

але я нікога не памятаю, апрача сябе і Кавулінай. Не ведаю таксама, быў там Асташоў ці не.

На нейкі час я адзін застаўся ў пакоі, а «яна» прабягала праз гэты пакой. І па дарозе падбегла да мяне, абняла, пацалавала і пабегла далей. Вось і ўсё. Якія падзеі былі далей, не ведаю, а якія думкі і перажыванні — добра ведаю.

Як магло здарыцца такое? Яна ж мяне зусім не знае, мы сёння пазнаёміліся, і пагаварыць не толькі шчыра, але ніяк яшчэ не давялося. І раптам такая ласка! Ва ўсіх кнігах гаворыцца, што маладыя людзі спачатку знаёмяцца, потым падабаюцца адзін аднаму, затым размаўляюць, потым яшчэ доўгі час сустракаюцца, перажываюць і тады ўжо цалуюцца, а тут раптам усё адразу! Не, тут нешта не так, няправільна. Па-першае, я не мог ёй спадабацца адразу, бо я брыдкі. А зблізіцца, каб падабацца адзін аднаму, мы яшчэ не паспелі. Значыцца, яна зрабіла гэта так сабе, без ніякай сімпатыі да мяне, можа, нават з агідай. А гэта ўжо справа нядобрая. Значыцца, яна пустая, дрэнная дзяўчына, а не такая, як мне здавалася здалёк. Адным словам, выйшла так, што за яе ласку я адчуў агіду і непрыязнь да яе і болей з ёй ніколі не сустракаўся.

Такім чынам спраўдзіліся словы Аляксандра Андрэевіча: я сапраўды змагаўся за Дульцынею Табоскую.

## 4. ПАДАРОЖЖА Ў МІНУЛАЕ

> Уже второй год после конца занятий в гимназии мы всей семьей переезжали на лето в Брянские леса, в Рёвны... Разорившийся хозяин поместья сдавал на лето две-три деревянные дачи в парке.
>
> *К. Паустовский. «Далекие годы»*

І ў рамесным вучылішчы, і ў семінарыі я часта ўспамінаў вёску Гнілушкі і яе ваколіцы. Жыццё там здавалася такім цікавым, такім прывабным, што я з году ў год марыў зноў паглядзець на вёску. А якая багатая і разнастайная там пры-

рода! Для таго каб палюбавацца ёю, варта было б ехаць не толькі мне, але і незнаёмаму багатаму турысту. Ад нашага горада да Гнілушак было ўсяго вёрст трыццаць, адлегласць не такая ўжо вялікая. Калі вучнем народнага вучылішча я хадзіў туды за трыццаць пяць вёрст, то цяпер прайсці трыццаць вёрст будзе мне зусім не цяжка. І я вырашыў па сканчэнні веснавых экзаменаў адразу адправіцца ў дарогу, а потым ужо — да мамы на летнія канікулы. Падарожжа я ўяўляў сабе, як цікавейшую экскурсію ў мінулае. Маршрут мой быў такі: восем вёрст палямі, дванаццаць вёрст лесам да нашай воласці, а затым да Гнілушак дзесяць вёрст. У воласці можна і пераначаваць.

Выйшаў я досыць позна, ішоў не спяшаючыся, затрымліваўся досыць часта, асабліва ў гаросе на полі. Рэчаў ніякіх не меў, а што было, змяшчалася ў кішэнях штаноў. Быў я ў парадней семінарскай форме: летнія чаравікі і чорныя штаны навыпуск, затым вялікая гордасць мая — шэрая кашуля з тонкага афіцэрскага сукна, лакіраваны рэмень са спражкай і літарамі «УС» і шапка са значком з такіх жа літараў. Вось ідзе насустрач стары селянін. Дайшоўшы да мяне, ён першы здымае шапку, кланяецца мне. Важна адказваю я, не здымаючы шапкі.

Ужо не першы раз мяне так вітаюць сяляне ў дарозе, і доўгі час я адчуваў гордасць, як тыя загнаныя зайцы, што ішлі тапіцца ад гора і напаткалі істотаў, якія і іх баяліся. У глыбіні душы мне было трохі сорамна, але я супакойваў сябе тым, што не я адзін карыстаюся гэтым. А сяляне за доўгія гады так прывыклі гнуць спіну перад кожным чыноўнікам з гузікамі і значкамі, што ўключалі сюды і невядомых ім вучняў. Па меры таго як я разумнеў, мне рабілася ўсё больш і больш сорамна. Але што мог зрабіць? Не крычаць жа кожнаму сустрэчнаму селяніну загадзя, што я не чыноўнік, а вучань. Я мог толькі ў адказ здымаць шапку і таксама кланяцца, што я пазней і рабіў.

Чую, ззаду тарахцяць калёсы, азірнуўся — едзе селянін. Я ўжо ведаю, што ён прыпыніцца і прапануе мне падсесці: з дзесяці чалавек, можа, адзін-два праедуць міма пешахода.

Так яно і ёсць, чалавек прапануе мне сесці. Хоць зараз жа выявілася, што ён праз вярсту зверне ўбок, але і вярсту пад'ехаць не шкодзіць.

Калі я дайшоў да лесу, сонца было ўжо нізка. Але я смела ўвайшоў у лес пад ноч. Гэта была першая магчымасць паказаць сваё бясстрашша для будучых падарожжаў.

Лес быў цудоўны. Прамыя, гладкія сосны ўздымаліся ўгору, як пальмы. Зямля была пясчаная, месцамі досыць узгоркавая. Часам на такім узгорку стаяла тапаграфічная вышка. Ну як тут устрымацца ад спакусы ўзабрацца на яе! Узлез і замёр ад захаплення. Я ўбачыў бязмежнае зялёнае мора, нават з хвалямі. На гарызонце хавалася вялізнае аранжавае сонца, а з процілеглага боку ўжо вылез круглы месяц. Ні ветрыку, ні гуку, толькі лес ды я. Іду далей лёгка і весела, нават не заўважаю, як насоўваецца ноч. Не заўважаю таму, што месяц упрыгожвае лес лепш за сонца, робіць яго больш цікавым і таемным. А калі дзе што таемнае, то гэта ўжо мая сфера: ва ўсіх кнігах абавязкова бывае што-небудзь таемнае.

Іду гадзіну, другую і за ўвесь гэты час не бачыў і не чуў ніводнай жывой душы. Раптам аглушыў мяне дзікі крык, нібы дзе душаць чалавека, але я быў не такі ўжо дурны, каб не сцяміць, што гэта крычыць не жывая душа, а сава. А потым пачуўся тупат і трэск ламачча, нібы пранёсся табун коней. Тут ужо прыйшлося больш падумаць, каб знайсці тлумачэнне: гэта, мусіць, пабеглі дзікія козы. Горш было, калі чуўся хруст і больш нічога. Тады здавалася, што нехта падкрадваецца, а ў такіх выпадках і ў самага храбрага чалавека сціскаецца сэрца. Хто ж можа падкрадвацца, апрача мядзведзя? На кожны выпадак вымаю свой кішэнны ножычак, раскрываю яго і сціскаю ў кулаку: калі што якое, дык хоць вочы выкалупаю ворагу.

Чым далей, тым больш гукаў і трэску. І адкуль толькі набралася столькі ўсялякага звяр'я? А праклятая сава час ад часу паддае ім духу, і кожны раз мне трэба ўздрыгваць. А калі пасля таго я трапляю ў паласу, дзе нічога не чуваць, тады яшчэ горш робіцца, так і здаецца, што гукі вакол цябе

круцяцца. Тады я заспяваў. Але голас выйшаў такі няшчасны, што я сам сябе спалохаўся. Паспрабаваў свістаць, але тады мне пачало здавацца, што ўсе жыхары лесу накіроўваюцца да мяне. Нарэшце я стаміўся і перастаў змагацца з прыродай. Ішоў млява, ціха і думаў толькі адно: колькі я прайшоў і колькі яшчэ засталося ісці.

Раптам па ўсім лесе разлёгся чысты, звонкі жаночы голас:

Мой костер в тумане светит...

Голас ускалануў мяне да апошняга нерва, млявасць і страх мігам зніклі, і я гучным, таксама звонкім голасам адказаў:

Искры гаснут на лету...

Можна сабе ўявіць, як здзівілася тая дзяўчына, пачуўшы сярод ночы ў лесе такі неспадзяваны адказ. Вядома, дзяўчына сціхла. З хваляваннем ішоў я наперад, углядаючыся ў змрок. Якім чынам дзяўчына апынулася ў такім лесе сярод ночы, ды яшчэ пяе?

Нарэшце я ўбачыў на дарозе белую постаць. Дзяўчына стаяла і чакала, хто з'явіцца. Я падышоў, прывітаўся і сказаў:

— Якім чынам вы апынуліся сярод ночы ў дрымучым лесе адна?

— А вы якім чынам апынуліся сярод ночы ў дрымучым лесе адзін? — спытала яна ў сваю чаргу.

— Я падарожнічаю, а вы?

— А я тут як дома,— адказала яна.— Была ў знаёмых, а цяпер іду дадому.

— У знаёмых ваўкоў ці мядзведзяў? — пажартаваў я і застаўся вельмі задаволены самім сабой.

— Мядзведзяў,— адказала яна ў тон, зірнуўшы ўбок, дзе цямнеліся жылыя будынкі без агнёў.

— І яны вас адпусцілі адну? — здзівіўся я.

— Я тут, бадай, кожны дзень бываю, а да маёй хаты і вярсты няма,— казала яна.

— А вы куды?

— У Стромчыцы.

— Ну, і я туды. Значыцца, ідзём разам.

Ці мог я падумаць сёння раніцой, што ноччу буду ісці ў першабытным лесе разам з таямнічай незнаёмкай? Гэта ж зусім, як у кнігах! Мяне ахапіла натхненне, і я сам стаў трымаць сябе, як у кнізе, жартаваў, гаварыў разумныя кніжныя словы. У святле месяца я бачыў яе прыемны твар і мог заўважыць, што і яна зацікавілася гэткім кніжным джэнтльменам.

— Да каго вы ідзяце ў Стромчыцах? — спытала яна.

— Калі праўду казаць, мне трэба ісці яшчэ далей, у вёску Гнілушкі. Я адтуль родам.

— Во як? — усклікнула яна.— Значыцца, нашай воласці. Вельмі прыемна. Вы можаце пераначаваць у нас у валасным праўленні.

Гэтыя словы прымусілі мяне насцеражыцца. Я прыпыніўся і з хваляваннем спытаў:

— А вы хто будзеце?

— Я дачка валаснога пісара.

— Мілонава?! — ускрыкнуў я.

Цяпер ужо яна здзівілася:

— А вы ведалі яго?

— Чуў,— хмура сказаў я і змоўк.

Думкі віхурай закруціліся ў маёй галаве. Дык вось якая сустрэча! Перада мной сястра маёй сястры! Відаць, сам лёс звёў нас. Праўда, яна ні ў чым не вінаватая, але яна дачка яго. Колькі разоў я чытаў, як помсцілі не толькі самому ворагу, але і яго дзецям. Часта і сама помста складалася з таго, што схопяць дачку або сына, пасадзяць у падзямелле, а бацька пакутуе нават больш, чым тады, калі пасадзілі б яго самога. А то можна адпомсціць абаім, і бацьку і дачцэ. Хоць я злосці супроць яе не маю, але так трэба.

Я маўчаў і сурова глядзеў некуды ў цемру, нават крыху адсунуўся ад сваёй спадарожніцы. Нарэшце яна спытала:

— Чаго вы маўчыце? Што з вамі?

Такога пытання я і чакаў.

— Нічога,— хмура адказаў я.— Сёе-тое прыпомнілася, далёкае. Значыцца, вы з бацькам жывяце?

— Не, з братам. Бацька памёр, а цяпер брат на яго месцы.

Новы ўдар. Выходзіць, што сам падлюга, які ашукаў маю маці, падох ужо. Каму ж цяпер помсціць? Брату ці ёй, а можа, ім разам? Але ж ні той, ні другі не вінаваты. Асабліва сястра. Эх, каб хто ведаў, у якое складанае становішча я трапіў! А дзяўчына тым часам казала так ласкава, так цёпла:

— Ну, аб чым вы задумаліся? Кажыце. У вашым жыцці яшчэ не маглі быць трагедыі.

— Вы так думаеце? — з націскам сказаў я.

— Ды гэта кожнаму ясна. У вас цяпер вясна, мары. Давайце я вам памагу марыць.

Ну што ты зробіш з гэтай цудоўнай дзяўчынай! Як я ні падтрымліваў у сабе трагічны настрой, ён растаў, бы снег, ад яе задушэўных слоў. Тады я зрабіў для сябе канчатковы вывад: дзяўчыне я помсціць не буду, а наконт брата яшчэ падумаю.

Цяпер я ўжо шкадаваў, што нам так недалёка ісці. Хутка лес скончыўся, і пры святле месяца адкрылася вялікае паселішча, вакол якога чарнеўся той жа лес. Ні ў адным акне не было відаць агня, значыцца, было позна. Мы падышлі да валаснога праўлення. Дзяўчына пастукала, і нам адчыніў дзверы яе брат, высокі, лысы чалавек з барадой. У мяне нават мільганула падазрэнне: можа, гэта не брат, а бацька? Вопыт паказвае, што ў складаных і трагічных гісторыях усяго можна чакаць.

Адчыніўшы дзверы, ён зараз жа зноў пайшоў спаць, а дзяўчына пачала рыхтаваць вячэру. З кожнай хвілінай яна падабалася мне ўсё больш і больш. Калі я, нарэшце, асмеліўся спытаць, як яе завуць, яна адказала проста:

— Таня.

Я ведаў, што так можна зваць сястру або іншага блізкага чалавека. Тады я зноў спытаў:

— А як мне вас зваць?

Яна весела засмяялася:

— Ды так і завіце. А як іначай вы хочаце?

— Так завуць толькі блізкіх людзей,— сказаў я збянтэжана.

— А вы абавязкова хочаце быць далёкім, чужым? — адказала яна, хітра прыплюшчыўшы вочы.

Я яшчэ больш збянтэжыўся. Ці не намякае яна, што мы радня? Можа, яна ўжо ведае маю тайну. Але больш ніякіх намёкаў на тайну не было, і я супакоіўся.

На другі дзень я выправіўся ў далейшую дарогу. Выйшаў на бальшак і пайшоў направа. Па баках трапляліся абы-як пабудаваныя хаткі, якіх я зусім не памятаў. А калі дайшоў да моста праз рэчку, а за ім убачыў дарожку ўлева, то сэрца ў мяне застукала мацней. Гэтую дарожку я памятаў: яна вядзе ў зачараваную хатку, дзе мы з мамай калісьці жылі, а з правага боку павінна быць балота з асакой, дзе я пасвіў свайго каня.

Так яно і было, калі я павярнуў налева і пайшоў уздоўж рачулкі. Але ранейшыя ўражанні не вярнуліся. Балота з асакой здалося такім нікчэмным, што яго і заўважыць цяжка было. Праз рэчку я цяпер бы пераскочыў адным махам. А калі дайшоў да млына, то ўбачыў толькі адны камені. І ад грэблі засталіся толькі паасобныя камені. А што засталося ад нашай хаткі?

Іду, іду — і нічога не бачу. Толькі тады, калі падышоў да грудкі каменняў, я здагадаўся, што гэта рэшткі печкі ў нашай хатцы. Няма хаткі, няма страхі, на якую ступала сваёй нагой елка, няма і самой елкі, толькі застаўся мурашнік ля яе пня. І нічога цікавага і таемнага навокал: не відаць вужакаў, няма месца і для іхняга цара, паўцякалі з сажалкі русалкі, няма месца і для лесавіка — адным словам, усё не тое, што было раней, усё тут цяпер нежывое, нуднае, нават сонца не такое ласкавае...

Вярнуўся я на бальшак і пайшоў далей. Адчуваю, што і знаёмая дарога цяпер не такая. Раней яна была шырокая і роўная, а цяпер вузкая, калдобістая, хоць раўкі па баках, як

відаць, тыя самыя. Праўда, лес і тады быў балоцісты, але вялікі, густы, бясконцы, таямнічы, а цяпер і глядзець няма на што.

Вось налева і могілкі, малыя, запушчаныя і ніколечкі не страшныя. А там направа скрыжаванне дарог на ўзгорку. Тут мы з мамай шмат разоў спыняліся і перабіралі грыбы. Яшчэ вярста — і я падышоў да Клімбаліцы. Тут сэрца закалацілася нават больш, чым на папярэднім скрыжаванні. Вось дзе ўбачу я нашу сапраўдную, багатую прыроду! Заварочваю на дарожку, якая вядзе ў Гнілушкі. З правага боку — Клімбаліцы.

Гляджу, гляджу і нічога не разумею. Усё такое самае, як і раней было: і багуны, і буякі, і асака, і хмызнякі, і жабы, і мухі, але гэта не Клімбаліцы, а нейкае паганае балотца, куды добраахвотна не пойдзе ніякі чалавек.

Калі я набліжаўся да вёскі, хваляванне ахапіла мяне з новай сілай. Вось сажалка, у якой мы мірна суіснавалі са свіннямі. Вада ў сажалцы была густая, цёплая, прывабная. Цяпер, здаецца, гэта лужына мярзотная, але курортнікаў там не менш, як у наш час. Убачыўшы мяне, купальшчыкі пабеглі насустрач, адзетыя і не адзетыя, і спыніліся ля дарогі, разявіўшы раты. Акурат таксама калісьці я дзівіўся быў на «губернатарскага сына». Толькі той ехаў у рысорнай брычцы, а я тупаю пешшу.

Можа, сярод гэтых хлопчыкаў ёсць мой дваюрадны брат Петрык, які так спрытна «загінаў» на пацеху сваім бацькам? Яму цяпер павінна быць гадоў адзінаццаць. Але як зараз наладзіш з імі кантакт?

Вось ужо і ўся вёска перад вачыма. Але нічога добрага пакуль што не відаць ні ў чым, такая самая голая, недарэчная і значна меншая, як раней. А хаткі, дык тыя паменшыліся, мусіць, удвая.

Насустрач ідзе рыжабароды дзядзька з касой на плячах. Значыцца, гэта не літовец, а наш, бо літоўца з барадой ніхто ніколі яшчэ не бачыў. Дзядзька, як і належыць мужыку, зняў перада мной шапку, але ніякага прывітання не сказаў. Я таксама зняў шапку і прамовіў: «добры дзень».

Ён спыніўся і глядзіць: што за дзіва такое? Паніч, а гаворыць «добры дзень». Тады мне здалося, што я яго пазнаю.

— Ці не дзядзька Латашонак? — спытаў я.

Ён вылупіў вочы:

— А ты адкуль мяне ведаеш?

— Я Наталін Янка.

— Ты?! Наталін сын? Не можа быць!

Ён зараз жа павярнуў назад, і мы пайшлі да яго хаты. Ён распытваў мяне і ўвесь час пазіраў скоса, нібы баючыся, што я яго ўкушу. Прайшлі мы па вуліцы з трыумфам. З кожнага акна, з кожнага двара глядзелі на нас людзі. Хата Латашонка, самая лепшая ў вёсцы, здалася мне цяпер такой жа нікчэмнай, як і ўсе іншыя. Вельмі расчуліла мяне сустрэча з цёткай Аўдулькай; што ні кажы, а цётка родная. І адзінаццацігадовы Петрык быў тут жа. У маёй галаве замільгалі карціны мінулага. У гэтым доме пад страхой мы жылі з мамай, тут мяне палічылі за шалёнага, тут чакалі маёй смерці... Хутка ў хаце набралася многа народу; тут і мае былыя таварышы Грышка, Кітка і іншыя, толькі большасць з іх ужо вусатыя.

Усе яны глядзяць на мяне, як на заморскага звера. Што грэх таіць, нос перастаў мяне слухацца і ўсё задзіраўся ўгору, хоць ты яго пальцамі цягні ўніз...

Вельмі хацелася наведаць цётку Вульку. Хоць мне сказалі, што яны выехалі ў Сібір, я ўсё-такі пайшоў паглядзець тую курную хатку, у якой я правёў многа шчаслівых дзён. Аднак, калі я пабачыў цяпер гэтую хатку і тое, што было вакол яе, то аж уздрыгануўся. Як я мог адчуваць сябе шчаслівым, калі і свіння адмовілася б тут жыць, каб яе хто пытаўся! Але знайшліся людзі, якія купілі гэты «дом» і жывуць у ім. На двары гулялі двое дзяцей такога самага ўзросту, які ў свой час мелі мы з сястрычкай Рыпішкай.

І я выразна адчуў, што гэтыя дзеці цяпер вельмі шчаслівыя.

## 5. У «ВЫШЭЙШЫМ» СВЕЦЕ

> Квартира у Казанских была очень высокая и светлая, но свет этот казался холодным и серым. Солнечные лучи, попав в эту квартиру, теряли яркость и жар и лежали на полах, как листы выцветшей бумаги.
>
> *К. Паустовский. «Далекие годы»*

На канікулы ў нас не ўсе ездзілі дадому, большая ці меншая частка вучняў заставалася ў семінарыі, асабліва ў часе зімовых і веснавых канікулаў. А харчаваліся мы ў семінарыі нібы за свой кошт. Рабілася гэта такім чынам. Гадавая наша стыпендыя, 120 рублёў, запісвалася на наш асабісты рахунак, а на рукі выдавалася кніжка. З яе мы атрымлівалі грошы на ўсе нашы выдаткі, а на харчаванне спісвалася ад 5 да 7 рублёў у месяц, у залежнасці ад выдаткаў. Пры такім бюджэце мог пражыць «самастойна» нават той вучань, які не меў дапамогі з дому або не меў і самога дома.

Я ж цяпер меў нават багаты дом, ды толькі ўсё ж такі чужы. Няпэўнасць становішча адчувалася на кожным кроку. Хоць «брат» Іван сам не працаваў, але за даходамі ад гаспадаркі сачыў пільна, і стары бацька кожны раз павінен быў ваявацца з ім пры атрыманні даходу. Мы з мамай мелі добрую базу, ды толькі над базай было пуста. Другая няпэўнасць была ў тым, ці пройдзе сённяшні дзень спакойна, альбо хто-небудзь з нас будзе пакалечаны. Але і ў тым, і ў другім выпадку становішча наша было значна лепшае, чым да гэтага часу.

Аднаго разу дзед Глудкін сказаў, што бацюшка запрашае мяне да сябе па нейкай справе. Маці аж пляснула рукамі:

— Сам бацюшка? Запрашае? Да сябе?

Пайшоў я да яго з хваляваннем, праз кветнік узышоў на ганак, і там мяне сустрэў сам бацюшка, дужы, жыццярадасны, адразу відаць, што благачынны, начальнік над усімі бацюшкамі ў акрузе. Прывітаўся са мной ветліва, за руку, нават не падсоўваў мне сваю руку для цалавання. Зусім як роўны з роўным! Павёў у кабінет і сказаў:

— Вось што, малады чалавек, ці не згадзіліся б вы перапісаць мне справаздачу? Буду плаціць дваццаць капеек за старонку.

Вядома, я з радасцю згадзіўся і папрацаваў за яго сталом гадзіны дзве. Бачыў я, што ў яго ёсць сын майго ўзросту, таксама семінарыст, толькі духоўнай семінарыі. Я здзівіўся, чаму бацюшка не даручае пісаць свайму сыну; хіба ён горш піша? А потым сцяміў, што ён жа сын бацюшкі і павінен летам адпачываць.

Калі я прыйшоў дадому і расказаў пра сваю работу і плату за яе, маці зноў заахала:

— Божа мой, божа мой, ці даўно я за дваццаць капеек палола ад цямна да цямна, а ты цяпер можаш зарабіць іх... за колькі часу?

— За паўгадзіны,— адказаў я з гордасцю.

— Вось што значыць вучоны! — усклікнула маці, і твар яе асвяціўся такім шчасцем, нібы яна ўжо дачакалася вынікаў сваіх клопатаў.

Казала яна гэта і перад старым Глудкіным і перад яго сынам, каб яны добра ўцямілі, што мы цяпер не жабракі якія, а вучоныя.

Некалькі дзён я працаваў у бацюшкі і нават стаў адчуваць сябе як дома. Толькі пад канец папсаваў мне настрой другі бацюшка, які заехаў да нашага. Калі яны абодва ўвайшлі ў кабінет, дзе я пісаў, госць зацікавіўся прыстойным маладым чалавекам, што сядзеў за пісьмовым сталом, і пасунуўся да мяне, каб пазнаёміцца. Тады наш бацюшка адрэкамендаваў:

— Гэта наш хлопец перапісвае мне справаздачу, з сялян.

Незразумелы і непатрэбны дадатак «з сялян» кальнуў мяне. Навошта ён гэта сказаў? Дзеля чаго патрэбна было гэтае тлумачэнне. Адказ на гэта даў сам госць.

— А-а,— прамовіў госць і адсунуўся ад мяне: уся цікаўнасць яго адразу знікла.

Праз некаторы час у царкве пажадаў пазнаёміцца са мной мясцовы настаўнік. Я ж быў яго будучы таварыш па прафесіі. Ён быў падобны на майго першага настаўніка ў пачатковай

школе, такі ж невялікі і з такой жа бародкай, толькі здаўся мне прасцейшым. А можа, гэта было таму, што я сам стаў разумнейшы? Тут жа я пазнаёміўся і з яго дзвюма сёстрамі, паненкамі ад дваццаці пяці да трыццаці гадоў. І ўсе яны запрасілі мяне ў госці.

І вось я першы раз пайшоў у госці ў панскую сям'ю, ды яшчэ такую, дзе было дзве паненкі, а потым яшчэ была старая паважаная маці іх. І ўсе яны былі такія важныя, разумныя. А пакоі багата абсталяваныя, з этажэркамі, кнігамі, друкаванымі карцінамі на сценах і нават з піяніна. Цяпер я сказаў бы, што гэта была дапатопная бразгаўка, а тады я адчуваў сябе шчаслівым толькі ад таго, што мог сядзець каля інструмента. А далей пайшло ўжо такое, што я ведаў толькі з кніг і ніколі не спадзяваўся перажыць у сапраўднасці. Карацей кажучы, я граў на скрыпцы па нотах, а жанчыны мне акампаніравалі. Вяртаўся я дадому п'яны ад уражанняў і перажыванняў, а ноч нібы правёў у палацы нейкага герцага ці маркіза...

З цягам часу я ўсё больш дзякаваў богу, што ён прывёў мяне ў арыстакратычную сям'ю. Што яны дваране, відаць было ўжо з таго, што слова «мужык» вымаўлялі, неяк спецыяльна скрывіўшы губы. І ў размове ў іх было многа панскіх слоў — «мерсі», «пардон» і таму падобнае. Я быў вельмі рады, што разумеў іх, і мне не прыходзілася чырванець. Але часта здаралася і так, што і яны не ведалі многа чаго, што я ведаў. Яны, напрыклад, нічога не чулі ні пра Дарвіна, ні пра Бербэнка і не былі знаёмыя з большасцю тых кніг, якія я чытаў. Затое яны ведалі «пасьянс» і «прэферанс». Яны і мяне навучылі раскладаць пасьянс і гуляць у прэферанс. Самі яны займаліся гэтым дзень і ноч.

Аднаго разу, калі мы гулялі ў карты, прыйшла ў госці нейкая жанчына, з палярынай на плячах і з архітэктурнай пабудовай на галаве. Не здымаючы свайго абсталявання, яна засакатала, стала цалавацца з жанчынамі і ўвесь час скоса пазірала на мяне. Гаспадыня адрэкамендавала мяне:

— Гэта наш добры знаёмы, вучань настаўніцкай семінарыі.— А потым ціхенька дадала: — З сялян.

Зноў той самы дадатак! І зноў той самы эфект: госця сказала «а-а!» і перастала цікавіцца мной.

Я вельмі пакрыўдзіўся на сваіх добрых знаёмых. Навошта гэты дадатак? Справа ясная: яны хацелі папярэдзіць сваю шаноўную госцю, што я не з інтэлігенцкай сям'і, каб яна ведала, як трымаць сябе са мной.

Была яшчэ адна гісторыя, якая значна зменшыла маю павагу да арыстакратычных знаёмых. Гэта была жаніцьба настаўніка, яна нарабіла многа шуму ў мястэчку Рогава. Настаўніку было гадоў пад сорак, а нежанаты ён быў, мабыць, таму, што і без таго павінен быў трымаць у сябе і маці і дзвюх сясцёр. І вось нарэшце ён вырашыў ажаніцца. Не ведаю, ці сам адзін абмяркоўваў ён гэтую важную справу, ці абгаварвалі яе на сямейнай нарадзе, але план быў распрацаваны дакладна і канкрэтна. Перш за ўсё былі вызначаны задачы жаніцьбы: 1) гады ідуць, ён старэе, а жонкі няма; 2) ажаніцца трэба не з якой-небудзь паненкай, а са здаровай, дужай, простай дзяўчынай, якая была б надзейнай апорай у гаспадарцы; даўно ўжо адчуваюць яны, што не могуць справіцца з хатняй гаспадаркай, а трымаць прыслугу — не хапае сродкаў; калі ж жаніцца з простай дужай дзеўкай, то прыслуга ўжо будзе не патрэбна; 3) само сабой зразумела, што нявеста павінна быць багатая, пасаг павінен быць не менш за карову, а калі добра пашукаць, то можна знайсці і яшчэ больш.

Пад восень адна з сясцёр у хвіліну шчырасці сказала мне:

— Хутка Мікалай Іванавіч ажэніцца. За дзесяць вёрст адсюль ёсць багаты селянін, у якога дачка на выданні. Бацька мае дванаццаць дзесяцін зямлі, тры каровы, два кані, чатыры кормленыя свінні, дзесятак авечак і многа птушкі. Сям'я яго складаецца, апрача іх саміх, з двух сыноў і адной дачкі. Дачку яны вельмі любяць і даюць за ёй вялікі пасаг. У нядзелю Мікалай Іванавіч паедзе ў сваты. Калі дагаворацца, нам можна будзе ўздыхнуць лягчэй. Апрача асноўнага пасагу, будзем мець і сталую падтрымку мукой, салам, бульбай, гароднінай. І дома нам развяжуцца рукі. Адным словам, чакаем лепшага жыцця.

Мікалай Іванавіч у сваты з'ездзіў і дагаварыўся паспяхова. Карову яны давалі лепшую, па выбары самога жаніха. На каляды давалі адкормленага кабана на пятнаццаць пудоў. Затым давалі два кулі мукі: адзін куль пшанічнай, а другі — жытняй, пытляванай. Ну, і ў далейшым будуць падкідаць сёе-тое. Адзення яна прывязе цэлы куфар, а палатна хопіць на ўсе патрэбы настаўнікавай сям'і. І, нарэшце, самае галоўнае, будзе выдадзена трыста рублёў грашыма, па сто рублёў у год.

Далейшых вынікаў я не дачакаўся, бо выехаў на вучобу, а за зіму, бадай-што, і зусім забыўся на гэтую жаніцьбу. А калі прыехаў на канікулы ў наступнае лета і зайшоў да настаўніка, то трапіў акурат у самы разгар падзеі. У гасцінай мітусіліся ўстрывожаныя жанчыны, а са спальні чуўся жаночы плач з галашэннем:

— Ах, божа мой, бо-о-жа! А куды ж я тра-а-піла! А завошта ж такія паку-у-ты. А каб ведаў ба-а-цюхна і родная мату-у-ленька!.. А чаго ж яны ад мяне хо-о-чуць? А як мне тут ве-е-к векаваць...

Затым адчыніліся дзверы спальні, і адтуль выскачыў ускудлачаны настаўнік. Не звяртаючы на мяне ўвагі, ён схапіўся за галаву і пачаў бегаць па пакоі, прыгаварваючы:

— Чорт ведае, што такое! Божа мой, што рабіць, што рабіць, як жыць?.. У якую пятлю я трапіў на сваю пагібель!.. А гэта яшчэ толькі пачатак жыцця... Так табе і трэба, дурню! — істэрычна крыкнуў ён, злосна стукнуў кулаком сам сабе па галаве і выбег за дзверы.

Дзверы ў спальню былі напалову адчыненыя, і праз іх я ўбачыў жанчыну з дзіцем на руках. Яна была акурат такая, якая летась вызначалася па плану: здаровая, дужая, а якая была з твару, я не паспеў разабраць, бо старая зачыніла дзверы. Магчыма, што і сам муж яшчэ не разабраўся, якая яна была не толькі з твару, а і з характару. Я хацеў быў ісці, але жанчыны затрымалі мяне:

— Нічога, нічога, пабудзьце з намі. Вы ж ведаеце ўсю гісторыю. І нам хацелася б цяпер пагаварыць з другам...

А калі яны пачалі гаварыць, то выявілася, што ў іх дом трапіла страшыдла. Яна дурная, як бот, а на твар нават глядзець страшна. А самае горшае, што яна нічога рабіць не хоча, толькі сядзіць, жарэ і пухне ад сала. Яна не толькі не спраўляецца з абслугоўваннем дома, але хоча, каб яе самую даглядалі. Калі прыходзяць у госці прыстойныя людзі, то гэтае страшыдла трэба хаваць, каб не было сораму. У сваіх бацькоў яна была любімай дачкой, яе песцілі і не прывучылі да працы. Ды і самі бацькі ашуканцы і падлюгі: пасагу яны далі толькі сто рублёў, а больш, як відаць, і не збіраюцца даваць. Карову не далі выбраць самім, як было дамоўлена, а яны самі выбралі, якую ім захацелася. Жытнюю муку далі не пытляваную, а простага памолу...

І яшчэ шмат чаго жудаснага пачуў я пра нядобрасумленнага мужыка і яго дачку...

Ішоў я ад іх вельмі ўзрушаны.

## 6. ЧАМУ Я НЕ ЗРАБІЎСЯ ГЕНЕРАЛАМ

> Я шел за ним по Елизаветинской улице, потом по Институтской и Николаевской. Гардемарин изящно и небрежно отдавал честь пехотным офицерам. Мне было стыдно перед ним за этих мешковатых киевских вояк.
>
> *К. Паустовский. «Далекие годы»*

Аднойчы прыехаў да нас малады афіцэр у бліскучай новай форме. Цудоўны шэры шынель ззяў у нашых вачах, як сонца; рыпенне і пах новых рамянёў кружылі галаву, а над усім гэтым хараством панавалі залатыя пагоны і шапка з какардай і белым аколышкам.

Вучні старэйшага класа акружылі яго, як свайго таварыша, а мы з зайздрасцю глядзелі, баючыся падысці бліжэй. Зайздрасць да тых, хто мог размаўляць з ім па-свойску, была сапраўды сур'ёзная. Мы адразу даведаліся, што прозвішча афіцэра Краўцэвіч, што ён быў вучнем нашай семінарыі і пакінуў яе спецыяльна дзеля таго, каб зрабіцца афіцэрам. А

для гэтага трэба было спачатку вытрымаць экзамен на так званага «вольнапісанага» салдата.

У тыя часы, калі большасць салдат былі зусім непісьменныя, для адукаваных былі ўстаноўлены некаторыя льготы: яны маглі яшчэ да прызыву добраахвотна паступаць у салдаты і адбываць вайсковую павіннасць у значна карацейшы час. Так тыя, хто скончыў чатыры класы сярэдняй школы або вытрымаў спецыяльны экзамен, служылі два гады замест чатырох-пяці, а студэнты — толькі адзін год. Паколькі з простых людзей мала хто мог дасягнуць такой адукацыі, ільготамі карысталіся галоўным чынам панскія сынкі. Тым больш было гонару, калі і з нас хто-небудзь дамагаўся такіх ільгот. З гэтых добраахвотнікаў галоўным чынам камплекталіся пяхотныя юнкерскія вучылішчы, з якіх выходзілі афіцэры. Трэба адзначыць, што гэта былі, так сказаць, «простыя» афіцэры, пяхотныя, але для нас і яны здаваліся вышэйшымі.

Каб у гэты час хто-небудзь спытаў кожнага з нас, кім хацеў бы ён быць, то адказ быў бы адзін: «афіцэрам». І да гэтага часу многія сярод нас выказвалі такія думкі, але яны здаваліся недасяжнымі марамі. А цяпер мы ўбачылі канкрэтнага чалавека, такога самага селяніна і семінарыста, як мы, убачылі, што мары могуць быць сапраўднасцю, і не адзін з нас страціў спакой. Далейшае залежала ад таго, у каго хопіць смеласці паламаць сваё становішча і рынуцца ў бліскучую трывожную будучыню.

Такім адважным паказаў сябе мой прыяцель з старэйшага класа Андрэй Дзячэнка. Нездарма ў яго быў арліны нос і высокі лоб.

— Не хачу,— казаў ён,— сядзець у вёсцы настаўнікам, калі ёсць магчымасць зрабіцца афіцэрам.

І ён храбра выйшаў з семінарыі. Праз некалькі месяцаў ён наведаў нас ужо ў якасці «вольноопределяющегося» 179-го пехотного Усть-Двинского полка». Ён спакушаў нас не менш за Краўцэвіча. Па выгляду ён значна адрозніваўся ад простага салдата. Шынель быў прыстасаваны да яго фігуры, боты і шапка былі падобныя да афіцэрскіх, а пагоны былі аб-

шытыя каляровым кантам. Па гэтых пагонах здалёк было відаць, што ідзе не просты салдат, і афіцэры адносіліся да яго з павагай. І дзяўчаты глядзелі на яго не так, як на звычайнага салдата. І мы зайздросцілі яму не менш, як афіцэру. Зноў спакуса ахапіла нашы сэрцы. Хто наступны рынецца па гэтым шляху?

Наступным захацеў быць я. Жадаючых наогул было многа, але зрабіць рашучы крок не кожны быў здольны. А мне старанна дапамагаў мой прыяцель Дзячэнка. Сустракаўся я з ім часта і не раз наведваў яго ў казарме адзінаццатай роты, дзе ён служыў. Становішча яго было асаблівае, паўафіцэрскае; у казарме ён меў свой асобны пакойчык, і афіцэры здароўкаліся з ім за руку. Камандзірам роты быў капітан Тарноўскі, дзядзька добры, які любіў выпіць. Ён не надта прыдзіраўся да сваіх салдат, і я ў казарме зрабіўся сваім чалавекам, нават еў салдацкую кашу.

Салдаты вельмі любілі Дзячэнку за тое, што ён быў свойскі хлопец і расказваў ім шмат цікавага і карыснага. Самым адшчырым прыяцелем Дзячэнкі быў унтэр-афіцэр Кечка. Аднаго разу Дзячэнка затрымаў мяне ў казарме да глыбокай ночы. У гэтую ноч было вызначана антырэлігійнае выступленне.

Гэтую ноч я ніколі не мог забыць. У вялізнай казарме паўзмрок. Па баках ідуць доўгія рады ложкаў, а ля кожнага з іх стаяць, як на варце, распранутыя салдаты з накінутымі на плечы шынялямі. У адным канцы казармы Дзячэнка і Кечка ставяць табурэтку, затым здымаюць са сцяны абраз святога Міколы-цудатворца і стаўляюць на табурэтку. Тады на процілеглы канец казармы выходзіць унтэр-афіцэр Кечка з малакаліберней вучэбнай вінтоўкай у руках. Ён апускаецца на адно калена, накіроўвае вінтоўку на ікону і гучным урачыстым голасам гаворыць:

— Гасподзь бог! Калі ты сапраўды існуеш, то паразі мяне цяпер насмерць за мой грэх!..

Нерухомыя фігуры салдат уздрыгануліся, яшчэ больш скамянелі, вочы гатовы былі выскачыць са сваіх месц, раты самі сабой раскрыліся, дыханне спынілася ва ўсіх грудзях. У

гэтай сапраўды мёртвай цішыні голас Кечкі здаваўся грамавым, страшным, чутным па ўсім горадзе. Нават мы з Дзячэнкам адчулі, як дрыжыкі пайшлі па спіне. Каб падтрымаць народ, мы весела засмяяліся і пажартавалі:

— Трымайся, брат, зараз нешта будзе,— сказаў я.

— Бачылі мы ўжо такі цуд! — адказаў мой таварыш.

Я і цяпер не магу зразумець, якім чынам гэты страшны міг чакання прайшоў ціха і спакойна. Цяжка паверыць, каб уся рота салдат складалася з адных толькі перадавых, свядомых людзей. Не мог жа адзін Дзячэнка за кароткі час зрабіць іх усіх перакананымі бязбожнікамі. Можна думаць, што значная большасць іх зусім не была ўпэўнена, што бога няма, і яны маглі чакаць, што сапраўды ўдарыць гром, бліснe маланка і зачэпіць не толькі унтэр-афіцэра, але і іх саміх. Ды не толькі зачэпіць, а возьме ды і знішчыць іх усіх разам з казармаю за тое, што яны прымаюць удзел у такой грахоўнай справе. Не магло не быць тут такіх салдат, і аднак не знайшлося ніводнага, які спалохаўся б, крыкнуў, запярэчыў; усе стаялі нерухома, бы на парадзе.

Кечка спусціў курок... У напружанай цішыні шчаўчок стрэла прагучаў, як гром. Мікола-цудатворац падскочыў і скрывіўся на бок. Усе ўздрыгануліся, гучна ўдыхнулі паветра і зноў замёрлі ад жаху: што ж цяпер будзе?.. А калі нічога не здарылася, пачуўся агульны ўздых, салдаты адразу ажылі, заварушыліся, загаманілі, сталі падыходзіць да абраза. У левым воку свяціцеля Міколы Мірлікейскага цямнелася дзірачка. Задаволены Кечка агледзеў абраз і сказаў:

— Трэба будзе як-небудзь падлячыць беднага цудатворцу, каб не пазналі, што ён ранены куляю.

Нехта з салдат зараз жа параіў:

— Трэба зрабіць, каб дзірка была не круглая, а нібы чымсьці выпадкова прабітая.

— А потым трэба падклеіць,— прапанаваў другі.— Давайце я залатаю яго.

Успамінаючы гэтую ноч, Дзячэнка пазней казаў мне:

— Ці ведаеш ты, што пасля таго я сапраўды гатоў быў паверыць у цудатворную сілу свяціцеля Міколы. Колькі не-

аднолькавых людзей былі сведкамі нашага вопыту, колькі сярод іх было цёмных, рэлігійных, несвядомых, напэўна, былі і нядобрасумленныя — і ніхто не выдаў нас. Падумай толькі, ніводнага падхаліма не знайшлося! Хіба гэта не цуд!..

Нарэшце я напісаў маме, каб яна прыехала да мяне, бо мне трэба пакідаць семінарыю; я пераканаўся, што настаўнікам быць не магу, хачу быць толькі афіцэрам.

Але ішоў тыдзень за тыднем, а мама не толькі не прыязджала, але і ніякага адказу не давала. А калі, нарэшце, прыехала, то выявілася, што яна жыве не ў Рогаве, а зноў у тым самым манастыры. Чаму? У чым справа? І маці мне расказала:

— Я вымушана была ўцякаць з Рогава. І, відаць, назаўсёды. Ты сам бачыў, як нам трэба пільнавацца, але як не пільнуйся, ад хатняга злодзея не ўбеWhile sense ражэшся. Ды, нарэшце, і ніякіх сіл не хопіць дзень і ноч азірацца і чакаць смерці.

— А чаму дзед не заступіцца? — спытаў я.

Мама горка ўсміхнулася і махнула рукой.

— Не можа ён кожную хвіліну быць побач са мной. Апрача таго, і сам ён штодня ўсё больш і больш нядужае. Іван мне і цвярозы некалькі разоў казаў: «Ідзі ад нас, пакуль не позна. Усё роўна ні табе, ні тваім дзецям не перападзе ні капейкі. А прыдушыць цябе зусім не цяжка. Згінеш, як кураня, і ніхто гэтага нават і не заўважыць». А п'яны ён, і праўда, мяне чуць не прыдушыў. Вось я і кінула ўсё. Бог з ім! Жыла я век без усялякай гаспадаркі, пражыву і рэшту сваіх дзён. Можа, гадкоў праз два ты станеш настаўнікам, дастанеш добрае месца, вось тады я і буду ў цябе за гаспадыню. Праўда, Яначка?

Сказала гэта яна такім тонам і з такой мяккай усмешкаю, што мяне бы кіпетнем апарыла.

Ну як жа цяпер было гаварыць пра тое, што я пакідаю семінарыю?

Але я не мог так адразу адмовіцца ад сваёй мары і нясмела сказаў:

— А ведаеш, мама, я хачу зрабіцца афіцэрам.

— А навошта? — здзівілася яна.

— Ды афіцэр куды вышэй за настаўніка і грошай больш атрымлівае і генералам можа зрабіцца.

Але гучнае слова «генерал» не зрабіла на маму ніякага ўражання. Тады я пачаў усё больш і больш рашуча, як і належыць будучаму вялікаму палкаводцу, наступаць на яе, атакуючы і з фронту, і з тылу. Я сказаў, што семінарыі ўсё роўна не скончу, бо ў мяне баліць галава ў класе, а на афіцэра вучацца, вядома ж, на адным свежым паветры. Ды яшчэ, апрача таго, да мяне тут бацюшка нешта прычапіўся і можа ў любы дзень адгэтуль выгнаць з воўчым білетам.

Сказаў гэта я і пашкадаваў, маці тут жа заплакала.

— Не слухаеш, зусім не слухаеш ты мяне, сынок! Праз усё жыццё я цябе толькі і прашу, каб ты маліўся госпаду богу нашаму, а ты забываешся пра гэта. Вось бяда дык бяда!

А я ўсё гаварыў і гаварыў ёй пра сваё. З тае прычыны, што перавагі афіцэрскага звання яе зусім не захаплялі, я скіраваў яе ўвагу на тое, нібы ўсё роўна я павінен пакінуць семінарыю і больш ніякага іншага ратунку ў мяне няма.

Ну, а калі няма іншага ратунку, мама павінна была са мною згадзіцца. Але як толькі я ўбачыў, якою зрабілася яна пасля сваёй вымушанай згоды, я адразу ж адмовіўся ад сваёй мары стаць афіцэрам. Я ўбачыў, што раблю ёй гора больш, чым зненавідны дзедаў Іван. Ды ад яго яна магла ўцячы, а ад мяне нікуды не дзенешся...

Вось таму, мусіць, я так і не зрабіўся генералам.

## 7. ПОМСТА ПАПА

> — Поцелуй сутану,— сказала мне бабушка быстрым шепотом. Но я не послушался. Я побледнел от обиды и прямо посмотрел в лицо кардиналу.
>
> *К. Паустовский. «Далекие годы»*

Міхась Ітомлінскі быў не з простай сям'і: бацька ў яго быў валасным пісарам, а брат — нават інспектарам народных вучылішч. Але выгляд Міхась меў зусім не панскі; ён быў дужы,

плячысты, але дапасаваны, кантаваты, твар яго быў абсечаны сякерай, але не пагабляваны; у дадатак бялёсыя вочы, шырокія скулы і велізарныя вушы.

Вучыўся ён на тройкі з ухілам да двоек, але змагаўся за сваё месца ў семінарыі як мага. А галоўнай зброяй яго былі цудоўныя смажаныя качкі, тлустыя гусі, куры, вараныя яйкі, каўбасы, вэнджаныя прадукты, пірагі, мазуркі, усялякія здобы. Прадукты гэтыя яму дастаўляліся вельмі часта, і ён мог з іх дапамогай не толькі пісаць усе сачыненні на «пяць», але часам і вусна адказваць на«чатыры». Ніхто з вучняў не мог устояць супроць качкі з яблыкамі альбо торта, кожны гатоў быў падтрымліваць яго ўсімі сіламі. Не буду хаваць, я таксама нямала пакарыстаўся смажанымі гусямі і курамі, можа, нават і крыху больш, чым іншыя. Ітомлінскі выйграваў і тым, што быў рахманы, стараўся з усімі жыць мірна і лагодзіў кожнаму.

Асабліва ён лагодзіў начальству і, вядома, дырэктару. Дзеля гэтага Ітомлінскі выпрацаваў сабе цэлую сістэму дзеянняў.

Ён лавіў сваімі вялікімі вушамі кожнае, нават самае невыразнае слова і зараз жа высоўваўся наперад, каб выканаць сказанае. А калі выконваць не было чаго, то Ітомлінскі ўсяляк стараўся паказаць, што слова дырэктара дайшло да самага яго сэрца. Ітомлінскі пільнаваў, калі дырэктар выйдзе на сваю пагулянку, і ўсялякімі спосабамі стараўся трапляць яму на вочы. І не так сабе, а за якой-небудзь карыснай работай. Ідзе дырэктар у той бок, дзе знаходзяцца гімнастычныя снарады,— і наш Ітомлінскі ўжо клапоціцца каля іх, перасоўвае паралельныя брусы, стукае па лесвіцы, прыглядаецца, ці добра замацаваны кольцы. Павярнуў дырэктар у другі бок, а напярэдадзе вучань Ітомлінскі поркаецца каля вадасцёкавай трубы або адсоўвае камені з дарогі дырэктара. А калі дырэктар гуляе па садзе, то Ітомлінскі гойсае па дарожках, як паляўнічы сабака. Цяпер у яго руках нож, якім ён падразае расліны, калупае зямлю, прыстасоўвае тычкі, а то нясе насустрач дырэктару вядро з вадой. Падобнымі спосабамі ён рэкамендаваў сябе і перад іншымі настаўнікамі.

Зусім зразумела, што разнастайная і напружаная праца вучня Ітомлінскага не засталася дарэмнай, бо ў гісторыі чалавецтва вельмі мала было выпадкаў, калі старанні падхаліма заставаліся незаўважанымі і неацэненымі. Рэпутацыя Ітомлінскага ў вачах у начальства расла, як мыльная бурбалка. Па вучобе ён лічыўся трошкі вышэй за сярэдняга вучня, а па ўсіх іншых якасцях ён быў прыкладам для нас. Трэба аддаць яму справядлівасць, ён ніколі не задаваўся, не задзіраў нос і нікому не шкодзіў. Таму і ў мяне былі з ім добрыя адносіны, якія ён старанна падтрымліваў.

Так жылі мы дружна год, другі, трэці, перайшлі ў чацвёрты. Ужо да сканчэння семінарыі засталося якіх-небудзь паўгода. І вось аднаго разу да Ітомлінскага прыехаў брат-інспектар і спыніўся ў гасцініцы. Міхась, мусіць, не раз казаў яму, што мае добрага таварыша, які абслугоўвае яго сачыненнямі, і яны захацелі аддзякаваць мне. Міхась урачыста запрасіў мяне ў госці да брата. Мы былі ўжо дарослыя, выпускнікі, і інспектар падрыхтаваў сустрэчу, як належыць. Гэта быў першы выпадак у маім жыцці, калі я сядзеў за сталом, убраным такімі закусямі і бутэлькамі, якіх ніколі не бачыў. У дадатак быў яшчэ немалады настаўнік з жонкай. Хутка мы з Міхасём павесялелі так, што я пачаў непакоіцца.

— А што будзе, калі мы нап'ёмся?

— Глупства! — сказаў інспектар.— Вы ж не дзе-небудзь бадзяецеся, а знаходзіцеся ў мяне. А я сякое-такое дачыненне маю да выхавання моладзі. Калі што якое, я вазьму адказнасць на сябе і дамоўлюся з вашым начальствам.

Пад такой магутнай абаронай мы і прасядзелі больш, як трэба, і выпілі больш, як нам належала. Вярнуўшыся дадому, я так і заснуў не распранаючыся. І ў такім выглядзе застаў мяне мой любы бацюшка. Сведкі кажуць, што ён варушыў мяне за плячо і нешта казаў, але я ў адказ прамармытаў нешта такое, пасля чаго бацюшка пакінуў мяне ў спакоі. Ітомлінскі спаў недалёка ад мяне, але распрануўшыся, таму бацюшка да яго і не падыходзіў.

Як у гэтыя дні, так і пазней, я не раз ламаў галаву: чаму

бацюшка акурат у гэтую ноч прыйшоў правяраць мяне? Калі ён ведаў, што і раней былі выпадкі і я прыходзіў позна, то чаму да гэтага часу маўчаў. Тым больш, што тады ён павінен быў знайсці на маім месцы чучала. Калі ж дапусціць: ён на гэты раз даведаўся нейкім чынам, што мы пад вечар некуды пайшлі, то чаму ён правяраў толькі мяне аднаго, а Ітомлінскага не чапаў?

Раніцою я пачуў, што каля мяне нехта трэцца. Расплюшчыўшы вочы, я ўбачыў свайго дружка Ітомлінскага. Губы ў яго трэсліся, на вачах былі слёзы, і ён горача шаптаў:

— Браток, пашкадуй мяне, не выдавай! Я табе аддзякую, брат мне дасць грошы. Калі спытаюцца, не кажы, што мы былі разам і ў каго. Прашу цябе, не кажы, век не забуду...

І я адчуў, што ён бярэ маю руку і... цалуе.

Уся кроў ударыла мне ў галаву. Я задрыжаў, усхапіўся і з найвялікшай агідай, якой я ніколі яшчэ не адчуваў, сказаў:

— Прэч, няшчасны! Я нікога яшчэ не выдаваў і не выдам, можаш быць спакойны. А з такімі сабачымі просьбамі ты да мяне не лезь.

У той жа дзень усе загаманілі, што мяне збіраюцца выключаць. Нейкім чынам дайшло яшчэ, што патрабуе гэтага галоўным чынам бацюшка. А сярод дня паклікаў мяне дырэктар і спытаў прама:

— У каго ты быў ноччу?

— У аднаго знаёмага, які прыехаў у горад.

— З кім ты хадзіў?

— Ні з кім. Адзін.

— Падумай добра, пакуль не позна!

— Я быў адзін.

А пасля абеду прыйшоў да нас у спальню наш інспектар Войніч, прыйшоў спецыяльна да мяне. Адвёў мяне ўбок і кажа:

— Што ты нарабіў, дурань?

— Саграшыў,— адказаў я, апусціўшы вочы.

— А калі так, то трэба грэх выпраўляць.

— Як?

— Ідзі пакланіся папу. Ідзі зараз жа. Што табе станецца. А то выключаць за некалькі месяцаў да сканчэння.

Усё маё нутро перавярнулася ад гэткіх слоў. Самы старэйшы і паважаны настаўнік, памочнік дырэктара, маўклівы, суровы, кажа свайму вучню: «Пакланіся папу!» Ды каб хто-небудзь з нас гэтак сказаў, а які-небудзь Баўдзей пачуў, то за адно гэта былі б вялікія непрыемнасці. А тут гаворыць сам інспектар, гаворыць, як свайму сыну. Значыць, і сярод настаўнікаў у форме бываюць сапраўдныя людзі. У гэтую секунду паспеў мільгануць перада мной і вобраз другога настаўніка-чалавека, Горскага, якога баўдзеі вымусілі звольніцца з семінарыі. Тады Горскі шчыра і проста сказаў нам у класе:

— Кожнаму непрыемна, калі яму наступаюць на нагу.

Як мне хацелася цяпер пацалаваць руку нашаму суроваму інспектару, як роднаму бацьку! Я паглядзеў яму ў вочы з удзячнасцю і прашаптаў:

— Дзякую...

Пасля таго я сабраўся з духам і пайшоў да бацюшкі. Узышоў на знаёмы ганак, дакрануўся да ручкі знаёмага званка і... завярнуўся назад. Не мог, ніяк не мог я прымусіць сябе «пакланіцца папу». Для мяне зрабіць гэта было ў мільён разоў цяжэй, чым Ітомлінскаму пацалаваць мне руку.

Пазней я даведаўся, што сцэну на папоўскім ганку сёй-той бачыў, і яна дайшла да ўсіх вучняў і настаўнікаў, уключаючы і самога бацюшку. Я нават меў падставы думаць, што гэты факт выклікаў некаторую павагу да мяне не толькі з боку вучняў, але і сярод настаўнікаў, у тым ліку і самога бацюшкі. Я ў гэтым пераканаўся, калі праз гады два трымаў экстэрнам экзамен на настаўніка і экзаменаваўся ў таго ж бацюшкі.

А пакуль што мяне з трэскам выключылі з семінарыі.

А каб хто-небудзь, ці сам Міхась Ітомлінскі, ці яго брат, ці вучань які «данеслі б», што мы былі ўдвух, то нам абодвум паставілі б за паводзіны па «пяць з мінусам» і на гэтым справа скончылася б. Але ніхто не дапамог мне, і з семінарыяй прыйшлося развітацца.

## 8. У МЯШЧАНСКАЙ СЯМ'І

Я нікуды не паехаў, выйшаўшы з семінарыі, бо мне і ехаць не было куды. Знайшоў сабе кватэру за тры рублі ў месяц і работу на дзесяць рублёў.

Кватэра мая складалася з утульнага светлага пакойчыка ў доме, які стаяў сярод агарода. Гаспадарамі былі вельмі балбатлівая маці, вельмі маўклівы муж і вельмі дурная дачка Эмця. Гэта была першая мяшчанская сям'я, з якой я пазнаёміўся блізка і якую ніколі не мог забыць.

Работу я хутка знайшоў, яна была педагагічная: трэба было рэпетыраваць нямецкага хлопчыка, вучня другога класа рэальнага вучылішча. Бацька яго быў галоўным спецыялістам на мясцовым піўным заводзе. Як і належыць такому спецыялісту, ён быў вялікі, вельмі тоўсты, з гучным голасам і ламанай мовай. Прыходзіў я на ўрок а гадзіне пятай, калі ў іх быў чай, а да чаю быў і хлеб, і булкі, і масла, і малако, і сыр магаландскі, і яшчэ што-небудзь добрае. Гэта давала мне магчымасць падмацавацца так, што я нярэдка мог пратрымацца без ежы да наступнага ўрока.

Уладзіўшы свае справы, я напісаў маме, што выйшаў з семінарыі, жыву цяпер асобна і прашу, каб яна да мяне прыехала. Пісьмо было напісана ў такім тоне, нібы перамена майго становішча з'яўляецца вялікім дасягненнем. Не магу сказаць, ці ўзрадавалася маці, прачытаўшы пісьмо аб маіх дасягненнях, але магу сказаць, што, убачыўшы іх сваімі вачыма, яна забылася на ўсё гора. Мы цяпер жылі разам, мелі асобны пакой, я зарабляў грошы. Чаго яшчэ болей жадаць? А калі выявілася яшчэ, што мы будзем мець сваю градку на агародзе і можна будзе трымаць парсючка, то маці гатова была нават дзякаваць богу, што я выйшаў з семінарыі (што мяне выгналі, я, вядома, не казаў).

Так пачалося наша нечаканае самастойнае жыццё. Калі я знайшоў яшчэ адзін урок, то мы зажылі зусім багата і зусім забыліся, што нядаўна былі гаспадарамі вялікай гаспадаркі. Пра яе мы нават не ўспаміналі і ў Рогаве больш ніколі не бы-

лі. Пра смерць старога Глудкіна пачулі ад людзей. Мама ўздыхнула, перахрысцілася, сказала: «Царства яму нябеснае»,— і на гэтым уся сувязь з Рогавам скончылася. Не памятаю, ці была ў нас якая-небудзь гутарка пра спадчыну, ведаю толькі, што дамагацца яе нам і ў галаву не прыходзіла...

Я пачаў рыхтавацца да экзамена на настаўніка экстэрнам, мама з захапленнем гаспадарыла, і жыццё было б зусім шчаслівым, каб не наша гаспадыня і не яе дачка Эмця. Гаспадыня пачала запэўняць нас, асабліва мяне, што дачка яе самая прыгожая і самая таленавітая ў свеце. Калі я чытаў якую-небудзь кнігу, гаспадыня прыводзіла сваю дачку і пачынала сакатаць:

— Вы што чытаеце? «Пачатак прыродазнаўства»? Эмця вельмі любіць пачаткі прыродазнаўства. Праўда, Эмця?

— Праўда,— адказвае тая, успацеўшы ад натугі.

Ёй васемнаццаць гадоў, у яе вельмі круглы твар, круглыя бялёсыя вочкі, круглы носік і вялізны лоб, які займае ледзь не палову галавы.

— Пра што гаворыцца ў гэтых пачатках? — казала далей гаспадыня.— Эмця, пагавары з ім пра навуку, а то табе рэдка даводзіцца гаварыць з разумнымі людзьмі.

І яна выходзіла, пакінуўшы нас удваіх. Цяпер ужо мы абое пацелі. Хацелася закрычаць «каравул» і ўцячы з хаты, але немагчыма было зрабіць так у адносінах да гаспадарскай дачкі. Ды і рыцарскія пачуцці да жанчыны не дазвалялі. Да кожнай дзяўчыны я яшчэ адносіўся, як да Дульцынеі Табоскай. Кожная дзяўчына здавалася мне істотай вышэйшай і разумнейшай ад мяне, а тут з'явілася нейкая Эмця і пераблытала ўсе мае погляды.

Калі гаспадыня пачула, што я граю на скрыпцы, ды яшчэ па нотах, то зараз жа абвясціла, што Эмця «абажае» музыку, асабліва скрыпку.

— Неяк не падыходзіць дзяўчыне граць на скрыпцы,— заўважыў бацька.

Але маці замахала на яго рукамі.

— Што ты, што ты! Няма такога закону. А ты падумай толькі: ніхто не грае, а наша Эмця будзе граць.

Я ледзь не заплакаў, пачуўшы такую пагрозу. Стаў раіцца з мамай, але яна не зразумела мяне.

— Хіба цяжка паіграць з паўгадзіны? — сказала яна.— Гэта ж забава. А пакрыўдзіць гаспадыню нельга, яна нам і градку дала.

А калі выявілася, што гаспадыня гатова за гэта зменшыць плату за кватэру на цэлы рубель, тады ўжо супраціўляцца было нельга. Што няшчасная дзяўчына не мела ніякай здольнасці, гэта было яшчэ паўбяды. У тысячу разоў горш было ад таго, што маці яе ў гэтай справе прымала надта актыўны ўдзел.

— Як цудоўна! — млела яна, гледзячы на сваю дачушку.— Я ж казала, што ў яе ёсць музычныя здольнасці.

— Мама! — сказала Эмця, з дакорам, але такім тонам, што мне здалося, нібы яна мяўкнула.

— А чаго нам хавацца? — казала далей маці.— Я шчыра дзякую богу, што ён даў нам добрую дачку. Няхай сароміцца Мікульскі за сваю дачку, а нам чаго бога гнявіць!

— Мама! — зноў мяўкнула Эмця.

Я адчуў, што мне робіцца моташна, і выбег з пакоя.

Але няма ліха без дабра. Калі пасля таго траплялася, што ваткі на ўроку не было, то мне рабілася лёгка, радасна, і вучаніца не здавалася мне такой дурной, а рабілася і сімпатычнай і прыгажэйшай. Ці не была гаспадыня хітрэйшая за ўсіх нас? Ці не рабіла яна ўсё гэта наўмысля? Хто яе ведае, можа, яна знарок старалася так абрыднуць мне, каб пасля яе я адчуваў сябе шчаслівым з Эмцяй...

Як бы там ні было, а праз якіх паўгода мяне ўжо не нудзіла ад Эмці. Я пачаў знаходзіць у ёй дадатныя якасці. Я пераканаўся, што яна не зусім дурная, а сёе-тое можа разумець, што характар у яе ціхі, спакойны, што сэрца ў яе добрае, мяккае, што яна шчырая, спагадлівая, што вочы яе бываюць задуменнымі, глыбокімі і што наогул яна досыць прыемная... Вось што можа нарабіць матчына дыпламатыя!

На шчасце, у мяне былі больш важныя справы, якія і выратавалі мяне ад пагібелі. А кніжнае ўяўленне аб дзяўчатах яшчэ на некалькі крокаў пасунулася да рэальнага жыцця.

## 9. ТАЙНЫ СХОД У ЛАЗНІ

Час ад часу я наведваў семінарыю. Таварышы сустракалі мяне, як «героя», з цікавасцю распытвалі аб маім жыцці, а я задзіраў нос і трымаў такі тон, нібы я выйграў, а яны ўсе прайгралі. Тады я яшчэ і сам не ведаў, якая значная доля праўды была ў маіх словах... А калі аднаго разу прыйшоў да мяне гарадавы і ўзяў падпіску, што я не буду наведваць семінарыю, то я добра зразумеў іх і не пакрыўдзіўся.

Замест таго ў мяне наладзілася сталая сувязь з Дзячэнкам. Я часцей бываў у яго ў казарме, і ён у вольны час прыходзіў да мяне. Калі раней мы з ім былі аднолькавыя па сваім развіцці і поглядах, то цяпер я заўважыў, што ён нейкі другі, значна старэйшы за мяне. На жыццё ён глядзеў інакш, чым я, і часам выказваў такія думкі, якія не толькі здзіўлялі, але і палохалі мяне. У першую чаргу ён ні ў грош не ставіў цара, казаў, што гэта паразіт, які сядзіць на шыі ў народа і якога трэба знішчыць...

Зноў пераварот у маёй галаве! Колькі часу, страху, ломкі было, пакуль я вызваліўся ад бога, а цяпер, выяўляецца, і цара трэба скасаваць. А яго скасаваць цяжэй, чым бога. Бога ніхто не бачыў і слядоў яго дзейнасці не відаць, а цар жыве ў сапраўднасці, усе прывыклі да яго, бачаць, шануюць. Як жа яго адразу скасаваць?

— Нядаўна і я быў такі дурны, як ты,— казаў мне прыяцель,— напэўна і цяпер застаўся б такім самым, каб не выйшаў з семінарыі і не пабачыў разумных людзей. Я цяпер аж чырванею ад сораму, калі ўспамінаю, як я глядзеў на бацюшку-цара. Вось табе сапраўдная гісторыя пра нашых цароў. Не толькі прачытай, але і вывучы яе. Беражыся, каб не пабачыў яе чалавек ненадзейны.

Кніжка, якую ён мне пакінуў, была невялікая. Называлася яна «Гісторыя Расіі». Аўтарам быў Ражкоў. Праглынуў я яе адным махам, а потым перачытаў яшчэ і яшчэ. У галаве маёй усё перавярнулася.

Сотні разоў чытаў я і пра Екацярыну Вялікую, і пра Аляксандра Благаславеннага, і пра Мікалая I, і пра ўсіх іншых,

а ўсёй праўды аб іх да гэтага часу не ведаў. Дык вось якія яны, памазанікі божыя!..

Так хацелася зараз жа пабегчы ў семінарыю і расказаць таварышам пра тое, чаго яны яшчэ не чулі.

Калі прыйшоў Дзячэнка і ўбачыў, якое ўражанне зрабіла на мяне кніга, то быў вельмі задаволены. Праз некалькі дзён пасля таго ён прапанаваў мне заўтра раніцою пайсці з ім у лазню. Я ахвотна згадзіўся, бо і сам думаў ісці. Прыйшлі мы недзе у дзевяць; народу было мала, чалавек пяць-шэсць. Некаторыя з іх, відаць, былі знаёмыя Дзячэнку, бо ён стаў з імі гутарыць. І да мяне падсеў са сваім тазам адзін сімпатычны чарнявы хлопец. Пасля некалькіх слоў я заўважыў, што ён вельмі разумны і адукаваны чалавек. Кожнае яго слова было для мяне, як прамень святла. Паступова гутарка зрабілася агульнай і перайшла на такія тэмы, якія я не толькі ў лазні, але нідзе яшчэ не чуў.

Спачатку гаварылі аб рэлігіі, і мы з Дзячэнкам адразу пераканаліся, што маем справу са сваімі аднадумцамі. Затым перайшлі да цара і самадзяржаўя. І тут мы не ўдарылі ў гразь тварам.

— Вось добра, што ты даў мне прачытаць «Гісторыю Расіі»! — шапнуў я на вуха Дзячэнку.

Новым для мяне было тлумачэнне суседа, што сам цар наогул нікчэмная фігура, а трымаецца ён толькі памешчыкамі і капіталістамі. Каб скінуць іх уладу, тады і сам цар паляціць дагары нагамі. Голыя людзі размаўлялі аб палітыцы смела, нікога не баючыся, і ўсё, што яны казалі, было для мяне новым, невядомым, незвычайным. А чарнявы сусед, як добры таварыш і настаўнік, усё мне тлумачыў і раскрываў новыя гарызонты.

Ён паспеў мне сказаць, што ўсё наша жыццё, наша навука, культура, літаратура, мастацтва, усе нашы погляды, звычкі, характары залежаць ад матэрыяльных умоў нашага існавання. Тут, у лазні, я ўпершыню пачуў, што «бытие определяет сознание», тут я даведаўся, што такое гістарычны матэрыялізм, і гэтае адкрыццё ўразіла мяне больш за ўсё, што я чуў да гэтага часу.

Не меншае ўражанне зрабілі на мяне і самі гэтыя маладыя людзі. Як лёгка, як прыемна было з імі размаўляць, якія яны былі вясёлыя, разумныя, дасціпныя і якія непадобныя на ўсіх тых, з кім я да гэтага часу сустракаўся!

Паступова адзін за адным яны пачалі разыходзіцца. Нарэшце засталіся толькі мы з Дзячэнкам.

— Ну, як табе падабаліся хлопцы? — спытаў ён, калі мы ішлі дадому.

— Ды гэта ж такія таварышы, якіх я ніколі не сустракаў! — сказаў я ў захапленні.— Я цяпер увесь час буду думаць пра іх і шкадаваць, што болей з імі не сустрэнуся.

— Не гаруй, сустрэнешся,— заспакоіў Дзячэнка.

— А ты з імі быў знаёмы да гэтага часу? — спытаў я.

— Ды яны ўсе мае прыяцелі! — засмяяўся ён.

— І так выпадкова сустрэліся ў лазні? — здзівіўся я.

— Зусім не выпадкова,— адказаў ён.— Гэта сходка была загадзя вызначана.

Я яшчэ больш здзівіўся:

— Сходка? Загадзя? У лазні?

— Што ж тут дзіўнага? — усміхнуўся мой прыяцель.— Рэвалюцыянерам усяляк даводзіцца. Тым больш, што сярод іх быў чужы чалавек — гэта ты. Паспрабуй цяпер выдаць, калі бачыў іх толькі голымі.

— Выдаць?! — uз’еўся я.— Выдаць? А хіба ты не ведаеш мяне? Хіба ты не мог за мяне паручыцца?

— Ціха, ціха, супакойся! — пасмейваўся мой таварыш.— Таму мы і сустрэліся, што я паручыўся. Калі хочаш, скажу табе і ўсю праўду: яны прыйшлі ў лазню спецыяльна для таго, каб паглядзець на цябе.

— Вельмі прыемна,— адказаў я ў тон.

Ніколі не падумаў бы я, што тут была значная доля праўды.

Дзячэнка казаў ім, што ў яго ёсць добры таварыш, які можа быць карысным для справы, вось яны і захацелі пазнаёміцца са мной.

— А што яны сказалі табе пра мяне? — пацікавіўся я.

— Сказалі, што вытрымаў экзамен на «пяць».

Праз некаторы час мая хатка на агародзе сапраўды зрабілася карыснай для справы. У ёй хавалася бібліятэчка такіх кніг, пра якія я да гэтага часу нават не чуў. Апрача знаёмай ужо мне «Гісторыі Расіі» Ражкова, тут былі: «Падпольная Расія» Сцепняка-Краўчынскага, «Андрэй Кожухаў» таго самага аўтара і яшчэ «Цар-чурбан, цар-чапля» — зборнік рэвалюцыйных песень і вершаў, «Камуністычны Маніфест», розныя брашуркі, накіраваныя супроць цара, памешчыкаў і капіталістаў. Сярод гэтых брашурак асабліва вызначалася адна пад назвай «Хітрая механіка». У ёй расказвалася, як цар са сваімі паслугачамі ашукваў народ. Былі і некаторыя легальныя ці паўлегальныя кнігі, да якіх належаў і «Капітал» Маркса.

Надта далёкая была ўся гэтая літаратура ад тых кніг, якія я чытаў раней. Можа, таму яна і ўразіла мяне больш, чым усе раманы. Здавалася, што ў маёй галаве адчынілася нейкая адтуліна, праз якую хлынула ў сярэдзіну свежае паветра і святло. Але «Капітал» прачытаць я не мог. Не разбіраўся і ў розных тэарэтычных пытаннях рэвалюцыйнага руху. Мяне папярэдзілі, што на маё імя будзе паступаць з-за мяжы нелегальная газета. Праз некаторы час прыйшло з Жэневы пісьмо, а ў ім была газета пад назвай «Искра», надрукаваная на тонкай гільзавай паперы. З прагнасцю накінуўся я на яе, але не ўсё зразумеў, што там было напісана. Аднак звярнуў увагу, што найбольш горача пісаў там невядомы мне Ленін. Гэта быў 1902 год. Газета прыходзіла да мяне некалькі разоў, і кожны раз я знаходзіў у пісьме стужку паперы са словамі: «Извините, что без Вашего разрешения мы воспользовались Вашим адресом». Я, вядома, разумеў, дзеля чаго гэта было зроблена, але быў незадаволены тым, што запіска была надрукавана друкарскім спосабам, значыцца, яна пасылалася ўсім без выключэння...

Маё становішча ў гэтай справе было нейкае асаблівае. Сувязі з падпольшчыкамі я фактычна не меў. Да мяне заходзілі толькі мой таварыш Дзячэнка ды той чарнявы малады чалавек, Марголін, які так спадабаўся мне ў лазні. Толькі яны бралі ў мяне літаратуру для перадачы каму-небудзь іншаму. Адзін раз да мяне трапілі першамайскія пракламацыі, але

распаўсюджваць іх мне не дазволілі. На мае пратэсты мне было сказана:

— Ты ў нас недатыкальная асоба. Цябе мы павінны берагчы ў першую чаргу. Калі будзе на цябе якое падазрэнне, то ў цябе зробяць вобыск, тады прападзе і наша бібліятэка і добры прытулак.

Не скажу, каб такая «недатыкальнасць» мне падабалася: у дваццаць гадоў больш падабаюцца небяспека і рызыка.

Спатрэбілася ні многа ні мала — яшчэ пятнаццаць гадоў блуканняў і пошукаў, каб нарэшце для мяне, Янкі з Гнілушак, скончыўся нялёгкі крывы шлях з цемры і адкрылася шырокая светлая дарога ў будучыню.

*1956—1957 гг.*

## ШЧАСЦЕ

*(Эцюд)*

Быў адзін з тых летніх дзён, якія бываюць, мусіць, толькі на Беларусі. Сонца пячэ як мага, а гарачыні няма: лішак яе паглынаюць і рака, і зараснікі аеру ды чароту, і густыя паплавы, і непралазны алешнік ды лазняк, і бярозы, і хвоі, і ўсялякая зяляніна, што жыве навакол, дыхае, шамаціць і запаўняе не толькі прыроду, але і душу чалавека. Не відаць людзей, не чуваць, але гоману досыць і без іх: адны конікі сваім цырканнем могуць заглушыць усіх людзей, а тут яшчэ кукуюць жаўтабрухія жабы, заліваюцца мітуслівыя птушкі ды гудуць мясістыя чмялі.

Усім радасна ў такі дзень. Радасна і мне. Радасна і вунь таму хлапчуку год васьмі, што спускаецца з гары, падскакваючы на адной назе ды махаючы белым дубцом.

Мы сустракаемся з ім на мосце. Ён прыпыняецца і глядзіць на мяне так, нібы хоча нешта сказаць. Радасць, шчасце так і пырскаюць з яго блакітных вачэй. Я разумею яго. Калі і я гатоў усіх абняць у гэты жыватворны дзень, дык што ж павінна адбывацца ў яго маленькім чыстым сэрцы? Я лагодна ўсміхаюся яму, ківаю галавой і кажу:

— Добра жыць на свеце, браток, га?

Тварык хлопчыка засвяціўся яшчэ больш, але ён нічога не сказаў. Ды і што ён мог сказаць? Мы і без слоў разумелі адзін аднаго.

Я пaціху ішоў міма, а хлопчык, нібы той сланечнік, паварочваў следам за мной свой круглы тварык. І з выразу вачэй яго таксама пырскала шчасце, і таксама здавалася, што ён вось-вось нешта скажа. Скажа, што надта прыемна ў такі дзень басанож скакаць па мосце ды махаць свежым дубцом, што ў грудзях яго цяпер вельмі цесна і адтуль нешта выпірае, што ўвесь свет вельмі прыгожы, што дзядзька, якога ён сустрэў на мосце, таксама прыгожы і добры, ды і наогул усе дзядзькі

і цёткі прыгожыя і добрыя... Ён нічога не казаў толькі таму, што не ўмеў выказаць такіх думак і пачуццяў. Ды яно і не трэба было — я і так усё разумеў. Хіба я сам калісьці не быў такім, як ён? Хіба я сам не адчуваў радасці жыцця? Асабліва ў такі цудоўны дзень.

Я яго разумеў. Але ён, відаць, гэтага не ведаў, бо ўсё глядзеў мне ў вочы, нібы чагосьці чакаючы ад мяне. Ён заліваў мяне сваім шчасцем, а я ў адказ нічога не мог яму даць. Для яго маёй шчырай і ветлівай усмешкі было мала. Мне трэба яму нешта сказаць. Але што? Што яму сказаць, каб перадаць усю тую цеплыню, якую я да яго адчуваю? А мне засталося ступіць толькі адзін крок — і мы разміёмся. Разміёмся, можа, навекі.

— Як цябе зваць? — сказаў я нарэшце, каб толькі не маўчаць.

Сказаў — і зараз жа пачырванеў ад сораму: хлопчык нічога мне не адказаў. Сваім дзіцячым інстынктам ён, відаць, зразумеў, што словы гэтыя сказаны так сабе, абы сказаць. Мала таго: твар яго перастаў свяціцца, нават неяк балюча скрывіўся. А потым... потым з грудзей яго вырваўся крык!..

Не адзін год прайшоў з таго часу, а голас хлопчыка і цяпер гучыць у маіх вушах.

Гэта быў шчыры, мімавольны крык дзіцячай душы. У ім былі і крыўда, і расчараванне, і надзея, і горкі папрок да нас, дарослых і разумных людзей.

Два словы толькі было ў гэтым крыку:

—Дзядзька! Шапка!..

Але гэтага было досыць, каб зразумець, хоць і са спазненнем, усю тую трагедыю, якая адбылася тут, на мосце, у гэты радасны летні дзень.

У хлопчыка на галаве была новая шапка, якую ён надзеў, відаць, першы раз. Добрая шапка, шэрая, каляная. Яна ахапіла не толькі галаву хлопчыка, але ўсё цела і душу. Гэта ж праз яе сёння такі цудоўны дзень, а я гэтага не ведаў. І сонца так шчодра свеціць толькі дзеля таго, каб усе здалёк маглі бачыць шапку, а я не заўважыў яе і зблізку. Адзін, усяго толькі адзін крок заставалася зрабіць — і ўся сустрэча пайшла б пра-

хам. Ці магла чулая дзіцячая душа сцярпець такую несправядлівасць, такое халоднае бяздушша?

І яна не сцярпела...

Я адчуў сябе вельмі вінаватым і кінуўся выпраўляць сваю віну.

— Ах, якая цудоўная ў цябе шапка! — крыкнуў я.— Пакажы, пакажы!

Вочы хлопчыка зноў засвяціліся радасцю.

Я зняў з яго галавы шапку. Яна сапраўды хрусцела, як бляшаная.

Хлопчык глядзеў на мяне ўдзячнымі вачыма, бы на свайго збаўцу.

— Які казырок! І шнурок! І гузікі два! — стараўся я.— А падкладка якая цудоўная! Хто купіў?

— Мамка! — з гордасцю адказаў хлопчык.

Несправядлівасць была выпраўлена.

І мы абодва, зноў шчаслівыя, разышліся кожны сваім шляхам.

*1947 г.*

# БЯРОЗАВЫ КОНЬ

Горача, душна. У вёсцы пуста. Усе калгаснікі ў полі на рабоце. Там у Толіка і мамка, і татка, і брат Зміцер, і сястра Люба. А яго, Толю, пакінулі дома з бабуляй. Бо ён, кажуць, малы. А які ён малы, калі яму ўжо мінула шэсць гадоў. Вось Петрык, што жыве насупраць, дык той сапраўды малы: яму толькі чатыры гады, і ён нічога не разумее. А калі што і разумее, то зусім па-дзіцячаму. Проста смешна слухаць, як гэты Петрык пачне хваліцца, што ўсіх фашыстаў пазабівае, увесь свет забярэ або каменьчыкам самалёт саб'е. Адразу відаць, што зусім яшчэ малое і дурное дзіця. А Толя так не скажа. Толя разумее, што не толькі Петрык, але і сам ён нічога фашыстам не зробіць і самалёта каменьчыкам збіць нельга. Гэта могуць зрабіць толькі чырвонаармейцы, бо ў іх ёсць і шлемы на галовах і стрэльбы ў руках. І коні ў іх ёсць добрыя. Не горшыя за Толевага каня, хоць той і з бярозавага пугаўя зроблены.

Нямала паездзіў па свеце Толя на сваім кані. Захоча пабываць ля школы, на другім канцы вёскі,— і конь мігам даставіць яго туды. Захоча пакупацца ў рэчцы за сялом, сядзе верхам на свайго каня — і сам не заўважыць, як апынецца ля рэчкі. А зусім нядаўна ён нават прымаў удзел у паходзе з сапраўднымі чырвонаармейцамі на сапраўдных конях. Толя доўгі час ехаў побач з імі на сваім кані, так што нарэшце камандзір не сцярпеў і пахваліў яго:

— Малайчына, кавалерыст!

Гэтая пахвала абрадавала не толькі Толю, але і яго каня. Як падскокне ён ды як панясе — ледзь Толю не скінуў. Але Толя з ім хутка справіўся. Затое камандзір зноў пахваліў яго, і чырвонаармейцы цешыліся і смяяліся.

Не дзіва пасля таго, што Толя любіў чырвонаармейцаў не менш, як татку, мамку, брата Зміцера і сястру Любу. І дзе б толькі не ўбачыў ён чырвоных байцоў, як зараз жа ляцеў ту-

ды на сваім кані. А выпадкі такія трапляліся досыць часта, бо за кіламетраў дзесяць ад іх стаяла аж два палкі кавалерыі. Апрача таго, непадалёк ад вёскі скрыжоўвалася некалькі дарог, і тут досыць часта праязджалі не толькі коннікі, але і танкі, і гарматы. Усё гэта давала Толю пэўнае права лічыць сябе звязаным з Чырвонай Арміяй. І ён гэта паказаў на справе.

Спякота. Цішыня ў вёсцы. Нават ветрык змарыўся і заціх. Пыл, узняты Толевым канём, доўга стаіць у паветры, нібы раздумвае, апусціцца яму на зямлю ці не. А далёка на дарозе ўзняліся слупы пылу, нібы хмары. Толя адразу сцяміў, што калі такі пыл, то там, пэўна, рухаецца войска. А калі войска, то ён абавязкова павінен быць з ім. Толя сцебануў свайго каня і памчаўся па дарозе.

Насустрач сапраўды рухалася войска —атрад з дваццаці або болей коннікаў. Ехалі яны рыссю, і Толя на сваім бярозавым кані хутка адстаў ад іх і згубіўся ў пыле. А найбольш крыўдна было тое, што ніхто з чырвонаармейцаў не звярнуў на яго аніякай увагі. Нібы таго чалавека з яго канём зусім і на свеце не было. Мажліва, што заднія байцы не бачылі Толю праз пыл, але камандзір ехаў наперадзе і павінен быў бачыць. Толя ж так глядзеў яму ў вочы і ў рот, чакаючы пахвалы, што толькі сляпы мог гэтага не заўважыць. І вось жа ён не звярнуў увагі. Крыўдна, вельмі крыўдна. Каб Толя не быў мужчынам і байцом, ён, пэўна, заплакаў бы.

Раз'езд абмінуў вёску, спусціўся да ракі, к мосту, і спыніўся. Чырвонаармейцы злезлі з коней, завялі іх у кусты, а самі размясціліся на траве сярод алешніку і чагосьці чакалі. І глядзелі ў той бок, адкуль ехаў Толя. Напэўна, яны чакаюць яго. А калі ён пад'ехаў да іх блізка, то адразу пачуў:

— Здароў, чырвоны кавалерыст!

— Давай мяняцца коньмі!

— Дай жа адпачыць свайму каню!

І яшчэ ўсялякія такія словы казалі Толю байцы.

Ад такой увагі не толькі ў шасцігадовага Толі павінна была закружыцца галава, але яна закружылася б нават у дзесяцігадовага Мішы, які так задзірае нос перад Толем. Толя пачаў паказваць перад чырвонаармейцамі ўсё сваё майстэрства вер-

хавой язды. Ён гнаў свайго каня на ўвесь дух і спыняў яго ў адзін міг. Ён рабіў на сваім кані такія завароты — і ўправа, і ўлева, і ва ўсе бакі,— што чырвонаармейцы аж клаліся ад захаплення. А калі Толеў конь занараві́ўся ды стаў на дыбкі, ды пайшоў задам, то тады і сам камандзір пахваліў:

— Малайчына, джыгіт!

Што такое «джыгіт», Толя не ведаў, але быў упэўнены, што гэта нешта добрае, бо камандзір вельмі ласкава ўсміхаўся. Ды і ўсе чырвонаармейцы цяпер былі зусім не такія, якімі ён сустрэў іх на дарозе. Здавалася, што ўсе яны былі вельмі рады, што пабачылі Толю, што яны толькі таго і чакалі, можа, нават і ехалі сюды дзеля таго, каб з ім сустрэцца.

Адзін баец падхапіў Толю разам з яго канём, пасадзіў на свайго каня і, трымаючы адной рукой хлопчыка, другой пачаў спавадзіць каня. У Толі аж дух заняло ад шчасця. Ці мог ён спадзявацца, што яму калі-небудзь давядзецца ехаць на сапраўдным сядле? А сядло рыпае ды пахне так прыемна. Эх, каб убачылі цяпер яго Петрык, Міша! І бабуля, і дзед Даніла, і дзядзька Рыгор. І татка, і мамка, і брат Зміцер, і сястра Люба...

Раптам зноў закурыўся пыл на дарозе. Як птах, прыляцеў конны чырвонаармеец і пачаў нешта гаварыць камандзіру. Той закамандаваў, і ўсе чырвонаармейцы замітусіліся, як мурашкі ва ўстрывожаным мурашніку. А Толю сказалі:

— Бяжы, браток, дахаты, бо тут зараз будзе вайна.

— Вайна? З фашыстамі? — затаіўшы дыханне, спытаўся Толя.

— А то з кім жа? — засмяяўся чырвонаармеец.— Вядома, з фашыстамі.

— І я таксама хачу ваяваць!

Дружным і ласкавым смехам сустрэлі байцы такую заяву, але прапановы не прынялі.

— Пачакай, потым,— сказалі яны.— Паспееш яшчэ. А цяпер хавайся з дарогі, бо коні растопчуць.

Устрывожаны хлопчык ціха пайшоў па краі дарогі, увесь час азіраючыся назад, на сваіх прыяцеляў. А тыя раптам зніклі, нібы скрозь зямлю праваліліся. Зніклі разам з усімі сваімі коньмі.

«Добра схаваліся,— з палёгкай уздыхнуў Толя.— Нізавошта фашысты не знойдуць».

У Толі цяпер застаўся толькі адзін клопат — пра татку, пра мамку, пра брата Зміцера і сястру Любу. Ці міне іх фашысцкае войска? Ці будзе іх шукаць у полі, ці так пакіне? Ды і сама вёска разам з бабуляй таксама ў небяспецы. Можа, фашысты спаляць яе, а ўсіх жыхароў пазабіваюць? Нарэшце, і сам Толя таксама можа напаткаць фашыстаў. Што будзе? Што будзе?.. Калі іх яшчэ не так многа, то схаваныя чырвонаармейцы справяцца з імі. А калі іх будзе вялікае войска, што тады рабіць?.. Ніколі не думаў Толя, што пападзе ў такі пераплёт, трапіць у самую сярэдзіну вайны.

Зноў задыміў пыл на дарозе... Цяпер ужо Толева сэрца моцна-моцна застукала. Гэта ж фашысцкае войска ідзе!.. Два коннікі ляцяць наперадзе. Спыніліся, азіраюцца па баках. Якія яны хітрыя! Убраліся, нібы чырвонаармейцы.

Раптам яны ўбачылі Толю і... накіраваліся проста да яго! Толя і сам не заўважыў, як у яго вырваўся крык:

— Мама!..

І ён заплакаў, забыўшыся, што ён мужчына.

Гэта былі такія шчырыя слёзы, што нават ворагі памякчэлі. Адзін з іх саскочыў з каня, падышоў да Толі і пачаў гаварыць ласкавым голасам:

— Ну, чаго ты спалохаўся, хлопчык? Хіба ніколі не бачыў чырвонаармейцаў? Ну, супакойся. Мы нічога дрэннага табе не зробім.

«Выдаюць сябе за чырвонаармейцаў»,—падумаў Толя. Але ён не такі малы і не такі дурны, каб гэтаму даць веры. І выгляд іх зусім не такі, як у сапраўдных чырвонаармейцаў. Тыя добрыя, вясёлыя, ласкавыя, а ў гэтых выгляд злосны. Але пакуль што яны яму нічога дрэннага не робяць. Можа, ён выкруціцца як-небудзь з іхніх лап.

— Ты не бачыў, хлопчык, тут чырвонаармейцаў?

Толя адразу сцяміў, чаго хочуць ворагі, і паспяшыў адказаць:

— Не!

— Яны павінны былі тут праязджаць. Ты не бачыў, у які бок яны паехалі?

— Туды,— паказаў Толя сваім канём зусім у процілеглы бок.

Разведчыкі пакінулі Толю і разлучыліся: адзін паскакаў назад, а другі — у той бок, куды паказаў Толя.

Радасць незвычайная ахапіла хлопчыка.

«Ашукаў фашыстаў! Ашукаў фашыстаў!» — стаў ён паўтараць сам сабе і пабег да чырвонаармейцаў, каб пахваліцца перад імі сваёй выдумкай.

Нельга сказаць, каб камандзір чырвоных быў надта задаволены, што падружыўся з гэтым хлапчуком... Манеўры — справа сур'ёзная, а тут прычапіўся гэткі «коннік».

«Блытаецца каля ног дзіцяня, перашкаджае. Яшчэ бяды можа нарабіць...» — думаў камандзір.

Але яму важна было ведаць, аб чым гаварылі разведчыкі «сініх» з гэтым хлапчуком. Камандзір выйшаў з алешніку, перайняў Толю і зноў схаваўся з ім у кустах.

— Ну, аб чым яны пыталіся цябе? — сказаў камандзір.

— А я ашукаў фашыстаў! — весела залапатаў Толя.— Я іх ашукаў. Яны пыталіся, дзе вы, а я паказаў, што паехалі туды. Ага, я іх ашукаў!..

— А які ж ты малайчына! — з захапленнем сказаў камандзір.— У такім разе сядзі ўжо тут і будзем разам ваяваць.

Зноў заварушыліся чырвонаармейцы, размясціліся інакш і замерлі. Толя сядзеў ля камандзіра. Побач — чырвонаармеец з кулямётам.

На ўзгорку паказаўся вялікі атрад. Большасць паехала ў той бок, куды паказаў Толя, астатнія пачалі спускацца на мост, пільна азіраючыся навакол. Асабліва ўглядаліся яны ў тое месца, дзе сядзеў Толя. Ці не бачаць яны яго? Яны, мусіць, ведаюць ужо, што Толя іх ашукаў, і шукаюць яго. Эх, каб Толю ды стрэльбу, тады ён нікога не баяўся б! А без стрэльбы на вайне нічога не зробіш. Трэба хоць схавацца лепей. І Толя пасунуўся глыбей у куст.

— Не варушыся! — строга прашаптаў камандзір, не зводзячы вачэй з дарогі.

Толя замёр.

А фашысты тым часам мінулі мост і павольна набліжаліся да таго месца, дзе ляжалі чырвонаармейцы. «Чаму нашы не страляюць?» — з трывогай думаў Толя. Каб у яго была стрэльба, ён зараз іх усіх пастраляў бы. А нашы чакаюць немаведама чаго.

Так і ёсць. Фашысты спыніліся і пачалі злазіць з коней. На кані застаўся толькі адзін камандзір. Ён нешта сказаў сваім салдатам, і двое з іх накіраваліся да кустоў. Зараз яны знойдуць і Толю, і чырвонаармейцаў... А нашы маўчаць...

— Страляйце, страляйце! — закрычаў тады Толя на ўвесь голас.

І адразу навакол загрукатала, затрашчала, загуло. З крыкам «ура» нашы кінуліся на дарогу, усе перамяшаліся... А потым усё сціхла — вайна скончылася, усіх фашыстаў пазабіралі ў палон.

Кулямётчык падхапіў Толю на рукі і вынес на дарогу. Яго сустрэлі весела не толькі свае, але і палонныя «фашысты». Усе смяяліся з Толевай «каманды», але наш камандзір быў заклапочаны.

— Уляцідь нам за гэта,— сказаў ён сур'ёзна.— У сапраўднай аперацыі так рабіць нельга.

— Але ж ён нам дапамог,— сказаў кулямётчык.—Хіба мы не маем права карыстацца дапамогай насельніцтва?

— Можна карыстацца звесткамі,— адказаў палонны камандзір,— а вы яго ўцягнулі ў самую аперацыю.

— А можа, у сапраўднай вайне так і будзе,— заўважыў нехта з байцоў.

— Усё гэта разбяром на разглядзе нашых сённяшніх дзеянняў,— сказаў камандзір і скамандаваў: — Па конях!

У адзін міг усе апынуліся на конях.

— Вось табе за храбрасць, герой! — крыкнуў кулямётчык і кінуў Толю два пустыя патроны.

Толя падняў іх і задумліва стаў глядзець услед коннікам, што ад'язджалі. Усё добра, але чаму гэтыя «злыя фашысты» зусім такія самыя, як нашы, і чаму нашы з імі дружаць?..

Прыбеглі Міколка і Сцёпка. Яны з зайздрасцю глядзелі на

Толікавы патроны і распытвалі, што ён тут рабіў з чырвонаармейцамі. А калі Толя сказаў, што ён разам з імі ваяваў супраць фашыстаў, то яго паднялі на смех...

Вечарам Толя расказваў сваім ужо не пра вайну і фашыстаў, а пра тое, як ён сёння на манеўрах дапамог чырвоным і як яны далі яму два патроны.

*1938 г.*

## ПАДАРОЖЖА ВАКОЛ ДОМА

Маці вынесла Ірачку на двор. Там, у зацішку, каля сцяны, ужо стаяла яе калясачка. Побач была насыпана гурба жоўтага пяску, а ў ім капашыўся народ, у тым ліку старэйшы брат Ірачкі шасцігадовы Арсенька.

Ірачка ўжо драмала, і маці адразу палажыла яе ў каляску. Закрыла яе як мае быць, засланіла ад сонца і сказала Арсеньку:

— Наглядай за Ірачкай, я іду ў хату. Чуеш?

Арсенька ў гэты час рабіў гараж для сваёй трохтонкі. Вядома, што пры такой важнай справе ён зусім не звярнуў увагі на новае адказнае даручэнне, але сказаў:

— Чую.

Маці пайшла ў хату. Арсенька дабудоўваў гараж. Ірачка спала. Усё было ў парадку, як і ўчора і пазаўчора. Арсенька быў спакойны, і маці не трывожылася.

Магчыма, і гэты дзень прайшоў бы спакойна, але на тую бяду нейкім чынам заблудзіў у гэты раён вялікі, тоўсты чмель. Як ён сюды трапіў — невядома. Па суседству былі дрэвы, агароды, лапухі і розная іншая зяляніна, а ён чамусьці ўпёрся ў сцяну вялікага трохпавярховага дома. Трэба думаць, што чмель гэты быў трохі дурнаваты; гэта відаць яшчэ і з таго, што ён гвалтам праціснуўся пад марлю ў каляску да Ірачкі і давай там гусці страшным, тоўстым голасам.

Ну вядома, ад такога тоўстага чмяля з такім тоўстым голасам прачнулася б і сама мама, а пра Ірачку і казаць няма чаго. Але ёй так не хацелася расплюшчваць вочы!

Аднак гэты гудач рабіўся ўсё больш і больш нахабным: ён гудзеў то ў адно вуха, то ў другое, нават загудзеў у нос.

Нічога не зробіш — прыйшлося расплюшчыць свае сінія вочы. Тут Ірачка і ўбачыла, што над ёю мітусіцца нешта чорнае, вялізнае, калматае. Пакуль яно мітусілася там недзе вы-

сока, Ірачка толькі з цікавасцю сачыла за ім. Але чмялю, мусіць, здалося, што пад ім з'явіліся дзве сінія кветкі, і ён захацеў апусціцца на іх.

Ірачка крыкнула, замахала рукамі, адсунула марлю і апынулася пад чыстым небам. А чмель знік.

Арсенька нічога не пачуў і не ўбачыў. Будаўніцтва было ў поўным разгары. Толя, засопшыся, будаваў сабе дом. Дзіма стараўся зрабіць крэпасць. Ліля будавала тэатр. А Валодзя капаў нейкае падземнае сховішча.

Ішоў міма нечы тата і спытаўся:

— Ну, будаўнікі, што вы тут пабудавалі? Вось, скажам, гэтая будыніна што азначае?

Гэта была Арсенькава будыніна.

— Гараж! — з гонарам адказаў Арсенька.

— Ой, які выдатны гараж! — сказаў дзядзька і ступіў нагой на прыступку ганка, а пакуль ступіў другой нагой, то і забыўся, што ён тут бачыў, пра што пытаўся і што яму адказалі. А між тым яго словы не прапалі дарэмна.

— І ў мяне таксама гараж! — крыкнуў Толя.

— І ў мяне будзе гараж! — далучыўся Дзіма.

— І ў мяне гараж!..

— І ў мяне...

У той жа міг і дом, і тэатр, і крэпасць, і падзямелле ў вачах будаўнікоў адразу ператварыліся ў гаражы. Нават дакрануцца да іх не прыйшлося. Вось што значыць шчыра захацець!..

Але нядоўга яны цешыліся сваімі дасягненнямі. Раптам над іх галовамі пацямнела неба, нешта вялізнае шаснула на іх, і на гаражы пляснулася... Ірачка!

Што тут пачалося — апісаць немагчыма. Ірачка, вядома, заплакала як магла, але больш ад страху, чым ад болю: гаражы дапамаглі ёй прызямліцца досыць мякка. Арсенька заплакаў ад таго, што гараж загінуў. Ліля заплакала таму, што каляска досыць балюча стукнула ёй па галаве. Толькі Дзіма з Валодзем смяяліся над перакуленай каляскай. Неспадзявана засмяялася і сама вінаўніца няшчасця.

Гэта паслужыла сігналам да агульнага супакаення. Каляс-

ку паставілі на колы, Ірачку паставілі на ногі і прыступілі да аднаўлення гаражоў. Арсенька, як адказны за сястру, хацеў быў уваліхнуць яе назад у каляску, але атрымаў такі адпор, што вымушаны быў пакінуць яе на волі.

Такім чынам Ірачка заваявала сабе свабоду, якой да гэтага часу не мела. Палову свайго жыцця яна правяла са звязанымі рукамі і нагамі. Калі ж яе вызвалілі ад путаў, то ўсё роўна не давалі магчымасці пасунуцца, куды яна хоча,— так увесь час і трымаліся за яе. Нават пасля таго, як яна стала на свае ўласныя ногі, і тады яна не мела свабоды: куды ні ступіць, што ні зробіць — усё нельга, усё не так.

На гэты раз сітуацыя для Ірачкі склалася вельмі ўдала. Адзіны чалавек, які меў на яе мандат, адступіў і заняўся сваёю справай. Больш не было каму крычаць на яе: «Нельга! Ідзі сюды!» Яна стала сапраўды вольнай, і ёй вельмі захацелася закрычаць. Яна напружылася, уцягнула ў сябе паветра, нават прысела і так крыкнула, што каб гэта зрабіў які трыццацігадовы дзядзька, гэта значыць, у трыццаць разоў мацней, то аглушыў бы ўвесь дом. Але, на шчасце, ніякі дзядзька так крыкнуць не мог бы: у яго не хапіла б для гэтага ні жыццёвай сілы, ні шчасця, ні жадання. А крык Ірачкі аглушыў толькі яе самую.

Куды ж цяпер накіраваць сваю энергію? Відаць, самае цікавае месца ўсё ж такі там, дзе Арсенька і іншыя дзеці. Яны ж нешта там робяць, капаюцца ў пяску. Чаму ж ёй не пакапацца?

Ірачка падышла і таксама запусціла руку ў пясок. А ён, як жывы, выслізгваецца паміж пальцаў. Цікава!.. Схапіла яшчэ раз, потым пусціла ў ход другую руку — пясок рассыпаецца, уцякае; яна стала больш яго хапаць, падкідаць — ён закружыўся ў паветры, дух захапіла ад радасці... Яшчэ, яшчэ!..

Але тут пасыпаліся з усіх бакоў пратэсты:

— Ай, вочы засыпала!.. Дом разбурыла!.. Ідзі адсюль!.. Не перашкаджай!.. Нельга!..

Тады і Арсенька ўспомніў, што ён нясе за Ірачку адказнасць, і прыняў суровыя меры: узяў яе ручкі, ачысціў ад пяс-

ку, потым ціхенька пляснуў па кожнай руцэ і, пераймаючы дарослых, сказаў:

— Нельга! Нельга!

Зноў гэтае вечнае «нельга». Самі гуляюць, а ёй — нельга. Дзе ж справядлівасць? Губы яе ўжо скрывіліся, каб заплакаць, але ў гэты момант Ліля прынесла коціка і захацела пасяліць яго ў сваім пясчаным палацы. Плач прыйшлося адкласці на потым. Хто ж гэта будзе плакаць, калі тут побач жывы коцік? Коцік нізавошта не захацеў лезці ў палац, і прыйшлося яго пакінуць у Лілі на каленях.

Нястрымная сіла пацягнула Ірачку да коціка. Працягнуўшы рукі і балбочучы «дай, дай», рушыла яна прама цераз усе пабудовы. Правай нагой знішчыла гараж, левай — разбурыла тэатр, потым спатыкнулася, павалілася і сваім целам зруйнавала ўсё, што яшчэ ўцалела.

Крыкі абурэння аглушылі Ірачку. Нехта штурхануў яе ў бок, другі пацягнуў за нагу, а тут яшчэ пяску ў рот набралася. На гэты раз прыйшлося заплакаць як мае быць. І тады ўсе працаўнікі адразу перасталі на яе крычаць, пачалі супакойваць, лагодзіць, прасіць, каб яна перастала плакаць. Ліля падняла яе, ачысціла твар, адвяла ўбок, падала ў рукі коціка. Перамога была поўная, і Ірачка перастала плакаць.

Але новая бяда — здабыча не па сілах. Гэта толькі так гаворыцца — коцік, а сапраўды гэта быў добры кот. Для Ірачкі ён быў такім жа цяжарам, як для нас з вамі, скажам, сярэдніх памераў тыгр. Паспрабуйце патрымаць яго!

Калі яна ўхапіла яго пад пахі, то заднія ногі валакліся па зямлі. А калі яна яшчэ пераступіла нагой, то наступіла кату на хвост. Вядома, кот не захацеў цярпець такіх здзекаў і вырваўся на волю.

Як пры кожнай непрыемнасці, Ірачка зараз жа нарыхтавалася плакаць, але плакаць чамусьці не хацелася. Наадварот, лягчэй і лепей зрабілася, калі такі груз зваліўся з рук.

Тады яна задумалася. Вось сонца свеціць — і добра, што свеціць. Дрэвы стаяць вялікія-вялікія — і добра, што стаяць. Нейкае стракатае адзенне вісіць на вяроўцы — вельмі добра, што яно тут вісіць. Верабей апусціўся ля самых ног і давай

скакаць — гэта ўжо зусім добра. Ён куды меншы за ката, трэба было б яго злавіць. Яна памкнулася за ім, а той на яе ніякай увагі не звяртае: скача сабе побач, нібы тут ніякага чалавека няма. Нахілілася Ірачка, каб узяць яго ў рукі, а ён — скок, скок! — і пасунуўся далей. Яна за ім, зноў нацэлілася, а ён зноў далей скача. Здзекуецца ды і годзе! На тую бяду яшчэ і нага трапіла ў ямку. Ірачка захісталася, замахала рукамі і, каб не паваліцца носам, пастаралася хуценька сесці.

Аднак гэта была ўсё ж такі вымушаная пасадка, значыцца, трэба выказаць сваё нездавальненне плачам. Але спачатку трэба паглядзець, ці ёсць для каго плакаць. Мамы няма, Арсенька сядзіць далёка і не глядзіць на яе, ды і наогул ніводнага чалавека навакол няма — каму ж тады плакаць? Не, няма ніякага сэнсу пачынаць, бо ніхто не падыдзе, не пашкадуе, не памілуе, толькі дарма слёзы будзеш ліць.

Лепш не траціць часу і ісці далей. Устала, ступіла пару крокаў, глядзіць — у траве нешта бялеецца. Так выразна бялеецца, што прайсці міма ні ў якім разе нельга. Нахілілася, падняла — цудоўная рэч: кавалак шкарлупіны ад яйка! Толькі надта крохкі, адразу пераламаўся напалам. А які ён на смак? Таксама нічога добрага ды яшчэ колецца ў роце. Прыйшлося выплюнуць.

Што ж цяпер рабіць? Перад Ірачкай увесь вольны свет, ідзі куды хочаш, ніхто не перашкаджае. Не часта здараюцца такія выпадкі ў жыцці аднагадовага чалавека, трэба спяшацца, трэба абысці і агледзець гэты свет.

Дзеці, пясок і іншыя непрыемнасці засталіся ззаду. Перад ёю вялікі, шырокі шлях, які вядзе кудысьці на край свету. З левага боку — дрэвы, з правага — усё засланяе тая самая сцяна. Там далёка відаць яшчэ другі ганак, і каля яго нехта капошыцца. Хто там капошыцца і што ён там робіць? Ірачка парашыла высветліць гэтае пытанне на месцы.

Толькі выправілася яна ў той бок, як на гарызонце паказаўся белы матыль. Ляцеў ён насустрач вельмі нязграбна, нібы крылы ў яго былі чужыя, прывязаныя. Гэтак віхляючы, ён праляцеў ля самага вуха, а Ірачка следам за ім паварочвала галаву ўсё больш і больш назад і, нарэшце, так закруцілася,

што не магла ўжо ўтрымацца на нагах і ледзь не павалілася на спіну. Але ў самы апошні момант ёй удалося ўсё ж сесці. Яна зразумела, што тут ніхто не вінаваты, і не заплакала, а, павярнуўшыся набок, стала падымацца галавой уніз. І тут убачыла, што па зямлі нешта нейкае паўзе. Чаму паўзе? Куды паўзе? Як паўзе? І, нарэшце, хто такі паўзе?

Вядома, такіх дакладных пытанняў у яе галаве не было, але ўсёй сваёй істотай дзяўчынка імкнулася разгадаць гэтую загадку. Яна працягнула была руку, але дакрануцца пабаялася. А калі тое папаўзло прама на яе, то Ірачка задам-задам пачала адсоўвацца і, нарэшце, закрычала.

На шчасце, ішла міма нейкая цётка і ласкава сказала:

— Чаго плачаш, Ірачка? Нá табе пячэнне.

Узяла Ірачка пячэнне, пакруціла ў руках — і ў рот. А што тое паўзло на яе, яна ўжо і забылася, хоць яно падпаўзло ўжо пад яе нагу.

Раптам збоку пачуўся страшэнны крык:

— Ку-ка-рэ-ку!

Уздрыганулася Ірачка і замерла, выставіўшы наперад руку з пячэннем. Ля яе стаяла дзіўнае стварэнне на дзвюх тонкіх нагах, з вялізным пышным хвастом і з маленькай, але строгай галавой. Ірачка прыпомніла, што недзе некалі яна яго бачыла, таму не вельмі спалохалася.

Стварэнне стаяла, схіліўшы набок галаву, і адным вокам хітра пазірала на Ірачку. А потым паціхеньку стала набліжацца да яе. У Ірачкі сціснулася сэрца. Гэтае страшыдла было вышэй за яе і глядзела на яе зверху ўніз. А потым як дзюбане пячэнне! Яно пакацілася на зямлю, а страшыдла пачало крычаць:

— Ко-ко-ко!..

На гэты крык аднекуль прыбегла яшчэ некалькі такіх стварэнняў, толькі крыху меншых. Ірачка закрычала зусім шчыра, але надоўга расплакацца не паспела: яе захапіла гульня, якую распачалі «цыпы». Адна схапіла пячэнне і пабегла, іншыя пусціліся яе даганяць. Потым другая схапіла і стала ўцякаць. Так яны ўсе гуртам пабеглі далёка-далёка і зніклі за домам.

Зноў стала ціха і спакойна. Але свет зрабіўся нейкім не такім цікавым. Не хацелася падымацца з зямлі, не хацелася нікуды ісці. Чамусьці ўспомнілася ранейшае жыццё: як калісьці каля самага носа кружылася і гуло нешта вялікае і чорнае, як Ірачка ляцела аднекуль уніз, а навакол шумелі дзеці, як яна сядзела ў мамы на руках і ёй было добра-добра... Мама! Дзе ж мама? Ірачка так даўно яе не бачыла. А як хочацца да мамы! Так хочацца, што ўсярэдзіне пячэ. І плакаць вельмі хочацца...

Ірачка трывожна пачала азірацца навакол: ці не відаць дзе мамы? Няма яе! І наогул на свеце нічога цікавага няма. Гора navалілася на Ірачку, слёзы самі пакаціліся з вачэй, і яна жаласна, працягла закрычала:

— Ма-а-ма-а!..

Раптам, нібы у адказ, наперадзе пачуўся зычны крык:

— Ур-ра-а!

Глянула яна, ■ там далёка, ля другога ганка, дзе раней варушыўся адзін чалавечак, цяпер скачуць, крычаць і махаюць рукамі двое. Самае галоўнае — вельмі пацешна скачуць. А хто ж будзе здалёк спакойна глядзець, як скачуць?

Ірачка паспешна павярнулася на бок, упёрлася рукамі ў зямлю, паказала свету свае запэцканыя штонікі і стала на ногі. Дарога была вялікая. Трэба было перабірацца цераз вялікія равы і ўзгоркі, якія перасякалі двор наўскасяк, потым прайсці поле, выйсці на сцежку і па беразе рачулкі дайсці да тых, што скакалі.

А скакалі яны нездарма: яны перагарадзілі плацінай раку, прыладзілі бутэльку з адбітым дном і пусцілі ваду праз рыльца. Вынік быў такі эфектны, што мог бы ўскружыць галаву не толькі нашым будаўнікам, а і кожнаму добраму чалавеку.

Але Ірачка была не такая лёгкадумная, як яны. Яна не заскакала, нават доўга не глядзела, а адразу ж захацела дазнацца, у чым тут справа. Яна ступіла ў ваду і нацэлілася ўхапіць бутэльку за рыльца. Тады зноў пачалася старая, прыкрая гісторыя: пачуліся крыкі — «Нельга! Нельга!» — хлопчыкі ўхапілі яе за плечы і пачалі адцягваць ад пабудовы. І каторы

раз усё тое самае «нельга»! Гэта, нарэшце, можа вывесці з цярплівасці самага спакойнага чалавека!

На гэты раз Ірачка забунтавала, заўпарцілася, а калі ўбачыла, што ёй не хапае сілы справіцца з двума мужчынамі, узяла ды і села ў ваду. Тады хлапчукі адчапіліся ад яе і пачалі вельмі смяяцца. Ірачка зразумела, што яна зрабіла нешта вясёлае, цікавае, і таксама засмяялася, гледзячы ім у вочы. А каб яшчэ больш дагадзіць такім вясёлым хлапцам, пачала рукамі пляскаць па вадзе.

Аднак хлапчукі схамянуліся, што выходзіць нешта нядобрае, і кінуліся выцягваць яе з вады. Тады Ірачка пусціла ў ход моцную сваю зброю — шчыры плач. Аднак і гэта не дапамагло: яе ўсё ж такі выцягнулі і адвялі далей. Нагаварыўшы ёй розных лішніх слоў, хлопчыкі вярнуліся да сваёй пабудовы.

А Ірачка засталася стаяць, мокрая, збянтэжаная, пакрыўджаная. Зноў свет зрабіўся нямілым. Зноў захацелася бачыць маму. Але гэтае шчасце было такім далёкім, недасяжным: яна цяпер адна-адна ва ўсім свеце...

Сонца моцна грэла яе мокрае адзенне, ёй зрабілася цёпла, прыемна. І плакаць ужо не хацелася. Але яна без слёз цягнула сваё «а-а», каб паказаць усім, што яна пакрыўджаная. Разам з тым яна зацікавілася новым краявідам, які адкрыўся перад ёю. Яна цяпер стаяла ўжо каля другой сцяны дома. Наперадзе былі шырокія вароты, далей горы — і больш нічога.

Дарослыя лічылі гэтыя горы рэшткамі разбураных будынкаў, а за імі бачылі нават панараму горада, але Ірачка нічога гэтага не бачыла.

Калі двор для Ірачкі быў больш-менш знаёмы, то гэтая частка свету была для яе новай. У Ірачкі зноў абудзіліся цікавасць, энергія і жаданне даследаваць невядомы край. Яна пакінула плакаць, ступіла крок, але тут успомніла, што яна пакрыўджаная, і ціхім, абыякавым голасам завяла — «а-а-а». Аднак нічога з гэтага не выйшла, і яна зусім супакоілася.

І вось яна адна на вуліцы, вольная, як птушка. За ёй зноў такая самая сцяна, як на двары, перад сцяной дротавы плот, а паміж плотам і домам — зараснік. Там цёмна, страшнавата. А вуліца была хоць і вузенькая, з глыбокімі каляінамі, але

ішла так далёка ў абодва канцы, што ў Ірачкі дух захапіла. І ціха было тут, бо мала хто хадзіў і ездзіў па гэтым былым завулку.

Ірачка рушыла ў дарогу па каляіне, нібы па якім яры. Па зямлі цягнуліся доўгія прыгожыя палосы з рысачкамі, ямачкамі, пагорачкамі, як фіранкі на акне. Ёй захацелася пакратаць гэтыя пагорачкі, і яны раскрышыліся пад рукамі. У другім месцы яна знайшла саломінку. Гладкая, круглая, а ў сярэдзіне дзірачка. Але як толькі яна пачала калупаць зямлю гэтай саломінкай, тая і паламалася. Крыўдна, што на свеце бываюць такія непрыемнасці. Але, на шчасце, на змену трапіўся добры каменьчык, а потым нават цэлы жалезны крук.

Матэрыялу для даследчай працы было столькі, што Ірачка не мела часу наглядаць мясцовасць і прыроду. Не звяртала яна ўвагі на людзей, што зрэдку праходзілі па дарозе. Раптам ззаду пачуўся грукат, а потым гудкі. Ірачка азірнулася і ўбачыла машыну. Ну, такой штукай яе не здзівіш! Колькі разоў на двары былі машыны, колькі разоў яна сама круцілася побач, сваімі ўласнымі рукамі дакраналася да машыны, нават была ў сярэдзіне, а Арсенька нешта такое рабіў, што машына гукала. І гэтая машына гукае, нібы хоча пацешыць Ірачку. Нават спынілася дзеля гэтага. Ну што ж, вельмі добра, можна і паслухаць. А тут яшчэ пачуўся гудок ззаду — другая машына стаіць і гудзе! Пацеха дый годзе! Не ведала Ірачка, што тут так цікава.

Раптам з машыны высунуўся адзін дзядзька і стаў махаць ёй рукою. Ірачцы гэта спадабалася, і яна засмяялася яму. Відаць, дзядзьку гэта спадабалася, бо ён вылез і падышоў да яе. Цяпер Ірачка ўбачыла, што дзядзька не такі ўжо добры і вясёлы. Ён сурова нешта сказаў ёй, а потым узяў пад пахі і панёс. Жах ахапіў Ірачку: куды ён нясе яе? Што з ёю будзе? Але не паспела яна крыкнуць «мама!», як апынулася за сеткай, каля дома. А машыны раз'ехаліся.

Усё гэта здарылася так хутка, так нечакана, што Ірачка разгубілася і не ведала, што ёй далей рабіць. Плакаць — нібы позна ўжо, ісці назад на вуліцу — не хочацца. Трэба тады дасле-

даваць пушчу, што была паміж домам і плотам. Тут ляжалі чорныя дошкі ад ранейшага тратуара, а па баках стаяў зараснік. Дарога па гэтых дошках была самай цікавай з усяго сённяшняга падарожжа. Высокія сцяблы ўздымаліся вышэй галавы, паміж імі — таямнічыя, цёмныя куткі, а то часам адкрыецца светлая палянка. Вакол лятаюць вялізныя матылі, гудуць мухі, жукі. А вунь у гушчары мільгануў звер, падобны да таго коціка. У другім месцы пачуўся шолах і галасы. Ірачка прыпынілася, угледзелася. А там капошацца тыя «цыпы», што адабралі пячэнне. Сэрца б'ецца мацней ад хвалявання. Раптам як скокне перад ёю нейкі камяк. Спачатку ёй здалося, што гэта той самы верабей, а калі прыгледзелася, то ўбачыла, што гэта нешта зусім іншае: брыдкае, з вялікай галавой і пукатымі вачыма, і ў яго ёсць рукі і ногі з пальцамі. Ірачка скамянела. А тым часам камяк зноў скокнуў і знік у гушчары.

На гэты раз усё скончылася шчасліва. Але хто яго ведае, што можа яшчэ здарыцца ў гэткай краіне? Трэба хутчэй выбірацца адсюль. Ірачка паскорыла крокі і праз некаторы час выйшла на адкрытае месца. Тут сцяна зноў заварочвала ўбок. Супраць яе стаялі зусім ужо велізарныя дрэвы, якія ўздымаліся да самага неба. А між дрэў рассцілаліся шырокія зялёныя прасторы. За тым вуглом чуліся дзіцячыя галасы. Часам адтуль выбягалі дзеці і зноў хаваліся. Выбягаў і Арсенька. Ірачка ўзрадавалася, крыкнула, але ніхто яе не пачуў і не заўважыў.

І тады Ірачцы зрабілася сумна-сумна. Больш ужо нішто не цікавіла яе. Хацелася толькі аднаго: быць там і ўбачыць маму, якую яна немаведама калі бачыла.

Але дарога была вялікая. Самае ж галоўнае — спачатку трэба перабрацца цераз шырокі і глыбокі роў, у які нават глянуць страшна. І ніхто да яе не прыходзіў — ні мама, ні Арсенька.

Ну, Арсенька яшчэ сяк-так, але ж чаму мамы няма? Ірачка так хоча, каб тут была мама, а яе чамусьці няма. Хіба так можна жыць на свеце? І такая крыўда ўзяла Ірачку, што яна заплакала ўжо для самой сябе — ціхенька, горка, з вялікім болем у маленькім сэрцы.

Але, як вядома, плачам гору не дапаможаш. Калі стала лягчэй на сэрцы, яна пачала меркаваць, як перабрацца цераз гэты роў. Апусцілася на зямлю і, чапляючыся за траву, спусцілася на дно. А як стала там на ногі, то галава яе была роўна з берагам ямы. Да таго ж на дне было вільготна. Цяпер ужо зусім непрыемна зрабілася, і тады яна заплакала для людзей — моцна, настойліва. Крычала доўга, аж галава разбалелася, пакуль не ўбачыла над сабой Арсеньку і Лілю...

Канец дарогі ёй не прыйшлося ісці: Ліля з Арсенькам панеслі яе і зноў паложылі ў каляску. На гэты раз Ірачка не супраціўлялася. Нічога ёй не хацелася, толькі спаць, спаць... І заснула так, што цяпер і дзесяць чмялёў не разбудзілі б яе.

Калі выйшла маці ды паглядзела на яе, то задаволена сказала:

— Во як спіць! Цэлая гадзіна прайшла, а яна, відаць, і не паварушылася. Няхай спіць на здароўе!

Не ведала яна, што не гадзіна прайшла для Ірачкі, а цэлы год...

*1947 г.*

## ВАСЬКА ЖУКАЎ

Васька Жукаў, чатырнаццацігадовы хлопчык, аддадзены тры месяцы назад у рамеснае абутковае вучылішча, вярнуўшыся з работы, сеў у куток і пачаў пісаць:

«Мілы дзядуля Іван Сцяпанавіч! — пісаў ён.— Я пішу табе пісьмо. Вітаю цябе з надыходзячым святам Кастрычніка і жадаю табе ўсяго добрага. Няма ў мяне ні таткі, ні мамкі, толькі ты ў мяне адзін застаўся».

Васька зірнуў у акно, дзе калыхалася дрэва з рэшткамі пажоўклых лісцяў, і ўявіў, як жывога, свайго дзеда Івана Сцяпанавіча. Высокі, з шырокімі плячыма і вялікай белай барадой, ён, здаецца, ніколі не злаваў, не крычаў, а толькі жартаваў. Ён быў калгасным вартаўніком, і ўсе ставіліся да яго з павагай, як да гаспадара. Удзень ён спаў ці поркаўся каля сваёй хаты, а ноччу хадзіў па «сваіх уладаннях» ад «элеватара», як ён называў свіран са збожжам, да «універмага» — сельскай крамы. Калі пачуе якую трывогу ў кароўніку, дык пабудзіць цётку Палагу. Часам зойдзе на агеньчык у праўленне, дзе зацягнулася на ноч пасяджэнне, і прыме ўдзел у абмеркаванні калгасных спраў.

Васька ўздыхнуў, памачыў пяро і стаў пісаць далей:

«А ўчора ў нас была самадзейнасць. Я на сцэне танцаваў крыжачок. Але я хачу перайсці ў аркестр. Нашы хлопцы вельмі добра граюць на розных інструментах. Мне хочацца навучыцца іграць на баяне. А ёсць такія, што добра малююць, і ім даюць паперу і фарбы. І яшчэ хочацца мне ўдзельнічаць у тэатральным гуртку. Учора ў нас ставілі п'есу. Мілы дзядуля, прыязджай. Я не ведаю, што мне рабіць — хочацца і туды, і туды.

Сплю я ў спальні, і ў мяне ёсць асобны чысты ложак. Даюць мне і чай, і катлеты, і манную кашу. Хаджу я ў сіняй форме, штаны навыпуск, а на спражцы літары — «РУ». Адзін

дзень мы вучымся ў класах, а другі — у майстэрні. На другі год мы будзем працаваць на фабрыцы. А наш майстар мяне хваліць, кажа, што добра працую. Раней, у школе, у мяне не было вялікай ахвоты вучыцца, а цяпер у класе атрымліваю толькі чацвёркі і пяцёркі».

Васька спыніўся, задумаўся, а потым зноў стаў пісаць:

«А Мінск — горад вялікі, ды толькі зруйнаваны. Гэта фашысты яго так знішчылі. Але ўсюды ідзе будоўля. Дамы будуюцца вялікія, прыгожыя. Я часта бачу на будоўлях такіх самых хлапцоў, як я. Яны і цэглу кладуць, і атынкоўку робяць, і майструюць, як дарослыя. Ад іхняй работы ёсць вялікі знак. Але і мая праца мне таксама падабаецца, асабліва на машынах. А хлопцы з мяне смяюцца, што я хачу вывучыць усе навукі і ўсе майстэрствы. А чым жа я вінаваты, што ўсё мне цікава?»

Васька пакрывіў рот і пацёр кулаком вочы.

«Прыязджай, мілы дзядуля, паглядзі сам і скажы, што мне рабіць. А яшчэ фізкультурнікам вельмі весела: яны выступаюць на спаборніцтвах і парадах. А каб ты ведаў, якая цікавая гульня — шахматы! Адзін з нашых хлапцоў, Сёма Шугай, абыграў студэнта універсітэта, і яго ўсе хвалілі. Заўсёды ў нас весела і цікава, але часу не хапае на ўсё... Прыязджай паглядзець на наша жыццё і скажы, што мне рабіць. Застаюся твой унук Васіль Жукаў».

Васька палажыў ліст у канверт і напісаў адрас: «БССР. Бабруйская вобласць, Асіповіцкі раён, калгас «Перамога», Івану Сцяпанавічу Жукаву».

Ноччу яму снілася, як дзед у акулярах сядзіць за сталом, чытае яго пісьмо і весела смяецца. Каля яго сядзіць сабачка Уюн і круціць хвастом.

Праз некаторы час Васька атрымаў ліст. Старэчай дзедавай рукой было накрэмзана:

«Дарагі ўнучак Васілёк! Твой ліст я атрымаў і прачытаў з вялікай ахвотай. І смешна, і радасна мне зрабілася, як ты там пакутуеш. Трымайся, браток, цярпі, пакуль я прыеду. А прыеду я да цябе на Новы год, як той дзед-мароз. А што табе рабіць, я і цяпер магу сказаць — трымайся свайго рамя-

ства. З ім ты можаш ісці куды хочаш, і ўсюды табе будзе месца і павага. З ім ты можаш скакаць і спяваць колькі ўлезе. З ім ты можаш вучыцца і далей, хоць на прафесара. А што ты цяпер лепей вучышся, як у школе, то я разумею так: чалавеку патрэбна перамена — і рукамі папрацаваць, і галавой. А хто думае працаваць толькі адной галавой, то з яго выйдзе, як з таго Петрыка Сухаверхага: рамяству вучыцца не захацеў, а на вучонага здольнасцей не хапіла; круціўся-круціўся, а цяпер квіткі піша і думае, што ён вялікі пан.

Чытаючы твой ліст, я ўспомніў, як калісьці сам пісаў свайму дзеду Канстанціну Макарычу. Пазней я даведаўся, што мой ліст перахапіў адзін пісьменнік, Чэхаў называецца, і надрукаваў у газеце. Шкада, што ён памёр, а то я паказаў бы яму і твой ліст: глядзі, як піша мой унучак, калі хочаш, можаш таксама надрукаваць. Твой дзед Іван Сцяпанавіч Жукаў».

*1947 г.*

## НА КРЫЗЕ

У канцы вёскі быў мост цераз раку Свіслач. Ля гэтага моста калісьці стаяў вадзяны млын. Але цяпер ад яго пазасталіся толькі абгарэлыя слупы. Вада бурна імчала пад мостам, а далей направа і налева адыходзілі маленькія струменьчыкі і ціхенька закручваліся ў завадзі.

Тут заўсёды на паверхні вады збіралася многа ўсялякага ламачча, травы, саломы. Аднаго разу Мікітка знайшоў нават драўляную качку. Качка, відаць, прыплыла з далёкага горада, дзе яе згубіла якое-небудзь малое дзіця.

Але карысныя рэчы траплялiся вельмі рэдка; больш плыло смецце, якое толькі псавала прыгожую, ціхую завадзь. Улетку дзеці вельмі любілі кіямі выштурхваць гэтае смецце з завадзі на раку. Да чаго ж весела было наглядаць, як струмень падхопіць выштурхнутую ламачыну, пачне круціць і панясе далёка-далёка...

Мікітка часцей за другіх праводзіў час ля моста. Нават цяпер, увесну, у самы ледаход, ён цэлыя дні бавіўся тут.

— Што ты сабе думаеш? — казала яму маці.— Ты ж з гэтымі крыгамі ў ваду трапіш.

— Не, не траплю! — упэўнена адказваў Мікітка.

Пакуль лёд ішоў густа, пакуль крыгі лезлі адна на адну, трашчалі і крышыліся, Мікітка не мог прыняць у гэтай справе ніякага ўдзелу. Ён мог толькі з цікавасцю наглядаць страшны рух. Але хутка лёд парадзеў, крыгі паплылі па воднай прасторы вольна, лёгка і часамі пачалі затрымлівацца ў ціхай завадзі. Хіба можна тут утрымацца і не выштурхнуць вялізную крыгу на струмень? З ёю мець справу куды цікавей, чым з нейкім там смеццем.

Мікітка, стоячы на беразе, вельмі старанна рэгуляваў рух крыгаў. Як толькі спыніцца якая ў завадзі, ён зараз жа і выганіць яе адсюль кіем.

Але вось з-пад моста выйшла вялікая, тоўстая крыга, прайшла каля самай завадзі і прыпынілася. Падумала, падумала трохі — ды і пачала ціхенька заварочвацца ў завадзь, да берага, і нарэшце так ёмка ўсталёўвалася, што можна было падумаць, нібы яна ўсю зіму тут жыла.

Крыга закрыла сабой усю завадзь. Адштурхнуць яе Мікітка не меў сілы. Ды і не адштурхваць, а ўзабрацца на яе захацелася Мікітку. Асцярожненька ступіў ён на крыгу адной нагой, другой — тая нават не зварухнулася. Значыць, можна было на ёй адчуваць сябе спакойна.

І Мікітка адчуў сябе на ёй так спакойна, як на беразе. І гэтак жа, як з берага, стаў рэгуляваць рух іншых крыгаў. Цяпер ужо ён мог зачапіць крыгу, якая ішла міма, прыцягнуць яе, сутыкнуць з другой і пацяшацца, як яны стукаюцца лбамі.

А калі ён падцягваў да сябе крыгу, то гэтым самым адцягваў ад берага і тую, на якой сам стаяў. Патроху яна пачала адсоўвацца ад берага... Але Мікітка так захапіўся сваёй гульнёй, што зусім гэтага не заўважыў.

А калі заўважыў, то яго крыга ўжо больш як на метр ад'ехала ад берага. Закрычаў Мікітка, пачаў кідацца туды, сюды, але дарэмна: крыгу падхапіла плынь і панесла.

Пачуць Мікітку з вёскі ніхто не мог, бо хаты былі не так блізка і несла яго зусім у другі бок. Заставалася адна надзея, што ўбачыць і пачуе яго хто-небудзь у полі. Але хто ў такое разводдзе будзе хадзіць па полі, воддаль ад дарогі і хат?

Спачатку Мікітка доўга крычаў і плакаў, а потым убачыў, што плач яго ніяк дапамагчы не можа, і сцішыўся. Тым больш, што страху пакуль што ніякага не было. Крыга была вялікая, тоўстая і зусім лёгка трымала на сабе малога Мікітку. Вазіла яна свайго пасажыра не толькі па рацэ, але і па сенажаці, па балоце, па алешніку. Вось тут ён улетку за матылямі ганяўся, там сярод кустоў знайшоў птушынае гняздо, а цяпер ён едзе над усімі гэтымі мясцінамі, як Папанін, на крызе.

Але нядоўгае было такое шчасце. Крыга зачапілася за алешыну і прыпынілася. У гэтую мінуту ззаду наехала на яе другая крыга і штурханула так, што Мікітка паляцеў дагары

нагамі. А калі ён устаў, то ўбачыў, што ад яго крыгі засталася толькі палавіна. Гэтая палавіна паплыла далей, але ўжо не так спакойна, як раней. Ад кожнага руху хлопчыка яна гайдалася і гатова была перакуліцца. Мікітка ўжо баяўся стаяць; ён сеў на лёд і дрыжаў ад страху. Зноў пацяклі ў яго слёзы, зноў пачаў ён крычаць — і зноў ніякага адказу.

Вёска засталася далёка ззаду. З правага берага ішлі шырокія палі з белымі плямамі снегу, з левага — залітыя вадою паплавы, за якімі пачынаўся лес. Наўрад ці мог тут дзе быць чалавек.

Аднак адзін чалавек знайшоўся, ды толькі... у небе! За дзесятак кіламетраў ад вёскі быў аэрадром, і жыхары прывыклі, што над імі бадай кожны дзень кружацца вучэбныя самалёты. На іх нават перасталі звяртаць увагу. Але на гэты раз Мікітка падняў угару і вочы, і рукі і нават закрычаў:

— Дзядзечка, дапамажы!

Вядома, хлопчык разумеў, што лётчык не толькі пачуць яго не можа, але наўрад ці і ўбачыць. Але ў такую мінуту было не да разважанняў.

Лётчык праляцеў міма досыць нізка. Праз мінуту ён вярнуўся і праляцеў яшчэ ніжэй. Потым паляцеў у вёску ды як загудзе над самымі хатамі — ледзь стрэхі не пазрываў. Людзі павыскаквалі з хат, глядзяць, дзівяцца. А самалёт паляцеў назад і праляцеў над Мікіткавай галавой. Сотні вачэй накіраваліся ў гэты бок, але з вёскі ніхто не мог убачыць хлопчыка на крызе.

Самалёт зноў завярнуўся да вёскі, зноў праляцеў над хатамі, і тады людзі ўбачылі, што лётчык высунуў руку і махнуў ёю.

— Глядзіце, глядзіце, нешта кінуў! — пачуліся крыкі.— Бяжыце, лавіце!

На зямлю ляцела нешта маленькае, чорнае. Дзеці мігам злавілі яго. Гэта была рукавіца, а ў ёй запіска:

*«Хлопчык на крызе».*

Самалёт тым часам зноў пачаў кружыцца над тым месцам, дзе плыў Мікітка, а потым паляцеў далей.

Пакуль самалёт лятаў вакол яго, хлопчык меў надзею, што лётчык яго ўбачыў і хоча дапамагчы. А калі самалёт паляцеў, то Мікітку зноў ахапіў жах. За гэты час ад яго крыгі адламаўся яшчэ адзін кавалак, і цяпер яна так хісталася ад кожнага руху хлопчыка, што магла перакуліцца кожную мінуту. Мікітка лёг на крыгу і прыціснуўся да яе, дранцвеючы ад холаду. Увесь свет яму здаўся цёмным, пустым. Шкада яму стала сябе самога, і ён затросся ад плачу.

Вось наперадзе плыве вялізная крыга. Яна чапляецца за кусты, затрымліваецца, нязграбна паварочваецца, зноў плыве, зноў чапляецца. Малая Мікіткава крыга плыве хутчэй, яна павінна дагнаць вялікую. Калі стукнецца, што тады будзе?..

«А што, каб пераскочыць на яе?» — мільганула ў галаве думка.

Мікітка перастаў плакаць, пачаў прыглядацца, меркаваць: можна пераскочыць... не дапусціць, каб яны стукнуліся, а то гэтая раскрышыцца ці перакуліцца... Трэба падрыхтавацца, падпільнаваць і скокнуць...

Страх прайшоў. Не адчувалася і холаду. Усе думкі Мікіткі накіраваліся на другое. Ён прыўзняўся, рыхтуючыся скокнуць,— крыга пагражальна закалыхалася. Нічога, трэба толькі спакайней трымацца.

Да вялікай крыгі засталося паўметра, меней, меней... Р-раз! — і Мікітка, адштурхнуўшы нагамі сваю крыгу, бразнуўся на вялікую. Тая толькі трошкі нахілілася.

Мікітка аж засмяяўся ад радасці: здорава ён скокнуў! На гэтай крызе можна і да берага даехаць. А калі яна паламаецца, то па дарозе можна натрапіць на другую такую самую. Або трапіцца дрэва якое ці астравок. Нарэшце, тут і неглыбока — паплавы, пешшу можна дайсці. Ды і наогул нічога страшнага няма. Чаго ён, дурны, баяўся і плакаў?

...Калі пад'ехалі людзі, то са здзіўленнем убачылі, што Мікітка адчувае сябе як дома — спакойны, вясёлы, нібы з ім нічога асаблівага не здарылася.

Ні яны, ні сам Мікітка не ведалі, што такім ён стаў тады, калі забыўся на страх ды пачаў разважаць і дзейнічаць.

*1941 г.*

# СЯМ'Я

Гэта было ў цёмны восеньскі вечар тысяча дзевяцьсот васемнаццатага года.

Я стаяў на левым беразе Дняпра і прыглядаўся да другога берага. Там быў наш горад М., у якім цяпер гаспадарылі немцы. А мне трэба было пераправіцца туды.

Бераг і горад хаваліся ў густым тумане, але светлыя плямiны ад нешматлікіх агнёў можна было разабраць. Бераг там быў высокі, і праз туман здавалася, што агні свецяцца на небе.

Таварыш, які павінен быў мяне перавезці, падрыхтаваў човен і загадаў:

— Сядай!

Ён паклаў на дно чоўна вінтоўку, а ў мяне быў схаваны рэвальвер. Каб было цішэй, ён кіраваў адным вяслом стоячы. Такім чынам мы рушылі нелегальна праз «граніцу» — з аднаго свайго берага на другі свой бераг [1].

Човен плыў так ціха, што і за некалькі крокаў ніхто не пачуў бы. Праз некалькі хвілін мы апынуліся ў такім месцы, адкуль ніякай зямлі не было відаць, нібы ў моры. А потым пачаў чарнецца другі бераг. Мы кіравалі на правую ўскраіну горада. Яшчэ некалькі хвілін — і мы разгледзелі дрэвы, хаты і цьмяныя агеньчыкі ў вокнах.

Надыходзіў самы крытычны момант, больш небяспечны, чым сама высадка. Бо на беразе можна зараз жа схавацца, а лодку на рацэ відаць здалёк і з розных бакоў. Можа, цяпер хто-небудзь сочыць за намі, а мы схавацца не здолеем. Плывём, стаіўшы дыханне, напружана прыглядаемся і прыслухоўваемся. Невялікіх прадметаў на беразе мы разгледзець не можам, значыцца, і наш човен адтуль убачыць цяжка. Вялікая падзяка туману!

---

[1] Ваенных дзеянняў у той перыяд не было.

Нарэшце нос чоўна дакрануўся да берага. Я адразу ж выскачыў і кінуўся да парослага кустамі абрыву, над якім быў сад ці агарод. Праз хвіліну ззаду пачуліся стрэлы, крыкі. У каго страляюць — у мяне ці ў майго таварыша? Я азірнуўся: човен быў за дзесятак метраў ад берага, а з абодвух бакоў па беразе беглі два чалавекі, адзін бліжэй, другі значна далей.

Я не стаў разбірацца, каго з нас яны ўбачылі, заўважыў размыты вадой раўчук, выбраўся па ім наверх, пераскочыў цераз плот у нейкі сад, але тут пачуўся брэх сабакі... Гэты брэх здаўся мне страшнейшым за тыя стрэлы і крыкі, якія чуліся яшчэ на беразе. Сабака брахаў каля дома, што стаяў у глыбіні саду, але да мяне не набліжаўся: відаць, ён быў прывязаны. Я пабег далей уздоўж плота, перабраўся на суседні двор, а адтуль шчасліва выбраўся на вуліцу. Тады я спакойна і ўпэўнена пайшоў па вуліцы, нібы сталы тутэйшы жыхар.

У гэтым раёне знаходзіўся той дом, куды я павінен быў зайсці. Цяпер задача была — зайсці так, каб ніхто не заўважыў. Як вядома, лягчэй за ўсё застацца незаўважаным тады, калі вакол цябе народу многа. А тут на вуліцах людзей зусім было мала. Гэта азначала, што рэдкія прахожыя мімаволі звярталі ўвагу адзін на аднаго. Пры людзях, напрыклад, я не звярнуў бы ніякай увагі вунь на таго чалавека, што ідзе па другім баку вуліцы туды, куды і я. А цяпер бачу, што ён высокага росту, сутулы, у рудым паліто з паднятым каўняром, у кепцы. І ён таксама, пачуўшы мае крокі, паглядзеў у мой бок і, пэўна, таксама заўважыў, які выгляд я маю, тым больш, што туман тут, на вышыні, быў значна радзейшы, чым ля ракі. Калі гэтага чалавека там далей які-небудзь патруль спытае, ці не бачыў ён каго, то ён ужо зможа сказаць, які я і куды ішоў.

Я на яго вачах павярнуў налева, прыпыніўся, а калі чалавек прайшоў далей, зноў выйшаў на тую самую вуліцу. Так мне прыйшлося зрабіць разы са тры, пакуль я трапіў на патрэбную вуліцу. Але ў канцы яе, на скрыжаванні, я заўважыў постаці трох коннікаў. Яны чамусьці тупалі на месцы. А калі так, значыцца, яны штосьці выглядаюць... Затым адзін застаўся на месцы, другі паехаў налева, а трэці накіраваўся ў мой

бок. Ён ехаў ціха, значыцца, мяне не заўважылі. Былі ўсе падставы думаць, што шукаюць мяне.

Я пасунуўся назад, завярнуў у адзін завулак, другі, накіроўваючыся за горад. Там я дзе-небудзь пераначую, а заўтра ўдзень увайду ў горад спакойна. Завулкі рабіліся ўсё вузейшымі і больш гразкімі. У адным месцы я пачуў конскі тупат недзе ўбаку. Я пятляў, прабіраўся праз агароды і, нарэшце, выйшаў без дарогі ў поле.

Непасрэдная небяспека мінула. Я пайшоў проста наперад і выбраўся на дарожку. Праз мінут дзесяць яна прывяла мяне да нейкіх хатак. У адной з іх, самай убогай, ветліва пабліскваў агеньчык газнічкі.

«Калі яна такая ўбогая, то напэўна знайду ў ёй прытулак»,— падумаў я.

І не памыліўся. Мяне пусцілі ў хату, нават не запытаўшыся і не паглядзеўшы, хто я такі. Калі я выказаў з гэтага поваду сваё здзіўленне, гаспадар адказаў:

— А чаго нам баяцца? Добрага чалавека я кожнага гатоў пусціць, а ліхі і сам да мяне не пойдзе. Што ён тут знойдзе? Апрача кучы дзяцей,— нічога.

— Нарадзіліся яны на сваё няшчасце і на наша гора,— уздыхнула гаспадыня.

Адразу было відаць, што дзеці ў гэтай сям'і — самае балючае месца, калі першае слова было аб іх.

— Хутчэй бы яны паскруцілі сабе галовы,— дадаў гаспадар, нібы гаворачы сабе самому.

— Хто?! — перапытаў я з абурэннем.

Убачыўшы, як я адношуся да яго апошніх слоў, гаспадар адступіў ад мяне на крок, пільна глянуў мне ў вочы і стрымана сказаў:

— Выбачайце, пане. Я не ведаю, хто вы такі. Можа, вы іначай гледзіцё на немцаў. А мне дзякаваць ім няма за што.

Я засмяяўся. Выявілася, гэты добры чалавек, гаворачы аб сваіх дзецях, думаў аб тых, хто прынёс ім няшчасце — аб немцах,— і выказаў сваю думку, не падазраючы, як яна злучаецца з папярэднімі словамі.

Я палажыў яму руку на плячо і сказаў:

— Дарагі таварыш! Я толькі што адтуль, з-за ракі, і сам хаваюся ад немцаў.

І адразу ўсім нам зрабілася лёгка.

— Сядайце, калі ласка! — сказалі гаспадар і гаспадыня разам.

Я сеў і агледзеў хату. Малая, трухлявая, з земляной падлогай і маленечкімі акенцамі. Стол, дзве лавы, печ на трэцюю частку хаты і палок адзін на ўсіх.

Гаспадар высокі, сухі, з вострай бародкай, гадоў пад сорак. Зрэбная кашуля целяпаецца на ім, як на калу. Гаспадыня шчуплая, з заклапочаным тварам, а гадоў ёй можна даць і трыццаць пяць і пяцьдзесят.

А затым — «куча дзяцей». Бледны дзесяцігадовы хлопчык стаяў ля стала і сачыў за кожным маім словам, за кожным рухам. Каля яго, задраўшы галаву, стаяў замурзаны пяцігадовы карапуз; ён толькі што прачнуўся і злез з палка, каб падзівіцца на незвычайнага госця. На кончык лавы баязліва прысела васьмігадовая дзяўчынка з вострым носікам, ільнянымі валасамі і вялізнымі сінімі вачыма. На палку стаяў залатушны хлопчык гадоў пад сем, ля яго ног спала, раскінуўшыся, двухгадовая дзяўчынка. А ў начоўках ля печы спала яшчэ грудное дзіця.

— Як вы жывяце? — само вырвалася ў мяне пытанне.

— А мы і самі не ведаем,— горка ўсміхнулася гаспадыня.

— Я хаджу ў горад на розную падзённую працу,— сказаў гаспадар.— Але якія цяпер заробкі,— махнуў ён рукой.

— А зямля ёсць?

— Агарод. Ім і трымаемся яшчэ на свеце. Ды што аб гэтым казаць,— перапыніў сам сябе гаспадар і, падсунуўшыся да мяне, спытаў: — Вы лепш скажыце, што там? Ці хутка нашы прыйдуць?

Колькі разоў я чуў гэтае пытанне ў розных кутках Беларусі!

Я пачаў расказваць, як Ленін мабілізуе народ на барацьбу з ворагам, як рабочыя ідуць у армію, як...

За акном пачуўся конскі тупат. Я адскочыў ад акна і інстынктыўна выхапіў рэвальвер.

— Гасіце святло! — шапнула гаспадыня.

— Не трэба! — сказаў гаспадар.— Адразу ўзнікне падазрэнне, што мы чагосьці баімся.

Я з ім згадзіўся, а сам пайшоў да дзвярэй.

— Пачакайце! — ціха сказаў гаспадар і прытуліўся тварам да шыбы. Галава яго закрыла цалкам акно. Усе стаіліся.

— Яны спыніліся ля крайняй хаты... Будуць па чарзе абыходзіць усе хаты... Вунь стукаюцца і крычаць...

Значыцца, было яшчэ некалькі хвілін часу. Можна ўцячы. Усё залежыць ад таго, ці пэўна яны ведаюць, што я тут, ці мяркуюць прыблізна? У полі мяне ніхто не бачыў, я гэта ведаю. Маглі бачыць на якой-небудзь вуліцы з гэтага боку горада і на кожны выпадак накіравацца сюды. Ад гэтага залежала, наколькі настойліва яны будуць шукаць. Але і ў тым, і ў другім выпадку нельга было спадзявацца, каб знайшоўся такі дурань, які не здагадаўся б у часе вобыску хат паставіць варту вакол усяго пасёлка. Усё гэта мільганула ў маёй галаве значна хутчэй, чым тут напісана. І нібы ў адказ на мае думкі пачуўся голас гаспадара:

— Налева, за хатамі, стаіць коннік...

Так яно і ёсць — варта пастаўлена навакол. Ну што ж, прыйдзецца прабівацца...

Тады гаспадыня прапанавала свой план:

— Чаго лезці ў пятлю? Кладзіся на палок ля сцяны, а мы паложым на цябе дзяцей.

— Правільна! — сказаў гаспадар, не паварочваючы галавы ад акна.

Я згадзіўся. Мігам лёг я ўздоўж сценкі, на мяне навалілі featured рознага рыззя і пачалі «абляпляць» дзецьмі. Проста кажучы, пачалі ўпоперак класці іх галовамі на мяне, як на падушку. Прыстасавалі і тое малое, што спала. Нават грудное паклалі побач, а начоўкі паставілі пад палок.

— Памятайце, дзеткі,— казала маці,— нікому ні слова. Калі немцы знойдуць гэтага дзядзьку, то заб'юць яго і нас. Разумееш, Міколка? — звярнулася яна асобна да малодшага.

— Лазумею,— адказаў ён сур'ёзна.

Не ведаю, які выгляд меў цяпер палок збоку, але гаспадар, адышоўшы ад акна, задаволена сказаў:

— Вельмі добра! Самы хітры немец не здагадаецца.

Цяпер я жадаў толькі аднаго: каб яны хутчэй прыйшлі, бо ляжаць нерухома было вельмі нязручна.

Нарэшце гэты момант надышоў. Пачуўся грукат не толькі ў дзверы, але і ў вокны. Закрычала малое дзіця. Маці ўзяла яго на рукі і села ля маёй галавы. Відаць, яна пачала яго карміць.

Бразнулі дзверы, загрукалі боты.

— Да вас заходзіў які-небудзь чалавек? — пачуўся рэзкі голас.

— Праўду гаварыль, а то — капут,— растлумачыў другі пісклявы голас.

— Не, паночкі, ніякага чалавека не было,— загаварылі разам гаспадар і гаспадыня.

— Глядзіце, калі знойдзем, усім вам будзе канец! — крыкнуў першы голас.

Застукалі пад палком і ў кутку пад лавамі. Ледзь не дакранаючыся да маіх ног, палезлі на печку, нават заслонка ад печы забразгала — яны глядзелі і ў печку!

Старэйшы хлопчык прыўзняўся і абапёрся на мяне локцем. Гэты натуральны рух мне спадабаўся.

Але я вельмі занепакоіўся, калі заварушыўся і пяцігадовы Міколка.

— Міколка, ты чаго ўстаў? Лажыся, спі! — крыкнула маці і хацела палажыць яго на месца. Але ён заўпарціўся, пачалася на маёй спіне тузаніна. (Потым мы даведаліся, што ён хацеў на мяне сесці, «каб лепш схаваць» мяне).

Тады я пачуў словы, ад якіх у мяне сціснулася сэрца. Гаварыў адзін з прыйшлых, стараючыся надаць свайму голасу надзвычайную пяшчоту; акурат як той воўк у казцы «Чырвоная Шапачка».

— Міколка, ты не спаў? Ты бачыў дзядзьку, які сёння да вас прыходзіў?

— Не,— паспяшаўся адказаць Міколка, нават не дачакаўшыся апошніх слоў.

— Скажы праўду, дзетка. Дзядзька нас хоча бачыць, ён чакаў нас. Калі скажаш, дам табе цукерку.

На гэты раз Міколка не спяшаўся з адказам; ён пачуў такое, аб чым яго не папераджалі. Ён чакаў, што лютыя немцы будуць крычаць, сварыцца, а тут зусім наадварот.

Відаць, маці ў гэты час глядзела на яго неяк асабліва, бо пачуўся грозны голас немца:

— Матка, прэч!

Маці злезла з палка.

— Не бойся, Міколка, скажы, бачыў дзядзьку? — казаў той жа «пяшчотны» голас.

— Не бацыў,— адказаў Міколка.

— А ты?

— Ніякага дзядзькі не бачыла,— пачуўся голас дзяўчынкі.

— А вы?

— Ніякага дзядзькі ў нас не было,— хорам адказалі ўсе іншыя дзеці.

— Бяры агонь, свяці нам! — закамандаваў нехта.

— Зараз,— адказаў гаспадар.

Затым варочалі нешта і стукалі ў сенцах, тупалі над галавой па столі, шукалі на двары ў хлеўчыку, пад паветкай. Нарэшце ўсё сціхла. Гаспадар вярнуўся ў хату.

— Пранесла! — сказаў ён радасна.

Але прыйшлося яшчэ паляжаць, пакуль немцы зусім выбраліся ■ пасёлка. Усе мы былі ўзбуджаныя, радасныя, хвалілі дзяцей, асабліва Міколку.

Пераначаваў я на падлозе, а на другі дзень пайшоў у горад і выканаў сваё заданне.

* * *

Прайшло дваццаць год. Ліхія часы для нашай радзімы прамінулі, як сон. Устала на ўвесь свой рост новая, магутная савецкая дзяржава. Дзе толькі не пабываў я за гэты час! І нарэшце трапіў на некалькі дзён у той самы горад М.

Вядома, успомнілася тая восеньская ноч, убогая хацінка і «куча дзяцей», якая выратавала мяне. Што з імі цяпер? Ці ёсць які след на тым месцы?

Быў выхадны дзень. Установы не працавалі, і я не мог вырашаць свае справы, дзеля якіх прыехаў. Мне заставалася толькі сядзець у гасцініцы ці бадзяцца па горадзе. І я паехаў туды, да хатак.

Машына хутка вынесла мяне за горад. Але не па такой дарозе, па якой я ішоў калісьці. Гэта было бліскучае асфальтавае шасэ. І адлегласць да таго месца была не такая, а, як кажуць, рукой падаць. А замест хатак быў цэлы гарадок: фабрычныя карпусы, трохпавярховыя жылыя камяніцы, асфальтавыя вуліцы, жыццярадасныя скверы, Палац культуры,— адным словам, усё тое, што мы бачым у розных кутках вялікага Савецкага Саюза. Дзе тут знойдзеш сляды былых хатак?

Мясцовасць знаёмая. Пазнаю нізіну і ўзгорак. Пазнаю нават хвойнік. Каля яго павінен быць яр, а недалёка ад яго і была хацінка маіх мілых гаспадароў. Цяпер там стаіць белая камяніца.

Я вылез з машыны і пачаў хадзіць паміж камяніц па асфальтавых дарогах і дварах. Але я нічога гэтага не бачыў. Скрозь іх перад маім зрокам паўставала зусім іншае — цёмныя, старыя хаціны...

Многа бачыў я такіх савецкіх гарадкоў і гарадоў, але ніколі не перажываў таго, што цяпер. Бо не было ў мяне такіх успамінаў, як цяпер. Вось каля гэтага фантана стаяла тая хатка, з якой наглядаў мой гаспадар. Там, на асфальтавым двары, стаяў коннік. Значыцца, каля гэтай клумбы, вакол якой катаюцца на веласіпедах дзеці, і была хатка, у якой я начаваў. Памятаю, як я ішоў з той нізінкі праз сквер і праз гэты дом вунь на тую хвою...

Як хацелася ўбачыць каго-небудзь з той сям'і! Паспрабую спытацца вось у гэтай прыгожай сінявокай жанчыны, што ідзе насустрач з сумкай у руках.

— Выбачайце,— кажу,— ці не ведаеце вы тут чалавека па прозвішчы... э-э... здаецца, Карнейчык?

— Карнейчыка не ведаю,— адказала яна,— а Карнейка ёсць.

— На гэтым месцы калісьці стаяла яго хатка,— растлумачыў я.

— Адкуль вы ведаеце? — здзівілася яна.

— Я ў яго начаваў дваццаць гадоў назад.

— Вы?! Гэта вы? — усклікнула яна яшчэ з большым здзіўленнем.— Вы ж начавалі ў нас! Мы вас хавалі ад немцаў. Я памятаю тую ноч.

Я гатоў быў схапіць яе ў абдымкі. Дык вось яна, сінявокая, светлавалосая, бледная дзяўчынка!

— Хадзем да таткі,— сказала яна і пайшла наперад.

— Ён тут?! — узрадаваўся я.

— А чаго яму выязджаць з свайго наседжанага гнязда? — усміхнулася яна.

«Гняздо» было на другім паверсе. Жанчына націснула званок. Дзверы адчыніла паўнаватая жанчына з маладжавым тварам і сівымі валасамі.

— Ведаеш, мама, каго я прывяла? — весела сказала дачка і таемна прашаптала: — Гэта той самы госць, якога мы ўсе калісьці ратавалі ад немцаў.

— Няўжо?! — пляснула рукамі маці.— Ніколі не пазнала б.

— Ды і вы не такая,— казаў я, пацікаючы ёй руку.— Каб не валасы, былі б маладзейшая, як тады.

Мы стаялі ў прыхожай. Направа кухня, водаправод і дзверы, відаць, у ванную. Налева і наперадзе — дзверы.

Усе трое мы ўвайшлі ў адзін з пакояў. За пісьмовым сталом з настольнай электрычнай лямпай сядзеў высокі сівы чалавек з поўным, гладкім тварам і чытаў газету. Убачыўшы нас, ён зняў акуляры і ўстаў, з цікавасцю пазіраючы на мяне і на жонку з дачкой, якія хітра ўсміхаліся.

— Паспрабуй адгадаць, хто гэта? — сказала дачка, паказваючы на мяне.

Стары паглядзеў і пацінуў плячыма:

— Не магу ўспомніць.

— А ты яшчэ, здаецца, учора ўспамінаў, як мы ратавалі яго,— сказала жонка.

— Вы — той самы чалавек?! — з надзвычайным здзіўленнем усклікнуў стары і схапіў абедзвюма рукамі маю руку.— Вельмі прыемна. Сядайце, калі ласка. Цяпер я ўжо магу даць лепшы прытулак.

— Бачу, бачу,— адказаў я.— Але перш за ўсё я хачу ведаць, як жывуць вашы дзеці, мае збаўцы. Раскажыце пра іх. Мяне вельмі цікавіць іх лёс.

— Не толькі расказаць, але і паказаць можам,— адказаў гаспадар.— Сёння ж выхадны. Зараз склічам сямейны пленум. Ты, Зося, будзеш адказнай за арганізацыйную частку, а ты, маці,— за гаспадарчую.

— Добра,— адказалі жанчыны і выйшлі.

— Ці варта дзеля мяне распачынаць такія турботы? — пачаў я, але гаспадар перапыніў мяне:

— Не дзеля вас, а дзеля іх. Усе яны ведаюць пра тую ноч, хоць некаторыя не памятаюць.

Потым ён расказаў, як прыйшлі нашы, як ён пачаў працаваць, а дзеці вучыцца, як пачалося будаўніцтва новай фабрыкі... А на сённяшні дзень ён заслужаны майстар на гэтай фабрыцы. Старэйшы сын — таксама майстар. Зося замужам за рабочым гэтай жа фабрыкі, жыве ў суседняй кватэры.

Пачуўся званок. Праз хвіліну адчыніліся дзверы, і ў пакой увайшоў малады чалавек у шэрым касцюме, з выпраўкай спартсмена.

— Гэта — Сяргей, тэхнік нашай фабрыкі,— адрэкамендаваў бацька.— Яму тады было гадоў сем.

— Трохі памятаю,— сказаў малады чалавек.

Перад маімі вачыма паўстаў вобраз залатушнага хлопчыка ў лахманах, які стаяў тады на палку...

Не паспелі мы сказаць некалькі слоў, як з другіх дзвярэй увайшла маладая дзяўчына і сарамліва спынілася.

— Гэта — Ніна, настаўніца нашай фабрычнай школы,— сказаў бацька.— Ёй тады было некалькі месяцаў. Яна вас, вядома, не памятае.

— А я памятаю, як вы ляжалі ў начоўках,— сказаў я, паціскаючы ёй руку.

— Затое я не раз чула пра вас,— адказала яна.

— Ніна! — пачуўся голас маткі з кухні.

Дзяўчына пабегла туды, і праз хвіліну я пачуў бразганне талерак у сталовай.

Праз некаторы час прыйшоў старэйшы сын, Андрэй Іванавіч, высокі, ладны мужчына.

Ён сустрэў мяне, як знаёмага.

— Я заўважыў тады,— сказаў ён,— што плячо ваша вельмі прыкметна вытыркаецца з-пад тонкай посцілкі, і абапёрся на яго локцем.

Затым увайшла маці разам з высокай стройнай дзяўчынай у цёмнай сукенцы.

— Вось вам яшчэ адна знаёмая,— сказала маці.— Студэнтка-хімік. Яна тады хоць і спала, але таксама прымала ўдзел у агульнай справе.

Я ўспомніў двухгадовую дзяўчынку, што спала тады на палку...

— А дзе той слаўны хлопчык Міколка, які нават за цукерку не выдаў мяне? — спытаўся я.

— Зараз прыйдзе і ён,— адказала маці.— Хоць мы ўсе і часта бачымся, але вельмі рэдка бывае, каб усе сабраліся разам. Гляджу я цяпер на вас, успамінаю тыя часы, тую ноч, і самой не верыцца, што мы — тыя самыя людзі.

— А я лічу, што не тыя,— сказаў бацька.— Мы з табой тады былі старыя, а цяпер — во!

Ён устаў, узяўся ў бокі і тупнуў перад жонкай нагой. Усе мы аж зайшліся ад смеху і не пачулі, як у пакой увайшлі тэхнік і прысадзісты круглатвары лётчык.

— Вось вам і Міколка! — усклікнуў бацька, убачыўшы яго.— Каб ён цяпер усеўся на вас, вы яшчэ больш спалохаліся б, як тады.

Лётчык ад брата ведаў ужо, хто я, і, вітаючыся са мной, сказаў:

— А ў мяне ў памяці засталося нешта цёмнае, страшнае, круглы твар немца з вусамі — і больш нічога.

— Цяпер ужо ўсе сабраліся,— сказала гаспадыня.— Прашу ў сталовую.

Вялікі стол быў убраны, як на банкеце. Бялюткі абрус, талерачкі з закускамі, бутэлькі з вінамі, кветкі. За сталом — дружная кампанія: перадавыя рабочыя, савецкія інтэлігенты, вайсковец. Кожны займае сваё пэўнае месца ў грамадстве, адчувае, што ён патрэбны, карысны, ведае, што яму не трэба баяцца ніякіх нечаканасцей, што сам ён стварае і сваё шчасце, і шчасце ўсёй радзімы... Вось устае высокі сівы чалавек з чаркай у руцэ і кажа:

— Дзеці мае! Сённяшні дзень выдаўся для нас сямейным святам. Сёння мы найбольш выразна бачым, чым мы былі і чым сталі. Вып'ем нашу першую чарку за тых, хто стварыў нам гэтае свята...

Паважная жанчына з серабрыстымі валасамі і шчаслівымі вачыма абыходзіць з чаркай кожнага, цалуе яго, а потым, адвярнуўшыся, чамусьці выцірае вочы хусцінкай...

Я сяджу, як зачараваны. Праз сцены я бачу ўбогую хацінку, «кучу дзяцей» на палку, панурага сухога чалавека ў зрэбнай кашулі і шчуплую зморaную жанчыну гадоў трыццаці пяці ці пяцідзесяці. Я нават чую яе голас: «Нарадзіліся яны на сваё няшчасце і на наша гора...»

Я хацеў быў напомніць гэтыя словы, але ўстрымаўся: не варта псаваць сямейнае свята...

*1939 г.*

## ЗАПІСКА

Гады праз тры пасля вайны мне давялося пабываць у калгасе «Зарэчча» Н-скага раёна. Калгас гэты, у які ўваходзіла тры вёскі, быў абкружаны лясамі — то непраходным ельнікам, то светлым сасоннікам. І адваяваная ў леса зямля была — то балота, то пясок. І там дрэнна, і тут нядобра. Спрадвеку людзі жылі бедна. І не бачылі наперадзе нічога добрага: якая зямля, такое і жыццё. Не пераробіш жа зямлю!

Але прыйшоў час, калі вёскі ў гэтым кутку аб'ядналіся ў калгас, і неўзабаве выявілася, што зусім неабавязкова жыць так, як кажа зямля. Можна жыць так, як чалавек захоча. Калгаснымі сіламі можна і зямлю перарабіць. Яна сама падказвала, як зрабіць гэта. Балоцістую нізіну трэба перакапаць каналам, а ваду пусціць у раку, якая працякала тут жа. Для гэтага трэба толькі пракапаць высокі пясчаны бераг, на якім стаялі дзве вёскі (трэцяя была па той бок балота). Частку выкапанай чорнай зямлі можна вывезці на пяскі. І тады ўжо будзе і там добра, і тут нядрэнна.

Ніколі яшчэ з часоў стварэння гэтых паселішчаў людзі не працавалі з такой ахвотай, як цяпер на канале. Але скончыць работы не паспелі — прыйшла вайна...

Калгас «Зарэчча» быў адным з тых нямногіх беларускіх калгасаў, якія не былі спалены ў часе вайны. Глухмень, аддаленасць ад важных дарог, дзейнасць партызан і, нарэшце, прыход Савецкай Арміі — усё гэта перашкодзіла фашыстам выканаць сваю «задачу».

Старшыня калгаса, Антон Сцяпанавіч Патапчык, з захапленнем паказваў мне пасляваенныя дасягненні. Канал быў скончаны і ўліваўся ў раку новым прытокам. Балота хоць не было яшчэ цалкам асвоена, але месцамі на ім зелянеўся густы авёс, лапушылася капуста. І на пясчаных палях жыта было

зусім не такое, як раней. У вусці канала, між дзвюма вёскамі, стаяла новая школа.

— Тут будзе цэнтр калгаса,— тлумачыў Антон Сцяпанавіч.— На канале можна пабудаваць маленькую электрастанцыю. Затым пабудуем праўленне, клуб. Але пакуль што ўся наша ўвага накіравана на гаспадарчыя будынкі.

Гэтыя гаспадарчыя будынкі — свірны, гумны, хлявы — былі аднесены далей, уніз па рацэ. Адтуль далятаў меладычны звон жалеза пад кавальскім молатам. На зялёнай нізіне бялеліся групы калгасніц. Двое мужчын капалі бакавы равок ад канала. Ціха, спакойна ішла мірная праца; збоку здавалася, што і знаку ад яе няма. Але куды ні глянеш, усюды відаць сляды чалавечай працы, усюды прырода падпраўлена чалавечай рукой.

Гасцінны гаспадар запрасіў мяне да сябе, у старую сялянскую хату, такую, як і ўсе іншыя.

— Дажываюць свой век нашы дзядоўскія хаты,— казаў ён.— Прыязджайце праз гадоў пяць-восем, пабачыце, што тут будзе.

«Дзядоўская хата», як ёй і належыць, была нізкая, цёмная, урослая ў зямлю. Сустрэла нас чарнявая гаспадыня з белай касынкай на галаве.

— Прымай, Аксіння, гасцей! — весела крыкнуў гаспадар, кідаючы на лаву шапку.

— Калі ласка, просім,— сказала гаспадыня, звыклым рухам прыводзячы ў парадак стол і лаву.

— Вы даўно старшынёй? — спытаў я гаспадара.

— Трэці год. Раней быў брыгадзірам. Цяжкая справа быць старшынёй, але затое, захацеўшы, можна зрабіць больш карысці. Трэба толькі быць справядлівым, і тады цябе кожны паслухаецца.

Увайшла смуглявая дзяўчына гадоў дваццаці.

— А гэта мая дачка,— сказаў гаспадар,— вучыцца ў сельскагаспадарчым тэхнікуме. Праз год будзем мець свайго ўласнага спецыяліста. Не глядзіце, што ў нас такі закутак. Па падліках выходзіць, што наш калгас гадоў праз пяць можа зрабіцца мільянерам. Вядома, па збожжы ў нас далёка не

пойдзеш. Бяром кірунак на жывёлагадоўлю і тэхнічныя культуры.

Адчувалася, што ў гэтай дзядоўскай хаце дух панаваў зусім малады. Праз спарахнелыя сцены гаспадары бачылі другое, новае жыццё. Яны ведалі, дзеля чаго яны жывуць і што іх чакае.

Праз маленькія вокны ледзь прабівалася святло. У куце, над сталом, абрысам вызначаўся партрэт Леніна, а побач з ім — нейкая фотакартка ў рамцы з вяночкам. Я стаў прыглядацца да яе. Заўважыўшы гэта, гаспадар сказаў:

— Бачу, вы зацікавіліся, хто такі знаходзіцца побач з Леніным. Так, месца пачэснае. Але каб быў тут Ленін, ён сам сказаў бы змясціць гэты партрэт побач з ім.

Я зацікавіўся яшчэ больш і падышоў бліжэй. Гэта была фатаграфія хлопчыка ў піянерскім гальштуку. Хударлявы, прадаўгаваты твар, сціснутыя вусны, строгія ўдумлівыя вочы; непакорная пасма валасоў звешвалася з аднаго боку. За рамку была засунута запіска, пажоўклая, пакамечаная.

— Калі хочаце — вазьміце паглядзіце гэтую запіску,— пачуў я голас ззаду.

Узяў я ў рукі запіску, разгарнуў. Гэта быў абы-як адарваны кавалак паперы, відаць, з самаробнай запісной кніжкі, якія часта вучні робяць сабе з сшыткаў. На паперцы наспех былі напісаны алоўкам нейкія словы, значна ўжо сцёртыя. Я нахіліўся да акна, каб прачытаць. У хаце зрабілася зусім ціха, нібы гаспадары выйшлі. Прачытаў я запіску і таксама замёр і заціх...

Потым я доўга гутарыў з бацькамі, і тады перада мной паўсталі такія яркія карціны, нібы я сам бачыў іх...

* * *

Пяць гадоў назад за гэтым самым сталом сядзеў партызан. Ён часта пазіраў у акно, дзе ля варот стаяла на варце яго пятнаццацігадовая дачка Каця. Аўтамат ляжаў на лаве, пад рукой. Жонка рыхтавала яму на дарогу клунак.

Перад партызанам стаяў трынаццацігадовы хлопчык, сур'ёзны, пахмуры. Апусціўшы вочы, ён круціў у руках нейкую палачку і глухім голасам казаў:

— Чаму нельга? Чаму? Я таксама магу быць карысным: і каня дагледзець, і на варце пастаяць, і ў разведку пайсці, а калі трэба, то і страляць магу.

— Зразумей ты,— даводзіў бацька,— што мы не маем права браць з сабой дзяцей. Які ж гэта будзе баявы атрад з дзецьмі?

Хлопчык зірнуў бацьку прама ў вочы і пакрыўджана сказаў:

— Дзеці? Хіба я такое ўжо дзіця? А навошта тады нас навучалі: «Піянер! Да барацьбы за справу Леніна будзь гатоў!» А калі прыйшоў час барацьбы, то кажуць: дзеці!

Бацька зусім не чакаў такога павароту. Словы сына моцна ўразілі яго, і некалькі хвілін ён нават не ведаў, што адказаць. Затым пачаў тлумачыць:

— Правільна ты гаворыш, але не так разумееш. Ніхто вам не казаў, што піянеры павінны ісці на вайну ў трынаццаць год. Яны павінны змагацца там, дзе яны могуць,— у вучобе, у дапамозе дарослым...

— Вось і я хачу дапамагаць дарослым,— перапыніў хлопчык.

— Ну і гавары ты з ім! — усміхнуўся бацька.— Ды зразумей, што немагчыма браць усіх дзяцей, якія захочуць. Тады прыйшлося б узяць у армію ўсіх піянераў. Што ж тады будзе?

— Навошта ўсіх? — адказаў хлопчык.— А толькі тых, хто будзе добра дапамагаць. Калі не спраўлюся, ты можаш мяне адправіць назад.

Бацька адчуў, што спрачацца яму цяжка. Ён зірнуў на маці, нібы чакаючы дапамогі. Маці прыйшла на дапамогу пасвойму.

— Алёшачка! — сказала яна.— Цябе ж могуць забіць!

Хлопчык сур'ёзна паглядзеў на маці.

— Забіць? — сказаў ён.— Татку таксама могуць забіць. А гэта яшчэ горш, бо ён трымае ўсю сям'ю. І дзядзьку Андрэя

могуць забіць, і Васіля Пракопчыка могуць забіць. І чырвонаармейцаў, што ваююць на фронце, могуць забіць. Што ж тады ўсім рабіць?

— Куды табе раўняцца з дарослымі? — паківала галавою маці.

— Я не збіраюся раўняцца,— адказаў сын.— Я хачу дапамагчы, чым магу. Антось Макарэня з Падлесся толькі на год старэйшы за мяне, а ўсе яго хваляць.

— Дык і ты хочаш, каб цябе хвалілі? — падхапіла маці.

Хлопчык нездаволена паморшчыўся і сказаў:

— Я не аб гэтым думаю. Я кажу толькі, што ў партызанах ёсць ужо такія, як я. А чаму ж мне нельга?

Некалькі хвілін бацька задумліва глядзеў на сына, а потым сказаў:

— Выйдзі на двор, пагуляй, а мы тут з мамкай абмяркуем.

Калі хлопчык выйшаў, бацька ўсхапіўся з лавы і пачаў хадзіць па хаце.

— Ведаеш, маці,— казаў ён усхвалявана,— гэты хлопчык сёння перавярнуў мне ўсю душу.

— А мне ён кожны дзень пераварочвае,— уздыхнула маці.— Месца сабе не знаходзіць. Толькі аб гэтым і гаворыць. Часам я баюся, што ён сам уцячэ. Няшчасце дый годзе!

— Значыцца, гэта не выпадковае дзіцячае жаданне,— разважаў бацька.— Ды і па ўсяму відаць, што ён сур'ёзна глядзіць на гэтую справу. Ён адчувае становішча, можа, глыбей за нас, а мы яму гаворым розныя «разумныя» словы...

— Ці не хочаш ужо ўзяць яго ў партызаны? — з трывогай спытала жонка.

— Зусім не хачу, але ты сама чула, як цяжка з ім спрачацца. На ўсё ён адказвае так, што не ведаеш, як і пярэчыць. Калі хочаш знаць, то адзіны наш адказ можа быць такі: мы не хочам, каб наш сын рызыкаваў так, як, скажам, Антось Макарэня. Няхай рызыкуюць іншыя. Падумай, Аксіння, ці можна цяпер так разважаць?

— Хопіць і таго, што ты ваюеш за нас,— адказала жонка.— Навошта яшчэ ўцягваць дзіця?

Муж сеў побач, узяў яе за руку і сказаў:

— Сама бачыш, я не хачу яго ўцягваць, яго душа сама цягнецца. А ў мяне не хапае духу заглушаць яго высокія пачуцці. Мы ўсе цяпер рызыкуем. Рызыкуеш таксама і ты, седзячы тут. Ніхто не ведае, што з ім здарыцца. Калі я вазьму яго да сябе, ён будзе пад маім наглядам. Калі яго імкненні цвёрдыя і сталыя, ён будзе на сваім месцы, а калі ўбачу, што ахвота ў яго праходзіць, то адпраўлю дадому...

Доўга яшчэ гутарылі бацька з маткай. А калі сын вярнуўся ў хату, то маці са слязьмі кінулася яго абдымаць і цалаваць. Але папрокаў ніякіх не было.

* * *

Антон Сцяпанавіч так і не дачакаўся, пакуль у яго сына адпадзе жаданне цярпець нягоды партызанскага жыцця. Алёша ўсё рабіў з ахвотай — і бульбу чысціў, і галлё для агню збіраў, і каня даглядаў, і па ваду бегаў, і зброю чысціў, і пад дажджом мок, і на зямлі спаў. І не толькі ў першыя дні, але і ўвесь час. І ўвесь час ён адчуваў гонар і задавальненне, што прымае ўдзел у важнай справе.

Найбольш падабаліся Алёшу таварыскасць і пачуццё адказнасці адзін за аднаго, якія адчуваліся ва ўсім жыцці атрада. Што б хто ні рабіў, ён рабіў для ўсіх. Лежачы ў халодную дажджлівую ноч у зямлянцы, Алёша ўяўляў сабе, як у гэты самы час недзе стаяць на варце таварышы і пільнуюць усіх. Калі група партызан пойдзе на заданне, а іншыя застаюцца ў лагеры, Алёша думаў, што вось цяпер таварышы змагаюцца там за ўсіх, а яны тут сядзяць спакойна. І які ўздым адчуваў Алёша, калі ўсе партызаны па трывозе кідаліся туды, дзе была небяспека, дзе трэба было выручаць таварышаў. Не страшна было яму ў такую мінуту, а займала дух, бы на арэлях. Як шкадаваў ён, што не можа прыняць у гэтым удзелу!

Але надзею на гэта ён меў. Ён ведаў, што Антось Макарэня, які быў у другім атрадзе, мае свой аўтамат і прымае ўдзел у сапраўдных баях. А пакуль што Алёша рабіў усё, карыстаўся

кожнай магчымасцю, каб навучыцца добра валодаць зброяй. Вядома, што пры такім жаданні поспехі яго ў гэтай справе былі выдатныя.

Бацька ўважліва сачыў за сынам, прыглядаўся да яго паводзін і павінен быў прызнаць, што хлопчык сапраўды знаходзіцца «на сваім месцы». Ніколі ён не траціў добрага настрою, ні на што не скардзіўся, і радасцю выконваў кожнае даручэнне. А даручэнні пастунова рабіліся ўсё больш і больш адказнымі.

Антон Сцяпанавіч быў камандзірам узвода. У яго ўзводзе быў малады хлапец, гадоў дваццаці, Юрка Цішук. Вясёлы, шчыры, храбры, з светлымі вачыма і светлымі валасамі, ён падабаўся ўсім, хто яго ведаў. Алёша з ім хутка падружыўся і карыстаўся кожным выпадкам, каб быць з ім разам. Юрка вучыў Алёшу валодаць аўтаматам, кулямётам, гранатай, ставіць міны і знаёміў з усёй партызанскай навукай. З ім Алёша першы раз пайшоў у дазор, як сапраўдны партызан, з аўтаматам і гранатай. Нічога з імі не здарылася, але Юрка, вярнуўшыся ў лагер, усім казаў:

— З Алёшам я згодзен заўсёды хадзіць. З ім не прападзеш, ён усё ўбачыць, усё заўважыць.

Потым яны хадзілі ноччу, і Юрка казаў:

— З ім можна спакойна спаць, ён ноччу і вожыка не прапусціць.

У хуткім часе Алёшу было дадзена вельмі важнае заданне: пайсці ў адну вёску за кіламетраў трыццаць ад лагера пад выглядам пастушка. Бацька з картай у руках пачаў яму тлумачыць:

— Гэта тая самая вёска, Дубкі, дзе мы з табой раз былі ў дзядзькі Андрэя. Памятаеш?

— Трохі памятаю.

— Да яго цяпер ты і пойдзеш. Калі будуць пытацца, скажаш, што ты пляменнік Андрэя Прахорчыка, што твая маці, а яго сястра Палага з вёскі Карчы — вось яны на карце — паслала цябе да дзядзькі папрасіць солі. На кожны выпадак памятай, што жонка дзядзькі Андрэя завецца Кацярынай, што ў іх ёсць пятнаццацігадовая дачка Вера і шасцігадовы

сын Юзік. У вёсцы звычайна дзядзьку завуць Андрэй Янукоў. Калі ты добра запомніш усё гэта, то баяцца табе няма чаго.

— Я не баюся,— пакрыўджана адказаў Алёша.

— Добра, ведаю,— пяшчотна сказаў бацька, паклаўшы руку яму на плячо.— Мы цябе з лесу вывезем, тадыісці табе прыйдзецца кіламетраў васемнаццаць. Спяшацца не трэба, ідзі павольна, адпачывай колькі хочаш. Спачатку давядзецца сачыць, каб хто не звярнуў увагі, што ты ідзеш з лесу. Разумееш?

— Разумею.

— Дзядзька табе раскажа, што ведае аб немцах, і ты прыйдзеш назад. Запісваць нічога нельга — трэба вывучыць усё на памяць. Вось табе план дарогі; яго таксама трэба вывучыць, а потым знішчыць. Сёння добра паспі, а раніцою — у дарогу.

Да выхада з лесу Алёшу везлі чатыры ўзброеныя партызаны, у тым ліку і бацька. Развіталіся і доўга глядзелі, як патупаў па дарозе пастушок з торбай і пугай...

Быў гарачы чэрвеньскі дзень. Не раз у такі дзень Алёша бесклапотна бегаў па лясных і палявых сцежках, па лугах і пералесках. Але цяпер ён быў шчаслівейшы, чым тады. Тады ён проста цешыўся жыццём, як тая птушка, а цяпер усе яго пачуцці, усе думкі мелі глыбокі сэнс, хвалявалі і запаўнялі душу. Ён не проста ішоў па дарозе, а выконваў вялікую справу. Ён не проста пазіраў навакол, а з усяго, што бачыў, рабіў вывады, нібы рашаў цікавую задачу. Ідучы па сцежцы збоку дарогі, ён улічыў усё, каб хто не ўбачыў яго перш, чым ён убачыць таго. Ён добра памятаў словы бацькі, што чалавек і без жадання можа пашкодзіць, можа сказаць дзе не трэба, што бачыў хлопчыка, які ішоў з лесу.

Але на дарозе людзей бадай-што зусім не было. Толькі сямтам на палях бялеліся хусткі жанчын. Праз некалькі кіламетраў трапілася спаленая вёска. Некалькі жыхароў поркалася каля руінаў. Праз гэтую вёску Алёша прайшоў спакойна: не знойдзецца тут чалавека, які што-небудзь скажа на карысць немцам. Кіламетраў праз восем Алёша падышоў да другой вёскі. Мінуўшы некалькі хат, ён убачыў, што насустрач ідзе...

паліцай! Алёша адчуў, як усярэдзіне ў яго пахаладзела і замерла, нібы сэрца перастала стукаць і кроў спынілася. Але затое галава пачала працаваць чыста, шпарка, спакойна, нібы самастойны механізм. Алёша раптам гікнуў, свіснуў і, падскакваючы ды ляскаючы пугай, панёсся насустрач паліцаю. Той не звярнуў на яго ніякай увагі. Ці мала вясковых хлопчыкаў носіцца па вуліцы?..

За вёскай Алёша адчуў, што ён страшэнна змарыўся. Ён збочыў з дарогі, з асалодай апусціўся на траву і выняў з сваёй торбы хлеб і сала. Першая сустрэча з ворагам яго супакоіла, надала ўпэўненасці; ён убачыў, што нічога страшнага няма, калі не палохацца, а шукаць выхаду. Па плану, які Алёша вывучыў, выходзіла, што тут недалёка павінна быць рэчка, а там да Дубкоў застанецца кіламетраў сем-восем. Да вечара яшчэ далёка, паспець можна. Толькі надта ногі баляць. Гадзіны дзве адпачываў Алёша, нават заснуў.

Разбудзіў яго голас:

— Гэй, уставай! Торбу ўкрадуць!

Алёша ўсхапіўся, глядзіць — перад ім стаіць хлопчык гадоў дванаццаці.

— Ты каго тут пасеш? — спытаўся той са смехам.

— Я так, адпачываю,— адказаў Алёша.

— А куды ідзеш?

— У Дубкі.

— А пропуск маеш?

— Які пропуск? — спалохаўся Алёша.

— Там на мосце сёння пытаюцца прапускоў.

Высветлілася, што на мосце стаіць патруль і правярае паперы — хто такі, адкуль?

— І ў дзяцей пытаецца? — спытаў Алёша.

— Не ведаю,— адказаў хлопчык і пайшоў далей.

Алёша зноў сціснуўся ўвесь, зноў «самастойна» запрацавала яго галава...

Рачулка была маленькая. Уброд перайсці яе было зусім лёгка. На мосце стаялі тры паліцаі. Алёша нейкі час сачыў за імі, ходзячы каля ракі. Першая думка была — адысці далей і пераправіцца ў якім-небудзь ціхім месцы. Але немцы, мусіць,

і самі гэта ведаюць і, пэўна, сочаць. Калі зловяць, тады будзе ясна, хто ён такі.

Алёша зрабіў іначай.

Ён падышоў да ракі крокаў за сто ад моста, дзе берагі былі парослыя кустамі. Стаў так, каб паліцаі маглі яго бачыць, прылажыў далоні да рота і закрычаў на ўсё горла:

— Юрка-а!.. Дзе мая каро-о-ва?

Вартавыя абыякава зірнулі на яго. Алёша зноў крыкнуў:

— Юрка-а!.. Гані сюды-ы!..

А потым узяў ды і пайшоў цераз рэчку. Вартавыя не звярнулі на яго ніякай увагі — яны сачылі за чужымі людзьмі, за партызанскімі разведчыкамі, а не за тутэйшымі пастухамі...

Далей Алёша ішоў спакайней.

Праз некаторы час ён заўважыў далёка на гарызонце пыл. Можна было здагадацца, што гэта ідуць машыны. Разгледзець іх нельга. Алёша пабег да бліжэйшага ўзгорка і адтуль убачыў, што машын было каля дзесяці. Усё гэта ён адзначыў на сваім плане, што быў у яго галаве.

Далей ён убачыў, што наперадзе стаіць машына, каля якой поркаюцца немцы. Алёша збочыў з дарогі, прайшоў па кустах, а потым зноў выйшаў на дарогу ў тым месцы, дзе стаяла машына. Падышоў зусім блізка і пачаў дзівіцца, разявіўшы рот, як дурны, пакуль яго не прагналі. Алёша пайшоў назад у кусты да свайго «статка», адзначыўшы ў сваёй галаве ўсе знакі нямецкай формы, а таксама і машыны.

Да Дубкоў ён падышоў пад вечар. Тут ён успомніў, дзе была хата дзядзькі Андрэя, і прайшоў да яе праз агарод.

...Вярнуўся ён у лагер на трэці дзень з такім багатым і важным матэрыялам, які і ацаніць было цяжка.

* * *

На другі дзень пасля звароту Алёшы ў лагер пачалася падрыхтоўка да пераходу на новае месца. Фактычна справа ішла аб тым, каб перавезці раненых, жанчын і маёмасць атрада. Байцы заставаліся, каб сустрэць ворага. Не звязаныя лагерам,

яны будуць магчы свабадней манеўраваць. Ім пакідалася пэўная колькасць прадуктаў і боепрыпасаў, а рэшту трэба было перавезці далей у лясы і балоты, кіламетраў за сорак. Чакалася, што агульнае наступленне немцаў пачнецца ў самыя бліжэйшыя дні.

З двухсот шасцідзесяці байцоў трыццаць прызначалася суправаджаць абоз, які складаўся з васемнаццаці вазоў. Сюды ўвайшоў і ўзвод, якім камандаваў Антон Сцяпанавіч. Алёша вельмі шкадаваў, што яму не прыйдзецца прыняць удзелу ў «сапраўдным баі».

Раніцою наступнага дня тыя, хто ад'язджаў, развіталіся з таварышамі, і абоз папоўз па вузкай лясной сцежцы. Наперадзе — разведка, на пэўнай адлегласці ад яе — дваццаць чалавек, затым — падводы, а ззаду — дзесяць чалавек пад камандай Антона Сцяпанавіча.

Ціха было ў лесе, утульна. Толькі перагукваліся птушкі, рыпелі колы ды чулася ціхая гаворка людзей. Сцежка выгinducedналася, як вужака, скрыжоўвалася з іншымі такімі ж сцежкамі. Гушчары змяняліся пералескамі, вільготны ельнік — сухім сасняком. Трапляліся паляны, балотцы з грэблямі. Праз гадзіну-другую людзі сціхлі, і абоз доўга цягнуўся моўчкі. Апаўдні зрабілі прывал. Затым ехалі да самага цямна. Пераначавалі ў бары на ўзгорку, а раніцою рушылі далей.

Алёша чуў гутарку, што хутка будзе шырокая лагчына, якая цягнецца ў абодва бакі больш як на дзесяць кіламетраў. Адтуль застанецца ехаць пятнаццаць кіламетраў.

Раптам наперадзе, з левага боку, пачуўся стрэл, другі — і пачалася траскатня. Абоз спыніўся. Антон Сцяпанавіч са сваімі байцамі, чакаючы загаду, падрыхтаваўся сустрэць ворага і з правага боку. Але там было ціха. Праз некалькі мінут прыйшоў загад: Патапчыку ўдарыць немцам ва фланг, а абозу ехаць далей.

— І я з вамі! — крыкнуў Алёша.

— Ззаду таксама трэба пільнаваць! — строга крыкнуў бацька.— Сядай на воз і сачы!

Ён пабег у лес. Алёша ўскочыў на воз, якім кіравала цётка

Антаніна, кухарка атрада, звесіў ногі ззаду і падрыхтаваў свой аўтамат. Абоз крануўся з месца.

Страляніна паступова набліжалася да задніх вазоў, але разам з тым усё далей і далей адсоўвалася ад дарогі — знача, немцаў гоняць. Алёша пільна сачыў за процілеглым бокам, хоць па ўсяму было відаць, што адсюль нападу чакаць ужо не даводзіцца: каб немцы былі і там, яны напалі б адразу з двух бакоў.

І вось ён са свайго воза бачыць, як адтуль, схіліўшыся і хаваючыся па-за кустамі, прабіраюцца два немцы... Што яму рабіць, ён не паспеў падумаць, а проста пусціў туды чаргу з аўтамата. Потым толькі спалохаўся і схаваўся за мех.

Але адтуль ніякага адказу не было. Ці не забіў ён іх абодвух адразу?

Падбегла некалькі байцоў ад пярэдніх вазоў.

— У чым справа? — спытаў старэйшы з іх, дзядзька Андрос, з шырокай рыжай барадой.

— Там... два немцы,— адказаў Алёша, саскочыўшы на зямлю.— Я ў іх выстраліў — і нічога.

— Ты добра бачыў?

— Зусім добра.

— Чаму ж яны не стралялі? — задумаўся дзядзька Андрос.

Яму, як старэйшаму, трэба было зараз жа, за якую хвіліну, вырашыць, што рабіць. Калі хлопчык не памыліўся, гэта былі разведчыкі. Значыцца, там ёсць немцы, якія зараз жа нападуць. А аховы ўсяго восем чалавек, уключаючы Алёшу. Абоз расцягнуўся далёка. Невядома, у якім месцы могуць напасці. Як размеркаваць людзей? Ці ёсць сэнс пасылаць разведку ў лес? Зараз выедуць на адкрытае месца, можа, пад абстрэл. Спыняць абоз ці не? Ці пасылаць паведамленне туды, дзе ідзе бой? А можа, наогул нічога не будзе? Чаму ж яны не нападалі адразу з двух бакоў, як яно і павінна быць?..

Рашэнне за гэтую хвіліну было такое:

— Ісці ланцугом з правага боку, побач з абозам, за крокаў трыццаць-сорак ад дарогі. Калі немцы з'явяцца, залегчы і адбівацца, а абоз пойдзе далей.

Пабеглі наперад, асцярожна падаючыся ўбок,— нікога не відаць і не чуваць... Кожны ў ланцугу ледзь бачыў наперадзе свайго таварыша, які то знікаў у кустах, то зноў паказваўся. Алёша быў апошнім, і яму здавалася, што ён застаўся адзін далёка ззаду...

Стралянiна з другога боку заціхала: ці то далёка зайшлі, ці бой канчаўся...

Праз некалькі мінут пачуліся стрэлы і з правага боку. Усе залеглі — і пачалося...

Алёша ляжаў за кустом і нічога больш не бачыў. Не бачыў і пярэдняга таварыша, не бачыў ніякіх немцаў. Толькі стрэлы чуліся наперадзе. І зноў ён адчуў тое самае, што тады ў разведцы: сэрца сціснулася, ён увесь замёр, напружыўся, пачуцці нібы выключыліся, ён не адчуваў ні страху, ні храбрасці, ні свайго цела, нават хвалявання не адчуваў, хоць яно, вядома, і было. І думак ніякіх не было, апрача адной: што ён павінен рабіць? Не думаў ён, напрыклад, ці многа немцаў, ці ўдасца іх адбіць, ці падаспее дапамога, ці не загінуць яны тут. Для такіх думак проста не было месца ў галаве, бо яна была занята адным і самым галоўным: што трэба рабіць зараз, вось у гэтую хвіліну.

Перад ім немцаў не відаць, страляюць наперадзе, значыцца, трэба пасоўвацца туды, на дапамогу. Затым ён заўважыў, што немцы страляюць з прасекі, зарослай густым маладым сасоннікам. Сасонкі малыя, галінкі іх даходзяць да самай зямлі і пераплятаюцца паміж сабой. Толькі па стрэлах ды па калыханні сасонак можна распазнаць, дзе немцы. Яны патрошкі пасоўваюцца туды, дзе была галава абозу.

Алёша знаходзіцца ў баку ад бою. А што, калі падацца ўправа ды зайсці ім ва фланг? Яны гэтага не чакаюць, падумаюць, што новыя сілы падышлі.

Лес ад прасекі ішоў досыць рэдкі. Сям-там раслі кусты алешніку.

Крокаў за сто ад прасекі — гняздо маладога ельніку. Адтуль добра было б абстраляць фашыстаў.

Цяпер Алёша ведаў, што яму трэба рабіць! Каб вярней было, ён трохі падаўся назад і зрабіў круг. Ад куста да куста

ён дабраўся да ельніку. Прыладзіўся, прыгледзеўся — і ўбачыў, што на ўскрайку прасекі стаіць на адным калене немец. Час ад часу ён страляе наперад, уздоўж прасекі, а потым пазірае ўбок. Але робіць гэта не надта пільна, бо ніякай небяспекі для іх адсюль не відаць.

«Здагадлівыя, гады!» — са злосцю падумаў Алёша.

Стрымліваючы нецярплівасць, Алёша добра прыцэліўся і пусціў чаргу. Немец паваліўся. Тады з розных месц прасекі высунулася ў гэты бок яшчэ некалькі немцаў. Алёша пачаў страляць у іх...

Партызаны, пачуўшы, што да іх прыйшла дапамога, з крыкамі «ўра» кінуліся наперад. Немцы замітусіліся, пасунуліся назад, але хутка сцямілі, што «дапамога», як відаць, складаецца з аднаго чалавека. Яны прыпыніліся і накіравалі агонь на ельнік.

Алёша закруціўся, як уюн, хаваючыся ў ямках, за купінкамі, і, нарэшце, залёг за пнём старой елкі. Калі немцы не зойдуць збоку, ён тут зможа пратрымацца...

— Ды там Алёша! — здагадаліся партызаны.

Але становішча яго было небяспечнае. Сем партызан выбіць немцаў з густога сасонніку не маглі. Добра ўжо тое, што яны іх затрымалі і далі магчымасць адысці абозу. Самым правільным цяпер было б паступова адыходзіць, прыкрываючы абоз.

Але трэба ратаваць Алёшу.

Дзядзька Андрос загадаў двум байцам размясціцца так, каб трымаць пад абстрэлам выхад з сасонніку да ельніку. Двое немцаў паспрабавалі пасунуцца з двух бакоў да ельніку, але пад агнём гэтых двух байцоў і Алёшы вымушаны былі адступіць.

Націск немцаў на партызан замарудзіўся. Ужо адно гэта было на карысць партызанам. Але трэба было чакаць, што немцы зробяць больш глыбокі абход у тыл Алёшу.

Тады дзядзька Андрос крыкнуў:

— Алёша! Адыходзь наза-ад!

Карыстаючыся аховай двух байцоў, Алёша папоўз назад, у лес. Немцы зразумелі, што час прайграны, што абоз ады-

шоў, што зараз прыйдзе да партызан дапамога, і пачалі адыходзіць.

Тым часам вярнуўся Алёша. Тады дзядзька Андрос крыкнуў:

— Хутчэй наперад, даганяць абоз! Можа, яны там захочуць перахапіць яго.

Усе пабеглі наперад. Але немцам было не да нападу. Вярнуліся ўсе партызаны і пачалі лавіць немцаў, як зайцоў. Колькі іх выратавалася — невядома. Абоз спакойна дайшоў да месца, а партызаны, у тым ліку і Алёша, дайшлі туды толькі ноччу.

Не будзем казаць, колькі гаворкі было аб Алёшу, што́ адчуваў ён сам і яго бацька. Скажам толькі, як здарылася ўся гэтая гісторыя.

Лагчына, аб якой мы казалі, падзяляла на дзве часткі лясны масіў, дзе былі партызаны. Для немцаў было б вельмі выгадна заняць яе. Але па канцах лагчыны былі гушчары і балоты; апрача таго, партызаны ахоўвалі гэтыя пункты. Прарвацца сюды немцы маглі б толькі значнымі сіламі ў часе агульнага наступлення, а дробныя сілы самі трапілі б у пастку. Таму для партызан да гэтага часу небяспекі тут не было.

Цяпер, перад агульным наступленнем, каб палегчыць сабе справу, немцы парашылі закінуць сюды людзей невялікімі групамі, па некалькі чалавек. Маленькім групам прабрацца было няцяжка. Яны павінны былі ціхенька сядзець некалькі дзён, пакуль пачнецца агульнае наступленне, і хавацца ад партызан.

Перастрэлка пачалася не таму, што немцы напалі, а таму, што нашы дазорныя на іх натрапілі. Там было чалавек трыццаць, якіх партызаны гналі датуль, пакуль насустрач не падышлі іншыя партызанскія групы. Агульнымі сіламі гэтая група немцаў была ліквідавана.

Другая група хавалася з другога боку і таксама не збіралася нападаць, а толькі сачыла за абозам. Убачыўшы, што галоўныя сілы партызан адышлі і што каля абозу засталося зусім мала аховы, яны захацелі скарыстаць гэта і трапілі ў бяду, як і тая група.

* * *

А затым пачалося тое, што засталося ў памяці беларускага народа пад словам — блакада. Пачалася адна з тых блакад, прарываючыся з якой сотні народных мсціўцаў геpaічна змагаліся з тысячамі вымуштраваных, дасканала ўзброеных нямецкіх салдат.

Піянер Алёша Патапчык змагаўся ў гэты час разам з усімі. Партызаны прывыклі ўжо глядзець на яго, як на паўнапраўнага байца. Прывык да гэтага і яго бацька, хоць і стараўся пры кожным выпадку адхіляць яго ад удзелу ў такіх аперацыях, якія не зусім падыходзілі для яго ўзросту. Але ён усюды быў карысны, усюды патрэбны.

Аднаго разу досвіткам на далёкай заставе пачулася раптоўная, моцная перастрэлка. Хутка яна перакінулася на бліжэйшыя заставы. Праз некаторы час высветлілася, што фашысты ў розных месцах прарываюцца ў лес і што адна з застаў, дзе быў Алёша, адрэзана...

Атрад заняў свае пазіцыі. З-за кожнага дрэва, з-пад кожнага куста фашыстаў сустракала смерць. Распачаўся доўгі, упарты бой, дзе поспехі наступлення мераліся метрамі, ды і то пасля многіх мінут. Сярод партызан аднекуль пайшлі чуткі, што фашыстаў усяго ў два разы больш, чым іх. А калі так, то справіцца можна.

Узвод Антона Сцяпанавіча знаходзіўся якраз на тым участку, дзе была адрэзана застава. «Што цяпер з імі? Што цяпер з Алёшам?..» — думаў бацька і яго байцы. Юрка з ручным кулямётам працярэбліваў дарогу, узвод патрошку пасоўваўся наперад. Але ў іншых месцах пасоўваліся патрошку немцы. Лінія бою выгіналася то ў той, то ў другі бок.

Так прайшло гадзіны дзве. А затым пачуліся сярод партызан радасныя крыкі, узмацніўся агонь — гэта прыйшоў на дапамогу другі атрад. І фашыстам давялося адступаць...

З вялікім хваляваннем пасоўваўся Антон Сцяпанавіч наперад. Вось і тое месца, дзе была застава. На ўзгорку, сярод кустоў, некалькі малых акопчыкаў. Пустыя гільзы ляжаць.

Тут яны адстрэльваліся, а потым, відаць, пачалі адыходзіць.

У таварышаў з'явілася надзея: можа, адышлі, выраталіся?

Але хутка за паўсотні крокаў убачылі яны забітага Косцю Ткачука. Яшчэ далей — Сеню Марозава...

Убаку — маленькая светлая палянка. Пасярэдзіне стаіць пень, а вакол яго — маладыя парасткі бярозы. Тут убачылі Алёшу...

Ляжыць на левым баку. Галава, правае плячо і рука скрываўлены выбухам гранаты. За два крокі — сляды крыві, многа крыві, шматкі шэрай нямецкай адзежы... Відаць, тут было не менш двух нямецкіх салдат.

Карціна ясная: Алёша ў апошнюю мінуту ўзарваў гранатай фашыстаў і сябе.

А затым у Алёшавай шапцы знайшлі запіску:

«Тата! Нас акружылі. Косця і Сеня забітыя. Але я ўсё роўна не здамся...»

Вось гэтую самую запіску я цяпер і трымаў у руках.

*1950 г.*

## ЗАВОШТА

*Прысвячаецца светлай памяці М. Л.*

Яму было сем гадоў, мне — на паўстагоддзя болей, але кожны раз пры сустрэчы з ім я нібы саромеўся, падцягваўся, стараўся паказаць сябе вартым яго. Едзе ён, скажам, верхам на дасканалым альховым дубцы, сустрэнешся з ім і скажаш, як вядзецца:

— Які ж у цябе добры конь!

А ён гляне на цябе такімі сур'ёзнымі, глыбокімі вачыма, нібы думае: «Такі стары, а глупства гаворыць». Пачынаеш адчуваць, што сапраўды сказаў глупства, што такому незвычайнаму хлопчыку трэ было б сказаць нешта больш разумнае і сур'ёзнае. А ён як гікне, як сцебане свайго каня ды як панясецца... Стаіш і дзівішся яму ўслед: ды ён жа такі, як і ўсе!

Маленькі садок. Мільгацяць на сонцы цені. Гудуць мухі. У кутку на лавачцы нерухома сядзіць хлопчык і да чагосьці прыслухоўваецца. Да чаго? У кожным разе не да таго, што ўсім нам само лезе ў вуха,— не да грукату машын за домам, не да званкоў трамвайных і не да крыку дзяцей на двары. Ён прыслухоўваўся да подыху, да пульса прыроды, якая не спыняла свайго жыцця ў гэтым мініяцюрным кутку. Ён чуў толькі гудзенне вось гэтай тоўстай мухі з залатым брухам, толькі чырыканне вераб'я над галавой, толькі шолах лісця на кустах; ён бачыў толькі кветкі, траву, кусты, толькі ўсялякіх жучкоў, мурашак, чарвячкоў, якіх ніхто не бачыў, апрача яго. А яны ж тут стварылі цэлы невядомы нам свет; у іх былі свае справы, свае інтарэсы; яны, пэўна, разумелі адно аднаго, размаўлялі на сваёй мове.

Вунь па шырокім лісце паўзе голы зялёны чарвячок, паўзе шпарка, заклапочана, відаць, некуды спяшаецца. Дапоўз да краю, спыніўся, падумаў трохі, а потым стаў на дыбкі, падняў

палову тулава ўгору і давай матляцца ва ўсе бакі — ці няма дзе якога пераходу?

Міша ўзяў тады і сарваў лісціну разам з чарвяком. Чарвяку трэба падавацца на другі бок. А гэты другі бок стаў ужо верхнім, і перад нашым чарвяком адкрыўся такі самы шырокі шлях, які ён ужо прайшоў. Сабраўся з духам чарвячок і — зноў у дарогу. Ідзе, заклапочаны, па шырокай прасторы ліста, ідзе, матае галавой. Зноў падышоў да краю і стаў на дыбкі — ці не відаць дзе пераходу? І зноў вымушаны быў перайсці на другі бок, які зараз жа перавярнуўся ўверх. І зноў пачалося тое самае падарожжа...

Цікава, як доўга мог бы так вандраваць чарвяк? І што б ён нарэшце зрабіў? Але шкада яго мучыць. Хай сабе ідзе дадому. І Міша ціхенька палажыў ліст у куст.

А колькі тут наогул усялякага народу жыве! Толькі ніхто не бачыць і не ведае. А Міша ведае і жыве з усімі дружна.

Некалькі разоў мама крычала праз акно: «Міша, ідзі есці!», але ён нічога не чуў. Тады толькі пачуў і ўбачыў, калі мама сама прыйшла да яго з міскай.

Шмат клопату было маме з кармленнем. Міша зусім не цікавіўся гэтай справай. А калі еў, то з такім выглядам, нібы гэта яго зусім не датычыцца, нібы есць не ён, а нехта другі. А тут яшчэ больш важныя пытанні лезуць у галаву:

— Ці доўга можа чарвяк хадзіць? Ці прайшоў бы ён адсюль да моста?

— Ды еш ты! — бурчала маці.— Адкуль такія глупствы лезуць у галаву?

Прыйшлося растлумачыць маме, што гэта зусім не глупства, а пытанне вельмі важнае.

Мама толькі засмяялася і пацалавала яго. Яна прывыкла ўжо да падобных важных спраў. Не раз бачыла яна, як Міша ратаваў мух, што прыліпалі да ліпучай паперы. Возьме асцярожненька, каб не скалечыць, і выкіне праз акно. Другі раз Міша нікому не даверыў знішчыць мышку, якая трапіла ў пастку. Ён сам вынес яе на двор, пад хляўчук, і... выпусціў. Калі яго папракнулі, ён адказаў:

— У нас яна больш не будзе жыць — я занёс яе далёка, а ў хлеўчуку хай сабе жыве.

А яшчэ раней дык цэлая бяда была са шчанём. Міша знайшоў яго ўвесну пад снегам. Сабачка быў зусім цэлы, і вочы ў яго былі адкрытыя, чыстыя. Выцер яго Міша, пахукаў, засунуў пад паху і ўрачыста прынёс у хату. Але тут яго сустрэлі зусім не ўрачыста. Мама закрычала, замахала рукамі, загадала выкінуць шчаня прэч, бо яно мёртвае. Міша прасіўся, даводзіў, што сабачка зараз жа аджыве, калі яго сагрэць. Умяшаўся бацька, які сказаў тое самае, што і мама. Міша вымушаны быў вынесці шчаня з хаты, але на слова бацькам не паверыў. Ён зрабіў у хлеўчуку ўтульнае і цёпленькае гняздо, закруціў шчаня ў мяккія анучкі, паставіў малака і стаў чакаць. Чакаў дзень, чакаў другі — не, не хоча аджываць. Тады толькі ён згадзіўся, што шчаня сапраўды мёртвае, і пахаваў яго. Пахаваў у добрай магіле і доўгі час даглядаў гэтую магілу.

Аднаго разу я заўважыў на двары, што паміж Мішам і пяцігадовым Віцем адбываецца канфлікт. Віця адважна насядаў на Мішу, замахваўся дубцом, штурхаў, хапаў яго за грудзі і нават спрабаваў дабрацца да твару, ды толькі дастаць не мог. А Міша адсоўваўся назад, адхіляў Віцевы рукі і спакойна паўтараў:

— Вось і нядобра. Вось ты і дрэнны хлопчык. Сорамна так рабіць. Толькі дрэнныя дзеці гэтак робяць.

Я глядзеў на такую сцэну і дзівіўся. Няўжо гэты мілы хлопчык такі бездапаможны? Адказ я атрымаў праз некаторы час, калі ўбачыў сутычку з хлопчыкам роўным, а мо і крыху старэйшым за Мішу. Тут ужо ні аб якім непраціўленні і гутаркі не магло быць. Праціўнікі біліся як мае быць — і кулакі пайшлі ў ход, і манеўраванне, і перастрэлка. Значыцца, не ўсім ён уступаў, а толькі меншым і слабейшым. З малымі дзецьмі Міша не ваяваў.

Ён ваяваў звычайна з фашыстамі: ці верхам на дубцы, як кавалерыст, ці на веласіпедзе, як матацykліст, ці з танкамі, гарматамі, аўтамашынамі, паравозамі, нават электравозамі

і іншымі цацкамі, якімі добра забяспечыў яго бацька, камандзір палка. Усю сваю «багатую тэхніку» Міша кінуў на барацьбу з фашызмам.

Калі ён праводзіў якую баявую аперацыю, то ставіўся да яе з поўнай сур'ёзнасцю і адказнасцю — не смяяўся, не жартаваў, аддаваў справе ўсю сваю ўвагу. І яшчэ адна асаблівасць: ён не надта ганяўся за лікам свайго войска. Ёсць з ім Віця і Гена — добра, а няма, дык і не трэба. З такім жа поспехам ён мог ваяваць і адзін: цэлымі гадзінамі сам рабіў манеўры, засады, артылерыйскую падрыхтоўку, сам даваў баявыя загады і сам іх дакладна выконваў.

* * *

У той дзень нібы віхор падхапіў Мішу, закруціў і панёс, панёс...

Бацька пацалаваў яго і знік. Маці хадзіла па пакоях, нешта рабіла, але відаць было, што яна і сама не ведае, што робіць. Часцей за ўсё туліла да сябе і цалавала Мішу.

А над горадам ужо з'явіліся яны, фашысты, тыя самыя, пра якіх ён столькі чуў. Але і цяпер яны былі такія ж невядомыя, гэтак жа іх саміх нельга было бачыць. Толькі самалёты можна было бачыць ды пажары.

І выбухі бомб, і стрэлы, і пажары — усё гэта было ўжо сапраўднае. А Міша зусім не ведаў, што яму рабіць. Ваяваць? Але як і з кім?

Яны з мамай доўга сядзелі на нейкіх клунках. Разам з імі было многа дзяцей і жанчын. Потым Міша глядзеў, як у садзе капалі яму, каб усім у ёй хавацца. Але хутка кінулі капаць і пайшлі за горад. Тут доўга сядзелі ў яміне, дзе бралася гліна.

А самалёты ўсё кідалі і кідалі бомбы. Усё болей і болей загаралася дамоў. Міша ляжаў на каленях у мамы і глядзеў угору, дзе праляталі нямецкія самалёты, вакол якіх выскаквалі нібы камякі ваты. А самалёты ўвесь час тукалі: та-та-та, та-та-та...

Побач з Мішам сядзела Соня, дзяўчынка з суседняга двара. Яна зусім не баялася, нават смяялася. А потым ойкнула

і стала хіліцца ўсё ніжэй, ніжэй. А на белай сукенцы з'явіліся чырвоныя плямы... Усе навакол закрычалі:

— Соню забілі! Соню забілі!

Колькі разоў Міша чуў і гаварыў гэтае слова ў дзіцячых гульнях, але ён ніколі не думаў, што смерць такая простая. Нібы і страшнага нічога няма...

А потым яны апынуліся на дарозе і садзіліся на машыну. Машына праехала колькі часу і спынілася. Усе людзі выскачылі з яе і пабеглі хто куды. Ясна было, што недзе блізка фашысты.

Тут упершыню Мішу ахапіў сапраўдны жах. Фашысты, пэўна, будуць гнацца за імі, шукаць іх... Але мама, да гэтага часу такая млявая, нібы непрытомная, цяпер адразу змянілася, схапіла яго за руку — і ў кусты, потым у жыта, потым у лясок.

Затым пачалося вандраванне. Нібы жабракі, хадзілі яны ад вёскі да вёскі некалькі дзён. Начавалі то ў пуні, то ў хаце. Нікуды не спяшаліся, часта адпачывалі. Навакол было ціха, спакойна, нібы і вайны ніякай няма.

Праз некалькі дзён яны спыніліся ў адной вёсцы назусім. Тут жыла сястра Мішавага бацькі, калгасніца.

* * *

Спачатку яны жылі ў цёткі як госці. У Мішы знайшліся тут дваюрадны брат Сцёпка і дваюрадная сястра Таня. Яны былі трохі старэйшыя за Мішу і вельмі шанавалі яго, як гарадскога. Мішу здавалася, што ўсе жахі прайшлі, можа, і вайна ўжо скончылася.

Але весткі прыходзілі зусім не такія спакойныя: немцы занялі Мінск, яны ўжо дайшлі да Барысава, Магілёва, на чыгуначных станцыях стаяць нямецкія салдаты, у раённым мястэчку пастаўлен нямецкі камендант.

Нарэшце і да іх у вёску прыйшлі нямецкія салдаты. Яны назбіралі некалькі вазоў дабра, асабліва курэй, і паехалі назад. Але пакінулі назначанага імі старасту і загадалі, каб усе яго слухаліся.

Міша і цяпер не бачыў немцаў, бо разам з мамай ён схаваўся ад іх. Чаму хаваліся толькі яны, а ніхто з цётчынай сям'і не хаваўся?

— Мы тут чужыя,— растлумачыла яму мама,— з горада. Да нас хутчэй могуць прычапіцца: а чаго вы тут, а хто вы такія і адкуль, а што вы тут робіце?

Пасля таго яны з мамай змянілі і сваю вопратку на сялянскую. Ды яшчэ адзенне выбралі старое, чым пабядней. Міша нічога супраць гэтага не меў, нават цікавей было. Рыжая світка, доўгія драныя штаны і аблавухая шапка зусім змянілі яго выгляд. Толькі надта прыгожыя і глыбокія былі яго цёмныя вочы ды застаўся гэты цудоўны выраз твару — сур'ёзны, удумлівы і трошкі іранічны, нібы ён бачыць і разумее нешта такое, чаго мы не бачым і не ведаем. А якая прыгожая зрабілася мама, калі пачала завязваць белую хустачку! Чорныя валасы яе схаваліся, але затое чорныя вочы зрабіліся яшчэ лепшымі. Толькі вельмі часта плакалі гэтыя вочы...

А як любіў Міша сваю маму! Ён увесь быў прасякнуты пачуццём, ён дыхаў ёю, як паветрам. Ён цягнуўся да яе, як расліна да сонца. Асабліва цяпер, калі не было бацькі, якога ён любіў не меней, калі не болей за маці. Бацька быў яго найлепшым сябрам і таварышам, з якім яны цэлымі гадзінамі гутарылі, майстравалі, займаліся самымі цікавейшымі справамі. Бацька здабываў і выдумляў для Мішы такое, чаго нідзе не знойдзеш.

Але далёка цяпер татка. Ён б'е фашыстаў. Калі паб'е, тады яны зноў сыйдуцца. А пакуль трэба цярпець і чакаць. Пакуль што яны стараліся зліцца з мясцовым насельніцтвам, каб нічым не вылучацца. Мама хадзіла на сялянскія работы, а Міша рабіў усё тое, што робяць сялянскія дзеці.

* * *

— ...І паслаў Ірад-цар сваіх воінаў, каб яны пазабівалі ўсіх малышоў. І разышліся воіны па ўсёй краіне, і сталі забіваць... Маленькіх дзетак адбіралі ад матак і разбівалі ім галовы аб каменні.

Тонкі галасок васьмідзесяцігадовага дзеда Карнея праціnaў наскрозь яго слухачоў. А слухачамі былі бліжэйшыя дзеці, у тым ліку Сцёпка, Таня і Міша. Яны стаялі скамянелыя і баяліся дыхнуць. Дык вось хто такі Ірад! Усе яны не раз чулі слова «ірад» і зусім не ведалі, што гэта быў нейкі цар, які загубіў столькі дзяцей.

— А... а завошта ён забіваў іх? — сабраўшыся з духам, спытаў Міша.

— А так сабе, па злосці сваёй. Бо ён быў ірад, гэта значыць, без сэрца і без сумлення. Тысячы год прайшлі ад таго часу, а ўсе людзі на зямлі памятаюць яго...

Часта пасля таго ўспамінаў Міша апавяданне пра Ірада-цара, пра яго лютую, дзікую расправу з дзецьмі. А тут яшчэ пайшлі чуткі, што немцы ўсюды шукаюць яўрэяў і ўсіх да аднаго забіваюць. Забіваюць так сабе, па злосці сваёй, і не адных дзяцей, а і дарослых. Нават не проста забіваюць, а ўсяляк мучаць. Міша часта заўважаў, як старэйшыя аб нечым гаварылі з мамай, уздыхалі, а калі падыходзіў Міша, то спынялі гутарку. Ды і наогул усе навакол сталі пазіраць на яго і на маму неяк асабліва, спачувальна. А праз колькі часу дзеці расказалі яму, што ў іх раённым мястэчку немцы расстралялі ўсіх яўрэяў да апошняга чалавека.

— Тваёй маме трэба хавацца,— сказалі яны.— А табе не трэба.

А потым падумалі, падумалі і дадалі:

— А мо і трэба... Хто яго ведае...

У беднага Мішы аж галава закружылася ад пякучых пытанняў, якія раптам нахлынулі на яго. Столькі часу ён жыве, і нідзе ніколі не даводзілася аб гэтым ні гаварыць, ні думаць, ні чуць. Праўда, ён ведаў, што маці яго яўрэйка, што па выгляду яна не такая, як цётка Алеся, але нічога з гэтага не вынікала. У бацькі, напрыклад, нос быў не такі, як у дзядзькі Андрэя,— і ніколі пра гэта сур'ёзных гутарак не было. А цяпер выходзіла, што ад такіх рэчаў залежыць іхняе жыццё. У чым жа справа?

Адказваць на ўсе гэтыя пытанні, вядома, прыйшлося маме.

— Мама, ці праўда, што нам трэба хавацца ад фашыстаў, што яны хочуць забіць нас?

— Праўда, родны мой, праўда.

— Чаму?

— А гэта ўжо яны адны ведаюць.

— І цябе, і мяне хочуць забіць?

— Мусіць, так. Але ў першую чаргу мяне.

— А што ты ім зрабіла?

— На жаль, я ім нічога не магла зрабіць.

— А цётку Алесю яны таксама хочуць забіць?

— Пакуль што яе не чапаюць.

— Чаму ж яе не чапаюць, а толькі нас?

Што можна было адказаць малому дзіцяці на такое пытанне, калі не кожны дарослы разбярэцца, у чым тут справа?

Маці паспрабавала была сёе-тое яму растлумачыць, але хутка пераканалася, што гэта немагчыма. Тады яна абняла Мішу, пацалавала і сказала проста:

— Не ламай ты дарэмна галаву, сыночак. Вырасцеш — зразумееш. А цяпер будзем хавацца і чакаць. Прыйдзе час, прагоняць нашы немцаў, вернецца тата — і зноў зажывём, як раней.

Праз некалькі дзён у хаце адбыўся агульны сход сям'і з удзелам бліжэйшых суседзяў. Цётка Алеся выступіла з такім «дакладам»:

— Цяпер ужо ўсім вядома, што немцы забіраюць і да аднаго знішчаюць яўрэяў. Значыць, пагражае небяспека і нашай братавай з сынам. Нам удалося дастаць паперку, што яна ўкраінка і завецца Хрысцінай. А Міша будзе не яе сын, а наш. Памятайце, Сцёпа і Таня: Міша будзе ваш родны брат, а цётка Сара будзе называцца цёткай Хрысцяй. Ад сённяшняга дня будзем усе так называць яе. Не прагаварыцеся перад чужымі, асабліва калі хто будзе распытваць. Памятайце, што ад аднаго вашага слова будзе ім смерць.

Горача падтрымаў яе дзед Карней:

— Наўрад ці знойдзецца ў нас такі ірад, які выдаў бы сваіх людзей на смерць... Небяспека можа быць толькі ад дзяцей. Вы добра разумееце, дзеткі, якая тут важная рэч?

— Разумеем! — хорам адказалі Сцёпка, Таня і яшчэ двое суседскіх дзяцей.

— Не прагаворыцеся?

— Не! Не!

Пачаўся новы перыяд Мішавага жыцця. Усе да іх ставіліся яшчэ больш ласкава, яшчэ больш спагадліва, чым раней, а яны адчувалі сябе так, нібы аддзяліліся ад усіх і жывуць удваіх зусім асобным жыццём. Так бывае, калі хто ў сям'і хворы на сухоты: усе шкадуюць яго, спачуваюць, даглядаюць — і ва ўсім гэтым адчуваецца, што хворы не такі чалавек, як усе, што ён знаходзіцца на другім баку іхняга жыцця. Маці яшчэ болей,— калі гэта наогул было магчыма,— тулілася да сына і часам напаміналa:

— Глядзі, Мішачка, каб пры чужых людзях ты не назваў мяне мамай. А калі са мной што здарыцца, ну, скажам, схопяць мяне, то ты нават і не глядзі ў мой бок і трымай сябе так, як усе іншыя дзеці.

Міша пазіраў на яе сваімі вялікімі ўдумлівымі вачыма і ціха казаў:

— Я ўсё роўна не разлучуся з табою.

Маці палохалася, пачыналіся ўгаворы:

— Не, не, не кажы так! Не трэба! Ты мне нічым не паможаш, а толькі сам дарэмна загінеш. Табе трэба жыць. Дачакаешся таты... і будзеце жыць шчасліва...

Тут ужо сэрца маці не вытрымлівала. Слёзы яе гарачымі кроплямі падалі на галаву сына, цяклі ўніз і змешваліся з яго слязьмі...

Тым часам небяспека падыходзіла ўсё бліжэй і бліжэй. Замест ранейшага, свайго старасты, прыслалі другога, чужога. З'явіліся так званыя паліцаі, пра якіх казалі, што яны горш за немцаў. Варта было каму-небудзь на вёсцы ці наўмысля, ці знянацку сказаць адно слова — і Міша з мамай загінуць... Але ішоў час, тыдзень за тыднем, а на вёсцы такога вылюдка не знаходзілася. Ці доўга можа так цягнуцца?..

Што перажывала маці, кожны сам зразумее. Сыну ж яна нічога не казала, перад ім яна старалася быць спакойнай.

Але Міша ўсё роўна разумеў і адчуваў, што вакол іх адбы-

ваецца нешта страшнае. Яму ўсё здавалася, што «яны» недзе тут блізка, шукаюць яго з мамай, распытваюць пра іх... А раз уначы Міша разбудзіў усіх сваім крыкам: яму прыснілася, што нейкія салдаты схапілі яго і цягнуць да самога Ірада-цара. Той сядзіць на троне, страшны, валасаты, і крычыць: «Давайце сюды гэтага Мішу!..» Але ці мала якая бязглуздзіца можа сасніцца маломў дзіцяці?..

На жаль, гэта была зусім не бязглуздзіца: новы Ірад, што сядзеў у Берліне, сапраўды разаслаў воінаў па Еўропе, каб яны шукалі і забівалі такіх малышоў, як Міша. Ён і яго слугі не маглі адчуваць сябе спакойна, пакуль тут, у глухім кутку Беларусі, хаваўся маленькі Міша.

* * *

Нарэшце вылюдак знайшоўся. Хто такі ён быў — мы не ведаем. Можа, пазней даведаемся...

Да хаты цёткі Алесі пад'ехала грузавая машына. З кабіны выйшаў немец, з машыны злезлі два паліцаі. Яны хуценька, не спыняючыся, пайшлі ў хату. У хаце была адна Мішава мама — яна гатавала абед. Алеся была ў хляве, але ўжо спяшалася ў хату следам за немцамі. А за ёю беглі дзеці, у тым ліку і Міша. Сэрца яго забілася хутка-хутка, худзенькі тварык зрабіўся цьмяным і нібы скрывіўся ад болю. Ён памятаў, што яму трэба хавацца ад фашыстаў, але ж там, у хаце, была мама. Хіба мог ён пакінуць яе?

— Вэр іст дас? — спытаў немец, паказваючы канцом бізуна на Мішаву маму.

— Хто такая? — паўтарыў паліцай.

Цётка Сара, або Хрысця, так спалохалася, што не магла сказаць ні слова. Як на тое ліха, яна была без хусткі і ад гэтага яшчэ меней нагадвала беларускую сялянку.

— Хто ты такая? — яшчэ больш грозна спытаў паліцай.

Але адказваць ёй не прыйшлося: падаспела цётка Алеся і з парога крыкнула:

— Не чапайце — гэта мая братавая, Хрысціна.

— Жыдоўка?

— Не, украінка. Вось вам дакумент.

— Няпраўда! — крыкнуў паліцай, нават не гледзячы ў дакумент.— Нам вядома, што яна жыдоўка і ў яе ёсць сын. Дзе ён?

Дзеці стаялі каля парога. Калі паліцаі і немец зірнулі на іх, яны шарахнуліся прэч, у сенцы. Звычайныя сялянскія дзеці.

— Ды няма ў яе ніякага сына! — казала цётка Алеся.— Спытайцеся каго хочаце.

У сенцах ужо сабралася нямала людзей. Адным з першых быў дзед Карней. Ён кашлянуў у кулак і выступіў наперад:

— Паважаныя... паны! Павінен вам сказаць, што мы ўсе, суседзі, так сказаць, лічым яе ўкраінкай, бо ў яе ёсць такі дакумент...

Але немец, відаць, зусім не меў ахвоты выслухваць розныя выступленні. Ён паказаў бізуном, каб жанчына выходзіла.

— Збірайся! Там разбяромся,— крыкнуў паліцай.

Бедная жанчына так і не сказала ніводнага слова. Яна ведала, што ўсе словы тут будуць лішнімі. Калі яны прыехалі па яе, то ім ужо ўсё роўна, ці яўрэйка яна, ці ўкраінка, ці армянка. Самае галоўнае ў тым, што яны як быццам не надта стараюцца знайсці сына. Ці яны не ўпэўнены, ці лічаць гэтую справу не такой ужо важнай, але пакуль яны не перадумалі, трэба спяшацца, трэба хутчэй вывесці іх адсюль разам з сабой...

З дапамогай Алесі яна хуценька сабралася і пайшла з хаты. Наперадзе — немец, ззаду — два паліцаі. Па баках стаяць людзі, адны ўздыхаюць, другія плачуць, трэція сціскаюць кулакі. Тут, паміж іх, знаходзіцца яе Міша, хлопчык, якога пачынае горача любіць кожны, хто толькі яго ўбачыць. Ён вось тут, зусім блізенька, яна зараз пройдзе каля яго, можа, нават дакранецца да яго... Але нельга, нельга глядзець у гэты бок, бо яна можа не вытрымаць... А яшчэ хутчэй можа быць — ён не вытрымае.

Яна і не глядзіць у гэты бок, але ўсё роўна, мусіць, усімі клеткамі свайго цела бачыць, як ён праціскаецца наперад, а

цётка Алеся, дзед Карней і іншыя жанчыны ціхенька, лагодненька адціскаюць яго, засланяюць ад немцаў і... ад мамы. І людзі гэтыя таксама думаюць аб адным: ці вытрымае такую пакуту хлопчык?

Цётка Алеся і дзед Карней перашапнуліся і паспрабавалі былі зусім вывесці Мішу адсюль, але ў яго вырваўся такі стогн, на які маглі звярнуць увагу немцы. Ясна было: калі яго гэткім спосабам адлучыць, то ён так заплача і закрычыць, што ўсё адкрыецца. Значыцца, прыйдзецца яго пакінуць да канца. Але ж ці вытрымае ён?..

Міша кідаўся наперад то ў адным, то ў другім месцы, каб зірнуць на маму, але ўсюды натыкаўся на цётку або дзядзьку. Ён высоўваў галаву з-за спіны, з-пад рукі — і ўсюды гэтыя рукі ласкава затрымлівалі яго, пяшчотна гладзілі па галаве, і то над адным, то над другім вухам чуўся ціхі шэпт: «Маўчы, Мішачка, маўчы, усё будзе добра, мама вернецца».

Маці ішла гордая і нібы спакойная. Але гэта быў не спакой, а здранцвеласць. Яна глядзела прама наперад, але нічога і нікога не бачыла, апрача свайго сына. Яна ж бачыла яго ў гэтыя хвіліны апошні раз і не магла не толькі прытуліць да свайго матчынага сэрца, але нават не мела права паглядзець яму ў вочы. Бо тады... тады невядома што будзе... Толькі б не глянуць у вочы!..

Яна ўзлезла на машыну. З ёю селі два паліцаі. Немец палез у кабіну. Загуў матор. Зараз маці і сын разлучацца навекі... Хоць бы яшчэ раз, адзін толькі разок убачыць яго мілы тварык!.. А вось ён!.. Вялізнымі-вялізнымі вачыма, поўнымі жаху і нечалавечай пакуты, глядзіць ён на маці. Цётка Алеся абдымае яго, хоча засланіць ад мамы, але дарэмна...

Маці і сын усё ж такі сустрэліся вачыма. І ўсё, што было паміж імі і вакол іх, адразу знікла. Яны асталіся адны ва ўсім свеце — блізкія-блізкія. Навошта Мішу туляцца тут, калі там мама? Хіба можна жыць без мамы? Невядомая сіла падхапіла хлопчыка і кінула наперад.

— Мама!!! Мама!!! — пачуўся такі крык, што заглушыў нават матор.

Маці на міг прыўзнялася, хіснулася насустрач сыну, але зараз жа адвярнулася і стала глядзець у другі бок...

Многа рук схапілі Мішу і павялі ад машыны. Але ўжо было позна... Немец з крыкам: «Вас? Вас?» — выскачыў з кабіны. Слова «мама» для яго было такім жа зразумелым, як і для ўсіх іншых людзей. Саскочылі з машыны і паліцаі.

— Ану, давайце сюды і сына! — крыкнулі яны.

Затрапятала маці, замахала рукамі, закрычала ў роспачы:

— Гэта не мой сын! Я зусім не ведаю гэтага хлопчыка!

Але безнадзейная і наіўная спроба выклікала ў фашыстаў толькі смех.

Праз хвіліну мама прагна абдымала і цалавала Мішу, а яму было так добра, так прыемна, нібы цяпер ужо скончыліся ўсе трывогі і для іх настала шчаслівае жыццё.

Машына паехала. Людзі моўчкі глядзелі ёй услед. І ва ўсіх іх, старых і малых, сваіх і чужых, добрых і злых, была ў сэрцы адна думка: «Завошта?..»

* * *

Доўгі, нізкі барак. А ў бараку людзей многа-многа. І такія самыя мамы, і дзеці, і старыя бабулі, і маладыя прыгожыя дзяўчаты. І старэйшыя за Мішу хлопчыкі, якія звычайна не могуць сядзець на месцы, а ўсюды лётаюць, крычаць, на галовах ходзяць. А тут яны былі ціхія, смірныя. Бегаць і крычаць не маглі ад голаду. І Міша не мог і не хацеў бегаць.

Звычайна ён сядзеў з мамай у кутку, на голых нарах. У мамы захавалася вялізная шарсцяная хустка, і калі яны ўдваіх накрыюцца гэтай хусткай з галавою, то так цёпла і ўтульна робіцца — не хочацца і вылазіць. А мама ціхім голасам расказвае казкі, многа казак. Тады ўжо Міша забываецца і на барак і на голад, і на ўсе жахі, што адбываюцца навокал іх.

Найбольш урэзаліся ў памяць такія словы:

— Нічога, Мішачка, перацерпім усё гэта... Нас павядуць, паставяць на краі яміны і будуць страляць. Але ты не бой-

ся — гэта зусім не балюча. Стукне нібы каменем, у цябе закружыцца галава — і ты заснеш. І ўсё. Памятаеш, як заснула Соня?

Міша добра памятаў гэта. Памятаў, як яна хілілася ўсё ніжэй, ніжэй — і больш нічога не было. Ці так яно будзе з ім самім?.. Калі мама гаворыць аб гэтым так проста, так спакойна, то, пэўна, нічога страшнага няма. Мама ж ведае, што гаворыць.

* * *

...І дзень гэты прыйшоў. Сабралі іх у адну кучу многа-многа. Тут былі і старыя з сівымі барадамі, і маладыя, і такія, як Міша, і зусім маленечкія, на руках у мам. А жанчын было яшчэ болей. І ўсе плакалі, енчылі. Толькі Мішава мама не плакала: яна нібы нічога не чула, не бачыла, не разумела.

— Мама, нас ужо расстрэльваць павядуць? — спытаў Міша такім тонам, нібы справа ішла аб чымсьці звычайным.

Мама нічога не адказала: хоць яна трымала Мішу за руку, але яе самой тут не было...

Пайшлі. Навокал — шэрыя постаці з аўтаматамі. Па дарозе сустракаюцца людзі, якіх пакуль што не чапаюць. Яны яшчэ папрацуюць на немцаў, а потым, можа, і іх знішчаць... А цяпер яны з жахам глядзяць на працэсію і думаюць: «Завошта?..» Гэтае слова часта выкрыквалі тыя, каго вялі. Чуў Міша, як і мама шаптала гэтае самае слова.

Толькі сам Міша такога пытання не ставіў, бо яму ўсё было ясна. Гэта ж тыя самыя фашысты, з якімі ён калісьці ваяваў дома! Вядома, яны злуюць на яго і хочуць яго забіць. На тое яны і фашысты. А Гітлер, дык той даўно на яго вострыць зубы.

Адзін Міша мог адказаць на пытанне — завошта? А больш ніхто не ведаў. І не мог ведаць. Бо прырода такой магчымасці не прадугледзела.

Падышлі да вялізнай ямы. Фашысты выстраіліся супраць іх у шарэнгу. Загадалі ўсім зняць верхняе адзенне і акуратна

складці каля ног. Гэтае адзенне яны пашлюць у Германію, каб насілі іхнія жанчыны і дзеці.

А потым Міша заўважыў, як супраць іх шэрыя постаці наладжвалі кулямёт...

Але ўсё гэта было зусім не страшна. Страшней былі жудасныя крыкі і плач. Страшней была вось гэтая высокая, худая цётка з распушчанымі рыжымі валасамі і ў адной сарочцы. На адной руцэ ў яе было маленькае дзіця, а другою рукой яна гразіла немцам і праклінала іх. А якія былі яе вочы! Раптам яна зарагатала, гучна, дзіка, паказваючы белыя зубы. А потым кінула сваё дзіця ў яму... У тую ж мінуту гэтаксама засмяяўся і заспяваў нехта з другога боку...

Тут Міша адчуў, як мама схапіла яго, падняла на рукі і прытуліла да сябе так, што ён больш нічога не бачыў, а толькі чуў, як стукае маміна сэрца.

— Не бойся, дзіця маё,— пачуў ён ціхі голас.

І яму зрабілася так цёпла, так саладка на грудзях у мамы, так захацелася заснуць...

Тады яго моцна стукнула ў адным месцы, у другім,— і яны з мамай кудысьці паляцелі...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ірад у Берліне ў той дзень мог святкаваць перамогу над хлопчыкам Мішам, тым самым Мішам, які з малымі не ваяваў.

Але толькі адзін дзень ён мог святкаваць.

Бо назаўтра ў Берлін прыйшоў Мішаў бацька, а з ім яшчэ многа нашых людзей. Яны ўшчэнт зруйнавалі ірадаву бярлогу, знішчылі тысячы і тысячы фашыстаў.

Але Мішу вярнуць ніхто ўжо не мог.

Няхай жа памяццю аб ім будуць гэтыя радкі.

*1945 г.*

# ДОМ ПРЫ ДАРОЗЕ

## 1

Васільку тады было гадкоў шэсць, але ён ніколі не забудзе гэтага дня.

Як усё пачалося і ад чаго — ён не ведаў. Дзе быў і што рабіў — ён не памятаў. Добра памятае толькі дым, агонь, крыкі, плач, страляніну, грукат і ўрыўкі некаторых падзей.

Вось гарыць на тым баку вуліцы хата дзеда Сцяпана. Дым і агонь выбіваюцца з-пад страхі, а наверсе круціцца чорны кот, якога так баяўся Васілёк. Цяпер гэты кот зусім не страшны, а наадварот — і маленькі, і няшчасны, і плача, нібы дзіця малое. А потым са звонам разляцелася шыба і ў акне паказаўся дзед Сцяпан. Белая галава, белая барада, белая кашуля, белы твар і нават вочы белыя. Дзед высунуўся з акна, падняў кулакі і крыкнуў такім голасам, якога Васілёк ад яго ніколі не чуў:

— Будзьце вы праклятыя, лютае звяр'ё!

Тады збоку затрашчалі стрэлы, і дзед грудзьмі лёг на падаконнік, а белая галава і белая барада звесіліся за акно.

Потым Васілёк бачыў, як пачынала гарэць хата цёткі Антаніны, на якую перакінулася полымя з свірна Курылёнкавых. Вельмі пацешна было глядзець, як хата загаралася: спачатку край даху пачарнеў, потым патрохі пачаў курэць, а потым то тут, то там сталі выскакваць зайчыкі — з'явіцца аднекуль, паскача трохі ды і знікне, потым зноў выскачыць, пакруціцца — і зноў знікне. Усё часцей і часцей выскаквалі зайчыкі, а потым прычапіліся і болей ужо не знікалі — страха пачала гарэць. Цётка Антаніна, яе дачка Каця і старая бабуля з крыкам і плачам выносілі і выкідалі праз акно розныя свае рэчы, але падбег фашыст, нешта забалбатаў, потым нацэ-

ліў сваю кароткую стрэльбу, і ўсе жанчыны пабеглі прэч. Васількова маці заламала рукі:

— Што ж гэта такое? Нават узяць нічога не даюць!..

Бачыць Васілёк — і да іх бяжыць фашыст. У адной руцэ такая самая кароткая стрэльба, а ў другой шугае полымем не то пук саломы, не то нешта другое. Фашыст вызверыўся на іх, паказваючы, каб адышлі прэч, а сам падышоў да хлеўчука і падпаліў саламяную страху... Маці з плачам пабегла прэч і пацягнула за руку Васілька, але ён усё азіраўся, каб паглядзець, як будуць запальвацца іхнія будынкі. Але бачыць гэта яму не давялося; ён паспеў толькі заўважыць, як заварушылася саламяная страха на хлеўчуку, хоць самога агню на сонцы не было відаць.

Яны кудысьці беглі разам з другімі людзьмі. Усе крычалі, галасілі, агонь трашчаў, фашысты стралялі...

Васілёк яшчэ бачыў, як у варотах свайго дома затрымаўся дзядзька Даніла; ён перавязаў вяроўкай свінню і хацеў яе вывесці, а яна пацягнула зусім не туды. Пакуль ён важдаўся, ззаду падышоў гітлераўскі афіцэр і ціха, спакойна, не гаворачы ні слова, выстраліў дзядзьку Данілу ў спіну. Даніла паваліўся, а афіцэр зарагатаў і сказаў нешта свайму салдату. Той ухапіўся за вяроўку і пацягнуў свінню па вуліцы.

Васілёк ніяк не мог разабрацца, куды яны бягуць. Калі выбеглі на агарод, то ўбачылі гітлераўскіх салдат, якія пагналі іх назад. Пабеглі ў другі бок, народу збіралася ўсё больш і больш. Але раптам усе зноў шарахнуліся назад.

Такім і застаўся назаўсёды ў памяці Васілька гэты дзень: дым, трэск, агонь, плач, страляніна, а яны ўсё бегаюць ды бегаюць туды і сюды...

## 2

Колькі часу яны едуць?

Можа, тыдзень, а можа, год. Такія думкі не раз прыходзілі Васільку ў галаву. Але толькі спачатку, у першыя дні. А потым ніякіх думак у галаве не было. Была толькі млявасць, сон

або непрытомнасць і страшэнная смага. Есці хацелася не менш, як піць, але больш пакуты было ад смагі.

У таварны вагон напхалі людзей, як селядцоў. Васільку з маткай пашанцавала: яны сядзелі ў кутку, ля сцяны. Маці магла сядзець, абапёршыся спіной аб сцяну, а Васілёк прытуліўся на яе каленях. А тым, каму выпала месца пасярэдзіне, было куды горш: яны абапіраліся толькі адзін на аднаго, а калі сусед паміраў, то было зусім нязручна...

Спачатку людзі ў вагонах галасна абураліся, плакалі, крычалі, прасілі піць, есці, нават пачалі былі стукаць у дзверы. Але пасля таго як аднаго разу ў адказ на стук пачуліся стрэлы, у вагоне сталі чутны толькі ціхія стогны і енкі. І раніцаю, і ў поўдзень, і ў поўнач не змаўкалі яны. Здавалася, жалеза і каменні маглі растапіцца ад гэтай бязмежнай чалавечай пакуты. Не магло толькі пачуць стогнаў сэрца фашысцкае.

Часам, не болей аднаго разу на дзень, дзверы вагона адчыняліся і людзі маглі ступіць на зямлю, выпіць конаўку вады, атрымаць кавалачак дрэннага хлеба, глынуць свежага паветра. А потым зноў бясконцыя пакуты...

Колькі дзён яны ехалі — невядома. Але нарэшце ўсё ж такі кудысьці прыехалі. Гэта быў глухі куток чыгуначнай станцыі, а ўбаку відаць быў гарадок.

Выгрузілі ўвесь народ з вагонаў і завялі ў баракі, абнесеныя калючым дротам.

Наш Васілёк хоць і змарнеў за гэты час, але адразу ажывіўся, убачыўшы вакол сябе столькі новага, цікавага, незвычайнага. У бараках нары былі зроблены ў тры паверхі, і хлапец вельмі пакрыўдзіўся, што ім далі месца ўнізе, а не на самым версе.

Тут ён знайшоў сваіх старых сяброў: Яшку Цыганёнка, Петрыка Баравікова і Арынку, з якой Васілёк часта гуляў. А дарослыя, дык тыя бадай усе ведалі адзін аднаго — яны ж былі з аднаго раёна.

Дзеці зараз жа асталяваліся тут і заняліся сваімі справамі. Зрабілі сабе клуб у старым іржавым фабрычным катле і зусім было нарыхтаваліся распачаць гульні, але...

Да іх у баракі пачалі хадзіць мужчыны, жанчыны, нават

дзеці. Чым далей, тым усё болей і болей немцаў прыходзіла. Тады ўсіх нашых людзей выводзілі на двор і загадвалі стаяць на месцы, а немцы хадзілі сярод іх, аглядалі, краталі, паварочвалі туды і сюды. Некаторыя расхіналі адзенне і глядзелі на плечы, прыглядаліся да вачэй, вушэй, зубоў.

— Мамка, навошта гэтулькі дактароў прыслалі да нас? — здзівіўся Васілёк.

— Ох, дзетка мая! — адказала маці.— Не дактары гэта, а людаеды. Яны ж купляюць нас, як жывёлу.

— Ой, ці не зарана яны перавярнулі нас у жывёлу! — сказаў адзін дзядзька з рыжай барадой.— Наша дзяржава яшчэ непакораная, наша войска яшчэ незлічонае.

І дзядзька гэты, немалады, але, відаць, дужы яшчэ чалавек, нават выпрастаўся і расправіў плечы, нібы адчуў якуюсь новую сілу. Гэта, відаць, спадабалася аднаму маленькаму вяртляваму немцу, які зараз жа купіў сабе гэтага дзядзьку як бадзёрага і дужага работніка.

Міма Васілька праходзіла нямецкая сямейка: суровы вусаты бацька, тоўстая матка, пульхная светлавалосая дачка і цыбаты, нібы бусел, сынок гадоў дванаццаці. Васілёк вельмі зацікавіўся гэтым сынком. Як ён быў добра ўбраны! Шапка, бы ў вайскоўца, шэрая куртка з кішэнямі, складкамі і поясам, белы каўнерык і пышны гальштук, кароткія штаны, цудоўныя панчохі і чаравікі, на плячах кароценькая накідка ці плашч, а ў руках нібы дубец, толькі сплецены з раменьчыкаў.

Васілёк з такім шчырым захапленнем пазіраў на немчука, што той нават спыніўся перад ім і з цікавасцю стаў аглядаць яго. А потым засмяяўся: вельмі пацешным здаўся немчуку гэты бялявы беларускі хлапчук з кірпатым носам.

— Мама, купі мне гэтага хлопчыка! — звярнуўся нямчук да сваёй маці.

— Навошта ён табе? — спытала немка, аглядаючы Васілька з галавы да ног.

Васілёк і яго маці адразу сцямілі, што гутарка ідзе аб іх, і з хваляваннем чакалі, што будзе далей.

— Купіце, я хачу! — крыкнуў нямчук.— Я хачу мець свайго ўласнага хлопчыка. Ён такі пацешны.

— Дзеля гэтага прыйдзецца браць і яго матку,— сказаў немец,— а яна такая шчуплая, кволая.

— Вы ж мне абяцалі купіць поні,— настойваў сын.— Вось замест поні і купіце гэтага хлопчыка. Я хачу!

І ён нават пачаў плакаць. Сэрца бацькоў не магло сцярпець такога дзіцячага гора, і яны купілі абаіх.

## 3

У Прусіі, на шасейнай дарозе з Бруненсдорфгаўзена ў Клінкенсдорфбрунен, здаўна стаяў шырокі, нібы прыплюснуты дом пад чарапічным дахам. На старой пачарнелай шыльдзе вопытнае вока магло б разабраць слова «гастгаўз» — гасцініца, а па-нашаму проста карчма ці заезны дом. Праезджы мог тут адпачыць, падмацавацца, пераначаваць. У вольны час збіраліся сюды навакольныя бюргеры, каб пасядзець за вялізным куфлем піва і пагаварыць аб тым, як немцы заваююць увесь свет. Ад шасэ дом аддзяляўся садам з чатырох яблынь і кустамі агрэсту ды парэчак. За домам быў вялікі двор, стадола, хлявы і розныя гаспадарчыя будынкі. Далей ішоў невялікі ўчастак зямлі, з якой гаспадар выціскаў чужымі рукамі ўсё, што толькі можна.

Сюды і прывезлі Васілька з маткай Арынай. Хлопчыка, як сваю «ўласнасць», узяў сабе гаспадарскі сынок Макс. Васілёк павінен быў спаць на падлозе ля дзвярэй яго пакоя і выконваць усё, што ўзбрыдзе ў дурную галаву фашысцкага выхаванца.

Маці Васілька змясцілі ў хляве. Гэта быў доўгі цагляны будынак з загарадкамі для жывёлы і з цэментавай падлогай. Там было некалькі пустых загарадак. У адной ужо жыла купленая «рабыня» — беларуская настаўніца Марыя Ларчык. Сустрэліся дзве жанчыны, абняліся, заплакалі, а потым вырашылі:

— Усё ж такі разам лепей. Выжывем як-небудзь і дачакаемся таго часу, калі гэтых самых гаспадароў паселім сюды.

Пачалося беспрасветнае, катаржнае жыццё. Ад рання да позняй ночы працавалі жанчыны, а потым валіліся на салому

ў сваіх катухах. Зімою зарываліся глыбока ў салому. Так пражылі яны два гады. Адзінае, што саграваладі падтрымлівала нявольнікаў,— гэта была цвёрдая ўпэўненасць, што час вызвалення і расплаты прыйдзе, што цемра не загасіць святло. Каб не было гэтай упэўненасці, не выжылі б многія тысячы нявольнікаў; каб не было гэтай упэўненасці, не мог бы і ўвесь савецкі народ разграміць нямецкіх фашыстаў.

Адчуваў усё гэта і малы Васілёк. Адчуваў па-свойму, падзіцячаму, але гэта былі тыя самыя пачуцці, тая самая крыўда і нянавісць, тое самае перакананне, што нашы паб'юць фашыстаў і тады ён з мамкай вернецца дадому. Адна толькі розніца была: калі дарослыя думалі пра ўсё гэта дні і ночы, кожную хвіліну, то Васілёк часта забываўся, захапіўшыся сваімі дзіцячымі справамі. Але неўзабаве штуршок яго «гаспадара» Макса напамінаў Васільку, у якім становішчы ён знаходзіцца.

Куды б ні пайшоў нямчук, Васілёк павінен быў на пэўнай адлегласці следаваць за ім і сачыць за кожным яго рухам, каб паспець падбегчы, падняць, падаць, падтрымаць. Калі не патрапіў — удар. Часам Макс наўмысля дзесяткі разоў кідаў якую-небудзь рэч, каб Васілёк падымаў і падаваў. Кідаў і ў ваду... Паколькі Васілёк быў куплены замест поні, нямчук скарыстоўваў яго і як коніка. Калі Макс ішоў у школу, Васілёк нёс яго кнігі, вечарам разуваў яго. Не пералічыць усіх «абавязкаў», якія ўскладаў на Васілька яго гаспадар. Багатыя таварышы Макса вельмі зайздросцілі, што той мае свайго ўласнага раба, і прасілі сваіх бацькоў купіць ім такіх хлопчыкаў.

Па просьбе Макса бацькі зрабілі Васільку з рыззя «форму» клоуна — рознакаляровыя шырокія штаны, высокі каўпак — і цешыліся не менш за свайго сына: які дасціпны гэты Макс, такую штуку прыдумаў! Нават падзарабіць на гэтым можна: наведвальнікі піўной пацяшаліся, выпівалі лішні куфаль піва.

Адна толькі ўцеха была ў Васілька — маці. У вольную хвіліну прытуліцца да яе і забудзе ўсе нягоды. Маці гладзіць яго па галаве, прыгаворвае:

— Перацерпім як-небудзь, сынок. Паб'юць нашы фашыс-

таў, вернемся дадому, прыедзе татка — і зноў зажывём мы вольна і шчасліва...

У немчука быў новы веласіпед па яго ўзросце, а недзе валяўся ранейшы, меншы. Макс і надумаўся скарыстаць яго для Васілька, каб той мог суправаджаць яго і ў паездках на веласіпедзе. Едзе нямчук на сваім «кані», а за ім — «ардынарац». Заедзе куды-небудзь, здасць веласіпед Васільку, а той стаіць на месцы, чакае. Выйдзе нямчук, гукне — і Васілёк «падае каня». Шмат пабояў перацярпеў Васілёк праз «панскага каня». Нямчук патрабаваў, каб веласіпед заўсёды блішчаў, каб ніводнай пылінкі на ім не было. Але выдаваліся і шчаслівыя мінуты для Васілька. Гэта тады, калі ён мог трошкі паездзіць самастойна. Яму здавалася тады, што ён вольны, што веласіпед яго ўласны...

Колькі разоў білі Васілька, ён не памятае. А вось калі аднаго разу ён убачыў, як гаспадар штурхануў кулаком маці так, што яна павалілася на зямлю,— гэта ўрэзалася ў памяць на ўсё жыццё. І яшчэ не забудзе ён, як раз'юшаная «фрау» пляснула па твары настаўніцу. Як змянілася настаўніца! Як загарэліся яе вочы! Яна нават не пахіснулася, а, наадварот, горда выпрасталася і, пэўна, кінулася б на немку, каб маці не схапіла яе за руку... А як тупала і крычала на ўсіх гэтая пятнаццацігадовая «фройлен» Эльза!

Васільку здавалася, што ён тут жыве доўга-доўга. Калі падрос ён за гэтыя два гады не дужа, то пасталеў больш, як хто за чатыры гады. Ужо праз год нямецкая сямейка пачала заўважаць, што перад імі не «цацка» для Макса, а маленькі чалавек, які глядзіць на іх не па-дзіцячаму. Яго сталі пасылаць начаваць да маткі, спынілі з ім «гульню» і знайшлі для яго работу ў гаспадарцы. Веласіпед адабралі і зноў закінулі ў хлеў.

## 4

Набліжалася вясна. Сонца пачало свяціць весялей. Ужо ў лютым на шасэ не засталося і следу ад снегу. Але знік ён не столькі ад сонца, колькі ад руху па шасэ: на ўсход ішлі ня-

мецкія машыны з салдатамі, артылерыя, танкі. Над галавой ляцелі самалёты. У гастгаўзе п'янствавалі афіцэры. Настаўніца, якая цяпер ужо ведала нямецкую мову, старалася падслухаць, аб чым гавораць фашысты, але гаспадары не дапускалі яе блізка. Аднак нявольнікі без ніякіх слоў і звестак здагадаліся: набліжаецца фронт! Не ішлі тут гітлераўскія войскі, калі фронт быў далёка.

«Нашы ідуць!..» Гэтыя словы запоўнілі цяпер душы нявольнікаў. З імі яны кладліся спаць, з імі ўставалі. Вочы іх цяпер глядзелі толькі на ўсход.

Але ніякіх змен не было. Войскі прайшлі, зноў стала па-ранейшаму. Хіба толькі часцей пралятылі самалёты і праязджалі паасобныя ваенныя машыны. А тут яшчэ надвор'е сапсавалася, зацярушыў мяккі снег. Зноў зрабілася зіма. Праз два дні — зноў вясна.

Васілёк таксама ведаў, што нашы павінны прыйсці «адтуль». І калі ўбачыў, што «адтуль» ідзе многа машын, пабег шукаць сваіх. Знайшоў іх у склепе, дзе яны перабіралі бульбу.

— Адтуль едзе многа машын! — абвясціў ён.— Можа, нашы?

Настаўніца ўсміхнулася і сказала:

— Не, Васілёк. На вайне так ціха не бывае. Нашы гоняць фашыстаў з боем.

Васілёк зноў пабег на дарогу і з прыкрасцю ўбачыў, што фашыстаў ніхто не гоніць. Яны спакойна спыніліся ля дома, і з машын выйшлі гітлераўскія афіцэры, жанчыны ў белых хустках і салдаты з перавязанымі рукамі і галовамі.

Васілёк зноў пабег у склеп.

— Раненыя прыехалі! — крыкнуў ён.

— Якія раненыя? — здзівілася маці.

— Нямецкія.

— Раненыя?! — радасна перапытала настаўніца.— Ды гэта ж азначае, што фронт блізка! Здалёк раненых на машынах не павязуць.

І ў склепе адразу зрабілася цяплей і святлей...

Пасля кароткага прыпынку эшалон раненых выехаў да-

лей, пакінуўшы ў сэрцах нявольнікаў самае светлае ўражанне за ўсе два гады.

А гаспадары ад гэтага дня зусім перасталі цікавіцца сваёй гаспадаркай, не звярталі ўвагі, што і як робяць жанчыны, хадзілі нахмураныя, часта зачыняліся ў сваім пакоі.

На шасэ ўсё больш павялічваўся рух з усходу. Ішлі грузавікі са станкамі, скрынямі, мяхамі. Часам праязджалі легкавыя машыны з сем'ямі. А калі паказаліся першыя вазы з хатняй маёмасцю, з жанчынамі і дзецьмі, з прывязанымі каровамі, настаўніца абняла Арыну і ўсклікнула:

— Арыначка, глядзі: эвакуацыя! Канец нашай няволі!

Але канца яшчэ не было. Гаспадар добра ведаў, што яны думаюць, і, падышоўшы да іх, сказаў:

— Мы часова пераязджаем у другое месца. Вы там будзеце патрэбны нам. Не падумайце ўцякаць, гэта вам не ўдасца. Вы можаце застацца толькі мёртвымі.

У гэты час з усходу ў сонечных праменнях паказаліся самалёты. Некалькі дзесяткаў іх у шчыльным страі ішлі над шасэ. Усе машыны і вазы на дарозе спыніліся, пачуліся крыкі, людзі кінуліся хто куды. Немец збялеў, гукнуў сваю сям'ю, і ўсе яны схаваліся ў склепе. На двары засталіся толькі нашы. Узняўшы галовы, яны глядзелі на самалёты, як зачараваныя.

— Мілыя!.. Родныя!.. — шапталі жанчыны са слязьмі ў вачах.

А Васілёк нездаволена сказаў:

— Чаго яны не бамбяць фашыстаў?

— Яны лепш ведаюць, што трэба рабіць,— адказала маці.

Самалёты праляцелі. Вылезлі са склепа немцы. Настаўніца не ўтрымалася і сказала:

— Дарэмна вы спалохаліся: нашы мірных жыхароў не бамбяць.

— Маўчаць! — гыркнуў фашыст.— Бярыцеся за працу! Хутчэй!

Жыў у немца стары батрак Карл, які працаваў тут гадоў сорак. Цяпер гаспадар трымаў яго «з ласкі», а за гэта Карл бясплатна быў вартаўніком, даглядаў гаспадарку і рабіў усё, што мог. Гэтага Карла парашылі пакінуць тут за гаспадара.

Аднекуль з'явіўся худы, сутулы чалавек з жонкай і дарослай дачкой, і ўсе яны старанна пачалі дапамагаць грузіць рэчы. Настаўніца даведалася, што гэта быў суседні рымар. Ён таксама збіраўся ўцякаць, але не меў каня. А маёмасць яго складалася з некалькіх клункаў. Гаспадар гастгаўза скарыстаў гэта і прапанаваў яму месца на сваім возе. За гэта рымар павінен быў дапамагаць яму ў дарозе.

На другі дзень з гастгаўза выязджалі два вялізныя вазы, так званыя «кары». Такія кары разлічаны на два кані, але немцу хацелася ўзяць як мага болей грузу, і ён, адпіліўшы дышлы, запрог сваю пару коней пастронкамі ў два вазы. Коні без аглабель матляліся ў розныя бакі, кіраваць вазамі было надзвычай цяжка, і везці іх коні маглі толькі па добрым шасэ, але затое немец забраў з сабой бадай усю сваю маёмасць. На пярэднім возе сядзеў ён сам з сям'ёй, на другім — рымар і нашы палонныя. Ззаду прывязаны былі дзве каровы.

Вазы ўліліся ў паток бежанцаў, які павольна рухаўся па шасэ. Арына вельмі гаравала, што прыходзіцца ехаць далей ад сваіх, але настаўніца весела сказала:

— Цяпер ужо яны нікуды не дзенуцца. Ды і ўцячы з дарогі нам будзе лягчэй.

## 5

Вясна ўжо значна пасунулася наперад. Снег застаўся толькі ў лагчынах ды пералесках. Уверсе, на сваім пасту, заліваўся жаўранак. Сям-там паказалася рунь. Апрача глухога шуму на шасэ, усюды было ціха і спакойна. Справа і злева сядзяць хутары, моцныя, каменныя, як крэпасці. Дарогі абсаджаны дрэвамі, большай часткай пладовымі. Палі перагароджаны дротам на клеткі, як на шахматнай дошцы.

Васілёк глядзеў на гэтую карціну, і яму, як у сне, успаміналіся другія карціны, там, на радзіме. Недакладна ўспаміналіся, паасобнымі ўрыўкамі, але якімі прывабнымі ўяўляліся яму гэтыя ўрыўкі! Зусім не тое, што тут. Тут усё няўтульнае, чужое, злоснае. І сонца тут горшае, і дрэвы нецікавыя, і жаўранкі дрэнна пяюць...

— І чаго яны лезлі да нас? — задумліва прамовіла Арына.— Здратавалі нашу зямлю, а цяпер вось і ім тое самае будзе.

— Я думаю, яны самі цяпер так думаюць,— адказала настаўніца.— Але ці тое самае будзе? Нашы ж не будуць так усё знішчаць і забіваць людзей, як яны.

— А я зрабіла б тое самае! — злосна сказала Арына.

— Ого, якая ты лютая! — засмяялася настаўніца.

Немкі злосна зірнулі на іх і адвярнуліся.

Бясконцай калонай цягнуліся на захад бежанскія вазы, ручныя каляскі, здвоеныя веласіпеды. Іх абганялі машыны з грузамі прадпрыемстваў, устаноў, гаспадарчых і спецыяльных вайсковых часцей — адным словам, з усім тым, што звычайна адвозіцца ў тыл у крытычны момант на фронце.

І вось раптам увесь гэты паток спыніўся. Людзі саскочылі з вазоў і машын, замітусіліся, нешта крычалі, паказваючы рукой у той ці другі бок, а потым, як вада з грэблі, рынуліся ўсе машыны з шасэ направа. Некалькі машын перакуліліся, многія загразлі; людзі кідалі іх і ішлі далей пешшу. Праз некалькі мінут шасэ ачысцілася ад усіх машын і ўсіх тых людзей, якія мелі дачыненне да вайсковых ці службовых спраў. Засталіся толькі бежанцы.

Васілёк спалохаўся гэтай мітусні і прыціснуўся да маткі, а яна шчаслівым голасам казала:

— Радуйся, сынок. Значыцца, нашы ўжо наперадзе. Таму немцы і ўцякаюць.

Але немцам у той бок уцякаць вельмі не хацелася. Кожны хацеў прабрацца далей на захад, у глыб Германіі, а цяпер прыходзілася пасоўвацца на поўнач, да мора. А далей куды?.. Калі машыны і салдаты маглі яшчэ спадзявацца, што паспеюць праскочыць, то бежанцы са сваімі вазамі, каровамі і сем'ямі не надта спадзяваліся. А кідаць сваё дабро так не хацелася! Між тым наперадзе нічога не відаць і ніякіх стрэлаў не чуваць. Можа, рускіх няма, можа, іх адбілі?

Па ўсёй дарозе немцы збіраліся кучкамі і выrашалі гэтыя пытанні. Часам то адзін, то другі воз неахвотна заварочваў направа. Некаторыя прыпыняліся, чакалі: а можа, не прыйдзец-

ца ехаць туды? Каля воза, дзе сядзела гаспадыня, стаялі яе муж і рымар. Гаспадыня выцірала хусткай слёзы. Рымар з вінаватым выглядам нешта казаў гаспадару, а той, чырвоны ад злосці, крычаў, лаяўся.

— Рымар хоча вярнуцца назад,— растлумачыла настаўніца.

Глухое тарахценне наперадзе спыніла спрэчкі. Усе вочы накіраваліся ў той бок. Настаўніца ўстала на возе. Устала на сваім возе і гаспадыня.

Далёка на гарызонце вызначылася некалькі кропак. Праз хвіліну можна было пазнаць, што гэта матацыклісты. Але чые — невядома. Яны хутка набліжаюцца. Відаць ужо на грудзях вадзіцеля бліжэйшага матацыкла аўтамат, а ў калясцы сядзіць, нацэліўшыся, кулямётчык. Твар немкі святлее: калі не страляюць у людзей, значыцца, свае. Рускія напэўна стралялі б. Яшчэ хвілінка...

— Нашы! — крыкнула настаўніца і замахала рукой.

А немка, як мех, асунулася на воз...

Праз трэск і шум чуліся галасы матацыклістаў:

— Цурук! Нах гаўзэ! (Назад! Дадому!)

Праз некалькі хвілін за матацыклістамі праехаў наш лёгкі танк. І адтуль таксама крычалі: «Цурук! Нах гаўзэ!»

Гул машын паступова сцішаўся.

— А што нам рабіць? — спытала Арына.— Ці адпусцяць яны нас цяпер?

— Лепш скажы, ці адпусцім мы іх? — засмяялася настаўніца, стоячы на возе і пагладаючы, што робіцца навакол.

З розных месц калоны паасобныя вазы пачалі накіроўвацца на бакавую дарогу. Кожны імкнуўся хутчэй прабрацца, стварылася пробка, узмацніліся крыкі. Некаторыя завярнулі проста на поле і грузлі ў вясеннім балоце. Многія паварочвалі назад, дадому, а ўсе разам перашкаджалі адзін аднаму.

Ад таго месца, дзе стаялі вазы гаспадара гастгаўза, да бакавой дарогі было з паўкіламетра. Невядома, колькі часу патрэбна было б, каб туды прабрацца. А ехаць полем з такімі вазамі і з такой запражкай не было чаго і думаць. Хіба толькі распрэгчы коней, пакласці на іх некаторыя клункі ды ісці

пешшу. Але пакінуць сваё дабро яны яшчэ не маглі. Рымар рашуча стаў здымаць свае клункі, каб вяртацца назад. «Здрада» рымара так абурыла гаспадара, што, здавалася, ён кінецца біцца. Нібы шукаючы падтрымкі, рымар звярнуўся да настаўніцы:

— Не будуць жа вашы забіваць рабочага чалавека? Праўда, фройлен?

— Не толькі рабочага, а і наогул жыхароў нашы не забіваюць,— з гонарам адказала настаўніца.

— Тады і мы з імі пойдзем,— сказала Арына.— Што ён нам зробіць?

— І я так думаю...

— Там гудзе,— перапыніў Васілёк, паказваючы назад.

Яны прыслухаліся і пачулі далёкі гул, нібы ад самалётаў. Але на небе нічога не было відаць. Праз хвіліну гул выразна пачулі ўсе. А потым з-за ўзгорка паказаліся танкі, многа танкаў...

Усе мужчыны ўхапілі коней і пачалі адводзіць убок, прыціскацца да самага ўскрайку шасэ. Жанчыны, дзеці з плачам кінуліся ў поле. Некаторыя рынуліся туды са сваімі вазамі, а былі і такія, што зусім пакінулі коней і пабеглі самі.

Танкі імчалі са страшэннай хуткасцю, з лязгам і грукатам. Люкі былі адчынены, у іх стаялі загарэлыя танкісты. На пярэднім танку развяваўся чырвоны сцяг. Уздоўж дарог замерлі тысячы людзей, а танкі імчалі перад імі, як на парадзе. Толькі на адным возе засталіся дзве жанчыны і хлопчык. Яны нібы прымалі парад. Настаўніца стаяла высока на возе, гордая, стройная; вочы яе гарэлі, валасы развяваліся. Яна махала хусткай, як флагам. Сотні рук махалі ёй у адказ. Кожны баец здагадваўся, што гэта яго сястра, учарашняя нявольніца.

А танкі ўсё ішлі ды ішлі — дзесяць, дваццаць, сорак... Здавалася, і канца ім не будзе. Пасля пачалі мільгаць машыны з войскамі, самаходныя гарматы і ўсялякая ваенная тэхніка.

Васілёк скакаў на возе, пляскаў рукамі, крычаў «ура». Маці яго стаяла на мяху на каленях і ўсё паўтарала:

— Божа, якая сіла!

Немцы ўжо не баяліся, не крычалі, а стаялі, скамянелыя,

дзе хто быў, і вочы іх гаслі, галовы апускаліся, спіны гнуліся. Гэтулькі часу ім казалі, што Савецкая Расія знішчана, што войска ў бальшавікоў ужо няма, а тэхнікі нават і не было, а цяпер яны ўбачылі такое, што ім і не снілася. А калі нямецкія войскі адступаюць па ўсім фронце, значыцца, усюды іх гоніць такая самая сіла.

Нарэшце войска прайшло. Зноў стала ціха. У немцаў не было ўжо жадання ўцякаць. Навошта? Усё роўна нічога не выйдзе, рускія, мусіць, ужо ў самым сэрцы Германіі. Немцы страцілі самае галоўнае, што дае людзям сілу і волю ў барацьбе,— яны страцілі надзею. Кожны думаў цяпер толькі аб тым, каб выратавацца і выжыць, а ўсё іншае адсунулася ўбок.

Настаўніца падышла да свайго гаспадара і сказала:

— Ну што ж, паедзем дадому?

— Паедзем,— пакорна адказаў немец.

Тады да настаўніцы падышоў рымар і спытаў:

— А мне можна будзе пакласці назад свае клункі і ехаць з вамі?

Настаўніца засмяялася і сказала гаспадару:

— Я думаю, можна.

— Хай сабе едзе,— адказаў той панура.

У апошнюю мінуту яшчэ некалькі бежанцаў рызыкнулі пусціцца ў невядомы шлях, а іншыя паступова павярнулі назад, дадому.

## 6

Сонца схілялася на захад, калі вазы ўз'ехалі на двор гастгаўза. Насустрач выйшаў стары Карл.

— Усё ў парадку,— адрапартаваў ён.— У доме нікога няма.

З дапамогай рымара пачалі разгружаць вазы. Нашым жанчынам нічога не казалі, а калі яны самі далучыліся да працы, то гаспадыня пачала дзякаваць ім. Пасля разгрузкі рымар застаўся начаваць у флігелі, а нашых павялі ў дом і далі ім пакой: два раскошныя ложкі, мяккая мэбля, шафа, люстра,— адным словам, усе выгоды.

— Калі ласка, пажывіце ў нас як госці,— сціснуўшы зубы, ласкава сказала гаспадыня.— Мы будзем вельмі рады...

— Во як шануюць яны нас цяпер! — засмяялася Арына, калі гаспадыня выйшла.

— Яны хочуць, каб мы былі тут пачэснымі гасцямі ў тую мінуту, калі прыйдуць першыя нашы салдаты,— растлумачыла настаўніца.— Яны думаюць, што іх адных салдаты будуць крыўдзіць, а пры нас не адважацца.

— А чаму ж нашы болей не ідуць? — нібы з папрокам сказала Арына.

— Яны могуць прыйсці і зараз, і праз гадзіну, і заўтра раніцай,— адказала настаўніца.— Гэта былі ўдарныя часці, а ўсе іншыя войскі і абозы ідуць ззаду.

Васілёк, улічыўшы перамену, зрабіў вывады і для сябе.

— Мама,— сказаў ён нечакана,— скажы, каб мне аддалі веласіпед.

— Правільна, Васілёк! — падтрымала настаўніца.— Толькі лепш было б, каб ты сам загадаў. Вунь нямчук на двары, ідзі.

Васілёк засаромеўся.

— Чаго баішся? — сказала маці.— Хіба не ведаеш, што мы цяпер гаспадары? Прыпомні, як ён з цябе здзекаваўся.

Гэтыя словы надалі Васільку не толькі храбрасці, але і злосці. Ён пабег на двор. Але, убачыўшы немчука, Васілёк, відаць, страціў храбрасць. Ён прыпыніўся, пастаяў, потым ціха стаў пасоўвацца да Макса. Той глядзеў на Васілька разгублена, нібы ўпершыню яго ўбачыў.

— Гіб... мір... фар-рад! — запінаючыся, сказаў Васілёк.

Нямчук вылупіў вочы, азірнуўся, нібы шукаючы падтрымкі, і застаўся на месцы. Тады на дапамогу Васільку прыйшла злосць. Сціснуўшы кулакі, ён грозна насунуўся на Макса і крыкнуў ужо на сваёй мове:

— Зараз жа аддавай мой веласіпед!

Быў момант, калі Макс па прывычцы гатоў быў ударыць Васілька, але... цень вялікай арміі, што была за дваццацьтрыццаць кіламетраў адсюль, абараніў малога хлопчыка. Здавалася, што словы беларускія лепш дайшлі да Макса, чым ня-

мецкія, бо ён зараз жа пайшоў шукаць веласіпед. А праз некалькі мінут Васілёк з захапленнем катаўся па двары і па шасэ, вольны, шчаслівы...

Пачуўся стук у дзверы.

— Бітэ! (Калі ласка!) — сказала настаўніца.

Увайшла гаспадыня з падносам, а на ім усялякая ежа, якой нашы палонныя не бачылі два гады,— белы хлеб, масла, каўбаса, кава.

— Паколькі вы цяпер нашы госці,— з прыемнай усмешкай сказала гаспадыня,— я прынесла вам павячэраць.

— Вельмі дзякуем,— адказалі жанчыны.

— Калі ласка, прашу,— сказала немка, ставячы паднос на стол.— Будзем жыць па-новаму. Калі што трэба будзе, скажыце,— дадала яна, выходзячы за дзверы.

Жанчыны некалькі хвілін глядзелі адна на адну моўчкі, а потым рассмяяліся.

— Ну і дурныя! — усклікнула настаўніца.— Яны думаюць такім чынам падкупіць нас. Ні гонару, ні сораму не маюць. А калі праўду сказаць, то і для нас знявага: гэта азначае, што яны і нас лічаць дурненькімі, нікчэмнымі. Думаюць, што за пачастунак мы ўсё даруем і палюбім іх. Але мы будзем разглядаць гэта, як законную зарплату, за якую дзякаваць няма патрэбы. Давайце вячэраць!

Але спачатку трэба было зрабіць нялёгкую справу — знайсці і сілком прыцягнуць Васілька. Вядома, прывалок ён у пакой і свой веласіпед. Хоць стол быў застаўлены рознымі ласункамі, ён больш пазіраў на веласіпед, чым на іх.

Надыходзіў вечар. Навакол усё было па-ранейшаму, як год і два гады назад. Ніякага следу рускіх не відаць. І гаспадары, і навакольныя жыхары — тыя самыя немцы. Змен як быццам ніякіх няма. А нашы нявольнікі раптам зрабіліся самымі важнымі людзьмі ў гэтым доме. Зрабіліся толькі таму, што недзе побач адчуваецца свая сіла. Гэтага было досыць, каб усё перавярнулася...

— Так хочацца выпіць чарку віна за нашу магутную армію, за наш вялікі народ,— летуценна сказала настаўніца.— Ці не загадаць, каб прынеслі, га?

— Ну што ты! Гэта ўжо занадта! — запярэчыла Арына.

— А чаго глядзець на іх? Гаспадыня сама сказала, што можна патрабаваць.

І яна выйшла з пакоя. Прайшла калідорамі ў другі канец дома, пастукалася ў дзверы, увайшла. Уся сям'я сядзела за сталом, маўклівая, панурая. Убачыўшы настаўніцу, усе здзівіліся і нават спалохаліся.

— Выбачце мне! — ветліва сказала настаўніца.— Карыстаючыся вашым дазволам, я хачу папрасіць у вас віна.

Гаспадыня ўсхапілася з крэсла, гаворачы «бітэ, бітэ», а гаспадар на момант нібы задыхнуўся. Потым, ні на каго не гледзячы, цяжка ўстаў, падышоў да буфета, дастаў паўбутэлькі віна і паставіў на стол перад жонкай. Тая перадала віно настаўніцы.

— Калі ласка, дайце яшчэ тры кілішкі,— папрасіла настаўніца.

— Драй? — перапытала гаспадыня, відаць, здзівіўшыся, што ўлічваецца і Васілёк.

Пакуль яна даставала кілішкі, гаспадар сеў на сваё месца, як і раней, ні на каго не глянуўшы. Настаўніца трымала сябе вельмі сціпла, але гарэзны агеньчык пабліскваў у яе вачах.

— Данке зэр! (Вельмі дзякую!) — сказала яна, атрымаўшы кілішкі, і пайшла да дзвярэй.

Тады толькі гаспадар падняў галаву і глянуў ёй услед. Але як глянуў! Твар яго так скрывіўся, што зусім стаў падобным да тых карыкатур, якія змяшчаюцца ў газетах. Вочы спадылба глядзелі так люта, што здавалася, ён зараз зарыкае, сарвецца з месца і ўчэпіцца зубамі ў шыю настаўніцы...

Зразумець яго адчуванне было няцяжка. Гэты занядбалы, тупы прускі юнкер прывык думаць, што «Дойчлянд юбэр аллес» (словы гімна: «Германія вышэй за ўсіх»), а цяпер ён вымушаны глядзець, як гэты «Дойчлянд» развальваецца, быццам трухлявы дом. Ды яшчэ ад каго — ад тых «рускіх варвараў», якіх сам бог прызначыў быць нямецкімі рабамі. Каб яшчэ англічане ці амерыканцы, то з імі можна было б сяк-так паладзіць і жыць, як раней. А тут ідуць бальшавікі, якія ні на што не глядзяць і могуць прымусіць прускага двараніна Эд-

варда-Фрыдрыха-Амалію-Вільгельма фон Пупа працаваць гэтак жа, як працаваў яго слуга Карл. А хіба так жыць можна? Мала таго, праз гэтых няшчасных нявольніц можа быць і горшая бяда. Яны паскардзяцца сваім — і тады ўжо ніякага жыцця не будзе. А яны ведаюць гэта і адчуваюць сябе ў яго доме, як паны. Якая ганьба! І без таго жыць не варта, а тут яшчэ гэтыя жывыя сведкі...

Лютая злосць, страх, роспач, крыўда ад бяссілля — усё гэта адбілася ў ашалелых вачах прусака, калі ён паглядзеў услед настаўніцы. Але яна гэтага не бачыла і весела вярнулася ў свой пакой.

— Ух! Нібы ў клетцы са звярамі пабыла,— смяялася яна.— Вельмі цікава глядзець, як яны ляскаюць зубамі, а ўкусіць не могуць. А мы тым часам справім наша свята як мае быць.

За сталом дзяліліся ўражаннямі аб сённяшнім дні, жартавалі, смяяліся, чаго з імі даўно ўжо не было, марылі аб звароце дадому і ўсё прыслухоўваліся, ці не ідуць нашы.

Калі сцямнела, пачалі рыхтавацца да сну. Зачынілі аканіцы, дзверы ўзялі на ключ і на засаўку. Адгарнулі пуховыя пасцелі.

— Хоць апошнюю ноч паспім, як паны,— казала Арына.

— Дзеля аднаго гэтага варта застацца яшчэ на некалькі дзён,— жартавала настаўніца.

Праз паўгадзіны ўсе яны ўжо спалі моцным сном. Арына ў сне сустракала свайго мужа, які, стукаючы аб зямлю прыкладам вінтоўкі, уваходзіў у іх вясковую хату. Настаўніца на шасэ сустракала нашы танкі. А Васілёк ганяўся на веласіпедзе за немчуком, каб пабіць яго. Затым у Арыны муж ператварыўся ў немца-гаспадара, які крычаў на яе і стукаў кулакамі па стале. У настаўніцы пачалася бітва паміж нашымі і фашысцкімі танкамі. А на Васілька напаў нямчук і з трэскам стаў ламаць яго веласіпед.

Усе гэтыя стукі і грукі нарэшце ператварыліся ў адзін — гэта быў моцны, сапраўдны стук у дзверы.

Жанчыны ўсхапіліся, і першае слова іх было:

— Нашы!

Стук паўтарыўся.

— Хто там? — крыкнулі яны.

— Адчыніце, гэта я! — адказаў па-нямецку нейкі замагільны голас.

Жанчыны адразу ўстрывожыліся.

— Хто вы? Што вам трэба? — спытала настаўніца па-нямецку.

— Я, гаспадар.

У жанчын моцна закалаціліся сэрцы. У цемры Арына падсунула настаўніцы нейкую рэч і прашаптала:

— Вазьмі... падсвечнік. А я падрыхтавала другі...

Сэрцы, здаецца, сталі калаціцца трошачкі цішэй...

— Што вам трэба цяпер, ноччу? — зноў спытала настаўніца.

— Мне трэба нешта ўзяць,— казаў хрыпаты голас.

— Выбачайце, пане, мы спім. Пачакайце да раніцы.

— А калі мне трэба сёння?! — закрычаў гаспадар.— Хіба я не маю права ўвайсці ў свой пакой?

— Даруйце, не можам цяпер,— казала настаўніца.

— Тады я буду ламаць дзверы! — загрымеў голас.

Настаўніца не адказала і шапнула Арыне:

— Цягні да дзвярэй усё, што ёсць.

І яны пацягнулі стол, крэслы, ухапіліся за ложак. Пачулася ўсхліпванне Васілька.

— Накрый галаву, сынок,— сказала Арына.— Да нас лезе п'яны, мы зараз прагонім яго.

— Адчыніце ці не? — роў гаспадар.

Жанчыны моўчкі рабілі барыкаду. З грукатам і звонам ляцела на падлогу пасуда і іншыя рэчы.

Тады гаспадар пачаў біць у дзверы, як відаць, сякерай.

— Я буду біць у паднос,— сказала Арына.

— Вельмі добра, бі.

І Арына з усёй сілы пачала калаціць у паднос падсвечнікам. Раздаўся такі звон, што здавалася, яго чуе ўся аколіца. А гаспадар ламаўся ў дзверы.

Раптам у калідоры пачуўся дзікі крык гаспадыні:

— Эдвард, што ты робіш?! Ты нас усіх загубіш!

— Прэч! — крыкнуў гаспадар.— Усё роўна мы загінулі!

Потым пачулася нібы тузаніна, а затым ужо новы мужчынскі голас сказаў:

— Супакойцеся, пане. Не трэба. Нічым не дапаможаце, а толькі загубіце нас усіх.

Жанчыны пазналі голас рымара, ім адразу зрабілася лягчэй.

— І ты? І ўсе? — хрыпеў гаспадар.— Скарыліся?.. Хочаце быць рабамі рускіх свіней?.. Рабіце, што хочаце...

І паступова ўсё сціхла.

А праз некалькі мінут пачуўся лёгкі стук у дзверы і голас рымара:

— Гэта я. Не бойцеся. Спіце спакойна, больш непрыемнасцей не будзе.

— Вельмі дзякуем,— адказалі жанчыны.

Жанчыны адчувалі сябе, як пасля цяжкой напружанай працы.

— Чула маё сэрца, што нешта павінна быць,— прамовіла Арына.

— Сэрца не сэрца,— адказала настаўніца,— але розум павінен быў ведаць, што паранены звер кідаецца на людзей. Але ўсё добра, што добра канчаецца. Давай спаць.

Васілёк заснуў хутка, а жанчыны яшчэ доўга перакідваліся словамі, пакуль іх змарыў сон...

Пад раніцу трывога зноў іх разбудзіла. Яны пачулі крыкі, плач, тупат ног, усхваляваныя галасы. Гаспадыня галасіла на ўвесь дом, ёй дапамагала дачка.

— Зноў нешта здарылася! — трывожна сказала Арына.

— Калі плачуць, значыць, усё добра,— спакойна адказала настаўніца.

Яны адзеліся, адсунулі сваю «барыкаду» і выйшлі ў калідор. Па калідоры бегла жонка рымара са свечкай у руках.

— Што такое здарылася?

— Гаспадар павесіўся,—адказала яна і пабегла далей.

Немагчыма апісаць радасць, якая ахапіла палоннікаў, калі паказаліся доўгачаканыя калоны нашых войск і абозаў. Але адчулі вязні і некаторую прыкрасць: войскі ішлі міма, не спыняючыся, не было магчымасці ні пагутарыць, ні параіцца наконт свайго ад'езду. Пад поўдзень пачалі на хаду забягаць салдаты, каб напіцца.

Падбеглі двое да настаўніцы і кажуць:

— Васэр! (Вады!)

Смешна ёй зрабілася, што яе палічылі за немку, і яна захацела пажартаваць.

— Гляйх (зараз),— сказала яна і прынесла вады.

Адзін салдат узяўся піць, але другі штурхануў яго пад бок і сказаў па-беларуску:

— Пачакай, няхай спачатку яна сама паспрабуе.

— Землякі! — ускрыкнула настаўніца.— Хіба стану я вас атручваць?

Хлопцы адхіснуліся ад яе, нібы жахнуўшыся. Кубак з вадой паляцеў на зямлю...

— Я зараз яшчэ прынясу,— схапіла яна кубак.

— Няма часу! — крыкнулі яны і пабеглі даганяць сваю часць.

— Вось і напаіла сваіх землякоў! — з горыччу прашаптала настаўніца.

Разам з нашымі жанчынамі спакойна глядзелі на войска і рымар, і стары Карл. Толькі гаспадыня тулялася, чакаючы бяды. Мужа свайго яна з дапамогай рымара паспяшалася пахаваць. «Хто ведае,— разважала яна,— можа, і зусім не прыйдзецца пахаваць яго, калі прыйдуць рускія ды даведаюцца, што ён хацеў забіць іхніх людзей...» А калі паказаліся нашы войскі, немка з дзецьмі схавалася ў склепе.

Убачыла Арына, падышла да склепа і сказала:

— Дурныя, чаго хаваецеся? Ніхто чапаць вас не будзе.

Дзе тут хавацца, калі ўжо знайшлі іх. Немка вылезла, як пабіты сабака, дзеці туліліся да яе, як загнаныя звяркі. І Арына адчула, што не можа ўжо ненавідзець іх так, як раней. Яна

бачыла перад сабой толькі няшчасную жанчыну і маці, адчуванні якой добра разумела. Арына нават раззлавалася сама на сябе: дзе ж наш гонар? Усяго некалькі дзён назад гэтая самая немка і яе дзеці глядзелі на іх, як на сабак. Два гады трымалі іх за нявольнікаў. Два гады Арына прагна чакала таго моманту, калі можна будзе кінуцца на гэтую самую немку і выдрапаць ёй вочы, скрывавіць гэтых шчанят. А прыйшоў такі час — і злосці няма.

Вось стаяць яны перад ёй няшчасныя — рабі з імі, што хочаш. Але ж гэта чалавек, жанчына, маці. Можна сабе ўявіць, што яна цяпер перажывае! І нямчук здаецца больш дурным, чым злым. Хіба ён вінаваты, што яго так выхоўвалі? Можа, цяпер з яго і чалавек выйдзе. І дзяўчынка зрабілася як дзяўчынка — вочы глыбокія, рысы твару мяккія.

— А прападзі вы ўсе! — плюнула Арына са злосцю і пайшла прэч.

Спаткаўшы настаўніцу, яна сказала:

— Што мне рабіць, калі я не адчуваю злосці да немкі? Няўжо мы такія нікчэмныя, што можна рабіць з намі, што хочаш, а мы даруем?

Настаўніца ўсміхнулася:

— Дарэмна ты гаворыш так. Ворагу мы не даруем, ён заплоціць за ўсё і панясе кару. А калі ў нас няма цяпер жадання дабіваць гэтую няшчасную немку, то гэта азначае толькі, што мы стаім вышэй за іх. Няхай яна заўтра пакажа свае зубы, і ў цябе з'явіцца і злосць і ўсё...

Васілёк цяпер быў шчаслівейшы ад усіх. Па-першае, ён мог катацца на сваім веласіпедзе колькі хоча, нікога не баючыся, а па-другое, ён ездзіў сярод сваіх войскаў. Ніводнай часці ён не прапусціў, усіх сустракаў, усіх суправаджаў. Часам нават крычалі на яго, каб ён не лез, куды не трэба. Але як толькі даведваліся, што ён «наш», то адразу рабіліся да яго ласкавымі.

Пасля паўдня ён такім чынам «умяшаўся» ў адно мінамётнае падраздзяленне, бо надта было цікава паглядзець, што за трубы нясуць салдаты на плячах. Убачыўшы нахабнага мясцовага хлапчука, хтосьці з салдат крыкнуў:

— Чаго блытаецца тут гэты малы нямчук?
— Я не немец,— з гонарам адказаў Васілёк.— Я наш.
— Наш? — засмяяліся салдаты.— Адкуль ты ўзяўся?
— Быў палонны, а цяпер вольны,— казаў ён, едучы побач.
Вядома, усе адразу зацікавіліся ім.
— А як зваць цябе?
— Васіль Скакун.
Тады адзін з салдат крыкнуў камусьці ззаду:
— Гэй, Скакун! Ідзі сюды, зямляк твой знайшоўся.
Салдат Скакун шпарка падбег:
— Які зямляк? Дзе?
— Ды вось гэты малы нямчук,— смяяліся салдаты.
— Не кажы глупства,— нездаволена сказаў Скакун.
— А ты спытайся сам.
Скакун спытаўся:
— Хлопчык, як цябе зваць?
— Васіль Скакун,— паўтарыў той.
Салдат уздрыгануўся, падбег да яго, глянуў збоку і не ведаў, што думаць: здаецца, падобны, хоць яму тады было чатыры гады. Але ўбачыць тут, у Прусіі... Немагчыма!
Дрыготкім голасам зноў спытаў:
— Як завуць твайго бацьку?
— Татку? Не ведаю.
— А маці?
— Арына.
— Васілёк!.. Сын мой!..
Веласіпед пакаціўся ўбок, а Васілёк апынуўся ў абдымках свайго бацькі...
Усё падраздзяленне спынілася, як па камандзе. Падышоў камандзір і сказаў:
— Вітаю, таварыш Скакун! Гэта ж такі выпадак, што і ўявіць немагчыма.
Чарговы прыпынак падраздзялення камандзір зрабіў у гастгаўзе. У пакоі, дзе былі яшчэ відаць сляды барыкады, накрылі стол. За сталом сядзелі Арына з мужам, паміж імі Васі-

лёк, затым настаўніца, камандзір, некалькі афіцэраў. Гаспадыня падавала на стол.

Зайшла гаворка аб тым, як жанчынам хутчэй дабрацца дадому.

— На чыгунку ў бліжэйшы час разлічваць нельга,— сказаў камандзір.— Трэба чакаць, пакуль будуць усіх адпраўляць арганізаваным спосабам. Прыйдзецца пажыць тут нямала часу. З'явіцеся да нашага каменданта, які будзе ў бліжэйшым горадзе, і ён вам скажа, што рабіць. А нам трэба рухацца далей. Бывайце шчаслівыя!

Як хутка прамільгнула гадзіна!..

Арына глядзела ўслед мінамётчыкам і не заўважала, што па шчаках яе коцяцца слёзы. За чатыры гады сустрэліся на гадзіну — і зноў разлука... Ці пабачацца болей?.. Але была ў гэтым горы і радасць: сям'я іх жывая і здаровая, хутка перамога і канец вайне, самыя горшыя дні засталіся ззаду... Гледзячы на маці, плакаў і Васілёк. Але гора яго было значна меншым, бо ён не ламаў галаву над самым галоўным пытаннем — ці пабачацца болей?..

— Ну што ж,— сказала настаўніца,— калі трэба чакаць, то лепш пачакаць тут. Толькі працаваць цяпер будзем ужо на карысць сваіх.

І яна растлумачыла Арыне свой план.

8

Паклікалі да сябе гаспадыню. Тая прыйшла спалоханая і стала ля дзвярэй.

— Вось што,— сказала настаўніца.— Зараз жа трэба аднавіць работу гастгаўза. У першую чаргу заўсёды павінна быць гарачая вада, чай, магчымасць памыцца, пераначаваць. Будзем гатаваць гарачую страву, галоўным чынам суп. Пусціце ў абарот усе вашы запасы. Вам заплоцяць.

— Заплоцяць? — недаверліва спытала гаспадыня.

— А вы думалі як? — строга сказала настаўніца.

— Выбачайце, нам казалі...

— Вам многа чаго казалі,— перапыніла настаўніца.—

А вас яшчэ ніхто не крануў.— І, глянуўшы ей у вочы, з націскам дадала: — Нават мы...

Немка зразумела, пачырванела і апусціла вочы.

— Усе прадукты, што ў вас ёсць, мы запішам,— казала далей настаўніца,— і грошы за іх будзеце атрымліваць вы. А калі прадукты выйдуць, там убачым, што рабіць. Зразумелі?

— Каб так было, я нічога лепшага і не жадала б,— адказала немка.— Толькі ці спраўлюся я сама?

Жанчыны засмяяліся:

— Вы думаеце, што мы ўжо працаваць не будзем?— сказала Арына.— У нас усе працуюць. І вам прыйдзецца прывучыць да працы сваіх дзяцей. Не пашкодзіць. Апрача таго, мы думаем папрасіць сям'ю рымара.

— Дзякую вам,— сказала гаспадыня і выйшла задаволеная.

Пасля таго настаўніца мела гутарку з рымарам.

— Я не магу абяцаць вам пэўную плату,— казала настаўніца.— Справа часовая, можа, некалькі тыдняў. Будзем жыць вялікай сям'ёй.

Рымар ахвотна згадзіўся.

Праз гадзіну гаспадыня прынесла жанчынам нейкі клунак.

— Што гэта? — здзівіліся яны.

— У вас няма добрага адзення,— сказала яна.— Прыміце ад мяне падарунак.

— Падарунак? — горда сказала Арына.— Падарункаў не жадаем. Мы прымем гэта ў лік платы за нашу двухгадовую працу.

— Выбачайце,— засаромелася немка.— Гэта я так сказала.

Адзенне было нядрэннае. Жанчыны прымералі, падправілі, прыладзілі яго і адразу змянілі выгляд. Знайшоўся і для Васілька добры аксамітавы касцюм, з якога Макс вырас.

— Вось цяпер ты сапраўдная «фрау», я — «фройлен», а ён — «нямчук»,— смяялася настаўніца.

Затым настаўніца ўзяла аркуш паперы, напісала вялікімі літарамі словы: «Добро пожаловать» — і прымацавала паперу

да плота. Паглядзела, падумала і зрабіла другі плакат з беларускімі словамі: «Калі ласка, заходзьце да нас!»

— Няхай ведаюць нашы землякі, хто тут жыве,— сказала яна.

Гастгаўз пачаў функцыяніраваць у той жа вечар. Першымі зайшлі два шафёры.

— А шчо цэ за білорусы живуть? — спыталіся яны, са здзіўленнем пазіраючы на «немак».

— Свае, свае! — адказалі жанчыны.— Пагрэйцеся, памыйцеся, адпачніце.

Памыліся, пагрэліся шафёры і паехалі далей.

На другі дзень наведвальнікаў было ўжо многа. Народ розны, з розных канцоў — і ўсе свае! Гутарка з імі была найвялікшым шчасцем для нашых жанчын. Траплялія таварышы з Беларусі, сустракаліся назвы знаёмых мясцін, а часам і імёны знаёмых людзей. І кожны праезджы ў першую чаргу цікавіўся, якім чынам трапілі сюды беларускія жанчыны і якім чынам яны арганізавалі тут «гастгаўз».

Пад вечар заехалі самыя дарагія госці — раненыя. Іх было чалавек дзесяць з перавязанымі галовамі, рукамі, нагамі, але раны былі лёгкія. Пасля прыпынку яны паехалі далей. А праз паўгадзіны прыбылі чатыры чалавекі з больш сур'ёзнымі ранамі. З якой пяшчотай прымалі і даглядалі іх жанчыны!

— Дзеля аднаго гэтага варта было тут заставацца,— казала расчуленая настаўніца.

Раненыя пераначавалі ў гастгаўзе, і гэты начлег быў для іх найлепшым, можа, за многія месяцы.

Некалькі дзён заўважаўся ўзмоцнены рух раненых. Некаторыя, не спыняючыся, ехалі далей, некаторыя спыняліся на начлег, іншыя прыпыняліся на пэўны час. Настаўніца і Арына нястомна даглядалі іх, не спалі ночы.

І вось аднаго разу сярод раненых трапіўся муж Арыны! У яго была перабіта левая рука. У першы момант Арына вельмі спалохалася. Але, даведаўшыся, што вялікай небяспекі няма, нават узрадавалася — магло ж быць і горш... Вельмі хацелася, каб ён паляжаў тут, каб самой даглядаць яго, але нельга — яму патрэбна шпітальная дапамога.

І зноў маці і сын глядзелі ўслед бацьку, толькі ў другі бок, на ўсход.

У клопатах і працы шпарка праляцелі пяць дзён. На шосты каля дома спынілася машына і з яе выйшаў афіцэр з салдатам. Прыпыніўся, паглядзеў на дом, прачытаў плакаты на плоце, усміхнуўся, затым увайшоў у дом.

— Добры дзень! — прывітаўся ён.

— Добры дзень! — адказала настаўніца.— Прашу. Што пажадаеце?

— А што ў вас ёсць?

— Можна супу гарачага, чаю.

— А гарэлка ёсць?

— Можа, трошкі віна і знайшлося б,— усміхнулася настаўніца,— але мы яго беражом для раненых.

— А хто такія «мы»? — спытаў афіцэр.

— Ды я... мы...— сумелася настаўніца.— Адным словам, як тут кажуць, гастгаўз.

— Зойдзем у які-небудзь пакой, мне трэба пагаварыць з вамі.

Настаўніца з трывогай паглядзела на яго: чаго яму трэба? Яна павяла яго ў свой пакой. Глянуў ён на яго і сказаў:

— Нядрэнна вы тут абсталяваліся.

— Два гады пражылі ў хляве, пакуль сюды перасяліліся,— адказала настаўніца.

— А да каменданта з'яўляліся?

— Яшчэ не. Не ведаем, дзе шукаць яго. А самае галоўнае, часу няма, работы многа. Усё збіраемся пайсці.

— А ці ведаеце вы, што я, як камендант раёна, магу прыцягнуць вас да адказнасці? — строга сказаў ён, хоць ледзь стрымліваўся ад усмешкі.

— Завошта?

— За самавольства. Вы тут нацыяналізавалі прыватную гаспадарку, не маючы на гэта ніякага права.

— Зусім не нацыяналізавалі,— адказала настаўніца,— а толькі рэарганізавалі. Уласнасць гаспадыні не чапаем, і плата ідзе ёй.

— А гаспадарыць хто?



Янка Маўр сярод пісьменнікаў г. Гродна:
*злева направа: Сяргей Дудзікаў, Міхась Васілёк, Янка Маўр, Пятро Чарных, А. Кіркевіч, Міхась Дуброўскі.* 1950 г.



Янка Маўр у часе дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве (у гасцях у С. Маршака):

*злева направа: Алесь Шашкоў, Эдзі Агняцвет, Янка Маўр, Самуіл Маршак, Алесь Якімовіч, Максім Танк, Ніна Сніцарава, Янка Брыль, Анатоль Вялюгін.* 1955 г.



Янку Маўру чытаюць рукапіс яго новай кнігі. 1958 г.



Янка Маўр з лялечным персанажам
часопіса «Вясёлка» — Васем Вясёлкіным. 1962 г.



Янка Маўр. 1963 г.

— Мы,— адказала настаўніца з хітрай усмешкай.

Камендант больш не мог стрымлівацца і шчыра рассмяяўся.

— Што мне цяпер рабіць з вамі? — развёў ён рукамі.— Пахваліць ці што?

— Я на вашым месцы пахваліла б,— адказала яна ў тон.

— А калі гаспадыня паскардзіцца на вас, мы павінны будзем абараніць яе,— сказаў камендант.

— А калі мы паскардзімся на яе? — спытала настаўніца.

— Тады мы будзем яе судзіць.

— У такім разе яна не паскардзіцца! — засмяялася настаўніца.— А ліквідаваць нашу справу не хочацца. Нашы праезджыя вельмі задаволены.

— Ведаю, чуў,— адказаў камендант.

Параспытаўшы ўсе падрабязнасці жыцця і спраў нашых жанчын і жыхароў гастгаўза наогул, камендант сказаў:

— Пакуль што пакінем так, як ёсць. А там пабачым. Для падмацавання я вам дам салдата.

«Беларускі гастгаўз» працаваў яшчэ некалькі тыдняў, пакуль нашы войскі не адсунуліся далёка на захад.

А затым нашы палонныя вярнуліся на радзіму.

*1945 г.*

# ДРАЎЛЯНАЯ ЛЫЖКА

«Дарагая мама. Паведамляю, што я жывы і здаровы, і жадаю вам усім здароўя. Кланяюся дзеду Сафрону і цётцы Арыне. Я атрымаў звесткі, што брат наш Антон таксама жывы і здаровы. У нас цяпер зацішша, сядзім, як мышы ў норах. Затое і немец не можа высунуць носу — не даём яму спуску. Але больш за ўсё мне даводзіцца цярпець ад лыжкі. Я сваю недзе згубіў, а дастаць тут нельга. Трэба чакаць, пакуль таварыш пад'есць і пазычыць сваю. А страва стыне. А то бывае, што і зусім не паспееш пад'есці...»

Калгасніца Кацярына Васільеўна, пачапіўшы акуляры, чытала гэты ліст, уздыхала і выцірала пад акулярамі слязінкі, якія ўпарта вылазілі з вачэй. Радасці ад ліста многа. І сын Васіль жывы і здаровы, і сын Антон жывы і здаровы. Толькі прыкра, што прыходзіцца цярпець ад такой дробязі, як лыжка. Нікчэмная рэч, а праз яе нават галадае хлапчына. Трэба неяк дапамагчы яму. Ці не паслаць лыжку з лістом? Прычапіць і паслаць. Хоць так і не робіцца, але ж цяпер вайна. Паштавікі зразумеюць, у чым справа. Пэўна, і ў кожнага з іх ёсць на вайне блізкі чалавек.

Яна ўзяла лісток паперы ад сшытка і сяк-так накрэмзала:

«Мой любы сынок Васіль. Пасылаю табе матчына благаславенне. Хай міне цябе варожая куля. А жыву я добра і толькі чакаю, калі вернуцца мае сыночкі. А без лыжкі табе зусім кепска. Я табе з гэтым лістом пасылаю лыжку. Людзі ж свае, павінны прапусціць...»

Яна ўзяла старую, чорную драўляную лыжку, тую самую, якою любіў есці Васіль; нават дзірачка ў ёй была, што ён сам зрабіў. Але як прымацаваць яе да ліста або ліст да яе? Задача была надзвычай хітрая і складаная. Каб добра зразумець усю цяжкасць яе, няхай хто-небудзь сам паспрабуе гэтак зрабіць. Мы скажам толькі, што з дапамогай нітак і стужкі Кацярына

Васільеўна неяк злучыла гэтыя рэчы, тым больш, што ліст быў не ў канверце, а складзены славутым ваенным трохкутнікам.

Адрас быў кароткі: «П/п 43608, Васілю Андрэевічу Шастапалу».

Кажуць, трэба яшчэ пісаць і зваротны адрас, але навошта? Васіль сам добра ведае гэты адрас. Хіба толькі напісаць, што ліст і лыжку пасылае маці,— хай пошта ведае, што гэта не блазнюк які дурэе, а сур'ёзна шле сама маці. І яна прыпісала:

«Ад мацеры Кацярыны Шастапал».

Калі Кацярына Васільеўна прыйшла са сваім «лістом» на пошту ў сельсавет, то паштавік Кухаронак, першы інвалід Айчыннай вайны ў раёне, не ведаў, што яму рабіць.

— Цётачка,— казаў ён,— такіх лістоў не бывае, і мы не маем права прымаць такія адпраўленні.

Але Кацярына Васільеўна і слухаць не хацела:

— Не было вайны, не было і такіх лістоў. А цяпер, бачыш, ёсць.

— Ды гэта ж смеху варта: няўжо лыжкі не знойдзецца?

— Можа, калі і знойдзецца, а пакуль што салдату без лыжкі цяжка. Ды і хто там на фронце пра лыжкі будзе думаць, калі і без таго ім досыць клопату?

— Але для паштовых адпраўленняў існуюць пэўныя правілы...

— Не ведаю я вашых правілаў,— перапыніла Кацярына Васільеўна.— І не веру, каб салдату на фронт забаранялі паслаць лыжку. Ты ж сам быў на фронце і павінен ведаць, што значыць для салдата лыжка.

— Не забараняюць,— стараўся растлумачыць Кухаронак,— а трэба ўсё рабіць па форме.

— Якая табе яшчэ форма трэба? Адрас ёсць? Ёсць. Ну і пасылай па адрасе. Шкада табе ці што?

— Ды я не маю права,— абараняўся Кухаронак.— Мне за гэта ўляцiць.

— Якое тут яшчэ трэба права? — абурылася Кацярына Васільеўна.— Хто адважыцца цябе папракаць, што ты прапусціў гэтую лыжку?

Бедны Кухаронак аж спацеў. Вось і рабі што хочаш з гэтай

цёмнай бабай. Нарэшце ён высунуў яшчэ адзін, апошні аргумент:

— Ведаеце што, калі б нават я і прыняў вашу лыжку, то там, далей, яе ўсё роўна не прапусцяць, як незаконную.

— А можа, і прапусцяць? — ціхамірна сказала Кацярына Васільеўна.— Няўжо тамака людзей няма? А калі ўжо, нарэшце, яна і загіне, то страта невялікая. Толькі крыўда будзе вялікая. Адным словам, пакідаю на тваё сумленне, рабі сам як ведаеш.

І яна пайшла дахаты.

Сумленне інваліда-байца было, вядома, на баку маткі, але правілы не прадугледжвалі такой штукі. Што ж цяпер рабіць з гэтай няшчаснай лыжкай? Адрэзаць ад ліста ды выкінуць? Не, няхай ужо гэта хто-небудзь іншы робіць, а ён пастараецца сплавіць яе ў раённую пошту.

І лыжка пайшла прабіваць сабе дарогу.

...Раённым паштовым аддзяленнем кіравала Васіліса Іванаўна Карнейка, жанчына сталая, сур'ёзная. Убачыўшы недарэчную лыжку, яна нахмурылася і зараз жа пазваніла Кухаронку:

— Ты што гэта глупства сабе дазваляеш? Навошта лыжку прыслаў? Хіба не ведаеш, што такія адпраўленні не прадугледжаны?

Праз віск, піск і турэцкі марш данёсся голас Кухаронка:

— Ды я не мог ад старой адчапіцца. Вы там самі ўжо дайце рады. Я папярэдзіў, што лыжку далей усё роўна не прапусцяць. І жанчына сказала, што шкадаваць не будзе.

Ну што ж: калі адправіцель папярэджаны і згаджаецца, то можна лыжку і адчапіць. Пагуляла — і годзе.

Васіліса Іванаўна ўзяла нажніцы і стала круціць у руках пакет, прыглядаючыся, дзе ямчэй адрэзаць лыжку, каб не пашкодзіць самога ліста. У гэты момант ёй кінуліся ў вочы словы: «Ад мацеры...» Васіліса Іванаўна адразу спынілася і нават не заўважыла, як нажніцы выслізнулі з рук.

Гэта ж маці так наіўна і так любоўна прымацоўвала лыжку! Гэта маці захацела пацешыць сына-байца, пасылаючы яму на фронт яго старую дзіцячую лыжку, з дзірачкай. Якая рука

падымецца, каб груба перарваць гэтую сувязь? Не, хай будзе што будзе, а Васіліса Іванаўна зрабіць так не можа...

Лыжка пайшла далей.

...Калі на цэнтральным паштамце апаражнілі мяшок, то першым кінуўся ў вочы ліст з лыжкай. Бліжэйшыя работнікі зацікавіліся ім, пачалі разглядаць, смяяцца.

Убачыў гэта начальнік аддзела, стары паштовы служака Барадук, і строга спытаў:

— Гэта адкуль такія цацкі пасылаюць?

— З Валасянскага раёна.

— Зараз жа адаслаць назад і папярэдзіць начальніка паштовага аддзялення, што за такія штукі будзем прыцягваць да адказнасці.

— А можа, прапусціць? — асцярожна сказала адна супрацоўніца.

— Прапусціць? — абурыўся Барадук.— А скажыце, калі ласка, хто адказваць будзе — вы ці я?

Падышла Кацярына Антонаўна, загадчыца газетнага аддзела, уважліва агледзела спрэчнае адпраўленне і сказала:

— А я ўсё ж такі думаю, Іван Андрэіч, што варта пусціць яе далей.

Барадук аж вочы вылупіў ад здзіўлення:

— І гэта гаворыце вы? Вы? Вы самі раіце парушыць інструкцыю, зрабіць злачынства? Вы, парторг?

Кацярына Антонаўна ўсміхнулася:

— Якія страшныя словы вы гаворыце, Іван Андрэіч. Але я, апрача таго, і маці. Бачыце, што тут напісана: «Ад мацеры...» Гэта таксама інструкцыя, Іван Андрэіч.

На гэта Іван Андрэевіч шчыра рассмяяўся.

— Выбачайце, Кацярына Антонаўна,— сказаў ён павучальна,— але вы блытаеце свае жаночыя справы з дзяржаўнымі. Гэта пасылка ці ліст? Невядома. Калі лічыць за пасылку, то яна не запакавана як належыць, і ў такім выглядзе прымаць яе мы не маем права. А калі лічыць за ліст, то пры чым тут лыжка? Калі жаданне кожнай маткі будзе для нас, як вы кажаце, інструкцыяй, то што ж тады стане з нашай работай? Я разумею — маці, сын на вайне і ўсё такое, але гэта не зна-

чыць, што ў такіх выпадках законы і інструкцыі анулююцца.

— Ды гэта ж толькі адзін такі выпадак, Іван Андрэіч,— мякка ўгаворвала Кацярына Антонаўна.— Законы і інструкцыі застануцца тыя самыя.

Іван Андрэевіч з дакорам паківаў галавой:

— Ай-яй-яй, Кацярына Антонаўна. Пакажыце мне, дзе сказана, што ў некаторых выпадках можна прычапляць да лістоў лыжкі? А калі дапусціце адзін выпадак, то заўтра прычэпяць вам талерку, а потым і гаршчок... Навошта тады законы і інструкцыі выдаваць?

Кацярына Антонаўна адчула, што яны зусім раз'ехаліся ў розныя бакі і спрачацца далей няма сэнсу. Ды і наогул, ці варта столькі турбавацца праз нейкую там дробязь? Ці не ўсё роўна, што будзе з гэтай лыжкай?

Адыходзячы, Кацярына Антонаўна яшчэ раз зірнула на лыжку. І ёй зноў кінуліся ў вочы словы: «Ад мацеры...» Словы гэтыя цяпер гучалі дакорам: не звярнулі ўвагі... А ў гэтых крымзолях — матчына сэрца... А ў гэтай лыжцы подых роднай хаты... Можа, байцу ад гэтага подыху адразу зробіцца цёпла і ўтульна ў яго мокрым і халодным бліндажы? І як мала трэба, каб зрабіць уцеху і матцы і сыну.

...Праз паўгадзіны лыжка ляжала на стале ў начальніка цэнтральнага паштамта. Кацярына Антонаўна горача казала:

— Маці шле ад шчырага сэрца, не ведаючы ніякіх правілаў і інструкцый. І каму? Нашаму ж байцу на перадавую лінію. Маці спадзяецца, што ніхто перашкаджаць не будзе...

Іван Андрэевіч Барадук выступаў спакойна, упэўнена, адчуваючы на сваім баку ўсю сілу закону:

— Усё тое, што гаворыць Кацярына Антонаўна, я і сам разумею, але з гэтага не вынікае, што можна ўносіць дэзарганізацыю ў такую важную справу, як сувязь, ды яшчэ ў ваенны час. Ніхто не даў нам права парушаць інструкцыі. Лыжка або іншая падобная рэч без належнай упакоўкі, безумоўна, адчэпіцца, і тады...

Начальнік, разглядаючы адпраўленне, усміхаўся, а потым сказаў:

— Я думаю, да гэтага часу нідзе ніколі старая драўляная

лыжка не была ўзнята на такую прынцыповую вышыню, як тут у нас. Што ж цяпер нам рабіць? — дадаў ён жартаўліва.

Ён узяў трубку тэлефона і сказаў:

— Таварыш Карнавухаў? Можа, зойдзеце да нас на хвілінку па вельмі важнай «дзяржаўнай» справе?

Праз пару мінут увайшоў афіцэр.

— Ну, якая такая ў вас дзяржаўная справа? — спытаў ён.

— Во! — урачыста падаў яму лыжку начальнік.

Афіцэр глядзеў то на лыжку, то на прысутных і не ведаў, што думаць.

— Як паглядзіць на гэтую справу ваенная цэнзура? — спытаў начальнік.— Прапусціце вы яе на фронт?

Афіцэр ужо разабраўся, у чым справа, і сказаў:

— Прапусцім.

Таварыш Барадук адчуў, што законнасці і парадку пагражае небяспека, і зрабіў апошнюю спробу адстаяць іх:

— А як вы будзеце праглядаць гэты пакет? Ён жа сшыты ніткамі. Хіба будзеце разрываць, а потым зноў сшываць? Калі вы будзеце рабіць такія аперацыі над кожным адпраўленнем, то ніколі не справіцеся з работай.

— Зусім згодзен з вамі,— сур'ёзна адказаў Карнавухаў.— І калі вы будзеце прысылаць нам пакеты з лыжкамі, мы катэгарычна адмовімся прымаць іх. А пакуль што, можа, якая наша супрацоўніца згодзіцца ў парадку шэфства зрабіць такую аперацыю над гэтай адной лыжкай.

Новая атака была адбіта. Лыжка прарвала апошнюю, самую ўмацаваную «лінію абароны» і рушыла на фронт.

...На франтавой пошце сустрэлі яе дружным смехам:

— Вось гэта я разумею.

— Шкада, што мая маці не здагадалася.

— А самае галоўнае — дзірачка.

І ніводнага слова аб інструкцыях і правілах. Нібы іх зусім і не было.

Мала таго, здарылася нешта большае. Было распараджэнне — падрыхтаваць найбольш спешную пошту для адпраўкі на самалёце. З гэтым самалётам збіраўся ляцець генерал-маёр. Выпадкова ўбачыўшы лыжку, ён сказаў са смехам:

— А лыжку вы не думаеце адпраўляць спешнай поштай? Бо сказана ж: «Дарагая лыжка к абеду».

І лыжка паляцела на пазіцыі разам з самымі важнымі паперамі.

...Стары служака Барадук усё ж такі быў зусім правы, калі казаў, што ў дарозе лыжка можа адчапіцца. Калі сувязны Малімончык браў у палку пошту для сваёй роты, лыжка і ліст ужо былі паасобнымі рэчамі. Злучала іх толькі таварыская ўвага франтавых паштавікоў. Нехта нават напісаў проста на лыжцы: «Шастапал».

— Ого! — сказаў Малімончык.— Гэткай карэспандэнцыі я ніколі яшчэ не бачыў.

— Беражы яе, як свае вока,— пажартаваў нехта.

Маленькі Малімончык, з вузенькімі смяшлівымі вочкамі і маленькім носікам, падняў лыжку ўгору і ўрачыста сказаў:

— Або памру, або дастаўлю лыжку Васілю Шастапалу.

І сунуў лыжку сабе ў кішэню.

Рота, у якой быў адрасат, у той час знаходзілася на самай перадавой пазіцыі, і дарога туды была небяспечная. Але Малімончык не першы раз праходзіў па ёй. Ён ужо вывучыў тыя мясціны, дзе можна было чакаць непрыемнасцей. Ды і наогул былі пракладзены шляхі, па якіх адбывалася забеспячэнне перадавых часцей. У адной траншэі ён абагнаў байцоў, што даштаўлялі туды тэрмасы з абедам. Час ад часу то там, то там мерна, метадычна рваліся снарады і міны.

Потым ён ішоў між кустоў, і вось тут яго накрыў выпадкова снарад. Разарваўся ён за некалькі метраў. Зашамацелі асколкі па кустах. Малімончыка паветра кінула ўбок, паштовая сумка адляцела ў другі бок.

Паляжаў ён крыху, прыслухаўся да сябе — здаецца, нічога. Устаў, паварушыў рукамі і нагамі — усё ў парадку. І пайшоў далей.

Праз некаторы час ён заўважыў, што лыжкі ў кішэні няма.

— Ах, каб цябе...— вылаяўся ён і спыніўся.

Што рабіць? Ён ведаў, што ніякай бяды не будзе, калі ён прыйдзе без гэтай нічога не вартай лыжкі. Ведаў ён таксама, што Шастапал даўно ўжо мае другую лыжку. Але тут лыжка

зусім асаблівая — з дому, ад маткі, з дзірачкай, пэўна, тая самая, якою Васіль еў яшчэ пастушком. Якая была б радасць, каб, скажам, і яму, Малімончыку, маці прыслала яго дзіцячую лыжку... Не, гэта будзе не па-таварыску, калі ён так кіне яе...

Малімончык павярнуў назад. А тут, як на тое ліха, наляцеў нямецкі самалёт, узнялася страляніна. Сцяўшы зубы, Малімончык пайшоў хутчэй.

...Васіль Шастапал сядзеў, стуліўшыся, у бліндажы і драмаў. Вакол яго ішло звычайнае акопнае жыццё: адны дзяжурылі, другія спалі, трэція поркаліся са сваёй амуніцыяй. Рэдкія выбухі ні на каго не рабілі вялікага ўражання.

Раптам пачуўся голас Малімончыка:

— Гэй, Васіль Шастапал, выходзь на сцэну.

Васіль усхапіўся. Цяпер можна было разгледзець, што гэта быў дужы салдат з дзіцячым тварам.

— Ану, паскачы! — закамандаваў Малімончык.— Атрымаеш ліст і пасылку.

Васіль сарамліва ўсміхнуўся.

— Ты не думай, што гэта жарты,— сур'ёзна сказаў Малімончык,— гэта ўсеагульны закон.

— Паскачы! Паскачы! — загулі навакол.— А то не дадуць.

Васіль нязграбна падкінуў ногі.

— Яшчэ! Яшчэ! — патрабавала публіка.

Бліндаж ажывіўся. Адны давалі музыку голасам, другія на губах, іншыя пляскалі рукамі. Замест турэцкага барабана грукалі нямецкія гарматы.

Ці магла падумаць Кацярына Васільеўна, што яе сціплую лыжку будуць сустракаць з такой урачыстай музыкай?

Васіль затупаў больш жвава, але, як і спачатку, нязграбна, з той грацыёзнай і прывабнай нязграбнасцю, з якой танцуюць малыя дзеці.

І ўсім зрабілася прыемна і цёпла на душы.

Тады Малімончык урачыста паказаў старую, чорную драўляную лыжку. Музыка адразу спынілася. Усе здзіўлена глядзелі на лыжку.

Калі высветлілася, у чым справа, смеху і жартам не было канца. Але і смех і жарты былі вельмі задушэўныя.

Васіль, саромеючыся, разглядаў лыжку. Ён пазнаў яе, і перад ім паўстаў вобраз роднай, мілай маткі, пах родных палёў, малюнкі дзяцінства. А з трохкутнага ліста́ ён пачуў знаёмы матчын голас...

...Многа дзён прайшло пасля таго. Гвардзеец Васіль Шастапал ніколі не разлучаўся са сваёй лыжкай. Ён мыў яе у Пруце, еў ёю гуляш у Венгрыі, далучыўся да тых дзвюх дзя́ўчат, што варылі кашу ў Венскім лесе, і здзіўляў ёю чэхаў, якія ад усёй душы частавалі яго на сваёй вызваленай зямлі.

Ён і цяпер карыстаецца гэтай лыжкай, але толькі па святах.

*1948 г.*

## МАКСІМКА

Дзіцячы дом стаяў у зацішным кутку, сярод узгоркаў, парослых самымі разнастайнымі дрэвамі — хвоямі, бярозамі, дубамі. Унізе — рачулка, лазнякі, паплавы. Воддаль была чыгуначная станцыя. Гудкі паравозаў сведчылі, што гэты зацішны куток усё ж такі звязаны з шумным светам. А асноўнае насельніцтва дзіцячага дома нават вельмі звяртала ўвагу на гэтыя гудкі: яны напаміналі, што да каго-небудзь з іх можа прыехаць татка або мамка. Але да каго?

Некаторая частка больш дарослых загадзя ведала, што да іх прыедзе хто-небудзь з бацькоў і возьме дадому. Але такіх было вельмі мала; большасць ведала, што па іх ніхто ўжо не прыедзе... Ведалі яны гэта даўно, прымірыліся з лёсам і толькі з зайздрасцю пазіралі на тых, да каго прыязджалі бацькі.

І была яшчэ значная група грамадзян чатырох-пяцігадовага ўзросту, якія ўсе былі ўпэўнены, што да іх заўтра прыедзе татка. Ні ў якім разе не мамка, а толькі татка, у пагонах, з медалямі, з рэвальверам.

Довадаў было колькі хочаш. Па-першае, вайна скончылася, і ўсе таткі, пабіўшы і забраўшы ў палон фашыстаў, павінны вярнуцца дадому. Аб гэтым казалі ўсе — і цётка Каця, і старэйшыя дзеці, і самі малышы, працуючы ў пяску.

Знаходзіўся гэты пясок на сонечным баку ўзгорка, на якім раслі хвоі. Туды ахвотна ішлі на працу не толькі нашы малышы, але і больш дарослыя дзеці. Там заўсёды капашыўся народ, і ўся гэтая мясціна мела акурат такі самы выгляд, які маюць здалёк вялікія горныя распрацоўкі.

Тут кожны знаходзіў сабе працу па гусце. Тут можна было і бліндажы будаваць, і супрацьтанкавыя равы, а пад карэннямі хвояў — нават сапраўдныя зямлянкі. Можна было і хлеб пячы, і лялькі рабіць, і гарады адбудоўваць, і купацца ў пяску — і ад усяго гэтага мець самае светлае дзіцячае шчасце.

Малышы займалі на гэтай пляцоўцы цэнтральнае месца. Іх участак быў найбольш насычаны рознымі механізмамі: лапаткамі, вядзёрцамі, тачкамі, скрыначкамі, дошчачкамі, аўтамашынамі, мячыкамі, драўлянымі яйкамі і матрошкамі. Тут адбываліся і дыскусіі па важнейшых пытаннях бягучага жыцця. Так, напрыклад, калі скончылася вайна, адразу ж на абгаварэнне было пастаўлена пытанне аб ролі татак у Айчыннай вайне. Спрэчкі распачаў Юра. Ён сказаў:

— Мой татка пабіў многа-многа фашыстаў.

— А мой татка пабіў столькі і яшчэ столькі,— зараз жа адказаў Бора, паказваючы рукамі на лясы і ўзгоркі.

— А мой татка пабіў усіх фашыстаў і там, і там, і ўсюды,— абвясціў Сеня.

Было іх тут чалавек дзесяць, і кожны лічыў патрэбным выступіць з такой заявай незалежна ад таго, памятаў хто свайго татку ці не. Аднак усе яны мелі права выказвацца па ваенных пытаннях, бо ў кожнага з іх было ваеннае мінулае. Мінулае з тых часоў, калі ім было па гадку ці два.

Ці захаваліся ў іх якія ўспаміны аб тых падзеях? Былі ўспаміны, і вельмі яркія, ды несвядомыя, паміж сабой не звязаныя. Вось гэты самы Юра добра памятае, як гарэлі хаты, і зусім не ведае, што ў гэты час згарэлі яго маці, бабка, сястра і брат. А Бора памятае лес, памятае, як беглі людзі, крычалі, стралялі, а не ведае, што ён быў знойдзены ў лесе каля забітай мамкі. Сеня памятае толькі, як мамка везла яго на саначках, як было весела і цікава. Нават ветэран Алёша, у якога немец страляў з рэвальвера і ў якога да гэтага часу застаўся на шчацэ шрам ад раны, нават гэты сталы і разважлівы Алёша памятае толькі немцаву каску ды чорныя вусікі, а больш нічога.

Тут, у дзіцячым доме, іх веды значна папоўніліся. Перш за ўсё яны даведаліся, што іхнія мамы, існавання якіх адмаўляць ніхто не адважваўся, вельмі заняты рознымі важнымі справамі і ніяк не могуць наведаць сваіх дзяцей. Кожны дзень яны збіраюцца прыйсці, ды ўсё не выпадае: то не выраслі яшчэ яблыкі, якія адна мама хоча прынесці, то другая мама аніяк не можа знайсці самага лепшага пеўніка, без якога ехаць зусім не-

магчыма, а трэцяя мама ўсё шые нейкую цудоўную кашулю. У некаторых выпадках мамы не ехалі таму, што іхнія дзеткі былі тут нядобрыя: не слухаліся, не елі, не хацелі спаць і крыўдзілі таварышаў. Часам мама была ўжо тут недзе блізка, але не ішла, чакала, пакуль яе Уладзік зробіцца зусім добрым.

Так стаяла пытанне наконт мам. І хоць мамы могуць пакрыўдзіцца, мы адважымся сказаць, што пытанне гэтае не было надта вострым і актуальным. Вострым не было таму, што цётка Каця і нянька Насця досыць паспяхова замяшчалі невядомых мам. А актуальным не было таму, што ў ваенны час, як ні кажы, а на першы план усё ж такі выступалі таты.

Усе дзеці ведалі, што іхнія таткі на вайне, б'юць фашыстаў. Нават Віця, у якога бацька памёр перад вайной, быў упэўнены, што яго татка цяпер ваюе не горш за другіх. Калі да іх даходзіла гаворка, што там ці там нашы пабілі немцаў і ўзялі горад, то кожны ведаў, што гэта зрабіў галоўным чынам яго татка.

І вось цяпер яны пачулі, што вайна скончана, кожны можа чакаць, што да яго прыедзе татка.

Першаму пашанцавала Сярожу. Ніхто нічога не бачыў, не ведаў, а раптам і цётка Каця і нянька пачалі шукаць і клікаць яго:

— Сярожа! Ідзі сюды, да цябе татка прыехаў!

Той як усхопіцца, як пабяжыць! А за ім і Юра, і Бора, і Алёша, і Максімка. Сярожу зараз жа ўзяла за руку цётка Каця і павяла, а ўсе іншыя ішлі ззаду самі, і ніхто на іх не звяртаў увагі.

Цётка Каця прывяла Сярожу ў сталовую, падвяла да высокага вайскоўца і сказала:

— Вось ён!

Вайсковец схапіў Сярожу ў абдымкі, стаў цалаваць, гладзіць па галаве і ўсё гаварыў:

— Во які ты маладзец! І пазнаць нельга!

Сярожа саромеўся і нічога не казаў. Але адным вокам усё пазіраў на сваіх таварышаў, якія ціскаліся ў дзвярах, каб паглядзець на гэтую сустрэчу. Сярожа ведаў, што таварышы яму зайздросцяць, і вельмі задаваўся. Гэта відаць было па яго правым воку, якое было хітрае-хітрае і выразна паказвала, што Сярожа надта хоча сказаць: «Ага!»

Але тут цётка Каця чамусьці стала адганяць дзяцей ад дзвярэй:

— Ну, чаго вы лезеце сюды? Не перашкаджайце. Ідзіце на свой пясочак. Калі будзеце добрымі, то і да вас таткі прыедуць.

Ну як тут не быць добрым! На Максімку ніхто не скардзіўся; Максімку хваліла і цётка Каця і нянька Насця; Максімка старанна еў тады, калі яму зусім не хацелася есці, і ціхенька ляжаў, калі яму зусім не хацелася спаць. Аднак ён адразу адгукнуўся на словы цёткі Каці:

— А я не запэцкаўся! — і паказаў свой сіні, з белымі палоскамі, халацік. З кішэні высоўвалася насавая хустачка, а з носа — белая кропелька. Сустрэцца ім усё неяк не шанцавала.

— Ведаю, што Максімка добры хлопчык! — сказала цётка Каця.— Затое татка да яго прыедзе і пахваліць. Толькі ты хустачкай нос выцірай, хустачку аб нос можна пэцкаць.

Максімка нязграбна, абедзвюма рукамі выцягнуў хустачку, ссунуў сваю кроплю набок і сяк-так зноў запхнуў хустачку ў кішэню. Цяпер ужо татка яго абавязкова пахваліць.

На другі дзень на пясчаных распрацоўках Сярожы ўжо не было,— ён паехаў са сваім таткам. Мусіць, кожны падумаў: як цікава яму цяпер!

— І мой татка ўчора прыедзе! — катэгарычна абвясціў Юра, нібы толькі што атрымаў тэлеграму.

Але яго зараз жа перакрыў Уладзік (яго татка загінуў пад Севастопалем):

— А мой татка прыедзе заўтра і прывязе мне стрэльбу!

— А мой татка прывязе мне самалёт! — крыкнуў Сеня.— І я буду на ім катацца.

Гэтыя словы пачуў васьмігадовы Толя, які працаваў на суседнім участку. Толя ўжо лічыў сябе сталым чалавекам. Ён памятаў і свайго татку і сваю мамку. А цётка Каця яшчэ казала, што яны шукаюць яго.

Дзіцячыя, беспадстаўныя меркаванні Сені здаліся Толю зусім недарэчнымі, і ён насмешліва сказаў:

— На такім самалёце лятаць нельга — ён для гульні. А мне татка купіць веласіпед сапраўдны, на якім можна ездзіць.

Максімка адчуў, што маўчаць болей нельга, што трэба ра-

таваць свой гонар і гонар свайго таткі. Ён устаў на ўвесь рост і ўрачыста сказаў:

— А мой татка прывязе мне машыну!

Усе яго канкурэнты прыціхлі: што ні кажы, а супраць машыны выступаць цяжка.

Але раптам у Максімкі пацямнела ў вачах: хтосьці абхапіў яго галаву і вочы, пацалаваў і прамовіў:

— Гаротны ты мой!..

Гэта была нянька. Яна ведала, што ў яго няма ні таткі, ні мамкі, і словы яго разанулі ёй сэрца... Але Максімка не звярнуў на гэта ўвагі: ён быў ахоплены пачуццём перамогі над таварышамі і вельмі канкрэтна ўяўляў сабе татку і машыну.

Юра ўбачыў, што ён застаўся далёка ззаду, і крыкнуў:

— А мой татка прывязе мне сто машын!

Тады выступіў Алёша з заявай, што яго татка прывязе яму тысячу машын. Нехта ўжыў нават слова «мільён», але ўсе гэтыя выступленні ўжо не зрабілі ніякага ўражання, бо выразна адчувалася, што прамоўцы самі не вераць сваім словам і гавораць так сабе, абы не саступіць другім.

Падобныя гутаркі паўтараліся не раз. Асабліва тады, калі які-небудзь татка сапраўды прыязджаў. А такіх выпадкаў за лета было тры. Было яшчэ некалькі выпадкаў, калі прыязджалі мамы або цёткі. Але іх прыезд зусім не рабіў такога шуму, як прыезд героя-таткі. Таму зусім не дзіва, што кожнаму хацелася пахваліцца іменна сваім таткам. Хацелася і Уладзіку, і Максімку, і яшчэ многім з тых, чые таткі ляжалі пад Сталінградам, Будапештам, Берлінам... Дзеці не ведалі гэтага і ведаць не жадалі, нават каб і знайшоўся такі чалавек, які адважыўся б ім растлумачыць.

Аднаго разу, у жніўні, па дарозе ад станцыі ішоў вайсковец. На левай руцэ ў яго вісеў шынель, у правай ён нёс невялікі чамадан. Здалёк відаць было, як блішчалі на яго грудзях ордэны і медалі.

Максімка ў гэты час адзін у кутку саду паляваў на нейкага залатога жука. Але зараз жа пакінуў яго, калі ўбачыў, што ў гэты бок ідзе нечы вайсковы татка.

А можа, гэта ўжо ягоны татка?..

Дарога ў дзіцячы дом ішла каля самага плота. Максімка, рызыкуючы апячыся аб крапіву, прасунуў скрозь плот галаву і прагна сачыў за падарожнікам. Той набліжаўся шпарка; ён рабіў такія крокі, што толькі боты паблісквалі.

Калі мужчына падышоў зусім блізка, Максімка ўбачыў,— ён плячысты і такі высокі, што адны боты былі б Максімку да падбародка. А твар у дзядзькі светлы і вельмі прыемны. Ды яшчэ медалі блішчаць. Магчыма, гэта і ёсць яго татка. Але як пазнаць яго? А можа, ён сам пазнае Максімку?

І хлопчык стараўся яшчэ болей высунуць галаву. Сярод крапівы ды лапухоў твар яго вызначаўся, як белая кветка, а вочкі гарэлі, бы вугольчыкі. І столькі прагнага імкнення было ў гэтых вачах, што яны спынілі б вялікага дзядзьку нават і тады, каб былі накіраваны яму ў спіну.

Вайсковец прыпыніўся.

— Ты куды, браток, ушчаміўся, га? — сказаў ён са смехам.— Назад не вылезеш? Можа, дапамагчы табе?

— А вось і вылезу! — адказаў Максімка і адсунуўся назад, каб паказаць, што ніякай бяды няма.

Вайскоўцу нічога не заставалася, як ісці далей. А Максімка садам пайшоў за ім следам. Адзіная думка валодала ім: чый гэта татка? І тут жа разам цёплая надзея і мацнейшае жаданне штурхалі на другое пытанне: а можа, мой?..

Калі Максімка прыйшоў у дом, то ўбачыў, што вайсковец сядзіць адзін у сталовай і нібы кагосьці чакае. Ці не яго, Максімку?.. Маленькае сэрца застукала моцна-моцна. Ён стаіўся ля дзвярэй і стаў наглядаць. Вайсковец то ўставаў, падыходзіў да акна, то зноў садзіўся.

Чаму да яго ніхто не ідзе? І цёткі Каці няма. А яна ж заўсёды ведае, чый татка прыехаў і каго трэба паклікаць.

Не, відаць, ён не чый татка, а Максімкаў. Максімка адразу пазнаў яго: акурат пра такога самага татку ён заўсёды і думаў — і боты, і медалі, і дужы, і добры. І бачыў ён яго раней, калі быў малы. А татка цяпер не пазнаў Максімку таму, што ён ужо вырас...

Схіліўшы галаву і хвалюючыся, Максімка ўвайшоў у ста-

ловую і бокам-бокам пасунуўся да вайскоўца. Той сядзеў, абапёршыся локцямі аб калені, і штосьці такое думаў. У гэтую мінуту Максімка, сарамліва ўсміхаючыся, праціснуўся паміж каленяў і шчыра прытуліўся да яго грудзей.

Вайсковец зараз жа абняў Максімку, прытуліў, стаў гладзіць па галаве, гаворачы:

— Гэта ты, мой пацан? Той, што ўшчаміўся ў плоце? Добры хлапец. А як цябе зваць?

— Максімка,— ціха адказаў хлопчык, кратаючы медалі.

— Максімка? Вельмі добрае імя. У нас на вайне Максімкі здорава білі фашыстаў. Як зададуць ім — та-та-та! Фашысты ходу, дагары нагамі ляцяць. Во якія ў нас былі Максімкі!

— А яны былі вялікія?

— Не, малыя, такія самыя, як ты,— смяецца татка,— і мы іх вазілі на калёсках.

Максімка зараз жа ўявіў сабе, як хлопчыкі сядзяць на калёсачках, а таткі шпарка-шпарка вязуць іх на немцаў. Максімкі страляюць — та-та-та! — а немцы ўцякаюць. Як шкада, што яго, Максімкі, там не было. І яго татка пакатаў бы, і яны разам фашыстаў білі б.

— А чаму ты мяне не ўзяў? — папікнуў Максімка татку.

— Не ведаў, братка ты мой, дзе ты жывеш,— зноў смяецца татка.

Ад гэтага смеху твар таткі робіцца яшчэ больш прыгожым і добрым. Максімка туліцца да яго бліжэй, перабірае рукою бліскучыя гузікі, рамяні. Ад кожнага руху таткі гэтыя рамяні рыпаюць, і ад іх ідзе нейкі прыемны пах. Ніколі не было Максімку так прыемна, так цёпла на сэрцы. Ён прытуліўся шчакой да таткавай рукі і спытаў:

— А машыну мне прывёз?

Раптам з таткам нешта здарылася: ён перастаў смяяцца, спахмурнеў, нават адсунуў руку ад Максімкавай шчакі, нібы чагосьці спалохаўся. Потым дзвюма рукамі моцна сціснуў Максімку за плечы, паглядзеў на яго сур'ёзна, нібы сурова, і ціха прамовіў:

— Бедны хлопчык!..

Затым устаў, заспяшаўся, схіліўся над сваім чамаданам...

У гэтую хвіліну ў сталовую ўвайшла цётка Каця, а з ёю Толя. Толя крыкнуў: «Тата!» — і пабег да вайскоўца, а той пайшоў яму насустрач, схапіў пад пахі, падняў высока-высока, а потым прыціснуў да сябе, пацалаваў і сказаў:

— А які ж ты вялікі зрабіўся!

Павярнуўшыся, ён зноў убачыў Максімку. Той стаяў ля яго чамадана, апусціўшы рукі, і з вялікай пакутай глядзеў на бацьку з сынам. З вачэй яго збіраліся скаціцца дзве кропелькі.

Зноў вайсковец перастаў смяяцца, спахмурнеў.

— Хто гэты хлопчык? Ці ёсць у яго бацькі? — ціха спытаў ён у цёткі Каці.

— Гэта наш слаўны Максімка,— адказала цётка Каця.— Бацька яго загінуў пад Сталінградам, а маці закатавалі немцы. Больш у яго нікога няма.

— Калі ласка, прашу вас,— стаў прасіць вайсковец,— суцешце яго як-небудзь. Ён жа палічыў мяне за свайго бацьку.

Вайсковец паставіў свайго сына на зямлю, падбег да чамадана, адчыніў яго і хуценька пачаў вымаць: дасканалую аўтамашыну, некалькі плітак шакаладу, размаляваную кніжку і яшчэ нейкія цікавыя рэчы. Усё гэта выклаў ён каля ног Максімкі і сказаў:

— Бяры, Максімка, гэта табе прыслалі.

Тады пакрыўдзіўся Толя і плакучым голасам сказаў:

— А мне?.. Мне дык нічога...

— Табе, братка, крыўдзіцца ніяк нельга,— сказаў бацька, зачыняючы чамадан.— У цябе ёсць усё і будзе ўсё, што толькі захочаш.

А Максімка нават не паварушыўся. Ён глядзеў некуды ўбок, і дзве кропелькі ўжо каціліся ўніз... Але ён маўчаў. Ён разумеў, што ні ад каго не можа патрабаваць, каб гэты дзядзька стаў яго таткам.

Тут яго падхапіла на рукі цётка Каця, пачала цалаваць, мілаваць ды прыгаворваць:

— Паглядзі, Максімка, якую табе машыну прывезлі. Ніхто такой не мае... А кніжка якая!..

Пры гэтым яна старалася стаць так, каб засланіць ад яго бацьку з сынам.

А бацька абы-як зачыніў чамадан, узяў за руку Толю і ціха пайшоў за дзверы з такім выглядам і адчуваннем, нібы зрабіў нешта нядобрае, нібы ён нечым вінаваты.

...Цёпла, светла, утульна ў кватэры. Толя мае ўласны кут, а ў ім усё, што хочаш,— і машыны, і кніжкі, і ўсялякія цацкі.

За сталом — бацька і маці.

— Я і да гэтага часу не магу прывыкнуць, што мы зноў сабраліся разам,— кажа маці.— Ты — недзе на фронце, я — у палявым шпіталі, а Толя з бабуляй і зусім невядома дзе.

— Навошта ўсё гэта ўспамінаць? — кажа бацька.— Скончылася шчасліва для нас — і годзе.

— Так... для нас,— задумліва сказала маці.— А для іншых?.. Скажам, для таго Максімкі, пра якога ты расказваў...

Бацька зморшчыўся, нібы яму што забалела, і сказаў:

— Зноў ты напомніла мне пра гэтага хлопчыка! Ён і так заўсёды стаіць у маіх вачах.

— Ды і я не забываю яго, хоць сама і не бачыла,— мякка ўсміхаючыся, сказала маці.

— Яму там зусім нядрэнна: і сыты, і дагледжаны, і жыве нібы ў сям'і.

На другі дзень, калі бацька і маці сядзелі на канапе, да іх падбег Толя, вясёлы, шчаслівы. Ён праціснуўся паміж каленяў бацькі, прытуліўся да яго і сказаў:

— А веласіпед сапраўды мне купіш?

— Куплю, сынок, куплю. Толькі пакуль што няма дзе купіць,— адказаў бацька, а потым звярнуўся да жонкі: — Акурат таксама той хлопчык прытуліўся да мяне і прасіў машыну. Ён так быў упэўнены, што перад ім яго татка...

Маці сказала:

— Ведаеш, што я думаю: ці мае права наш Толя быць такім шчаслівым, калі столькі дзяцей засталося без бацькоў?

— Чаму ж не? — адказаў бацька.— Ён нічыё месца не займае. А вось мы займаем месцы забітых бацькоў, таму не маем права забываць пра іх дзяцей.

Так Максімка, сам таго не ведаючы, увайшоў у жыццё гэтай шчаслівай сям'і. Увайшоў і заняў пэўнае месца ў сэрцы не толькі бацькі, але і маткі, якой часам здавалася, нібы яна сама прысутнічала пры той сустрэчы: надта ўжо выразна перадаў ёй муж усю сцэну. І пры кожным выпадку яны з замілаваннем успаміналі незнаёмага, далёкага хлопчыка Максімку.

... Была ўжо восень. Дрэвы вакол дзіцячага дома пажоўклі. Апусцелі пясчаныя распрацоўкі. Пранізлівы вецер без перашкоды гуляў па пералесках і ўзгорках. З зачыненага дома ішоў гул, як з устрывожанага вулля.

Малышы перанеслі свае будаўніцтва ў памяшканне. Замест пяску ў іх цяпер былі бярвенні, фермы, блокі, кубікі. Як і раней, яны чакалі, што заўтра ці ўчора прыедзе татка і прывязе нешта такое... такое...

— А мой татка прывязе мне сто кубікаў!

— А мой татка прывязе мне поўны дом кубікаў!..

Раптам падышла цётка Каця:

— Максімка, ідзі сюды! Да цябе татка прыехаў!

Нельга сказаць, каб Максімка вельмі здзівіўся: ён і без таго ведаў, што калі-небудзь ды татка прыедзе. Але ўсё ж такі ён захваляваўся і пачырванеў.

Цётка Каця ўзяла яго за руку і павяла. А ззаду самі ішлі Алёшка, Віцька, Сенька, Борка, і на іх ніхто не звяртаў увагі. Хутка Максімка ўбачыў высокага дзядзьку і адразу пазнаў, што гэта той самы татка, які прывёз яму машыну, але тады чамусьці не захацеў узяць яго з сабой. Затое цяпер ён сам падышоў да Максімкі, узяў яго на рукі і сказаў:

— Ну, Максімка, збірайся: едзем дадому, мама чакае.

І зноў Максімка ўбачыў той самы светлы, прыемны твар, зноў адчуў цеплыню на сэрцы і зноў шчыра прытуліўся да грудзей таткі.

Але адно вока яго глядзела на таварышаў хітра-хітра, ён не мог стрымаць сябе і сказаў ім:

— Ага!..

*1946 г.*

«Шлях з цемры» — аўтабіяграфічная аповесць Янкі Маўра, кожная з трох яе частак адпавядае тром важным перыядам жыцця пісьменніка: гады дзяцінства, вучоба ў рамесным вучылішчы, навучанне ў настаўніцкай семінарыі.

Выкарыстаўшы шырока ў гэтым творы аўтабіяграфічны матэрыял, Янка Маўр не даў аднак паслядоўнага і падрабязнага вытлумачэння кожнага факта. Ён расказаў толькі аб падзеях і эпізодах, якія найбольш запомніліся яму і адыгралі вызначальную ролю ў фарміраванні яго характару і поглядаў. Пэўная фрагментарнасць сюжэта аповесці «Шлях з цемры» была адзначана самім аўтарам, які ў рускім выданні змясціў да гэтага твора падзагаловак — «Главы ўспамінаў».

Першая частка аповесці «Шлях з цемры» выйшла ў 1948 годзе, другая разам з першай была ўключана ў двухтомнае выданне Збору твораў Янкі Маўра (1960), трохі раней — у 1958 годзе — усе тры часткі аповесці былі выдадзены на рускай мове [1]. На беларускай мове трэцяя частка аповесці «Шлях з цемры» друкуецца ўпершыню. Два апошнія раздзелы гэтай часткі — «У мяшчанскай сям'і», «Тайны сход у лазні» наогул яшчэ не публікаваліся.

Шмат увагі ў першай частцы аповесці адведзена паказу побыту вёскі Гнілушкі, куды разам з маці прыехаў з горада маленькі Янка. Пісьменнік дае магчымасць чытачу глыбока адчуць народнае гора, зразумець трагізм жыцця беларускага дарэвалюцыйнага сялянства. Усё расказанае асабліва хвалюе і западае ў памяць, таму што гучыць як бы з вуснаў самога хлопчыка, які па-дзіцячаму непасрэдна і наіўна глядзіць на свет. Аднак да голасу маленькага героя часта далучаецца голас самога аўтара, сталага, разумнага, узбагачанага вялікім жыццёвым вопытам чалавека, які трапна іранізуе над сваімі дзіцячымі ўражаннямі: «Звычайна думаюць, што жыць у курнай хаце — няшчасце, што толькі адпетая бедната жыла ў курных хатах. А я, ды і Міхалутка, Цімка, Рыпішка зусім так не думалі».

Іронія з'яўляецца адметнай асаблівасцю аповесці «Шлях з цемры», яна не толькі ажыўляе матэрыял, але і дапамагае аўтару без залішняй павучальнасці даць правільную ацэнку той ці іншай падзеі, уражліва і запамінальна расказаць пра найбольш характэрныя з'явы дарэвалюцыйнай рэчаіснасці. Пісьменнік, напрыклад, не расказвае падрабязна пра тое, што голад быў нязменным спадарожнікам сялян, а толькі заўважае, што з дзіцячых гадоў самыя моцныя ўражанні ў яго засталіся ад таго, дзе ён і што пакаштаваў. Своеасабліва, і зноў жа праз успрыманне маленькага героя аповесці, гаворыць Янка Маўр пра малазямелле сялян: дзеці любілі скакаць цераз шнуры — сялянскія зямельныя надзелы. «Калі мы, хлапчукі,— піша аўтар, аднаўляючы свае дзіцячыя ўражанні,— не маглі пераскочыць цераз такі шнур, то лічылі, што ён належыць багатаму гаспадару». У гэтай жа манеры расказана ў творы пра непісьменнасць, адсталасць, забабоннасць сялян.

Ствараючы малюнкі дзяцінства маленькага Янкі і яго таварышаў — Петрыка, Міхалуткі, Рыпішкі,— Янка Маўр разгортвае праўдзівую гісторыю жыцця і выхавання «самапасам» тысяч дзяцей беларускай дарэвалюцыйнай вёскі. Ён падрабязна расказвае аб гульнях і забавах вясковых дзяцей і адзначае, што ў гэтых забавах было нямала дзікага і жорсткага,

---

[1] Янка Мавр. Избранное. Советский писатель. Москва, 1958.

як і ў самім сялянскім побыце. З прыкрасцю ўспамінае аўтар пра бессэнсоўнае разбурэнне птушыных гнёздаў, пра бязлітаснае знішчэнне яек і маленькіх птушанят. Як бы апраўдваючыся перад чытачамі за гэтыя неразумныя ўчынкі, Янка Маўр адзначае, што ніколі ніхто з дарослых не растлумачыў малым, якую карысць прыносяць птушкі людзям, ніхто і ніколі не звярнуў увагі на іх дзікія забавы. «Не ведалі мы толькі,— зазначае аўтар,— што з птушыных яек можна зрабіць цікавую калекцыю. Не было такога чалавека, які мог бы нам пра гэта расказаць.»

Праз шэраг канкрэтных эпізодаў у аповесці таленавіта падкрэслена дапытлівасць дзяцей, іх жывы розум, імкненне да ведаў. Штодзень жыццё ставіла перад героем твора і яго сябрамі безліч новых пытанняў, але хлопчыку з глухой вёскі не было каму растлумачыць незразумелае. Не магла задаволіць цікаўнасці Янкі і маці, бо сама ведала вельмі мала:

« — Мама, што такое «літаратура»? — пытаюся я.

— Кніга такая,— упэўнена адказвае яна.

— А што такое «рэальны»?

— Гэта — ралля, пахаць, дзе сеюць,— не маргнуўшы вокам, кажа мама».

Надзвычай мала ў сэнсе набыцця ведаў магла даць дзецям тагачасная вясковая школа. Успамінаючы аб вучобе ў пачатковай школе, Янка Маўр рэзка крытыкуе ўсю сістэму навучання і выхавання сялянскіх дзяцей у дарэвалюцыйны час. Ён адзначае, што праз школу царква атручвала свядомасць дзяцей.

...Са здзеклівай іроніяй адзначае пісьменнік, што неўзабаве пасля смерці імператара Аляксандра III бацюшка паказаў дзецям фотакартку, на якой быў «зазняты» палёт нябожчыка Аляксандра ў рай...

Пранікнёныя старонкі аповесці «Шлях з цемры» прысвяціў Янка Маўр сваёй маці, беднай удаве-падзёншчыцы, ціхай негаваркой жанчыне, якая, як магла, ахоўвала сына ад нягод, ва ўсім адмаўляла сабе дзеля яго. «Вельмі было дарэчы,— піша Янка Маўр,— што мама не любіла акурат таго, што я вельмі любіў. Калі часам траплялася малако, то мама мне ў жытнюю зацірку ліла многа, хоць лыжак пяць, а сабе — нічога, хіба ў крайнім выпадку адну лыжку. А калі я пачну дапытвацца, чаму яна сабе не лье, то яна заўсёды адказвала, што не любіць малака...»

З удзячнасцю ўспамінае пісьменнік пра тое, што непісьменная маці была яго першай настаўніцай, яна вучыла не лаяцца непрыстойнымі словамі, не паказваць на каго-небудзь пальцам, не смяяцца з калекі, паважаць старэйшых, шкадаваць жывёлу. Адзінокая ўдава-пакутніца, пераадольваючы перашкоды, імкнулася даць адукацыю сыну. Яна спадзявалася, што навука дапаможа яе Янку вырвацца з цемры і галечы. Дзеля гэтага яна адкладвала здабытыя з вялікімі цяжкасцямі медзякі.

Своеасаблівую ролю ў творы адыгрываюць эпіграфы. У першай частцы пісьменнік выкарыстаў вытрымкі з кніг аб жыцці дваранскіх дзяцей — «Детства» Л. Талстога, «Детских лет Багрова-внука» С. Аксакава, «Воспоминаний детства» С. Кавалеўскай, «Детства Никиты» А. Талстога, «Детства Тёмы» Н. Гарына, «Далеких лет» К. Паустоўскага і інш. У выніку змест эпіграфа і раздзела, да якога ён прыведзены, далі супрацьлеглыя малюнкі. Так, эпіграфам да чацвёртага раздзела аповесці «Шлях з цемры» ўзяты наступныя словы з «Детства» Л. Талстога: «Любочка... ходила в коротеньком холстинковом платьице, в беленьких, обшитых кружевом панталончиках и октавы могла брать только «arpedgio». У самім жа раздзеле Янка Маўр расказвае пра сваю стрыечную сястру Рыпішку, якая «заўсёды хадзіла ў адной і той жа зашмальцаванай кашулі, ці сукенцы, была нейкая нязграбная, пузатая, а твар быў заўсёды ў балячках».

Такое выкарыстанне эпіграфаў дало магчымасць пісьменніку больш

выразна і наглядна выказаць думку аб класавай няроўнасці, аб трагічным становішчы працоўных і іх дзяцей да рэвалюцыі.

У другой частцы аповесці «Шлях з цемры» Янка Маўр не прытрымліваецца паслядоўна адзначанага прынцыпу падбору эпіграфаў. У пошуках іх ён звяртаецца, напрыклад, да аўтабіяграфічнай трылогіі М. Горкага і надзвычай удала выкарыстоўвае як эпіграфы тыя мясціны гэтага твора, якія падкрэсліваюць агульнае ў лёсе тысяч дзяцей з працоўнага асяроддзя ў дарэвалюцыйным часе. «И пошел я в люди» (М. Горкі. «Детство») — такі эпіграф даў Янка Маўр да апошняга раздзелу другой часткі аповесці «Шлях з цемры». З эпіграфам пераклікаецца і змест гэтага раздзела і яго назва — «Выхад у людзі».

Ва ўсіх частках аповесці «Шлях з цемры» ўвага аўтара засяроджана на раскрыцці «дыялектыкі душы» галоўнага героя,— хлопчыка, падлетка, потым юнака. Ад наіўна-дзіцячага захаплення навакольным светам Янка Фёдараў паступова прыходзіць да крытычных разважанняў, у яго душу закрадаюцца сумненні наконт справядлівасці дзяржаўных парадкаў, што ўзаконілі раскошу і паразітычнае існаванне адных, галечу і непасільна цяжкую працу другіх.

Крок за крокам пашыраецца кругагляд падлетка Фёдарава, яго захапляюць творы Майна Рыда, Фенімора Купера, Жуля Верна. Пад уражаннем прачытаных кніжак з'яўляецца жаданне «аб'ехаць усю нашу зямлю, наведаць усе яе куткі!».

Здзівілі Янку Фёдарава сваёй суровай праўдзівасцю апавяданні Тургенева. «Асабліва ўрэзаўся ў памяць прыгонны дворнік Гарасім, які быў вымушаны патапіць свайго любімага сабаку Муму, а потым ад гора сам ледзь не павесіўся!».

Чым больш сталеў герой аповесці «Шлях з цемры», тым больш, без ніякай антырэлігійнай прапаганды, яго адольвалі сумненні, ці ёсць бог. На гэтую тэму ў рамесным вучылішчы спрачаліся горача і заўзята. Прачытаныя артыкулы пра Дарвіна, які даказаў, што ўсё на свеце змяняецца і развіваецца без удзелу бога, павялічылі колькасць кандыдатаў у бязбожнікі. Янка Маўр расказвае пра ўсё гэта захапляюча, з бліскучым гумарам, з шчырай перакананасцю непахіснага атэіста.

Шмат падзей адбылося ў жыцці Фёдарава — семінарыста, ён сустракаў розных людзей, навучыўся глыбей унікаць у сутнасць падзей, што адбываліся ў краіне. Мацнеў у ім дух пратэсту, нязгоды з несправядлівасцю. Бацюшка адчуваў у асобе начытанага і разумнага студэнта Фёдарава небяспечнага чалавека і толькі чакаў зручнага выпадку, каб дабіцца выключэння яго з семінарыі. Такі выпадак надарыўся. У Фёдарава была яшчэ магчымасць застацца ў семінарыі, трэба было толькі пакланіцца папу. Але зрабіць гэтага ён не змог, таму што быў ужо не наіўным хлапчуком з вёскі Гнілушкі, а незалежным і смелым юнаком, які меў свае перакананні і не мог адступіцца ад іх.

Жыццё, шуканні, роздум падрыхтавалі Івана Фёдарава да прыняцця рэвалюцыйнай праўды. У дзевятым, апошнім, раздзеле аповесці «Шлях з цемры» пісьменнік расказаў пра тайны сход, які адбыўся ў некалькі незвычайным месцы — у лазні. З хваляваннем слухаў Іван Фёдараў прамоўцу, які гаварыў, што «цар наогул нікчэмная фігура, а трымаецца ён толькі памешчыкамі і капіталістамі. Каб скінуць іх уладу, тады і сам цар паляціць дагары нагамі». Гэтак жа ўразіла Фёдарава нелегальная літаратура. «Здавалася,— піша аўтар,— што ў маёй галаве адчынілася нейкая адтуліна, праз якую хлынула ў сярэдзіну свежае паветра і святло».

Неўзабаве на імя Фёдарава пачала прыходзіць ленінская газета «Іскра». Гэта быў 1902 год, удакладняе пісьменнік і дадае: «Спатрэбілася ні многа ні мала — яшчэ пятнаццаць гадоў блуканняў і пошукаў, каб

нарэшце для мяне, Янкі з Гнілушак, скончыўся нялёгкі крывы шлях з цемры і адкрылася шырокая светлая дарога ў будучыню».

Таленавітая і яркая аповесць «Шлях з цемры» знаёміць чытачоў з дарэвалюцыйнай рэчаіснасцю, дапамагае сённяшнім дзяўчынкам і хлопчыкам нашай краіны глыбей асэнсаваць сонечную савецкую яву, выхоўвае іх у духу рэвалюцыйнай адданасці. З гэтага твору чытачы даведаюцца шмат новага пра жыццё Янкі Маўра, пра вытокі яго творчасці, некаторыя важныя асаблівасці характару. «Мне спадабалася кніжка «Шлях з цемры». У ёй многа смешных і сумных прыгод, і яны добра запамінаюцца. Я ведаю цяпер, як цяжка жылося Маўру ў дзяцінстве, як ён вучыўся і рос і як цяжка было вучыцца дзецям беднякоў да Кастрычніка»,— піша вучаніца 6-га класа Іра Афанасік.

Аўтабіяграфічная аповесць Янкі Маўра засталася незакончанай. Пісьменнік пачаў працаваць над чацвёртай часткай, у якой хацеў расказаць пра Лютаўскую рэвалюцыю і незабыўныя падзеі Кастрычніка. Аднак гэтай задумы ён не паспеў здзейсніць — была напісана толькі першая старонка новай кнігі.

Я дазволю сабе прывесці яе тут цалкам.

*«У лютым 1904 года ў нашым мястэчку пайшлі чуткі, што японцы пачалі з намі вайну. Некалькі дзён мы нічога пэўнага не ведалі, пакуль не прыйшлі сталічныя газеты. Першае ўражанне было — надзвычайнае здзіўленне і абурэнне вераломным нападам без аб'явы вайны. Валасны пісар Індрык грымеў сваім басам:*

*— Гэта ж нечуваная рэч! Адразу відаць, што мы маем справу з дзікунамі. Яшчэ тысячу гадоў назад Святаслаў папярэджваў: «іду на вы», а гэтыя япошкі адважыліся на такую подласць і на каго? На нашу вялікую Расійскую імперыю. Ды мы іх шапкамі закідаем.*

*А настаўнік Сямён Сямёнавіч задаволена паціраў рукі і зларадна пасмейваўся:*

*— Тым лепей, тым лепей! Калі яны самі захацелі загінуць, мы ім дапаможам. Але зразумець гэтага ніяк нельга. Куды яны лезуць? Ці знаёмы яны з сучаснай тэхнікай? Мы іх праз некалькі месяцаў у парашок сатром.*

*Мне таксама было ясна, што мы сатром іх у парашок у гэтым жа годзе, і я вельмі баяўся, што не паспею прыняць удзел у такой цікавай справе.*

*Газеты нашы казалі тое самае, падлічвалі, колькі ў нас будзе войск, гарматаў, караблёў, апісвалі, якія нашы сілы, як яны ўзброены. У далейшым мы з цікавасцю сачылі, калі, адкуль і які полк, дывізія, корпус адпраўляліся на Далёкі Усход і калі яны туды прыбудуць. А калі пазней адпраўлялася туды эскадра адмірала Ражэственскага, мы напружана сачылі за яе рухам вакол Еўропы, Афрыкі, Азіі, на картах адзначалі, дзе яна знаходзіцца ў дадзены момант, якім шляхам яна пойдзе далей, калі і ў якім месцы яе можна чакаць.»*

Аповесць «Шлях з цемры» атрымала наступныя выданні:

**Шлях з цемры** (Аўтабіяграфічная аповесць). Мінск, Дзяржвыд БССР, 1948.

**Збор твораў у двух тамах.** Мінск, Дзяржвыд БССР, 1960.

*На рускай мове*

Избранное. Повести и рассказы. М., «Советский писатель», 1958.

Путь из тьмы (Воспоминания детства). Издательство «Мастацкая літаратура», Минск, 1972.

Уключаныя ў трэці том апавяданні Янкі Маўра напісаны ў розны час. Яшчэ ў 30-я гады друкаваліся «Бярозавы конь», «Сям'я». «Шчасце» ўпершыню было апублікавана ў 1945 годзе ў газеце «Літаратура і мастацтва». Астатнія — «Падарожжа вакол дома», «Васька Жукаў», «Запіска», «Драўляная лыжка», «Завошта», «Максімка» і інш. напісаны таксама пасля Вялікай Айчыннай вайны.

Тэматыка названых апавяданняў разнастайная, але ў кожным з іх выявілася тонкае разуменне пісьменнікам асаблівасцей дзіцячай псіхалогіі, таямніц душы малых, адметныя якасці іх успрымання. Некаторыя апавяданні — «Бярозавы конь», «Падарожжа вакол дома», «Шчасце», «Максімка» па жанры можна аднесці да псіхалагічных навел.

Чытаючы творы Янкі Маўра, міжволі прыгадваеш словы В. Р. Бялінскага, які пісаў, што для таго каб стаць дзіцячым пісьменнікам, неабходна шмат умоў: патрэбна душа шырокая, любячая, лагодная, спакойная, па-дзіцячаму няхітрая, розум узвышаны, адукаваны... і не толькі жывое ўяўленне, але жывая паэтычная фантазія, здольнасць паказаць усё ў натхнёных, вясёлкавых вобразах. Толькі дзякуючы адзначаным якасцям, якія былі ўласцівы Янку Маўру як мастаку і чалавеку, змог ён так пранікнёна адлюстраваць тэму дзяцінства. У апавяданнях, што былі напісаны ім у 30—50-я гады, Янка Маўр як бы працягнуў размову аб перавазе сацыялістычнага ладу над капіталістычным, якую пачаў яшчэ ў 20-я гады. Расказваючы пра шчаслівае маленства дзятвы савецкай краіны («Бярозавы конь», «Падарожжа вакол дома», «Шчасце» і інш.), пісьменнік прымушае прыгадаць поўныя драматызму апавяданні аб жыцці дзяцей пры капіталізме («Слёзы Тубі», «Лацароні», «Незвычайная прынада», лёс маленькіх пакутнікаў з аповесці «Шлях з цемры» і інш.). Ён разумее, як важна, каб дзеці сэрцам адчулі гэтыя кантрасты, зразумелі іх сутнасць і прычыны. Супастаўленне сучаснага і мінулага ляжыць у аснове апавядання «Сям'я». Вельмі своеасаблівa такі кантраст створаны ў апавяданні «Васька Жукаў». Сюжэт гэтага твора займальны,— цікава ўжо тое, што герой апавядання Янкі Маўра Васька Жукаў — унук чэхаўскагаВанькі Жукава. Ён піша ліст Ваньку Жукаву, свайму дзядулю, цяпер паважанаму ўсімі калгаснаму вартаўніку Івану Сцяпанавічу. «...А ўчора ў нас была самадзейнасць. Я на сцэне танцаваў крыжачок. Але я хачу перайсці ў аркестр...» Янка Маўр захаваў стыль, характэрныя моўныя сродкі, сінтаксічную будову сказаў навелы Чэхава, і чытачы адначасова як бы бачаць два лёсы: шчаслівага савецкага падлетка, вучня рамеснага вучылішча і пакутніка Ванькі Жукава: «А вчерась мне была выволочка. Хозяин выволок меня за волосья на двор и отчесал шпандырем за то, что я качал ихнего ребенка в люльке и по нечаянности заснул...»

Таленавіты дзіцячы пісьменнік лёгка знаходзіць удзячныя сюжэты. Ён разумее, што звычайная, на думку дарослага чалавека, падзея ці з'ява вабіць дзяцей загадкавасцю, значнасцю, абуджае безліч пытанняў. Таленавіта перададзены кожны рух душы маленькай Ірачкі ў апавяданні «Падарожжа вакол дома». Янка Маўр незабыўна расказвае пра сустрэчы дзяўчынкі з пеўнем, курамі, верабейкамі. Усё гэта для Ірачкі — сапраўднае дзіва, хвалюючае адкрыццё. Малую здзіўляе нават саломінка: «гладкая, круглая, а ў сярэдзіне дзірачка». Паспрабавала дзяўчынка саломінкай калупаць зямлю, а тая зламалася...

Расказваючы аб прыгодах Ірачкі, Янка Маўр як бы па-новаму адкрывае дзецям свет, ён нібы паказвае ім, што побач многа незаўважанага, захапляючага.

Сонцам і светам поўніцца апавяданне «Шчасце». Як і «Падарожжа вакол дома», яно вырасла з канкрэтнай жыццёвай сітуацыі: пісьменнік

сапраўды ў адзін з пагодных летніх дзён сустрэўся з хлопчыкам, на галаве якога была новая шапка...

Гэтае, на першы погляд нічым не прыкметнае здарэнне, у апавяданні «Шчасце» апаэтызавана. Любоў да дзяцей, веданне асаблівасцей іх паводзін, цудоўны талент мастака дапамаглі Янку Маўру стварыць запамінальны псіхалагічны эцюд, у якім па-мастацку суаднесены свет дарослых і дзяцей.

Той жа сапраўднай шчырасцю інтанацый вызначаецца і апавяданне «Бярозавы конь». У ім пісьменнік бліскуча паказвае бязмежную сілу дзіцячай фантазіі, якая можа пертварыць невялікую лужыну ў мора, зараснікі аеру — у дзікія джунглі, звычайны зэдлік — у магутны карабель... Шасцігадовы Толя з апавядання «Бярозавы конь» уяўляе бярозавы кіёчак імклівым баявым канём. Да свайго бярозавага сябра ён адносіцца як да жывой істоты: песціць, беражэ, называе ласкавымі словамі. На гэтым кані хлопчык у думках адпраўляецца ў далёкае падарожжа, «здзяйсняе» гераічны подзвіг. Апавяданне прасякнута добразычлівым гумарам, пісьменнік міжволі любуецца сваім героем на бярозавым кані. Але Янка Маўр не проста стварае ідылічную замалёўку, ён глыбей углядаецца ў паводзіны хлопчыка і адзначае вельмі трапна, што савецкія дзеці надзвычай рана пачынаюць адчуваць сябе грамадзянамі, з малых год мараць аб подзвігу ў імя Радзімы. Шасцігадовы Толя, які памылкова прыняў ваенныя манеўры за сапраўдную вайну, не разгубіўся, хітра падмануў «ворага». Так ужо ў даваенны час Янка Маўр узняў тэму патрыятычнай аддансці маладога пакалення савецкай краіны. У творах аб Вялікай Айчыннай вайне гэтая тэма прагучала як услаўленне самаадданага подзвігу юных герояў, што разам з бацькамі баранілі родную зямлю. Такім героем з'яўляецца мужны піянер-партызан Алёша Патапчык (апавяданне «Запіска»). Не раз выконваў ён складаныя даручэнні, не раз хадзіў у разведку, прымаў удзел у баях супраць фашыстаў. У крытычны момант хлопчык узарваў апошняй гранатай сябе і паганых гітлераўцаў. Нескаронасць, магутная нянавісць савецкіх людзей да ворага раскрыта ў апавяданні «Дом пры дарозе». Пісьменнік-гуманіст выкрывае звярынае аблічча фашызму (апавяданне «Завошта»).

У адным з лепшых сваіх пасляваенных апавяданняў — «Максімка» Янка Маўр расказаў аб дзецях, якіх асіраціла вайна. Савецкая дзяржава стала для іх клапатлівай маці, але кожны хлопчык і дзяўчынка з дзіцячага дома спадзяюцца на сустрэчу з бацькамі, мараць аб ёй. Сярод выхаванцаў дзіцячага дома пісьменнік вылучае Юру, Алёшу, Сеню, Віцю, Толю, Сярожу і асабліва Максімку. Перажыванні гэтага хлопчыка, які прыняў чужога тату за свайго, складаюць асноўны змест апавядання. З хваляваннем чакаюць развязкі чытачы, і яна прыходзіць — шчаслівая і жаданая: той самы вайсковец, чужы тата, забірае Максімку ў сваю сям'ю.

Апавяданне раскрывае душэўную шчодрасць савецкіх людзей, хвалюе лірызмам, дакладнай перадачай кожнай змены ў настроі хлопчыка.

Ул. Маякоўскі пісаў, што мова дзіцячых кніг павінна быць зроблена з сэрца, а не з ваты. У кожным слове твораў Янкі Маўра, выдатнага дзіцячага пісьменніка, мы адчуваем гэтае неспакойнае сэрца грамадзяніна-патрыёта, які з любоўю аддаў свой талент дзецям.

Апавяданні, якія ўвайшлі ў трэці том чатырохтомнага Збору твораў, апублікаваны ў наступных кнігах пісьменніка:

**Апавяданні.** Мінск, Дзяржвыд БССР, 1951.

**Выбраныя творы.** Аповесці, апавяданні. Мінск, Дзяржвыд БССР, 1952.

**Аповесці і апавяданні.** Мінск, Вучпедвыд БССР, 1954.

Збор твораў у 2-х тамах. Мінск, Дзяржвыд БССР, 1960.
Апавяданні і аповесць. «Народная асвета», Мінск, 1969.

*На рускай мове*

Повести и рассказы. Минск, Госиздат БССР, 1955.
Избранное. Повести и рассказы. М., «Советский писатель», 1958.
Рассказы. М.— Л., Детгиз, 1959.

# З М Е С Т

Кніга трэцяя



АПАВЯДАННІ

На белорусском языке

ЯНКА МАВР
(Иван Михайлович Федоров)

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ЧЕТЫРЕХ ТОМАХ

*Том третий*

Для детей среднего и старшего школьного возраста

Рэдактар В. Д. Рудава. Мастак М. М. Рыжыкаў. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Я. Харко.

АТ 08544. Здадзена ў набор 17/VII 1974 г. Падп. да друку 7/II 1975 г. Тыраж 17 000 экз. Фармат 60×84¹/₁₆. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 22,55. Ул.-выд. арк. 20,68. Зак. 1340. Цана 93 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Маўр Я.**

**М 35** Збор твораў у чатырох тамах (падпісное выданне). Том трэці. Мн., «Маст. літ.», 1975.

388 с. з іл.

У трэці том чатырохтомнага Збору твораў вядомага беларускага дзіцячага пісьменніка Янкі Маўра ўвайшлі аўтабіяграфічная аповесць «Шлях з цемры» і апавяданні розных гадоў.

М $\frac{70803\text{-}064}{М\ 302(05)\text{-}75}$ 163-75 Бел 2